# БАРЫС САЧАНКА

том 1 апавяданні аповесці



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

# Пошук дае плён

Без пошуку няма развіцця, няма руху наперад. У поўнай меры стасуецца гэта да літаратуры. Дарэчы, як і да ўсяго мастацтва наогул. Шматвекавая гісторыя развіцця літаратуры, творчасць яе лепшых прадстаўнікоў красамоўна сведчаць пра тое, што там ёсць плён, там ёсць мастацкія набыткі, дзе ёсць імкненне наперад, дзе ёсць пошук у самым шырокім яго разуменні. Пошук, які мае сваёй крыніцай і першапрычынай вернасць мастака жыццю — заўсёды імклівa рухомаму, зменліваму, штораз усё новаму. Пошук, які вынікае з самога ўнутранага руху мастацтва, паглыблення, удасканалення яго сродкаў і прыёмаў. Пошук, канчатковая мэта якога — сцвярджэнне праўды, дабрыні, прыгажосці. Дыяпазон гэтага пошуку ў літаратуры надзвычай шырокі і разнастайны. Ён уключае ў сябе мастацкае асваенне новых сфер гістарычнай і сучаснай рэчаіснасці, распрацоўку новых тэм і праблем, поўнае выяўленне жанравых, сюжэтна-кампазіцыйных і моўна-стылёвых магчымасцей нацыянальнага мастацтва слова.

У сучаснай беларускай прозе пошукам відавочна пазначана творчасць Барыса Сачанкі. Імкненне да пошуку арганічна ўласціва таленту пісьменніка. Яно мае сваёй асновай багаты і вельмі нялёгкі вопыт гадоў дзяцінства і юнацтва, вострае адчуванне сучаснасці, значную мастацкую культуру і літаратурную эрудыцыю. Шырокі дыяпазон жыццёвага матэрыялу (гістарычнае мінулае, Айчынная вайна, першыя пасляваенныя гады, сучаснасць), жанравая шматстайнасць (раман, аповесць у сваіх розных жанравых разнавіднасцях, апавяданне, мініяцюра), свежасць і разнастайнасць апавядальнай манеры, дзе найбольш пашырана апавяданне ад першай асобы,— усё гэта ўласціва Сачанку-празаіку. Зразумела, пошук мае сэнс, мае «выхад» у жыццё, калі ён не самамэтны, тым больш не чыста фармальны. У Сачанкі ён нібы вырастае з устойлівай мастакоўскай прыхільнасці да традыцый класікі, да народных асноў светаўспрымання, па сваёй сутнасці з'яўляецца глыбока змястоўным. І менавіта там, дзе пошук мае ўстойлівую жыццёвую і эстэтычную аснову, найбольш відаць значныя творчыя вынікі.

Раман «Чужое неба», адзін з самых асабістых твораў Барыса Сачанкі, адкрываецца раздзелам «Вёска майго маленства». Гэта — лірычна ўсхваляванае апавяданне пра родны, бясконца дарагі і герою, і аўтару куток зямлі, той куток, з якога пачынаецца радзіма, адкуль усе дарогі вядуць у вялікі свет жыцця.

«На Палессі, на самым поўдні Беларусі, ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. Дзе б ні быў я, куды б ні закінула мяне доля, не-не дый згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых, пракаветных лясоў і вялізных, неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся, у якой жыве і сёння мая маці, жывуць браты. Там, у той вёсцы, у дзедаўскай сялянскай хаце, я ўпершыню адкрыў свае вочы, там сказаў першае сваё слова, зрабіў першыя свае крокі...» Так з апісання родных мясцін у самым пачатку кнігі ўзнікае матыў, настрой роднага неба, роднай зямлі. Ён будзе адчувацца праз увесь твор як адмаўленне матыву, настрою «чужога неба», як крыніца жыццястойкасці і жыццядзейнасці чалавека.

Больш таго, матыў гэты ў «Чужым небе» неяк асабліва душэўна, глыбока, па-мастакоўску адкрыта і шчыра акрэсліўся як вызначальны для ўсёй творчасці Б. Сачанкі. Народжаны ён вернасцю пісьменніка «зямлі... продкаў», глыбока адчутым, перажытым усведамленнем, што, кажучы словамі Якуба Коласа, «свая зямля — вось што аснова!». «Свая зямля» — гэта зямля дзяцінства, юнацтва. Бо менавіта адсюль пачынаецца чалавек, пачынаецца мастак. Свет, у якім праходзіць дзяцінства кожнага з нас, эмацыянальная, этычная атмасфера, у якой робім мы свае першыя самастойныя крокі, паветра, якім дыхаем, прырода, якую ўспрымаем, фармуюць тую, у чымсьці ідэальную, мадэль жыцця, свету, да якой у наступныя гады прымяраецца ўсё, з якой непасрэдна суадносіцца.

«Свая зямля» для Сачанкі — Палессе.

«На Палессі, у паўднёвай яго частцы, прыкладна на роўнай адлегласці ад гарадоў — Мазыра, Рэчыцы, Лоева, Брагіна — і рэк — Прыпяці і Дняпра, сярод старых пракаветных лясоў і неабсяжных багністых балот, на вялікай пясчанай выспе стаіць палескае сяло — Вялікі Бор. Вялікі Бор — казка майго дзяцінства, першая мая радасць, першы смутак і боль». (Звернем увагу: сваім настроем, канкрэтнымі жыццёвымі рэаліямі гэтае апісанне з аўтабіяграфіі блізкае апісанню вёскі ў «Чужым небе».)

Тут, у гэтай вёсцы, нарадзіўся 15 мая 1936 года Барыс Сачанка. Дзяцінства напачатку было, відаць, як і кожнае дзяцінства: поўнае радасці, узбуджанасці проста ад таго, што ты жывеш, поўнае адчування прыгажосці і шчымлівай таямнічасці навакольнага свету, невытлумачальнага імкнення адкрыць, спазнаць невядомае, нязведанае. Потым вайна, выгнанне (з чэрвеня 1943 і аж да мая 1945) у Нямеччыну. Страшэнныя, не дзіцячыя, выпрабаванні, жахлівыя на ўсё жыццё ўражанні. Праз многа гадоў Сачанка напіша, што вайна прымусіла ўсіх, у тым ліку і многіх яго равеснікаў, «пасталець адразу год на дзесяць, пабачыць жудасць разбурэнняў, голад і няволю». Вяртанне на радзіму, жыццё на роднай зямлі пасля выгнання было сапраўдным шчасцем. «Поле, лес, луг — усё тваё, роднае, бо яно належала дзядам тваім і прадзедам, а цяпер вось належыць табе, тваім бацькам. Куды хочаш, туды ідзі...» Кожная, здавалася б, дробязь, самы звычайны факт, усё штодзённае набывала асаблівы сэнс, як бы несла ў сабе вялікі зарад эмацыянальнага ўражання.

Пройдуць гады, жыццёвыя дарогі павядуць пісьменніка далёка ад Вялікага Бору. Будуць новыя сустрэчы са светам і

людзьмі, новыя ўражанні, жыццё паўстане больш багатым і складаным. Але такім сваім, непаўторна прыгожым, прываблівa таямнічым, шчасліва хвалюючым ужо не будзе. Не будзе, безумоўна, і такім жахліва страшным, непадуладным дзіцячаму розуму і ўяўленню, якім было ў часы фашысцкай навалы, у выгнанні. Менавіта там, у тых невытлумачальна складаных у сваёй сутнасці гадах вайною абпаленага дзяцінства, успрынятага ўсёй чалавечай існасцю, нават як бы біялагічна, бачыцца першасная жыццёвая крыніца творчасці Сачанкі. Пераважныя яе тэмы, ідэі, вядучыя матывы. І найгалоўнейшы сярод іх матыў свайго і чужога неба. «Чужое неба», пад якім прайшло два гады дзяцінства пісьменніка (як і героя рамана), адчуваецца ўсё жыццё. Яго цяжар, эмацыянальная вастрыня ўздзеяння з гадамі памяншаюцца, але не знікаюць і, відаць, не знікнуць ніколі. Ды ёсць у чалавека сваё, роднае неба. Неба дзяцінства, неба бацькоўскай зямлі. Яно чыстае, блакітнае і празрыстае; яно не гняце чалавека, а ўзвышае, узнімае да жыцця. Паветрам гэтага неба, роднага неба Палесся, насычаны лепшыя творы пісьменніка.

У літаратуры існуе ў пэўным сэнсе парадаксальная заканамернасць. Чым далей у часе пісьменнік аддаляецца ад сваёй «малой» радзімы, тым больш у творчасці да яе набліжаецца. Дастаткова нагадаць тут хаця б творчасць Максіма Гарэцкага ці Кузьмы Чорнага, Івана Мележа ці Янкі Брыля, з маладзейшых Івана Пташнікава або Вячаслава Адамчыка. Тое ж відаць і ў творчасці Барыса Сачанкі, які ад публіцыстычна-лірычнага захаплення родным кутком зямлі, яго мінулым і сучасным ідзе да глыбокага гістарычнага, сацыяльна-этнаграфічнага ды і філасофскага яго спасціжэння. Найбольш прыкметныя і выразныя вехі на гэтым шляху: «Зямля маіх продкаў» — «Чужое неба» — «Вялікі Лес». А палеская быль «Англіцкая» сталь» ці «Дыярыуш Мацея Белановіча»? А «Дзік-бадзяга», «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя»? У аснове іх жыццёвыя падзеі, што адбываліся на Палессі. Прырода ў іх палеская, героі — людзі з адметнай паляшуцкай псіхалогіяй, своеасаблівым складам розуму, напоўнены творы паветрам Палесся, якое ўсё насычана водарам лясоў і балот. Такая пісьменнікава «прывязанасць» да роднага кутка зямлі, яго людзей, іх звычаяў і нораваў, да прыроды і гісторыі краю, такая нязменнасць жыццёвых сімпатый надае творчасці пэўнасць, мэтанакіраванасць і ўстойлівасць, з'яўляецца найбольш важнай крыніцай яе жыццёвасці і адметнасці, яе ідэйна-мастацкай глыбіні. І вось пра што б Сачанка ні пісаў, якую б жанравую ці апавядальную форму мастацкага спасціжэння рэчаіснасці ні выбіраў, усё ў канчатковым выніку вырашае ступень заглыбленасці ў канкрэтную жыццёвую аснову, яе ўнутраная, этычная і псіхалагічная, арганічнасць пісьменніцкаму светаўспрыманню.

Дарэчы, і героі Сачанкавых твораў, тыя найбольш прывабныя, цэласныя і жыццёвыя, якія нібы вырастаюць з роднай ім глебы, увасабляюць яе законы, яе дух і сілу. Яны, героі гэтыя, нясуць у сабе глыбокі зарад гуманна-актыўных адносін да жыцця, наскрозь пранікнуты аўтаравым роздумам пра месца чалавека ў сучасным свеце. Сімвалічна, што Трахім («Соль») памірае ў дарозе, везучы касцам соль. Ягоная жыццёвая дарога заўсёды вяла яго да людзей. Усё, што ні рабіў ён, рабіў не толькі для

сябе. Можа, нават, менш за ўсё для сябе. У апошнія хвіліны жыцця Трахім думае, што «недарма пражыў сваё жыццё. У вёсцы стаіць зрубленая яго рукамі хата, расце пасаджаны ім сад... У горадзе жыве сын, яго сын Раман, унук Артурык... Паднімаецца ўгору, імкне да святла, да сонца... пасаджаны таксама яго, Трахімавымі, рукамі хвойнік... А колькі пахадзіў ён за плугам, пераараў зямлі! Колькі памалаціў збажыны, нарыхтаваў стагоў сена, памалоў зерня, колькі папасвіў кароў...». І няма тут, здаецца, нічога незвычайнага, хоць трохі выключнага. Але якая жыццёвая моц, натуральнасць, пэўнасць!

Шмат давялося перажыць, выцерпець Сымону Гарапашку, яго родным, блізкім («Чужое неба»). І ў вайну, і пасля вайны. Ды ў складаных жыццёвых стасунках, у няроўным сутыкненні з жорсткаю сілай абставін надавала ім сілу, веру ў лепшае іх любоў да роднай зямлі, упэўненасць, што толькі яна ўратуе ад любых нягод. Маці Сымона, напакутаваўшыся на чужыне, сэрцам, думкамі, усёй сваёй істотай імкнецца дадому. «Хай галодныя, хай голыя — абы дома, на зямельцы сваёй, ля свайго поплава, пад сваім небам».

Глыбока народныя, засвоеныя спрадвеку адносіны да жыцця, да навакольнага свету ўласцівы бабе Адарцы («Навальніца»). Драматызм яе лёсу — у пэўнай несуадпаведнасці бурнага тэхнічнага прагрэсу і ўстойлівага, традыцыйнага чалавечага светаўспрымання. Значныя пераўтварэнні ў свеце, як у грамадскіх узаемаадносінах, так і ў прыродзе, далёка не заўсёды абыходзяцца без болю для чалавека. За вякі ва ўзаемаадносінах яго з навакольнай прыродай выпрацаваліся пэўныя законы ўзаемаўзгодненасці, натуральнай раўнавагі. І ўсялякае гвалтоўнае, рэзкае парушэнне гэтай раўнавагі, гэтай узаемаўзгодненасці адразу ж адбіваецца і на прыродзе, і асабліва драматычна на чалавеку. Навука сёння ўсведамляе гэта асабліва глыбока і востра. Літаратура — не ў меншай ступені. Літаратуру найперш цікавіць і хвалюе маральны, духоўны аспект праблемы.

Драматычныя падзеі пра помсту ваўчыцы за загубленых дзяцей, што складаюць рэальную аснову аповесці «Ваўчыца з Чортавай Ямы», набываюць шырокае, шматзначнае гучанне, па сутнасці змест і сэнс прытчы. Пафас твора скіраваны супроць жорсткіх адносін да свету жывой і нежывой прыроды; тактоўна, неназойліва, самой логікай разгортвання падзеі, усім эмацыянальным ладам сцвярджаецца думка: усялякая бяздумная жорсткасць у адносінах да жывога і нежывога навакольнага свету выклікае жорсткасць у адказ, парушае ўсталяваную ў свеце раўнавагу, пэўнасць.

Звычайна пошук у мастацтве вельмі цесна звязаны з асаблівай увагай да сучаснасці. Гэта натуральна. Сучаснасць, яна хуткаплынная, што ні дзень, то ўсё новая. Новыя з'явы, факты, канфлікты... Літаратура іх не толькі не даследавала, не асэнсавала, але нават поўна не адлюстравала. А новыя чалавечыя тыпы, народжаныя сучаснасцю? Хто іх пакажа ў жывой непасрэднасці, калі не літаратура нашых дзён?

Сачанка — пісьменнік актыўных творчых адносін да сучаснасці. Пра гэта красамоўна засведчылі ўжо творы з першых зборнікаў. Пазней дзейсная мастакоўская актыўнасць не змяншаецца. Яна набывае большае грамадзянскае гучанне, выяўляец-

ца адкрыта. У гэтым сэнсе характэрныя аповесці «Не на той вуліцы» і «Запіскі Занядбайлы». З'ява, супроць якой скіраваны творы,— сёння вельмі небяспечная ў нашым грамадстве, шкодная для яго духоўнай атмасферы. З'ява гэтая — бездухоўнасць, спажывецкія адносіны да жыцця. Чалавек, пазбаўлены высокіх духоўных памкненняў, чалавек, які згубіў ці нават не знайшоў у жыцці сваю сапраўдную дарогу, згублены для грамадства, асабіста абкрадзены. Менавіта такімі паўстаюць і Занядбайла ў сваіх «запісках» і Тарасюк («Не на той вуліцы»). У іх няма ўнутранага духоўнага стрыжня, жыццёвай пэўнасці і ўстойлівасці; сфармаваны яны ў сваёй сутнасці выпадковасцю. Такія людзі ва ўсім падуладны непасрэдным абставінам, больш таго, усяляк імкнуцца выкарыстаць іх дзеля сваіх вузка асабістых мэт. І Тарасюк, і Занядбайла — гэта сучасныя абывацелі, асноўнай зброяй якіх ва ўзаемаадносінах з грамадствам з'яўляецца дэмагогія, спекуляцыя высокімі словамі, паняццямі, ігра ў шчырасць. Такія людзі шкодныя для грамадства не толькі самі сабою. Яны адмоўна ўплываюць на іншых, распаўсюджваюць хваробатворную інфекцыю. Пісьменнікам схоплены ў сучасным жыцці, паказаны цікавы тып грамадскіх і чалавечых паводзін, тып шкодны і небяспечны. Наперадзе — і для аўтара, і для літаратуры — больш глыбокае, сацыяльна-філасофскае даследаванне і асэнсаванне гэтага характару, гэтай грамадскай з'явы. У мастацтве, як і ў жыцці наогул, адкрыццё патрабуе заўсёды ўсебаковага вывучэння, асваення і ўкаранення ў жыццё. Бо любыя змены ў грамадстве — і станоўчыя, і адмоўныя — актыўна ўваходзяць у свядомасць чалавека, у жыццё і выклікаюць зусім пэўныя адносіны ў значнай ступені дзякуючы літаратуры, мастацтву.

У мастацтве, ва ўзаемаадносінах яго з рэчаіснасцю, існуе як бы своеасаблівы падзел працы. Больш таго, штосьці падобнае можна бачыць і ў асобных яго родах і відах. Так, напрыклад, у прозе можна выразна заўважыць, як аднаго пісьменніка ў жыцці найперш цікавяць якіясьці новыя з'явы, факты, другога — выключныя падзеі, незвычайныя сітуацыі, трэцяга — вострыя канфлікты, чацвёртага — чалавек, яго паводзіны ў самых розных сітуацыях. Ва ўсіх ягоных творах Б. Сачанку найперш цікавіць чалавек, чалавек, часам у самых нечаканых жыццёвых стасунках. Творчасць пісьменніка і прываблівае чытача багаццем жывых чалавечых характараў, разнастайнасцю гісторый, сітуацый, у прыватнасці, добра адчуваецца ў лепшых Сачанкавых мініяцюрах.

Здараецца, той ці іншы празаік ва ўсіх сваіх творах (ці амаль ва ўсіх) распрацоўвае як бы адну асноўную сацыяльна-этычную мадэль характару. І гэта ні ў якой ступені не недахоп. Бываюць тут дасягненні выключныя. Але ёсць у мастацтве і іншы шлях узаемаадносін з рэчаіснасцю, шлях не менш плённы і не менш удзячны — спасціжэнне жыцця ва ўсім яго багацці, у самых розных праяўленнях. Беручы розныя рэальныя гісторыі, розныя жыццёвыя калізіі, па-мастацку іх распрацоўваючы, даследуючы, Сачанка імі і праз іх правярае і выяўляе чалавека. І аказваецца, што чалавек гэты вельмі розны, надзвычай па-рознаму сябе паводзіць у неаднолькавых абставінах. Супрацьстаяць жорсткай сіле абставін, не паддацца іх уладзе ўдаецца не кож-

наму. Хутчэй атрымліваецца наадварот: раз паддаўшыся іх уздзеянню, чалавек становіцца поўнасцю падуладны абставінам. А яны мяняюцца пастаянна. Зварот пісьменніка да падзей мінулага (і далёкага, і больш блізкага), пастаянная ўвага да сучаснасці дазваляюць паказаць усю няпростасць узаемаадносін чалавека з навакольным светам. Толькі той, хто глыбока звязаны з роднай зямлёй, чый дух жывіцца яе сокамі, можа сцвердзіць сябе, сваю існасць ва ўзаемадзеянні з бязлітаснай сілай абставін, у няпростых дачыненнях з гісторыяй.

Сачанка-пісьменнік мае вельмі багатую і грунтоўную літаратурную школу. Мала можна знайсці ў сусветным мастацтве слова, асабліва ў прозе, больш-менш значных твораў, з якімі б ён не быў знаёмы. Ды не проста па-аматарску павярхоўна, а з веданнем, адчуваннем іх належнага месца ў нацыянальным і сусветным літаратурным працэсе. Але асаблівай ягонай увагай, нязменнай любоўю карыстаецца творчасць тых пісьменнікаў, хто глыбока звязаны з магутнымі самабытнымі пластамі народнага жыцця, з першароднай нацыянальнай глебай. З замежных класікаў дваццатага стагоддзя — У. Фолкнер, Х. Лакснес, І. Андрыч; з рускіх — І. Бунін, М. Шолахаў; з беларускіх — К. Чорны, М. Гарэцкі, І. Мележ.

У артыкуле «За што я яго люблю», прысвечаным К. Чорнаму, Сачанка пісаў: «Кузьма Чорны — пісьменнік вельмі нацыянальны, вельмі беларускі. Усё, пачынаючы ад слова і канчаючы апісаннем звычайнай карчмы ці сялянскай хаты, у яго сваё, непаўторнае, беларускае...

За гэтую непаўторнасць таленту, за тое, што Кузьма Чорны вельмі ж ужо самабытны і беларускі ва ўсёй сваёй творчасці, і дарагі ён мне, за гэта я люблю яго, як нікога з празаікаў свету».

Зразумела, словы такога ж зместу і характару маглі б быць сказаны і пра М. Гарэцкага, і, асабліва, пра І. Мележа.

Пісьменнік жыве актыўным грамадскім і творчым жыццём; сучаснасць, зменлівая, рухомая, не пакідае ў спакоі ягонае мастакова ўяўленне; пастаянныя змены ў эстэтычным змесце сусветнай літаратуры, яе дасягненні і набыткі таксама не застаюцца ім не заўважаныя. Адсюль мастакоўская няўрымслівасць, імкненне да новага, прага пошуку. Зразумела, у таго, хто пастаянна ў літаратуры шукае, не заўсёды і не ўсё бывае аднолькава высокіх ідэйна-мастацкіх якасцяў. Відаць, гэта і заканамерна, натуральна. Важна іншае. Там, дзе ёсць зацікаўленыя адносіны да рэчаіснасці, імкненне асабіста ўмяшацца ў жыццё, сказаць аб ім сваё слова, там можна чакаць адкрыцця, там творчасць будзе пазначана шчырасцю і грамадзянскасцю. Значнасць адкрыцця, глыбіня шчырасці і сіла грамадзянскасці залежаць ад таго, у якой ступені пісьменнік зможа асабістае светаўспрыманне выверыць, апладніць народным. Літаратурны шлях Барыса Сачанкі, лепшыя ягоныя творы яскрава пра гэта сведчаць.

*СЕРАФІМ АНДРАЮК*

## З кнігі «Дарога ішла праз лес»

# СЛЯДЫ

Чалавека нешта непакоіла. Ён то сядзеў воддаль ад дарогі, прыхінуўшыся да камля дуба, то ляжаў, падклаўшы пад галаву пацёрты рэчавы мяшок, то, уцягнуўшы ў плечы доўгую шыю, хадзіў сюд-туд па ўскрайку лесу і не-не дый паглядваў на вёску, што відна была за дробным бярэзнікам на пагорку. Часам позірк яго спыняўся на звітым з сухое травы і валосся гняздзечку, якое пагойдвалася на галінцы кашлатай хваінкі. Гняздзечка ажывала, калі прылятала шустрая шэрая птушачка. Тады з яго высоўвалі галоўкі маленькія, амаль голыя птушаняты. Яны высока выцягвалі худыя шыйкі, наперабой ціліўкалі і жоўтымі кволымі дзюбкамі хапалі прынесены корм. Чалавек у момант хмурнеў, браўся аберуч за галаву і падоўгу не варушыўся. Пасля, схамянуўшыся, выпростваў плечы, ускідваў пакамечаны мяшок. Але нешта кожны раз стрымлівала яго — ісці ў вёску ён чамусьці не рашаўся...

Толькі калі шэрань надвячорка зацягнула далячынь і стала зусім цёмна, чалавек выкіраваўся на дарогу і, насцярожана ловячы шолахі, аглядаючыся раз-пораз, паволі пакрочыў у вёску.

Каля хаты з чаратовым дахам, які, нібы шапка-кучомка, ссунуўся набок, ён спыніўся. Зладзеявата аглядзеўся, зазірнуў праз шчыліну ў варотах у двор і, упэўніўшыся, што ніхто не бачыць, пералез цераз нізкі дашчаны плот. Ступіў некалькі крокаў і спыніўся пад яблыняй, трошкі ўбаку ад святла, што падала з незавешанага акна...

У хаце вячэралі. Пажылая жанчына стаяла каля засланага белым абрусам стала, налівала ў конаўку з

вялікага гладыша малако. Да конаўкі цягнулася малая, амаль што дзіцячая рука...

Чалавек уздрыгнуў, твар яго перасмыкнуўся, нібы ад болю. Прыгнуўшыся, каб не зачапіцца галавой за голле, ён асцярожна пакраўся да акна, прынік да сцяны. Але таго, каго яму так хацелася ўбачыць,— не ўбачыў: засланяў вушак...

Дзесяць год назад чалавек нават не думаў, што зноў хоць калі-небудзь прыйдзе сюды. Ён пакідаў тады дом, каб больш ніколі не вярнуцца. Сям'я здавалася яму непатрэбнай, лішняй... І не змог — вярнуўся... Чаму? Што прыгнала яго зноў сюды? Адчуванне блізкай адзінокай старасці, бацькоўскае сумленне, якое прачнулася і нарэшце загаварыла, жаданне мець сталае жыллё? Хто ведае што? Можа і тое, і другое — усё разам?.. І вось ён тут, каля свайго дома. Пераступі парог — і перад табою твае дзеці, твая жонка... Парог!.. Але ці захочуць яны, дзеці, лічыць яго цяпер сваім бацькам, ці захоча жонка жыць з ім як мужам? Мінула ж, пранеслася, як пыл па ветры, гэтулькі год!..

Улетку на вёсцы спаць кладуцца рана, з прыцемкамі. Чалавек гэта добра ведаў. Ведаў ён і другое: варта толькі пагаснуць святлу, і ён ужо нізавошта не зойдзе ў хату — не хопіць рашучасці. Зноў давядзецца вярнуцца ў лес, хавацца да новага вечара ад людзей ці зусім ехаць адсюль... Куды? Чаго?.. І ўсё адно чалавек не спяшаўся заходзіць у хату — стаяў і стаяў ля акна, нібы быў прывязаны нечым да сцяны...

Між тым у хаце павячэралі. Жанчына пайшла слаць пасцелі.

Пагасла святло.

Чалавек схапіўся рукамі за галаву...

Ціха плыла над вёскаю ноч. Тлелі, міргаючы, далёка-далёка ў небе зоры. Цьмяна свяціўся Млечны Шлях. Апускаўся нячутна ўсё ніжэй і ніжэй на лес надкусаны месяц. Аб нечым сваім, незразумелым людзям, шапталася лісце...

А чалавек усё стаяў і стаяў...

Потым ён асцярожна, падоўгу спыняючыся каля кожнага дрэва, абышоў сад, пастаяў ля хлява, паслухаў, як мерна і нудна жуе жвачку карова, патузаў рукою плот.

«Новы... Хто паставіў яго?..»

Вуха раптам улавіла шэпт. Чалавек замёр... Шапталіся каля веснічак на вуліцы двое: хлопец і дзяўчына. Дзявочы голас здаўся яму вельмі знаёмы...

«Дачка... Няўжо дачка?.. Вырасла, знаецца ўжо з хлопцамі... Каторая — Люда ці Жэня?..»

Лагодны, замілаваны шэпт хлопца, ціхі, стоены дзявочы смех так расчулілі чалавека, што ён заплакаў, заплакаў, як плачуць толькі мужчыны: скупа, горка...

Яшчэ трохі спагадзя ён убачыў, як яна, яго дачка («Каторая — Люда ці Жэня?..»), рослая, стройная, папраўляючы на хаду прычоску, лёгка ішла ў хату. Чалавек памацаў за плячыма мяшок, падаўся ўсім целам наперад. Але так і не зрушыўся з месца — застыў. Ён баяўся сустрэцца са сваёй дачкой...

Ходзячы раніцою па садзе, гаспадыня ўбачыла на градах пад яблынямі, на прызбе каля акон, ля хлява і ля плота сляды вялікіх мужчынскіх ботаў. Яна доўга стаяла, не ведаючы, хто гэта і чаго мог хадзіць тут уночы. І, падумаўшы, што нехта хацеў абабраць сад, пайшла да суседа прасіць сабаку на час, пакуль даспеюць яблыкі...

*1958 г.*

## ПРАЗ ВОСЕМ ГОД

Дарогаю ішлі двое: у накінутым наапашку летнім пінжаку мужчына сярэдніх год і маладзейшая, апранутая па-вясковаму жанчына. Каб бачыў іх хто з тутэйшых, абавязкова падумаў бы, што гэтыя людзі спаткаліся не проста так, а змовіўшыся. І ён памыліўся б, бо сустрэча гэтая была зусім выпадковая, якія здараюцца часам у жыцці. Жанчына вярталася з бальніцы, дзе ляжаў хворы муж, і па дарозе зайшла на станцыю. «Можа, са знаёмых хто прыехаў. Ахватней ісці дадому будзе»,— думалася ёй. І вось... Сустрэла я г о...

Быў спякотны поўдзень. Шапацела жыта, нібы яму хацелася, каб кожны, хто праходзіць міма, бачыў, якое яно рослае і якое мае быць сёлета ўмалотнае. З сасновага бору, што суцэльнай цёмна-сіняй сцяною высіўся за хвалістым абсягам азіміны, лёгкі ветрык прыносіў пах свежай смалы-жывіцы. Натужна гуў недзе ні то трактар, ні то самалёт...

— Ну дык чаго ж вы маўчыце, Людамір Гаўрылавіч? Хваліцеся, як жывяце. Я ж пра вас нічога не ведаю,— казала з ноткай ледзь улоўнай скрухі ў голасе жанчына, паглядваючы то на свае босыя, запыленыя ногі, то на лакіраваныя модныя туфлі спадарожніка.

— Дзякую, някепска.

— Жаніліся?

— Ага. Двое дзетак ужо. А ты, Сабіна, як жывеш?

— Ат, бачыце, жыву...

— Замужам?

— Выйшла. У тое ж лета выйшла, як вы паехалі...

— За каго?

— За Сымона Нічыпаркова. З Дубкоў. Памятаеце?

— Гэта за таго кульгавага, што іншы раз на гармоніку ў клубе іграў? Гм... Чаму ж ты так?

— Што вы пытаеце, Людамір Гаўрылавіч? Хіба забыліся пра ўсё?.. Вы ж паехалі тады так раптоўна, нічога мне не сказаўшы. Я чакала дзіцяці... Што мне аставалася рабіць? Выйшла, хто трапіўся...

Жанчына сумна ўздыхнула, паправіла складку на зьачорнай картовай спадніцы, пасля акінула палетак збажыны, і ў яе вачах, блакітных, засяроджаных, успыхнуў на момант агеньчык.

— Памятаеце, тады, як мы спаткаліся апошні раз, гэтак жа пахла смала-жывіца... І жыта таксама даспявала...

— Памятаю...— кіўнуў ён галавою і паслабіў на шыі гальштук.

Некаторы час ішлі моўчкі, не паглядаючы адно на аднаго. Кожны думаў сваё. Ні то штосьці ўспамінаў, ні то намагаўся забыць. Вузкая калёсная дарога між тым пашылася ў чэзлы, нізкарослы бярэзнік і алешнік, рассекла невялікую круглую паляну, спаласаваную зялёнымі радамі бульбы, і, апынуўшыся ў старым лесе, пачала віляць між камлёў дрэў. Нясмела кукукнула два разы зязюля, і ў той жа момант цэлая плой-

ма птушак з крыкам і піскам накінулася на яе. З перапалоху забуркатаў голуб-турчак.

— А я нічога дзеля вас, Людамір Гаўрылавіч, не шкадавала. Ні часу, ні сваёй маладосці... Пагалосак і плётак людскіх не баялася. Маці сварылася, да вас не пускала...

— Але, але... У маладыя гады ўсё бывае... Гарачнасць, легкадумнасць...

— Не, не ўсё. І гэта была не гарачнасць, не легкадумнасць. Не, не! А вы... Вы так зрабілі... Кінулі і, ні слова не сказаўшы, уцяклі. Не развіталіся нават... Думалі, бегчы за вамі буду, плакаць... Шукаць, дамагацца... Не ўяўляла, што вы так зробіце... Настаўнік... Цяпер, пэўна, і не ўспамінаеце, як прыбягала я з заплаканымі вачыма ў школу, калі канчаліся заняткі вячэрнікаў, як ішла разам з вамі на кватэру, падала вам на грудзі і вы... Супакойвалі, суцяшалі, жартавалі... Вершы розныя пра каханне чыталі...

— Але ж, чаму... Іншы раз... Даўно ўсё гэта было, даўно...

— Не, не даўно... Зусім, зусім нядаўна. Так нядаўна, што і цяпер, праз восем год, іду іншы раз з сенажаці і забываюся, што вас няма тут. Зварочваю на тую зыбкую сцежачку, што віецца хмызам між паплавоў, і бягу на ўзлесак, да дубоў з вуллямі, пад якімі вы часамі мяне амаль штовечар улетку... І плачу... Гэта ж вы, Людамір Гаўрылавіч, насмяяліся з мяне. Гэта ж праз вас мучуся, жывучы з нялюбым, праз вас не ведаю шчасця...

Мінулі дрогкі, без балясін, масток, насланы з тонкіх хваёвых бярвенцаў, які перакідваў дарогу цераз вузкую ржавую канаву, зарослую кустамі ніцай лазы і карчыстымі купінамі асакі. Тут дарога раздвойвалася: адна, шырэйшая, праз лес вяла на цэнтральную сядзібу калгаса, другая — ледзь не сцяжынка — цераз прадаўгаватае балотца — у Дубкі, дзе жыў Нічыпаркоў Сымон.

— Маўчыце. Казаць вам няма чаго... Я дадому...

— А мне ў праўленне трэба. Камандзіроўка ў мяне...

— То бывайце...

— Усяго добрага табе, Сабіна...

Жанчына, апусціўшы галаву, пайшла. А Людамір

Гаўрылавіч спыніўся і некаторы час глядзеў ёй услед. «Што робіць з людзьмі час...— думаў ён, згадваючы тую гарэзную, стройную дзяўчыну з доўгімі кужэльнымі косамі, што ведаў восем год назад.— Час... А некалі ж яна была мне мілей, даражэй за ўсё...»

Жанчына, адышоўшыся, таксама спынілася. Хацела сказаць, што сынок той яго расце і ўжо сёлета ў школу пойдзе. Але перадумала, не сказала. Крута павярнулася і неўзабаве знікла, схавалася ў кустах алешніку, што зелянеў, буйна раскашоўваўся ўзбоч дарожкі ля балотца.

Людамір жа Гаўрылавіч пастаяў яшчэ трохі, задуменна паківаў галавою. Потым звярнуў на ўсланую іглiцай сцяжынку, што вілася паўз самую дарогу, і пакрочыў па ёй ціхай мернай хадою.

«Чаму не адмовіўся ад гэтай камандзіроўкі? Навошта я сюды ехаў?..»

І ў вачах яго ўсплылі тыя вечары, што правёў з простай вясковай дзяўчынай ў першы год настаўнічання тут, у глухім кутку Палесся. «Як добра, што не ажаніўся...» І крыва ўсміхнуўся, успомніўшы свае колішнія мары-думкі: збіраўся ж памагчы Сабіне закончыць школу, паступіць вучыцца ў інстытут ці тэхнікум...

«Я жанюся з табою, Сабіна, і мы паедзем у горад, да маіх бацькоў...— шаптаў ён, п'яны ад кахання, тулячы яе да сябе і раз-пораз цалуючы то ў вусны, то ў вочы, то ў казытлівыя, такія мяккія, падатлівыя валасы.— Якая дурнота, які тлум... І гэтая недарэчная цяжарнасць... Напэўна, малое нарадзілася... Жыве?..»

І ён яшчэ раз крыва-крыва ўсміхнуўся, згадаўшы тыя мары-думкі, якімі жыў не адзін дзень, не адну ноч...

*1958 г.*

## СЛЕПЕТ

Нахапляўся вечар, а Саўка брыў і брыў у гушчар лесу. Ужо даўно балюча ныла ў яго між лапатак, не хацелі згінацца і разгінацца ногі, нейкая санлівая

млявасць расплывалася па ўсім целе, а ён, унурыўшы галаву ў мяккі каўнер кажуха, раз-пораз правальваючыся глыбока ў снег, ішоў і ішоў. Крыўда і злосць немаведама на каго і чаго перапаўнялі чалавека...

З гадзіну назад Саўка, перасякаючы прасеку, нечакана напаткаў у хмызняку Якуба, суседа. Той ніяк не мог прылаўчыцца ямчэй узяць на плечы двух яшчэ цёплых зайцоў. Саўка памог суседу, нават даў павадок, які на ўсякі выпадак быў укінуў у кішэню, калі выходзіў з дому. Рассталіся — і пачалі віцца ў Саўкавай галаве думкі вакол Якуба. Шанцуе ж чалавеку, бы цыгану таму на конскім базары. Гэта ж дзень у дзень наведваецца ў лес і рэдка калі не заб'е якое дзічы. А ён, Саўка, адзін разок за ўсю зіму адарваўся ад калгаснай работы, і то давядзецца з такам вяртацца назад. Казала жонка: «Не ідзі ты ў гэты лес-бес, а лепш свінушнік паладзь». Вылаяў жонку, не паслухаўся і пайшоў... І думкі зноў вяртаюцца да суседа. Гэта ж колькі звенняў сеялі тытунь, а лепшы ўраджай сабрала Якубава звяно. Грошай гэтулькі, цукру... А ў прыдачу яшчэ прэмію — новенькую двухстволку... І ў сваёй гаспадарцы... Здаецца, у адзін год сад садзілі. У Якуба — ужо яблыні хоць куды: восенню голле падпіраў — было яблык, нібы пляцёнкі цыбулі віселі. А ў Саўкі — хоць бы пакаштаваць. Вусень напала на квецень і нават лісце пажэрла. Ды і дрэўцы — каторыя павысыхалі, каторыя павымярзалі. Ці то Саўка не ўмее іх дагледзець па-людску, ці напасць на яго якая, ці ліха ведае што гэта. Вось жа праўда: багатаму чорт дзяцей калыша, а беднаму — лыжку ліжа... Гэта ж і сёння: трэба было Якубу аж двух зайцаў забіць, а яму, Саўку, ні аднаго.

Нечакана апынуўшыся на дзялянцы, Саўка схамянуўся: «Ага, дзе ж гэта я?» Агледзеўся навокал: з аднаго боку — цёмная сцяна хвойніку, з другога — такая заглуш з маладога асінніку і бярэзніку, што нідзе і носа не прасунеш. «Ды гэта ж няйнакш аж на Камарову паляну чорт мяне занёс»,— стукнуў ён сябе па лбе. Патупаў на месцы, пакруціўся, яшчэ раз зірнуў то ў адзін, то ў другі бок. «Так і ёсць — яна. Вунь і дуб той ляжыць голлем на дарогу».

І зноў злосць, злосць ужо на самога сябе, што, вылупіўшы вочы, брыў гэтулькі часу па цаліку ліха ве-

дае куды і чаго. Спакваля, як бы нехаця, падышоў да дуба.

Гэта ж пэўна Якуб выразаў у гэтым дубе дзікія пчолы — слепет. А хто першы, як не Саўка, знайшоў яго, вяртаючыся з сенакосу. Саўка ўжо тады прыкінуў: раёк нішто сабе. Бач, як лезуць — размінуюцца не могуць. Ды і нізка зусім дупло, браць лёгка будзе... Свае пчолы, свой мёд... Радасць агарнула Саўку. «Хай хоць Якубавы пчолы не будуць залятаць у мой гарод. А то і днююць на квецені. Потым, дасць бог бацька, пачнуць раіцца, дык і я стану не абы-які гаспадар, а пчаляр!..» — так цешыў сябе тады Саўка.

Але калі праз тыдні два, управіўшыся з сенажаццю, Саўка прыйшоў сюды, то здзівіўся — дуб ляжаў павалены. Лісце вяла і безжыццёва звісала з галінак. Ад усяго рою засталася толькі невялічкая жменька пчол, якія звіліся на галінцы бярозы і марна гінулі... Саўка зазірнуў у проразь дупла: там бялелі рэшткі воску і дзе-нідзе блішчаў мёд. Ні адной раздушанай пчалы, ні адной выкінутай чарвы... Так дбала, па-гаспадарску з пчоламі мог абыходзіцца толькі Якуб. «Гэта ён мяне апярэдзіў»,— мільганула здагадка. Вярнуўшыся тады з лесу, Саўка пералічыў вуллі ў Якубавым двары. Іх было на адзін больш. «Мала з яго тых, што ёсць, дык ён яшчэ і на гэты слепет пакваліўся. Во хапуга... Усё б яму...» А калі дзён праз колькі ўбачыў, што адзін калодачны вулей сусед падсунуў пад самы ягоны плот, Саўка не мог стрымацца. «Бач ты: мой слепет выдраў і вуллем плот падпёр. Глядзі, маўляў, ды слюнку глытай».

У тую ж ноч Саўка мерыўся пайсці і забраць у Якуба слепет проста з вулля. «Дакажы потым, што гэта твой!» Пасля перадумаў. «Усё ж Якуб — сусед. Настырняцца з ім — невялікая радасць. Не так таго мёду, як сораму...»

Усё лета і восень, калі Саўка выходзіў у гарод, яго смактаў нейкі чарвяк. «Во падлюга, во хітрун. Гэта ж каб назаліць больш, дык ён знарок паставіў вулей пад мой плот са слепетам,— бурчаў сабе пад нос Саўка і кляў на чым свет стаіць суседа.— Пачака-ай, я табе дапяку...»

І як толькі Саўка выбіўся з Камаровай паляны на санную, ухабістую дарогу, так канчаткова і выспела

ў яго галаве думка — звесці са свету гэтыя пчолы. «Хай яны мяне не мучаць... Ды і Якуб хай зазнае, што такое няўдача. А то надта ж яму шанцуе...»

Ужо добра змерклася, калі Саўка падышоў да Якубавага гарода. «Гм, як жа гэта так зрабіць, каб ніхто не здагадаўся, чыя гэта работка?» Доўга ў нерашучасці таптаўся каля невысокага частаколу. Адзін час яму здалося, што нехта затупаў. Саўка прыліп да плота. «Во калі хто ўбачыць? Што падумае?» Хвілін колькі ён стаяў насцярожаны і лавіў начныя гукі. Потым пералез праз плот. Ціха, ціха навокал. Толькі трывожна рыпіць пад нагамі снег ды тахкае ў грудзях сэрца. Во і вулей той... Дзверцы прымерзлі. Рукі самі палезлі ў кішэню, дасталі нож. Калупнуў зверху, пасля знізу, засунуў у шчыліну пальцы — дзверцы выпалі... У тую ж хвіліну, што было сілы, кінуўся з двара. Праз яшчэ незачыненыя вароты выбег за хлеў, зрабіў там ладны круг-пятлю і, усё яшчэ ўзрушаны, ступіў на дарогу...

Якуб меў звычку кожную раніцу — хай то дажджлівая восень ці снежная зіма, гразкая вясна або спякотнае лета — аглядаць усю сваю невялікую гаспадарку. Яго рукі свярбелі па рабоце, і калі што-небудзь было не даведзена да ладу, ён адразу ж браўся правіць... Больш за ўсё ён любіў сад і пчол. Каля іх ён гатовы быў тупаць і днём і ноччу.

Сёлета Якуба хваляваў больш за ўсё рой, што купіў ён у кульгавага Петруся, калгаснага вартаўніка, які прынёс гэты рой з лесу. Убачыўшы добрую пчаліную сям'ю, Якуб не мог стрымацца, каб не купіць. Яму здавалася, што рой можа прапасці ў Петруся ці ў кагосьці іншага... Хацеў восенню вулей з ляснымі пчоламі ўкаціць у імшанік. Але перадумаў. Пчолы, пэўна, ужо зімавалі дзе-небудзь у дубе, і холад ім не так страшны. А ў імшаніку цеснавата, усе вуллі не месцяцца. І ён пакінуў слепет на панадворку каля Саўкавага плота.

Нібы хто чым вострым укалоў Якуба ў самае сэрца, калі, выйшаўшы з хаты, убачыў адчынены вулей. На белым іскрыстым снезе ляжалі пчолы, быццам хто іх пасеяў знарок шчодраю рукою.

Якуб доўга хадзіў вакол вулля. Нагінаўся, браў у жменю нежывых халодных пчолак. Пасля глядзеў на сляды, што няроўным ланцужком беглі па снезе, і думаў, хто гэта і чаму адчыніў вулей.

А за Якубам у гэты самы час праз шчыліну ў сенцах цікавалі хцівыя Саўкавы вочы і ад радасці смяяліся...

*1958 г.*

## СТАЖОК СЕНА

Ціхі жнівеньскі надвячорак. Закацілася ўжо за лес сонца, даўно прапылілі, прамычалі па вёсцы каровы. Усюды паслаліся глыбокія начныя цені. З дыму сухмаркаў, што завалаклі ўвесь усход, вынырнуў бледны сярпок месяца, вынырнуў і паплыў па самым небакраі, нізка над лесам, час ад часу чапляючыся за цёмна-сінія засмужаныя вяршаліны.

Банадысь Плаха збіраецца ехаць па сена.

Буланай масці конь, запрэжаны ў старыя, разбайданыя калёсы, стаіць у двары за сенцамі. Ён сярдзіта пырхае, нецярпліва трасе доўгай галавою, намагаючыся парваць лейцы, якімі прывязаны да плота. Бакі адвіслага жывата як бы ўмяў хто: конь галодны. Яго толькі што прывяла з калгаснага табуна жонка Банадыся Сахвея.

Банадысь, пануры, задумлівы, тупае ля калёс, усё папраўляючы то атосы, то драбінкі. Час ад часу, калі буланы занадта ўжо моцна растузаецца, гаспадар таўчэ няўрымсніка кулаком у храпу, цэдзіць скрозь зубы:

— У-у, ваўкарэзіна!.. Утомы на цябе няма...

Услед за няўклюдным, прыгорбленым бацькам бегае Міколка — цыбаты хлапчук з круглай, нагала астрыжанай галавой і аблупленым кончыкам носа. Каб не абрасіць у траве і бульбоўніку штаноў, ён закасаў калошы вышэй каленяў.

— Тата,— пяе ён сакавітым галаском,— а нашто табе пуга? Аддай мне...

— Адстань...— адразу ж асякае сына Банадысь.

Міколка плаксіва шморгае носам і клепае бялёсы-

мі вейкамі. Потым, злаўчыўшыся, выхапіў з бацькавых рук пугу, прыставіў пугаўё да штакетніка і памчаў паўз плот — цішыню надвячорка ў момант рассякае сухая, частая траскатня.

Сама Сахвея, дзябёлая, вастраносая, таксама завіхаецца ля запражкі. Яна прыцягнула ўжо аднекуль леташні бярозавы рубель, заматала на ручкі калёс тоўстую вяроўку, вынесла з сенцаў сякеру і жалезныя вілы. Рухавая, спрытная, яна паспявае ўсюды: выправіць у суседзяў гумовыя боты на гразь, даць гучных плескачоў непаседу-сыну, што немаведама чаго трэцца пад нагамі і замінае зборам, накрычаць на мужа, бо той варушыцца, усё роўна як мокрае гарыць...

А трэба спяшацца.

Сёння камісія ад праўлення калгаса апрыходавала стагі сена, што сёй-той быў накасіў без дазволу на калгаснай сенажаці. Сярод тых стагоў ёсць і стажок Плахавых. Навыбіваў яго Банадысь прыхваткамі на досвітках, пакуль жонка варыла снеданне. Сена, як на тое, прыдалося мурожнае, з дзяцелінай і хвошчыкам. Дзіва што!.. Сама Сахвея выбірала, дзе касіць. Высахла яно зялёнае, духмянае, нібы той чай. Як касілі, на яго не ўпала ні адной кроплі дажджу. Згрэблі таксама ў пагоду. Думалася, на ўсю зіму корму будзе... І вось на́ табе — стажок апынецца не сёння-заўтра на калгаснай ферме. Хіба ж можа такое дапусціць Сахвея? Таму і злуецца яна, што муж занадта ўжо марудна збіраецца ў дарогу, усё чагосьці топчацца ды топчацца ля калёс. Стажок дарма што ледзь з кустоў вытыркаецца, але ці забярэш яго за два разы? Гэтулькі сена ўтаптала мажная Сахвея, ледзьве ў той дзень ногі з лугу прывалакла. А ноч не зімовая ж: не паспееш воза накласці, глядзі — днець пачне.

— Ды хутчэй ты!.. Не па смерць жа едзеш...

Банадысь жончыны словы прапускае міма вушэй.

Але вось нарэшце калёсы мякка выкатваюцца на вуліцу, ціхую, бязлюдную, з навіссю яблыневага і слівавага галля ўсцяж платоў. Адразу ж за вёскаю — кусты алешніку, крушыны, лазы. У іх булькоча ледзь чутна запруджаная на перамеле ламаччам нешырокая гразкая рачулка. З шумам і свістам узлятаюць у паветра дзікія качкі. Конь шарахаецца ўбок. Сахвея сцёбае яго па спіне сырамятнай пужкаю, тузае за лейцы, но-

кае і цмокае языком, зноў выкіроўваючы калёсы на дарогу. Бядак прыпадае губамі да вады, пырхае і нібы з нейкай затоенай асалодай і злосцю топча капытамі густа ўсыпанае цьмянымі зоркамі неба, змешвае яго з граззю і ілам і павольна цягне воз на другі бераг.

Шорстка шуршыць пад абадамі жарства.

Праз нейкі час калёсы зноў скрыпяць па бітай палявой дарозе. Тарахцяць драбінкі, дзержанок вілак падскаквае і глуха стукае аб падсцілку, коўзаецца з боку на бок слізкі рубель. Буланы, апусціўшы нізка галаву, неахвотна тупае міма коп сытнай аўсянай саломы, якую, жнучы днём, параскідаў па ўсім полі камбайн. Удалечы мякка цямнее лес, абкладзены па самае голле белай ватай туману. Там, каля кружка лазы, паваротак улева, на луг...

Банадысь, звесіўшы ногі з драбінак, моўчкі смокча цыгарку. Вочы яго ляніва разглядаюць жончыну спіну. Круглыя, не па жаночы шырокія плечы, загарэлая, дужая шыя, чорная валасатая бародаўка каля самага выкраю сукенкі... Чалавеку не даюць спакою думкі. Чаму гэтак лёгка ва ўсім ён згаджаецца з жонкаю?.. Сказала неяк, на першых днях пасля вяселля,— кідай калгас і ідзі на падсочку (там куды больш заробіш!) — і пайшоў. Летась увосень усё каркала, што многія з калгаснага поля грачанку па начах цэлымі вязкамі валакуць. Разоў колькі, туляючыся пазахлеўю, хадзіў па грачанку і ён. Браў са сцелішчаў лён, ды Сахвеі ўсё мала. Грызла кожны дзень, каб у сад ці на пасеку забраўся. А цяпер — гэты стажок...

На момант прысадзісты, круглы, з доўгімі бярозавымі апоўзінамі на вяршку, ён паўстае перад вачыма. Успамінаюцца тыя досвіткі, калі прыбягаў на луг, шоргаў два-тры разы мянташкаю па яшчэ звечара накляпанай касе і пачынаў на ўвесь мах і сілу лёгка і спорна адкідваць на пракос цэлыя ахапкі рослай травы. Хіба зразумее гэтая кабета, што значаць для яго, Банадыся, свіст касы і халаднаватая, барвовая ад сонца ранішняя раса?.. Ён аж памаладзеў, пажвавеў за тыя дні, стаў вясёлы, гаваркі...

Бляклае святло месяца адкідвае на пожню тры невыразныя цені-волаты. Яны як бы прыліплі адразу ж пры выездзе ў поле да воза і ўжо не адстаюць ні на крок — бягуць, туляцца па шчаціне пожні. Заўзята

брэша, аж захліпаецца, у вёсцы сабака. Га-аў! Га-аў!.. Пахне свежаю аўсянаю саломаю, конскім потам, каламаззю... Калёсы коцяцца ў шэрань ночы павольна. І гэтак жа павольна плывуць Банадысёвы думкі. Кім ён стаў, паддаўшыся ўгаворам жонкі? Зналюдзеў адзін у лесе, ад дому адбіўся... Красці нават пачаў. У Сахвеі дужа доўгія рукі і сквапныя вочы: усё, што ні ўбачыць, хочацца забраць, занесці сабе ў двор. Ведаў жа: уся сям'я ў Сахвеі такая. Не раз чуў яшчэ да жаніцьбы, што людзі пра іх, зладзюгманаў, казалі... Не зважаў... І вось...

Глуха тупае капытамі конь... Ляскочуць па полі калёсы...

Кружок лазняку вынырае з клубістага кужалю туману нечакана. Ля яго — ледзь прыкметны паваротак — яшчэ амаль ніхто падводай не ездзіў на луг. Сахвея цягне да сябе ляйчыну, паварочвае каня на вузкую дарожку, на колкую пакошу. Конь натурыцца і не хоча ісці. Сахвея злуецца і ў нейкай звярынай апантанасці сячэ яго пугаю па баках, па крыжы...

Банадысь, прыўзняўшы галаву, хвілін колькі моўчкі глядзіць на жонку. Валасатая барадаўка вырастае зноў у яго перад вачыма. І яму раптам робіцца шкада ні ў чым не вінаватай жывёліны, шкада самога сябе. Ён выхоплівае з рук жонкі лейцы і паварочвае каня, паварочвае чамусьці не на сцежку, што вядзе на луг, да стажка, а ў лес, туды, куды кіруе сам конь...

Адчуўшы моцную мужчынскую руку, буланы адразу ж бярэ на лёгкі, але спорны трух...

*1959 г.*

## ЦЫГАНЧУК

— Во прыстаў, як п'яны да плота: «Прадай ды прадай сабачку». Без цябе ведаю — добры. Ды зразумей ты, чалавеча: можа мне ён дарагі не толькі тым, што качак ловіць і зайцоў, як шалёны, ганяе. А ты не смейся, зубоў не паказвай. Падкінь сушняку ў агонь, паслухай...

Я нежанаты тады яшчэ быў. Заравацъ на досвітку неяк сабраўся. Як ты во, скажам, цяпер. Ранак, на ліха, пахмурны надарыўся. Рыба ані не брала. Ат, так, драбяза адна — маляўкі, верхаводка, печкуры... Сяджу я на беразе, драмлю, схіліўшыся над вудамі. Ад нечага рабіць абы-што ўспамінаю, сябе дакараю, што немаведама чаго ўспароўся ні свет ні зара. Жабы, птаства featherзнае, папрачынаўшыся, аж са скуры вылазяць, на ўсе лады прабуюць свае галасы. Толькі не весяляць мяне іхнія канцэрты, а яшчэ большую дрымоту нагаляюць, злосць. Туман, нібы той дым, па роўнядзі рачной клубіцца, коціцца. Густы такі, за дзесяць крокаў ад сябе не разабраць, дзе што робіцца.

Ага, дык сяджу гэта я на беразе, звесіўшы ногі, і быццам праз сон чую, як нехта непадалёку тупае. Боты такія цяжкія, нязграбныя ці хада ў чалавека такая. Бы абухом б'е хто па бубне. Бух, бух, бух... «Эге, пэўна, на рыбалку клыпае яшчэ адзін дурань»,— падумаў я сабе. І адразу ж пачуў голас:

— Божухна, даруй мне, беднаму Назару, што я жывое стварэнне тваё жыцця рашаю. Не я вінаваты, баба мая...

Дрымоту маю як рукой зняло. Берагам, абмінаючы лазнякі і затокі, пабег я на чалавечы голас. Бачу: проста на зямлі стаіць на каленях шыракаплечы мужчына. Хрысціцца, паклоны зямлі і небу адбівае, як усё адно ў царкве той, перад абразом. Ля чалавека ляжыць старое, абшарпанае рэшата, а ў ім — чорны жывы клубочак. Сабачаня.

— Што вы надумалі, дзядзька? — крычу я яшчэ на бягу.

— Ды маўчы ты...— злёгку прыпалоханы маім нечаканым з'яўленнем, прагундосіў у нос Назар.— Гэта ж надоечы сучка мая прывяла трое шчанят. Ну, скажы, чаму б не радавацца? Дык не ж, як дзень настае, так і лезе да горла жонка: «Сабакарню развёў... Псінай усё прапахла... У хату не зайсці... Патапі шчанят, а то сама ў зямлю іх жывых пазакопваю. Да аднаго!» Двое лепшанькіх сяк-так адваяваў, а во гэтае, нягеглае... Што ты зробіш, ведама, баба... Уперлася, хоць кол на галаве чашы...

Жыў дзядзька Назар у суседняй вёсцы, у Клівах. Але і ў нас яго ведалі, бо званаром ён некалі ў царкве

быў, а пад старасць вазіў праз нашу вёску на малачарню малако.

Я схіліўся над рэшатам. У сабачаняці ўжо прарэзаліся чорныя, як жучкі, вочы. Не любіў я страшэнна сабак. Ніколі не мінаў выпадку, каб камень ці палку не шпурнуць у якога-небудзь валацугу. А тут разжаліўся. Шкада мне стала сабачаняці. Забраў я яго, у шапку паклаў, дахаты занёс. Малаком пачаў паіць, забаўляцца з ім, як з дзіцем, кожную вольную хвіліну. За прывіднасць і чарнату імя яму Цыганчук даў. Прывязаўся да мяне гуллівы карантыш, прывык. Ні на крок не адстае — куды я, туды і ён. Брэша па начах не тое каб лішне, зайцоў ганяе, сад вартуе. І ста грамаў не просіць на свята. Любата, дый годзе. Толькі нядоўга я так цешыўся...

Прачынаюся неяк — крык на вуліцы, хоць вушы затыкай. Я — з хаты. Чую — Цыганчука кручаны сабака пакусаў. Ну, тут усё ясна: знішчай шкоднае семя, пакуль бяды не нарабіла. Спахопішся пасля, ды позна будзе...

Хоць і любіў я ганчака, але вагацца не стаў. Схапіў са сцяны ружжо, Цыганчука на павадок і — у лес.

Снег яшчэ не сышоў быў усюды. Мокры, крупяністы, як соль, ён іскрыўся лапінкамі ўзбоч дарогі. Але дзе-нідзе на прыгрэве ўжо лезла, прабівалася вострымі голкамі зялёная трава.

І такі жаль, такая шкадоба агарнулі мяне — проста сказаць не магу. Падумаю, што праз які месяц качак чароды ўкрыюць раку,— плакаць хочацца. Паляўнічы ж без сабакі — што ружжо без курка... Іду гэта я, значыць, а ногі мае самі назад паварочваюць мяне...

У лес увайшлі. З бітай дарогі збочылі. Дзесяць крокаў не адмералі — шарак з-пад самых ног — тыц! Спаў, мусіць, халера, у мурашніку, пад хвояй. Ускочыў і пайшоў віляць між дрэў — толькі яго і бачылі. Цыганчук мой ірвануўся быў услед, але я стрымаў яго. Заяхкаў, заліўся дзіўным голасам ганчак. А мяне, як нажом хто па сэрцы: апошні ж раз чую гэты брэх, апошні ж раз бачу, як кідаецца на здабычу мой любімец...

За Воўчы брод забрылі мы. Ага, шырокі такі. Прывязаў я сабаку ля камля дуба. Адышоўся ўбок. Прыцэліўся. Бадай і бабахнуў бы, каб не падняў Цыган-

чук на мяне вочы. Глянуў гэта ён — ружжо так і вывалілася з маіх рук у снег. Хочаш вер, хочаш не вер, толькі плакаў сабака. Як дзіця, буйнымі, невінаватымі слязамі...

Падняў я стрэльбу. Снег абцёр з рулі і ложы. Зноў прыцэльваюся. Толькі рукі трасуцца, руля сюд-туд хадзіць...

Так і пакінуў я жывога Цыганчука ў лесе...

Праз дзень гляджу — бегае Цыганчук як ні ў чым не бывала па двары, паесці б чаго шукае. Вось тут і пачалося... Збеглася ледзь не ўся вёска. Старшыню сельсавета прывялі. Аштрафавалі на цэлую паўсотню. Апраўдваюся:

— Не магу я... Што хочаце рабіце — не магу. Дый і не кручаны ён...

— Бач, бач, што запеў,— закрычалі на мяне з усіх бакоў.— То не магу, а то ўжо не кручаны... Раз ты сам не можаш — мы зробім.

Ружжо маё са сцяны ўзялі. Сабаку злавілі. Паглядзеў ён на мяне чорнымі сумнымі вачыма, жаласліва заскуголіў. Вось, брат, стварэнне, усё чыста разумее... Скажаш не? Зірні, як слухае. Ведае, шэльма, што пра яго расказваю...

Надвячоркам ужо даведаўся я, як Цыганчука забівалі. Два набоі ўсадзілі, а ён жывы. Больш не было чым страляць. Тады выкапалі ямку і нагамі ўгарнулі яго туды. Зямлёю прысыпалі, лоўж галля наверх нацягалі...

Ну, думаю, не ўбачу больш свайго любімца. Загінуў ні за нюх табакі. Напіўся з гора. Посуд увесь дома пабіў. І ноч такой доўгай і нуднай здалася, што аж успамінаць не хочацца... Брэх па ўсёй вёсцы, а ў маім двары — што ў магіле. Ціха. А такі галасок быў!..

Дзён мо праз тры пасля гэтага вяртаюся я з лесу (я ў лесніках ужо быў) злосны — чорту б рогі скруціў, здаецца. Бачу — нешта чорнае на саломе каля хлява валтузіцца. Бліжэй падыходжу і вачам сваім не веру. Цыганчук... З таго свету вярнуўся. Ледзь жывы, у крыві, у гразі... Але дыхае... Мяне пазнаў. Вочы расплюшчыў, паўзе... Божа літасцівы!..

Вынес я з хаты малака чарапок. Хлебча...

Адхадзіў я сабаку. Спачатку ад сваіх нават хаваючыся, потым плюнуў на ўсякую перасцярогу...

Вось, брат, як за жыццё ён моцна трымаецца! Дзікі колькі разоў паласавалі, ваўкі зубы вастрылі, а ён — жыве!

Можа і не кручаны сабака яго тады пакусаў. Так, ад заіздрасці хтось выдумаў. Бывае ж такое... А можа і кусаў, ды перабылося ўсё неяк. Хто ведае. Толькі ганчака такога нідзе не знойдзеш... Вуха? Ага, ад тых дзён такое. Думаў — зусім адваліцца. Ды, бач, зраслося. І на нагу адну накульгвае таксама з таго... Во які сабака! А ты кажаш: «Прадай...»

Не, чалавеча! І не прасі. Ні за якія грошы! Пашукай, можа дзе і знойдзеш... Не такога, дык трошкі горшага. Ну, Цыганчук, пайшлі. Пасядзелі, перакінуліся словам з добрым чалавекам — час і ў дарогу...

*1959 г.*

## ТРЭБА ЖЫЦЬ

Ганна падыходзіць да акна: на ўсю вуліцу, пабраўшыся подручкі, ідуць па-святочнаму прыбраныя дзяўчаты.

Гарманіста я любіла,
Гарманіста цешыла,
Гарманісту на плячо
Я гармонік вешала-а-а...

Бадзёры, імклівы перабор гармоніка, і зноў, ужо іншы, голас:

Гарманіст, гарманіст,
Каранькія вочкі,
А праз твой гармонік я
Не сплю ані ночкі...

Гарманіст, белагаловы Міцька ў хромавых ботах з закасанымі халявамі і белай вышыванай кашулі, то забягае наперад, то ідзе побач. Ён быццам без касцей: цела яго ўсё ходзіць у такт музыкі, і здаецца, што Міцька не вытрымае і вось-вось пусціцца ў скокі.

Ганна адварочваецца. Нібы лёгкі туман непрыкметна завалаквае вочы... Яна бачыць сябе маладою...

А побач — Юзіка. Яна лёгкая, стройная, з тоўстымі льнянымі косамі на грудзях, а ён — плячысты, прысадзісты, са старэнькім гармонікам-трохрадкай. Яны з прыпсўкамі ідуць у клуб. На прызбах жа купкамі — жанчыны.

— От пара будзе,— шэпча нехта.

— Але ж, такога хлопца, як Юзік, пашукаць трэба...

— Ды і Ганна ні ў чым не ўступіць яму. Здатная, рупная. А прыгожая якая!..

І яна радуецца, радуецца і яшчэ цясней туліцца да Юзіка... «О, як бы жылі, каб не вайна!..» А так...

...Ганна плача. Сядзіць на ложку і раз-пораз выцірае хусцінкай слёзы: толькі што прыбегла суседка Вольга і сказала, што з вайны вярнуўся Грыша і яны хутка пажэняцца... Плача не ад зайздрасці. Не... Проста ёй так цяжка, так горка, што нельга не заплакаць.

...— Ганна! — перапыняе ўспаміны голас.— Чаму ты святла не паліш?

Як быццам хто павалоку з вачэй зняў. Перад Ганнай — маці з даёнкай у руках.

— Ты мо захварэла?

— Не, проста так... Нашто нам тое святло? Можна і ў цемнаце есці.

— Як гэта «нашто»? Мне малако трэба працадзіць, ды і прыбірацца ж пэўна будзеш.

— Я сёння нікуды не пайду.

— Чаму гэта? Схадзі. Што ты — не наспалася хіба яшчэ?

«Схадзіць?.. А чаго? Што там рабіць у тым клубе?»

Ганна адыходзіць ад акна, бярэ на комінку лямпу і доўга выцірае мяккай анучкай шкло, пасля падразае нажніцамі нагар на кноце і запальвае сярнічку. І зноў застывае на месцы... Тады, калі па дарозе ў клуб да яе заходзіў Юзік, яна вось гэтак жа запальвала лямпу. На покуце звычайна сядзеў пасля вячэры бацька і курыў...

— Ганна, што гэта сёння з табою? Чаго ты такая? — маці зашаркала нагамі па падлозе і падышла да стала.

— Якая, мама?

— Ды нейкая... Ну, не такая, як заўсёды. Падня-

дзелься трохі ды ідзі ў клуб... Гэта ж такі сёння харошы вечар...

Ганна ведае... Не ведае, а здагадваецца, чаму маці ў апошні час штовечар напамінае ёй пра клуб. Мікалай Сургай — іх сусед, які вясной нечакана аўдавеў,— памерла ад родаў жонка,— чагосьці зачасціў да іх у хату. Заўсёды ён скардзіцца на адзіноту, на тое, як цяжка весці гаспадарку, на чатырохгадовага сына, праз якога нельга адлучыцца з дому ні на хвіліну. Мікалай увесь час употай паглядае на Ганну. Маці здагадваецца, што гэта значыць, і матчына сэрца напаўняецца радасцю. «Можа, што-небудзь і будзе»,— думае-разважае яна. Тады і яна выйдзе вечарам пасядзець на прызбу і скажа сваім суседкам, што хутка дачка народзіць унучка.

А Ганну нішто не вабіць у клуб. Яна адчувае сябе лішняй сярод моладзі. У кожным твары Ганна бачыць насмешку, пагарду... А хіба ж яна горшая за ўсіх? Хіба яна вінавата, што яе каханы Юзік не вярнуўся з вайны, як не вярнуліся многія мужчыны?

Ганна павольна пераапранаецца, расчэсвае перад люстэркам на прабор валасы і доўга разглядае на лбе маршчынкі. Іх многа. Ды і валасы ўжо не тыя — нейкія рэдкія, кароткія.

— Накінь на плечы сачак...— кажа маці, як толькі Ганна ідзе да дзвярэй.— На дварэ ж золка ўвечары...

Ганна нічога не адказвае. Матчыны словы яна разумее прыкладна так: «Надзень сачак, бо, можа, затрымае Мікалай і ты празябнеш».

Па дарозе Ганна думае пра Мікалая. Ён старэй за яе. Але дужы, працавіты. І знешне нішто сабе... Каб ведаць, што думае ён пра яе! Можа, ён... Тады б... Не, лепш не думаць таго, чаго няма...

У клубе людна, гармідарна. Віхрам носяцца па кругу пары, дрыжыць ад падскокаў падлога, грукаюць абцасы...

Ганна непрыкметна праціскаецца бокам міма гурту хлопцаў, што сабраліся каля самых дзвярэй, і садзіцца на лаву бліжэй да выхада. Патанцаваць?.. Але ж — яна ведае гэта — да яе ніхто не падыдзе з хлопцаў, ніхто не запросіць. Ды і якія гэта хлопцы? Адна назва, што хлопцы. Трэба, мусіць, самой знайсці напарніцу.

— О, яна ўжо тут,— чуе Ганна голас Міцькі. Ліхаманкава скіроўвае свой позірк туды, да дзвярэй.— Ну і пасмяёмся, калі ўдасца... Жываты надарвём...— тым часам кажа Міцька, і, глянуўшы з нейкай хітрынкай у вачах на Ганну, ён падміргвае хлопцам.

«А што, калі яны з мяне хочуць пасмяяцца?»

І Ганна выбягае з клуба.

«Мала што можа ўзбрысці каму ў галаву! Тады сораму не абярэшся...»

Пасля яркага святла на двары здаецца яшчэ цямней, нейкі час і зусім нічога не відаць. Ганна адыходзіць крыху ў бок ад клуба і спыняецца ля плота. У галаве — пуста, пуста... Думаць ні пра што не хочацца. Толькі нейкі жаль агортвае сэрца, скоўвае яго...

— Гэта ты, Ганка? — чуе раптам яна голас і здзіўляецца. Чаму «Ганка»? І нешта трапяткое прабягае па ўсім целе. Няўжо ён, Мікалай Сургай, наглядаў за ёй?

— Я,— амаль шэптам кажа яна.

— Чаму гэта ты з клуба пайшла?..

— А так сабе, пайшла, і ўсё...

Мікалай падыходзіць бліжэй і абапіраецца так, як і яна, локцямі на плот. Абое нейкі час маўчаць.

— Ты дзе гэта сёння была? — першы парушае маўчанне Мікалай.

— А то быццам не ведаеш? Разам жа на сена ішлі...

Зноў маўчанне. Абоім робіцца неяк непамысна, ніякава.

— Ганка, няўжо табе не абрыдла быць адной?

— Чаму ж,— прызнаецца яна ў тым, у чым нікому раней не прызнавалася.— Абрыдла... А што?

— Ды так... Я проста спытаў. Я...— ён памяўся, адышоўся на крок ад плота.— Я хацеў даўно ў цябе спытаць, ці не згадзілася б ты перайсці да мяне жыць. Я ж цяпер адзін.— І яго рука асцярожна лягла ёй на плечы. Шырокая, гарачая. Ганну адразу ўсю працяло, бы электрычным токам. Што яму сказаць?..

— Я не ведаю,— шэпча яна і здзіўляецца, чаму раптам змяніўся яе голас.

— У мяне сын, Ганка,— прадаўжае Мікалай.— Яму патрэбна маці...

— Не ведаю, нічога не ведаю...— і сама чуе, як

моцна тахкае ў грудзях сэрца, як б'ецца ў скронях кроў...

— Ты падумай, Ганка. Табе ж таксама нясоладка жыць адной. Пакуль, праўда, ты з маткаю. Але ж яна ўжо старая... А мы зжывёмся. Вось пабачыш...

Ганна прытулілася бліжэй да Мікалая. І тут жа схамянулася. «Ой, што я раблю». Прашаптала:

— Неяк няёмка тут стаяць...

Мікалай бярэ Ганну пад руку, і ёй на момант здаецца, што гэта Юзік. Але толькі на момант. У наступную хвіліну яна бачыць, што Мікалай вышэй ростам. вузей у плячах і не такі малады...

— Дык ты, Ганка, падумай... Хіба ж мы вінаваты, што тых, каго мы кахалі, няма больш... Жыць жа нам і без іх неяк трэба...

У голасе Мікалая Ганна ловіць глыбокі душэўны боль. Яна толькі цяпер пачынае разумець, што ў Мікалая і ў яе ёсць шмат агульнага. І ёй робіцца шкада яго, шкада сябе...

— Добра, я падумаю...— кажа яна каля свае хаты і падае на развітанне руку.

— А што гэта ў цябе на пальцы? Чаму ты яго забінтавала.

— Ат, дробязь... Парэзала...

— Асцярожна трэба... Гэта ж...— і ён сваімі загрубелымі, вузлаватымі пальцамі пагладзіў яе руку.

Ці не ад гэтага неяк часта забілася сэрца, твар абдало гарачынёю.

— Я падумаю, Мікалай...

І Ганна ідзе ў хату. Ідзе і адчувае: не, не прайшла, не мінула яшчэ яе маладосць. Хваляванне ў грудзях тое ж, што было і некалі, у юнацкія гады...

«Што я скажу Мікалаю?» — думае Ганна, а сэрца не хоча чакаць, падказвае: скажаш, скажаш тое, што і трэба сказаць...

*1958 г.*

2 Зак. 1138

## ПАДОБНЫ ГОЛАС

Пакалыхваўся з боку на бок вагон. Стукалі на стыках рэек колы. Так-так, так-так, так-так... І якія б думкі не набеглі, будзе здавацца: колы падтакваюць ім.

Іван Максімавіч ляжаў на лаўцы і драмаў.

У вагоне было зусім ціха. Мо таму, што заядлыя бяссоннікі матросы, якія ўвесь вечар гаманілі і ляскалі ў даміно, стуліўшыся, ківалі галовамі.

На дварэ шугала навальніца. Хвалі дажджу малацілі па даху, шумелі па вокнах. Грымела. Успышкі маланкі жахалі цемру.

Іван Максімавіч ад гэтага часта прачынаўся. Са злосцю запіхваў пальцамі прасцірадла ў вушы, каб не чуць грукату грому, варочаўся і пазяхаў, пакуль зноў яго не апаноўвала дрымота. Дарожны сон у вагоне ніколі не бывае доўгім і спакойным. А прачнешся — думаеш нават пра самае нечаканае, што можа ўзбрысці ў галаву.

...Вось за масіўным сталом мілавідная жанчына з густа пафарбаванымі вуснамі. Адным пальцам лянiва таўчэ па клавішах машынкі.

— Рыгор Раманавіч заняты...— абыякава, нават не падымаючы вачэй, пяе яна томным завучаным галаском.

Іван Максімавіч доўга пераконвае, што яму абавязкова трэба бачыць старшыню райвыканкома, што без гутаркі з ім ён не можа нікуды ехаць, не можа выканаць задання...

— Рыгор Раманавіч заняты...— паўтарае сваё сакратарка.

— Чым ён можа быць заняты?! — крычыць Іван Максімавіч з усяе сілы і... прачынаецца.

На нейкую хвілю затойвае дыханне: «Ці не выгукнуў я на ўвесь вагон?» Не, усе спяць, як і спалі... Пfamous варочваецца тварам да сценкі і зноў хоча заснуць.

Хвілін праз колькі ён зноў атакоўвае тую самую сакратарку...

Гэты раз яго разбудзіла размова. Не шастаў больш па даху дождж. Суняліся грымоты. Відаць, поезд пакінуў далёка за сабою навальнічную палосу. Дзесьці ў другім канцы вагона плача дзіця.

— Але, сёлета сена на вагу золата будзе,— чуе Іван Максімавіч.— Гэта ж як знарок: толькі ўкосіш — адразу дождж...

— Нешта клімат змяніўся... Кхе-кхе... А як жа... Толькі сенаванне пачнецца, як ты кажаш, услед і дождж... Кхе-кхе.

Іван Максімавіч ледзь не ўскочыў. «Дзе ён чуў гэтае кхеканне? Дзе?..»

— Яно, мусіць, такое ад гэтых самых атамных бомбаў. Не было іх, дык усё добра ішлося. А цяпер, бач што... Хоць зусім не касі...

— Я табе скажу... кхе-кхе... Дажывёмся во, што зямны шар некалі падарвуць... Спаць будзеш і гэтак згінеш ні за што ні пра што...

«Дзе ён чуў гэты голас?.. Такое глухаватае кашленне... Працяглае «гэтак»... Дзе?»

...Тады Іван прачнуўся ад духаты. Расплюшчыў вочы і ў першую хвіліну здзівіўся. «Дзе я?» Вакол — чарната... Паварушыў рукою. Сена... Сухое, шапатлівае.

Учора, ужо на змярканні, да сябе ў зямлянку выклікаў яго камандзір атрада.

— Вось што, Дубчык,— сказаў амаль шэптам, як толькі ў штабной зямлянцы з'явіўся ён, камлюкаваты партызан.— Праз тыдзень немцы пачнуць блакаду... Гэта, відаць, у іх будзе самая апошняя. Дык вось што, браце... Пра гэта нікому яшчэ не гавары... Спяшайся як толькі льга будзе ў атрад Палешука.— Іван Максімавіч і цяпер памятае даслоўна загад камандзіра.— І вось яшчэ што... Заглянеш да маёй сястры, Міхаліны. Скажаш ёй, хай пакуль застаецца ў вёсцы. Там цяпер яна вельмі патрэбна.

Толькі пад раніцу Іван, стаміўшыся і азябшы, дайшоў да той добра знаёмай вёскі, дзе жыла Міхаліна.

...Іван высунуў галаву. Прыемны для вачэй паўзмрок. З яго выступалі сукаватыя, неабчэсаныя латы, не зусім зграбныя, крывыя крукі. Вілаватая саха падпірала страху. Унізе ляскала церніца. Хрупацела кастрыца. Адтуль пахла льном і лазняй. Нехта працаваў упарта, без пярэдыху.

Дзверы раптам скрыпнулі, і ў хлеў нячутна праціснуўся яшчэ хтосьці. І амаль адразу Іван пачуў:

— Ідзі, Сцяпан... Не прыставай дарэмна... Нічога не будзе. Хоць ты ў мак рассыпся... Не магу я пайсці за цябе...

«Міхаліна,— пазнаў ён па голасе.— А хто ж з ёю?..»

— Я-то магу пайсці... кхе-кхе... Але ведай, што гэты раз я не змоўчу. Пра ўсё давяду немцам. Я не такі дурны, як ты думаеш... Брат твой дзе?.. У войску... Кхе-кхе... Ты не круці галавой... Партызанская памагатая... Кхе-кхе...

— Не мялі лухты...

— Мне малоць няма чаго. Я, як ёсць, чыстую праўду... Кхе-кхе... І каб на маім месцы быў хто іншы, не цацкаўся б, запомні... А то водзіць за нос, як маленькага... Спачатку да вясны адкладвала. Што, не чакаў? Чакаў. А тады: у людзей, маўляў, гора, а мы жаніцца ўздумалі. А ты таго не ведаеш, што напляваць мне на ўсіх. Можа, я праз тых людзей гібеў толькі, а не жыў. Потым яшчэ нешта ўздумала. Кхе-кхе... Я гэтак меркаваў. Якая мне карысць, калі цябе выдаць немцам? Багацей я не стану. А раз так...

— Сцяпан... Хіба ж ты не бачыш, што я дзіцем хаджу?.. Як жа мне ісці за цябе?..

— Ведаю я тваю цяжарнасць. Не правядзеш...

Усталявалася маўчанне. Не стукала больш цэрніца, не шамацела траста... Усё як бы насцярожылася і чакала, што будзе далей.

«Сцяпан... Няўжо гэта той паклёваны рыжы, чыйго бацьку раскулачылі некалі? Няўжо ён прыблукаўся... Але ж, гэта ён... Пра яго і ў атрадзе гаварылі аднойчы».

— Міхаліна,— зноў пачуўся хрыпаваты голас.— Жыццё якое! Падумай... Я не такі ўжо і стары. Кхе-кхе... Я люблю цябе... Я добры...

— Ідзі, ідзі ад мяне. Ты п'яны... Ледзь на нагах стаіш... Не падыходзь! Галаву траплом размазджэру...

— А, ты вось як... Партызанка паскудная...

Боты хутка затупалі, аддаляючыся.

— Смоўж аблезлы,— прашаптала Міхаліна і — чуваць было — заплакала.

Іван некаторы час ляжаў і думаў, што яму рабіць.

Вылезці з сена, супакоіць жанчыну ці зусім не паказвацца? Хай мо лепш не ведае, што іх гутарку чуў хто староннí. Але ж час... А наперадзе — дарога...

...— Ой, вы чулі ўсё? — ускрыкнула Міхаліна і ражком хусткі пачала выціраць вочы.

— Чуў...— вінавата ўсміхнуўся Іван, атрасаючыся ад сена.

У ватоўцы, шырокай картовай спадніцы і ботах Міхаліна была зусім падобна на пажылую жанчыну.

— Я не ведаю, што мне рабіць... Каб не хворая маці, даўно задушыла б яго.. А так кожны дзень трэба слухаць гэткае... Абрыдла ўжо...

— А хто ён?

— Паліцай... Да вы помніце яго. Гэта той рыжы Сцёпка, што некалі цкаваўся сабакам...

— Але ж табе трэба было папярэдзіць нас...

Яны гаварылі многа і доўга...

Пасля ўжо, дабраўшыся да Рачалаўскіх балот, Іван даведаўся, што ў камандзіра атрада немцы расстралялі сястру і маці...

«Гэта ён, забойца... Ён...»

...Пакалыхваецца з боку на бок вагон. Сакочуць колы. І здаецца, раз-пораз паўтараюць: «Ён-ён, ён-ён, ён-ён...» «Калі гэта той,— уюцца думкі,— то трэба затрымаць... Але як?.. Проста ўстаць і крыкнуць: «Стой, ні з месца!..»...

— Праз дзесяць хвілін станцыя Дземяхі,— аб'явіў у гэты час на ўвесь вагон сонным голасам праваднік.

«А што, калі там Сцяпан злезе?.. Прапала тады ўсё... Трэба, мусіць, устаць... Ага, устаць...»

Іван Максімавіч асцярожна прыўзняўся, спусціўся на падлогу.

«Не паварочвацца надта ў яго бок. Пазнае...— мільганула думка.— Ісці каля яго, нібы ў тамбур...»

Іван Максімавіч набраў у грудзі паветра, каб крыкнуць: «Стой! Ні з месца!» І не крыкнуў...

На тым месцы, адкуль чулася кхеканне, сядзелі два барадатыя, старыя дзяды. Ля ног у іх стаялі кошыкі з клубніцамі. Ні адзін з гэтых дзядоў нават чым-не-

будзь не нагадваў Сцяпана. Ды яны зусім і не глядзелі на Івана Максімавіча.

Іван Максімавіч зноў палез на сваю паліцу. Заснуць ён ужо не мог...

*1958 г.*

# СОНЦА

Раніцою мяне будзіць голас. Ціхі, пяшчотны, быццам гуд руплівай пчалы, ён то вісіць над самым маім вухам, то раптам кудысьці знікае на нейкі час. Праз сон да мяне даходзяць словы:

— Максімка, сыночак... Ці ж гожа так позна мужчыну спаць?.. Уставай...

Я неахвотна расплюшчваю вочы. Нада мною схілілася маці.

— Прачнуўся,— радасна ўсміхаюцца яе тонкія, бледнаватыя губы.— Малайчына... А я і снеданне табе прыгатавала. Чуеш?..

Павекі такія непаслухмяныя, цяжкія, што самі насоўваюцца зноў на вочы. Але ўставаць трэба. У хаце я ды маці. Адна яна ніяк, ніяк не ўправіцца. Перамагаючы салодкую дрымоту, я выскокваю з-пад клятчастай посцілкі на халаднаватую падлогу. Пацягваючыся хвілін колькі, праціраю вочы, потым умываюся, сядаю за стол. Тут мяне ўжо чакае цёплы сырадой у меднай конаўцы, луста пахкага, спечанага на дубовых лістах хлеба, тры-чатыры беласнежныя драбкі цукру. Я, амаль не адчуваючы смаку, ем і выбягаю на панадворак.

Сонца толькі-толькі пачынае запальваць агні ў шыбах суседскай хаты. Прыпалая расою зямля абдае золкай прахалодай ногі, ліпне між пальцаў, да ступні. На страсе хлява шчабеча ластаўка. Кудахтаюць і квохчуць на агародзе куры. Брухаты рабы парсючок, скруціўшы абаранкам хвост, і белая свінка згрызваюць паўз платы шызую ад расы мураву.

Я адчыняю весніцы і з крыкам выганяю на вуліцу свінней. І тут жа падаюся назад.

Проста на мяне, збіваючы да крыві аб каменне і

груды босыя ногі, бяжыць цыбаты Гараська. Гараська Бусел. Крыссе старой, шмат дзе падранай і прапаленай ватоўкі, расхлістаны. Валасатая, худая грудзіна нічым не прыкрыта. Адна калашына штаноў, забруджаных так, што не пазнаць ні колеру, ні самога матэрыялу, закасана па калена. Бяльматыя вочы, з якіх так і б'е неўтаймаваны жах, палахліва скіроўваюцца назад, на сонца. Яно чырвоным іскрыстым шарам выкотваецца з-за засмужанай сінявы лесу. Гараськавы рукі хапаюцца за астрыжаную галаву. Плечы яго прыгінаюцца ніжэй, а вусны ў адчаі шэпчуць:

— Сонца... Сонца... Сонца...

Я добра ведаю, куды імчыць Гараська. На полі, за вёскаю, на стыку трох дарог трасецца на ветры абсмаленая з камля груша-дзічка. Адна яе галіна прыпадае ледзь не да самай зямлі. Непадалёку ад грушы, на пагорку, сівеюць два вялізныя камяні. Гэта рэшткі старога ветрака, што спалілі ў вайну немцы. Камяні папсавала агнём: адзін, ніжні, лопнуў пасярэдзіне, у другога адкалоўся ад боку даволі-такі ладны кавалак. Тут і прыпыняецца Гараська. Доўга ходзіць вакол, пільна ўглядаецца сабе пад ногі, нібы нешта шукае. А вусны яго ўвесь час варушацца, нешта шэпчуць.

Аднойчы я падкраўся пшанічным клінам да грушы і падслухаў Гараську. Ён паўтараў:

— Няма сонца... Няма сонца...

Пад позняе снеданне мы гонім назад у вёску свіней. Звоняць да болю ў вушах конікі. Весела ляскочуць па полі, адвозячы на працу калгаснікаў, запрэжаныя ў парκі коней калёсы. У гэты час вяртаецца з-пад дзічкі і Гараська. У руках у яго заўсёды што-небудзь жывое: авадзень, муха ці божая кароўка. Ён спявае:

А чаму ж ты, мушка, не ляціш?
А чаму ж ты, мушка, не бяжыш?
А таму я, сватка, не лячу,
А таму я, сватка, не бягу,
Што без крылляў я-а-а... Хі-хі...

Ён смяецца спачатку ціха, хіхікае, пасля рагоча. Хоць мы, свінапасы, не першы раз чуем яго нялюдскі смех, але нам робіцца страшна. Гараська ніколі нікога не зачапіў і пальцам, але мы ўсё роўна баімся

яго. Без жалю сцёбаем дубцамі свінней па тлустых азадках і бяжым, уздымаючы шэрыя воблакі пылу, бяжым у вёску.

Старэйшыя людзі расказваюць: да вайны Гараська быў зусім не такі. Наадварот, яго розум і дапытлівасць здзіўлялі нават настаўнікаў. Пяты і шосты класы хлопец закончыў у адзін год на «выдатна». Ён маляваў, і адна яго карціна пабывала на абласной выстаўцы і атрымала ні то другую, ні то трэцюю прэмію.

А сталася непапраўнае з Гараськам у той дзень, калі фашысты палілі нашу вёску. Усю моладзь яны загналі ў стайню. Страчылі з кулямётаў і аўтаматаў у расчыненыя вокны і дзверы, пакуль не змоўклі крыкі. Пасля аблілі сухія вуглы і чаратовую страху бензінам і падпалілі...

Гараську Буслу, аднаму з усёй вясковай моладзі, усё ж неяк удалося ўцалець ад кулі і выскачыць з ахопленай агнём будыніны. Узмежкам, паўз высокае жыта, ён дабег аж у канец вёскі. Там якраз дагараў млын. Распаленыя камяні падаліся яму, відаць, сонцам, якое апусцілася і спаліла ўсё навокал.

Там выпадкова натрапілі на Гараську назаўтра партызаны. Кажуць, што ён адчайна адбіваўся нагамі, кусаў усіх, хто да яго падступаў, за рукі і нема крычаў:

— Сонца! Не хачу сонца!..

*1959 г.*

## МОЙ ЛЕС

Я не магу пражыць і дня, каб не ўспомніць лес. Ён спрадвеку стаіць, нібы нязменны і зоркі страж, вакол вёскі, дзе я нарадзіўся і вырас, і яго шум, цягучы, заклапочаны шум старога бору, кожны раз наводзіць мяне на развагу.

З той жа памятнай ліпеньскай ночы, калі нашу вёску палілі гітлераўцы, а людзей хапалі ў Нямеччыну, лес для мяне стаў усім — домам, школай, месцам дзі-

цячых забаў і гульняў. Ён карміў, абуваў, адзяваў і абаграваў мяне, тады яшчэ сямігадовага хлапчука, калі па цэлым месяцы з-за блакады ніхто з партызанаў не мог пранікнуць у вёскі... Ён хаваў мяне ў сваёй густой зяляніне, калі ў некалькіх кроках з расхрыстанымі грудзінамі праходзілі фашысты, трымаючы ў закасаных па локаць руках карабіны з бліскучымі цесакамі... Ён мне першы на сваёй лясной мове сказаў, як трэба мецъ на любы час надвор'я сваю метку, каб не блудзіць, не хадзіць некалькі разоў па адной і той жа сцяжыне і не заўважаць гэтага. Лес... Ён сніцца мне па начах, то разгневаны, сярдзіты, то ціхі, лагодны, быццам родная маці. Я чую, як стогнуць і гудуць векавыя дубы і хвоі, бачу, як гайдаюцца іх пышныя вершаліны, адчуваю нават у зімовую сцюжу, як пахне багун, і смала-жывіца ў бары, і прэлае лісце на чарналессі... У лесе — грыбы, у лесе — ягады, арэхі, яблыкі, грушы, у лесе — якая хочаш дзічына... Лес — гэта для мяне ўсё...

І сёння, ужо на другі дзень прыезду ў родную вёску, я, не наведаўшы сваіх родзічаў і суседзяў, не нагаманіўшыся як мае быць з бацькамі, ірвуся ў лес. Бацька доўга і цярпліва адгаворвае мяне:

— Ну чаго цябе цягне так у той чортаў лес?.. Пасядзі дома з намі, раскажы лепей што-небудзь... Ты ж ужо колькі год, як не быў дома!

Я няўмольны. Бацька, хоць і без асаблівай ахвоты, таксама збіраецца са мною.

— Што ты зробіш? Хадзем, бо цябе пусці аднаго, то да вечара хадзіць будзеш. Ды мо і грыба якога падымем...

Бацька чапляе на плячо кашэль — вялікі, сплецены з сасновых дранак кош. Я бяру лазовую карзіну, і хвілін праз колькі мы ўжо ідзём па бітай, калёснай дарозе. Ідзём мы паволі. У бацькі баляць ногі. Хвароба гэтая цягнецца з вайны. Тады ён, кантужаны, з перабітай асколкам нагой, у глыбокую восень праляжаў аж двое сутак у балотнай твані недзе пад Пінскам... Ніякае лячэнне не памагае. Ён ужо зміпыўся з болем, ды так і тупае памаленьку то каля дому, то ў калгасе. Бацька глядзіць, як лёгка ступаю я, і нешта думае. Каля заворанага ржышча, за якім цёмнай сцяною стаіць лес, кажа:

— Каб, сынок, толькі вайны не было... А так — усё добра... І ў калгасе справы патроху наладжваюцца, і так... Як там, у горадзе, што чуваць?..

Я расказваю, што ведаю... Але мне не хочацца думаць пра вайну, не хочацца развярэджваць таго, што навечна пакінулі ў глыбіні душы два гады жыцця ў партызанскім лагеры.

— Чарты іх матку ведаюць, што ім ад нас трэба. Чаго яны дамагаюцца?.. Гэта ж чуў я надоечы, што іх самалёты з атамнымі бомбамі лётаюць над гарадамі і вёскамі... Пакуль, праўда, над сваімі...

Я нічога не адказваю, бо даўно ўжо ўсёй сваёй істотай у лесе. Кожнае дрэва, кожная сцяжынка мне штосьці напамінаюць. Вось стары, дуплісты дуб, пахілены на дарогу. Некалі, ідучы з ягад, я разварушыў палкаю ў дупле шэршняў і яны мяне так зджгалі, што я ледзьве даплёўся дахаты.

Я абходжу дуб і спыняюся супроць дупла.

— Тата, а тут шэршні некалі былі.

— Выпаліў нехта, хай яму бог здароўе дае. Гэта ж да таго былі дайшлі, што хоць ты ў лес не едзь. Як толькі затарахцяць колы, так і кідаюцца ўсім гуртам.

Яшчэ крокаў праз колькі я застываю на месцы. Між ствалоў свеціцца прагаліна.

— Што гэта там? Дзялянка?.. На лепшым маім грыбовішчы...— здзіўляюся я і не хачу верыць сваім вачам.

— Э-э-э,— неяк крывіцца бацька.— Шмат чаго, сынок, няма ўжо ў лесе. Дзялянка на дзялянцы. Увесь лес спляжылі. Вайна нарабіла дзялоў... Будуемся, будуемся, і ўсё мала...

Мы ідзём па вузкай, як праехаць на калёсах, зарослай скрозь густою, збуялаю травою лясной дарозе. Блізка восень. Вунь і першы зжаўцелы лісток ужо шамаціць, трапечацца на галінцы бярозы. Я бачу, як падняўся за гэты час падлесак, як парадзеў месцамі стары бор. Пні, пні, пні...

Дзе-нідзе кідаюцца ў вочы пакалечаныя асколкамі камлі. Раны пазаплывалі смалою і гояцца...

Каля квартальнага слупа на прасецы, ў густым дубняку, перамешаным з раскідзістымі кустамі арэшніку, мы разыходзімся. Бацька кажа, што грыбы сёлета шыюцца чагосьці бліжэй да моху. Там іх і шу-

каць трэба. А якраз адсюль па нешырокай лагчыне ў глыб лесу цягнецца імшарына. Бацька абгінае яе адным краем, я — другім. І зноў дзіўлюся — куды ні паткніся — гушчар. Адкуль ён, калі паспеў так вырасці, пераплясціся маладняк? Я адхінаю рукамі голле, яно іншы раз выслізгвае з рук і моцна сячэ мяне па твары, па шыі: я спрабую прабрацца бліжэй да імшарыны, але гэта не так лёгка, і я больш не лезу ў гушчар. Іду зводдаль імшарыны і пільна прыглядаюся да ўсялякай купінкі, да кожнага натапыранага ліста. З хвіліны на хвіліну чакаю, што вось-вось пакажацца чорная ці паджарая шапка баравіка. Я ведаю, якія тут растуць хвацкія грыбы. Некалі адсюль сам насіў іх цэлымі кашалямі. Але цяпер нешта не знаходжу: трапляюцца тоўстыя белыя, ужо крыху падсохлыя грыбныя карэнні, з атласным верхам махавічкі, ружовыя танканогія сыраежкі і распоўзлыя старыя абабкі — і хоць бы адзін баравічок. Раптам... Ад нечаканасці я аж рот разявіў — перада мною тырчыць вялізная, як рэшата, чорная бліскучая шапка баравіка-ягадніка.

Схаваўшыся за невялічкі кусцік лазы, ён зухавата сядзіць і нібы любуецца наваколлем. Гэтакі здаравенны грыб! Я нагінаюся, каб асцярожна падняць яго і... са злосцю б'ю наском чаравіка пад самую шапку: грыб ад старасці ўжо счарвівеў, спадыспаду яго спаласаваў жук...

Праз нейкі час на перашыйку сыходзімся з бацькам. Заглядаю ў яго кашэль. Ад зайздрасці ў мяне аж гарэць вочы: амаль усё днішча ўкладзена бялюткімі, як сыр, адзін у адзін, маладымі баравічкамі. У маёй жа карзіне качаецца з вугла ў вугал толькі адзін, ды і той нейкі нягеглы: яго я выкалупаў амаль з зямлі, з-пад тоўстай дубовай галіны, аднабокага, з доўгім крывым коранем... Бацька глядзіць на мяне, і невялікі рыжы матылёк вусоў у яго пад носам трасецца ад смеху.

— Яшчэ гадоў пяць пажывеш у горадзе і не то баравіка, а і чарвівага казляка не знойдзеш,— кпіць ён з мяне. Пасля павучае: — Лес — не кніжка, сеў ды чытай... Тут усё бачыць, разгадваць трэба... Ты залазь глыбеў у гушчар. Шукай старыя свае грыбовішчы. Баравік хітры, ліха яго матары. Часам так схаваецца,

чарцяка, што ўсё лісце пераграбеш — няма. А зірк убок — сядзіць ды смяецца з цябе, небаракі...

Мы зноў разыходзімся. Гэты раз я знарок лезу ў такі гушчар, што ажно свету белага не відаць. Адны тонкія камлюкі асінніку, бярэзніку ды гнілое, збуцьвелае ламачча. Сям-там пападаюцца грабы, вязы.

Праціскаюся доўга між маладняку і раптам бачу: проста перада мной — косці... Іх многа — аж цэлыя два чалавечыя шкілеты. Ад часу і вільгаці яны пачарнелі, а дзе-нідзе іх пакрыла ўжо зеленаватая плесня, мох. Шкілеты ляжаць, нібы абняўшыся, рэбры перапляліся. Побач страшнымі ямамі глядзяць чарапы. У аднаго шкілета не стае нагі... Косці абраслі сакаўною травой, вакол іх, метраў у шэсць, выгнала гнуткі маладняк.

Мне робіцца жудасна, не па сабе. Я, жывы чалавек, і гэтыя два шкілеты...

— Тата, сюды ідзі! — не вытрымліваю, крычу я.

— Што, мо на неруш натрапіў? — чую недалёка ад сябе знаёмы хрыплаваты голас. Хутка паказваецца і сам бацька. Ён, трымаючы перад сабою кашэль, каб не чаплялася почапка за галлё, садзіць проста па гушчары на мяне.

— Ну?!

Зірнуўшы ў той бок, куды ўсё яшчэ глядзеў я, ён здрыгануўся. Вейкі яго заміргалі, быццам у вочы трапіла парушынка. Але гэта адну, толькі адну хвіліну. Потым раптам твар яго робіцца суровы.

Мусіць, успомніўся яму старэйшы сын, мой брат, Коля, што без вестак прапаў недзе ў Румыніі... А можа думкі перанеслі яго на франтавыя дарогі да тых таварышаў, з якімі некалі дзяліў пораўну лусту чэрствага салдацкага хлеба і апошнюю шчопаць тытуню і якіх даўно ўжо няма жывых...

— Бач, розная смерць бывае,— кажа бацька, калі мы адышліся ад шкілетаў.— Вось яна, сынок, вайна... Дзе яна толькі не параскідала чалавечыя косці...

— Што мы зробім з імі? — счакаўшы трохі, пытаюся я.

— А ім цяпер усё роўна.. Вось каб зрабіць нешта такое, каб вайны не было, каб больш ніколі і нідзе не паміралі гэтак людзі... Хадзем... А то мяне нейкі страх ацінае...

І мы зноў памалу ідзём па гушчары. Але грыбы ўжо мне — не грыбы і лес — не лес. Мае думкі заняты іншым. «Хто яны, гэтыя людзі, што гэтулькі год ляжалі нават не пахаваныя? Нашы гэта?.. А мо немцы, ворагі?..»

Гайдаюцца, гамоняць стромкія вершаліны хвой. Зацята, цягуча стогне стары бор. І пад гэты несціханы, нудны гуд у маёй галаве ўюцца, рояцца думкі. Думкі пра недалёкае, трывожнае мінулае...

З лесу выходзім, калі сонца ўжо схілілася на захад. Бацька дужа натрудзіў ногі, і, хаця яго поўны кашэль на маіх плячах, ён ледзь паспявае за мною. І бацька, і я маўчым, хоць, адчуваю, у кожнага з нас сабралася вельмі шмат чаго, каб перагаварыць.

— Трэба будзе пайсці заўтра і закапаць тыя косці...— ужо амаль каля самай хаты кажа бацька.— Нарадзіла на свет зямля, хай і забірае... Можа, сэрцы былі і не людскія, але косці — такія ж, як і ва ўсіх. А можа...— ён не дагаворвае, але я і так разумею, што ён хоча сказаць.

*1958 г.*

## НА СВАЁЙ МАГІЛЕ

І ў гэты заліты сонцам ціхі жнівеньскі дзень жніво ішло, здавалася, сваім звычайным парадкам. Раз-пораз узмахвалі кабеты жменямі зрэзанага жыта, са строкатам аб'язджалі круг за кругам запрэжаныя ў бячцвёркі коней жняяркі, з крыкам і звонкім смехам бегалі па колкай пожні дзеці, якіх маткі не захацелі адных пакідаць дома, забралі з сабой.

Але той, хто не ўпершыню бачыў жанчын на гэтым полі, без асаблівай цяжкасці мог заўважыць у іх паводзінах нейкае ўзрушэнне. Яно было ва ўсім: і ў імклівым узмаху сярпа, і ў тым імпэту, з якім круцілася кожнае перавясла і вязаўся тугі сноп.

Можа, гэтую ўзрушанасць выклікаў незнаёмы чалавек, які ад самага ранку ўсё хадзіў і хадзіў непадалёку на ўскраўку густога маладога хвойніку. Ён часам

спыняўся і падоўгу разглядаў то адну, то другую хваінку, якія быццам выбеглі з цеснаты лесу ды так і засталіся стаяць на волі, зачараваныя прыгажосцю краявіду. Чалавек, няйнакш, чагосьці шукаў... Раптам ён устрапянуўся. Сцягнуў рукою з галавы саламяны капялюш, падышоў да купчастай хваінкі, у якой даўно нехта абламаў верх і лапістыя галіны аж слаліся па зямлі. Чалавек спыніўся, адмераў некалькі крокаў убок і, апусціўшы нізка галаву, доўга стаяў на месцы...

Тым часам добра ўгрэла сонца. Засакаталі, зазванілі конікі. Аднекуль узяліся сляпні і авадні. З пагрозлівым зыкам яны атакоўвалі і людзей і жывёлу. Кабеты пазатыкалі сярпы ў гузыры снапоў і адна за адной пачалі збірацца да калёс, на якіх стаяла бочка з вадою. Мужчыны павыпрагалі коней, далі ім аброку і таксама пайшлі да гурту. Хто дзе і хто як прысаджваліся палуднаваць. Падазрона паглядваючы ў бок незнаёмага чалавека ў белым палатняным касцюме, людзі насцярожана шапталіся...

Але вось чалавек падняў галаву вышэй і мерным крокам падышоў да гурту калгаснікаў. Ён быў яшчэ не стары, але сівы да апошняга воласа і, як усім здалося на першы погляд, нейкі пануры.

Ён прывітаўся глухаватым голасам і папрасіў спачатку напіцца. Усе моўчкі пазіралі на яго. А ён выцер вусны і, агледзеўшы насцярожаныя твары людзей, сказаў:

— Я вось бачу, што вы пазіраеце на мяне і думаеце: што тут трэба гэтаму чалавеку. Сапраўды, мне нічога тут не трэба, толькі пацягнула на тое месца, дзе некалі давялося быць. Калі ў вас ёсць ахвота слухаць, дык я раскажу. Бо не кожнаму даводзіцца пабыць на сваёй магіле. А мне давялося...

Ніхто не прамовіў ні слова: усе слухалі, утаропіўшыся ў чалавека. Ён жа прадаўжаў:

— Нас было сотні тры палонных. Галодных, абарваных, амаль разутых і раздзетых, нас гналі ў шчыльным кальцы канвойныя фашысты дзень у дзень, з ранку да позняга вечара, па разбітых вайною дарогах. На ноч нас зачынялі ў які-небудзь калгасны хлеў ці канюшню, падпіралі дзверы, і хоць ты крычы, паміраи — да цябе нікому няма справы. Нас не кармілі. Добра, што, ідучы міма бульбяных палёў, кожны з нас ухіт-

раўся трэскаю ці пальцамі выкалупаць з умёрзлай глебы якую бульбіну. У хляве хто смактаў, а хто грыз яе... Мы стамляліся так, што рукі і ногі не слухалі больш галавы, ды і ў галаве, апрача бясконцага шуму і гулу, не было ні адной думкі...

Здаецца, на шостую ноч нас загналі ў нейкае вялізнае старое гумно. У ім было коп дзесяць канапель, абы-як параскіданых па ўсяму цэментнаму долу. Як хто прыйшоў,— паваліўся на каноплі і тут жа заснуў мёртвым сном. Трохі дужэйшыя, якіх змора брала не так, яшчэ нейкі час сядзелі і выціралі прэлае зерне...

Я не помню, бо забыццё тады чаргавалася з явай, а ява — з забыццём, хто і калі прадраў у страсе дзірку. Але калі я прачнуўся, то ў вочы мне кінуўся кавалачак цёмна-сіняга неба і тры вялікія, чырванаватыя зоркі. Зоркі час ад часу зацямняліся, пасля зноў пачыналі міргаць... Я прыўзняўся. І толькі тут зразумеў: нада мною прадрана страха і мае сябры па палону адзін за адным вылазяць з гумна. Я не раздумваў. У момант дабраўся да дзіркі. Прасунуў галаву ў цесны праём і скокнуў у чарнату ночы. Каноплі (а гэта былі яны, няўбраныя, пераблытаныя) акружылі мяне з усіх бакоў, і я пабег, не прыгінаючыся, па вытаптанай маімі папярэднікамі-ўцекачамі сцежцы...

Праз некалькі дзён я прыбіўся да невялікай групы такіх жа, як сам, уцекачоў. Мы цвёрда надумалі дабірацца да сваіх.

Ішлі, выбіваючыся з сіл, уночы і ўдзень па глухіх лясных дарогах, падбадзёрваючы адзін аднаго словам і жартам, ішлі, выпраўляючы ў вёскі, што трапляліся на шляху, па чалавеку, па два па харчы. І мой чарод неўзабаве выпаў ісці. Гэта было на світанні пасля цяжкага і зморнага пераходу. Дабраўшыся да краю лесу, я натрапіў на ўзброеных людзей у цывільным. Я падумаў, што гэта партызаны. І дарэмна... Мяне адразу ж схапілі, не паспеў я нават маргнуць вокам. Закруцілі назад рукі і павялі ў вёску, у нямецкую камендатуру. Як пасля я даведаўся, дні два назад вялікая група нашых палонных на досвітку змяла канвойных і разбеглася. На ногі была паднята ўся толькі што створаная паліцыя. Мяне прынялі, вядома, за аднаго з той групы, і тры дні бесчалавечна катавалі, дапытваючыся, дзе хаваецца ўся група...

На чацвёрты дзень раніцою два нямецкія салдаты вывелі мяне ў поле. Я быў абарваны, знясілены, пабіты на горкі яблык. Усё маё цела ныла ад болю.

Як сёння помню: стаяла позняя восень. Зямля была мёрзлая, і мае стаптаныя чаравікі грукалі па ёй, як па бруку. Па небе плылі халодныя шызыя хмары. Вось тут, ля хвойніку, сказалі спыніцца.

Адзін з канвойных падаў мне ў рукі рыдлёўку і загадаў капаць яму. Крокаў за сем ад мяне — невысокая, купчастая хвойка. На ёй хтосьці адламаў вяршок. «Дарма, але яна не згіне... Будзе расці, набірацца сіл. А я... Вось тут буду ляжаць. Назаўсёды...» Я падумаў так і пачаў не спяшаючыся дзяўбці цвёрды, як костка, грунт... Мне было ўсё роўна — памерці вось зараз ці на гадзіну пазней. Пасля перажытага ў палоне, пасля допытаў смерць здавалася збавеннем.

Немцы, убачыўшы, што стаяць прыйдзецца доўга, дасталі папяросы і закурылі. І тады раптам я падумаў: «Мне засталося жыць акурат гэтулькі, колькі трэба, каб выкурыць папяросу. Адну, толькі адну, папяросу...» Я адчуў, як трывожна затахкала ў грудзях сэрца... Пачаў намагаць сваю памяць: «Як доўга я курыў, бывала, адну папяросу?..» «Дурань,— хтосьці шапнуў мне.— Кінь дзяўбці гэтую зямлю. Паглядзі навокал. Палюбуйся, як прыгожа і як добра жыць на гэтым свеце». Але я не хацеў нікога слухаць. Дзёўб і дзёўб зямлю, адбіваючы кожным ударам тупога ляза невялічкі шэры скрылік. Я хацеў, каб апошняя мая пасцель была як мага прасторная, каб целу майму, пабітаму і змучанаму, ляжалася вольна і мякка.

Мой позірк упаў на павуцінку, якая павісла на сухім бадыллі лебяды. Яна матлялася, імкнулася кудысьці паляцець. І мне стала чамусьці сорамна: «Павуцінка і тая не мірыцца са сваёй доляй, хоча паляцець. А я... Капаю сабе магілу...»

Азірнуўся. Немцы спакойна курылі. Таўсцейшы расказваў сябру штосьці вясёлае, і абодва час ад часу рагаталі. Карабіны былі ў іх ля ног. Фашыстам быццам не было ніякай справы да мяне. «Уцякай...— зноў хтосьці шапнуў мне.— Уцякай...»

Я ў момант сарыентаваўся. «Пакуль немцы спахопяцца — я буду вунь каля той хваінкі. Пакуль прыцэляцца — я адбягу яшчэ крокаў на шэсць-сем. Там трэ-

ба будзе вільнуць і ўпасці... Потым дабегчы да той вунь вастраверхай хвойкі, прыгнуцца і — у хвойнік». Ледзь толькі я так падумаў, ногі самі панеслі мяне. Я забыўся ў тую ж хвіліну на свой план і, нібы вецер, кінуўся проста ў хвойнік. Грымнуў стрэл. Куля ціўкнула над самым вухам... Але я не спыняўся. Калючыя лапкі сцёбалі мяне па твары, сухія галінкі драпалі за адзенне. Некалькі разоў я спатыкаўся і падаў, але падхопліваўся і зноў бег...

Апамятаўся я толькі ў куп'істым імху, парослым шырокімі кустамі багуну і нягеглым смучаём. Скрозь плёўся журавіннік. Спелыя, сакавітыя ягады рассыпаліся па ўсяму мху чырвонымі каралямі. Немцы больш не стралялі. Вакол стаяла такая цішыня, што чуваць было, як ападалі апошнія запозненыя лісткі дрэў. Левая рука мая была ў крыві. Я падраў споднюю кашулю, абматаў цесна рану. Пасляназграбаў вялізную кучу моху і сухога, шаматлівага лісця і закапаўся ў яе з ног да галавы.

Я не буду расказваць, як пасля ноччу я дабраўся да нейкай вёскі пры лесе, залез у пограб канцавой хаты, украў гладыш малака і тры кілбасы, як пасля дабіраўся да сваіх... Толькі скажу, што магіла, якую я капаў у той пахмурны, асенні дзень, знаходзіцца вунь там, каля хваінкі. Я прыехаў сюды, каб зноў глянуць на гэтае месца. Лес, што тут перад вамі — мой збаўца...

Усе глядзелі на чалавека, на яго жылістую шыю і нерухома абвіслую безжыццёвую левую руку і маўчалі. Ды і што было казаць? Колькі людзей вярнулася вось так з таго свету?.. Колькі засталося такіх вось магіл?.. Сто, дзвесце, тысяча... А астатнія ж...

*1958 г.*

## ДАРОГА ПРАЗ ЛЕС

Ад школы, дзе вучыць Леанід Акімавіч, да Замхоўя крыху больш сямі кіламетраў. Гэта калі праз лес, ці, як кажуць, брадамі. Дубы і клёны, сярод якіх дзе-нідзе пракідаюцца танклявыя беластволыя бярозкі

і кусты арэшніку, упіраюцца скрозь у самае неба. За парэпанымі, у два і ў тры абхваты камлямі часам нельга разгледзець малаўезджаную дарогу праз дзесяць — дваццаць крокаў.

То тут, то там на дарозе плеснеюць, гніюць доўгія дрыгвяністыя брады з жабамі ў стаячай, цвілой вадзе. За імі — зноў лес. Дрэвы адно ў адно: тоўстыя, старыя, з барадамі сівога моху на ствалах. Яны заўсёды захоўваюць адвечныя лясныя змрокі.

Лес гэты ніколі не ведаў ні пілы, ні сякеры. Ён рос, старэў, трухлеў на корані і, калі надыходзіў яго час, падаў... На яго месцы неўпрыкмет падымаўся новы. Так ішлося спрадвеку.

За адным самым вялікім на гэтай дарозе бродам — Журавым — лес нібы расступаецца, даючы месца паляне. На гэтай паляне яшчэ да вайны стаяла леснічоўка. Цяпер тут засталося толькі печышча. Усё ў быльнягу і ажынніку, яно выпірае аж на самую дарогу.

Людзі па гэтай дарозе ходзяць рэдка. Сустракаючы тут Леаніда Акімавіча, сёй-той з аднавяскоўцаў пытаў:

— Чаго гэта, Акімавіч, брадамі ходзіце? Ёсцека ж дарога праз сенажаць... Куды прамей...

Настаўнік усміхаўся, хутчэй сабе, чым субяседніку, і задуменна казаў:

— Лес люблю... Ды і прывык хадзіць па гэтай дарозе...

Неяк хацелі перавесці Леаніда Акімавіча ў Замхоўскую школу, але ён, на здзіўленне ўсім, адмовіўся.

— Мне добра... Сем кіламетраў... Адпачыць пасля ўрокаў і то як след не паспееш...

Прывыклі людзі да такіх вандровак настаўніка, думаючы парою: хлопец усю вайну тут прапартызаніў. Ці мала што можа напомніць яму глухая лясная дарога?

Ідзе, крочыць Леанід Акімавіч, а ў галаве ў яго мінулае — дарагое, незабыўнае. І бесклапотнае, вясёлае маленства, прабасаножанае тут, на ўлонні прыроды, і школа, сябры, настаўнікі... Яго першае і, відаць, апошняе каханне таксама некалі блукала тут... Усплываюць сінія, празрыстыя майскія вечары з духмяным настоем яблыневай квецені ў паветры... Ён хадзіў тады

адзін каля леснічоўкі. Усё чакаў — можа выйдзе яна... Ніна. «Я скажу ёй пра ўсё...» — думаў ён. Але Ніна не выходзіла. Сядзела каля прыадчыненага, нічым не завешанага акна і чытала.

«Ніна... Ты нічога не ведала. Я не асмеліўся падысці да цябе ні на адным школьным вечары, не рашыўся нават пра ўсё напісаць. Не ведала ты і пра тое, хто выкраў у цябе з партфеля твой здымак...» Ці не ён, той здымак, і загубіў усё — мару, каханне... А ён, Леанід, так бярог яго. І ў цяжкіх, крывавых баях пры адступленні, і ў школе той, куды трапіў неўзабаве пасля ранення,— усюды здымак быў з ім, як напамінак аб далёкім шчасці.

І вось стала вядома, што яго, Леаніда, самалётам перапраўляць праз лінію фронту да партызан. Якраз у родныя мясціны.

З самалёта выкінуўся ноччу. Знаёмы лес сустрэў ціхім, прытоеным шэптам.

Схаваўшы пад вываранець рацыю, да самага ўсходу прабіраўся да партызанскай зоны з думкамі пра заданне, пра маці, вёску. Пра яе, Ніну...

Раніца ў той дзень выдалася нейкая насцярожаная. Манатонна ціўкалі пеначкі, спалохана лопалі крыллем, пырскаючы халоднай расой, дзікія качкі. Дыміўся, хаваючыся за кусты, туман.

— Хендэ хох!..

Картавы голас з-пад дуба выбіў Леаніда з задумення і прымусіў нырнуць у гушчар, шукаць паратунку.

Аўтаматная чарга збіла на плячо некалькі галінак...

Леанід ведаў свой лес, брады, раку Віць... «Толькі б дабегчы да ракі...» — мільгала ў галаве. Ногі правальваліся ў месіва твані, спаўзалі з купін. Гразь плюхала ў ботах. Ён чуў, як трашчала голле, каўкала дрыгвяністая багна.

«Чаму не страляюць?»

Яшчэ крокаў праз колькі ён здагадаўся: «Хочуць узяць жывога».

«Трэба скінуць гімнасцёрку,— цюкнула яму, калі ён дабег да ракі,— пакласці яе перад ботамі. Хай тады акружаюць «парашутыста»... А тым часам — у раку. На тым беразе — партызанская зона...»

Гадзіны праз дзве Леанід быў у партызанскім лагеры. І тут успомніў, што разам з гімнасцёркаю трапіў у рукі ворагаў здымак. Нінін здымак...

Праз тыдзень, ліпеньскай ноччу, Леанід наведаў маці. Ад радасці тая не ведала, што рабіць. Стаўляла на стол то малако, то халодную бульбу, якая засталася ад вячэры, то прыносіла сала. І ўсё расказвала, расказвала свае вясковыя і партызанскія навіны.

Леанід доўга не рашаўся пытаць пра Ніну. Толькі перад самым світаннем, калі ўжо адыходзіў, не вытрымаў:

— Мама, а дзе цяпер Ніна? Ніна Лучанка?

І пачуў страшнае, у што доўга не хацелася верыць...

— Няма яе ўжо, сынок... Немцы павесілі... Учора... Кажуць, трымала сувязь з Масквой. У кішэні парашутыста знайшлі яе здымак. Відаць, да яе пасылаўся чалавек... На допыце, кажуць, маўчала, нікога не выдала...

...Крочыць Леанід Акімавіч лясною дарогай...

Мінае лета, пачынае журботна курлыкаць жураўліная восень, пасля — мяцеліцы, снягі, а Леанід Акімавіч ходзіць і ходзіць той дарогай, па якой вялі на смерць Ніну... Яго Ніну...

*1959 г.*

# АГНІ ВЯСНОВАГА НАДВЯЧОРКА

Перад тым як засяваць гароды, у нашай вёсцы заўсёды паляць трэскі, шумавінне. Выграбаюць з дрывотняў, падворкаў, паветак — адусюль, куды толькі ні пазакідае іх гнілая восень і лютая мецялюжная зіма. Выграбаюць доўга, з прадвесня, з таго самага дня, калі з-пад белага абруса снегу высунецца пагрэцца чорная спіна пагорка і зух-певень з усё яшчэ адмарожаным грэбенем, упершыню напіўшыся ўволю талай вады пад гаманлівым капяжом, пракрычыць сваё звычнае, радаснае ку-ка-рэ-ку. Вось тады і пачынаюць з'яўляцца на вуліцы невялікія кучкі, спачатку то тут, то там, а пасля — насупроць кожнай хаты, кожнага двара.

Ужо адзвіняць, адспяваюць свае песні ручаі, высахнуць скрозь лужы-азёры, шыракалістая лотаць засцеле жоўтыя прасціралы на лугі, вернецца з далёкага выраю галасістае птаства, а трэсак, шумавіння ўсё яшчэ не паляць. Чакаюць...

І неяк раптоўна, надвячоркам, абавязкова ў суботу, калі навокал ціха-ціха, не дзьме, нават не дыша ніадкуль калашмай-вецер, толькі ледзь чутна булькоча вада на млыне ды кумкаюць, імкнуцца перакрычаць адна адну жабы — вось тады па ўсёй вёсцы і ўспыхваюць агні. Шызы дым атуляе будынкі, хутае ў сівую хустку сады, доўгімі пасмамі сцелецца па полі і там, недзе за вёскаю, зліваецца з густым малочна-белым туманам, што, не чакаючы цёплае жніўнае пары, ужо сунецца, паўзе адусюль з балот. Мінае мо гадзіна, мо паўгадзіны, і куды ні паглядзіш — усюды клубістая мутнаватая павалока, у якой, бы воўчыя вочы, блішчаць чырванаватыя агеньчыкі. Да водару маладой лістоты прымешваецца гаркаваты пах дыму...

У такія вечары не ўседзіш у хаце. Выйдзеш, прымосцішся дзе-небудзь на лавачцы, глядзіш на агонь... І ўявіцца, здасца табе, што ты не ў вёсцы, дзе нарадзіўся і вырас, а ў нейкім казачным цыганскім табары, які здарожыўся і спыніўся нанач у бяскрайнім, чыстым полі.

Сёння гэткая ўява не праходзіць, не пакідае мяне можа яшчэ і таму, што поплеч са мною сядзіць не стары, але барадаты дзядзька Ігнась. Ён смокча цыбук засмаробнай люлькі, пыхкае час ад часу дымам і задуменна глядзіць на языкі полымя, што, падскакваючы, выцягваючыся, ахопліваюць макраватыя аскабалкі, трэскі, збуцвелае леташняе бадылле. Я здагадваюся: дзядзьку займае не агонь.

Учора Ігнася пакінуў Юрка, прыёмны сын. Пакінуў не па-людску, не сказаўшы нікому слова. Выбраўся зранку ў школу і не вярнуўся дадому. Дзядзька збіўся з ног, шукаючы хлопца: на калгасным жарэбчыку злётаў верхі на паром, пабываў на чыгуначнай станцыі, перапытаў усіх стрэчных...

Дзядзька Ігнась любіў Юрку. І гэта ведалі ў вёсцы, як ведалі і тое, што ў вайну ў дзядзькі загінула ўся сям'я — жонка і трое дзяцей. Новай сям'і дзядзька не прыдбаў, хоць і жаніўся з адзінокай і яшчэ дзябёлай

удавою. Ды і Юрку ён усынавіў незвычайна: партызаны за здраду забілі Юркавага бацьку і маці. З малым чорнагаловым жэўжыкам, які толькі пачынаў бшчабятаць і бесклапотна ўсміхаўся на ўвесь свой безубы рот, суровыя мсціўцы не ведалі, што рабіць. Дзядзька Ігнась узяў дзіця сабе. Пад крысом кажуха, у люты холад, занёс шчабетуна ў лагер. Там ён і выкідаўся, стаў цыбатым хлапчуком. У вёску, калі вярнуліся нашы, ён бег ужо з лесу сам, несучы за плячыма ў торбачцы разам з сухарамі і падарункі партызан — выразаныя з кары лодачкі, караблікі, скрыначкі...

Ішлі гады. Рос, плячэў Юрка. Забывалася ўжо нават, што ён няродны Ігнасеў сын. І раптам...

Я крадком разглядаю дзядзьку Ігнася. Кірзавыя, з маленькімі капеечнымі заплаткамі боты, чорныя картовыя штаны. Твар маршчыністы, валасаты; вочы засяроджаныя.

Пра што ён так доўга, зацята думае?

Пытаць у дзядзькі я не асмельваюся: ведаю яго характар. Як набаліць што вельмі на душы — не стрывае, раскажа ўсё сам. І я маўчу, цярпліва чакаю.

Але сёння, па ўсім відаць, дзядзька нават не збіраецца ні пра што расказваць, гаварыць. Дакурвае люльку, выцягвае з кішэні штаноў капшук і зноў топча такі моцны самасад, што ад аднаго яго паху мяне разбірае сухі, задушлівы кашаль. І зноў пыхкае, дыміць. І хоць бы які рух на засяроджана-задумлівым твары, хоць бы якая ўхмылка ў куточках жорстка сцятых вуснаў...

«Няўжо ён ведае, чаму ўцёк Юрка?.. Але тады... Тады чаму ён маўчыць?»

І я, не дачакаўшыся, калі загаворыць дзядзька, пытаю:

— Ну, што чуваць пра Юрку?

— Што чуваць? — нібыта перапытвае мяне дзядзька і ўздыхае. Потым бярэ з маіх рук доўгую палку і паволі варушыць вогнішча. Іскры залатымі пырскамі вырываюцца ў цемру. Адна з іх трапляе на бот. Дзядзька глядзіць на іскру, пакуль тая не гасне. І ўжо тады больш спакойна гаворыць:

— Даведаліся ў школе, што Юрка быў на магіле сваіх бацькоў... Я і раней заўважаў, як употайкі бегаў ён туды. Вернецца дадому — вочы чырвоныя, на

шчоках — пісагі ад слёз... Схаваецца дзе-небудзь у куток і да самага вечара нідзе не чуваць, не відаць яго. Можа не так пагібель іх перажывае, як тое, што яны былі не такія, як усе. А можа... Разбярыся ў чужой душы... А ў школе і давайаднагодкі пытаць, чаму гэта ён хадзіў туды, на магілу, давай успамінаць, што зрабіў яго бацька... Да настаўнікаў дайшло...

Дзядзька Ігнась змаўкае і адварочваецца ад агню. Мусіць, не хоча, каб бачыў я, як яму цяжка.

Я таксама не знаходжу слоў, каб хоць крыху супакоіць, абнадзеіць дзядзьку Ігнася.

Марудна плыве час...

Паглыбіўшыся ў свае думкі-развагі, маўчыць дзядзька Ігнась. Маўчу і я. І толькі калі патухае агонь і я падграбаю апошнія галавешкі, каб заліць іх вадою і ісці спаць, Ігнась адрываецца ад сваіх думак, устае.

— Пайду я ўжо... Можа Юрка вярнуўся...

І мяне аж працінае ўсяго.

«Значыць, не траціць дзядзька надзеі, што вернецца хлопец дахаты, будзе, як бывала, ажыўляць смехам пустое дзядзькава жыллё...»

І калі цемра паглынае высокую постаць дзядзькі Ігнася, я яшчэ доўга сяджу ля курных галавешак і думаю пра вайну, пра тыя раны, што пакінула яна ў сэрцах людзей...

*1959 г.*

## ЯБЛЫК

Кожны раз, калі я прыязджаю на Палессе ў госці да дзядзькі Юстына, ён частуе мяне яблыкамі — ядранай сакаўной пуцінкай са свайго прысядзібнага саду. Частуе і прымаўляе, шчасліва ўсміхаючыся на ўсе густыя і на дзіва белыя зубы:

— Каштуй, каштуй, чаго яны варты? Гэта ж з тых тваіх яблынек... Памятаеш?

— Ну? — любуючыся чырванабокімі вуглаватымі пладамі, на якіх яшчэ дзе-нідзе рдзяцца, дрыжаць

буйныя слёзы расы, кажу я, быццам вельмі ўражаны і здзіўлены.— Няўжо з тых?

— А ты думаў... З тых самых. Вось бяры каштуй, ды выйдзем паглядзіш, як разрасліся, раскашаваліся яны...

Я выбіраю самы вялікі і самы спелы яблык і, мацаючы пальцамі, доўга разглядаю яго, усё не асмельваючыся ніяк паднесці да рота. І ўспамінаецца мне...

...Сухая пагодлівая восень. Лянiва і неахвотна плыве, валтузіцца рэдкая пража павуціны. Густы жаўток сонца дасмажваецца над дымным полымем лесу — гарэць пакуль што — і то не вельмі смела — адны асінкі. Усюды прастора і цішыня. Не маўклівасць, а цішыня.

Стомленыя, галодныя, мы ледзь валочым ногі — вяртаемся з баявога задання. Я, камандзір падрыўной групы, і таварышы па зброі. Ісці далёка. Трэба мінуць папялішчы — некалі доўгую, усю ў зяляніне садоў вёску, няскошаныя, парыжэлыя паплавы, пагоркавы абсяг поля, добрых дзесяць кіламетраў лесу...

Шархаціць пад ботамі сыпкі пясок. Ідзём моўчкі, кожны думаючы сваё.

Навокал — сумныя рэшткі колішняга ўтульнага чалавечага жылля: чорныя, напалову заваленыя цэглай зеўры печаў, дрэвы з абсмаленымі камлямі і падсушанымі вянчыкамі крон, вывернутыя абгарэлыя шулы, паламаныя плятні, парканы, платы... І чорныя галавешкі, сівы бруднаваты попел...

Вёска згарэла нядаўна. Яшчэ сям-там відны сляды жыцця. Вось трапіўся вывадак амаль дарослых гусей. Пырхаюць чародкі канаплянікаў. У вушы чамусьці ўлезла і гучыць — ні на хвіліну не змаўкае — даўняя дзіцячая песенька:

> Верабей, верабей,
> Не клюй канапель...

Мясцовасць гэтая нічыя: бываюць тут і немцы, наведваемся і мы, партызаны. Уночы, а іншы раз і ўдзень, у вёску прыпаўзаюць людзі, якім удалося неяк пазбегнуць фашысцкай расправы. Яны капаюць бульбу, абіраюць спелыя памідоры і фасолю, перацягваюць у лес са склепаў пакінуты хатні пажытак...

Прывал робім у канцы вёскі. Надта ж ужо зманлі-

вая тут засень пад купкаю груш і яблынь. І студня, каб вады напіцца, побач. Дый на выпадак чаго — блізка кусты, лес. Хлопцы адзін за адным валяцца на зямлю. А я, напіўшыся халоднай — аж зайшлася ў зубы — вады, крочу да разгалістай яблынькі, якая адбегла ад гурту крыху ўбок. Агонь пакараў яе за гэта — увесь верх высушыў языкамі полымя.

За здратаваным курамі загонам ячменю, ля кучы палак, бачу хлапчука. Ён ляжыць ніцма. Малы зусім, мо год шэсць.

З парваных калашын даматканых портак відаць худыя парэпаныя ногі. Непадалёку — вялікая, мусіць бацькава, шапка-кучомка.

Толькі нагнуўшыся, я здагадваюся, што малы мёртвы... Азіраюся і бачу на яблыні між двух тоўстых сукоў вялікі вуглаваты яблык.

Уяўленне маё дамалёўвае ўсё астатняе. Хлапчук, пэўна, адзін з тых, каму ўдалося вырвацца ад смерці ў той дзень, калі карнікі палілі вёску. Жыў — перабіваўся чым трапіць, пакуль аднойчы не прыблукаў у вёску і не адшукаў несарваны яблык. Назбіраў бярэма палак і, шчаслівы, бесклапотны, бег да яблыні, каб збіць... Мабыць, і збіў бы, каб не праязджалі ў той час якраз па вёсцы фашысты... Колькі трэба дзіцяці, каб больш ніколі не асвятліла ўсмешка яго твар?.. Адна невялічкая куля...

Яблык той тыдняў два насіў я ў кішэні. Усё не ведаў, што з ім рабіць. Калі ж нарэшце разрэзаў — на далонь выпала некалькі шакаладных зярнятак. Іх, ускалупнуўшы поле наском бота, я ўкінуў — проста так, без якой-небудзь мэты — на ўзлеску.

Праз пару год, праходзячы тымі мясцінамі, я ўспомніў няшчаснага хлапчука, яблык і дзень, калі, стомленыя, брылі мы з баявога задання. Зноў чамусьці загучала ў вушах:

Верабей, верабей,
Не клюй канапель,
А клюй проса,
Ды не вылам носа...

Я не ўтрымаўся, каб не зазірнуць на ўзлесак. І — цуд! — восем танклявых дубчыкаў-яблынек цягнуліся ўгору.

...Усяго гэтага дзядзька Юстын не ведае. Ён з сакавітым трэскам кусае вялікі, спелы яблык і, водзячы мяне па садзе, усё ўспамінае-расказвае пра радасны дзень прыходу нашых, калі я паказаў яму, тутэйшаму чалавеку, тыя яблынькі.

— Але, гэта ж ты тады сказаў: «Вось, дзядзька, табе падарунак, памяць пра нас, партызан. Перасадзі ў сад, хай растуць. Можа, прыеду калі — пачастуеш»,— басіць дзядзька Юстын.

Я слухаю яго, а ў вачах зноў і зноў паўстае спаленая вёска, яблык у густой пажоўклай лістоце, незнаёмы малалетак-хлапчук, распластаны фашысцкай куляй на зямлі...

*1959 г.*

## СУСТРЭЧА З ЧАЛАВЕКАМ

Са свірна, вялікай драўлянай будыніны наводшыбе вёскі, куды нанач загналі фашысты палонных чырвонаармейцаў, Васілю ўдалося ўцячы проста цудам. Каб упаў ён адразу ж пры ўваходзе на падлогу, як гэта зрабіла ад знямогі большасць, хто ведае, што сталася б з ім. Мераў бы нагамі і далей размоклую ад частых дажджоў дарогу на захад ці даўно б ужо спачываў дзе-небудзь на абочыне, прышыты да зямлі куляй канвойнага. Трэба ж было яму перасіліць стому, напружыцца і даплясціся аж у кут. І толькі там, ля самай сцяны, паваліцца...

Ачуўся ён няхутка. Штосьці абцугамі сціскала грудзі, аднекуль патыхала зябкім холадам. Абмацаў у пацемках падлогу. Дзірка між масніц! Прыўстаў, прасунуў у дзірку руку. Дошка падымалася. Ад нечаканасці разгубіўся, не ведаў, што рабіць. Хвілін колькі сядзеў нерухома, пакуль не цюкнула ў галаву смелая думка: «Уцячы... Што б там ні было — уцячы, вырвацца з гэтага прапахлага гнілатою свірна». Яшчэ раз абмацаў навокал цемру. Сэрца замерла. Не цэлая дошка, а толькі ўрэзак... Невялікі ўрэзак... Асцярож-

на, каб нікога не разбудзіць, увесь калоцячыся ад няўцямнага, нутранога ўзрушэння, выняў дошку, паклаў на падлогу. Змораныя, здарожаныя чырвонаармейцы спалі.

З цяжкасцю пралез у шчыліну. Паціху, перш адным, пасля другім канцом паклаў урэзак туды ж, дзе той ляжаў і раней. «Калі пачнуць шукаць мяне канвойныя, не так лёгка будзе здагадацца, дзе я...»

Мяккая, халаднаватая зямля здалася падушкай. Цішыня і вільгаць пад падлогай узбадзёрылі яшчэ больш. «Хіба ёсць лепшая схованка?..» Гэтая здагадка на нейкі час узрадавала яго. Ён знайшоў пад падвалінай каля штандары вельмі ўтульнае месца, лёг на спіну...

Узрушанасць пастунова міналася, прыходзіла супакаенне. Слых ужо лавіў залівісты брэх сабакі на вёсцы, мерную хаду вартавога каля дзвярэй, піск мышэй недзе зусім побач. У свірне хтосьці трызніў, паўтараў раз-пораз адно і тое ж: «Браткі, прыкладамі іх... Прыкладамі!..» І Васіль чым больш думаў, тым больш пераконваўся, якая ненадзейная ў яго схованка, як недарэчы ён яе выбраў. Канвойныя заўтра абавязкова пералічаць усіх палонных. Аднаго не далічацца... Пачнуць шукаць... І, канешне, яго знойдуць. І тут жа, не доўга важдаючыся, ля свірна, расстраляюць...

Па целе прабеглі дрыжыкі. Ён не хоча паміраць... Ён жыць хоча... Жыць, жыць, жыць!.. Перавярнуўся, папоўз... Падлога была вельмі нізкая, разы два балюча стукаўся галавою аб падваліны. І ўсё адно не спыняўся, поўз то ў адзін, то ў другі бок, кожны раз натыкаючыся ў цемры на сцяну. «Не вылезу!..» — халадзела ўсё ўсярэдзіне. Прыслухаўся. І дзіва — не пачуў ужо ні брэху сабакі, ні хады вартавога, ні нават трызнення. У вушах стаяў толькі суцэльны бясконцы шум. «Я ў пастцы...»

У роспачы з яшчэ большым імпэтам і гарачнасцю пачаў поўзаць па няроўным, засмечаным, цвілым падмосці. Вочы ліхаманкава свідравалі цемру. «Можа, дзірка, шчыліна дзе?..»

У адным месцы як бы нешта свіцілася, сінела. Борзда, не зважаючы ўжо ні на што, папоўз туды. Гэта была дзірка. Нават не дзірка, а лаз. Яго, гэты лаз, мусіць, выграб сабака, хаваючыся ад дажджу... Па-

спрабаваў прасунуць галаву. «Пралезла б галава, тады і ўвесь працiснуся...» Але гэты раз ісціна, якая спраўджвалася ў дзяцінстве, калі даводзілася ўцякаць праз дзіркі з чужых гародаў і садоў, не пацвердзілася: не пралазілі плечы. «Раскапаць, расшырыць трохі трэба...» Хвіліну-другую заўзята гроб. Спрасаваная сцянoю зямля паддавалася слаба. А тут яшчэ камень. Пазногці непрыемна скрабанулі па ім і, відаць, задраліся. Нясцерпны боль... «Нічога. Яшчэ паднатужуся... і — на волі...» — падбадзёрыў сам сябе і з яшчэ большай упартасцю і настойлівасцю другой рукой узяўся разграбаць лаз...

Мінула яшчэ трохі часу, і Васіль быў на волі. І толькі тут да яго дайшло, што вылазіў, не ведаючы, дзе стаіць вартавы. Ёкнула сэрца...

Але трывога аказалася дарэмнай. Ён быў, як неўзабаве пераканаўся, якраз там, дзе і хацеў быць: за глухою сцяною, у чыстым полі. Варты нідзе ніякай не відаць. «Яна, напэўна, з другога боку, каля дзвярэй». На ўсходзе чырванелася, палала неба. Адтуль даносіўся глухі грукат — там ішлі баі: гарэлі вёскі, ірваліся снарады, паміралі людзі... Але гэта было за некалькі кіламетраў. Тут жа, над вёскай, вісела трывожная, маўклівая цішыня. «Хоць бы што-небудзь... Шум, гам які... Тады б куды лягчэй уцякаць... А мо пачакаць? Чаго, каго?.. Не. Хутчэй, хутчэй адсюль!..»

Устаў, падхапіўся на ногі і, стараючыся як мага цішэй ступаць, пабег. Высокі густы бульбоўнік блытаўся ў нагах, расіў адзенне. У грудзях моцна і часта стукала сэрца. «Што, калі мяне ўжо ўбачыў вартавы?.. Вось-вось грымне стрэл...» Уцяў у плечы галаву, прыгнуўся. «Трэба пятляць, а не проста бегчы...» Вільнуў убок. І тут жа зачапіўся за некім пакінутае ў полі бляшанае вядро. Яно не тое што забрынчэла, а загрымела. Інстынктыўна Васіль прысеў. І ў тую ж хвіліну нештосьці вострае секанула па левай назе. Ірвануўся наперад, але боль спыніў і паваліў у разору...

І толькі тады пачуў стрэл. Адзін, другі, трэці... Цэлая чарга.

«Я паранены...» — мільганула страшная здагадка.

Ужо лежачы на зямлі, Васіль падумаў, як важна цяпер яму не варушыцца, не выдаваць сябе нічым, што жывы. Можа, тады вартавы не пакіне пост, не пабя-

жыць глядзець, у каго страляў... Палічыць — гэта зноў здань страху, неадчэпная здань...

Але зрабіць гэта было цяжка. Балела рана. Так і цягнула паглядзець, што з нагою, куды трапіла куля. А тут яшчэ ўперлася ў бок вострым канцом нейкая ламачына... Усё ж не вытрымаў, павярнуўся. І ад болю заплюшчыў вочы...

...Калі апрытомнеў, была ўсё яшчэ ноч. Але неба прыкметна пашарэла. Зоркі пахаваліся, і толькі нізка на даляглядзе мігцелі дзве ці тры, патухалі, нібы вугельчыкі. На ўсю вёску спявалі, гарлапанілі пеўні. Заходзіўся ад брэху сабака. «Устаць пара, устаць пара»,— кагосьці будзіла, ніяк не могучы дабудзіцца, перапёлка...

Згадалася маленства... Начлег. Васіль ляжыць на мяккай, мокрай ад расы траве. Свежа, нават ядрана. Патрэсквае, кідаючы палахлівыя блікі, агонь. Коні скубуць дзяцеліну, гучна і часта фыркаюць. Капыты спутаных ног глуха гупаюць у зямлю. Нехта са старых начлежнікаў заўзята пасвіствае носам, астатнія — такія ж, як і ён, вясковыя хлапчукі, насунуўшы на вушы шапкі, ціха дрэмлюць. Толькі Васіль не спіць і ўзіраецца ў далёкае неба, на зоркі. «Хто яшчэ ў такую глыбокую поўнач глядзіць на іх? Каму яны так загадкава міргаюць?..»

Успамінаецца і пазнейшае. Спяваюць пеўні, і дзівосная, проста казачная музыка плыве, напаўняе наваколле. Выйшла з двара суседава дачка Галя. Вясёлая, гуллівая... Васілю вельмі хочацца дагнаць яе, прытуліць да сябе, пацалаваць. Ціхутка, на пальчыках, крадзецца ён да лавачкі, дзе села дзяўчына, бярэ яе за плечы. Валасы ў Галі пахнуць суніцамі, і, можа, ад гэтага ў Васіля кружыцца галава. Галя спахопліваецца, вырываецца. Сярдзіта міргаюць доўгія вейкі.

— Бачыш, світае ўжо!..— як не крычыць Галя.

І Васіль расплюшчвае вочы, гоніць ад сябе ўспаміны. Сапраўды, вось-вось пачне світаць. Вунь ужо заружовілася на ўсходзе неба. Цокаюць, рассыпаючы малінавыя пошчакі, салаўі. Разразаючы крыламі паветра, праляцелі дзве вялізныя птушкі. «Качкі-чыркі...— здагадваецца Васіль.— Жыраваць паляцелі... Балота ці луг дзесьці непадалёку... Вада... Піць... Як

хочацца піць!.. І чаму такая мокрая калашына? Няўжо ад расы?..»

Паспрабаваў падняць нагу. І не змог. Востры боль укалоў у самае сэрца. «Як гэта я забыўся... Я ж паранены...»

Цвілы свіран... Падмосце... Дзірка-лаз... Вядро... Усё гэта хутка-хутка прамільгнула ў памяці. «Далей, далей адсюль... Зараз прачнуцца канвойныя... Пачнуць шукаць... І так, хвала богу, што не агледзелі, па кім стралялі... А рана?.. Трэба перавязаць яе... Але чым?..»

Аблапаў рукамі кішэні і, не знайшоўшы там нічога такога, чым можна было б перавязаць рану, Васіль выцягнуў са штаноў папружку і перацісну ёю ніжэй калена нагу... Але кроў усё роўна не сунімалася, сачылася праз калашыну. Тады ён адламаў ад рагаціны, што ўпіралася ў бок, палку, падсунуў яе пад папружку і павярнуў разы са два... Кроў як быццам перастала цячы... Азірнуўся назад, на свіран і, нікога там не ўбачыўшы, папоўз.

Да рук ліпла пульхная зямля, раса сцюдзёніла пальцы. Неасцярожны рух — і боль рэзаў усё цела. Васіль сціскаў мацней зубы, але не прыпыняўся. Поўз і поўз. Заўважыў у сівым нізкім тумане капу сена. «Як бы туды...»

Бульбяное поле нечакана змянілася поплавам, ужо скошаным і пярослым кволай атавай. Стала лягчэй паўзці. Падняў вочы: капы не было. На месцы яе — густы лазовы куст.

«Што ж рабіць?.. Дзе схавацца?..»

Клубісты туман засцілаў усё наперадзе, нібы там што гарэла і ўвесь дым сунуўся на луг. Толькі на даляглядзе, над самай зямлёю, цямнела зубчастая сцяна. Адтуль чулася кугаканне савы. «Што гэта там?.. Лес... Няўжо так блізка лес?.. Так, гэта ён...»

Рукі зноў самі пацягнуліся наперад і ўчэпіста ўхапіліся за колкую пакошу...

Ужо добра развіднела, калі Васіль дабраўся да ўзлеску. Паўзці далей не было сілы, і Васіль, уткнуўшы твар у леташняе лісце, паляжаў. Чулай, матчынай ласкай разлілося па ўсім целе цяпло сонца, якое толькі што ўзышло. Ад святла, цяпла рабілася добра, лёгка...

Сяк-так, з цяжкасцю Васіль прыпадняўся, сеў. Рукі самі пацягнуліся да абмоткі. І тут, зусім нечакана, вочы ўбачылі чалавека,— ён ляжаў пад тоўстай карыстай бярозай, паклаўшы пад галаву палатняную торбачку. Каля яго валяліся аброць з заржавелымі цуглямі і сырамятная, уся ў тугіх вузялках пуга. Чалавек даўно не галіўся і не стрыгся. На выгляд ён быў намнога старэйшы за Васіля. Ад радасці, што сустрэўся з жывым чалавекам, Васіль забыўся завязаць абмотку, якую быў пачаў раскручваць, каб агледзець рану. Так і памкнуўся да незнаёмага. Той спаў і, відаць, сніў нешта прыемнае, бо ў куточках яго вуснаў таілася ледзь прыкметная ўсмешка.

— Гэй, прачніся!

Голас спалохаў чалавека. Ён, як заяц, усхапіўся на ногі і, увабраўшы ў плечы кароткую шыю, вопрамеццю кінуўся ў кусты... Пад нагамі затрашчала ламачча, ягаднік.

— Пачакайце! Куды вы?..

Але чалавек нават не азірнуўся. Усё гэтак жа, увабраўшы ў плечы шыю, ён бег і бег, аддаляўся і аддаляўся, аж пакуль і зусім не знік у густой зеляніне лесу.

«Уцёк... Не трэба было мне так моцна крычаць,— упікнуў сябе Васіль.— Можа б, хоць чым-небудзь памог мне...»

Сонца тым часам паднялося вышэй. Ажыў, загаманіў лес. Навокал усё спявала, ціўкала, радавалася. Па леташніх лісцях і траве кудысьці пабеглі шустрыя, заклапочаныя мурашкі.

У роце перасохла, нельга было павярнуць нават языком. Вусны міжвольна прыпалі да халоднай расы, пачалі збіраць яе. Празрыстыя кроплі ападалі на дол. Васіль хапаў ротам траву, смактаў яе, шкадуючы, што раса не такая багатая, шчодрая, каб можна было ёю напіцца. Калі ў роце трохі пасвяжэла, прылёг на бок і пачаў грэбаць даланёю па вільготнай траве...

У арэшніку нехта заварушыўся, паказалася галава чалавека. «Той самы дзядзька. Разглядае, хто я... Няхай...» Хвілін праз колькі, мусіць, пераканаўшыся, што яму нічога не пагражае, з-за кустоў выйшаў і сам чалавек. Невысокага росту, вузкаплечы, ён накульгваў на правую, крыху карацейшую нагу. Гатовы ў любы час зноў паказаць пяткі, дзядзька набліжаўся паволі,

з асцярогаю. Каля змучанага, мокрага, усяго ў гразі салдата ён прысеў.

— Не бойся,— прашаптаў ён ціха.— Я не злы чалавек, не...

І хвалюючыся, пераскокваючы з аднаго на другое, пачаў расказваць пра сябе. З усяго яго няскладнага апавядання Васіль даведаўся, што ў гэтай мясцовасці дзядзька апынуўся выпадкова. Як толькі фронт наблізіўся да вёскі, дзе ён жыў, яму загадалі гнаць калгасных кароў глыбей у тыл. Перад гэтым у бамбёжку згарэла яго хата. Вельмі не хацелася ў такі неспакойны час адлучацца з дому, але трэба ж, інакш дабро народнае нізашто дастанецца ворагу, злыдням. Узяў пугу, укінуў у торбачку акраец хлеба, сала і пайшоў. Спярша думалася: гнаць жывёлу давядзецца недалёка. Але немцы наступалі. Па сорак — шэсцьдзесят кіламетраў рабілі ў дзень, а ўсё роўна выратаваць статак не ўдалося. Неяк надвячоркам, калі рыхтаваліся да начлегу, іх дагналі нямецкія танкі. Пагоншчыкі разбегліся хто куды, баючыся трапіць у палон. А ён, падумаўшы, пачаў дабірацца дадому. Там у яго трое дзяцей, жонка. Два старэйшыя сыны — у арміі...

Расказваючы, чалавек ні на хвіліну не зводзіў вачэй з Васіля, насцярожана сачыў за кожным яго рухам. Па ўсім відаць было: ён не зусім верыў гэтаму зморанаму амаль што хлапчуку ў чырвонаармейскай форме.

— А пуга і аброць нашто вам?

— Гэта каб немцы не затрымалі. Як спыняць, я і кажу, што тутэйшы... Конь, маўляў, збег, то я шукаю... А ты хто?

— Хіба не бачыце? — крыва, вінавата ўсміхнуўся Васіль і паказаў вачыма на салдацкае адзенне.

— Цяпер на гэта не глядзі. Надоечы мне расказвалі ў вёсцы, што чалавек сто на парашуце спусціліся. Усе ў такім, чырвонаармейскім... Думалі, свае... А яны заляглі ля шашы і, як толькі паказалася калона нашых салдат, пачалі страляць з аўтаматаў і кулямётаў... Ты паранены?... У нагу?.. Ах, божачка мой... А я сяджу, прастарэкую...

Закарэлыя, нягнуткія дзядзькавы пальцы хутка разматалі абмотку.

— Рана не страшная. Не бойся...

Рукі ў дзядзькі ледзь прыкметна дрыжалі, калаціліся. Ён хваляваўся, мусіць, ад таго, што ўпершыню бачыў так блізка крывавую рану. Боязь і недавер паступова знікалі. Вочы ўжо не так пільна сачылі за рухамі параненага. Чалавек нават адвярнуўся на нейкі момант і пакорпаўся ў сваёй торбачцы. З анучкі высыпаў на далонь пацёрты ў муку засушаны ліст.

— Во прысыплем пакуль што... Яно памагае. Гэта я, калі збіраўся худобу гнаць, укінуў у кайстру: ці мала што можа здарыцца ў дарозе!.. І бачыш,— чалавек крыва ўсміхнуўся.— Даўно, калі майго бацьку воўк пакусаў, дык старыя людзі лячылі. Ага, дужы быў у мяне бацька. Мех жыта, бывала, быццам клунак,— пад адну паху, мех — пад другую — і пайшоў сабе пасвістваючы. Араў гэта ён аднойчы пад ярыну сваю палосу,— баяў дзядзька, мабыць, стараючыся забавіць чырвонаармейца, каб ён не думаў пра рану на назе.— Ну, вядома, прытаміўся, каня выпраг, на лужок на траву пусціў, а сам прысеў перакусіць на ўзмежак. Толькі гэта ён сала з торбы дастаў, бачыць — крадзецца па раллі воўк. Не тое што які ваўчок-смарчок, а добры зладзюга воўк. Бацька падпоўз да яго ззаду ды — хап за хвост. Той — і с...нуў ад страху, і ні з месца. Ірванецца сюды, ірванецца туды — нічога ў яго не выходзіць. Больш за гадзіну валтузіліся. Дужы бацька, я ж і кажу, быў. Толькі калі ўбачыў воўк, што людзі на поле прыехалі і бягуць да яго, ірвануўся што было сілы — і дзёру: у бацькавых руках хвост астаўся. Праўда, перш чым уцякаць, воўк паспеў ашчэрыць зубы на бацьку. Світку новую разадраў ледзь не да пят. Так і завуць з таго часу нас па вёсцы: воўчыя хрэснікі...

Расказваючы гэта, чалавек дастаў з торбы чысты ручнічок і перавязаў рану. Потым, пакапаўшыся ў торбачцы, выняў кавалак хлеба, брусок жоўтага, у прамасленай паперы, сала, цыбуліну.

— Еш...— сказаў ён, падаючы Васілю.— Ты ж, мусіць, галодны. А дзе ж гэта цябе так параніла? Фронт жа далёка ўжо...

Умінаючы напоўніцу хлеб з салам, Васіль расказаў пра свае ўцёкі з палону. Выслухаўшы, чалавек зазначыў:

— Я бо думаю, чаго гэта яны ні з сяго ні з таго гэтак раптам стралялі ўночы? Аж яно вунь што!.. Ты паляжы трохі... А я пайду... Знайду табе цывільнае што-небудзь надзець... Так падазронасці менш будзе...

І чалавек падняўся, узяў у адну руку аброць і пугу, у другую — торбачку і, моцна прыпадаючы на правую, карацейшую нагу, пакульгікаў з лесу ў той бок, дзе праглядалася праз гушчар, свіцілася поле.

«Здагадаўся, што мяне шукаць могуць, і ўцякае. Хто мяне цягнуў за язык расказваць пра палон...— забіліся ў галаве ў Васіля трывожныя думкі.— Ён не вернецца больш... Нашто я, паранены, яму?..»

Зрабілася страшна, што зноў астаецца адзін. Узнікла жаданне выпаўзці на ўзлесак і крыкнуць наўздагон дзядзьку: «Эх ты!.. Баязлівец!..»

Згадалася, што і сам ён, Васіль, знайшоўшы ў свірне лаз, нікому не сказаў пра гэта. Уцёк адзін і нават за сабою дзірку прыкрыў. «Так цяпер усе, мусіць, робяць... Кожны сваё жыццё ратуе. Як хто можа...»

Зноў агарнула слабасць, абыякавасць да ўсяго. Ужо і стромкія клёны, і з парэпанымі нарастамі на камлях дубы, і галасістыя песні птушак, і камкаватыя сухмаркі, што ўсё некуды плывуць і плывуць у паднябессі, здаюцца непатрэбнымі, лішнімі... «Нашто яно?.. Усё роўна не жыць...»

Васіль здзівіўся, калі праз нейкі час зноў убачыў каля сябе таго самага чалавека з цэлым ахапкам рознага адзення.

— Гэта тут непадалёку, на шашы, я клунак знайшоў... Відаць, уцякаючы, згубіў нехта... Колькі дабра гіне!.. Калашыну разрэжам, каб раны не ўразіць вельмі... Ты адкуль сам?

— Здалёку... З-пад самай Прыпяці... Можа чулі, сяло такое ёсць, Хвойкі. Дык я адтуль...

— Зямляк, значыцца... Я з-пад Лоева. На, вось гэтую кашулю надзявай. Ды пойдзем адсюль... І чаму ты кажаш — здалёку? Гэта ж і ста кіламетраў адсюль не будзе. Нам бы толькі да ракі... А там ці лодку знойдзем, ці плыт... Паплывем... А да ракі — недалёка ўжо. Праз якія суткі-двое там будзем... А дома я выхаджу цябе. І доктара знайду...

Гэтыя словы былі сказаны так шчыра і проста, што

Васіль зразумеў — чалавек не пакіне яго ў бядзе. Ад усведамлення гэтага на душы неяк ураз палягчэла...

Вочы сляпіла сонца. Тоўстыя камлі дрэў адплывалі адзін за адным назад. Шасталі, чапляліся за адзенне галінкі. Гулі, звінелі, як ачмурэлыя, сляпні, авадні, камары, мухі. Шаша, мусіць, і праўда праходзіла зусім непадалёку, бо чуваць было, як па ёй ляскаталі гусеніцамі танкі, раўлі аўтамашыны. Вецер час ад часу прыносіў з таго боку пах перагару бензіну і мазуты.

Бор змяніўся густымі зараснікамі грабняку, арэшніку, асінніку, невялікімі сухімі імшарамі. Нечакана трапілася чыстая паляна, уся ў сакавітай траве і ягадніку. Чарніц было месцамі так многа, што галінкі ад цяжару аж слаліся долу. Сінія-сінія... Потым пайшлі зноў зараснікі, цёмны, шчаціністы хвойнік, зноў бор з густым, тлумным пахам багуну... І хоць бы дзе адна якая дарога...

Дзядзька нёс Васіля на спіне і ўвесь час маўчаў. Мусіць, думаў пра нешта важнае, сваё.

У Васіля замярцвелі рукі, боль тузаў нагу. Але думкі былі ясныя, пэўныя. «Людзі заўсёды астаюцца людзьмі. Вось гэты зусім незнаёмы чалавек нясе мяне на сваіх плячах... А ўсюды ж вораг. Чалавек рызыкуе жыццём. Яму трэба хутчэй да сваіх дзяцей, а ён не пакідае параненага. Чалавек!.. А я?.. Што зрабіў я?.. Чаму я не пабудзіў таварышаў?.. Знайшоў лаз і нікому не сказаў...»

«Проста не падумаў пра гэта».

«Не падумаў!.. Маніш! Скажы праўду: спалохаўся, што калі ўцякаць пачнеце гуртам, то будзе вялікая мітусня. Пачуюць вартавыя... І тады... Тады і сам не ўратуешся... Баязлівец... Нягоднік... Вось хто ты!..»

«Але ж я... Я не ведаў, што вылезу сам. Усё здарылася так выпадкова...»

«Маўчы. Ніякай выпадковасці не было. Проста ты такі па сваёй натуры. Аднаасобнік! Ты не варты таго, каб цябе ратавалі. Каго пакінуў у бядзе?..»

«Я ж паранены...»

«Не апраўдвайся. Тады ты быў не паранены... Не замінай чалавеку. Хай ідзе да сваіх дзяцей. Ты не маеш права затрымліваць яго, не маеш права на такую спагаду».

Супярэчлівыя думкі таўкліся ў галаве ў Васіля. І калі, нарэшце, адна з іх перамагла, яна пачала дабівацць параненага... «Не замінай, не замінай...» — дамагалася яна свайго.

У паўдзённую спёку яны былі ўжо каля забалочанай па берагах і зараслай скрозь ніцаю лазою лясной рачулкі. Да той ракі, па якой можна было плысці на лодцы ці на плыту, аставалася кіламетраў пятнаццаць — дваццаць. Мутная, цвілая, з рознакаляровымі плямамі ржы вада, здаецца, адстойвалася ў зараснях чароту і рагазы. Каб не сухое лісце і не пучкі травы на паверхні, наўрад ці здагадаўся б хто, куды яна цячэ. У паветры купаліся блакітныя са слюдзянымі крыльцамі стрэлкі. Над усім вісеў пах блёкату і нейкіх іншых даўкіх балотных красак. Рачулку трэба было пераходзіць уброд, бо адшукаць кладку ў такой глухамані не было чаго і думаць. А ўсюды ж квола-зялёная трава, густы дах з дубовых галін, праз якія праглядвала дзе-нідзе высокае неба, лёгкае пагойдванне вершалін, песні птушак... Усё гэта спакушала Васіля не ісці нікуды далей, астацца тут. Селі на камень старой вывернутай бярозы. І Васіль папрасіў:

— Пакіньце мяне, дзядзька... Навошта я вам?.. Толькі замінаю... У вас дома дзеці... Без мяне вы хутчэй дойдзеце...

— Ты думаеш, што кажаш?! — узлаваўся той.— Мне спакою нага твая не дае... Да доктара якога хутчэй трэба. А ён... Што ты рабіць адзін будзеш? Звацьто хоць як цябе?..

— Васіль.

— Майго дзеда Васілём звалі. Ён-то о-го колькі паслужыў у арміі. Мо за ўсіх нас... Бадай што — поўных дваццаць пяць. Дзевяць разоў паранены быў... І каб не аслеп пасля аднаго паходу, то пэўне, і звекаваў бы на службе. Бывала, усё расказваў мне, малому, як таварышы ратавалі яго, з бою выносілі. І цяпер яшчэ яго словы помню: «Дзе б ты, Апанас, ні быў, як бы табе цяжка ні даводзілася — не пакідай чалавека ў бядзе. Пакажы яму... Дужа горка адчуваць параненаму, што ён лішні і не патрэбны нікому». Харошы чалавек ён быў. Я, у светлую памяць, сынка свайго Васільком назваў...— Апанас памаўчаў.— Дык вось што, Васіль,

слухай... Думаць пра іншае нам цяпер трэба... Вораг на зямлі нашай... Людзі якія харошыя, глядзіш, як мухі, гінуць...

«Што рабіць, што рабіць?..»

Адразу ж за рэчкай зноў пачаўся густы сасновы бор. Запахла жывіцаю, чаборам. Пад нагамі затрашчалі сухія сучкі, зашархацела ігліца, шышкі. «Дзед Васіль... Апанас...» Вось дзіва! Бацьку ж майго таксама завуць Апанас... Маці яшчэ завіхаецца ля печы, а людзі стукаюць ужо ў акно:

— Апанас, куды нам сёння?..

— Пачакайце, я іду...— кажа бацька і вылазіць з-за стала, не забываючы звычайна нязлосна папракнуць маці, што тая зноў не паспяшалася са снеданнем і яму, брыгадзіру, няёмка пазней за іншых выходзіць на працу...

«Дзе цяпер бацька?.. Што з ім?.. Там жа, дзе ён, немцы...»

Іншы раз, калі бацька вяртаўся з поля, суседскія хлапчукі, схаваўшыся за платы, крычалі: «Апанас — валы пас, а Аксіння — пасла свінні...» Бацька пагрозліва трос рукою і смяяўся. Ён жа, Васілёк, не любіў, калі дзеці дражнілі бацьку; запамінаў, хто хаваецца за плотам, а потым, злавіўшы ля свайго двара, біў...

Равеснікі недалюблівалі Васіля. І асабліва пасля аднаго выпадку...

Ідучы неяк па грыбы, хлопцы запрыкмецілі ў двары, дзе жыла адзінокая нядошлая Гарпіна, спелыя слівы. Буйныя, смуглаватыя, яны вельмі ж ужо спакусліва паглядвалі з-пад цёмна-зялёных брылькоў лісця. План «начной атакі» абмеркавалі ў лесе. І, як толькі добра змерклася, усім гамузам агародамі прабраліся да саду. Адарвалі пацізу ў плоце дзве гнілыя дошкі і палезлі...

Васіль быў малы ростам, а сліва, як на тое, вышугала высокая, і як ён ні намагаўся — усё роўна не ўдавалася дастаць нават галінку. Каб не вяртацца з саду з парожняй пазухай, так і не пакаштаваўшы сліў, ён хуценька забраўся на дрэва. Але не паспеў налаташыць і пазухі, як аднекуль з патаемнай схованкі з таўкачом, што таўкуць свінням бульбу, выбегла разгневаная Гарпіна. Хлопцы, як хто, шмыганулі ў дзірку. Васіль жа астаўся на сліве.

— Ану злазь! — наблізіўшыся, загадала Гарпіна і замахнулася таўкачом.— Хутчэй, зладзюгман!

Васіль ад перапалоху заплакаў:

— Цётачка, я не вінават... Мяне падгаварылі... Я вам усіх назаву, толькі мяне не чапаіце... Мяне падгаварылі...

І назваў усіх, хто лазіў разам з ім у слівы. А калі Гарпіна, думаючы, што ён сяго-таго ўтаіў, зноў падняла руку, у якой быў таўкач, Васіль назваў і тых сваіх дружбакоў, якія не былі нават блізка ля саду.

Хлопцы ляжалі за плотам у густым бульбоўніку і ўсё чулі. І тады ж так адлупцавалі яго, што ён ледзь вярнуўся жывы дахаты.

З таго дня таварышкавацъ з ім ніхто не хацеў...

«А цяпер...»

У вушах зноў прагучалі словы: «Дзе б ты ні быў, як бы табе цяжка ні даводзілася — не пакідай у бядзе чалавека. Памажы яму...»

«А я?..»

Паўстала родная хата на самым беразе Прыпяці. Картачкі сваякоў у зашклёных асадках над пасцеллю... Куст бэзу пад самым акном... Стол, за якім снедаў і рыхтаваў урокі... Скрыпучыя ходзікі на сцяне... Паўстала усё гэта толькі на хвіліну, на нейкі адзін-адзінюсенькі міг. А потым паплыло, патанула ў шэрым, няўцямным змроку...

Яны ляжалі на круглай ляснай паляне. Злева кусты і лес расхінула невялікае балотца. Высокая асака ледзь чутна шастала, шапталася. Яе трэба было даўно скасіць. Але тут яшчэ ніхто нават і не махнуў касою. На паляне, па ўсім відаць, было даўней стойла. Умятая, збітая капытамі крапіва і шылег толькі дзе-нідзе пачыналі адрастаць. Тут і там пад дубамі чарнелі вогнішчы.

— Во што, хлопча,— сказаў, як толькі звечарэла, Апанас.— Я пайду што-кольвечы з харчу пашукаю. А ты паляжы тут. Ды не журыся вельмі. Жыць жа будзеш, і хадзіць таксама будзеш... Я не дам табе прапасці...

— Ідзіце,— прашаптаў Васіль.— Я буду чакаць вас...

Быць увесь час побач з гэтым добрым дзядзькам

Васілю было невыносна цяжка,— яго мучыла сумленне. І калі ён пачуў, што дзядзька збіраецца некуды ісці, у галаве ў яго мільганула думка: «Вось зручны момант... Адпаўзу крыху ў лес... Дзядзька шукаць мяне доўга не будзе. Усюды вораг... А дзядзька рвецца дамоў. Бач, увесь дзень ні на хвіліну не прысядаў. Спяшаўся... Паходзіць трохі, пашукае і пойдзе адзін... Я чужы яму. А дома ў яго — дзеці...»

І як толькі Апанас схаваўся паміж дрэў, Васіль засунуў акрайчык хлеба, што быў выняў з торбачкі дзядзька, за пазуху («Хай будзе... Можа спатрэбіцца...») і папоўз...

У лесе змяркаецца хутка і неяк адразу. Яшчэ сонца залаціць вершаліны самых высокіх дрэў, яшчэ скачуць з галінкі на галінку птушкі, яшчэ спяшаюцца да сваіх мурашнікаў мурашкі, а ўжо глядзі — лезе, крадзецца з усіх бакоў змрок. Села, схавалася сонца — і морак ахінае дрэвы, кусты і як бач забірае ўсё ў свае ўладанні.

Васіль не прапоўз і сотні метраў, а навокал зрабілася так цёмна, што за некалькі крокаў не стала відаць ні дрэў, ні кустоў, ні пнёў. «Хоць бы на гадзюку не напароцца... Укусіць...»

Цемра проста ўвачавідкі ўсё больш і больш згушчалася. Але Васіль не спыняўся — поўз і поўз. Хацелася быць як мага далей ад паляны. «Хоць і ўздумае мяне шукаць дзядзька — не знойдзе...»

Рука натрапіла на штосьці халоднае і агіднае. Ён жахнуўся і рвануў руку назад. Гэта была, як ён здагадаўся, жаба-рапуха. Жаба хутка-хутка заскакала некуды ўбок. Васіль усміхнуўся. Упершыню за гэты дзень. «Які я стаў... Праўду кажуць: апячэшся на малацэ — і ваду студзіць будзеш...»

На нейкі час Васіль забыўся на ўсё. Сорам, страшэнны сорам падганяў яго, прымушаў паўзці. «Далей... Як мага далей ад паляны». І ён поўз то па драбналессі, то па нейкай жорсткай высокай траве і папараці, поўз, пакуль, нарэшце, дарогу не перагарадзіла яму тоўстая вывернутая старадрэвіна. Вакол яе раскашоўваўся калючы ажыннік, кусціліся маладыя купчастыя дрэўцы.

Спыніўся, аддыхаўся. Зноў паспрабаваў паўзці, але адчуў, што не можа. Незвычайная мляўкая стома скавала ўсё цела. Рукі і ногі наліліся цяжарам. Не хаце-

лася ні варушыцца, ні трымацца на локцях. «Адпачну... І так добра, што гэтулькі адпоўз...»

Ён падгроб пад сябе вільготнага ад вячэрняй расы лісця, якім скрозь быў услан дол, і лёг на спіну. «Хай ідзе сваёй дарогай чалавек... Хай ідзе... Ён не ведае, каго ратуе... І добра, што не ведае...»

Уявіўся той бой, які прывёў да палону. Уявіўся неяк урыўкава, так, як часам бывае на экране, калі зрвецца кінастужка. Бухалі снарады... Наперадзе, ззаду, злева, справа выраслі кусты зямлі... Стралялі і кудысьці беглі чырвонаармейцы. Бег разам з усімі і ён, Васіль. Раптам яго як бы нешта падхапіла, шпурнула на зямлю... Апрытомнеў ад штуршкоў у бок. Усхапіўся на ногі: перад ім — два рослыя немцы з аўтаматамі. Сонца ні то ўзыходзіла, ні то заходзіла. Галава кружылася, зямля выплывала з-пад ног. Ён не ўстояў, паваліўся... «Што ж было далей?» А-а... Кузаў нейкай аўтамашыны, чыесьці апруцянелыя ногі, бот на твары... З падранай страхою хлеў... Акрываўленыя, змардаваныя чырвонаармейцы... Палон...

«Дзе цяпер тыя, з кім брыў гэтулькі дзён? Ідуць... І толькі я не іду разам з усімі, адзін...» Вось ужо нястройная калона паволі знікае за паваротках дарогі. На тым месцы вісіць некаторы час шэрае воблака пылу, потым сплывае, адносіцца ветрам на збажыну.

Рака... Родная Прыпяць. Роўнядзь блакітная, маршчыністая... Лодка тупым носам рэжа яе і шыбуе, аж свішча ў вушах вецер. У Васіля выпадае вясло. Плынь падхапіла лодку, нібы трэску, і нясе, нясе проста на мост. Па беразе, якраз пясчанай касою, бяжыць, махае рукамі маці.

— Васілёк! Куды ж ты, дзіцятка маё дарагое? Разаб'ешся!..— далятае да Васіля голас.

Белая хустка, завязаная ражкамі пад бараду, знікае. Вось-вось мост...

«Чаму ж гэта я не падумаў раней, што буду рабіць, калі астануся адзін?..» — прыйшло Васілю ў галаву, як толькі ён прачнуўся.

Была тая пара раніцы, калі ў вёсках садзяцца снедаць. Туман рассеяўся і толькі дзе-нідзе яшчэ хаваўся за кустамі, нібыта рэшткі дыму ад начлежных вогнішчаў. На ўсе лады высвіствалі ў кустах дразды.

Барабанілі ў сухаверхіх дубах, чэкалі дзятлы. Жаласліва, тужліва пішчалі берасцянікі. Гупаў, як у парожнюю бочку, голуб. Густую сетку галін пранізвала сонца. З лісцяў скочваліся кроплі расы. Зямля вухкала і, здаецца, цяжка ўздыхала: недзе ішоў бой. Шаша маўчала. Ці то фронт адсунуўся яшчэ далей, ці немцы асцерагаліся рухацца так рана па чужой, нядаўна занятай зямлі...

Нага, мусіць, апухла, бо ручнік моцна сціскаў лытку. Здавалася, яе нехта закаваў у жалеза. Васіль дастаў з-за пазухі акрайчык. «Пакуль буду сілкавацца — падумаю...» Хлеб быў такі смачны і пахкі, што Васілю захацелася вось гэтак ляжаць і есці, есці яго цэлы дзень.

Спахапіўся тады, калі ад акрайчыка астаўся толькі невялічкі кавалак скарынкі. «Трэба пакінуць хоць крошку... Хто ведае, што са мной будзе?..»

Засунуў хлеб зноў за пазуху. Паспрабаваў паўзці. І адчуў: тупа баліць усё цела. Усё роўна як пабіў хто палкаю. І рукі, і спіну... «Так далёка не запаўзеш...»

З таго боку, дзе была шаша, зашуршэла лісце. Васіль падняў галаву. Проста на яго поўз рыжы, калматы сабака. Азадак у яго быў перабіты і цягнуўся па зямлі. Сабака спыніўся, відаць, пачуўшы поблізу чалавека. Доўга і ўважліва глядзеў на яго. Спярша недаверліва, потым усё смялей і смялей падпаўзаў бліжэй, бліжэй. Асцярожна абнюхаў Васіля, і жаласліва скуголячы, пачаў туліцца, лашчыцца.

— Чым я табе памагу... Я сам такі ж, як ты...

Трохі счакаўшы, дастаў з-за пазухі толькі што схаваную туды скарыначку хлеба, паклаў яе да морды сабакі. Сабака адразу ж накінуўся на хлеб. Невялікі кавалачак праглынуў уміг, сабраў, злізаў языком з долу крошкі і паглядзеў зноў на Васіля. У мутнаватых вачах была ўдзячнасць, яны прасілі даць яшчэ якой-небудзь яды.

— Няма больш...— аблапаўшы пазуху, сказаў Васіль і папоўз далей, агінаючы вывернутую старадрэвіну.

За ім памкнуўся і сабака. Але хутка адстаў...

Одум узяў Васіля. «Можа, гэта той сабака, што так залівіста брахаў учора ўночы? Што робіць вайна?..» І яшчэ: «Сабака і той падпоўз да чалавека, па-

прасіў ратунку. Як усё жывое хоча жыць! Перабіты азадак, а паўзе... А я... Уцёк ад свайго збаўцы...»

За малаезджанай лясной дарогай — першай дарогай, што сустрэлася яму ў лесе,— Васіль убачыў пад кусцікам арэшніку баравічок. Прыгожы, крамяны, ён сядзеў, падпёршыся бачком да комліка арэшыны. Шапка ў яго была круглая, спадыспаду белая і тапырыстая, як накрухмалены каўнерык кашулі, а корань — нібы раздзьмуты ўнізе. Побач праразаўся карпунец — зусім яшчэ малюпасенькі баравічок.

Нястрымнай плынню нахлынулі зноў успаміны. Як бегаў раненька, яшчэ на досвітку, у лес з кашалём, як, прысядаючы, асцярожна, каб не збіць шапку, рэзаў тугія, ядраныя карэнні. Плыўкі туман вісеў скрозь. Аднойчы — гэта было летась — калі Васіль быў ужо ў дзевятым класе, у грыбах сустрэліся з Галяй. Раніца была пахмурная, росная. Дзяўчына выбегла з-за кустоў у ватоўцы і ботах зусім нечакана, з поўным кашалём маладзенькіх баравічкоў. Твар у яе аж гарэў ад чырвані, якая вельмі пасавала смуглявасці. На шчоках серабрыліся пацеркі — кроплі расы.

— Ой! — ускрыкнула Галя.— І ты ў грыбах?..

І тут жа чагосьці засаромелася, апусціла вочы, нібы пільна шукала пад нагамі грыбоў, і не паспеў разгублены Васіль знайсці, што адказаць суседцы, як тая знікла ў белым клубістым тумане...

«Якая Галя тады была прыгожая! — падумаў Васіль.— І чаму зноў успомнілася яна? Другі раз...»

Праз некалькі метраў Васіль зноў спыніўся, уражаны. Проста перад ім ляжаў, уткнуўшыся тварам у купіну, босы, даўгалыгі немец. Чырвоныя мурашкі снавалі па яго тоўстай шыі. «Забіты... Хто гэта яго?.. Тут, дзе ўсюды немцы?!.»

Недалёка, у густым папаратніку, Васіль наткнуўся зноў на забітых. Гэта была маладая жанчына і двое малых: чорнагаловы хлопчык і трошкі большая за яго дзяўчынка...

«Чаго нарабіла вайна... Можа, дзе і мая маці, і Галя ляжаць вось гэтак забітыя?.. А што, калі і я памру?.. Вось тут, у лесе... Не, не, я буду жыць... Інакш мне ўявілася б што-небудзь мёртвае».

Васіль пачаў згадваць кніжкі, што чытаў у школе, намагаючыся ўспомніць, пра што перад смерцю ду-

маюць людзі... Але нічога пэўнага, путнага, як на тое, не прыходзіла ў галаву.

«Не, не, я буду жыць!..»

Васіль адчуў прыліў сіл. «Вось толькі куды, у які бок паўзці? Да вёскі якой каб прыбіцца... Да людзей... Напрамак трэба выбраць. Вось хоць бы на тое сухаверхае дрэва, што за гушчаром... І нікуды не збочваць. Паўзці і паўзці...»

Дуб, да якога Васіль праз нейкі час дапоўз, быў не раз паласаваны перуном. Адарваныя ад самага сучча па корань палосы-дзягі валяліся скрозь вакол абсмаленага камля. Нешта знаёмае было ў гэтым дрэве. Васіль доўга ўспамінаў. Ды гэта ж ён некалі ўпаў з такога вось дуба... Лазіў браць галубоў і сарваўся. Поблізу нікога не было. Ляжаў з паўгадзіны на мулкіх карэннях, не маючы сіл падняцца. Штосьці сціскала грудзі, не давала дыхаць. Плакаў у роспачы, клікаў на помач маці...

Ці думаў ён тады, што праз нейкі час будзе зноў ляжаць гэтак жа бездапаможна, толькі ў іншым месцы? Цяпер плач не плач, крычы не крычы — ніхто не пачуе, не прыйдзе... Ні бацька, ні маці... Далёка яны адсюль... І, можа, яны таксама клічуць на помач сына, калі ў хату ўвальваюцца фашысты?..

«Жыць, абавязкова жыць... Жыць і біць ворага... Біць за ўсё. Так, так, за ўсё. За тых, хто больш ніколі ўжо не ўстане, не возьме ў рукі зброі, за тых, каго пагналі ў няволю...»

Пад дубам лысела ладная прагаліна. Кволая заечая капуста, дробнае разнатраўе ўкрывалі яе. Сонца пякло тут, як у полі. «Хай раса трохі спадзе... Потым папаўзу,— вырашыў Васіль.— Чаму гэтак баліць цела?.. Няўжо я памру?..»

І, каб хоць трохі забыцца на боль, на тыя думкі, што лезлі і лезлі сляпіцаю ў галаву адна цяжэй за другую, Васіль пачаў успамінаць Апанаса. «Дзе ён цяпер?.. Пайшоў ужо ці ўсё яшчэ шукае мяне?.. Ідзі, ідзі, чалавек! Няхай лёгкай будзе табе дарога... Каб мне толькі выжыць! Я знайду цябе некалі і аддзячу... За ўсё. І ты не пакрыўдзішся, ты зразумееш мяне... І як гэта я? Няўжо быў такі заўсёды?.. Думаў толькі пра сябе аднаго. А пра таварышаў... Дзе, дзе яны?.. Ідуць, галодныя, абарваныя, ідуць у няволю...— зноў

з адчаем згадаў палонных.— А маглі ж не ісці! Маглі б змагацца з пачварай... Маглі... Каб я не пра аднаго сябе думаў, пра лаз сказаў... І чаму, чаму, навошта ўцякаў я ад Апанаса? Мог жа папрасіць, каб ён пакінуў мяне ў якой-небудзь вёсцы».

Так, думаючы то пра адно, то пра другое, Васіль праляжаў гадзіны дзве. Сонца паднялося ўжо высока. Яно нібы спахапілася, што лета пайшло на спад, а цяпла растрачана вельмі мала. І пякло, пякло... У знямозе дуб апусціў лісце. Нават рухавыя, вёрткія непаседы птушкі і тыя прыціхлі, прымоўклі. Няйнакш, хаваліся ў свае гнёзды. Затое ажыла шаша. Чуваць было, як па ёй скрыгаталі гусеніцамі танкі, гулі, грузныя нечым цяжкім, аўтамашыны, матацыклы. Усё спяшалася на ўсход.

— Васіль! Ах, ты вось дзе!

Апанасаў голас больш здзівіў, чым напалохаў Васіля. Ён зжыўся з думкай, што дзядзькі ўжо даўно нідзе поблізу няма. І не будзе...

«Гэтулькі часу шукаў...»

— А я лес увесь абабег, дадумацца не магу, дзе ты падзеўся... І, каб паўзучы, ты не натапырыў лісця, не пакінуў за сабою сляды, я не ведаю, як бы і знайшоў цябе...— сцягваючы з успацелай галавы шапку, радасна гаварыў Апанас.— Спачатку падумаў быў, што немцы цябе знайшлі. Праходзілі хвілін колькі таму назад вунь тудою. Нечага шукалі... А ты чаго ж гэта сюды ўцякаў? Убачыў каго?..

«Сказаць?.. Не, не, не трэба... Ці варта засмучаць такога добрага чалавека...»

Сорам заліваў Васілю твар, паліў яго. Хацелася плакаць... Ён прыкрыў далонямі вочы і ніцма пашыўся галавою ў лісце.

— Я ведаю, што табе цяжка... Але што я магу зрабіць?..— ліліся словы, быццам гаварыла само добрае, чулае дзядзькава сэрца.— Пацярпі крыху... Праз гадзіну мы будзем у доктара. Я напытаў ужо. А там — да ракі пойдзем. Гэта зусім блізка, усяго якіх сем кіламетраў...

*1959 г.*

## З кнігі «Барвы ранняй восені»

### КОШЫК МАЛІН

Навальніца дагнала мяне, калі я не ад'ехаў і кіламетра ад лесу. Я націскаў, як толькі мог, на педалі, чуючы, што за спіною вуркоча гром, але ўсё роўна ўцячы ад дажджу не ўдалося, — дарога скрозь вузкая, каранiстая, і шмат дзе трэ было каціць веласіпед.

Бліснула маланка, і з грукатлівым абвалам грому секануў лівень. Я спыніўся і хуценька пачаў адвязваць ад багажніка плашч, які, выязджаючы з дому, захапіў на ўсякі выпадак, бо пякло і парыла.

Палявая дарога ў момант раскісла, усюды пабеглі ручайкі, і ў калдобінах заблішчэлі каламутныя лужыны. Чорт ведае што рабілася ў небе! Бы там нябачны хто мяшаў вялізнай мешалкаю незвычайнае варыва,— хмары дыбіліся, лезлі адна на адну...

Плашч мала ратаваў ад дажджу, і я, пастаяўшы, пакаціў памаленьку веласіпед да вёскі, што відаць была кіламетры за тры ад лесу. Раптам бачу: расплёскваючы лужыны, у падкасаных штоніках бяжыць, прыкрыўшы рукамі галаву, напярэймы мне хлапчук. Яшчэ здалёку крычыць:

— Дзядзечка, дайце плашча!.. Маліны мокнуць... Цэлы кошык малін!..

Я глянуў, куды паказваў рукою хлопчык. Скрозь сівую сетку дажджу я ўгледзеў у полі, ля куста вербалозу, жанчыну... Нядоўга думаючы, я кінуў на абочыну дарогі веласіпед, а сам сігануў цераз поле проста да жанчыны. Яшчэ на бягу падаў плашч, і тая прыкрыла ім паўнюткі кошык спелых і буйных, апырсканых дажджом, малін і, выпрастаўшыся, сказала неяк ціха, гледзячы ў вочы:

— Хай вас бог беражэ. А то я ўжо думала, прападуць маліны... Мы ж цэлы дзень петаваліся, каб варэнне зварыць. Сын у мяне ў горадзе. На заводзе...

Дождж ліў як з вядра, а жанчына і хлапчук стаялі і моклі, не прыкрытыя нічым, і радаваліся, што не прападуць маліны. За кампанію мок і я, думаючы пра маці, родную, бясконца дарагую маці, якая гатова на ўсё, абы толькі прынесці хоць трошкі радасці дзецям...

*1960 г.*

## БАРВЫ РАННЯЙ ВОСЕНІ

Абапал дарогі — тоўстыя, выносістыя сосны. Трошкі далей — купчасты хвойнік. Дол усюды густа ўслала рыжая ігліца. Травы няма: тая, што сям-там узрасла — пажарац, лапавусік, мучка,— зжухла і зжоўкла. Яно і не дзіва — лета было сухое, пагодлівае, а ледзь на восень — палілі дажджы.

Я іду і не веру вачам сваім, як шмат узбоч дарогі сёлета навылазіла маслякоў. Старыя і малыя, яны скрозь сядзяць цэлымі сем'ямі-чародамі, падперазаўшы чысцюткія фартушкі. Што маслякоў ніхто не бярэ, мяне зусім не здзіўляе: мясціны тут багатыя, грыбныя. Іншы раз, калі, як кажуць у нас, падкінецца мана, дык ніхто не паспявае сабраць не тое што маслякоў, але і баравікоў, бо іх усюды — хоць касою касі.

Беручыся вузкаю лясною дарогай, я неўзабаве заўважаю, што маслякі то тут, то там пазбіваны і патаптаны. Я прыглядаюся ўважлівей і бачу: гэта зроблена не наўмысна, а знячэўку. Чалавек проста ішоў, не вельмі цікавячыся, што трапляе яму пад ногі. І дзе ступала нага, там раздаўлены і грыбы. Гэта мяне насцярожвае: мусіць, нешта здарылася ў чалавека нядобрае, калі ён, ідучы, не бачыў дарогі.

Праз колькі часу я зазначаю яшчэ адно: чым бліжэй да поля, тым чалавек усё больш збочваў з дарогі і, нарэшце, павярнуў у лес. Вось ён зачапіўся за ламачыну і, мусіць, упаў, бо патырчака была зрушана са свайго наляжалага месца і перавернута. Значыцца,

чалавек сапраўды аб нечым задумаўся, бо інакш ён не спатыкнуўся б.

Міжволі я павольна пайшоў па чужых слядах. І вельмі хутка ўбачыў таго, хто збочыў з дарогі. Гэта быў хлапец год васемнаццаці — дваццаці, у новай ватоўцы і ўбраных у халявы кірзавых ботаў картовых штанах. Ён ляжаў на лясной прагаліне, насунуўшы на вочы шапку, вельмі памятую і выгаралую на сонцы, і, як мне здалося, спаў. Але гэта здалося, бо як толькі я зашамацеў поблізу лісцем, хлапец падняў галаву і паглядзеў на мяне вялікімі і цікаўнымі вачыма.

— Здалёку джгаеш? — спытаўся я, каб не маўчаць і хоць што сказаць.

— Не, не так і здалёку,— неахвотна адказаў хлапец.— Са станцыі.

Ён яшчэ раз падняў на мяне вочы, і ў іх я ўбачыў глыбокую душэўную скруху. Глядзелі яны быццам пасля п'янкі ці доўгай бессані. Але разам з тым у іх было нешта такое, што ніяк не давала думаць, нібыта хлапец вядзе вясёлае і бязладнае жыццё. Я захваляваўся:

— Дык што ж гэта з табою здарылася? Захварэў мо?

— Ат, так...— і, памаўчаўшы, дадаў: — Сядзеў я, тэрмін адбываў. А цяпер вось дадому іду, вяртаюся, як бачыце...

Гэта было сказана такім ціхім і ўпалым голасам, што я аж памкнуўся ўсім целам наперад.

— За што ж ты?

— Ды як вам сказаць... За п'янку... Выпіў, вокны ў клубе пабіў, аднаму ў каршэнь заехаў... Вось і далі.

— І колькі ж ты сядзеў?

— Хапіла. Год цэлы...

— Ды навошта ж ты такое зрабіў?..

— Выйшла так...

Шчырае прызнанне хлапца мяне крыху збянтэжыла. Пасля я здагадаўся, што ён расказаў мне пра ўсё, каб я што-небудзь параіў яму, чым-небудзь памог. Ды яно, мусіць, калі на душы гора — хочацца падзяліцца хоць з кім, быццам і палягчэе.

Гэта было пасля. Тады ж я маўчаў, не ведаючы: пытаць яшчэ пра што ці ісці далей сваёю дарогай. Але загаварыў раптам хлапец:

— Мне ўсё роўна ўжо дома не жыць... Успамінаць будуць, як толькі дзе што, дакараць, што ў турме сядзеў... З'еду я куды-небудзь у Сібір ці на цаліну падамся... Абы дома не быць. Я і не ехаў бы сюды, каб не маці...

— Яна ў цябе адна дома?..

— Не, яшчэ і сястра ёсць. Меншая. Бацька з вайны не вярнуўся. Можа б, каб ён жыў, інакшым я рос бы...

— Чаго ж ты так перажываеш? — перапыніў я хлапца.— Ты пакаранне адбыў, а цяпер спакойна жыві, працуй... Толькі больш наперад думай, што робіш.

Хлапец крыва ўсміхнуўся.

— Каб жа гэта так! — сказаў ён летуценна і змоўк. Насунуў на вочы шапку і зноў паклаў галаву на абшарпаны чамаданчык.

Лес ледзь чутна шапацеў, гуў, цягнуў і цягнуў сваю адвечную сумную песню. Дол усцілала мяккае, шаматлівае лісце, і чуваць было, як недзе стукае аб голле, падаючы, жолуд. А з поля вецер прыносіў пах прэлай саломы і бульбы, якую, мусіць, непадалёку капалі. I я сказаў:

— Дык хіба хадзем... Тут жа блізка зусім. Чуеш, як бульбаю пахне? Можа, і сёння яшчэ з поля маці мяшкі пазносіш... Яна ж адна, мусіць, нацярпелася...

— Не, вы ідзіце сабе,— зноў падняў галаву хлапец.— Мне сорамна людзям на вочы паказацца... Год у турме сядзеў...

Я разумеў гэтага незнаёмага хлапца. Але што я мог яму параіць?

Я стаяў, апусціўшы галаву, разгублены, думаючы: прыкра, вельмі прыкра насіць на душы такі цяжар, як турма. Хлапец жа між тым дадаў:

— А бульбаю пахне... Мусіць, пячонікі пякуць...

Я глянуў на хлапца і не пазнаў яго. У вачах скакаў нейкі жвавы агеньчык, шырокія ноздры варушыліся, а твар асвятляла лёгкая, ледзь прыкметная ўсмешка. Ён не насоўваў больш на лоб шапку, а адкрыта глядзеў на лес, у той бок, дзе было поле, і прагна ўдыхаў пах саломы і бульбы, знаёмы пах ранняй восені.

Я не хацеў больш надакучаць хлопцу — хай ён сабе яшчэ раз усё абдумае і зразумее. Павярнуўшыся, я пайшоў проста нацянькі на дарогу, топчучы нагамі

сухое і незляжалае лісце — шаматлівае золата восені. I мне было радасна думаць, што чалавек — не той грыб узбоч дарогі: яго не так лёгка зрушыць з роднага гнязда і растаптаць...

*1960 г.*

## НОЧ НА БАЛОЦЕ

Цісне крохкі скрыпучы мароз. Трашчыць лес, быццам кусае хтосьці арэхі. Не-не дый пройдзецца ледзяным сіверам па балоце вецер. I зноў ціха. Зоркі і тыя пахаваліся ад холаду ў хмары.

Але ў стозе цёпла.

Там, у сене, ляжаць двое — Лявон Шуль, чалавек пажылы і ваўкаваты, і яго пляменнік Алесь, яшчэ нежанаты хлопец, які толькі летась вярнуўся з арміі. Лявону дык яно і зусім цёпла: на нагах падшытыя лямцам валёнкі, а паверх камізэлькі новы кажух. На Алесевых плячах — выцерты бушлат; на нагах — латаныя кірзавыя боты. Хлопца даймае трохі холад, ён увесь час варушыцца і бліжэй туліцца да дзядзькі. Таму гэта не да спадобы, але ён маўчыць. Дый што ты скажаш...

У такі сіберны холад на балоце дзядзька і пляменнік не проста так, дзеля якойсьці забаўкі, а праз каробачкі, якія паставілі на Віцi яшчэ повідну ў высечаныя ў лёдзе пелькі. Каб каробачкі не ўмерзлі, абклалі іх сенам; самі ж, нахаладаўшыся, пазалазілі ў стог: чакаюць досвітку. Тады можна вытрасці ў мяшок уюны, што налезуць за ноч, і ісці дахаты.

Пакінуць каробачкі без прыгляду ні Лявон Шуль, ні Алесь не рашаюцца — яшчэ натрапіць хто і... Каб ніхто не абакраў, па чарзе вылазяць са стога і ходзяць на рэчку.

Калі казаць шчырую праўду, дык Алесь тут толькі з боку прыпёку. Ат, які з яго рыбак... Проста захацелася пакаштаваць смажаных уюноў, вось і прыстаў да дзядзькі, як смала: вазьмі ды вазьмі з сабою. Галоўны ж і самы заядлы ўюннік — Лявон. Ад зама-

разкаў ён не вылазіць з балота. І днюе і начуе. Зусім ад дому адбіўся. І старая яго не раз ужо лаяла, і праўленне калгаса штрафавала, што на працу не ходзіць, ды гэта памагло як кашаль хваробе: як сядзеў чалавек на балоце, так і сядзіць.

Яно, калі падумаць, дык і ў Лявона гэта не так сабе, не без дай прычыны: у познюю восень яго знялі з брыгадзірства. Цепліцца ў чалавека яшчэ надзея, што без яго ў калгасе не абыдуцца і праз нейкі час прыйдуць упрошваць, каб зноў прыняў брыгаду. Тады Лявон пакажа, што то ён! На калені хай падаюць — усё роўна адмаўляцца будзе. Гэта спачатку, а потым, вядома, згодзіцца...

Іншая справа, каб было за што здымаць. Каб да дабра грамадскага, скажам, ён вельмі ласы быў ці гарэлку, як некаторыя, жлукціў. А то ж проста знялі, і ўсё...

Спытаў адвячоркам, як секлі пелькі, у Алеся.

— Хэ,— усміхнуўся той.— Мінуў, дзядзька, час, калі за брыгадзіраў п'яніцы ды зладзеі былі. Хочаш працаваць — працуй, як і ўсе, не замінай, не блытайся пад нагамі... А вас, дзядзька, знялі, бо стары вы ўжо, бо лепшыя, больш адукаваныя людзі ў калгасе выраслі. Вось хаця б Юрка, што за вас цяпер. Дзесяцігодку скончыў, на курсах вучыўся...

Лявон спрабаваў пярэчыць:

— Якія там лепшыя... Адзінаццаць гадоў я працаваў і добры быў. А тут лепшыя... Што я, кіраваць развучыўся?

— Не, дзядзька, не развучыліся, а адсталі. Ад усяго перадавога адсталі... Усё вунь як наперад пайшло ў нашым калгасе. Кароў электрыкай, во, даіць будзем, а вы як мелі чатыры класы, так на тым і макам сядзіце. Гуртkоў колькі стварылі, а вы хоць у адзін ходзіце?.. Не... Ды і ў брыгадзе не авохці парадак які быў. Летась вунь два гектары канапель снегам прысыпала. Скажаце — не?.. Саломы жытняй колькі на полі згніло? А бульбу як выбіралі? Дый што вам казаць, нябось, лепей за мяне ўсё ведаеце...

— Страты заўсёды былі,— адказаў Лявон.— На тое ж яна і гаспадарка. То рассыплеш, то куры здзяўбуць...

— У добрага гаспадара і каліва не прападае...

Лявон змоўчаў. Дый што ты будзеш казаць? На губах матчына малако не абсохла, а ён ужо дзядзьку вучыць. Паглядзім, як гэты малады ды адукаваны Юрка ўправіцца. Гаспадар!..

І злосць, як тое ўчыненае ў дзяжы цеста, падымаецца, расце ў Лявона на пляменніка. Разумнік!.. Змёрз, бы цюцька,— туліцца да кажуха, а бач што кажа!..

Алесь жа думае пра іншае. Пасля службы ў арміі пайшоў ён у вячэрнюю школу. «Жаніся,— раілі ў адзін голас усе.— Бяры дзеўку таўсцей ды дужэй і сям'ю ладзь». Не паслухаў і вось, глядзі,— вясною ўжо сем класаў закончыць. Можна і ў тэхнікум падацца... Наведвае Алесь і гурток, бо марыць заатэхнікам быць. Заняткі праводзіць Зіна, малая ростам, але вясёлая і далікатная з твару дзяўчына. Яна толькі сёлета скончыла вучобу і прыехала працаваць да іх у калгас. Алесь неяк зайшоў да Зіны, каб кніжку папрасіць. Тая пачаставала яго чаем ды неўзаметку пра людзей пачала пытаць. Хлопец уцягнуўся ў гаворку і засядзеўся.

Калі ішоў дадому, дык дзяўчына правяла яго за брамку, а пасля і па вуліцы прайшлася. Ноч была ціхая, зорная, ну, акурат летняя, каб не мароз ды снег, што парыпваў пад нагамі. Дайшлі да яго хаты, потым вярнуліся. Зноў прайшлі і зноў вярнуліся... Праз дзень Алесь запрасіў Зіну ў кіно, а там неўзабаве і з танцаў правёў. Калі так і далей пойдзе, дык недзе пад вясну і сватоў можна будзе заслаць да дзяўчыны.

Так думае, лежачы ў стозе, Алесь.

Думае ён і пра свайго дзядзьку. Каб сказаў, што ён жміндзіла, скнара, дык не. Дзяцей пры ім таксама няма,— хто ажаніўся і сваю сям'ю займеў, а хто падаўся ў горад вучыцца. Жыве ён толькі ўдваіх са старою і штоноч не начуе дома, усё па ўюны цягнецца. Няўжо гэта праз брыгадзірства ён з балота не вылазіць?..

Моўчкі, кожны перабіраючы ў памяці сваё, ляжаць у стозе ўюннікі. Ды Лявон іншага і не жадае. Гаварыць?.. З кім?.. Яшчэ зноў, малакасос, пачне вучыць старога чалавека.

Алесю ж не хочацца маўчаць. Ён адчувае, што вось так ляжаць усю ноч поплеч і не гаварыць — гэ-

та вельмі нядобра. Каб жа пабіліся ці пасварыліся. А то проста так... Ды паспрабуй вось развяжы гэтаму чалавеку язык. І на ўсякі выпадак Алесь кажа:

— А дарэмна вы ўсё ж не ходзіце ў гуртпі. Дужа цікава. Вось нядаўна я слухаў, як пчолы жывуць. Проста дзіва. Несвядома, а такую сям'ю працавітую скалацілі. Усім гуртам працуюць, гуртам і пажыткі свае бароняць ад нападу іншых пчол. А трутняў выкідаюць з вулля...

Лявон сярдзіта варушыцца ў сене: сухая пацяруха сыплецца за шыю.

— Добра, што хоць ты ходзіш і мне расказваеш,— бурчыць ён.

— Дык гэта ж цікава...

— Не маленькі, ведаю, дзеля якой цікавасці ты гэта расказваеш. Давесці хочаш, што і мяне час з калгаса выкідаць...

— Што вы? Я проста так расказаў.— Падумаўшы ж, Алесь дадаў: — А калі на тое пайшло, дык дрэнна вы ўсё ж робіце, што на працу не ходзіце.

— Сам ведаю. І ты мяне не вучы,— агрызаецца Лявон і вылазіць з нары — яго чарга правяраць каробачкі.

Бярэцца на досвітак. Прыкметна шарэе, але хмары густа зацягваюць і без таго хмурнае неба,— мусіць, будзе мяцеліца.

Лявон мякка ступае па зацярушаным снегам ільду. Ля кожнага горбіка, пад якім стаіць каробачка, спыняецца і прыслухоўваецца, ці ёсць шум. Калі ёсць, значыцца, і ўюны ёсць. Але дзе Лявон ні прыкладае вуха — усюды ціха.

І Лявон тупае яшчэ далей па рацэ, да кустоў, дзе выбраў месца на каробачкі пляменнік. Ідзе і думае, што ў Алеся павінна такі ўлезці, бо ён натрапіў на прадуху...

Сапраўды, каробачкі Алеся аж ходырам ходзяць. Асабліва тыя, што ля прадухі...

Лявон некаторы час слухае, як боўтаюцца, не знаходзячы выйсця, уюны, і ў яго галаве нараджаецца шчаслівая думка. «Пакалаціць... Хай ведае, малакасос, як са старога чалавека смяяцца. Дый куды ж гэта варта, калі Алесь будзе з поўнай торбай ісці, а ён — стары рыбак — зусім без улову?»

Рукамі Лявон разграбае лёд і, не вымаючы з пелек каробачак, прыгаршчамі выбірае ўюны і сыпле іх у сваю торбу. Сэрца яго трывожна ёкае: «Што, калі Алесь заспее яго за гэтым заняткам?» А ўюны, як на тое, пішчаць і, слізкія, вёрткія, выпадаюць з рук.

Амаль цэлую торбу крадзеных уюноў Лявон нясе да сваіх каробачак і высыпае іх у каторую прыгаршчы, а ў каторую і болей. «І аднаго не пакаштуеш, калі ты такі разумны. Вось паляскаеш зубамі на холадзе ды так без нічога і дамоў пойдзеш».

Як толькі вяртаецца стары, Алесь вылазіць са стога і кіруецца да сухога альховага карча, які аблюбаваў яшчэ завідна. Трэба раскласці агонь ды пагрэцца, бо можна здубянець зусім.

Агонь доўга не бярэ змёрзлых, прысыпаных снегам карэнняў, але бяроста і жмуткі сена, якія падсоўвае Алесь, падбадзёрваюць яго. І вось ужо чырвоныя языкі полымя шугаюць, хістаюцца з боку на бок. Корч разгараецца і асядае ў снег.

— Дядзька Лявон! — крычыць тады Алесь. — Хадзіце да агню. А то і ногі працягнеце ў тым стозе...

Стары не ўпарціцца, бо такі і да яго пачаў падкрадацца холад. Згорбіўшыся, Лявон падыходзіць да карча, скідае рукавіцы і, ахкаючы, грэецца. Дзівіцца: «Вось што значыць малады. Не паленаваўся агонь раскласці».

Адагрэўшыся, дзядзька з пляменнікам ідуць на раку. У старога ўюноў — поўная, як завязаць, торба, а ў хлапца ўсяго меткі тры. Але ён і гэтаму рады.

— Нічога, нам з маці болей і не трэба. Пакаштуем, і даволі.

Дзядзька ж спрабуе павучаць хлапца:

— Яно і ўюна трэба ўмець лавіць. Вось пахадзіш трохі са мною і навучышся.

— А чаго гэта я буду хадзіць? Ліха з імі, з гэтымі ўюнамі. Прастудзіцца можна. Ды і стагі не сёння-заўтра забяром. Дзе тады ад холаду хавацца?

— Як, ужо хіба з іншых балот звезлі?

— Даўно. І гной ужо ўвесь на полі... Толькі той работы і засталося, што гэтыя стагі.

Вецер між тым узмацняецца. Востры, пранізлівы, ён так і працінае да самых касцей. Стогне, гудзе лес.

Пачынае падаць снег. Спачатку мяккі, потым жорсткі, калючы, як соль..

Пакідаўшы ў кусты вербалозу рыбацкае прыладдзе, дзядзька і пляменнік шыбуюць у вёску.

Алесь сігае ўперадзе, за ім — след у след — цяжка сапе Лявон. Ён ледзь паспявае за хлопцам — цісне, муляе плечы торба. А тут яшчэ вецер — расхрыствае крыссе, падлазіць пад кажух. «Прастудзіцца можна...— успамінае Лявон словы пляменніка. Але, а хіба не праўда? Гэта ж ад самых замаразкаў не начаваў на печы. А ці ж гэта з маім здароўем?.. Дый на якога чорта лысага ўюны тыя, калі здароўя няма. І тых, што панасіў, хопіць на ўвесь год...»

І Лявону Шулю раптам робіцца сорамна і ніякавата, што ён адкраў улоў, адкраў не ў каго-небудзь, а ў свайго пляменніка.

Ён глядзіць у знітаваную снегам далеч і чамусьці здагадваецца менавіта ў гэты момант, што ніхто яго не прыйдзе ўпрошваць прыняць брыгаду. «Навошта, вунь і Юрка спраўляецца. Стагі заўтра ўжо тут мяркуюць забіраць. А бывала ж да самай вясны дацягвалі...»

Алесь сігае і сігае, намагаючыся хутчэй выбрацца на поле. Ужо не разабраць, дзе кусты, дзе дрэвы,— усюды круціць, віхурыць снег. «Запазніліся — занясе дарогу. А трэба ж на працу ў калгас. Калі па сена нельга будзе ехаць, дык у кузні і стальмашні колькі работы».

Алесь азіраецца і бачыць, што дзядзька зусім адстаў. Ён ледзь-ледзь відаць у каламуці снегу. «Хіба торбу ўзяць ды паднесці?» — думае хлопец.

Так і ідуць, кожны са сваім, дзядзька і пляменнік. А за імі ўслед гоніцца завіруха. Вые, злуецца. Невядома на каго і за што...

*1960 г.*

## КАНАПЛЯНЫ ЧАД

Яна прыходзіць да яго штовечар, ледзь толькі змяркаецца і на вёсцы ўкладваюцца спаць. Прыходзіць заўсёды босая, у адной лёгкай начной кашулі,

паверх якой на плечы накінута чорная хустка — не так, мусіць, ад холаду, як ад людскіх вачэй. Таропка прабягае тыя дваццаць — трыццаць крокаў, што аддзяляюць яго ад дарогі, і, разгарачаная, усхваляваная, не гаворачы ні слова, падае на аблюбаваную ім пасцель — пасланыя ў рослых каноплях снапкі маніцы.

Ён даўно ўжо тут, у каноплях. Глядзіць на цёмнае жнівеньскае неба, у якім цьмяна міргаюць зоры, курыць і думае пра яе. Яму трохі і смешна і трывожна, што гэтая, зусім яшчэ маладая жанчына так закахалася ў яго, студэнта, які прыехаў пагасцяваць да сваякоў у вёску,— і праз гэта зусім знелюбіла свайго мужа — круглатварага здаравяку-брыгадзіра. А да гэтага ж, кажуць, жылі душа ў душу, без сварак, без абраз, і ўжо суседкі прарочылі ім доўгае і зайздроснае шчасце. Праўда, у іх няма дзяцей, таго, што так моцна прывязвае жанчыну да мужчыны; але ж яны могуць яшчэ быць,— маладая пара нядаўна пабралася. Дый сам ён хіба не пазычыў у сабакі вачэй, хіба не згубіў усякае сумленне? Ледзь пацямнее, бяжыць у каноплі і чакае, ніяк не дачакаецца, калі яна, нарэшце, прыспіць мужа і прыйдзе да яго... Ён ведае, што ўсё гэта дабром не кончыцца, што да пары тайнае стане яўным і муж крадком, назіркам пойдзе ўслед за жонкаю і заспее іх якраз на месцы злачынства. Ведае, што хаця муж і вельмі добры чалавек, але не даруе гэткае ганьбы, ведае і ўсё роўна нічога з сабою не можа зрабіць — так спудзяцца коні іншы раз, і як бы ні намагаўся вазак іх спыніць — не спыніць, пакуль не разаб'юцца калёсы...

Каноплі адцвітаюць, наліваюцца, і хаця вісіць над усім наваколлем ціхая, сіняя ноч, густы канапляны чад усё яшчэ хмеліць паветра, дурманіць галаву, блытае думкі. А пакажацца яна, вабная, дзябёлая, падатлівая,—і хлопец зусім траціць розум. Абхоплівае яе і горне да сябе. І цалуе ў вочы, у губы, у шыю... Цалуе горача, аддана, яшчэ больш хмялеючы ад ласкі, паху і блізкасці здаровага жаночага цела, цалуе, пакуль яна не задыхаецца і не самлее — тады наступае хвіліна, калі ў шчасці яны абое забываюцца на ўсё на свеце...

Потым ён ляжыць, паклаўшы пад шыю рукі, і млява, стомлена глядзіць на неба, на зоркі. Яна — побач: перабірае, пяшчотна гладзіць на яго галаве

валасы і ціха, бясслёзна плача, тулячыся да яго грудзей. І шэпча, шэпча:

— Васілька, родненькі мой, любы. Не магу я болей з ім жыць, далібог не магу... Каб не ведала цябе, можа б і жыла. А цяпер не магу...

Ён памалу, задумліва жуе травінку, якую хвілінай назад вырваў упоцемку ў густой чупрыне канапель, і маўчыць. Дый што ён можа сказаць? Хіба ж ён ведаў тады, у дождж, калі ўпершыню астаўся на калгасным лузе ўдваіх з ёю ў капе сена і нявінна пажартаваў — прызначыў на вечар спатканне за вёскаю, што ў іх усё зойдзе так далёка? Ён проста ап'янеў тады ад пацалункаў і, цiснучы мокрую і дрыгатлівую яе да сябе, шаптаў, сам добра не цямячы што...

...Калі неба пасвятлее і пачнуць драбнець, хавацца адна за адной зоркі, яны расстаюцца. Яна, усхліпваючы, ідзе ў адзін канец вёскі, ён, трохі счакаўшы,— у другі...

Ён ідзе і думае, што час ужо канчаць гэтыя начныя спатканні, пакуль усё не выкрылася, і ехаць, уцякаць з вёскі. Ехаць, ехаць неадкладна, заўтра ж... І ні на дзень пазней...

«Чад, канапляны чад... Гэта ён, ён вінаваты ва ўсім...»

А заўтра, падняўшыся з пасцелі, ён доўга думае зноў пра яе, маладую і падатлівую. Успамінае гадзіны і ночы, праведзеныя ў каноплях пад сінім полагам неба, зваблівыя, томныя пяшчоты, ласкі і нікуды не едзе. А ледзь прымеркнецца, гародамі, па захлеўю, нібы злодзей, зноў крадзецца ў каноплі...

*1960 г.*

## АДЗІН ДЗЕНЬ

Захар Пятровіч, старшыня калгаса «Світанне», вылез з машыны і плюнуў: трэба ж каб выдаўся такі дзень! Куды ні кінь — усюды клін. Падняўся з пасцелі — і адразу ж размова з сакратаром райкома, чаму зрываецца план здачы малака. Прыйшоў у праў-

ленне — новая непрыемнасць: за ноч прапалі, не расцяліўшыся, дзве каровы. А ў абед паведамілі, што ў чацвёртай брыгадзе скончыліся кармы. Сеў у машыну і паехаў — брыгада ад праўлення была за сем кіламетраў, і трэба было параіцца з брыгадзірам, чым карміць жывёлу.

Але брыгадзіра не застаў дома — у яго памёр брат, і ён пайшоў на пахаванне. Гадзіны дзве сядзеў на ферме. Галодная жывёла рыкала, бы яе хто рэзаў тупым нажом. Старшыня не вытрымаў — паехаў назад, у праўленне. І не даехаў — сапсавалася машына.

Нейкі час Захар Пятровіч стаяў збоку і глядзеў, як, задраўшы капот, корпаецца ў маторы шафёр, зусім яшчэ малады хлопец, леташні дзесяцікласнік. Потым, не сказаўшы ні слова, памалу пайшоў ад машыны.

Гразкая палявая дарога крута ўзбіралася на пагорак, за якім мутна сінеў лясок — адтуль лёгкі гуллівы ветрык прыносіў пах хвоі і асіны. Усюды тлуста чарнела зямля.

Снег ужо растаў, толькі дзе-нідзе мурзацеў у разорах і ямках, набрынялы вадою, крупяністы. З абочын ружаватымі іголкамі лезла трава. І Захар Пятровіч, гледзячы на яе, думаў, што праз які тыдзень можна будзе выганяць жывёлу на пашу. Усяго тыдзень, і каровы пойдуць на зялёны корань. Як ніколі, хацелася вылаяць брыгадзіра, панурага і ваўкаватага Пракопа Смарчка, што той не разлічыў з кармамі і пакінуў на бумлазара ўвесь статак... Усплыла крыўда, што не пакідала, мучыла ад самай восені. Тады яго, старшыню выканкома, паслалі падымаць гэты самы адсталы ў раёне калгас... Паслаў не хто-небудзь з вобласці, а сябры, з якімі гэтулькі год жыў і працаваў. Захар Пятровіч не ўпарціўся, не аднекваўся, ён не баяўся калгаса. Але ж цяпер, асабліва ў дні, калі нядаўнія яго падначаленыя напаміналі яму пра абавязацельствы, а іншы раз спрабавалі і пакрыкваць, апаноўваў цяжкі, непрыемны одум. Захару Пятровічу тады здавалася, што з яго насміхаюцца, кпяць: вязі, маўляў, старая кляча, колькі на цябе накладуць, бо атрымаеш дубца...

А паспрабуй справіцца з чым, калі ў людзей няма самага неабходнага — веры, што справы і ў іх калгасе

палепшаюць, што хоць раз атрымае кожны за сваю працу належную плату...

На пагорку старшыня спыніўся. І чамусьці здзівіўся, убачыўшы, што наперадзе зусім не лясок, а звычайныя сялянскія могілкі. Колькі разоў праязджаў сюдою і не заўважаў.

Старыя панурыя сосны стаялі ў перамешку з бярэзнікам і асіннікам на высокай пясчанай выспе, акружаныя шчацінiстым хвойнікам. І чым бліжэй да іх Захар Пятровіч падыходзіў, тым відней выступалі крыжы. Яны то чорныя, пахіленыя, ці зусім свежыя, жоўтыя, абвітыя яшчэ зялёнаю дзеразою і папяровымі кветкамі.

Крыўда і злосць неяк самі сабой знікалі, а істоту запаўняла нейкае новае пачуццё.

Таго не заўважаючы і сам, Захар Пятровіч збочыў з дарогі і пайшоў па могілках. Мокрае леташняе лісце ледзь чутна шастала пад нагамі, навяваючы сум. Старшыня спыняўся ля некаторых магіл і падоўгу разглядаў здымкі, што былі ўстаўлены ў выразы крыжоў. З паблеклай паперы на яго глядзелі звычайныя людскія вочы, то пільныя, насмешлівыя, то сумныя, задуменныя. І неяк не верылася, што гэтых людзей ужо няма на белым свеце. Усюды — ціш і супакаенне.

Магілы былі розныя: большыя і меншыя, адны абгароджаны, другія нават без крыжоў. Але асабліва ўразіла адна. Яна была абнесена невысокім частаколам, пафарбаваным у зялёны колер. У галовах не крыж, а сівы камень. На ім нешта выдзеўбана долатам, але запылілася, зарасло мохам, і цяпер нічога ўжо нельга прачытаць. З-пад каменя выбіваліся дымна-чырвоныя лісткі крапівы, а частаколіны месцамі збуцвелі і пападалі...

І Захару Пятровічу ўспомнілася, што калі хаваў сваю маці, дык таксама рабіў вось такую частаколавую агароджу,— бацька не вярнуўся з вайны, і дзе яго магіла — ніхто ў сям'і не ведаў. Але з таго дня, як памерла маці, Захар Пятровіч і не быў у той вёсцы, дзе нарадзіўся і вырас. Усё справы, клопат... А ці не пабурылася і на матчынай магіле агароджа, як і на гэтай?..

Успомнілася між іншым, што там, у вёсцы, жы-

вуць тры яго браты. Але вось ужо гадоў дзесяць ён іх не бачыў. Некалі яны слалі пісьмы. Ды працуючы тады ў абкоме, Захар Пятровіч усё не мог знайсці часу ім адказаць... Пісьмы прыходзілі ўсё радзей і радзей, а потым і зусім іх не стала...

Захар Пятровіч, апусціўшы галаву, ішоў між магіл, і ніколі яшчэ так не хацелася яму кінуць усё і паехаць дамоў. Паехаць неадкладна, сёння ж... «Можа, памёр каторы брат, а я і не ведаю?..»

На вочы трапілася маладзенькая, беленькая бярозка. Яе хтосьці цюкнуў сякерай, і з пасечанага, як слёзы, бясконцым ланцужком капалі кроплі бярозавіку. «Гэта ж некалі і я бегаў з братамі ў лес піць сок...»

Падняў вочы і ўбачыў, як з могілак да вёскі ўслед за адзінокай падводай пасунулася купка людзей. Павольна і моўчкі, нібы смерць блізкага чалавека яшчэ болей іх з'яднала. А можа, напомніла лішні раз, што і яны не вечныя, што і ім некалі трэба будзе ісці на вечны супакой сюды, пад гэтыя панурыя, кашлатыя дрэвы.

Захар Пятровіч доўга і зацята глядзеў у спіны людзям. Потым пайшоў шукаць магілу, дзе толькі што былі людзі. І неўзабаве спыніўся ля жоўтага горбіка зямлі, ля якога стаяў, трымаючы ў руцэ шапку, з круглай лысай галавой чалавек. У ім Захар Пятровіч пазнаў брыгадзіра Пракопа Смарчка. «Яўхім Смарчок. Пражыў 43 гады»,— прачытаў старшыня на тоўстым дубовым крыжы выразаныя нажом словы.

Гэтага чалавека Захар Пятровіч ведаў. Дзён тры назад ён прыходзіў у праўленне і прасіў выпісаць дошак, каб падладзіць столь. Невысокі, плячысты, ён пераступаў з нагі на нагу і ўсё пхаў у кішэню штаноў заячую шапку.

— Хто ў яго астаўся — гледзячы на жоўты гарбок зямлі, спытаў старшыня.

Пракоп са сполахам ускінуў галаву — ён, мусіць, і не бачыў, калі падышоў да яго старшыня.

— Жонка. І трое дзяцей — ціха, амаль шэптам прамовіў ён.— Сухапарна памёр. Учора яшчэ шклянку гарэлкі ўзяў...

«Ён да мяне дошак прыходзіў прасіць на столь... А я не даў»,— хацелася сказаць Захару Пятровічу.

Але ён не сказаў гэтага. Пастаяў яшчэ трохі і паволі пайшоў з могілак...

Ён ішоў па пратаптанай людскімі нагамі сцяжынцы ўзбоч гразкай вясновай дарогі, не разбіраючы лужын, і думаў, што і яму хутка, зусім хутка трэба збірацца на супакой... «Мне ж ужо за пяцьдзесят... А Яўхіму толькі сорак тры. Трэба сказаць Пракопу, хай у праўленне зойдзе Яўхімава жонка. Паможам чым-небудзь...»

Ля калгасных гумнаў дагнала машына. Шафёр рэзка затармазіў, адчыніў дзверцы кабіны і крыкнуў:

— Захар Пятровіч, усё ў парадку!..

Але старшыня не чуў гэтага крыку і не спыніўся. Гэтак жа паволі ішоў па сцяжыне, забыўшыся надзець на галаву шапку...

Сонца заходзіла ўжо, і глёўкую, сырую зямлю падціскаў лёгкі вясновы марозік...

*1960 г.*

## НОВАЯ ХАТА

Увосень на вёсцы пахне кропам, сухімі грыбамі, бульбаю і бэрамі. Я прыехаў дадому якраз у той час, калі гэтыя пахі то прыемна спалучаліся, то адзін які-небудзь перабіваў усе другія. Было суха і цёпла. Свавольнік-вецер зусім яшчэ па-летняму ганяў па вуліцы гусіны пух, змятаў у парыжэлую траву пустое і лёгкае калоссе — яго пагубляў скрозь бахматы жоўты жнівень і выцерабілі да зерня куры.

Я сядзеў ля адчыненага насцеж акна і еў параную фасолю, калі дзверы адчыніліся і ў нашу хату ўбегла нізенькая, рухавая кабета. На ёй была яркая, квяцістая сукня, а вочы гарэлі радасцю.

— Дзень добры ў хату,— гукнула кабета.

Пастаяла ў парозе, акінула вачыма хату.

— Глядзіце, і Змітро якраз прыехаў— сказала яна праз якую хвіліну і, падышоўшы да мяне, борздзенька працягнула руку. Я ўстаў з-за стала і толькі цяпер пазнаў нашу колішнюю суседку Матруну Кук-

сянок. Да вайны з Куксянковымі мы жылі цераз вуліцу, і я іх добра ведаў. Асабліва Матрунінага мужа, Язэпа, бо ён быў, як кажуць, на ўсе рукі майстар: клаў печы, рабіў цабэркі і начоўкі, ладзіў боты. Жылі Куксянковы ў маленькай трухляваў хацінцы, якая перайшла па наступніцтву ад бацькоў і ўжо амаль урасла ў зямлю. Новую ж, прасторную хату яны будавалі — ужо былі ўкапаны штандары, начэсаныя цэлыя ярусы жоўтых смалістых бярвенняў.

І Язэп, калі браў за работу грошы, заўсёды казаў:

— Жонка, пакладзі і гэтыя на хату...

Я паціснўў кабеце сухенькую, шурпатую руку і жартам сказаў:

— А я вас, цётка, не пазнаў... Далібог, не пазнаў... Багатыя будзеце...

— Ды ўжо ж,— усміхнулася кабета,— цяпер нам з тваёю маткаю толькі і багацець...

І, не чакаючы, калі мы здагадаемся запрасіць, цётка Матруна прысела на ўслончык. І тут жа падхапілася:

— Ой, чаго ж гэта я саджуся... Як бы і рабіць няма чаго...— І ўжо да маёй маці, што таксама сядзела за сталом і ела фасолю.— Дык вы ж хаця прыходзьце, не пазніцеся... Удваіх, са Змітром...

— А што ў вас? — зацікавіўся я.— Мо хрысціны?

— І хрысціны неўзабаве будуць,— усміхнулася кабета.— Не ведаеш хіба — мой жа Рыгорка ажаніўся і, няўрокам кажучы, цьфу, цьфу,— здаецца, на гэта пайшло... А цяпер улазіны — мы новую хату паставілі...

Апошнія словы Матруна сказала так натхнёна і ўрачыста, быццам паведамляла пра нейкую незвычайную падзею. І тут я зноў успомніў, як Язэп марыў мець людскую хату, адкладаў на яе кожную лішнюю капейку... Ды хутка пачалася вайна, і Язэп болей у вёску не вярнуўся. Матруна адна ўжо гадавала траіх дзяцей. Яна папрадавала і лес, што некалі навазілі з мужам на новую хату, памяняла на бульбу нават штандары. А што не прадала, дык спаліла ў печы, бо ўзімку ў старой хаце стаяла страшная халадэча — праз дзіркі вятры выдзімалі ўсё цяпло...

І вось у Матруны новая хата, хата, якую пабудаваў сын і пра якую столькі марыў бацька!

Я спытаўся:

— А дзе ж вы яе ставілі? Можа, на тым месцы, што і да вайны?

— Ага, ага, на тым... Рыгорка мой сам і зрубіў, сам і накрыў, сам і вокны паўстаўляў... Ён увесь пайшоў па бацьку і крошачкі пабраў... За што ні возьмецца — усё зробіць...

Цётка Матруна пастаяла яшчэ трохі, мабыць, успамінаючы мужа, і ўзялася за клямку.

— Дык вы ж хоць прыходзьце,— напомніла яна яшчэ раз.— Не пазніцеся.

— Прыйдзем, абавязкова прыйдзем,— сказаў я.

*1960 г.*

## НІХТО НЕ ВЕДАЕ...

Перад захадам сонца Мірон выходзіць на падворак. Рыжы, калматы сабака, згледзеўшы гаспадара, з усіх ног кідаецца ў бульбоўнік. Нібы ведае, шэльма: лепей быць далей ад гэтага панурага, злоснага чалавека — нізавошта можа агрэць насцаком.

— Асюды тваю галаву,— лаецца Мірон і паволі, спакваля кіруецца за хату, на дрывотню. Тут церпка пахне прэлымі трэскамі, дажджавымі чарвямі, крапівою — ядраная, пякучая, яна буяе скрозь паўз платы.

Мірон шырока варушыць валасатымі ноздрамі, дастае з кішэні штаноў змяты крамны капшук, каструбаватыя нягнуткія пальцы звыкла круцяць папяросу, а вочы як бы прыкуты да суседскага двара. Там, за негустым альховым штыкетнікам, лапушыцца бульба, жоўтай квеценню гарыць агурэчнік, аж ірвуць зямлю буракі, морква. На двары пуста — толькі лянівa, спаважліва, перавальваючыся з нагі на нагу, брыдуць на седала натомленыя за дзень куры.

Раптам Міронаў твар яшчэ болей хмурнее і перасмыкаецца, сухія, жылістыя рукі пачынаюць дробна і часта калаціцца, з папяросы сыплецца на зямлю самасад,— з хаты выйшла маладзіца — Марыля, гаспадыня двара. На ёй чорная картовая спадніца, лёгкая

квятастая кофтачка; што на нагах — не відно. Абцірае аб фартух рукі, бярэ са штыкецiны драўляную даёнку і ідзе да хлява. Коратка і суха рыпяць старыя вароты, і вось ужо чутно, як цурчыць малако: цырк-цырк, цырк-цырк...

Яшчэ праз хвіліну з хаты выходзіць хлопец, без шапкі, у вішнёвай саколцы, пад пахай у яго — гармонік. Гэта Марылін сын — Сымон.

— Ну, мама,— крычыць ён,— я пайшоў!

— Пачакай, я карову зараз падаю,— чуецца з хлява.— Вып'еш хоць малака...

— Ладна, прыйду з вечарынкі, тады і вып'ю...— махае хлопец рукою і ідзе на вуліцу. Прыкладае да планак вуха, расцягвае гармонік, і вось пайшла ўжо, паплыла насустрач вялікаму і чырвонаму сонцу, што павісла над лесам і як бы не рашаецца ніяк упасці, песня:

Может счастье твое недалеко,
Я не знаю — его ли ты ждешь.
Что ты бродишь всю ночь одиноко,
Что ты девушкам спать не даешь?

Вачыма Мірон праводзіць Сымона, аж пакуль той не хаваецца за хатамі і платамі. Тады, зусім забыўшыся на папяросу, глядзіць на сонца. «Яно баіцца цемры і на ноч уцякае за лес»,— думае Мірон. Потым неахвотна, як на якую пакуту, вяртаецца ў хату. Бурчыць на дзяцей і жонку, якія закідалі, каб не было блох, палыном падлогу, распранаецца і кладзецца ў пасцель. Але засынае няхутка. Варочаецца з боку на бок, ахкае, уздыхае... Сэрца яго аж раздзірае гармонік,— Сымон грае ў калгасным клубе, пасярэдзіне вёскі, ды ў вечаровай цішы музыка гучыць гэтак чутна і свежа, бы пад самаю хатаю.

...Калісьці, яшчэ да вайны, Мірон кахаў Марылю, кахаў моцна, як нікога. Марыля была маладзей за яго год на сем, і, жывучы па-суседству, ён не спускаў з яе вачэй. «Як толькі падрасце, што можна замуж,— думалася яму,— адразу ж і пасватаюся...»

Ды Марыля абвяла яго, можна сказаць, вакол пальца: пакуль Мірон цікаваў за дзяўчынаю, не асмельваючыся гаварыць як з дарослай, Марыля закахалася ў хлопца з іхняй жа вёскі, Лявона Будаёнка, і з ім прастойвала навылёт ночы. Мірон, калі даведаўся пра гэ-

та, вечар ляжаў у разоры, сціскаючы ў руках камень: мерыўся разбіць Будаёнку галаву...

Але ні ў гэты вечар, ні ў наступныя ўсчаць бойкі Мірон не адважыўся... Адзінае, бадай чаго ён змог дабіцца, дык гэта ўгаварыў бацькоў, каб яго жанілі, і ў першаю ж суботу заслаў да Марылі сватоў з гарэлкаю і пірагамі... Хлопец ён быў хваравіты, і, мусіць, праз гэта Марыля дала яму ганьбу... Так, ва ўсякім выпадку, думаў сам Мірон...

Калі пачалася вайна і Будаёнка забралі ў армію, у Мірона зноў паявілася надзея мець Марылю за жонку: «Нідзе не дзенецца. Як заб'юць Лявона — пойдзе. За таго, хто першы трапіцца, пойдзе...» І ён і ўдзень і ўночы сачыў за Марылінай хатай: баяўся, каб не дай божа не запрыкмецілі дзяўчыну паліцаі ці немцы — тады пайшлі б усе яго надзеі і мары на ўзвей-вецер...

Неяк у глухую цёмную ноч восені вяртаўся Мірон гародамі з вёскі — хадзіў да былога свайго сябрука Жэнькі Бухмача, які служыў у паліцыі. З тым дзён тры назад здарыўся выпадак, пра які цяпер гаварылі ўсюды: калі Жэнька вёз у воласць нарабаваныя ў людзей валёнкі і кажухі для нямецкай арміі, у лесе яго перастрэлі нейкія невядомыя, нарабілі страляніны, і ён ледзь вынес ногі. Хацелася ведаць пра ўсё больш падрабязна, і Мірон заседзеўся... Увайшоў у свой двор і насцеражыўся: ля суседчыных сенцаў нехта шаптаўся, тулячыся да сцяны. Услухаўся і па галасах пазнаў Марылю і Лявона. «Адкуль ён узяўся?..» — невядомы страх сціснуў сэрца.

Аж да раніцы прастаяў Мірон на двары. З шэпту ён даведаўся, што Лявон і не думаў ісці ў армію — райком камсамола пакінуў яго ў лесе. «Гэта, мусіць, ён на Жэньку напаў,— прыйшло ў галаву.— А калі і не ён, дык нехта з ягонай хеўры...»

На другую ноч Мірон зноў убачыў у суседскім двары ля сенцаў Марылю і Лявона.

«Яго трэба забіць... Тады Марыля будзе мая...»

Гэтая думка ўсплыла нечакана сама сабою, і Мірон ледзь дачакаў світання. Тады выйшаў на гарод і ціхом, каб ніхто на бачыў, пазахлеўю, накіраваўся да Жэнькі.

— Ты ведаеш,— сказаў ён як не ў самае вуха Бухмачу,— хто цябе перастрэў у лесе і забраў дабро?

— Ну? — навастрыўся той.— А ты што, хіба ведаеш?

— Я-то ведаю,— знарок марудзіў Мірон.— Толькі ж табе скажы, дык раззвоніш, як баба, па вёсцы...

— Ты за каго мяне прымаеш? Во, магіла,— стукнуў сябе кулаком у грудзі Жэнька.— Ды калі на тое пайшло, дык мне нават выгадна, каб я што-небудзь такое зрабіў... Я ж табе расказваў пра тыя праклятыя валёнкі і кажухі — мяне ледзь з паліцыі не выгналі...

— Вось таму я і прыйшоў да цябе,— зноў зашаптаў як не ў самае вуха Мірон, хаця ў хаце спалі і ніхто не мог нічога пачуць.— Гэта Лявон Будаёнак. Яго пакінулі тут, у лесе, каб партызан згуртоўваў... Дзве начы ўзапар з Марыляю стаяў ля сенцаў, таксама ваяка... З бабамі...— хіхікнуў знарок Мірон.— Там і ўзяць яго льга. Толькі ж ты, Жэнька, ні гу-гу нідзе, што я табе такое сказаў...

— Што ты, магіла,— яшчэ раз стукнуў сябе кулаком у грудзі Жэнька, і вочы яго загарэліся.— Пачакайце, я дакажу вам, на што здольны Бухмач!..

Жэнька пачаў адзявацца, а Мірон вышмыгнуў за дзверы і зноў гародамі, пазахлеўю, падаўся дахаты.

Лявона ў наступную ноч узялі. Праўда, жывы ён не даўся: калі ўбачыў, што акружаны і ўцякаць няма куды, стрэліў у самога сябе. Загінуў і Жэнька — ён першы кінуўся на Лявона, і той мала не перапалавініў яго аўтаматнай чаргою...

Напрадвесні Марыля нарадзіла сына, і Мірон, счакаўшы трохі, зноў заслаў да яе сватоў. Але і гэты раз атрымаў ад варот паварот...

Скончылася вайна. Мірон жаніўся і жыў, не вельмі думаючы пра Лявона, Марылю і яе сына... Ат, зашчыміць невыказным болем сэрца, калі выпадкова сустрэнуцца на лузе ці ў лесе з Марыляю, і зноў клопаты, клопаты аб кавалку хлеба, палосе сенажаці, дрывах...

І ўсё б ішло добра, каб не пачуў ён аднойчы, што ў мястэчку знайшлі чалавека, які ў вайну забіваў сваіх жа людзей. Пазнаў яго хлапчук — ён нейкім цудам уцалеў і паранены, з перабітай нагою, ноччу вылез з ямы, у якую скінулі трупы, дапоўз да вёскі і выжыў...

З таго дня і пасяліўся ў Міронавай душы страх: «А што, калі ў вёсцы ведаюць і пра маё злачынства?..

Што, калі Жэнька пахваліўся каму, хто данёс на Лявона Будаёнка?»

І дзіўна: чым болей рос Марылін Сымон, тым болей рос у Міронавай душы гэты страх. Іншы раз нават здавалася, што Сымон ведае пра ўсё і толькі чакае моманту, каб адпомсціць за бацьку... Мірон тады не спаў па начах, а раніцаю, сустракаючы Сымона, пачціва здароўкаўся за руку і заглядваў яму ў вочы: яны былі прыгожыя, карыя, як і ў Лявона, і нічога не выдавалі, што носіць у сэрцы хлопец...

...У клубе танцы. Стукаюць аб падлогу, выбіваючы імклівую полечку, абцасы, рыпае, захліпаецца галасісты гармонік. Спяць даўно ўжо дзеці, мерна пасопвае носам побач і жонка. І толькі Мірон не спіць. Гаўкне на двары сабака ці скокне з комінка на падлогу кот — і ён падхопліваецца, бяжыць да акна: яму ўсё здаецца, што гэта крадзецца, ідзе Сымон, ідзе, каб пакараць яго...

*1961 г.*

## АНТОСЬ МІХЛІК

Можа б гэтая гісторыя, як дзесяткі, сотні іншых, забылася з часам і ніколі не ўсплыла ў маёй памяці, каб не адзін выпадак.

Быў я ўлетку дома, згадаў сваё маленства, тыя мясціны, куды дабіраўся, шукаючы грыбоў, ягад, арэхаў. І мне захацелася яшчэ раз прайсціся па тых незабыўных сцежках.

За гады, што не быў дома, усё навокал так змянілася, што я не пазнаваў лесу. Дзе быў стройны, вынасісты дубняк, які пляжылі хіба толькі на мачты караблёў, лыселі дзялянкі. І наадварот, на колішніх дзялянках і палянах падняўся і ўжо вёў гамонку з небам маладняк. А ў поўдзень я і зусім заблудзіўся, заблудзіўся ўпершыню за ўсё жыццё ў сваім лесе. Вось тады я і налучыў на глухую, зарослую берасклетам, арэшнікам і высокаю пажоўклаю папараццю паляну. На ёй стаяла адна-адзінюсенькая старая рачкаватая хвоя.

Я падышоў да яе і ўбачыў прадаўгаватую яму, з якой тырчалі падгнілыя калы, а ўскрай, у траве, ляжалі камяні. Я прыгледзеўся: у яме былі чалавечыя косці...

Я доўга хадзіў вакол гэтай не зусім звычайнай магілы, намагаючыся разгадаць яе таямніцу. І раптам мне на вочы трапіўся надпіс, што быў зроблены нажом на кары хвоі і ўжо густа заплыў смалою. З цяжкасцю я прачытаў: «Міхлік».

Я ведаў гэтага чалавека. Жыў ён наводшыбе, за вёскаю, непадалёку ад калгасных гародаў. Невялікая хатка яго, зрубленая пад чысты вугал, была дбайна абнесена высокім — у рост чалавека — частаколам. Сам Міхлік быў маленькі, нязграбны. Вочы чорныя, масляныя, як у крата. Вялікая шапка-васьміклінка з амаль вылупленым гузікам на макаўцы, рыжыя юхтовыя боты, якія, відаць, і не ведалі, што такое гуталін і дзёгаць, чорнае, з леямі, галіфэ рабілі яго пастаць смяшлівай і мешкаватай. Да таго ж пад носам у яго было нешта накшталт вусоў — дзве чорныя пасачкі зверху ўніз. Голас гугнявы, глухі. Дзе б ні паказаўся Антось — з яго ўсюды смяяліся: хто з росту, хто з вусоў, а хто і без дай прычыны, проста так.

Калі Міхлік ішоў па вуліцы, мы, malалеткі, высоўвалі з прачыненых весніц галовы і крычалі:

— Кабан, Кабан!

Мы ведалі, што Кабан — самая крыўдная яго мянушка. Пайшла яна быццам з таго, што ў маладосці Міхлік еў за добрых чатырох мужчын, еў, не ўнікаючы асабліва ў смак. Аднойчы, вярнуўшыся з пагулянкі, ён, расказвалі, выменціў цэлы чыгун тоўчанае парсюковае бульбы. Маці толькі сплюнула раніцою:

— Ясі ты, сынок, як не ў сябе, што кабан, і цябе чорт есць...

Антось быў у вёсцы адзіны аднаасобнік.

— Я і сёння пайшоў бы ў калгас... Ды, братка ты мой, памяркуй сам... З мяне ж работнік, як з цяляці вол... Смяяцца толькі будуць, кпіць... А навошта гэта мне?.. Я сам сабе буду неяк кідацца...— казаў ён кожнаму, хто напамінаў пра калгас.

Сапраўдная ж прычына хавалася, мусіць, не ў гэтым. Яго бацька — кулак-міраед — запаліў свой млын-

вятрак і свіран са збожжам, калі даведаўся, што ўсю яго маёмасць абагуляць, забяруць у калгас. Бацьку тады ж выслалі, а сына, недарослага, хваравітага, пашкадавалі. З тых дзён, мусіць, затаіў Антось злосць на калгас. Пра гэта аднавяскоўцы здагадваліся, але маўчалі.

Мы, дзеці, неўзлюбілі Міхліка за тое, што ён балюча сцябаў, хвастаў сырцовай пужкаю кожнага, хто ўхітраўся пачапіцца на дышаль скрыпучага вазка, на якім Антось ездзіў на заробкі ў лясніцтва. Мне ён аднаго разу, злавіўшы, вымазаў усю спіну каламаззю. Задраў кашулю і па голым целе — пэц, пэц квачом...

І таму, як толькі я бачыў, што маці збіраецца ісці на калгасны гарод, я ўцякаў з дому. Маці, вядома, мяне лавіла, давала гучных плескачоў і ўжо сілком вяла з сабою. На полі яна кешкалася ў градах, а я сядзеў і праз шчыліну ў плоце глядзеў на чырванабокія яблыкі і крамяныя грушы, што аж гнулі голле ў Міхлікавым садзе. У нас не было тады свайго саду — вымерз неяк зімою. І спакуса залезці ў чужы сад была вельмі вялікая. Але я стрымліваў сябе: баяўся Міхліка. Боязь гэтая яшчэ пабольшала, калі, вяртаючыся з гарода, я ўбачыў, як Міхлік выкідаў з ластаўчынага гнязда голых птушанят. З жаласлівым піскам яны падалі на зямлю, дзе іх ужо чакаў вялізны шэры кот. Ён яшчэ на ляту лавіў птушанят, прыціскаў лапаю і, аблізваючыся, еў. Старыя ластаўкі-бацькі насіліся над страхою, крычалі.

— От гадаўё... Вокны ўсе пазапаскуджвалі...— павярнуўшы галаву ў наш бок, сказаў Міхлік.

Маці прашаптала:

— Нелюдзь... Яму ўсё мяшае...

Зімою, ужо пры немцах, я прыбег, запыхаўшыся, з вуліцы ў хату. І разгубіўся... У хаце ўсё было перавернута дагары нагамі: скрыня, дзе хаваліся нашы пажыткі, стол, канапа. На падлозе валяліся падраныя бацькавы рукавіцы, старая коўдра, посцілкі, бялізна. Сувой палатна раскаціўся праз усю хату, нібы збіраўся ўцякаць і яго перахапілі ля самага парога. На цвічку, у запечку, не было кажушка, якім я ўкрываўся ўночы, бо ў хаце заўсёды стаяла халадэча, хоць ваўкоў ганяй. Не было і валёнак.

Маці сядзела на ўслончыку і плакала.

— Што гэта, мама? — падышоў я да яе.

— Міхлік пагаспадарыў... Кажа, немцам трэба...

А вясною, калі паўз платы прабіваліся крапіва і мята, вёску акружылі карнікі. Яны заходзілі ў кожную хату і забіралі ўсіх, каму было больш за пятнаццаць год. Казалі, падлеткі памагалі партызанам біць паліцаяў і эсэсаўцаў, палілі масты, расклейвалі лістоўкі. Пра арганізацыю пранюхаў Міхлік. Ён і данёс...

Праз тыдзень трыццаць шэсць юнакоў і дзяўчат немцы загналі ў калгаснае гумно і спалілі...

Я добра помню гэты дзень...

Ужо не беглі ручаі. Ад іх асталіся на вуліцы толькі жоўтыя разоркі. З зямлі падымалася лёгкая пара, пахла зелянінай. Радасна шчабяталі ластаўкі, звінелі ў полі жаўрукі. Клекаталі на хлявах буслы, мусіць, палохаючы жаб, што ні на хвіліну не змаўкалі ў азёрах-лужынах.

Чуць свет нас выгналі з хат. Хто не выходзіў, расстрэльвалі на месцы. Не разабраўшыся, карнікі забілі нават нашу суседку Мархуту, маці трох сыноў-паліцаяў, якая не захацела разам з усімі выходзіць са свайго дому...

Падлеткаў прывезлі ў поўдзень. Змучаных, акрываўленых... У некаторых былі павыколваны вочы, павыкручваны рукі, паламаны ногі. На ганак клуба, дзе мясцілася нейкая нямецкая ўстанова, выйшаў каратканогі, таўстагубы афіцэр.

— Оні ест партызанен... Вір паліць усіх будзе!..

Каля афіцэра, нібы сабачка, апусціўшы ў зямлю вочы, круціўся Міхлік, стараста, паўтараючы раз-пораз:

— Я, я, пан гер...

Што яшчэ? Хіба тое, што здрадніка ў тую ж ноч не стала. Паліцаі збіліся з ног, шукаючы яго жывога ці мёртвага. Але дарэмна. Зніклі нават сляды...

Нечалавечае было яго жыццё, нечалавечай была і смерць...

*1960 г.*

# З ЦЫКЛА «АПАВЯДАННІ ЖЫВОЕ ПРЫРОДЫ»

## ГАЛІНКА

Гэта была незвычайная Галінка.

На іншых па два-тры яблыкі, а на ёй, нібы хто наўмысна паначэпліваў — рэпехам вісяць. І гэтак з году ў год. Як не да самай зямлі гнецца, бедная, крэкча ад цяжару, трашчыць у ветраны дзень — так і глядзі, што зломіцца,— а ўсё роўна не перастае радзіць.

І ўсё праз тыя салодкія словы пахвальбы, што ўмела падсыпаў Галінцы гаспадар — сівабароды і вельмі хітры дзед.

— Дурная,— казалі ёй сяброўкі.— Кінь лезці са скуры... Падарвешся і загінеш.

Але Галінка не слухалася сяброўак. «Ад зайздрасці гэта,— думала яна.— Бач, гаспадар іх нават не заўважае, а мяне хваліць».

І як год, дык Галінка ўсё болей і болей урадлівай была.

Неяк уночы немаведама чаго ўсхадзіўся забіякавецер. Шкамутаў саламяныя і чаратовыя стрэхі, злосна кідаў і рваў чупрыны дрэў.

Наляцеў ён і на яблыньку. Што было сілы гайдануў яе,— Галінка не вытрымала і ададралася...

Раніцою ў сад прыйшоў гаспадар. Агледзеў яблыньку і са злосцю вылаяўся: праз адну галінку, маўляў, можа такая добрая яблыня без пары ўсохнуць...

## МУХА

У пагодлівы дзень лета між сухіх вербалозавых кустоў лятала Муха. Дзыкала, весялілася, бо вельмі ж рада была сонцу, бязветранаму надвор'ю і цішы, што панавала навокал. І не заўважыла, як трапіла ў сетку, якую так умела расставіў павук-крывасмок. Кінулася Муха сюды, кінулася туды, замахала крыльцамі, забіла ножкамі, ды з павуковага сіла не вырвалася. Тады ў адчаі яна пачала кідацца то ў адзін, то ў другі бок, бязладна рвацца абы-як і абы-куды. Стоміцца, пася-

дзіць, адпачне і зноў ірвецца... І гэтак да таго часу, пакуль да яе не падпоўз сам уладар сеткі вялізны лупаты павук...

Бедная! Яна і не ведала, што чым болей намагаецца вырвацца з павуціны, тым усё болей заблытваецца ў яе...

## ДУБ

Стаяў ён на ўскрайку, пры самым уездзе ў лес. Стройны, выносісты, толькі невялічкі венчык галін гайдаўся ў вільчыку. І хто ні ехаў, хто ні ішоў — любаваліся прыгажуном: «Во каб усе дубы былі такія!..»

Аднаго разу наляцела навальніца. Доўга яна гуляла па лесе: ламала сухастой, прабавала, як моцна, глыбока ўраслі ў зямлю карэнні старадрэвін. Дайшла чарга і да Дуба. Не стрымаў ён націску ветру і ляснуў проста на дарогу...

І цяпер хто ні ехаў, хто ні ішоў, бачылі, што прыгажун Дуб усярэдзіне зусім гнілы, дуплаваты...

*1960 г.*

## З кнігі «Зямля маіх продкаў»

# СОН

...Нідзе ні кусціка, ні дрэўца — вакол, куды ні глянь,— белае, чыстае поле. Дзьме калючы сіберны вецер, і доўгія сівыя пасмы снегу са свістам і гікам паласуюць дол — гуляе дзікая студзеньская завіруха. Дарогу замяло, не пазнаць, дзе поле, а дзе наезджаны пласт — усюды снег. І я, правальваючыся як не да самых пахаў, брыду па гэтым снезе. Куды?.. Чаго?..

А-а, ды гэта ж я пакінуў свой дом. Маці ўзяла прымака, нейкага аднавокага худога дзядзьку, ад якога мо на цэлы кіламетр смярдзіць курывам, і я, не могучы трываць таго ў нашай хаце, пайшоў з дому. Хай мой бацька і загінуў на фронце, хай ён болей не вернецца, але ж які ён быў добры,— гушкаў мяне на руках, смяяўся, казытаў ласкавай, калючай барадою!

Азіраюся і бачу маці. Яна стаіць на ўездзе ў вёску ля старога, пахіленага крыжа. Стаіць, захінуўшыся ў хустку, і махае мне рукою.

— Васілёк, вярніся-а-а! — крычыць яна.

Вецер заглушае матчыны словы, але мне здаецца, што я ўсё роўна іх чую.

Ад крыўды, холаду і злосці я калачуся. І, вядома, не вяртаюся — брыду далей. Брыду і плачу, плачу так горка і горна, што аж... прачынаюся.

Ля мяне, на ложку, сядзіць жонка. Тузае рукою за плячо і спалохана пытае:

— Чаго ты плачаш?..

Я расказваю, што сніў.

— І гэта папраўдзе было?

— Было.

— І куды ж ты пайшоў тады?

— На станцыю. Сеў на цягнік і паехаў у горад. Там

уладкаваўся на карабель і некалькі год плаваў. Пасля дараваў усё маці і вярнуўся дадому.

— І што? — ужо з цікавасцю пытае жонка.

— Самае неспадзяванае: не застаў ні прымака, ні маці. Суседзі расказалі, што прымака маці прагнала ў той жа дзень, калі я пайшоў з дому. Сама ж паехала шукаць мяне. І не знайшла. Прастудзілася, занядужала і памерла... Пахавалі чужыя людзі. І я, адзіны яе сын, не быў пры гэтым...

Зноў плачу, цяпер ужо не ў сне...

*1962 г.*

## БУКЕТ БЭЗУ

Зінаіду Паўлаўну я ўспамінаю заўсёды з душэўным болем і лёгкім шчымлівым сумам. Вось і цяпер бачу блакітны ранак далёкага першага верасня, калі мы, вучні невялічкай палескай сямігодкі, апранутыя як хто, але ўсе аднолькава радасныя і ўрачыстыя, тоўпіліся ля ганка школы. Над ганкам вецер трапаў даўгую палоску шпалераў, на якой няроўнымі чырвонымі літарамі было напісана: «Калі ласка, таварышы!» На прыступках — дырэктар, грузны, лысы, у чорным, па-святочнаму адпрасаваным касцюме, у белай вышыванай кашулі. Махае перад сабою рукою і хрыпаватым басам віншуе нас з пачаткам новага навучальнага года...

Потым мы разбегліся па класах, дзе было чыста і так добра пахла крэйдай і фарбамі. Селі за парты, выцягнулі з сумак сшыткі, кніжкі і чакалі, калі нарэшце зойдзе яна, наша новая настаўніца.

Забрынчаў званок, і амаль у той жа момант дзверы асцярожна адчыніліся і ў клас увайшла яна, маленькая, шчуплая, з універсітэцкім ромбікам на лацкане пяшчотнай гранатавай кофтачкі — валасы светлыя, пышныя і спадаюць на лоб дробнымі пасмачкамі.

— Добры дзень,— сказала гучна і весела і пачырванела — ці не ад хвалявання. Падышла да стала, разгарнула журнал.— Я буду ў вас класнай кіраўні-

цай і буду весці матэматыку. А цяпер давайце знаёміцца. Зваць мяне Зінаіда Паўлаўна, а вас...

Яна ўсміхнулася і пачала дрыготкім і вельмі напеўным галаском выклікаць усіх нас па парадку па спісу. І мне — не ведаю чаму — захацелася зрабіць нешта такое, каб сапсаваць усю святочнасць гэтага дня, сапсаваць новай настаўніцы настрой. Я выняў з кішэні шпільку і ткнуў ёю ў бок сябру па парце. Той раўнуў, як бык, на ўвесь клас.

Шчокі ў Зінаіды Паўлаўны запунцавелі, яна паволі паднялася і, уставіўшыся ў мяне блакітнымі вачыма, алоўкам паказала на кут...

І гэта падліло масла ў агонь.

Назаўтра я залез у калгасны сад, і вартаўнік прыбег за мною проста ў клас. Класная кіраўніца загадала мне высыпаць на стол налатошаныя грушы і яблыкі. Я не паслухаўся, і зноў, гэты раз аж два ўрокі, прастаяў за партаю...

Праз дзень я натварыў яшчэ нейкага глупства. А там і пайшло...

Ніхто ні дома, ні ў школе не мог зразумець, што са мною сталася. Раней па матэматыцы я меў толькі выдатна і добра, цяпер жа насупраць майго прозвішча ў журнале заскакалі тройкі, двойкі і нават адзінкі...

Мяне вадзілі ў настаўніцкую, выклікалі да дырэктара. Але нічога не памагала. Варта толькі было ўбачыць у класе Зінаіду Паўлаўну, як мяне так і цягнула зрабіць які выбрык.

Класная кіраўніца сачыла за мною вельмі раўніва, старалася не прапусціць нават маленькай маёй правіннасці. Потым раптам нібы яе хто падмяніў. Што б я ні рабіў — яна не звяртала ўвагі. І гэта злавала мяне больш за ўсё. Не маючы як адпомсціць настаўніцы, я пачаў жадаць Зінаідзе Паўлаўне якой хваробы.

Ды класная кіраўніца не хварэла. Яна была ўвішная і дакладная і заўсёды роўна ў дзевяць пераступала парог нашага класа.

Захварэла Зінаіда Паўлаўна нечакана вясною, перад самымі экзаменамі. Упершыню за ўвесь год яна не прыйшла ў школу роўна ў дзевяць, і мы аж дзве гадзіны бегалі па двары. Не прыйшла яна і заўтра і паслязаўтра... І тады я ўспомніў, як некалі хацеў настаўніцы хваробы. Успомніў, і мне здалося, што ва

ўсім вінаваты я і толькі я. Гэта я не даваў ёй спакою, гэта я не раз даводзіў яе да слёз. Каб не я, Зінаіда Паўлаўна не падарвала б здароўя і не хварэла б...

Са школы я прыходзіў пануры і злосны. Урокі ані не лезлі ў галаву, і я цэлымі днямі блукаў абы-дзе — у полі, па лесе. Неяк нават трапіў у стары, запушчаны папоўскі сад. Там, сярод здзічэлых кустоў парэчак і маліннiку, я знайшоў кусцік бэзу. Адна галінка пасталела і ўжо выкінула першую гронку кветак. Ліловыя зорачкі аж ірдзелі ад свежасці і расы.

І тут я падумаў: як было б добра цяпер падараваць Зінаідзе Паўлаўне букет такога вось роснага ліловага бэзу...

Адвячоркам, калі змерклася, я сеў на веласіпед і паехаў у мястэчка — яно было кіламетраў за пяць ад нашай вёскі. Там, я добра ведаў, у агародчыках цвіў бэз. Памятаю: як толькі я выехаў за вёску, насустрач мне з-за лесу выплыла нізкая чорная хмара. Паветра калатнуў гром. Але я не вярнуўся назад. Наадварот, я ўзрадаваўся — у навальніцу лягчэй будзе красці бэз...

Я не памыліўся. У самы лівень, мокры да апошняй ніткі, я пералез праз нечы высокі дашчаны плот і пад самым акном наламаў цэлае бярэма бэзу.

Усю ноч я не спаў — сядзеў у двары, дзе жыла на кватэры наша класная кіраўніца, і чакаў моманту, каб незаўважна занесці ў хату бэз. Гэты момант надарыўся толькі на досвітку, калі гаспадыня, старэнькая і глухая на адно вуха бабулька, пайшла ў хлеў даіць карову. Я ціхенька прачыніў дзверы і проста на кухні на стол палажыў вялізны росны букет.

...Зінаіда Паўлаўна хутка ачуняла і зноў прыйшла ў школу. І дзіва — мне здалося, што дабрэйшай і прыгажэйшай настаўніцы за яе не было яшчэ ніколі ў нашай школе...

*1962 г.*

## ЧАРАВІКІ-ТУФЕЛЬКІ

З інстытута прыбегла радасная, узрушаная. Мімаходзь кінула на стол папку і ветрам уварвалася ў бацькаў кабінет.

— Папахен, у нас у суботу вечар! — гулліва крыкнула яшчэ з парога.— Мне трэба новыя туфлі.

Стары, лысы да апошняга воласу прафесар зняў акуляры, асцярожна палажыў на стол ручку, якою толькі што пісаў новую сваю работу, і, стомлена пацiраючы даланёю скроні, сказаў:

— Лізачка, хто ж гэтак гаворыць з бацькам?

— А што? — здзівілася дзяўчына.

— Па-першае, я табе ніякі не папахен, а тата,— устаючы з-за стала, сказаў прафесар.— Па-другое... Прысядзь, калі ласка, дачушка, на канапку.

Ліза села.

— Я вось што хацеў табе сказаць,— пачаў прафесар, прысаджваючыся да дачкі.— Як ты ведаеш, я таксама не нарадзіўся адразу прафесарам і некалі вучыўся ў інстытуце. Дык вось. Калі мне было столькі год, як табе, са мной здарыўся адзін прыкры выпадак: у мяне падраўся чаравік. У майстэрні паабяцалі адрамантаваць яго праз дзень. А паколькі другіх чаравікаў я не меў, то назаўтра ў інстытут я пайшоў босы. Пайшоў рана, чуць свет, каб ніхто не бачыў. Сеў у самы куток...

— Далей можаш не расказваць,— перапыніла Лізa бацьку.— Я ўсё ведаю...

— Што ж ты ведаеш? — усміхнуўся прафесар.

— Усё, усё ведаю. Ведаю, што табе не адрамантавалі таго чаравіка ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень... І ўсе гэтыя дні ты хадзіў босы на лекцыі... Ведаю, што табе штогод хоць раз ды сніцца, як ты босы, ужо прафесар, ідзеш па праспекце ў інстытут. Ведаю, што ты будзеш цяпер пытаць, колькі пар туфляў у мяне. Мне абрыдла ўсё гэта слухаць, я не хачу, не хачу твайго нічога!..

Падхапілася, тупнула абцасікам моднай туфелькі і, уся ў слязах, выбегла з кабінета, моцна ляпнуўшы дзвярыма.

Стары прафесар паківаў галавою і ўстаў з канапкі. Прайшоўся сюды-туды па кабінеце, потым сеў за стол.

Але болей не мог напісаць ні радка — у галаву лезла зусім другое.

Адсунуўшы ўбок паперы, ён перабіраў у памяці зноў усё сваё жыццё, думаў, як гэта і чаму так здарылася, што яго не разумее і не хоча разумець родная дачка...

*1962 г.*

## АДВЕДКІ

Уночы Міхась сасніў маці. Здаецца, яны з Алёшкам, братам, пяклі на паляне пячонікі, а маці, родная, бясконца дарагая маці, стаяла збоку, за дубам, глядзела на іх і так лагодна, ласкава ўсміхалася.

«Як даўно я не быў у яе! — падумаў, прачнуўшыся, Міхась.— Дзевятнаццаць... Не, хутка ўжо дваццаць год...»

Кінуў усякую неадкладную работу, праз якую даўно не меў ні хвіліны вольнага часу, і ў той жа дзень купіў білет, сеў на цягнік і паехаў. І ўжо назаўтра, у поўдзень, шыбаваў вузкаю лясною дарогай. Быў якраз чэрвень, і Міхась дзівіўся, колькі напладзілася сёлета шпакоў. Іншы раз яны пырхалі з-пад самых ног цэлай плоймай і, адляцеўшы крокаў за пяць, імкліва падалі зноў у траву, уздымаючы неверагодны гам і піск. Міхась успамінаў, што і ў тое лета, калі яны ўцякалі ў партызаны, было гэтулькі ж маладых шпачкоў. Толькі дзень быў зусім інакшы — не насуплены, хмуры, а светлы, парны — варыла, як у катле. А мо гэта толькі так здавалася, бо вельмі ж спяшаліся — беглі, збіваючы да крыві аб карэнні ногі, за возам. Мінулі брод і зусім неспадзявана наскочылі на пень: трэснула вось, задняе кола адкацілася далёка ўбок. Рамантаваць, ладзіць калёсы не было калі — ззаду, за які кіламетр, былі карнікі, быў вораг. І яны, пакідаўшы ўсе свае пажыткі, рассыпаліся па лесе.

Дарога цяпер не тая, вузкая, калёсная, што была некалі, а шырокая, з рубцаватымі каляінамі машынных шын і глыбокімі, умятымі слядамі гусеніц тракта-

раў. Лес усюды дробны, рэдкі — дзялянка на дзялянцы. Згніў пень, аб які тады, дваццаць год назад, зламалі вось. Няма і броду — высах; на яго месцы толькі бялее сухі, сыпучы пясок.

Недзе тут, за бродам,— трэба ж такому здарыцца,— Алёшка вывіхнуў нагу. Трапіў у ямку і заенчыў ад болю...

«Дзе, дзе гэта было?»

Міхась збочыў з язджалай дарогі і, расхінаючы рукамі галлё маладога зарасніку, пабрыў па лесе.

...Праз гэтую нагу Алёшка і загінуў. Загінула з ім і маці, бо яна не магла падацца разам з усімі ў Рачалаўскую пушчу — Алёшка не мог ступіць і кроку. Несці ж яго на сабе не было сілы. І яны сям'ёю, адны пашыліся ў лазнякі, у гнілое, непраходнае балота. Залезлі па самую шыю ў густую рыжую твань і сядзелі там, аж пакуль на іх не напароліся карнікі. Алёшка, убачыўшы іх, перапалохаўся і крыкнуў. Маці схапіла яго на рукі, памкнулася на сухое — хацела ўцякаць. А гэта рабіць ніяк нельга было — немцы адразу ж яе заўважылі і скасілі першай аўтаматнай чаргой. Толькі крокаў на два адпоўз ад маці і Алёшка...

Ён жа, Міхась, угнуўшы ў самыя плечы галаву, пабег назад, у гушчэчу... Ці гналіся за ім, ці стралялі?.. Ён не чуў, не бачыў — уцякаў...

Пасля, праз дзень, калі мінулася блакада, вярнуўся паназад, у лазнякі. І не знайшоў ні Алёшкі, ні маці. Падабраў іх хто нежывых ці ўцягнула ў сябе, пахавала багна...

«Мама, мама, чаму ты зрабіла так, чаму не заціснула Алёшку рот, чаму пабегла з ім на сухое...»

Міхась ішоў па лесе і падоўгу спыняўся амаль каля кожнага дрэва, ля кожнага куста — усё хацеў знайсці тое месца, дзе загінулі яго родныя — маці і брат. Шыўся ў густы, як ноч, зараснік, лез у непраходныя лазнякі, кружыў узбоч таго балота... І ўсё дарэмна. Не той быў лес, не тое было і балота — не гнілое, гіблае, а сухое, парэзанае ўздоўж і ўпоперак стрэлкамі, канавамі...

«Мама, Алёшка, дзе вы?» — як не крычала ў ім усё ўсярэдзіне, і Міхась ішоў і ішоў па лесе, аж пакуль не спаткнуўся аб камель сухой старадрэвіны, што, мусіць, павалiла бура. Спыніўся, прысеў, ашчаперыў рукамі скроні...

Калі ўсё навокал ацямнела, зацягнулася летняй, вечаровай шэранню, ён падняўся. Насунуў на самыя вочы шапку і памалу, стомлена пабрыў назад, на станцыю...

*1962 г.*

# ПЕРШЫ КРОК

На гэтым свеце Петрусёк яшчэ вельмі-вельмі нядаўна. І куды ён ні памкнецца, куды ні зазірне — усюды бачыць гэтулькі ўсяго новага, невядомага, ажно кружыцца галава. Яму пакуль няма ніякага клопату да бацькі, да таго, што той за ўсю ноч так і не звёў вачэй за рулём трактара, а прыйшоўшы дамоў, перакусіў і ўпаў на ложак, каб заснуць. Не турбуе малога і віск свіннёй, якім замешвае ў сенцах маці. Згледзеўшы, што ў хаце ён адзін і што б ні рабіў — яму ніхто не перашкодзіць, Петрусёк надумаў разгадаць таямніцу той светлай плямы, якая ранкам кожнага дня сцелецца пасярод хаты ля крывых ножак стала.

Зрабіць гэта аказваецца не так лёгка. А тут яшчэ, як на тое, адсоўваецца і адсоўваецца назад пярэсты палавічок, якім заслана падлога. Але Петрусёк на ўсё гэта не зважае — паўзе і паўзе наперад. Шлёп, шлёп, шлёп... Спыніўся, паглядзеў, ці далёка, і зноў: шлёп, шлёп, шлёп...

А вось, нарэшце, і яна, тая пляма. Асцярожна працягнуў пухленькую ручку, растапырыў, як толькі можна, пальчыкі і хап цэлую жменю таго светлага, лёгкага, што паслалася пад сталом. І амаль у тую ж хвіліну расчапіў кулачок: няўжо выпала, уцякло? Агледзеўся вакол, ды, так і не зразумеўшы, што ж здарылася, зноў асцярожна працягнуў ручку да плямы. Зноў растапырыў пальчыкі, зноў хап і хуценька-хуценька ў рот. І зноў няма нічога.

Тады Петрусёк памацаў даланёю маснічыны і — шлёп у самую сярэдзіну плямы. Тая ж цвёрдая падлога, тыя ж пафарбаваныя ў жоўты колер крывыя ножкі

стала. Толькі нешта слепіць вочы, аж не дае глядзець у акно. Што за дзіва?

Петрусёк круціўся, варочаўся, прымерваўся і так і гэтак, але разгадаць таямніцу светлай плямы яму так і не ўдалося. Ды гэта не збянтэжыла яго, не раззлавала. Вочы ўбачылі пад ложкам боты — вялізныя бацькавы боты, на якія па самыя халявы наліпла мокрая ад расы вясновая ралля. Папоўз пад ложак. І тут угледзеў на сцяне, трошкі бліжэй, чым боты, муху — прыгожую, жвавую, з танюсенькімі празрыстымі крыльцамі. Вось каб злавіць!

Падпоўз, узяўся за ложак, падцягнуўся на руках. Высока! Яшчэ раз падцягнуўся і... гоп — стаў на ножкі. Сам, без чыёй бы там ні было помачы, стаў на свае ногі. А муха — дзык — і паляцела.

Ловячы муху, Петрусёк так захапіўся, што і не заўважыў, як з падушкі прыўзняў галаву бацька, пачаў пільна цікавацць за сынам. Нічога не скажаш: упартае хлапчанё!

А хлапчанё тым часам ужо адняло ад ложка руку і працягнула яе да сцяны. Зморшчылася, скрывілася, ледзь не заплакала. Потым раз — перанесла і другую руку да сцяны і зрабіла, таго не ведаючы і само, першы крок. Але тут ногі закалаціліся, задрыжалі, рукі не знайшлі за што б ухапіцца — Петрусёк хіснуўся і пляснуўся на падлогу. І ў тую ж хвіліну заплакаў, закрычаў...

— Га-а-а!..

Бацьку як ветрам здзьмула з пасцелі. Падхапіў малога на рукі, прыхінуў да грудзей.

— Малайчына, малайчына ты, Петрусёк,— тулячы сына да сябе, шаптаў ён ад радасці.

Адчыніліся дзверы і ў хату не ўбегла, а ўляцела перапалоханая маці.

— Што з ім? — з трывогай спыталася яна.

— Нічога,— адказаў бацька.— Падшыванец хадзіць ужо хоча. Адзін крок зрабіў і ўпаў.

— Праўда? — не паверыла маці.

— Далібог, праўда. І як ступіў! Ад ложка да сцяны. Цяпер толькі і пільнуй, каб носа не разбіў.

Маці прыпала тварам да Петруська, пацалавала замурзаны лобік.

— Ды не плач, не плач ты,— сказала яна смеючы-

ся.— Падаць жа будзеш яшчэ ўга колькі! І як! Усё аплакваць слёз не хопіць...

Бачачы, што маці і бацька лашчаць яго і смяюцца, Петрусёк зашморгаў носам, забрыкаў нагамі і ўсміхнуўся — усміхнуўся радасна, па-свойму, па-дзіцячы, на ўсе свае чатыры маладзенькія белыя зубочкі...

*1962 г.*

## У ХАЦЕ ТРОЕ

Бяда заўсёды прыходзіць неспадзявана і адтуль, адкуль яе менш за ўсё чакаеш. Хіба ж мог думаць стары нядошлы Амброзім, ставячы старасту пляшку самагонкі, што той праз які дзень прынясе ў хату такую страшную навіну — яго, Амброзімавага, сына, Кузьму, заўтра забяруць у Нямеччыну на прымусовыя работы. Хай бы лепей ён смалы напіўся, гад печаны, хай бы яго распёрла ды парвала ад той гарэлкі...

Амброзім ляжыць на ложку, уставіўшыся вачыма ў столь. Побач, тварам да сцяны, укруцілася ў коўдру Хвядора, жонка. Маленькая, сухенькая, гарэтная — адны косці. Кузьма на печы, на чарані. «Хіба вазьму, тата, ды пасплю я гэтую ноч на печы. Можа і не давядзецца болей...» — сказаў увечары, як клаўся. І цяпер сынавы словы не выходзяць у Амброзіма з галавы. Нямеччына — не блізкі свет. Усюды забіваюць, бамбяць, паляць — жудасная вайна, і хто ведае, што напаткае нават заўтра кожнага...

У хаце — цішыня. Мерна цікаюць на сцяне ходзікі, суха, з адцяжкай трашчаць — лопаюцца ад марозу знадворку вуглы — люты студзень і сама што ўпяклі, узырылі халады.

Амброзім сцягвае з сябе коўдру, устае — усё роўна не заснеш. Трэба ж, каб на сям'ю звалілася гэткае гора,— сына, адзіную, апошнюю надзею, крывінку яго, хочуць забраць, звезці на чужыну. Асцярожна, каб не разбудзіць жонкі — хай спіць, калі спіцца,— ссоўваецца на падлогу. Намацвае пад лавай ступакі, саджае ў

іх ногі, апранае кажух. Але ісці няма куды. Людзі спяць. Дый з кім ты будзеш дзяліцца сваім горам — яго і так хапае ў кожнай хаце. Як пасялілася ў той страшны чэрвень, дык нікуды і не выходзіць.

Седзячы на лаве, Амброзім прыслухоўваецца, ці спіць Кузьма. Дыханне роўнае, ціхае. Пэўна што спіць, бо з печы час ад часу чутно, як прысвіствае Кузьма носам: ведама, малады, дзе яму ведаць, якое жыццё пачнецца ў яго заўтра. Спіць — ні аб чым не думае. А Амброзім нават на хвіліну не можа звесці вачэй — думае... Думае пра ўсё: і пра блізкую адзінокую старасць, і пра трох старэйшых сыноў — Сцяпана, Грышу, Косціка,— што як пайшлі два гады назад па мабілізацыі з хаты, дык нібы ў ваду канулі; думае і пра Кузьмова быццё на чужыне... Сам Амброзім добра ведае, што такое чужына — уелася яна яму ў самую пячонку,— не дзіва, некалі, яшчэ ў імперыялістычную, ён трапіў да немцаў у палон і прабыў там мала не тры гады. Таго, што пабачыў і перажыў, не зычыў бы і свайму ворагу. А тут сын, родны, апошні сын!..

Падняўся з лавы, прайшоў да парога. Пастаяў, потым праз хвіліну вярнуўся назад, да ложка. Падумаў: «Яшчэ разбуджу хадою Кузьму і жонку». Распрануўся, зноў лёг у пасцель. Сцішыўся — і пачало блюзніцца, успамінацца, як мясілі яны — цэлая калона такіх жа няшчасных, абадраных палонных — у халодную асеннюю імжаку дзеравяшкамі глiністую расчвяклую — аж не выцягнуць нагі — баварскую гразь — хадзілі рваць і грузіць на ваганеткі да баўэра цукровыя буракі; як ён, гэты баўэр, прывозіў у драўлянай бочцы, пастаўленай на двухколку, у абед яду — рэдзенькі — акурат, як кажуць, крупіна за крупінай ганяецца з дубінай — брукваны нішчымны суп і наліваў яго па чарпачку — які там чарпачок, дзіцяці і то мала, не то што дужаму на шлунне мужчыну — кожнаму ў бляшаную міску; як спаў проста на голых нарах у бараку, і ў яго на назе адкрылася рана, і нельга было ступіць і кроку, а канваір-пыганяты ўсё лаяўся: «Доннэр веттэр, варфлюхтэ бандэ, русішэ шайзэ...»

Не заўважыў, калі ўстала з пасцелі Хвядора. Пратэпала амаль нячутна па падлозе і села на ляжанку, бліжэй да сына. Сцішана зарумзала, уткнуўшыся ў нешта мяккае тварам. А ён жа, Амброзім, думаў, што

яна спіць! А можа і яна думала, што ён заснуў?.. Пайшла, каб даць волю слязам...

Амброзім устаў, прайшоўся па хаце і таксама прысеў на ляжанку. З краёчку, ля самай жонкі.

— Хвядора,— сказаў ціха,— не плач. Плачам не паможаш. Тут памеркаваць трэба...

Не адказала Хвядора — думкі яе былі далёка. Успамінала, як песціла свайго самага меншага, як начэй не дасыпала, а ўсё глядзела, каб не раскрыўся хаця, не прастудзіўся, не захварэў — вельмі ж нарадзіўся ён нейкі слабенькі. Усплыло чамусьці, як бегала па ўсім сяле, шукала шаптуху, калі неяк укусіў Кузьму сабака. Была ў сяле і бальніца, былі і добрыя дактары, але яна пабегла шукаць шаптуху. З перапалоху, вядома...

— Хвядора, га, Хвядора,— асцярожна узяў Амброзім жонку за плечы.— Ты паслухай мяне... Я ўсё збіраўся з табою пагаварыць...

— Гавары,— ціха прашаптала яна.

Амброзім памаўчаў, памуляўся, не адважваючыся сказаць тое, што думаў.

— Бачыш, Хвядора, мы пражылі сваё... Добра ці пагана, а пражылі. Ты не крыўдуй на мяне...

Доўгае жыццё разам навучыла іх разумець адно аднаго з паўслова. Зразумела Амброзіма і цяпер Хвядора, зразумела і не пакрыўдзілася на мужа, што колькі ён ні жыў з ёю, усё роўна так і не ведае, на што можа пайсці яна, абы асталіся жыць дзеці. Сказала:

— Не бойся, кажы, бо я і сама думала...— Уздыхнула, перастала плакаць.— Хай ідзе Кузьма ў лес, у партызаны... А з намі што будзе, тое будзе...

Абое змоўклі — бы і гаварыць болей не было чаго, бы і так было кожнаму вядома, што чакае іх заўтра...

У хаце зноў стала ціха, ціха-ціха, толькі цікалі на сцяне ходзікі — цік-так, цік-так, цік-так...

Кузьма чуў, як хадзіў па хаце бацька, як паднялася з пасцелі маці, чуў, пра што яны гаварылі, седзячы на ляжанцы,— ён таксама не спаў, толькі прыкідваўся, што спіць. І на вочы яму набягала сляза за слязой — ён ведаў, што будзе з бацькам, з маці, калі ён пойдзе ў лес. А ён жа хацеў, каб яны дажылі да канца вайны, каб убачылі вызваленне, перамогу. Пра гэта гаварылі яму і браты, калі ішлі на фронт: беражы маці і бацьку, не дай іх нікому ў крыўду. Таму і маўчаў ён,

хаця і быў даўно партызанам, даўно хадзіў на розныя заданні. Ды пра гэта ў вёсцы мала хто ведаў, не ведалі і яны, яго бацькі... А цяпер?.. Што рабіць цяпер?.. Пайсці ў лес, а іх пакінуць тут, пакінуць на смерць?.. Не, адзін ён не пойдзе...

Ноч. У хаце трое. І ўсе не спяць...

*1962 г.*

## ПРЫКРАСЦЬ

Яна прыходзіла да нас заўсёды адразу ж, як толькі я прыязджаў у вёску. Апіраючыся на сухі арэшкавы кіёк, стомлена, нібыта навобмацак, шлэмала вялікімі — не паназе — галёшамі да стала. Садзілася на лаву, ахкала, вохкала, што зусім абнемаглася, ані не здолее, потым хрысцілася, цяжка-цяжка ўздыхала і, з надзеяй пазіраючы на мяне, пыталася, ці не пачуў я гэты раз хоць што-небудзь пра яе сына, Міцю.

Каб ведалі вы, што адчуваў я ў тую хвіліну! Я гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, абы не бачыць гэтай старой, не чуць кожны раз аднаго і таго ж пытання. Сына яе, пятнаццацігадовага Міцю, у вайну гітлераўцы гвалтоўна схапілі і павезлі ў Нямеччыну, і ён адтуль не вярнуўся. Старая аднекуль узяла сабе ў галаву, што я, чалавек граматны, працую ў вялікім горадзе і, калі захачу, магу даведацца, дзе цяпер яе сын. Што ён жыве — яна ў гэтым ніколечкі не сумнявалася. І аднаго ніяк не магла даўмецца, чаму ён маўчыць, не дае аб сабе почуту.

— Нешта замінае яму, інакш бы ён абазваўся. Яй-бо,— звычайна казала яна.

Я, вядома, з дарагой душой быў бы рад памагчы, але... Што я мог зрабіць, да каго звярнуцца, каб просьба старой не асталася ўсяго толькі просьбай?.. І я, памеркаваўшы і так і гэтак, нікуды не хадзіў, не пісаў, нават, здаралася, у штодзённай мітусні і клопаце, забываўся на просьбу старой...

Так было некалькі год.

I вось, прыехаўшы зноў дадому, я назаўтра ж адчуў, што адпачынак мой ідзе не так, як усе ранейшыя леты, што мне нешта рупіць, нечага не хапае. Я блукаў па знаёмых з маленства мясцінах, гутарыў з бацькамі, сябрамі і ўсё роўна адчуваў на душы нейкі неспакой. «Не тое, нешта не тое»,— увесь час здавалася мне. І аднойчы я здагадаўся, у чым прычына такога майго настрою: ды гэта ж да мяне не прыйшла, як прыходзіла заўсёды, старая Тэкля.

Я спытаўся ў маці, што са старою, чаму яна, як бывала, не наведалася да нас. І пачуў — яе няма ўжо на белым свеце...

І тады я падумаў, што ў нечым вельмі вінаваты перад Тэкляй. І паправіць гэта ўжо ніяк, нічым нельга.

«І як гэта я так?.. Не паспяшаўся, не паспрабаваў нават памагаць, шукаць... А цяпер, калі няма старой...»

У горад я паехаў з нялёгкай прыкрасцю на душы. І яна, гэтая прыкрасць, не пакінула мяне ні праз дзень, ні праз тыдзень.

Не пакідае і сёння.

*1962 г.*

## ДУНЬКА

Поўнач. Бы сучка, у якой утапілі шчанят, вые, падкідваючы ўгору ўюшку, у коміне вецер — на дварэ завіруха. А ў хаце, ля стала, усунуўшы ногі ў цёплыя валёнкі, сядзіць Мар'я, адзінокая нездаляшчая ўдава. У яе непакой: не сёння-заўтра павінна цяліцца Дунька. І Мар'я зусім выбілася са сну: другі тыдзень ні на хвіліну не кладзецца ў пасцель — усё ходзіць у хлеў глядзець, ці не прывяла чаго яе кароўка.

На стале, з краю, цьмяна міргае, навяваючы дрымоту, лямпа. І Мар'я дрэмле. Дрэмле і бачыць...

...Вілястая, раскаўзаная калясьмі і машынамі дарога. Сыпле дробны, дакучлівы дождж. Усюды, нават на абочыне,— густая ліпкая гразь. І гэтую гразь месіць, абутая ў ірваныя бахілы, яна, Мар'я,— вядзе з базару цялушку. Рыжую, рахманую, з белай лапінкай

на лбе. Два гады, ад самага вызвалення, збірала яна, каб купіць цялушку, грошы — і тыя, што прысылалі за мужа, і тыя, што ўдавалася дзе-кольвек зарабіць. Пухлі ад нішчымніцы ў дзяцей ногі, не раз цямнела ўваччу ў самой. Але ж вельмі зваблівая была надзея — яны агораюць сваю кароўку. А кароўка — гэта і маселца, і сырок, і малачко... Кароўка — гэта ўжо жыццё...

...Цялушка ў хляве. Яго, гэты хлевушок, зрабілі самі дзеці. Укапалі чатыры слупы, упусцілі ў пазы жэрдкі, абабілі дранкамі. Хлеў не хлеў, ды пакуль што і тут пастаіць цялушка. Мар'я ўсё тупае і тупае ля яе, падкідае то жменю сянца, то лушпайкі ад бульбы, то нясе з хаты ражку цёплага пойла...

Але што гэта?.. Нехта чужы ходзіць ля хлевушка?

У адной сарочцы, босая, як спала, выбегла на двор. Хлеў адчынены — няма Дунькі. Закрычала што было сілы, на ўсю вёску:

— Памажыце-е! Злодзеі!..

...Прахапілася, падняла галаву — у хаце паўзмрок. Шротам сячэ ў вокны снег — усё яшчэ лютуе завіруха. І Мар'я зноў заплюшчвае вочы...

Тады ўдалося ўратаваць цялушку — злодзеі, мусіць, чуючы, што за імі бягуць людзі, яе пусцілі, а самі ўцяклі. Ды Мар'я ўсё роўна не пакідала болей на ноч Дуньку ў хляве — вадзіла ў хату. Бывала, прачнецца і слухае, як ціха і гэтак міла жуе кароўка жвачку. Хрум-хрум, хрум-хрум, хрум-хрум...

Зусім нядаўна, здаецца, было ўсё тое... А ўжо глядзі — дзеці выраслі, пажаніліся, з'ехалі з дому. Адзін, большы, на цаліне. Дачка ў горадзе, замужам. А меншы, Юрка, у арміі... «Служу на совісць, і хутка абяцаюць водпуск...» — піша ў пісьме. Сама Мар'я не тая ўжо, не тая, што была, і Дунька. Пастарэлі, абнемагліся... Дунька дык ужо два гады нават у ялаўках хадзіла. А цяпер вось павінна ацяліцца. «Каб хаця цялічку прывяла...— цягне нітку сваіх думак Мар'я.— Можна было б тады кароўку прадаць, а цялічка хай бы расла. Не сабе, унучкам: можа, прыедуць калі з дачкою з горада, малачко не лішняе будзе...»

З комінка ўпалі на падлогу запалкі — скінуў, шукаючы цяпла, кот. І Мар'я канчаткова ачулася ад сну. «Што ж гэта я сёння так?.. Драмлю ды драмлю

сабе, а кароўка тым часам, можа, і ацялілася ўжо, можа, цялятка адубела, беднае, гэткая ж халадзіна!..»

Устала, накінула на плечы кажушок, выйшла на двор. Цемра — вока выкалі. Кружыць, віхрыць, засыпаючы ўсё на свеце, снег. Вецер як не збівае, валіць з ног. Але Мар'я, прыкрываючы хусткаю твар, упарта праступе да хлява — ён у канцы двара, новы, з тоўстых смалістых бярвенняў. Пабудавалі — дзякуй ім! — як падраслі, дзеці. І лесу самі навазілі, і зрубілі, і накрылі. Працавітыя, рабацяшчыя яны ў яе, уцёглыя, удаліся ў Васіля, мужа. Не давялося яму, беднаму, вялікіх іх убачыць — забілі ў партызанах немцы, каб ім і на тым свеце так горка было, як тады ёй адной, з малымі, адразу ж пасля вайны.

Дрывотня, калодзеж... Далей ісці лягчэй — памагае плот. Ён і вецер сцішае, і так можна ўзяцца за жэрдку і ўстаяць, не ўпасці.

Ля хлява Мар'я спыняецца, перадыхае. Нягнуткімі, акалелымі пальцамі — глядзі ты, здаецца ж і хады той небагата, а як рукі скарчанелі: ведама, старасць! — намацвае настылую жалезную зашчапку, адчыняе вароты. Са сцяны, з цвічка, здымае ліхтар, хукае, каб не лопнула шкло, трэ запалку і запальвае кнот. Блеклае палахлівае святло выхоплівае з цемры рыжую пляму — гэта Дунька. Яна ляжыць на баку, у самым кутку хлява, на цёплым, мяккім сене. На святло яна лянiва, стомлена паварочвае галаву і глядзіць на Мар'ю вялікім добрым вокам,— разумее і як бы не разумее, чаго гэта ўсхадзілася так яе гаспадыня, начамі не спіць, усё то адмыкае, то замыкае хлеў. Ледзь чутна, прыветна мычыць:

— Мы-ы-ы!..

— Ну, ляжы, ляжы,— ласкава гаворыць да каровы Мар'я і тушыць ліхтар. Вешае яго зноў на сцяну і выходзіць з хлява.

Завіруха не сціхае — круціць снегам, злуецца, вые.

Мар'я зачыняе вароты, ідзе ў хату. Ідзе і не можа надзівіцца, як гэта яна толькі што так лёгка думала прадаваць Дуньку. «Гэтулькі год разам... Адно аднаму памагалі, жылі... Дык хіба хопіць сумлення цяпер прадаваць яе, хіба я на такое рашуся... Унучкі прыедуць — хто ж малачка ім дасць, калі Дунькі ў мяне не будзе...»

*1962 г.*

## КАЧАЛКА

Гэта мне расказалі ў глухой палескай вёсцы...

...З вайны Сцяпан Пахута вярнуўся ўлетку сорак пятага года. І не пазнаў роднага кутка — голыя, пазарастаныя палыном папялішчы ды чырвоныя, як жар, абгарэлыя печышчы.

Не знайшоў Сцяпан і свае жонкі, дзяцей — іх спалілі фашысты. Ад ўсёй вялікай, у шэсць душ, сям'і асталася толькі дачка Феня — у той дзень, калі палілі хаты, яна панесла цётцы ў суседнюю вёску гладыш малака. І асталася жыць.

Але гора не зламала чалавека. Трэба было бачыць, як заўзята, з любасцю ўзяўся ён за работу. За які месяц нарэзаў і навазіў цэлыя ярусы бярвення, укапаў штандары. Без кашулі, босы, у адным палапленым, засмоленым салдацкім галіфэ, ён дзень пры дні стаяў з сякераю ля свайго новага зруба — часаў бярвенні, засякаў вуглы, выбіраў драчку. І ўжо ў познюю восень ледзь не першы на вёсцы справіў наваселле...

Вясною гэтак жа шчыра ён узяўся ўрабляць сваё селішча — перакапаў рыдлёўкаю поле, павырываў, павытрасаў пырнік, што здратаваў, сплёў за гады вайны зямлю, насадзіў бульбы, памідораў, буракоў, нарабіў град.

Феня заўсёды, што б ні рабіў бацька, была пры ім, ва ўсім яму памагала — ёй было на той час год дванаццаць, і яна ўжо ўсюды паказвала добры спрыт гаспадыні.

Неяк з лесу хлапчукі-пастушкі прынеслі блішчастую жалезную качалку, і Феня таўкла ёю бацьку камы, катала бялізну. Ні ёй, ні самому Сцяпану і ў галаву не прыходзіла, што ў гэтай качалцы схавана смерць.

Аднойчы, запаліўшы ў печы, дзяўчынка сунула качалку ў дровы — хацела іх паправіць.

Страшэнны выбух скалануў хату.

Сцяпан быў на дрывотні. Пачуўшы выбух, ён кінуўся ў хату. І зваліўся, не пераступіўшы парога: ён убачыў разбураную печ, а ля яе знявечаную, акрываўленую дачку...

Людзі памаглі сабраць цела дзяўчынкі. Сцяпан моўчкі занёс дамавіну на могілкі...

Два дні не выходзіў ён з хаты. А на трэці, калі змерклася, аднекуль прывалок куль жытняй саломы, абліў вуглы хаты газаю і падпаліў...

Болей Сцяпана ў той вёсцы ніхто не бачыў.

*1962 г.*

## НЕ, НЕ ЎСЁ РОЎНА

З тых дзён, як помню сябе, помню і свайго дзеда. Жыў ён у адным з намі доме, праз сенцы, і што ён жыве, я пачаў прыкмячаць вельмі рана, бадай тады, як адчуў, што акрамя кароткага светлага дня і доўгай цёмнай ночы ёсць яшчэ і людзі — маці, бацька, брат — тыя, хто гатовы ў любую хвіліну зрабіць усё, што толькі я пажадаю. Пазней, калі падрос і ўжо без старонняй помачы мог сам выходзіць на падворак, пра дзеда я даведаўся больш. Я ўжо, да прыкладу, разумеў, што дзед мяне не любіць і, ёсць на тое прычына ці няма, лае: то яму здасца, што я добра не абабіў ног і на валёнках нясу ў сенцы цэлы воз снегу, то ўбачыць, што я не так, як трэба, зачыніў дзверы і напусціў холаду, то выдумае нешта яшчэ.

Я ўжо не толькі гэта разумеў, але і стараўся быць як мага далей ад дзеда, каб неспадзеўкі не трапіць на яго вялікія і круглыя, як у ката, вочы, бо ведаў, што ён будзе зноў сварыцца, а я не хацеў чуць яго крыку, не хацеў ад бездапаможнасці і крыўды плакаць. Гуляючы ў хаце ці на двары, я між тым, незаўважна нават для самога сябе, усё часцей і часцей пачаў думаць пра дзеда: чаму ён такі нелюдзімы, злы, чаму ніколі не возьме, як скажам, тата ці мама, мяне на рукі, не раскажа казку, а толькі тое і робіць, што крычыць, сварыцца...

І ўжо зусім добра помню, як аднойчы папрасілі нас — мяне і майго старэйшага брата Саўку — занесці дзеду есці: ён вартаваў тады за поплавам калгасныя гароды. Ішлі мы да яго, як падалося мне, страшэнна доўга, цэлую вечнасць — спачатку па мяккай, пыльнай і гарачай, бы прысак, палявой дарозе ўзбоч доўгенькіх загончыкаў бульбы, ячменю, жыта, проса, потым збочылі на торную зыбкую сцяжынку, якая вывела нас

на чысты шырокі луг, што аж стракацеў ад красак — жоўтых, чырвоных, белых, блакітных... Паволі, як бы нешта выглядаючы, над кветкамі кружылі стракозкі, матылі, пырхалі, час ад часу імкліва падаючы ў траву, маленькія шустрыя лугавыя птушачкі-падшопнікі. А ў небе, высока-высока, раскінуўшы на ўвесь мах крылы, плаваў вялізны шэры коршак — калі ён пралятаў блізка над намі, па аксамітна-зялёнай траве, што набягала хвалямі і аж угіналася ад ветру, слізгаў чорны, як крыж, цень.

Лугам мы дайшлі да нешырокай балотнай канаўкі, што ўся, з берагамі, заплыла цінай, багавіннем, раскай, зарасла асакою і рагазой,— толькі ў адным месцы, на завароце, дзе быў брод, фіялетава блішчала, як люстра, круглая лужына ржавай, запляснелай вады. Па гнуткіх бярозавых кладках — спярша Саўка, а потым ужо і я — мы перабраліся на другі бераг і адразу ж апынуліся ў змрочнай засені алешніку і лазы. Абвітыя хмелем, галінкі і лісце спляліся над галавою так густа, што праз іх не магло прабіцца сонца. Тут не было той духаты, што панавала там, на полі, але не было і таго халадку, што быў на лузе: была сырая, парная і гняткая цяплынь. Больш за ўсё ў зарасніку мяне ўразілі птушкі — іх было так многа, што за імі проста не ўсачыць — разбягаліся вочы. Птушкі пераскаквалі, пераляталі з галінкі на галінку, ціўкалі, чэкалі, пішчалі, сакаталі, і нейкі час я ішоў, аглушаны іхнімі галасамі, не чуючы нават таго, што казаў мне Саўка — глядзі пільней пад ногі, бо, баронь божа, наступіш на гадзюку, укусіць...

Кусты скончыліся, пачалося зноў поле, вялікае, зялёнае; на ім, нібы нязменныя, адвечныя вартавыя, журботна і адзінока то тут, то там каржакавацелі на ўзмежках галлістыя грушы-дзічкі. Пад адной з іх, той, што стаяла як бы пасярэдзіне поля і ледзь не слалася бушным голлем па зямлі, капою сена ляпіўся да невысокага пакатага пагорка курэнь-аднабочка. Мы здагадаліся, што гэта і ёсць часовае дзедава жытло. Яшчэ гоняў праз двое мы ўбачылі і самога дзеда — узяўшы рукі ў бокі, ён хадзіў па полі ў доўгай, як не па калені, белай зрэбнай кашулі, падпяразанай лазовым акраўкам, і ў такіх жа белых палатняных штанах. Пройдзе, спыніцца, прыставіць да вачэй руку і ўважлівым, пра-

ніклівым позіркам акіне з краю ў край поле. Але, мабыць, нічога такога, што б насцярожвала і хоць бы на хвіліну прывабіла да сябе яго ўвагу, не было, і ён, пастаяўшы, паволі клыпаў далей. Убачыўшы нас, ён не падаўся насустрач, а спакваля, нага за нагу, пасунуўся да свайго кураня, нібы загадзя ведаў, што мы яду прынясём яму, нідзе не дзенемся. І мы зноў ішлі бясконца доўга — апускаліся ў вузкія, пазарастаныя макрыцай і касцярушкай разоры, у якіх нават удзень не ападала раса; падымаліся на грады, дзе роўнымі радочкамі кусціліся то морква, то буракі, то турнэпс; ступалі па пульхным і мяккім полі, на якім раскашоўвалася ядраная сівая капуста; ішлі па загонах, дзе плёўся лапушысты гурэчнік, буялі кіяхі, грэліся, падставіўшы круглыя, тугія бакі сонцу, пярэстыя, паласатыя кавуны, спелі памідоры...

Нам з Саўкам дзед не тое каб узрадаваўся, але не астаўся і абыякавы. Задаволена крактануў і адразу ж узяўся нягнуткімі парэпанамі пальцамі развязваць вузялок — у ім быў добры акраец жытняга хлеба, кавалак абваранага сала, ёмкі збанок картаплянага булёну.

Ад хады ў мяне нылі ногі, і я, пастаяўшы трохі ля накладзенага дзедам з дубовых губакоў куродыму, сеў на параскіданую ля кураня леташнюю салому. Прымасціўся поплеч са мною, надкурчыўшы пад сябе ногі, і Саўка. І ён, і я не зводзілі вачэй з дзеда — глядзелі, як ён, не спяшаючыся, старанна рукамі і зубамі развязвае вузялок, як сцеле, распрамляючы па краях, на зямлі хустку, кроіць тоўстымі лустамі хлеб, сала, а пасля, заціснуўшы між каленяў збанок, ачэрпвае драўлянаю лыжкаю булён і, гучна цмокаючы губамі, сёрбае, жуе. Не-не дый паглядвалі мы на гуркі — крамяныя, зялёныя, яны ляжалі ля саменькага кураня ў густым, цяністым агурэчніку. Мне — дый, мабыць, і Саўку — вельмі хацелася пакаштаваць гурка — дома ў нас яшчэ толькі гарэлі грады,— аднак пабегчы і адарваць гурок мы не асмельваліся: баяліся дзеда.

Калі адыходзілі дадому, дзед праводзіў нас аж да самых кустоў. Ля адной грады ён раптам спыніўся, палахліва зірнуў на бакі і, адшчыкнуў невялікі жаўтлявы гурок. Нядбала выцер яго аб перад кашулі, дастаў з кішэні ножык-складанчык, разрэзаў гурок напал і моўчкі падаў Саўку і мне...

Год праз дзесяць, успамінаючы гэты першы свой выхад за вёску, я не раз думаў, чаму дзед у той дзень быў такі ашчадны, беражлівы і не даў ні Саўку, ні мне па цэламу гурку. Няўжо б ад гэтага абядпеў калгас, няўжо б за гэта яго дакаралі людзі? У мяне можа не асталося б ніякай крыўды на дзеда, каб ён быў шчыры калгаснік, чалавек, які хварэе душою за агульнае дабро. Дык не ж. Жывучы ў адным доме, я ведаў: мой дзед — «цвёрдазаданнік», калгас ён ненавідзіць заядла і тупа, як можа ненавідзець яго толькі зацяты, хцівы багач-аднаасобнік. У калгас ён не ўступаў датуль, пакуль яго не паклікалі ў сельсавет і не прыстрашылі, што, калі ён не пойдзе ў калгас, яго сашлюць аж на Салаўкі. А ўступіўшы, не верыў, што калгас доўга будзе, і ўсім, хто да яго прыходзіў, казаў, што такі хаўрус неўзабаве, пры першым жа зручным выпадку, распадзецца сам па сабе, як распадаецца ўсё, што робіцца не па добрай волі. Можа таму і хаваў ён пад сенам у хляве ўсю сваю лепшую рамен-ную вупраж, плуг, а пад лежаком,— сталёвыя восі. Тыя восі вельмі хутка паржавелі, і мой бацька, калі, здаралася, браў у гасцях ці на якое свята добрую чарку, заўсёды прасіў маці — жартам, вядома,— каб яна, як ён памрэ, паставіла з тых восей на яго магіле крыж — жалезны, каб надаўга відно было, што пад ім ляжыць чалавек.

Другі, найбольш яркі ўспамін пра дзеда падае на час вайны.

За некалькі дзён да прыходу немцаў у нашай вёсцы дзялілі калгасную маёмасць. Дзялілі, каб не дасталося нічога ворагу — хай лепей спажываюць свае людзі, хай схаваюць, што можна, каб пасля, як прыйдзе зноў воля, лягчэй было абжывацца. Дзялілі — не тое слова, бо якая дзяльба там была, толькі казалі так: ні коней, ні кароў, ні авечак не было — іх паспелі адагнаць недзе ў глыбокі тыл у першыя ж дні фашысцкай напасці. Тое ж, што асталося — калёсы, сані, пчолы, неабмалочанае жыта ў сціртах, некалькі пар валоў,— расхапалі проста за гадзіну тыя, хто меў нейкую сілу і не баяўся, што пасля адбяруць ад яго ўсё ўдовы. Некапаную бульбу адводзілі загонамі, паводле працадзён, вядома, таксама толькі на сло-

вах, бо, як потым выявілася, працадні адным чамусьці не ўлічваліся, а другім, наадварот, аж надта завышаліся. Улады ў вёсцы ўжо не было, і сваю праватну і неправату людзі даказвалі найбольш языкамі.

Таму, што распусцілі калгас, дзед мой быў рады болей за ўсіх. Пажвавеў, павесялеў, выпрастаўся. У хаце не сядзеў ні хвілінкі — ўсё бегаў, як вецер, з канца ў канец па вёсцы і кожнаму, каго сустракаў, гаварыў:

— Ну, што я казаў?.. Кхе-кхе...— крактаў ён.— Няйнакш перад пагібеллю сваёй лютавалі гэтак бальшавічкі ды розныя камісарыкі...

Людзі яшчэ глыбей уцягвалі ў плечы шыі і, унурыўшы галовы, абыходзілі дзеда бокам. А сёй-той і не ўмоўчваў — казаў:

— Падумай, Апанас, што кажаш. Германец не сёння-заўтра будзе на зямлі нашай, а ты такое... Як табе не сорамна, язык як паварочваецца?.. «Бальшавічкі», «камісарыкі»... Эх ты!..

Пагардліва акінуўшы з ног да галавы дзеда, людзі ішлі далей.

Пры дзяльбе калгаса дзеду майму ў дадатак да ўсяго іншага ўдалося неяк прывесці яшчэ і воліка, маладога гладкага бычка-трацячка — сквапны, прарырлівы стары быў, ведаў, што трэба хапаць. І каб паехаць куды што рабіць, яму — хочаш не хочаш — даводзілася спрагацца з суседам, Янам Серадольшанкам, за вочы — Шасціногам (празвалі яго так за тое, што ён быццам у дзяцінстве не вымаўляў слова «часнок», а гаварыў «шэсцьног»), жонка якога таксама ўмудрылася ўрваць сабе такога ж маладзенькага воліка.

Ян Серадольшанка быў чалавек ціхманы, у вёсцы не крыўдзіў яго хіба адзін толькі бог. І не таму, што ён каму-небудзь наступіў на балючы мазоль ці насаліў чым моцна, а проста так, дзеля пацехі, смеху. Як пасля я пераканаўся, гэткія людзі, як Ян, ёсць амаль у кожнай вёсцы: адзін з іх, выпіўшы, ходзіць па вёсцы і, выставіўшы жывот, просіць усіх, хто валюхаецца міма, каб стукнулі кулаком па жываце — вось гук будзе! — і дзе — не спераду, а ззаду; другі, здаецца, толькі тое і робіць, што плача ды ные, расказваючы пра свае беды і няшчасці, на якія б іншы нават увагі

не звярнуў, і ўрэшце так надакучае ўсім, што ад яго ўцякаюць, як ад чумнага; трэці некалі біўся з пеўнем ці сватаў сабе ў жонкі гусь... Інакш — што сяло, то і сваё памяло... Ян жа Серадольшанка, калі быў пад добрым градусам, браў дома вяроўку, на якой жонка сушыла бялізну, і сунуўся ў лес вешацца. Чамусьці заўсёды ісці яму выпадала якраз праз усю вёску, хаця лес быў зусім у другім баку, непадалёку ад яго хаты. А паколькі Ян вельмі любіў людзей, з якімі зжыўся змалку, дык перад тым, як засіліцца, заходзіў да кожнага ў хату, каб развітацца. Ведаючы добра Яна, аднавясковец прыносіў з сянец запацелае паўлітэрка і прасіў госця прысесці хоць на хвілiначку да стала.

— Добра жылі мы з табою, Ян,— казаў зычлівы сусед, ледзь стрымліваючы сябе, каб не пырснуць смехам,— давай добра і расстанемся. Толькі глядзі ж, не забывай мяне на тым свеце, а як дзе знойдзеш месцейка, не так уежнае, як улежнае, беражы яго мне.

— Якое там месцейка,— махаў рукою Ян і выбіраў самую вялікую кружку, якая толькі была ў хаце, прасіў наліць па поўнай, абавязкова па поўнай, бо дзе поўная чарка, не можа быць ніякая сварка, і, зажмурыўшы вочы, выпіваў да дна; адразу ж, не закусваючы, пачынаў расказваць, як пагана жывецца яму на гэтым свеце, як яго ўсе і ўсюды крыўдзяць, насміхаюцца, пускаў неўпрыкмет «з гора» слязу і плёўся далей. Іншы раз, калі Ян быў асабліва не ў гуморы, ён успамінаў бычка, рабога, гладкага бычка Тараса, якога зарэзалі і ўтрубілі за мілуто душу ў яго ж, Янавай, хаце — каб іх саміх утрубілі чэрці! — яшчэ ў грамадзянскую белапалякі. Таго бычка Яну было так ужо шкада, так шкада, што ён размазваючы кулаком па твары слёзы, роў, як малое дзіця. Сёй-той браўся суцяшаць Яна, казаў, што каго-каго, а бычкоў такіх, як Тарас, можна выгадаваць сотню, а то і больш, абы сена толькі было.

— Не, такога бычка мне ўжо ніколі не бачыць,— вёў усё роўна сваё Ян.— Як зжэрлі яго, мо цэлы тыдзень не спалі, начамі за хлеў бегалі... Сыты быў, халера! На маю сям'ю на поўны месяц хапіла б, каб не дурны быў ды сам зарэзаў... На ўвесь бадай што мясаед!.. Не верыш? Во, ісцінны Хрыстос!..

І зноў пачынаў плакаць.

Недзе пасярэдзіне вёскі Ян п'янеў так, што не мог на нагах стаяць — падаў у раўчук і ўжо аставаўся там ляжаць, аж пакуль добра не змяркалася. Тады жонка, сухая, доўгая, як жэрдка, разы мо ў два большая ростам за Яна, ці дочкі — іх было ў яго дзве, Тоця і Каця, абедзве худыя, насатыя і злыя, акурат іхняя маці,— прыязджалі з санкамі ці тачкаю-двухколкаю,— гледзячы, якая была пара года,— узвальвалі Яна на свой саматужны «транспарт», прывязвалі, каб не ўпаў, той вяроўкаю, на якой Ян хацеў засіліцца, і пад раскошны, смачны смех і рогат дзятвы шчасліва дабаўлялі жывога «шыбеніка» дахаты...

Пра Яна ў вёсцы хадзіла безліч анекдотаў. Казалі, да прыкладу, што Ян дае «добры дзень» кожнаму сабаку, каб не брахаў, кожнаму гусаку, каб не шыпеў, а жанчын наогул абыходзіць за дзесяць гоней, каб не наскочыць каторай не пад настрой — даліся яму ў знакі свая, у два разы большая за яго, жонка і дочкі...

Я расказваю так падрабязна пра Яна дзеля таго, каб вы ўявілі сабе, які напарнік трапіўся майму дзеду. І ўсё адно, прачынаючыся, я чуў штораніцы, як дзед, ходзячы па двары, лаяў Яна.

— Ыш як выматаў, парожняга воза і то не цягнуць!..— гэта калі сам запрагаў валоў.

— Во, прэцца ўжо, каб з цябе дух выперла!..— кляў ён суседа, калі была таго чарга і Ян з повадам у руках ішоў у хлеў лыгаць дзедавага воліка.

У такі дзень у нашым двары наогул не сціхала лаянка. Прыгнуўшыся, каб меней хто бачыў, дзед разпораз падбягаў да паркана, на хвіліну-другую прыпадаў да дзіркі і тут жа імчаў назад, нібы гнаў яго адтуль хто палкаю.

— Гэта ж трэба такі воз гною накласці,— бурчаў ён, бегаючы па двары.— Каб цябе ў магілу паклала, Шасцінога дурнога!..— аж скакаў ён ад злосці.

Учапіўшыся за Яна, дзед неўпрыкмет пераходзіў да калгасаў — каму што, а чорту балота, свякрусе — нявесткі.

— Дзе ты бачыў, басота, ды хочаш, каб доўга адзержаліся... Толькі людзей узбунтавалі, галадранцы. Туды завёў коней, валоў, а адтуль... цьфу ты, ды пайдзі скрозь землю жытка такая...

Бацька наш быў на фронце, і маці аднойчы, калі дзед быў, як нам здалося, у добрым настроі, бо накладаў вазы гною ўдвая большыя за Яна, і валы, хоць і трашчалі ў іх ад натугі косці, на дзіва, усё ж неяк везлі,— выйшла з хаты і папрасіла дзеда, каб ён даў нам на які дзень валоў прывезці з лесу дровы, бо ў нас даўно ўжо не было чым прапаліць у печы і ў хаце стаяла такая халадэча, што, бадай, цяплей было на двары. Там хоць калі-нікалі ды сонца грэла, а да нас яно не заглядвала ўсю зіму — не магло растаіць вырысаваныя, замураваныя марозам вокны. Дзед накінуўся на маці, бы коршак:

— Сыдзі з вачэй маіх, чуж-чужаніца, бо мяне дурны поп хрысціў. Убачыла валоў!.. Каб не такія разумнікі, як ты, я быў бы чалавекам, я пляваў бы сёння на ўсіх і на ўсё...

Дзед намякаў маёй маці, што яна некалі была камсамолкай і ўпрошвала яго не ўпарціцца, а ўступаць у калгас.

— От кальвін, памірай, лёду з-пад парога не дасць...— вярнуўшыся ў хату, толькі і прамовіла маці і заплакала...

Улетку сорак трэцяга года фашысты спалілі нашу вёску, а ўсіх нас, яе насельнікаў, пагналі ў Нямеччыну. Ноч, акружаныя аўчаркамі і карнікамі, мы праляжалі на станцыі, у хвойніку, кіламетраў за сем ад сваее вёскі — не вёскі ўжо, а папялішчаў,— чакалі цягніка. Раніцаю стала вядома, што ніякага цягніка ні сёння, ні заўтра не будзе, бо партызаны падарвалі на нашым перагоне чыгуначны мост. Каб не сядзець пад адкрытым небам яшчэ некалькі сутак, фашысты надумалі гнаць нас да наступнай станцыі — яна была кіламетраў за сорак ад нашай. Тым, хто меў сваіх валоў і коней, дазволілі ехаць на падводах, астатнія мусілі ісці пешкі. Мабыць, пакуль буду жыць, не забуду, як ішлі мы панурым натоўпам са сваіх родных мясцін у свет — на чужыну, у невядомасць. І цяпер яшчэ часта-часта паўстае перад вачыма тая вілястая, бясконца доўгая, пыльная дарога; на ёй як ахапіць вокам — жывы, рухомы паток выгнанцаў: коні, валы, нагружаныя розным хатнім скарбам вазы і людзі — з клункамі, торбамі, вёдрамі, гладышкамі, дзецьмі...

Па абодва бакі — ланцужком, адзін за адным — ідуць немцы, усе ў жоўта-зялёных накідках, з аўтаматамі напагатове... Іх веласіпеды, наўючаныя ранцамі, процівагазамі, скаткамі шынялёў, рознымі іншымі рэчамі, якім і назвы не ведаеш, коцяць паабапал дарогі нашы вясковыя мужчыны, паліцаі...

Мы ідзём недзе ў канцы гэтага патоку. За плячыма ў маці вялікі клунак — загорнутая ў рабую посцілку пасцель. Такі ж клунак, толькі меншы, за плячыма ў Саўкі — у ім харчы: хлеб, сала, сыр. Я ж ледзь валаку дзве вялікія паліваныя гладышкі малака. Малако даўно ўжо скісла, западала пылам, але я ўсё адно яго не выліваю, нясу.

Наперадзе нас едзе дзед. Падкурчыў, як цыган, пад сябе ногі, уваткнуў у рот цыбук люлькі і, заплюшчыўшы вочы, млява паганяе коней — іх ён выменяў неяк узімку ў паліцаяў. Коні, вядома, не бог ведае якія, не стаеннікі, не племянныя, а бракаваныя, яны непрыдатны былі нават самім паліцаям. Ды цягнуць яшчэ спраўна: воз аж рыпіць. На ім поўна мяшкоў — з грэчкаю, бульбаю, жытам, аўсом... І маці, гледзячы на воз, кляне дзеда, кляне паціху, каб чулі толькі мы, але злосна і крыўдліва — яна ўсё яшчэ не можа змірыцца, што нават у такую цяжкую гадзіну ён не хоча прызнаць нас за радню, не хоча пашкадаваць дзяцей...

Я ўсю дарогу не зводжу вачэй з пагнутага парожняга вядра, што брынчыць на дзедавым возе. Каб на месца яго ўзяць ды павесіць на дышаль мае гладышкі! Як бы я тады хутка і спора пайшоў!

А тут гэткая суша — аж няма чым дыхаць. Ад гарачыні не ратуе нават лес — ён стаіць усцяж дарогі, бы нежывы, цёмны, змораны, вялы. Знямогла, квола пішчыць засмяглым галаском нейкая нябачная птушачка. «Піць, піць».

Спякота і пыл.

Пыл і спякота.

Ідзём мы доўга. Вось ужо і сонца звярнула з поўдня, вось яно, вялізнае, чырвонае, проста на вачах апускаецца, падае на лес, зацягваючы ўвесь захад светла-ружовай барвай. А мы ўсё ідзём і ідзём, і хадзе нашай, здаецца, ніколі не будзе канца...

Пясок за дзень нагрэўся на сонцы, аж боязна ў яго ступаць босымі нагамі. Баліць галава — ні то ад спя-

коты, ні то ад чагосьці іншага. У вачах то пацямнее, зробіцца чорна, як уночы, то раптам пачынае скакаць, як у вясёлым карагодзе, усё — людзі, немцы, дрэвы, падводы... А карнікаў бы хто падмяніў. Яны раптам падымаюць галовы, нешта крычаць адзін аднаму і ідуць з аўтаматамі на людзей.

— Шнэль! Шнэль! Шнэль! — чуваць з усіх бакоў.

Ага, гэта яны баяцца вечара і спяшаюцца, каб да змярку быць на станцыі. Іначай можа здарыцца неспадзяванка: нападуць партызаны і людзі разбягуцца па лесе — злаві тады...

Ад стомы я ледзьве перастаўляю ногі і іду, мусіць, абы-куды, бо з усіх бакоў мяне штурхаюць — на момант мне нават здаецца, што я трапіў у чараду кароў і кожная так і цаляе, каб баднуць мяне рогам. Я падаюся ўбок і бачу дзедаў воз. Адна драбінка з'ехала з ручкі на кола, і яно, павольна круцячыся, шоргаецца аб дрэва. «Шорх-шорх, шорх-шорх!..» З нацёртай да бляску шыны мукою сыплецца сыпкі пясок...

Круціцца, круціцца кола...

І вось мне пачынае ўжо здавацца, нібыта я ў млыне: стаю, гляджу, як круцяцца, мелючы зерне, вялізныя камяні, і па збажыне сунуся сам у жолаб. Жолаб проста ўвачавідкі расшыраецца, расце, і вось ужо ён зрабіўся такі вялікі, што ў ім месцяцца і людзі, і коні, і ўся гэтая пыльная, бясконцая дарога, што цягнецца немаведама куды. Людзі раптам падаюць на збожжа і засынаюць. Спяць усе. Не сплю толькі чамусьці адзін я, хаця ад дрымоты і ў мяне зліпаюцца павекі. Я заплюшчваю вочы і падаю таксама на зерне — мяккае, цёплае...

...Ачынаюся я на дзедавым возе. Ля мяне сядзіць Саўка, нейкія чужыя босыя мурзатыя дзеці. Чые яны, я не пазнаю. Азіраюся — тая ж вілястая пыльная дарога, той жа бясконцы вірлівы паток: людзі, валы, коні, падводы, немцы... Дзед ідзе побач, трымаючы ў руках лейцы, і ў яго аж скача з рота пена — такі ён расзлосны. Я пытаюся ў Саўкі, што здарылася. І ён расказвае мне, што я ўпаў на дарогу і канвойны немец, які ішоў пры нас, раскрычаўся, сцялежыў воз, паскідаў з яго ў раўчук усе дзедавы мяшкі, а ўсіх нас, дзяцей, хто прыстаў, падбіўся ў дарозе, загадаў пасадзіць на воз...

У Нямеччыне дзед трапіў да баўэра кіламетраў за сто ад нас, і ўсю вайну, аж да вызвалення, мы з ім не сустракаліся. Калі ж вярнуліся з чужыны, дзед быў ужо дома — ён прыехаў раней і пасяліўся ў пограбе на старым сваім селішчы. Ставіць хату зноў разам з намі ён не захацеў, дый не вельмі напрошвалася на гэта наша маці. Пад сваю новую хату мы знайшлі і новы пляц. У пограбе дзед пажыў да глыбокай восені, пакуль не захаладала, а тады раптам кінуў-рынуў сваё селішча і перабраўся жыць да Тоці — старэйшай Серадольшанкавай дачкі. Муж яе, гэтак жа, як і наш бацька, не вярнуўся з вайны, аднак у яе была ўжо хоць і маленькая, ды свая хата: яе, гэтую хату, казалі, зрабілі салдаты з ваенведа...

Дзед быў яшчэ дужы і някепска зарабляў, па начах пасвячы «лястрангасаўскіх» коней, а ўдзень кладучы людзям печы ці стаўляючы зрубы. Да таго ж ён прывёз сёе-тое з адзежы з Нямеччыны. І жанчына, мусіць, спадзявалася пакуль што пажыць за шырокай дзедавай спіной.

Чакаць помачы нам не было адкуль, і мы самі пачалі ставіць сабе хату. З чужыны мы вярнуліся ўлетку, у самае жніво. Пасеяць што-небудзь ці пасадзіць было позна, і цэлы год нам давялося жыць чым бог пашле. Восень і зіму яшчэ сяк-так гібелі, прадаючы астатняе з адзежы і купляючы бульбу, хлеб. А вясною селі на крапіву і шчаўе.

Бачачы, што мы з Саўкам зусім даліся і ад недаядання пасінелі, маці папрасіла Саўку схадзіць да дзеда, каб ён хоць чым-небудзь памог нам, калі не бульбай і хлебам, то хай бы хоць дзень парабіў ля хаты. Ісці да дзеда Саўка адмовіўся, сказаўшы, што ён лепей пойдзе ў кускі, чым да дзеда.

— Усё роўна ён нічога не дасць і да хаты нашай не пойдзе. Навошта ж хадзіць ды клянчыць...

— То што ж мне рабіць з вамі? — пачала ламаць рукі маці.— Сядзець ды глядзець, як вы марнееце ды чэзнеце? — І яна заплакала.

Я накінуў на плечы світку і выйшаў з хаты: надумаўся сам схадзіць да дзеда — не можа быць, каб ён астаўся абыякавы, раўнадушны да нашага гора.

Калі я ўвайшоў у Тоціну хату, дзед якраз снедаў. На стале перад самым яго носам ляжаў цэлы стос

пульхных пшанічных аладак, на дошчачцы стаяла патэльня, поўная туку і тоўстых ружовых скварак. Але аладкі і сала дзед пакідаў на пасля, бо цяпер, нагнуўшыся над глінянаю міскаю, ён упарта сёрбаў булён. Тоці дома не было — няйнакш некуды выбегла, і гэта мяне ўзрадавала: пры ёй я бянтэжыўся б, мусіць, нялёмка сябе пачуваў бы і дзед.

Я паздароўкаўся і адразу ж, не прайшоўшы нават на хату, сказаў, чаго прыйшоў.

Дзед павярнуў да мяне сівы, валасаты твар, бліснуў вачыма і, не перастаючы жаваць, загаварыў доўга і разважліва:

— Яно, канечне, на добры лад памагчы трэба было б. Што ні кажы, а ўсё ж свае... Сіроты... Ды гэта каб на добры лад, каб нявестка была не пустадомак, а чалавек, які дбае пра сям'ю, каб і не галодныя былі, і не голыя...— Памаўчаў, зачэрпнуў з міскі лыжку булёну, упіхнуў у рот добры кус хлеба і, павольна варушачы скіўцамі, казаў: — Усе людзі, як людзі. Хто ў лястрангас пайшоў, а хто ў лясніцтва ўладкаваўся, хто яшчэ куды, дзе капейку даюць,— рыбка шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей. А яна ў калгас...

— Але ж і ў калгасе трэба некаму рабіць,— не згадзіўся я з дзедам,— бо калі ўсе па заробках розных пойдуць, хто ж зямлю ўрабляць будзе, хлеб сеяць?..

— Кхе-кхе...— усміхнуўся дзед, паказаўшы рэдкія жоўтыя зубы.— Ты слухай, стары вол баразны не псуе, а стары чалавек абы-чаго не плявузгае. Ведай, што калі бог спарадзіў чалавека, дык даў яму і розум. А нашто чалавеку розум? Я свой век пражыў і сямутаму навучыўся. Чалавек павінен адзін быць, сам сабе гаспадар на сваёй зямельцы, тады ў яго будзе ўсё — і хлеб, і сала, і грошы. Пакуль гэтага не будзе, зямлі цурацца трэба...

Гаварыць далей з дзедам не было ніякага толку, і я, бразнуўшы дзвярыма, што аж затрымцелі ў вокнах шыбы, выйшаў. Мне было прыкра і горка, ад крыўды я ледзь не плакаў.

І ўсё ж мы не памерлі з голаду, выжылі. І не толькі выжылі, але зусім неспадзявана і запамагліся. Як сям'і, што пацярпела ад вайны, нам далі бясплатную

маладую, з малаком, карову, памаглі і насеннем, рацыёнамі. Само сабой, вядома, паставілі мы і хату. І не абы-якую: з новага, смалістага, як звон, дрэва, з пяццю шырачэзнымі — асабліва пасля зямлянкі, у якой мы да гэтага жылі,— вокнамі, вялікай, з лежаком, печчу.

Мы сталі жыць не горш ад людзей. І калі ўжо зусім забыліся, што недзе побач кеўляе, дажываючы свой век, наш дзед, па вёсцы пранеслася чутка, што дзед наш застудзіў ногі, яны апухлі і ён не можа сам нават выйсці на двор. Мо праз тыдзень пасля гэтага ў нашу хату ўбегла Каця, меншая Серадольшанкава дачка — сам ён ужо даўно парыў косці, памёр, небарака, у самую галадоўку,— і, прысеўшы на ўслон, расказала, што дзеда нашага выгнала Тоця і што ён сядзіць на сваіх клунках на прызбе яе хаты і не ведае, дзе падзецца. Каця не любіла Тоці, бо тая адцуралася свайго роднага бацькі, нават на пахаванне не прыйшла, а ўзяла да сябе ў хату зусім чужога чалавека, маладая — старога. Цяпер Каця з апошніх слоў лаяла сястру.

— Падумаць толькі, якая падкалодная гадзіна! — казала яна з гневам.— Выцісне з чалавека апошнія сокі, а тады, як тую непатрэбную анучу, выкіне. Гэтага трэба было ад яе чакаць. Яна ж, як жылі яшчэ з бацькам, паціху ад усіх крала з кубла сала і прадавала, каб купіць сабе ўборы ды да хлопцаў злётаць...

Каця пакруцілася яшчэ трохі ў нашай хаце і некуды пабегла — няйнакш панесла гэтую навіну ў другія хаты: яна рада была выпадку збэсціць сястру, бо тая ж надта зазналася.

Было ўсё гэта ў абед. Маці толькі што прыйшла з фермы — даглядала ў калгасе свінней. Не скідаючы ватоўкі, яна пасядзела на лаве, моўчкі выслухала Кацю, а калі тая выйшла з хаты, устала, нявесела абвяла вачыма нас з Саўкам і сказала зусім спакойна да мяне:

— Я ведала, што гэтак будзе... Адзявайся, сынку, паедзем прывязём яго да сябе. Усё ж ён нам свой...

Пачуўшы матчыны словы, Саўка быў устаў з-за стала — ён рабіў урокі,— хацеў нешта сказаць, але падумаў, махнуў рукою, сеў зноў на сваё месца і,

узваліўшыся ўсімі грудзьмі на стол, пачаў нешта хутка-хутка пісаць — аж зарыпела лава.

Я борзда злазіў на пясошнік, дастаў саматужкі, і мы паехалі.

Тоця жыла поблізу колішняга нашага селішча, і ехаць трэба было ледзь не праз усю вёску. Памятаю, што, хоць і стаяў яшчэ люты, той дзень выдаўся на дзіва цёплы, адліжны, дзе-нідзе нават капала са стрэх. У дварах зусім па-вясноваму зычна і весела кукарэкалі пеўні, склікаючы да сябе курэй, а на вуліцы гулялі ў снежкі дзеці. Ля калодзежаў стаялі, падаткнуўшы пад фартухі рукі, купкамі бабы — абгаворвалі вясковыя навіны. Не-не дый, калі мы пад'язджалі бліжэй, паварочвала каторая твар да маці і пыталася са шкадаваннем:

— Няўжо едзеш па яго? — і, бачачы, што гэта так, ушчувала маці: — Ды я б на тваім месцы, Насця, плюнула яму ў вочы. Хай бы падыхаў, як сабака, пад плотам. Ногі — гэта не галава, не шлунне. Ты ведаеш, колькі ён яшчэ прамадзее? Можа год, а можа і два. І табе мучыцца? За што?

— Хай яму будзе сорамна і... Тоці,— нясмела баранілася маці.— Усё ж ён нам свой. Каб жыў мой Іван...— Маці не дагаворвала, голас яе зрываўся, яна часта-часта пачынала клепаць вейкамі і подбегам даганяла мяне.

Дзед не ўпарціўся, не ўпіраўся, калі мы яго забіралі. Толькі здзіўлена, нібы спалоханы, лыпаў вялікімі белазорымі вачыма,— іменна белазорымі, а не шэрымі, як здавалася мне некалі ў маленстве,— то на мяне, то на маці.

Мо з тыдзень маўчаў ён, не кажучы ні слова, і ў нас дома. Ляжаў, застыла ўставіўшыся вачыма ў столь, і нешта думаў. Што?.. Ах, каб гэта можна было ведаць... Ды чужая душа — пацёмкі. Бывала, падыдзеш да яго, а ён нават не зварухнецца — ляжыць, сцяўшы губы, мярцвяк мерцвяком, аж не па сабе зробіцца, млосць па целе пойдзе, мурашкі халодныя скрабануць... Падумаеш міжвольна: «Хіба памёр?»

Але аднойчы ўвечары, калі на комінку гарэла лучына і маці, нагнуўшыся над грэбнем, дзёрла лён, ён павярнуўся да яе тварам, доўга глядзеў, як хутка і

спрытна аддзяляе яна кужаль ад патрэпак, і ціха, нібы сам сабе прамовіў:

— Век не думаў, што давядзецца паміраць на тваёй пасцелі. Каб ведаў, ні за што б не рабіў так...

Маці нібы і не пачула дзедавых слоў — сагнуўшыся, яна дзёрла і дзёрла лён. Толькі калі абцягнула пасму, стомлена выпрасталася, паглядзела некуды ў куток і, цяжка ўздыхнуўшы, сказала:

— Ат, што ўспамінаць тое, што было. Усё адно не вернеш...— І, памаўчаўшы, дадала: — Дзеля Івана, толькі дзеля Івана цярплю я ўсё гэта, прасіў жа, як ішоў на фронт: «Глядзі бацьку, не дай памерці на чужых людзях, калі што...»

— Не трэба, Насця,— папрасіў, упершыню назваўшы маю маці па імю, дзед.— Я сам ведаю, што быў несправядлівы да цябе, вельмі нават несправядлівы... Не любіў я цябе і не мог дараваць сыну свайму, што ён, не спытаўшыся ў мяне, узяў цябе, круглую сірату, у наш дом.

— А пры чым тут я, пры чым мае дзеці, якіх ты ненавідзеў яшчэ болей, чым мяне? — ужо са злосцю сказала маці.

— Сам не ведаю. З таго дня, як запісаўся ў калгас, я зненавідзеў усё, нават самога сябе. Падумаю — колькі здароўя я згубіў, колькі сіл паклаў, каб узбіцца на гаспадарку... А што з таго?.. Усё кату пад хвост, як і не было... Як падумаю, сэрца так і зашчыміць, крывёю абальецца: у такую хвіліну гатоў любога, самага блізкага чалавека, зубамі рваць...

Уткнуўся тварам у падушку і гучна, наўзрыд заплакаў...

Я, каб не чуць гэтай размовы далей, апрануўся і выйшаў на двор. Стаяла шарая зімовая ноч, падаў, падоўгу кружачыся ў паветры, дробны, лёгкі, як гусіны пух, снежок, і на небе не відаць было нідзе ні зорачкі. Прыхінуўшыся плечуком да сцяны, я стаяў ля самага ганка сянец і думаў. Памятаю, у тую хвіліну я прыгадаў бацьку — роднага, блізкага мне чалавека, якога нават не ведаю, дзе пахавалі, дзе яго магіла... А прасіў жа некалі маці, каб паставіла, як памрэ, з тых восей, што таіў ад калгаса дзед, на яго магіле крыж — «жалезны, каб надаўга відно было, што пад ім ляжыць чалавек»... Прыгадаў, як некалі мы хадзілі з Саўкам

да дзеда, насілі яму за поплаў на калгасны гарод есці і як ён даў нам па палавінцы гурка; прыгадаў, як крычаў ён на маці ў акупацыю, калі тая прасіла воліка прывезці з лесу дровы... Прыгадаў усё сваё бязрадаснае, зглумленае, згвалтаванае вайною дзяцінства... І на душы ў мяне стала горка-горка...

Больш я не помню, каб хоць калі гаварылі пра што маці з дзедам — часцей маўчалі.

У той вечар, перад тым як класціся спаць, дзеду зрабілася холадна, і ён папрасіў, каб перанеслі яго на печ. Маці паставіла на прыпек кружку з вадою — мерылася ўжо заліваць на комінку лучыну — і, узяўшы дзеда пад пахі, памагла яму дабрацца да печы. Ён лёг жыватом на чарэн, аднак не сагрэўся — усім нам было чутна, як ад холаду стукаюць яго зубы.

— Можа доктара паклікаць? — нясмела спыталася маці, пазіраючы то на мяне, то на Саўку — у вачах у яе былі разгубленасць і спалох.

— Не трэба, Настачка, гэта я, мусіць, прамёрз, лежачы на пасцелі...— пачуўшы матчыны словы, адгукнуўся з печы дзед.— Вось зараз адагрэюся, і ўсё будзе добра... Дзякуй табе і так за ўсё...

Маці ўзяла з прыпека кружку і пачала заліваць лучыну. Але лучына нешта доўга не патухала — сіпела і праз хвіліну зноў успыхвала чырвоным агнём — бы ўсё роўна ведала, што яе зноў трэба будзе неўзабаве паліць. Маці давялося схадзіць да вядра і набраць яшчэ кружку вады. Толькі тады лучына міргнула і згасла. Усю хату запаланіла цемра. Мы раздзеліся і ляглі спаць. Але ледзьве замгнулі вочы, адразу ж прачнуліся — з печы на нас адна за адной пачала падаць лучына. Мы здагадаліся, што кідае яе дзед.

Падхапіліся і ў момант апынуліся на печы.

— Дзеду! Дзеду! — закрычаў Саўка.— Што вы робіце?

— Ратуйце мяне, унучкі! — з жахам у голасе прахрыпеў дзед.— Яны ідуць па мяне ўжо... Адтуль,— паказаў рукою на дзверы дзед.

— Хто яны? — спытала маці,— яна таксама ўстала і палезла за намі на печ.

Дзед нічога не адказаў, а яшчэ шпарчэй, з большай лютасцю і злосцю пачаў шпурляць на хату лучыну.

Маці запаліла зноў святло — на мокрым комінку лучына доўга не хацела гарэць— і нам да жудасці страшна было сядзець у цемнаце адным і трымаць за рукі дзеда, каб ён не хапаў лучыны і не кідаў яе на хату. Дзед увесь калаціўся і ўсё рваўся некага біць, каго бачыў ён і каго не бачылі мы. Потым мы ўтраіх сяктак ссадзілі яго з печы, заўважыўшы самі сабе, як раптоўна ён пацяжэў, не ўтрымаць проста — зямля зямлёю. Скінулі з яго кашулю, бо яна была мокрая ад поту, хоць выкручвай, і надзелі новую, чыстую, і свежую, палажылі дзеда ў пасцель. Ён яшчэ варочаўся, махаў перад сабою рукамі, як бы нешта адганяў ад сябе, нешта мармытаў бязгучна аднымі толькі губамі сабе пад нос, мяняючы твар — ад сярдзітага, злога да добрага, лагоднага,— потым патроху сцішыўся, супакоіўся і заснуў. Заснуў, каб болей ніколі ўжо не прачнуцца...

Хавалі дзеда назаўтра. І калі на краі могілак ля невысокага дубовага крыжа вырас жоўты гарбячок жвіру і мы пасталі вакол яго, каб апошні раз пакланіцца дзедаваму праху, памятаю, мне здалося, што стаім мы не ля магілы, а недзе далёка-далёка ў лесе ля агню, які толькі што гарэў, гарэў доўга, нікога не грэючы, і проста на нашых вачах вось-вось патух, яшчэ нават чырванеюць дзе-нідзе ў попеле іскры... Чаму я падумаў тады пра гэта? Ды, мусіць, таму, што неяк чуў: некалі, у сівую старасветчыну, нябожчыкаў не закопвалі ў зямлю, а палілі. Накладалі вялізную кучу дроў, усцягвалі на яе труну і падпальвалі. Палілі, каб пасля чалавека нічога не засталося. Не, нешта ўсё ж заставалася. Калі не на зямлі, дык у людскіх сэрцах, бо нельга так жыць, каб не пакінуць аб сабе ніякай памяці. Добрай ці дрэннай — усё роўна.

Не, мусіць, не ўсё роўна!..

*1963 г.*

## З кнігі «Пакуль не развіднела»

### МАМА

Яна вырасла з татам. Маці сваёй не помніла, нават не ведала, хто яна і дзе цяпер жыве. Ведала толькі, дый то ад людзей, што маці яе, скруціўшыся з нейкім прыезджым артыстам, кінула іх з татам, калі ёй не было і двух год.

Тата рабіў усё, каб і без маці расла шчаслівая яго дачка. Ён нібы забыўся на самога сябе — жыў толькі дзеля дачкі.

І ўсё роўна, калі нехта вельмі крыўдзіў яе ці біў, яна ніколі не клікала на помач тату, а крычала:

— Ма-ма!..

*1964 г.*

### БАЛОТА

Не, няма ў нашым краі бадай што нічога страшней за балота. Асабліва калі ты адзін, а на двары ўжо ноч, і ты заблудзіўся і не ведаеш, як выбрацца на сухое, куды ісці, каб патрапіць на дарогу, якая б прыняла цябе хоць да якой страхі.

Іду бог ведае якую гадзіну, і хадзе маёй не відно канца. Густая, рослая трава палегла, пераплялася, зблыталася,— няйнакш, як у ёй спраўлялі свой спрадвечны д'ябальскі шабаш тысячы маладых, гуллівых чарцей,— я чапляюся за яе і падаю, кожны раз акунаючыся ў смярдзючую, ліпкую твань. Штаны, кашуля, пінжак мокрыя, з іх, калі я ўстаю, цуркам сцякае

вада. Вады поўныя і мае гумовыя боты; яна плюхае ў іх, нібы ў драўляным карыце. Але я не выліваю яе — марная трата часу. Ведаю: праз хвіліну боты будуць поўныя зноў. А дождж лье і лье. Ён, гэты дождж, мусіць, больш за ўсё і вінаваты, што я збіўся з дарогі і заблудзіўся. Блукаў-блукаў па лесе і не заўважыў, як упала, нібы ў прорву, за лес сонца і ўсё неба завалаклі нізкія цягучыя хмары. Я памкнуўся ў адзін бок, памкнуўся ў другі — няма дарогі.

Пастаяў, агледзеўся вакол і пайшоў, нікуды больш не зварачаючы, напрасцяк праз лес у той бок, дзе, як мне падалося, стаіць мая вёска. Таптаў мокры зляжалы мох, варушыў наскамі ботаў гнілое леташняе лісце, рукамі расхінаў кусты і зараснікі, абмінаючы гіблыя кружкі і белі, і зусім неспадзявана апынуўся на балоце. З берага яно было не такое ўжо і страшнае, топкае, сухое. Але не прайшоў я і кіламетра, як напароўся на першае «чортава вока». Было яно ля самага лазовага куста, круглае, дрыгвяністае,— і ля яго, гэтага «вока», нібы бародаўка, расла бушная купіна асакі; упоцемку я спатыкнуўся аб гэтую купіну і ледзьве не ўваліўся ў багну. Зжахнуўся і ўзяў лявей, каб абысці жывую пагібель... І... натрапіў на яшчэ страшнейшую перашкоду — гнілую, вілястую і на дзіва шырокую балотную канаву. Разгубіўся зусім...

Тым часам пачаў сеяцца дождж, цемра згусцілася, прыкрыўшы сабою ўсё — дрэвы, кусты, неба: насунулася цёмная чэрвеньская ноч. Хвілін колькі я стаяў, не ведаючы, што рабіць: вярнуцца назад, на лес, ці астацца тут — летняя ноч, балазе, кароткая, можна пачакаць, калі павіднее. Не паспеў я так падумаць, як адчуў, што мяне ўсмоктвае, уцягвае багна. Паволі, спакваля, нібы ведае загадзя, што я, як бы таго не хацеў, нікуды не ўцяку і рана ці позна ўсё роўна не міну яе слізкіх і халодных, як смерць, абдымкаў...

Амаль не цямячы, што раблю, імгненна выцягнуў з багны ногі і не іду — бягу, спачатку назад, бліжэй да лесу, пасля, канчаткова заблудзіўшыся, куды глядзяць вочы, абы толькі не стаяць на адным месцы, абы не адчуваць, як усмоктвае мяне багна. Манатонна, вусцішна шапаціць па траве і лісці дождж, крэкча, відаць, схаваўшыся пад купіну, жаба. Ад яе голасу на хвіліну мне робіцца весялей: усё ж я не адзін на гэтым

вялізным, гіблым і мёртвым балоцэ. Іду на непрыемны, скрыпучы, як непамазаны воз, голас і міжволі заўважаю, што я трапіў у такое месца, дзе не расце нават трава,— адно-адзінае суцэльнае чорнае месіва, гразь. Раблю два-тры крокі назад, і тут пад нагамі ў мяне нешта лопаецца, рвецца, рассоўваецца, і я правальваюся як не па пояс у багну...

Адразу ж, не дастаўшы нават дна, пачынаю рукамі і нагамі грабці да травы — там, дзе яна,— мой паратунак. Ногі мае намацваюць пад сабою нешта цвёрдае.

«Няўжо кладка?..»

Так, гэта яна, бо праз некалькі крокаў я зрываюся зноў у прорву і ўжо не ведаю, выплыву я ці не...

Дождж не аціхае, ён усё лье і лье... Чуваць, як недзе далёка-далёка спявае певень. Заядла, задзірыста, няйнакш хоча кінуць некаму свой птушыны выклік. Пеўню адгукаецца яшчэ адзін певень, потым яшчэ і яшчэ. І вось ужо крычаць, дзяруць глоткі, гарлапаняць дзесяткі не менш задзірыстых галасоў. І такая мілая, проста казачная музыка поўніць наваколле, што я на хвіліну ажно перастаю грэбацца... Значыць, у тым баку, дзе пяюць пеўні, вёска. Там страха, гарачая бульба, цяпло... І, вядома, мяккая, цёплая пасцель...

Сяк-так выпаўзаю з гразі і памалу, на кожным кроку падаючы, іду на галасы пеўняў. Іду ўпарта і доўга. Заўважаю між тым — наперадзе нешта чорнае.

«Няўжо суша, лес?»

Паддаю кроку і бачу: гэта зусім не лес, а кусты. Расхінаю рукамі гнуткае вецце, скачу з купіны на купіну, пакуль нарэшце не залажу ў зараснік. Дол тут спавіты, нібы дротам, карэннямі, услапы сухой, збуцвелай лазой. І я зноў чапляюся за ламачча і падаю. Абдзіраю да крыві твар, рвецца адзежа. Але я не спыняюся, іду — за лазой павінен пачацца сапраўдны лес, чамусьці думаю я.

Якое ж маё расчараванне, калі праз нейкі час я зноў выходжу на балота,— гэта быў усяго невялічкі абсяг лазы, кружок. За ім — канава, нешырокая, але з берагамі поўная вады. Хвіліну-другую я вагаюся — ісці ў яе ці не? Потым, выставіўшы наперад рукі, усё ж іду ў канаву. Іду і адчуваю, як цела маё з кожным крокам усё глыбей і глыбей апускаецца ў ваду. Вось вада даходзіць мне да пояса, вось ужо яна прыступае да

маіх грудзей, шыі... Далей я плыву, а дзе нельга плысці — паўзу... Трачу ўсякае адчуванне часу і месца і ўсё роўна паўзу...

...Ачынаюся я на круглай палянапчцы. З усіх бакоў яе атуляе лес — старое, змрочнае чарналессе. Толькі злева як бы прагаліна — вузкі прадаўгаваты лужок. І на ім, гэтым лужку, у нізкім, малочна-белым тумане, што, чапляючыся за кусты, проста на вачах распаўзаецца, некуды імкліва ўцякае,— капа сена. І ля гэтай капы, час ад часу падымаючы галаву і ўслухоўваючыся ў цішыню, скубе, шчыпле траву рыжая дзікая каза. Пры ёй, крокаў за тры, упёршыся лобікам у камель, дужаецца з маладой бярозкай казляня. Пыска ў яго такая маленькая, кволенькая і, здаецца, пахне матчыным малаком. І я, баючыся патрывожыць нябітрую мілую забаўку, ляжу, не асмельваючыся паварушыцца і засмяглымі вуснамі лаўлю першыя промні сонца, якое паволі, як бы нехаця, выкотваецца з-за стромкіх вяршалін дрэў...

Я перамог балота!..

*1964 г.*

# КРЫК

Аднойчы, у цёплы і ціхі вечар, Іра сядзела на лавачцы ў садзе. Далёка, у вёсцы, рыпаў гармонік, аднастайна і нудна нылі камары. Быў ліпень, але ў садзе ўжо волка пахла астрамі.

З акон дачы — доўгай драўлянай будыніны, цяпер, у вячэрнім змроку, шэрай і нецікавай, а ўдзень вельмі ж вясёлай, пафарбаванай у квола-зялёны колер,— падала блеклае, спакойнае святло. Чорныя крыжы рам пасляліся на траве ля самых Ірыных ног. І, гледзячы на іх, Іра думала, што ёй ужо дваццаць тры гады, што яна зусім дарослая, самастойная і праз нейкі час паедзе настаўнічаць у вёску з крыху дзіўнаватай назвай — Дурыкі. Накіраванне даўно ляжыць у сумачцы ў шуфлядцы стала. Ехаць у вёску ёй рупіць, бо над-

та ж надакучыў горад. А вёску яна любіць. Любіць вялізныя, як ахапіць вокам, лугі, якія ўлетку аж стракацяць ад дзікіх красак; любіць пясчаныя берагі ракі, блакітныя паўкруглыя завадзі і над імі — ніцыя, купчастыя кусты лазы; любіць, як некуды вязуць на падводах загарэлыя, запыленыя дзядзькі поўныя, укоптур, кашы вішань, яблык, агуркоў; любіць давольных, тоўстых баб, што, падаткнуўшы падолы шырокіх спадніц і завязаўшы ўчубкі хусткі, ідуць за жняяркамі — вяжуць тугімі перавясламі снапы... Кожны дзень, пражыты на прыродзе, сярод простых людзей вёскі, куды яны разоў колькі ездзілі адпачываць усёй сям'ёй улетку, калі бацька не працаваў яшчэ ў міністэрстве, помніўся ёй асабліва добра...

Цяпер жа там, дзе ёй так падабаецца, яна зможа жыць доўга, колькі ёй, ва ўсякім разе, захочацца. Вось толькі каб паехаць, каб не астацца ў горадзе. Што гэта можа здарыцца, яна больш чым упэўнена: вось ужо некалькі вечароў яе бацька прывозіць на дачу «на чай» самых вядомых у іх горадзе вучоных — прафесароў, акадэмікаў. Іра здагадваецца, што ўсё гэта не так сабе, бо не такі ў яе бацька, каб папросту, без дай прычыны, абы з кім за шклянкай чаю бавіць час. Пяць гадоў назад, калі Іра скончыла дзесяцігодку, ён гэтак жа, на гэтую самую дачу, вазіў універсітэцкіх работнікаў...

Успамінаецца між іншым, што і ва ўніверсітэт яна ішла без асаблівай ахвоты, без асаблівай ахвоты пасля і вучылася. Ат, трэба мець вышэйшую асвету, дыплом, вось яна і вучыцца. Гэтак жа, яшчэ раней, хадзіла ў музычную школу...

І чым болей Іра думала, успамінала, тым усё яскравей бачыла: яна яшчэ нічога не рабіла. А калі што і рабіла, дык толькі тое, што казаў бацька. А ёй жа дваццаць тры гады!

Устала. Паволі, нага за нагу, пайшла па дарожцы ў самы далёкі і цёмны кут. І адразу ж вярнулася — у зарасніках парэчак і маліны было яшчэ горш сумна. Заўважыла: гармонік змоўк, прыціхлі і камары. Толькі адзін ля самага вуха ўсё яшчэ звінеў, тонка і наўздзіў жаласна. Выплыў круглы і свежы, нібы пасля сну, месяц. Выплыў і ўсеўся на комін суседняй дачы, што бледным вастраверхім дахам вытыркалася з цем-

ры. На дарожку ляглі сінія дрымотныя цені. Ад ветру ледзь-ледзь пакалыхваліся галінкі, пакалыхваліся маркотна, млява і цені. Можа ад гэтага ў Іры закружылася галава. Іра прыхілілася плечуком да камля старое яблыні і заплюшчыла вочы. Пачула: рыпнулі дзверы і на ганак дачы нехта выйшаў.

— Дык я на вас спадзяюся, Казімір Кандратавіч,— пазнала яна глухі ўладны бацькаў голас,— вельмі нават спадзяюся...

— Цяжка будзе, Іван Дарафеевіч,— дагодліва адказаў бацьку нехта незнаёмы.— Але я пастараюся. Дакладней — зраблю ўсё, што ад мяне залежыць... Толькі ж і вы, калі ласачка, не забывайце на маю просьбу...

— Вядома!..

Грукнулі дзверы машыны, загурчаў матор. Іра расплюшчыла вочы і ўбачыла бацьку. Ён стаяў на прыступках дачы, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, мажны і строгі, і глядзеў, як паварочваецца, выязджае на дарогу доўгая чорная «Волга».

«Чаго ён хоча ад гэтага Казіміра Кандратавіча?» — падумала Іра і, як толькі чырвоныя агеньчыкі машыны зніклі ў цемры, пайшла да дачы.

Бацька, убачыўшы Іру, абняў яе за плечы, прыхінуў да сябе, пацалаваў у лоб.

— Ну, вось, дачушка, здаецца, і ўсё,— сказаў ён ціха.— Казімір Кандратавіч — гаспадар свайму слову. Калі паабяцаў, дык зробіць...

— Я цябе не разумею, тата. Што гэта значыць: зробіць? — з трывогай спыталася Іра...

— Ну, я ж табе гаварыў, дачушка...— мякка сказаў бацька.— Зробіць усё, каб ты асталася ў аспірантуры,— лагодна ўсміхнуўся ён.— Там, праўда, у іх некага пакінулі. Але гэта няважна... За яго асабліва ніхто не заступіцца, калі раптам ён... паедзе ў вёску...

— А мяне на яго месца?

— Не хвалюйся, дачушка. Якая табе розніца, на чыё месца... Абы ты была тут...

Нешта горкае, цяжкае варухнулася ў грудзях, здавіла горла. Іра хацела сказаць, што той, на чыё месца возьмуць яе, можа вартнейшы, больш неабходны менавіта тут, а не ў вёсцы. І не змагла — заплакала. Заплакала і са слязьмі пабегла ў хату.

Ужо ў сваім пакоі, упаўшы на ложак, Іра зразумела: яе не пакінуць адну — прыбягуць усёю сям'ёю, будуць супакойваць, угаворваць, будуць прасіць апамятацца і не рабіць глупства. Ой, як усё гэта абрыдла!.. І яна, чуючы, што да яе ўжо бягуць, закрычала:

— Я не малая! Я не хачу, каб мяне перастаўлялі, як пешку... Не хачу!.. Хачу жыць так, як хочацца мне, мне, а не вам!..

*1962 г.*

## ДАРОГІ

Ад горада да горада, ад сяла да сяла ўюцца, бягуць дарогі. Бягуць праз палі і лясы, лугі і балоты. То цяжка, стомлена ўзлазяць на пагоркі, як бы прагнуць паглядзець, што ж там, далей, то весела спадаюць уніз, у лагчыны, нібыта хочуць ад некага схавацца. Бітыя, абсаджаныя векавымі бярозамі і ясакарамі, і ледзь прыметныя ў траве сцяжынкі; дарогі крывыя, з грэблямі на кожным кіламетры і вузенькімі драўлянымі масткамі,— па іх вельмі ж прыемна грукочуць колы вясковых фурманак — акурат так грыміць першы навальнічны гром ранняй вясною,— і дарогі роўныя, як струна, на ўвесь абсяг людскога вока; дарогі кружныя і дарогі прамыя... Хто пратаптаў вас, дарогі, і колькі людзей вас перамерала ўжо сваімі нагамі ўздоўж і ўпоперак, зімою і летам, гразкай вясною і ў дажджлівую восень? Па вас хадзілі выпетраныя на сонцы і ветры, лёгкія, як сам вецер, з кужэльнымі торбамі крыжнакрыж цераз плячо жабракі, і неслі думы свае, крыўду і боль воіны... Спяшаліся на спатканні да дзяўчат маладыя хлопцы-навольнікі і бегалі дзяўчаты да хлопцаў... Крочылі заклапочаныя, зажураныя — хмара хмарай — гаспадары, і пралятаці ўзвей-вецер гулякі... Па вас вазілі ў царкву хрысціць дзяцей, і тых жа дзяцей, калі яны выраслі, старэлі і паміралі, вазілі на вечны супакой на могілкі...

Прыходзілі на зямлю людзі, адтупвалі па дарогах наканаваныя лёсам кіламетры і гады і зноў ішлі ў зям-

лю... А дарогі віліся і віліся, гэтак жа, як уюцца яны і цяпер, як будуць віцца і пасля, як мы адыдзем і на змену нам прыйдуць іншыя... Дарогі не могуць, каб па іх не хадзілі. Калі па дарогах ніхто не ходзіць, яны зарастаюць, перастаюць быць дарогамі. Робяцца зноў полем, лесам, лугам, балотам...

Ці не таму і я іду і іду па дарогах, мераю і мераю свае кіламетры. Стамляюся, адпачываю і зноў іду. І хто можа сказаць, дзе апошняя дарога мая, дзе канец яе, дзе я прысяду, каб набрацца сіл, і больш ніколі ўжо не ўстану?.. Ніхто не скажа. А таму я іду, мераю і мераю дарогі... Ад горада да горада, ад сяла да сяла, па полі і па лузе, па балоце і па лесе. Узбіраюся на пагоркі, апускаюся ў лагчыны, іду прама, пятляю сюды-туды, як пятляюць і самі дарогі. Іду ў цяні векавых абсад і па спякотным сонцы... Іду, бо нехта ж павінен ісці — дарогі не могуць, каб па іх не хадзілі. Калі па дарогах не ходзяць, яны зарастаюць, перастаюць быць дарогамі...

*1964 г.*

## АПОШНІ РАЗ

Іншы раз гэта здаецца няпраўдай, нядобрым, страшным сном...

...Са школы ён прыбег нешта вельмі рана, адразу ж пасля першых урокаў. Кінуў на лаўку ў кут сумку з кніжкамі і сшыткамі, схапіў кавалак хлеба,— яна ў той дзень толькі што выняла з печы хлеб, і той астываў на стале, пульхны і пахкі.

— Мама,— крыкнуў ён, пхаючы ў рот хлеб,— нас выклікаюць у ваенкамат. Пад вечар я вярнуся...

І хоць яна ведала, што ідзе вайна і кожную хвіліну немцы могуць быць тут,— усё роўна нават не дапускала думкі, што ў яе могуць забраць сына — яму не было тады і семнаццаці. Ці мала чаго маглі паклікаць у ваенкамат? Вунь і шпіёнаў, кажуць, немцы скідваюць з самалётаў, і парашутыстаў. Трэба ж іх некаму палавіць, бо мужчыны ўсе на фронце. Вось і выклікаюць... І яна нічога не сказала яму, толькі папрасіла:

— Не баўцеся ў мястэчку. Як адпусцяць — бяжыце барзджэй дадому. І ўсе разам, каб, божа барані, ніхто не перастрэў вас на дарозе...

І ён пабег.

З ваенкамата яна чакала яго цэлы дзень, чакала, не кладучыся ні на хвіліну ў пасцель, усю ноч.

А назаўтра, уранні, ёй прынеслі пісьмо. Пісьмо ад яго, яе сына. «Мама,— пісаў ён,— нас забралі служыць. Сама ведаеш, вайна: выклікалі па адной справе, а выйшла зусім другое. Ехалі праз нашу станцыю, я выходзіў з вагона, і так было сумна, што нас ніхто не праводзіў...»

Тое пісьмо і цяпер ляжыць у шуфлядцы стала. І яна часта, часта дастае яго і чытае. Чаму яна не пайшла на станцыю, не занесла сыну чаго на дарогу? Яго, пэўна ж, не накармілі ў ваенкамаце, і як ён, бедны, ехаў галодны з дому?..

І плача, плача горка і слёзна, ніяк не могучы паверыць, што бачыла сына ў той дзень апошні раз...

*1962 г.*

## ФАШЫСТ

Ён вельмі любіў сваю маці. І з нямецкай акуратнасцю раз на тыдзень, у суботу, заўсёды пісаў ёй доўгія-доўгія лісты, у якіх не забываўся паведаміць розныя дробязі, накшталт таго, што ён еў усе гэтыя дні і дзе начаваў — у мужыцкіх хатах гэтых «швайнэ русішэ», у лесе на хваёвых лапках ці ў акопе. У канцы кожнага ліста ён напамінаў сваёй «лібэ муці», як ён яе любіць і што, як толькі скончыцца вайна, ён абавязкова вернецца зноў дадому, да яе...

Расстрэльваючы кожны дзень жанчын у партызанскім краі, куды ён быў камандзіраваны сваім вышэйшым начальствам, ён ні разу нават не падумаў, што гэтыя жанчыны — таксама маці...

*1964 г.*

## ТОЛЬКІ ГЭТА І АСТАЛОСЯ...

Цёмная парная ноч канца чэрвеня. Пахне смалою, маладымі сасновымі шышкамі. Вузкая калёсная дарога, віхляючы між чорных камлёў, ідзе, віецца лесам. І па гэтай дарозе настаўніца вясковай сямігодкі, зусім яшчэ дзяўчо, праводзіць у войска свайго каханага — Жэню. Высока-высока, у небе, трымціць, натужна гудзе, змагаючыся з цемраю, самалёт, а ў зарасніках, проста ля самай дарогі, цёхкае, аж заліваецца, салавей. Хлопец, і без таго п'яны, на момант зусім траціць розум — хапае на рукі дзяўчыну, цісне да сябе, упоцемку знаходзіць гарачыя вусны і, прыпаўшы да іх, нясе яе на абочыну...

Яна апамяталася на траве. Нервова абвіла яго шыю, ледзь чутна папрасіла.

— Жэнечка, што хочаш, толькі не гэта... Пашкадуй, не рабі глупства...

Ён пашкадаваў...

Роўна праз год пачалася вайна. Жэня ў вёску болей не вярнуўся — загінуў недзе пад Брэстам у першыя дні вайны. Яна ж, пахадзіўшы гадоў дзесяць у перастарках, выйшла замуж за ўдаўца на трое дзяцей. І пасля, колькі ні ўспамінала Жэню, не магла даравацъ сабе таго, што сказала яму ў тую парную чэрвеньскую ноч...

*1962 г.*

## ГОЛАС

— Не, доктар, у мяне нічога не баліць, я не хворы. Некаторыя нават смяюцца, чаму гэта мне інваліднасць прыпісалі. І ногі ў мяне цэлыя, і рукі, і галава на плячах, і так я яшчэ дужы мужчына, калоды б такому варочаць ці за плугам хадзіць, а не на пенсіі сядзець. Праўда, доктар, які ж я хворы, калі ў мяне ўсё як мае быць. А я ўжо дваццаць гадоў на пенсіі, і толькі тое і раблю, што па дактарах розных ды бальніцах езджу, усё паратунку шукаю. Дзе толькі я не па-

бываў — і ў Мінску, і ў Маскве, і ў Кіеве. Да прафесараў розных ды да акадэмікаў нават трапляў! І гэта я, мужык, які да вайны ні разу і горада па-людску не бачыў, ні з адным вучаным чалавекам не гаварыў. Што зробіш, гора, кажуць, да ўсяго прывучыць... Вось і да вас прыйшоў, спецыяліст вы, гавораць, вялікі... Памажыце мне, доктар! Уся бяда мая ў тым, што не магу я адзін у хаце быць. Як толькі астануся адзін, так і мроіцца мне, быццам я чую, як жонка мая, Поля, кліча мяне: «Косця! Кастусёк!..» Я бягу да акна і там, вядома, нікога не бачу... Што? Вы пытаеце, калі жонка памерла? Не, яна не памерла, яе... Эх, доктар! Яе немцы спалілі. У хаце, разам з трыма дзецьмі маімі. Тады, як я ў лес пайшоў, у партызаны. Я нават ведаў, калі іх спаляць — чалавек наш перадаў, што ў камендатуры нямецкай служыў. Я спяшаўся са сваім атрадам, каб іх выратаваць... Што, што вы пытаеце?.. Не, не паспеў... Немцаў такі мы прагналі, але хат не атушылі, людзей не ўратавалі... І вось пасля таго, нібы ўлезла нешта ў галаву мне. Як толькі астануся адзін у зямлянцы, так і чую голас жонкі... Спачатку на ўсё гэта я і не зважаў: вайна ішла, не да таго было. Злосць, лютасць сваю на немцах спаганяў. Так помсціў, што казалі, тое гадаўё і само ўжо не рада было, што зачапілі мяне, жонку маю з дзецьмі спаліўшы. А скончылася вайна, зноў усё пачалося спачатку. Можа, і не трэба было мне на тым сваім папялішчы хату новую ставіць, можа б, усё і забылася з часам... А паставіў, усяліўся — і пачало мне бог ведае што мроіцца. Чаго толькі я не перабачыў у сне, чаго не ўявіў! Быццам бы хата мая стаіць не на штандарах, а на дзяціных і жончыных костачках — а я ж стаўляў яе зусім з другога боку. Там жа, дзе была да вайны хата, магілкі парабіў, костачкі пазакопваў, агарадзіў... Усё цяпер у галаве ў мяне змяшалася, не разбяру, дзе сон, а дзе ява. То бачу, як гарыць мая хата, то чую, як наракае на мяне мая Поля, што не прыспеў у час і яны загінулі... І голас яе засеў у маіх вушах на ўсё жыццё! Вось гавару з вамі, а ў мяне аж у вушах звініць... Жахліва, доктар, жыць і праз усё жыццё чуць крык, чуць, як на цябе наракаюць... Часам мне нават здаецца, што я трачу розум!.. Хату тую я, вядома, прадаў, перасяліўся ў другое месца, пасля пераехаў нават у горад. І лепей бы я гэтага не рабіў. Я ўця-

каў ад свае мёртвай сям'і, а яна даганяла і помсціла мне, не пакідала мяне нідзе ні на хвіліну... Я пераехаў зноў у вёску, але крыкі і ўява мяне не пакінулі... Тады я пачаў ездзіць па дактарах... Памажыце мне, доктар, няма змогі больш так жыць. Калі гэта безнадзейна, скажыце мне, я чалавек адчайны, не раз хадзіў і ў штыкавыя, і на падрыў, і амаль з голымі рукамі на карнікаў... Скажыце ўсё, як ёсць, каб я не дакучаў такім, як вы, дарэмна не валачыўся па бальніцах. Калі будзе помач, дык я пайду на любую аперацыю, пайду на што заўгодна, абы толькі не чуць штохвіліны таго страшнага голасу, што не сціхае ў вушах у мяне вось ужо дваццаць год!..

*1964 г.*

## З кнігі «Вол-фігурыст»

## НУ І ЛЮДЗІ!

Летні дзень пасля поўдня. Прыпарвае.

У скверы раённага цэнтра на лавачцы сядзяць даўнія дружбакі — настаўнік мясцовай школы Язэп Антонавіч і бухгалтар шавецкай арцелі Антон Язэпавіч. Клопатаў асаблівых як у аднаго, так і ў другога няма: проста выйшлі пабавіцца, ды ў размове яно і час куды хутчэй бяжыць.

Насупраць лавачкі, дзе сядзяць Язэп Антонавіч і Антон Язэпавіч, за агароджай, з дошкі тратуара вытknуўся цвік. І так, ліха на яго, вытknуўся, што рэдка хто пройдзе і не зачэпіцца. На такую непрыемнасць кожны рэагуе па-свойму: адны злуюцца, успамінаюць чорта лысага, другія, моўчкі саступіўшы ўбок, мацуюць каменемададраную падэшву, трэція на чым свет стаіць лаюць раённае начальства.

Язэп Антонавіч смяецца:

— Вось, скажы ты, людзі! Сто чалавек пройдзе, сто зачэпіцца, а каб узяць камень ды цвік забіць — нікому і ў галаву не цюкне.

— Ага,— пачынае развіваць далей думку дружбака Антон Язэпавіч.— Спяшаецца гэтак кожны, ці як у тым анекдоце пра гарачую капусту: апёк рот я, апячы і ты...

Язэп Антонавіч глыбакадумна пярэчыць:

— Не, не тое... Проста людзі такія. Хай хто іншы, маўляў, цвік заб'е, а я — не я, ды і хатка не мая... Быццам бы рука ў яго адсохне... Ты вось паглядзі туды,— паказвае настаўнік кавенькаю ў кут агароджы.— Бачыш дзірку? Працсей простага, здаецца, прыбіць адну дошчачку, а думаеш, здагадаецца хто? Дудкі. Чакай вось: улезе жывёліна і сквер спустошыць.

І праўда. Не праходзіць дзесяці хвілін, як вялізная рабая свіння, рохкаючы і павіскваючы, важна, нібы гаспадыня, ужо расхаджвае па скверы. Калі яна ўлезла, ні Язэп Антонавіч, ні Антон Язэпавіч не бачылі.

— Ну, не казаў я?..— не нарадуецца Язэп Антонавіч, што яго словы спраўдзіліся.— Цяпер рыць будзе, з зямлёю ўсё перамяшае. А думаеш, выганіць хто?

— Што ты! Пры такіх людзях...

Пакуль сябры горача абмяркоўвалі людскую абыякавасць, у сквер забрыла чародка гусей. За ёю, трасучы барадой, праз дзірку лезе стары лядашчы казёл.

— Ну што ты скажаш! — падскаквае Язэп Антонавіч.— Гэта ж да вечара, таго і глядзі, з усяго мястэчка жыўнасць збярэцца сюды.

— Ага, збярэцца,— паслабляе на шыі гальштук Антон Язэпавіч (вельмі ж парыць).— Ды і як жа інačай можа быць... Кожны бяжыць, спяшаецца невядома куды, а каб жывёлу выгнаць — і думкі такой ні ў кога няма. Грамадскае, маўляў, не сваё!..

Свіння, пахадзіўшы па скверы, спыняецца ля самай прыгожай клумбы і пачынае рыць. Гусі топчуць і паскудзяць густую, сакаўную траву. Барадач-казёл смакуе галінкі маладых дрэўцаў. Дзьме вецер, і неба ўвачавідкі завалакваецца густою чорна-сіняй хмарай. Недзе ўжо зусім блізка па бляшаных дахах барабаніць дождж.

Язэп Антонавіч і Антон Язэпавіч спахапляюцца.

— Вось табе і маеш! Гаварылі, гаварылі, а тым часам бач што... Дахаты не дабяжым — вымакнем да ніткі...

— А мы давай праз дзірку,— раіць Антон Язэпавіч.— Куды бліжэй будзе...

— Няёмка...

— А вымакнуць ёмка? Не першыя ж мы...

Праз якую хвіліну настаўнік і бухгалтар пакідаюць сквер. Праўда, не зусім удала. Язэп Антонавіч, праціскаючы праз дзірку свой жывот, парваў новую шаўковую кашулю, а ў Антона Язэпавіча лопнулі падцяжкі, так што штаны прыйшлося да самай хаты прытрымліваць рукамі...

Свіння ж, казёл і гусі, не баючыся змокнуць, спакойна пасвіліся ў скверы.

*1960 г.*

# АДНЫМ СЛОВАМ

Гэтае апавяданне пра мяне і пра цябе, дарагі чытач. І не толькі пра мяне і пра цябе, але і пра тваіх і маіх дзяцей, пра тваіх і маіх бацькоў, дзядоў, знаёмых. Гэтае апавяданне пра ўсіх нас, людзей.

Як толькі я з'явіўся на свет божы і ўпершыню ў сваім жыцці пракрычаў «ку-га», тая жанчына, што прымала ў мае маці роды, узяла мяне на рукі, палажыла на вагі і сказала да другой жанчыны ў белым халаце:

— Людачка, запішы. Нованароджаны нумар...

Заўважце, не чалавек, не мужчына, а ўсяго толькі нейкі нованароджаны!..

З гэтага ўсё і пачалося. Калі назаўтра мой бацька прыйшоў у бальніцу, яму сказалі, што ў яго нарадзіўся сын. Бацька ў сваю чаргу сказаў сваім бацькам, што яны могуць радавацца: у іх ёсць унучак. Дома ў нас увесь той вечар пілі, спявалі, танцавалі. І суседзі нашы, што жылі пад намі і над намі, побач і насупраць, гаварылі адзін аднаму, што ў майго бацькі нарадзілася дзіця і таму ў нашай кватэры так тлумна...

Гэтага ўсяго я, вядома, не помню, але бацькі мае мяне запэўніваюць, што ўсё гэта было менавіта так...

Нарадзіўся я дужанькі, крычаў, як і трэба было, на ўсё горла, аж вылазіў пупок, да таго ж мне вельмі падабалася дрыгаць нагамі. І ў ядзе я быў таксама не надта пераборлівы — еў усё, што мне давалі. Таму не дзіўна, што я хутка рос і ўжо на другім годзе жыцця даволі борзда тупаў па хаце. На мяне надзелі штаны. З гэтага дня на вуліцы і дома мяне інакш не звалі, як хлопчык ці проста Раман. Былі, вядома, у мяне і свае мянушкі — плакса, размазня, накольнік, неслух...

Калі я пайшоў у школу (у дзіцячы садзік пахадзіць не давялося, чарга мая не дайшла), мяне пачалі зваць вучнем. Вучыўся я так сабе, цераз пень-калоду, і адразу ж трапіў у адстаючыя. Потым я падраўняўся, стаў сераднячком, потым чацвёрашнікам і нават выдатнікам. Само сабой зразумела, быў я першакласнікам, другакласнікам, трэцякласнікам, чацвёртакласнікам. У дзесятым класе я зусім неспадзявана нават для самога сябе стаў выпускніком.

Пасля школы трэба было думаць, куды падавацца далей. Да гэтага бацькам маім як бы і клопату не было, які я ем хлеб. А тут раптам яны загаварылі пра «свой» хлеб. Што ж, я не крыўдаваў на іх — добра і так, што гэтулькі год кармілі і не звалі дармаедам. Прафесій розных многа, а я адзін. І мне, і маім бацькам хацелася выбраць самую лепшую прафесію. Пад словам «лепшую» кожны, вядома, разумеў нешта сваё, і мы спярша здорава перасварыліся. Куды хацеў я паступаць — не хацелі бацькі, куды хацелі бацькі — туды не хацеў паступаць я. Спыніліся ўрэшце на тым, што я паеду ў Мінск, а куды мне паступаць, падкажа дзядзька, што выбіўся ў людзі і меў там нейкую пасаду. Дзядзьку мной займацца не было калі, у яго «гарэў» нейкі план, і такім парадкам я падаў дакументы, куды хацеў сам — на хімічны факультэт універсітэта. І адразу ж стаў абітурыентам.

Экзамены я здаў даволі лёгка, і мяне залічылі ва універсітэт першакурснікам-студэнтам. Ва універсітэце я праз усе пяць год быў імянным стыпендыятам, таму мяне, як толькі я атрымаў дыплом, пакінулі ў аспірантуры. Я стаў аспірантам. У аспірантуры я добра засвоіў тую ісціну, што вучоным можаш ты не быць, а кандыдатам быць павінен. Напісаў (напісаў — не тое слова,— хутчэй за ўсё перапісаў, склеіў) сяк-так дысертацыю. Мяне ўсюды пачалі зваць дысертантам, потым, калі я гэтую дысертацыю з горам папалам абараніў,— кандыдатам. Але перш чым стаць кандыдатам, мне давялося некалькі месяцаў пабыць практыкантам, лабарантам і проста выкладчыкам. Цяпер я дацэнт, дактарант, загадчык кафедры.

Спачатку, калі я ехаў да дзядзькі ў Мінск і ў вагоне цягніка мяне ўпершыню назвалі пасажырам, я спрабаваў не згадзіцца з гэтым.

— Перш за ўсё я чалавек, а пасажыр потым ужо!

Але чарнявая дзяўчына, якую ўсе звалі праваднiцаю, адчытала мяне, як школьніка:

— Грамадзянін пасажыр, у мяне пасадка, мне не да жартаў...

А я, далібог жа, не жартаваў, я проста не мог прывыкнуць, што тыя, хто мяне акружаў, здаецца, толькі тым і заняты, што шукаюць словы, як бы гэта так сказаць, каб хаця, баронь божа, не назваць мяне тым, хто

я ёсць на самай справе — чалавекам. А я, дзівак, хацеў, каб звалі мяне ўсюды толькі чалавекам, бо, як казаў адзін пісьменнік, «Чалавек — гэта гучыць горда!». А каму не хочацца быць гордым!..

Спрабаваў я пасля пратэставаць у магазіне дзе я для ўсіх мусіў быць не чалавек, а проста пакупнік, у бальніцы, дзе я ляжаў ужо як хворы, у ваенкамаце, дзе быў спярша прызыўнік, потым — вайсковаабавязаны, у арміі, дзе мяне называлі вайсковец, салдат, дзяжурны, паставы... І дзіўна — усюды мяне не разумелі, лічылі, што я жартую. У арміі за такія жарты камандзір нават неяк заўвагу зрабіў.

— Мы універсітэтаў не канчалі,— пахваліўся ён,— але такіх бязглуздых пытанняў усё роўна нікому не задаём...

Пасля службы ў арміі, калі ўжо зайшла гаворка пра гэта, я вярнуўся ў Мінск, звольненым у запас, халасцяком. Тут я пазнаёміўся з дзяўчынай і стаў кавалерам. Дзяўчына мне падабалася, я ёй таксама. Знаёмыя пачалі зваць нас закаханымі. Праз нейкі час нам надакучыла туляцца па парках і розных іншых цёмных куточках, і мы дамовіліся пажаніцца. Я стаў жаніхом. У адзін з нядзельных дзён мы завіталі ў загс. І тут я даведаўся, што я ніякі не чалавек, а ўсяго толькі «ўступаючы ў шлюб». Добра, што загадчыца загса была мая знаёмая і аформіла шлюб без чаргі — такім чынам я ўжо на другі дзень стаў маладажонам, сем'янінам. Быў я, вядома, і кватарантам. Але пра гэта я не люблю нікому расказваць, баюся, каб не пачула мая былая гаспадыня. Калі пачуе — прыбяжыць зноў сварыцца, а нервы ў мяне — на валаску. Магу не стрываць і... Не, лепш памаўчу. Скажу толькі, што цяпер я маю сваю кватэру і лічуся жыхаром дома № 7. У доме адпачынку мяне завуць адпачываючы, на пошце — я атрымальнік і падпісчык, у атэлье — заказчык, у сталовай — ядак, у музеі — наведвальнік, у тэатры — глядач, на музычных канцэртах — слухач, на вуліцы — пешаход, у ашчадкасе — укладчык, у кіраўніцтве дамамі — кватэранаймальнік, у бібліятэцы — чытач... Калі я неяк некуды вельмі спяшаўся і не там, дзе належыць, перайшоў вуліцу, я адразу ж стаў парушальнікам. Добра, што я своечасова папраівіўся і больш пакуль што (хвала богу!) не знаюся з міліцыяй.

Інакш, чаго добрага, да ўсіх ранейшых маіх тытулаў магло б дабавіцца яшчэ і злодзей, дэбашыр альбо нешта блізкае да гэтага, і як вынік — я быў бы падсудны...

За тыя гады, што я пражыў, мне давялося пабыць і зацікаўленай і незацікаўленай асобай, і ўладальнікам, і аматарам, і госцем, і праважатым, і прасіцелем, і аўтарам, і сведкам, і старшынствуючым, і прамоўцам, і экзаменатарам... Ды хіба пералічыш, кім мне давялося пабыць за свой век!

Жонцы я муж, дзецям — бацька, знаёмым — Раман Гаўрылавіч, проста чужым — дзядзька, жончыным бацькам — зяць. Хутка я, па ўсім адчуваю, стану цесцем і свёкрам, бо сын жэніцца, а дачка збіраецца выходзіць замуж. Потым я стану дзедам, пенсіянерам. Нарэшце, хоць я таго і зусім не хачу, стану нябожчыкам...

Цешу сябе надзеяй, што адзін раз чалавекам мяне ўсё ж назавуць. Гэта будзе тады, калі памру і мяне будуць везці на могілкі. Нехта спагадлівы, спадзяюся, не стрывае і скажа:

— Адным словам, жыў чалавек, і няма чалавека...

Ды гэтага я, на жаль, ужо не пачую.

*1965 г.*

## З кнігі «Халасцяк»

# АПАВЯДАННІ ЖЫВОЕ ПРЫРОДЫ

### АЛЕШЫНКА І ХМЕЛЬ

Жыла-была ў гушчары лесу Алешынка. Маладая, рослая, станам прывабная. Усе дрэвы яе любілі, а найбольш за ўсіх любіў Алешынку Дуб. Ён і ад ветру яе прыкрываў, каб той не вывернуў ці не зламаў, і ад марозу, каб не змарозіў, і ад розных іншых жыццёвых нягод бярог. Быў Дуб гэты таксама яшчэ малады, а таму і не вельмі вопытны ў такіх справах, як каханне. І ўсе свае пачуцці хаваў ад Алешынкі. Думаў: а вось яна сама пра ўсё здагадаецца. Дый з выгляду ён быў не надта каб, нават самому сабе не падабаўся — каржакаваты, камель тоўсты, карысты, а зверху — адно голле: дзе ўжо такому, як ён, заляцацца да Алешынкі...

Алешынка ж расла, прыгажэла дзень пры дні і ўсё ўгору цягнулася ды з такіх, як сама, стройных ясеняў і клёнаў вачэй не зводзіла. Але тыя былі далёка і нават не глядзелі ў той бок, дзе стаяла Алешынка,— побач, усяго крокаў за колькі, бялеў бярозавы гай, і кляны ды ясені заляцаліся да бярозак. Перамаўляліся, жартавалі, а часам і лісты адно аднаму пасылалі з ветрам. І калі Алешынка пра ўсё гэта даведалася, засумавала, бедная...

Гэтага толькі і чакаў Хмель. Ён ужо даўно прарэзаўся з зямлі і шукаў, да каго б у прымы прыстаць, каб пажыць без клопату.

— Алешынка, як я кахаю цябе,— соладка зашаптаў ён і лёгенька абняў Алешынку за стан.

— Алешынка, жыць без цябе не магу! — і зноў абдымае, зноў туліцца да танюткага і такога стройнага стану, абвівае яго, горнецца, лашчыцца.

Закружылася галава ў Алешынкі. Хмельна, добра

зрабілася ў яе на душы. Аж вочы зажмурыла яна ад шчасця.

Убачыў гэта Дуб і разгубіўся: што рабіць? І на сорам, нерашучасць сваю забыўся — паспрабаваў ён адгаворваць Алешынку:

— Алешынка, не слухай гэтага смока! На тое ж ён і Хмель, каб хмяліць салодкімі словамі. Не вер яму, ён абдурыць цябе!

— А табе што да таго, крыўлячына! — азвалася Алешынка.— Я што хачу, тое і раблю. Дый хто ты, каб мне ўказваць?

Дуб замоўк. Крыўдна яму стала. Адвярнуўся ён і толькі лісцем сваім зашумеў...

А Хмель усё ўвіваўся ля Алешынкі і так горача яе абдымаў, так хмяліў сваімі словамі, што Алешынка і зусім розум страціла, на ўсё забылася.

Прайшоў год, другі..

І Алешынка раптам адчула, што яна смягне і слабее, што ёй цяжка дыхаць, што ёй не хапае святла і сокаў, бо яе ўсю чэпка спавіў Хмель.

— Хмелю, Хмелю,— зашаптала яна,— пусці мяне, я задыхаюся ў тваіх абдымках.

Але Хмель як бы і не пачуў голасу Алешынкі — абдымаў і абдымаў яе і лез усё вышэй і вышэй угору, у голле.

Ішлі месяцы, гады... І Алешынка пачала паволі сохнуць. Не так ад таго, што ёй не ставала святла і сокаў, як ад скрухі і крыўды, што яе ніхто не кахае, што яна некалі так легкадумна паверыла Хмелю.

Сохла, сохла і засохла...

А Хмель? Хмель шукае сабе новую Алешынку, якая б паверыла яго салодкім словам і гарачым абдымкам...

## ДВА АРЭШКІ

Рана ці позна ўсё жывое павінна некага нарадзіць, пакінуць нашчадкаў, каб не зводзіўся род яго. Такі закон прыроды, закон жыцця. І нічога не было дзіўнага ў тым, што на арэхавым кусце Галінка, якая высунулася найбольш за ўсіх на паляну і аж купалася штодзень у праменнях сонца, аднойчы нарадзіла два маленькія, беленькія арэшкі. Як і ўсякая клапатлівая

маці, Галінка гэтая дзяцей сваіх і карміла, і паіла, і люляла, і песні спявала, а ў дні, калі лілі дажджы і дзьмулі халодныя вятры, лісцікамі сваімі іх прыкрывала, ад вока людскога хавала, усё спеліла.

І дачакалася, нарэшце, той пары, калі арэшкам надышоў час пачаць самастойнае жыццё. Галінка-маці хацела, каб дзеці яе не загінулі ад нягодаў жыцця, каб выраслі і нарадзілі сабе дзяцей. Таму і надумала сказаць дзецям слова на дарогу.

— О дзеці мае,— пачала яна.— Хоць і не хочацца мне з вамі расставацца, ды нічога не зробіш... Такая ўжо доля наша... Я астануся тут, а вы пойдзеце ад мяне. Пойдзеце ў свет... Але перад тым, як з вамі расстацца, я хачу вас сяму-таму навучыць. Я пражыла болей і за свой век сёе-тое ўведала, пабачыла. Першае, чаго вам трэба баяцца, гэта каб ніхто не сарваў і не з'еў вас цяпер, калі вы паспелі. Пакуль вы малыя былі, вас ніхто не бачыў, вы нікому не трэба былі. А выраслі, кожны хоча — і чалавек, і вавёрка, і дзік... Шануйцеся, хавайцеся, а то сарвуць... Як трапіце на зямлю, таксама не ляжыце наверсе, шыйцеся ў траву, у апалае лісце. Інакш вас убачаць і падбяруць... Тады ад вас таксама толькі шкарлупка астанецца... Яшчэ адно. Ведайце: за летам прыйдзе восень, за восенню — вельмі сіберная, халодная зіма. Каб не замерзнуць, лезьце бліжэй да матухны-зямлі. Яна добрая, нікому не дае прапасці. Вясною вы прарасцеце, пусціце карэнні. Вас ужо тады ніхто не будзе шукаць, бо вы перастанеце быць арэшкамі — з вас пачне расці куст. Але вы асабліва не радуйцеся, не храбрыцеся,— вас можа стаптаць кожны, хто мае ногі і хто будзе праходзіць міма. Але і гэта яшчэ не ўсё,— падрасцеце, глядзіце, каб вас не злізалі языком, не згрызлі зубамі. Расціце гнуткія і будзьце хітрыя, толькі тады вы зможаце жыць...

Пачуўшы такое ад маці, адзін арэшак цяжка ўздыхнуў:

— Ох... Няўжо ўсё наша жыццё — гэта боязь, страх, каб не загінуць?

— Не, дзіцятка маё,— сказала маці.— Будзе ў вас і радасць. Многа, многа будзе радасці. Але будзе і страх. І пра страх я кажу таму, каб ведалі, што ён ёсць, і яго не баяліся...

— Хіба ж можна не баяцца ўсяго таго, пра што ты толькі што расказвала? Не, як так жыць, лепей памерці... Вось цяпер, калі пачынаеш жыць і не ведаеш, што такое жыццё...

І арэшак выткнуўся з-пад лістка, пачаў думаць, як бы рашыць сябе жыцця. У тую хвіліну якраз праходзіў міма Галінкі чалавек, убачыў арэшак, сарваў яго і ўкінуў сабе ў рот. Хрусь — і ад арэшка асталася толькі шкарлупка...

А другі арэшак нічога не збаяўся, добра выспеў, а тады выслізнуў са свайго лона ў траву.

Ніхто не знайшоў яго там увосень. Не замёрз ён і ўзімку. Не стапталі яго, не з'елі ўлетку каровы, не згрызлі козы, не зламалі дзеці... З арэшка праз некалькі год вырас вялізны арэхавы куст. Сваім дзецям ён таксама, як і некалі яго маці, гаворыць на дарогу слова, навучае, як трэба паводзіць сябе, каб не загінуць. І не-не дый успамінае свайго баязліўца-браціка.

— Не бойцеся жыць! — не забываецца сказаць на дарогу сваім дзецям куст.— Авось і каровы вас не стопчуць і чалавек не з'есць! Як не стапталі, не з'елі мяне!

## ЖЫВЫ КОРАНЬ

Да вайны ў нашым гародчыку кучаравілася маладая, вельмі бучная ліпа. Не помню ўжо чаму — ці то яна глушыла парэчкі, агрэст, маліннік, што раслі там жа, у гародчыку, ці то закрывала сваім голлем вокны ад сонца,— але ў нашай сям'і надумаліся ссячы гэтую ліпу. І неяк узімку такі ссеклі. Камель, голле спалілі ў печы, а пень так і астаўся сядзець у зямлі.

Вясною ўвесь пень аброс зялёнымі парасткамі. Бы ўсё адно на злосць усім нам. Бацька зразаў гэтыя парасткі нажом, абсякаў сякераю, абламваў, а яны ўсё раслі і раслі, пускалі і пускалі новыя атожылкі...

Маці, бачачы, як шчыруе лета-лецечка ля пня бацька, параіла выкарчаваць яго, выкапаць з карэннямі, тады, казала яна, пэўне перастануць расці парасткі.

Бацька, бадай што, паслухаўся б маці, зрабіў бы тое, што яна раіла, але пень меў жывыя карэнні, і каб павыцягваць іх з зямлі, трэба было раскопваць увесь гародчык. А ў гародчыку, як я гавару ужо,раслі парэчкі, агрэст, маліннік... Шкода было разам з нейкімі ліповымі карэннямі выкопваць і наш ласунак — ягады...

— Нічога, і самі пасохнуць,— махнуў рукою на карэнні бацька.— Не дзе дзенуцца... Калі ліпы няма, і карэнняў таксама не будзе...

Так пень і астаўся сядзець у гародчыку. Штовесну ён абрастаў парасткамі, і бацька зразаў гэтыя парасткі нажом, абсякаў сякераю, абрываў. Калі пачалася вайна і бацька пайшоў на фронт, абразаць, абсякаць і абрываць парасткі з ліповага пня быў мой клопат...

Потым вёску нашу спалілі немцы. Нас жа, яе насельнікаў, вывезлі ў Нямеччыну...

З чужыны мы вярнуліся праз два гады. Нашага гародчыка было не пазнаць — ён увесь зарос маладым ліпняком. Ліпняк заглушыў нават маліннік, парэчкі, агрэст, цяпер ужо безнадзейна, назусім...

Вось што значыць мець у зямлі жывы корань!..

*1967 г.*

# З кнігі «Дарогі»

## НЯЎЖО?

Цёмнай жнівеньскай ноччу нёс я яе, лёгкую, трапяткую на руках сваіх. Нёс за вёску, у поле, туды, дзе ў маўклівай адвечнасці і цішыні чарнелі сціpты свежай жытняй саломы. Яна горача дыхала, раз-пораз прыпадала вуснамі да маёй шыі, шаптала:

— Апомніся, што ты робіш?..

І ў голасе яе чуўся страх. Страх і радасць. Нязведаная таямнічасць таго, што павінна было вось-вось здарыцца, палохала і вабіла яе...

Я быў як п'яны, ані не помніў, што раблю. Я спяшаўся, бег, каб быць як мага хутчэй далей ад вёскі, быць там, дзе драмала пераспелае лета, дзе былі сціpты, была свежая духмяная салома, цішыня. І ноч...

Нядаўна я сустрэў яе зноў. Яна ішла, мабыць, з базару з дзвюма поўнымі гаспадарчымі сумкамі, мажная, безуважная да ўсяго. І я адвярнуўся, зрабіў выгляд, што не пазнаў яе. Няўжо і праўда гэта была яна, калісьці такая лёгкая, трапяткая? І няўжо я нёс яе на руках сваіх, нёс у поле, за вёску, туды, дзе ў маўклівай адвечнасці і цішыні чарнелі сціpты свежай жытняй саломы? І няўжо была хоць калі ў нас з ёю тая цёмная жнівеньская ноч, якая і цяпер яшчэ пры адным успаміне п'яніць мяне хмелем, прымушае зусім, здаецца, па-маладому горача і тлумна біцца сэрца?.. А мо ўсяго гэтага і не было, мо гэта выдумка, фантазія галавы маёй, сон?..

*1969 г.*

6 Зак. 1138

З кнігі «Аксана»

## ПРАКЛЯТАЯ ВАЙНА

Яны сядзелі за нізкім столікам у кутку вакзальнага рэстарана і, як гэта часта бывае ў франтавых сяброў, што пасля доўгіх год ростані нарэшце спаткаліся і на радасці выпілі, успаміналі былых сваіх таварышаў, ваенныя дарогі, гарады, у якіх давялося некалі пабываць.

— А помніш, Сцёпа, Кенігсберг? — гаварыў той, што сядзеў бліжэй да акна, беручы са стала пачак «Беламора» і дастаючы з яго папяросу.— Нас з табою паставілі тады даглядаць слана...

— Як не помніць? — засмяяўся, адкінуўшыся на спінку крэсла, Сцёпа, мажны, з прыкметнай сівізною ў валасах мужчына год сарака пяці, што сядзеў насупроць.— Тады разбамбілі заапарк, і ўсе звяры разбрыліся па горадзе...

— А каб слон не замёрз — холад жа сабачы быў! — давалі штодзень яму спірт...

— Здорава мы тады пажылі...— летуценна прамовіў Сцёпа.— У твайго цёзкі Пецькі Піскуна, калі ён даведаўся, што мы на такой службе, ледзь сэрца не разарвалася...

— Слаўны быў хлопец,— сказаў Пятро і зацягнуўся папяросай.— Нас заўсёды блыталі. Ён Пятро і я Пятро, ён Піскун, а я Піскуноў...

— Гэта ж і тады вас зблыталі. Да слана павінен быў ісці не ты, а Піскун. Ха-ха-ха! — зноў засмяяўся, адкінуўшыся на спінку крэсла, Сцёпа.

— Хлопец — пашукаць такіх! Бывала, прынясуць пісьмы — палавіна Піскуну. А мне ні аднаго. Зайздрасць брала. Падсеў я неяк да Пецькі, кажу: «Пецька, навошта ты столькім дзяўчатам галовы тлуміш,

ты ж іх усіх у жонкі сабе не пабярэш. Дай мне хоць адзін адрас: ты Піскун, а я Піскуноў, ты Пятро і я Пятро, то і не разбярэ каторая, ты гэта ці не ты ёй пішаш. А мне забаўка будзе, вайна, можа, не так здоўжыцца». Смяецца Пецька. «Выбірай,— кажа,— якую хочаш.— І дастае з кішэні цэлы стос здымкаў. Узяў адзін з іх, мне паказвае.— Толькі вось гэтай адрас табе не дам, гэта мая. З ёй я, як скончыцца вайна, ажанюся». Глянуў я на здымак — і, паверыш, нібы заваражыў мяне хто, вачэй не магу адвесці. Здаецца, і няма нічога асаблівага, дзяўчына як дзяўчына, а глянуў — і ўсё!.. Бываюць, брат, такія!

Пятро змоўк і праз хвіліну дадаў ужо зусім іншым голасам:

— А ўвечары таго ж дня Пецька пайшоў у разведку...

— Чакай, чакай,— перапыніў Сцёпа.— Гэта ж ці не табе трэба было ісці ў разведку, ды вас зноў зблыталі?..

— Не, не зблыталі. Я ў санчасці якраз быў.

— Ага, ага, успамінаю... Гэта ж ці не тады ўся наша разведка не вярнулася? Ні адзін чалавек...

— Тады...

Яны налілі па чарцы, зноў выпілі. Пятро прыціснуў пальцам аб попельніцу папяросу, падпёр рукою падбародак, задумаўся. Сказаў ціха, нібы сам сабе:

— Дзіўна, брат, палучаецца іншы раз...

— Што ж тут дзіўнага? На вайне гэта звычайнасць, будзённасць.

— Усё, усё, брат, дзіўна. І вось гэта, і другое...

— Што другое?

— Ды хаця б тое, што, калі загінуў Пецька, пісьмы да той дзяўчыны пачаў пісаць я. Спачатку проста так, ад нечага рабіць, потым па-сапраўднаму. Ад імя Пецькі, як бы ён і не загінуў, як бы я — гэта ён. Скончылася вайна, я паехаў да яе...

— Ну?..— аж прыўзняўся Сцёпа.

— Трое дзяцей ужо,— сказаў неяк сумна, задуменна Пятро.— Кожнаму б жонку такую зычыў, усім узяла — і хараством, і гаспадарлівасцю. Адным словам, не жонка — золата... Толькі не па сабе мне іншы раз робіцца, калі я Пецьку Піскуна ўспомню. Гэта ж яго была б жонка, гэта ж не я, а ён бы з ёю жыў, каб

я тады пайшоў у разведку. Прачнуся, бывае, уночы, успомню усё гэта і да раніцы заснуць не магу... Жонка прыстане: «Што з табою?» А я маўчу, сказаць не ведаю што...

— Гм, так,— уздыхнуў Сцёпка. І раптам, нешта ўспомніўшы, спытаўся: — А жонку як жа тваю звацъ?..

— Маша. Маша Хваенская.

— Маша... Маша Хваенская,— паўтарыў сам сабе Сцёпа і, глянуўшы на гадзіннік, заспяшаўся.— Мне пара, Пецяу адыходзіць мой цягнік. Давай вып'ем за Пецьку Піскуна, за ўсіх тых, каго мы пахавалі... І выкінь з галавы ты ўсё гэта, не думай абы-чаго, усё роўна тых, хто загінуў, не вернеш...

Яны налілі па чарцы і, не чокаючыся, выпілі...

...Седзячы ўжо ў вагоне цягніка, Сцёпа ўспомніў размову са сваім франтавым сябрам і зноў паўтарыў сам уголас: «Маша... Маша Хваенская...» І прыгадаў самую Машу, стройную, рослую, з чорнымі агністымі вачыма і чароўнаю ўсмешкаю на губах — Машу, якую ён помніў з часоў студэнцтва. Тады яна сябравала з Ірою, тою Ірою, без якой ён, Сцяпан, не ўяўляў свайго жыцця. Але лёс не быў ласкавы да іх. Неяк, ужо будучы на фронце, ён, Сцяпан, атрымаў ліст. Ліст, напісаны не Ірыным, а другім, незнаёмым почыркам. Увесь калоцячыся ад нейкага незразумелага, страшнага прадчування, хутка, амаль машынальна разарваў канверт. І не паверыў таму, што было напісана на белай карталюшцы паперы. Іры, яго мілай, добрай Ірынкі, болей няма. Яна загінула. Загінула недарэчна, бязглузда. У бамбёжку... Пра ўсё гэта пісала сяброўка Іры — Маша... Маша Хваенская... І гэта не хто іншы, а ён, Сцяпан, счакаўшы трохі, даў адрас Машы Пецьку Піскуну...

Прыгадаў усё гэта і ў такт перастуку колаў вагона стомлена паківаў галавою і не сказаў — прастагнаў: «Вайна, што ты нарабіла, праклятая!..»

*1968 г.*

# ХЛЕБ

Было гэта даўно. Адразу ж пасля вайны. У голад.

Маці прынесла адпекуль акрайчык хлеба. Доўга-доўга разглядала яго, нюхала, паварочвала і так і гэтак, нібыта не верыла вачам сваім, што на далоні ў яе ляжыць хлеб — сапраўдны жытні хлеб, спечаны з чыстай, без ніякае домесі, мукі, на паду печы, на свежым дубовым лісці, пражылкі якога так прыгожа адбіліся на скарынцы. Потым яна нейк, як мне падалося, аж надта борзда і неахайна разламала акрайчык напал: адзін кавалак дала мне, а другі палажыла на стол, пад абрус.

— Гэта Толіку... Вернецца з лесу — то павячэрае...

Сама ж, узяўшы капаніцу, пайшла на гарод акопваць бульбу.

Я вельмі хацеў есці. І той кавалачак хлеба, што дала мне маці, з'еў, праглынуў мігам. І, вядома, ані не наеўся, толькі растравіў яшчэ больш свой голад. Хвілін колькі я не мог нідзе знайсці сабе месца: чамусьці лазіў на печ, пад ложак, выбягаў на двор, і зноў — каторы раз! — вяртаўся назад у хату. Потым усё ж не вытрымаў. Падсеў да стала, адгарнуў абрус, узяў у сваю руку той кавалачак хлеба, што пакінула была маці Толіку, майму старэйшаму брату. Не есці узяў. Проста так, паглядзець. Палюбавацца хлебам, як любавалася кагадзе маці. І тады раптам мне здалося, што маці мяне абдзяліла, брату пакінула хлеба намнога больш, чым дала мне. Ад братавага кавалачка я адшчыпнуў крошачку. Толькі крошачку. Адну маленечкую, малюпасенькую крошачку. Укінуў яе ў рот. Пачаў жаваць. Калі пракаўтнуў, не заўважыў, як пальцы мае самі, не пытаючы ў мяне на тое згоды, адшчыпнулі яшчэ крошачку. Маленечкую, малюпасенькую крошачку...

...Схамянуўся я тады, калі на маёй далоні асталася абшчыпаная з усіх бакоў скарыначка. Што я нарабіў? Што скажа маці, брат, калі вернуцца дахаты?..

Хуценька-хуценька я палажыў скарыначку на стол, акрыў яе абрусам. Але спакуса з'есці хлеб увесь, каб яго і духу не было ў хаце, каб ім і не пахла нават, была такая вялікая, такая неадольная, што я не выцерпеў —

зноў падсеў да стала, узяў скарыначку ў рукі і ўкінуў яе ў рот...

Брат вярнуўся з лесу як заўсёды позна, на змярку. Ён цэлы дзень быў на леспрамгасаўскай дзялянцы, абсякаў суччa, зарабляў грошы, каб было за што нашай сям'і жыць. Дома есці ў нас не было нічога. І спаць брат лёг у той вечар галодны. Ён доўга варочаўся на пасцелі, не засынаў: няйнакш, яму мроіўся той кавалачак хлеба, які пакідала яму маці і які з'еў я...

Ніхто — ні маці, ні Толік — ні ў чым мяне не папракнулі. Ні ў той вечар, ні пасля. Яны былі старэйшыя, я меншы.

Але калі я цяпер успамінаю той хлеб, які належала з'есці брату і які з'еў я, і той вечар, калі брат лёг праз мяне спаць галодны, мне робіцца не па сабе. Здаецца, аддаў бы ўсё, каб толькі не было ў мяне такога ўспаміну, каб як-небудзь пазбыцца, выкінуць яго са сваёй галавы. Лепей бы я быў тады галодны, лепей бы я лёг спаць не еўшы! Хай бы не я, а брат з'еў мой хлеб!..

Ды не! Таго, што было, не вернеш, не пераробіш. І з памяці сваёй, як бы ні хацеў, не выкінеш. Не, не выкінеш!..

*1969 г.*

## ЛЯ ДАЎНЯГА СЕЛІШЧА

Ясны жнівеньскі дзень. Даўняе, пазарастанае палыном і быльнёгам селішча наводшыбе вялікай палескай вёскі...

Ля селішча двое: высокі аднарукі мужчына і яго сын — хлопчык год шасці-сямі.

— Тата, чаго ты зноў прыйшоў сюды? — пазіраючы на селішча, пытае хлопчык.— І летась, калі прыязджалі ў вёску, былі мы тут, і во цяпер, сёння...

— Чаго? — перапытвае ні то сам у сябе, ні то ў сына бацька і, нібыта адумаўшыся, раптам змаўкае.

Дый што ён можа сказаць? Хіба зразумее, уявіць дзіця, што тут, дзе сівее, раскашуецца на волі палын

ды быльнёг, некалі стаяла хата. Хата, у якой жыў ён, Мікалай, жыла добрая, мілая Надзя, жонка. І ў той хаце бегаў, звінеў званочкам шустры Косцік. Косцік-хвосцік... Іхні, яго і Надзін, сынок... Яны з Надзяй не зводзілі з сына вачэй, любаваліся, як борзда перабірае ножкамі, тупае па чыстых, вымытых да жаўцізны маснічынах маленечкі чалавечак, і ціха смяяліся ад радасці...

Потым... Потым пачалася вайна. Яго, Мікалая, на фронт не ўзялі — пакінулі партызаніць. Немцы аднекуль даведаліся, што ён тут, у сваім лесе. Некалькі дзён пільнавалі яго ў засадзе, спадзеючыся, мабыць, што партызанскі камандзір наведаецца дадому, да жонкі. І, не дачакаўшыся таго, спапялілі хату. А разам з хатаю і тых, каго ён, Мікалай, любіў больш за ўсё на свеце...

...Ясны жнівеньскі дзень. Даўняе, пазарастанае палыном і быльнёгам селішча наводшыбе вялікай палескай вёскі...

Ля селішча двое: высокі аднарукі мужчына і яго сын — хлопчык год шасці-сямі.

— Тата, а тат? — пазіраючы на селішча, пытае хлопчык.— Скажы, га, чаго мы зноў прыйшлі сюды?..

Нічога не кажа бацька, маўчыць, упарта, сцята маўчыць...

Дый што ён можа сказаць? Хіба зразумее, уявіць дзіця, што і сын у бацькі не першы і жонка таксама не першая, што ў яго былі ўжо і жонка, і сын...

Былі...

І на вачах у бацькі нагортваюцца, блішчаць слёзы. Ці то ад сонца, якое надта ж шчыруе, аж слепіць, быццам спяшаецца аддаць назапашанае цяпло і святло, ці то ад чагосьці іншага, таго, пра што пытае і ніяк не можа пачуць ад бацькі адказу хлопчык, сын...

Другі сын...

*1969 г.*

## НАРЦЫСЫ

На дзень нараджэння, які спраўлялі перад самай вайною, ён падарыў ёй некалькі белых як снег нарцысаў. Нарцысы своеасабліва, ледзь улоўна пахлі,

пахлі так, як звычайна яны пахнуць, калі вырастаюць не ў аранжарэі, а пад адкрытым небам, на волі...

І хаця потым у яе было многа-многа дзён нараджэння — ужо без яго (ён так і не вярнуўся з вайны, загінуў смерцю храбрых пад Варшавай) — і ёй дарылі кветкі, сярод іх часта і нарцысы, яна заўсёды на сваіх імянінах адчувала пах т ы х, падораных некалі ім, кветак...

*1970 г.*

## КОНІКІ

У вушах маіх звіняць конікі. Цэлы вялізны луг конікаў. Яны не пераскакваюць з месца на месца, нікуды не ўцякаюць. А толькі звіняць і звіняць. Звіняць улетку і ўзімку, удзень і ўночы. Звіняць даўно. Так даўно, што іншы раз мне пачынае здавацца, што я і нарадзіўся з гэтым звонам. Але не, не, нарадзіўся я зусім-зусім здаровы. Звон жа гэты ў маіх вушах з таго спякотнага летняга поўдня, калі я ляжаў, хаваўся на лузе і побач са мною вывернула яму бомба. Бомба, якую скінуў нямецкі самалёт. Вось з таго поўдня і пасяліліся ў маіх вушах конікі. Цэлы вялізны луг конікаў. Яны не пераскакваюць з месца на месца, нікуды не ўцякаюць. А толькі звіняць і звіняць. Звіняць улетку і ўзімку, удзень і ўночы...

Каб вы толькі ведалі, як надакучыў, як абрыд мне гэты звон!..

*1969 г.*

## З кнігі «Памяць»

# МАРА

Адам Пятровіч быў год на дваццаць — дваццаць пяць старэй за мяне. Калі мы ўпершыню спаткаліся, ён займаў даволі салідную пасаду ў Акадэміі навук, меў шыкоўную, на пяць пакояў, кватэру ў цэнтры горада, «Волгу». Была ў яго, вядома, і жонка — чароўная, заўсёды ўсмешлівая Зінаіда Паўлаўна, была дачка, быў сын. Была ў Адама Пятровіча, як потым я даведаўся, і свая запаветная мара — дачакацца, дажыць да тых дзён, калі не трэба будзе штораніцы хадзіць на працу, не трэба будзе сядзець па некалькі гадзін на розных пасяджэннях і нарадах, слухаць, што там гавораць, а можна будзе махнуць на ўсё рукою і паехаць у вёску, паехаць не на дзень, не на два, а навечна, назусім.

— Пабудаваць дзе-небудзь каля лесу ці каля ракі звычайную сялянскую хату,— любіў разважаць, марыць уголас Адам Пятровіч, калі мы іншы раз прагульваліся па акадэмічным скверыку ці па парку,— лавіць рыбу, хадзіць у лес па грыбы, піць сырадой, і чуць нічога не чуць, і ведаць не ведаць, што дзе робіцца. Уяўляеш! Тут, у Акадэміі, ідуць нарады, пасяджэнні, спрэчкі, адных хваляць, другіх лаюць, адных паніжаюць, другіх павышаюць, адно прызнаецца правільным, другое няправільным, а ты далёка ад усяго гэтага, жывеш зусім новым жыццём. Глядзіш на неба, на тыя воблакі, што ўсё некуды плывуць і плывуць, слухаеш, як пакалыхваюцца, шумяць дрэвы ці булькоча, бяжыць вада ў рачулцы, як заліваецца недзе ў кустах салавей ці крумкаюць у балацявіне жабы — і на душы ў цябе хораша-хораша — ціхата, спакой, злагада. Ні зайздрасці да каго б там ні было, ні шкадавання,

што выступіў не так, як прасілі выступіць, некага трэба было палаяць, а ты ўзяў ды пахваліў, ці, наадварот, некага трэба было пахваліць, а ты ўзяў ды палаяў. Ні табе тэлефонных званкоў, ні тэрміновых выклікаў! Уяўляеш!

Адам Пятровіч жвавеў, неяк раптоўна, рэзка паварочваўся тварам да мяне, і вялікія добрыя вочы ў яго гарэлі, гарэлі зусім па-маладому, так, як звычайна гараць яны ва ўсіх улюбёных у нешта, закаханых людзей. Ён распаляўся болей, пачынаў расказваць, што б яшчэ зрабіў, каб адчуваць сябе па-сапраўднаму незалежна і шчасліва.

— Вакол хаты пасаджу грушы, яблыні, вішні, маліну, клубніцы, буду паліваць іх, угнойваць, акопваць, буду чакаць, калі яны зацвітуць, калі дадуць плады... Завяду пчол, нямнога, так вулляў пяць-шэсць. Зноў жа — не дзеля спажытку, а дзеля радасці. Падыдзеш да вулля, а пчолы гудуць-гудуць. Адна лезе ў вулей, другая з вулля... Уяўляеш! А зімою — стрэльбу за плечы, на лыжы ды ў лес, на паляванне! Снег вышэй каленяў, усё навокал абпушана шэранню, белае-белае. І цішыня, цішыня дрымучая. А ты сабе соўгаеш лыжы, слухаеш, як парыпвае снег, разглядаеш тыя сляды, што пакінулі на снезе птушкі, звяры... Уяўляеш!

А яшчэ Адам Пятровіч марыў напісаць у цішы і спакоі тое, што было ў яго на душы, да чаго рыхтаваўся, збіраў матэрыял гадамі і за што ніяк не асмельваўся брацца, бо баяўся: жывучы ў горадзе, у вечнай спешцы, мітусні і клопатах, можа сапсаваць.

— Усё сваё жыццё,— часта казаў ён,— я раблю не тое, што павінен быў бы рабіць. То я хацеў стаць кандыдатам, то доктарам, то трэба было заняць месца загадчыка кафедры, то раптам прыйшла думка ўцячы ў Акадэмію — там, думалася мне, спакайней, цішэй. То трэба было некага абараніць, то за некага заступіцца, то самому, каб нехта не плявузгаў абы-чаго, заявіць пра сваю саліднасць, прынцыповасць. І так я закруціўся ў гэтым коле, што не заўважыў, як лепшыя гады мае прайшлі. Рабіць, рабіць трэба было тое, на што я здатны, дзеля чаго, шчыра кажучы, я і падаваўся ў вучоныя. Але замест гэтага я разбіраў розныя паклёпы, звадкі, сварыў, мірыў, дзяліў кватэры, арганізоўваў патрэбныя і непатрэбныя абмеркаванні, бегаў, званіў

па тэлефонах, ездзіў, дакладваў, узгадняў, прасіў зрабіць так, а не інакш... Здавалася — ну вось, гэтае скончыцца, тады вазьмуся сур'ёзна за сваю працу. Але адно канчалася, пачыналася новае. І мне зноў даводзілася нешта ўзначальваць, нешта прабіваць, у нечым, як цяпер некаторыя кажуць, прымаць дзейны ўдзел... Калі я не згаджаўся, напамінаў, што я вучоны, што мне трэба рабіць сваю работу, мяне супакойвалі: наперадзе ў цябе, маўляў, жыццё, паспееш яшчэ зрабіць... Цяпер бачу я — жыццё праходзіць, а работа мая так і астаецца нязробленая. Вось чаму я і мару пра той час, калі мне не трэба будзе хадзіць штораніцы на працу ў Акадэмію, калі мне можна будзе быць наогул далёка адсюль... Пакапаўся, скажам, у садзе, пахадзіў па лесе ці каля ракі — і за стол, за работу...

Мы з Адамам Пятровічам нарадзіліся ў адной вёсцы. І, карыстаючыся правам земляка, я каторы раз казаў яму:

— А чаму б вам, Адам Пятровіч, да прыкладу, не прыдбаць дачы і калі-нікалі ўцякаць туды?

— Спрабаваў,— усміхаўся ў свае пышныя сівыя вусы Адам Пятровіч.— Была ў мяне дача. Ды я адмовіўся ад яе, прадаў. Дача — гэта тое самае, што гарадская кватэра. Тыя ж людзі, тыя ж клопаты. А галоўнае — спакою няма. Усё адно, як трэба, то знойдуць — прыедуць на машыне, забяруць... Не, дача не па мне... Мне трэба спакой, трэба, каб ніхто не замінаў, каб я быў адзін, сам-насам, і месяц, і два, і год... Тады толькі я зраблю тое, што задумаў... Скажам, нават калі пасяліцца ў нашай вёсцы, то і там працаваць можна... У нас там і рачулка ёсць, і лес. І балоты, выгары якія!..

Я выехаў са сваёй вёскі год на дваццаць пазней за Адама Пятровіча.

— Вы, Адам Пятровіч, забываеце: вёска цяпер не тая, што была некалі. Там, як і ў горадзе, тыя самыя машыны, тэлевізары, тыя самыя тэлефоны. І лясоў ужо добрых няма — павысякалі. І балот, выгараў няма — асушылі. І рачулка, у якой калісьці яшчэ я лавіў самоў, летам на самы звычайны ручай падобна, перасыхае. Перайсці яе можна, не падкасваючы калошы...

— Усё адно, вёска ёсць вёска,— не згаджаўся са мною Адам Пятровіч.— Пастух штораніцы займаў

і займае кароў, прыганяў і прыганяе іх штовечар да-дому з пашы... І гэтак жа, як цвілі некалі, цвітуць і цяпер валошкі ўзбоч дарог, гэтак жа, як спявалі, спяваюць ластаўкі, салаўі... І ціхата, ціхата якая ў вёсцы! Не, вёска не горад... І сходаў не будзе, не будзе той бацьбы, змагання за пасады, аўтарытэт, іншую розную злыбеду ды халеру...

Так гаварыў, пераконваў сябе і мяне Адам Пятровіч, калі мы прагульваліся, хадзілі па акадэмічным скверыку ці па парку...

І здарылася, як гэта здараецца часта,— Адам Пятровіч не дачакаўся тых дзён, калі яму не трэба будзе штораніцы хадзіць на працу ў Акадэмію навук, не трэба будзе сядзець па некалькі гадзін на розных пасяджэннях і нарадах, слухаць, што там гавораць. Неяк, калі ён вёў чарговае пасяджэнне, яго хапіў сардэчны прыступ...

«Хуткая дапамога» памагчы нічым не змагла...

...Цяпер, калі я прагульваюся па акадэмічным скверыку, па парку ці проста па вуліцы і чую, як нехта разважае-марыць уголас, што ён будзе рабіць, калі не трэба будзе штораніцы хадзіць на працу, не трэба будзе думаць пра кавалак хлеба, я сумна-сумна ўсміхаюся і ўспамінаю свайго аднавяскоўца, добрага, мілага Адама Пятровіча...

*1971 г.*

## ЛІСТ ДА МАЦІ

У дні, калі не пісалася, ані не лезла ў галаву, хоць ты вазьмі ды адсячы яе, ні адна больш-менш вартая, свежая думка, наш герой, стары, славуты пісьменнік, браўся перабіраць даўнія свае запісы — запакаваныя ў рыжыя кардонныя папкі, старанна перавязаныя шпагатам, яны ляжалі ў яго кабінеце на стэлажах. Там, сярод рукапісаў, былі чарнавікі, пачатыя, але незакончаныя творы, накіды, трапныяназіранні, а часам і зусім гатовыя апавяданні, вершы, здаваць у друк якія па нейкіх прычынах пісьменнік пакуль што не ра-

шаўся. Пераглядаць, чытаць даўнія свае запісы, зробленыя спехам, часам на выдраных з блакнота лістках, было прыемна, бо траплялася шмат чаго цікавага, незвычайнага, такога, да чаго — пісьменнік гэта адчуваў — цяпер ён нізавошта б не дадумаўся. Пісьменнік радаваўся, што ў свой час не спадзяваўся надта на памяць, а, як толькі прыходзіла што-небудзь путнае ў галаву, адразу ж занатоўваў яго на паперу і клаў у папку. За жыццё — а яно ў пісьменніка было даволі доўгае — папак з такімі запісамі назбіралася нямала, і можна ўявіць, з якім хваляваннем ён браў кожную з іх у рукі, гартаў, пераглядаў старонкі, адкладаючы вартае, над чым можна працаваць, і выкідаючы тое, што без асаблівага жалю і шкадавання можна спаліць. Чытаючы даўнія свае запісы, пісьменнік успамінаў і тыя дні, калі яны рабіліся, неяк міжвольна, паступова нават узнаўляўся той ці іншы настрой былых дзён, тая ці іншая падзея ў жыцці. А каму не хочацца ў старасці яшчэ раз, хоць у думках, перажыць тое, што некалі перажывалася, якое б горкае яно ні было, каму не хочацца паглядзець на сябе як бы збоку, з вышыні сваіх гадоў, вокам староннягa чалавека, мудрага, узбагачанага вопытам, дзе пакпіць з сябе, дзе пасмяяцца, а дзе і парадавацца. І таму не дзіўна, што ў апошнія дні пісьменнік усё часцей лавіў сябе на думцы, што яму ані не пішацца, што душа яго горнецца да тых рыжых кардонных папак, да тых запісаў, якія рабіў ён некалі, даўно-даўно. І пісьменнік не шкадаваў часу, перабіраў і перабіраў запісы, тым болей што ў галаве ў яго складваўся паводле сваіх даўніх запісаў план цікавай кнігі...

Так, чытаючы запіс за запісам, перабіраючы папку за папкай, пісьменнік нарэшце дабраўся да той папкі, што ляжала на самым сподзе і ў якой — пісьменнік гэта добра ведаў — былі яго самыя раннія запісы, запісы тых гадоў, калі ён быў яшчэ малады, нікому невядомы і толькі-толькі пачынаў пісаць. Развязаў шпагат, перагарнуў адзін лісток, другі — і раптам рукі ў яго закалаціліся: на вочы трапіў невялікі, вырваны са школьнага сшытка аркушок, спісаны не яго сціслым, прыгожым і трошкі спешным, нібыта нервовым почыркам, а... Не, гэты почырк ён пазнаў бы, вылучыў бы з соцень, тысяч самых нечаканых почыркаў, бо то быў

почырк яго роднай маці, старой, амаль непісьменнай вясковай жанчыны. «Дарагі сынок,— пісала маці,— я не ведаю, як і прасіць цябе, каб ты не маўчаў, каб хоць зрэдку прысылаў мне па некалькі слоў пра сябе. Я твая маці і хачу ведаць, што з табою, дзе ты. Некалі ты таксама будзеш стары, будзеш мець дарослых дзяцей, і тады ты, напэўна, сам адчуеш, як пагана гэта, калі не піша табе той, дзеля каго ты так стараўся, дзеля каго ты толькі і жыў, нічога не шкадаваў. Не крыўдуй на мяне, сыночак, пішы ўсё, што ў цябе там у горадзе. Калі я чаго і не зразумею, то сэрцам адчую, адрозню добрае ад дрэннага. Жыць мне асталося нядоўга, старая я зусім, ані не здолею ўжо. Можа, калі і захочаш потым ліст напісаць, ды не будзе каму...»

Далей пісьменнік не мог чытаць. Сцялася сэрца, вочы засланілі слёзы. Каб супакоіцца, вярнуць ранейшы настрой, пісьменнік паволі-паволі падняўся з-за стала, прайшоўся па кабінеце. Яшчэ раз кінуў пагляд на матчын ліст, што невядома як трапіў некалі ў папку і таму захаваўся... І ўспомніў маці, непрыгожую вясковую кабету, якая ніколі не разгінала спіны то на сваім, то на калгасным полі і ад таго пад старасць зусім згарбацела. Успомніў яе рукі, тыя рукі, якія яго абдымалі, якія выводзілі на паперы вось гэтыя каракулі — чорныя, парэпаныя рукі гаротніцы-працаўніцы, з маленькімі, нягнуткімі, кручкаватымі пальцамі. Колькі яны, тыя рукі, перарабілі ўсякай работы — перадаілі кароў, прапалолі град, акапалі бульбы! А яны ж, тыя рукі, яшчэ і шылі, мылі сабе і яму, сыну, бялізну, яны, тыя рукі, яшчэ і касілі, аралі, мясілі хлеб і штораніцы лупілі бульбу — трэба было спехам зварыць на комінку пры лучыне ў чыгунку хоць якое снеданне, каб ён, сын, не ішоў галодны ў школу... Маці нічога не шкадавала, хацела, каб ён, сын, вучыўся. Думала — можа, на старасць будзе ёй самой лягчэй, будзе ад сына хоць якая помач... Прыгадаў пісьменнік і тое, як ён, хочучы выбіцца ў людзі, паехаў пасля школы ў горад, паступіў у інстытут, як днямі і начамі сядзеў за сталом і пісаў, крэсліў, зноў пісаў і зноў крэсліў, аж пакуль ад аднаго толькі выгляду чыстай паперы не пачынала цягнуць на ваніты... Ён жыў тады ўпрогаладзь на прыватнай кватэры, у маленечкім пакойчыку. Дзе там было помніць пра маці, якая, каб

і хацела, нічым не магла памагчы сыну, дзе там было пісаць ёй лісты! Яна і памерла, небарака, так і не дачакаўшыся ад яго хоць бы аднаго доўгага падрабязнага ліста...

Пісьменнік прыгадаў усё гэта і раптам — як гэта здаралася ўжо неаднойчы — кінуўся да стала. Схапіў шарыкавую ручку і пачаў спешна-спешна пісаць. Ён аж калаціўся ўвесь ад неспадзяванага ўзрушэння і таго пачуцця, што так нечакана ахапіла, запаланіла яго. Пісьменнік пісаў, пісаў ліст да сваёй роднай мамы, мамы, якой не было ўжо год, мусіць, дваццаць на свеце і якая жыла ў сыновых думках, у сыновым сэрцы...

Той ліст да маці, як толькі ён быў надрукаваны, крытыкі ў адзін голас назвалі шэдэўрам, лепшым творам старога славутага майстра. За кароткі час ліст быў перакладзены амаль на ўсе еўрапейскія мовы. Яго чыталі, ім захапляліся, радаваліся, плакалі...

Не чытала таго ліста толькі маці пісьменніка, тая, што дала яму жыццё і якая хацела, заўсёды хацела атрымаць ад сына хоць якую вестачку...

*1970 г.*

## АКОПЫ

Сам не разумею, чаму я, калі б ні прыехаў у гэтую знаёмую мне змалку палескую вёску, вазьму дый прайдуся да тых акопаў, што каля шашы ў самай гушчы старога бору. Што цягне мяне туды, да тых акопаў, чаму карціць зноў і зноў пабыць там? Думаю пра гэта я часта ў цішы гарадской кватэры, думаю і тады, як блукаю па маладым калючым хвойніку, што раскашаваўся, парос на месцы колішняга бою.

Аднойчы, кіруючыся ў бор, я сустрэў зусім невядомую дзяўчыну.

— Вы таксама да акопаў? — спыталася яна, калі мы параўняліся.

— Ага, да акопаў,— сказаў я, трохі збянтэжаны.

— У вас кагосьці тут забілі?

— Не,— адмоўна хітнуў я галавою.
— А ў мяне... У мяне бацьку...
— Тут? — паказаў я вачыма на акопы.
— Не ведаю... Можа, і тут... Мне і года тады не было, я толькі-толькі нарадзілася... А ў вас... Няўжо ў вас ніхто не загінуў? Ну не тут, дык так дзе...
Я пацiснуў плячыма.
— Не, здаецца, ніхто,— ціха сказаў я нарэшце.
Дзяўчына здзівілася.
— Упершыню сустракаю чалавека, у каго ніхто не загінуў у вайну. Шанцуе ж!..
Дзяўчына пайшла, а я зрабіў крок, другі, трэці... І запаволіў раптам хаду, спыніўся. Як жа, як жа гэта Родя?.. Хіба ж у мяне... У мяне ж таксама загінулі... Родны матчын брат Юзік... Бацькава дваюрадная сястра Надзя... Марыська... Піліпок... Як жа, як жа я мог сказаць такое, быццам у мяне ніхто, ніхто не загінуў у вайну?!.

Я павярнуўся, хацеў дагнаць дзяўчыну, крыкнуць: «Няма, няма ў нас, у Беларусі, такіх, у каго б ніхто не загінуў у вайну. І ў мяне таксама загінулі. Матчын брат на фронце. Бацькава сястра ў канцлагеры. Марыська і Піліпок, з якімі я гуляў, таварышаваў у маленстве,— у бамбёжку...» Ды дзяўчына была ўжо далёка — на дарозе толькі бялела яе лёгкае паркалёвае плацце...
...Засыпаюцца, западаюць гліцай, зарастаюць лесам, травою акопы...
Але ўсё яшчэ не зажываюць, не гояцца тыя раны, што пакінула ў сэрцах людзей вайна...

*1972 г.*

## СОЛЬ

Усю восень і зіму Трахім амаль не ўставаў з пасцелі, цяжка хварэў. Ныла ў паясніцы, ламала ў плячах, круціла рукі, ногі, ды так, што хацелася крычаць, выць на ўсю хату. Прыязджаў з горада сын, Раман, вазіў Трахіма ў бальніцу. Доктар, пра якога

гаварылі ў вёсцы рознае (расказвалі, быццам ён — гэта ж трэба дадумацца! — не перавязвае раны бінтам, а заклейвае клеем, спрабаваў нават прыклеіць карове хвост, калі тая была адарвала яго, заматаўшы за куст шыпшыны), доўга аглядаў Трахіма, прыкладаў трубачку то да спіны, то да грудзей, слухаў, моршчачы неяк дзіўна лоб, нібы перад гэтым праглынуў кіслую сліву, потым сеў за стол і аб'явіў, што нічога страшнага няма, звычайная нямогласць, прастуда. Ён выпісаў на прадаўгаватай карталюшцы паперы парашкоў, мазяў, параіў, каб Трахім часцей парыў свае старыя косці ў гарачай вадзе, укрываўся цяплей на ноч, і «да вясны, дзед, будзеш польку скакаць». Трахім ані не верыў доктару — надта ж маладзён ён быў, дый каб петрыў хоць што-кольвечы ў хваробах, хіба займаўся б глупствам — прыклейваў бы карове адарваны хвост,— аднак жа піў парашкі, націраўся мазямі, грэў у печы ў чыгунках ваду і парыў ногі, зусім не скідаў з сябе ні ўдзень ні ўночы кажуха і валёнак. І ўсё паглядаў на вокны, чакаў вясны, цяпла. «Выкідаюся вось на сыры корань, адагрэюся на сонцы, то тады, пэўне, і папраўлюся»,— думаў ён.

Праскрыпела пад вокнамі палазамі зіма. Адвылі, адвіхурылі мяцеліцы. Адляскалі ледзянымі пляпліскамі маразы. Усё часцей і часцей пачало паказвацца з-за хмар сонца. Закапалі, спярша рэдка, нясмела, потым гусцей, весялей капяжы. Забулькалі, загаманілі на вуліцы ручаі. Агалілася, тлуста зачарнела зямля. Вярнуліся з выраю ластаўкі, вілі ў застрэшках гнёзды, шчабяталі, радаваліся вясне, цяплу. Зазелянелі паплавы, накінулі на сябе летнія ўборы дрэвы. Правуркатаў, пракаціўся, як на растрэсенай калымазе, па небе з краю ў край гром. Пайшло ў трубкі жыта, ладна адскочыў ад зямлі ячмень, загарэліся гуркоўнай квеценню грады. Па апошнім разе акапалі бульбу. І ў дварах на вёсцы пачуўся перазвон кос — людзі кляпалі іх, мянташылі, падганялі касільны, ручкі — рыхтаваліся да касьбы. А здароўе да Трахіма так і не вярталася. Па-ранейшаму ныла ў паясніцы, ламала ў плячах, круціла рукі, ногі. І ўсё часцей, выйшаўшы на падворак, ён са шчымлівым болем і шкадаваннем згадваў доктара, да якога некалі ўзімку вазіў яго сын, Раман, тыя словы, што сказаў той, каб, мабыць, абнадзеіць, усце-

шыць старога,— «да вясны, дзед, будзеш польку скакаць». І сам сабе сумна ўсміхаўся. «Адскакаў я, мусіць, ужо сваё. Пара!.. І так зажыўся на гэтым свеце — хвала богу, восьмы дзесятак размяняў...»

Не сказаць, каб Трахіму вельмі не хацелася паміраць, пакідаць гэты свет. Проста была на душы нейкая няўцямная туга, шкадаванне. Ад чаго, па чым — ён і сам добра не ведаў. Здавалася іншы раз, што не ўсё яшчэ зроблена, не ўсяму дадзены належны лад, не ўсё спазнана, пражыта і наперадзе чакае яго нешта незвычайнае, дзеля чаго ён і нараджаўся, дзеля чаго і жыў, кеўляў гэтулькі год. Але зноў жа — што менавіта чакае яго, дзеля чаго яму трэба жыць — даўмецца ніяк не мог. І ўсё ж гэтае няўцямнае, невядомае прымушала яго цярпець боль, піць горкія, як дубовая кара, парашкі, грэць у чыгунках ваду і парыць ногі, не скідаць з сябе ні ўдзень ні ўночы кажуха, словам, трымацца за жыццё, як, мабыць, трымаецца за яго, не хоча паміраць усё жывое...

Неяк, калі Трахім, унурыўшы ў зямлю вочы, сядзеў на прызбе сваёй хаты, грэў на сонцы спіну — у кажусе, валёнках, шапцы-зімоўцы (гэта ў ліпень месяц!) — у двор да яго забег Хведарка, брыгадзір. Быў Хведарка дробненькі, маленькі, як верабей. Мо таму ён не вырас, што нарадзіўся ў вайну, у самае, што ні ёсць, страхоцце — у той дзень, калі немцы палілі вёску. Нарадзіўся раней часу, сямімесячны. Трахіму пасля расказвалі (сам ён тады не быў дома), як ратавалі Хведарку ледзь не ўсёй вёскаю — сшылі з аўчыны рукавок і трымалі там хлопчыка: жанчыны, што мелі грудных дзяцей, прыкормлівалі яго па чарзе, бо ў Хведаркавай маці, Полі, не было свайго малака, прапала, мусіць, ад пярэпалаху. Здарылася ўсё гэта ў дарозе, калі людзей гналі ў Нямеччыну. І Хведарка — бываюць жа на свеце цуды! — не загінуў, выжыў — звазілі яго ў Нямеччыну, і назад вярнуўся. Праўда, не даў бог яму росту, але ж ва ўсім астатнім не пакрыўдзіў. Хлопец хоць у плячах і не надта круты, ды з галавой. Дзесяцігодку скончыў, за брыгадзіра не першы год ужо ў калгасе. І людзі паважаюць яго, ніхто слова благога не скажа. Мае падыход ён да чалавека, справядлівасць любіць, а галоўнае — не глядзіць так часта ў чарку, як тыя брыгадзіры, што раней, да яго, былі,

Прашлэмаў Хведарка ботамі-кірзачамі па двары, спыніўся ля Трахіма, руку падаў. Сказаў знарок гучна, хоць голас і без таго быў у яго не па росту — моцны, басавіты.

— Што гэта вы, дзед, не раўнуючы, як тая курыца-квактуха сядзіце, пры такой спёцы — у валёнках, у кажусе?..

Было ў Хведаркавых словах нешта не зусім прыемнае, тое, што балюча ўкалола ў самае сэрца Трахіма. Але ён стрымаў сябе, не даў гэтаму балючаму, крыўднаму волі.

— Не я, Хведарка, сяджу, гора маё сядзіць...

— Чуў, чуў я, хварэеце даўно,— памякчэў, палагаднеў голас у Хведаркі.— Раман ваш нават быў ліст мне прыслаў, каб я, калі што, і падводу вам даў, і дроў прывёз. Толькі я, дзед, на хваробы іначай гляджу. Чалавек, як на маю галаву, дык вось калі пачынае хварэць... Калі без работы астаецца, да сябе, цела свайго прыслухаецца вельмі. Тады яму і здаецца, што і тут, і тут, і там яму баліць. А як чалавек заняты, як работы ў яго па самае горла — не да хвароб яму...

— Дажывеш майго, другое скажаш. Так забаліць, так скруціць — на ўсё забудзеш...

— Хто яго ведае, можа, і ваша праўда,— і Хведарка пацёр рукою вышэй калена нагу.— Гэта ж хацеў я сёння запрэгчы жарэбчыка, то ён мяне... Словам, злаўчыўся ды капытом па сцегняку. Так жа ж балела!.. А ўспомніў, колькі чаго перарабіць за дзень трэба, і на боль забыўся,— і Хведарка зноў пацёр далонню тое месца, куды ўбрыкнуў яго конь.

— То не боль яшчэ, Хведарка. То так, пабаліць ды перастане. Дый малады ты, рана табе ў вазку ездзіць. Верхі яно і хутчэй і спрытней...

— Уся бяда ў тым, што нельга верхі. Гэта ж, ведаеце, у Гала сёння чуць свет касіць паехалі. Калгас пастараўся. Двух парсюкоў асвежавалі, баранчыкаў трох, а то бычок быў нагу зламаў, то і яго нажом па горле. Будуць варыць і снеданне, і абед, і вячэру. Усё, што трэба, здаецца, узялі. І катлы, і крупы, і міскі, і лыжкі... Машыны з людзьмі паехалі, гляджу я — мяшок ля склада ляжыць. А ў мяшку тым — соль! Забыліся, значыцца, соль узяць! А без солі — якая ж яда...

— У вайну і без солі елі,— уставіў зноў некалькі сваіх слоў Трахім.

— Дык то ж у вайну! А цяпер не пасалі — і лыжкі ў рот з ядою ніхто не панясе... Так стараліся, дбалі — і на́ табе, праз нейкую соль усё сарвацца можа. То я і кінуўся запрагаць жарэбчыка. Толькі не даўся той. Акурат Тарзан папасваўся ля фермы, дык я яго ўшчаміў у аглоблі, мяшок з соллю на воз узваліў, пару бітончыкаў малака... Сам недагледзеў, сам і паправіць сябе хацеў. Еду я паўз сваю хату, ажно жонка на вуліцу выходзіць: «Хведарка, куды ты?» Расказваю ёй усё, як вось вам. І толькі тады ў галаву мне цюкнула: жонка ж мая цяжарная, не сёння — заўтра раскідацца павінна. Калі я ў Гала паеду, хто ж у бальніцу яе завязе?.. Злез я з воза, кінуўся да таго, да другога. І выяўляецца — няма каму ў Гала ехаць. Той касіць разам з усімі выправіўся, таго дома нямашака, той малы яшчэ і дзе Гала — не ведае. Дык я вось да вас у двор і забег. Можа б, выручылі, завезлі соль, га? А я ўжо, калі што...

Выглядаў Хведарка сапраўды збянтэжана, несамавіта. Здавалася, яшчэ хвіліна — заплача. Доўгія бялёсыя вейкі яго часта-часта клепалі, губы скрывіліся, на лобе зацямнела складачка-маршчынка.

Калі б Хведарка прасіў Трахіма з'ездзіць у Гала гадоў хаця чатыры-пяць таму назад, калі Трахім быў яшчэ дужы, калі не даймала яго старэчая нямогласць, ён ні хвіліны не думаў бы, адразу згадзіўся б, тым больш што Хведарка ніколі ні ў чым не адмаўляў яму, Трахіму, памагаў у яго адзінокім жыцці, чым толькі мог,— даваў каня і дроў прывезці, і ў бальніцу з'ездзіць, і гарод узараць. Але цяпер...

— Куды ўжо мне,— скрывіў ва ўсмешцы губы, абыякава махнуў рукою Трахім.— Ледзьве на прызбе во, прыгрэўшыся на сонцы, сяджу...

— То вам і не трэба на пуп браць. Каня я запрог, падганю да вашых варот, узлезці на воз падсаблю. Лейцы ў рукі падам... З дарогі толькі не зварачайце, канём кіруйце...

Але і пасля гэтых слоў невядома ці згадзіўся б Трахім ехаць у Гала. Надта ж нечаканая была гэтая брыгадзірава просьба, не прывык ён, Трахім, вось так, шурум-бурум, не абдумаўшы, не ўзважыўшы ўсё як

след, што б там ні было, рабіць. Дарога ж няблізкая — кіламетраў дваццаць — дваццаць пяць. Кола можа зламацца, вось. Ці конь распражэцца — а ці здолее ён, Трахім, злавіць яго, зноў у аглоблі завесці, хамут, як трэба, засупоніць? І каб гэта людзі поблізу былі. А то ж нідзе ні хаткі — чыстае поле ці глушэча, лес. Ні пазваць каго, ні папрасіць... Дый... Дый сон нейкі дзіўны сасніўся ўночы. Быццам прыйшла ў хату жонка, Хадора, склала на жываце рукі і сказала: «Ну, хвала богу... Едзь, едзь...» І знікла. Тут была — тут няма яе... І Трахім думаў, што значаць гэты сон і тыя словы, што сказала Хадора. Тры гады як памерла яна і ні разу не снілася. І раптам...

Тым часам, пакуль Хведарка гаварыў, а Трахім сядзеў, думаў-разважаў, як яму быць, ехаць ці не ехаць у Гала, адчыніліся весніцы, і ў двор куляю ўляцеў белагаловы, амаль бяззубы хлапчук, самы старэйшы Хведаркаў сын Сцёпка. І, не спыняючыся, на бягу закрычаў, што было духу:

— Татка, кажала мамка, каб ты дома быў. У яе жывот жабалеў, мабуць, брачыка раджаць будзе...

Хведарка гмыкнуў, сцягнуў з галавы шапку — афіцэрскую, з цэшкаю — і са злосцю чмякнуў яе вобземлю, сабе пад ногі.

— Толькі гэтага мне сёння і не хапала. Праўду ж кажуць: дзе коратка, там і рвецца...

І Трахіму зрабілася шкада Хведаркі. Успомнілася чамусьці тое, што чуў ад людзей — як нараджала Хведарку Поля — сямімесячнага, у дарозе, на падводзе, калі дыміла, гарэла вёска і гналі іх, акружыўшы з усіх бакоў, нібы злачынцаў, з аўтаматамі ў руках немцы, як пасля ратавалі дзіця, каб яно не памерла... «Хведарка нарадзіўся не па-людску. Хай хоць яго дзіця народзіцца гэтак, як і належыць нараджацца дзецям». І Трахім паволі, апіраючыся на рукі,— балела, ныла ўсё цела,— падняўся з прызбы, сказаў:

— Не расстройвайся вельмі, Хведарка. Усё неяк абыдзецца. І жонка народзіць, і соль у Гала завязецца. Скажы толькі, дзе падвода тая твая стаіць?

— Дык вы паедзеце? — падняў з зямлі шапку, зноў насунуў яе на рудую, ускалмачаную галаву Хведарка.— Ну, то хвала богу...

І ўсміхнуўся, як дзіця, на ўвесь рот.

— Я зараз... Зараз,— забегаў, замітусіўся Хведарка.— Падвода каля двара майго стаіць, я падганю яе сюды, да вас...

— Не трэба. Бяжы лепей машыну шукай ды жонку ў бальніцу вязі. А я... Як-небудзь дабяруся да твайго двара. Во толькі ў хату зайду, хлеба на дарогу кавалак адрэжу, дзверы прымкну...

Ужо седзячы на возе і трымаючы ў руках лейцы, Трахім паглядзеў на сонца — яно паднялося высока, падбіралася пад поўдзень. І пашкадаваў, што так лёгка паддаўся на ўгаворы, згадзіўся ехаць у Гала. Да змярку каб хаця туды дабрацца. Вяртацца ж сёння назад, у вёску,— нечага і думаць. Давядзецца начаваць на сенажаці. Вільгаць, волкасць, туман... А ці ж з яго здароўем гэта? І так вунь усяго гне, ломіць — не павярнуцца...

Але і адмаўляцца, не ехаць у Гала таксама было ўжо няёмка, не хапала ні то смеласці, ні то адвагі. Асабліва калі ўбачыў, як бег, імчаў з усіх ног напрасцяк па полі, блытаючыся ў густым картапляніку, да калгаснага двара Хведарка — бег, мабыць, шукаць машыну, каб везці ў бальніцу жонку. «Што будзе, тое будзе... А вось ды ўсё неяк і абыдзецца...»

І Трахім тузануў за ляйчыну каня. Конь, слухмяны Тарзан, які дагэтуль спакойна драмаў, заплюшчыўшы вочы, ля плота, у засені грушы-дзічкі, што вытыркалася голлем, аж на вуліцу, падняў галаву, навастрыў вушы. Пачуўшы ў лейцах уладную сілу, скрануўся з месца, выкіраваў воз на цвярдзейшую, торную дарогу і, калі колы заляскаталі, лёгка пакаціліся, заківаў галавою ў такт хадзе, пацюпаў звычайнаю ступою, так, як цюпаў заўсёды запрэжаны, калі паклажа была не дужа цяжкая,— не сказаць, каб надта хутка, але і не марудна. Трахім жа ямчэй усеўся ў мяккай леташняй саломе, выцягнуў перад сабою абутыя ў валёнкі ногі, пачаў спакваля глядзець на платы, хаты. Хоць і ведаў ён вёску як свае пяць пальцаў, ведаў, дзе чыя хата, хто ў ёй жыў раней і жыве цяпер, але многае яму было незразумела і нават дзіўна. Вядома, гэта добра, што людзі жывуць цяпер багацей — адзяваюцца ў будзень так, як не надзяваліся нават у свята, ставяць хаты адразу на пяць, а то і на сем акон. Святла ў хаце мно-

га, прастор — хоць цэпам малаці. І тэлевізар дома — хочаш удзень, хочаш увечары кіно глядзі, і ў клуб не трэба хадзіць. А электрыку правялі — гэта ж любата: уключыш лямпачку, віднвата, бы ўдзень. Усё гэта добра, вельмі добра... Але ж чаму па вёсцы то там, то тут у хатах пазабіваны дошкамі крыж-накрыж вокны, бы ўсё адно ў вайну, калі людзі — крый божа! — у выгнанне падаліся былі. Той перабраўся ў горад, той завербаваўся, той яшчэ некуды з'ехаў... Дзе гэта бачана, каб людзі свайго спрадвечнага селішча цураліся, зямлі, бацькаўшчыны і ехалі немаведама куды — на Сахалін, у Карэлію, у Казахстан. Што іх вабіць там?.. Доўгі рубель ці надакучыла, абрыдла сядзець на адным месцы, хочацца паездзіць, свету пабачыць?.. Але ж чалавек нараджаецца не толькі дзеля таго, каб глядзець на свет. Чалавек нараджаецца, каб жыць, працаваць. А на адным месцы, гэта ж кожнаму вядома, нават камень мохам абрастае. Дзе ж яшчэ, як не дома, у сваёй вёсцы, сярод людзей сваіх, і жыць чалавеку... Тут усе ведаюць — і хто твой дзед і бацька, маці: хто пустадомак, абібок, гультай, хто да работы скнары, ніколі хлеба чужога не еў; хто кроў за зямлю сваю праліваў, а хто прадаваў яе, гэтую зямлю, чужынцам, ворагам. Дзе ж, як не тут, дома, і памогуць табе, калі наваліцца якое гора, дзе ж, як не тут, і пакараюць цябе справядліва, калі ты гэтага заслужыў... Птушка, звер — і то свайго гнязда, свайго берлагу пільнуюцца... А то дамоўку кідаюць, едуць на край свету... Чаго, чаму?

Успомнілася, як зусім, здаецца, яшчэ нядаўна, адразу пасля вайны, збіраліся, з'язджаліся хто адкуль — з партызанаў, з выгнання, з Нямеччыны — у вёску людзі. І ўсе будаваліся, кожны як мог — на кані, на валах, а сёй-той і на сабе — цягнуў з лесу бярвенне, жэрдкі, плахі. Вёска нагадвала разварушаны мурашнік...

Паставіў тады, вярнуўшыся дадому, сабе хату і ён, Трахім. Паставіў на тым самым дзедаўскім селішчы, дзе стаяла і старая, спаленая ў вайну хата. Селішча яго быў заняў, нават падмурак паспеў зрабіць, Нупрэй Заступ. Але ён, Трахім, дамогся свайго, прагнаў Нупрэя, хоць той і ўпарціўся, не хацеў пакідаць аблюбаванага месца...

Не мог даравацъ Трахім Нупрэю, чаму той палез не на сваё, а на чужое, на яго, Трахімава, селішча. Пакваціўся на сад, які ён, Трахім, пасадзіў перад самай вайною і які падняўся, разросся за гады фашысцкае навалы, ці спакусіў яго гарод, тлустая зямля, што радзіла добра і ў сухое і мокрае лета, радзіла нават, калі добра не пакладзеш у яе і гною... А мо думаў Нупрэй што яго, Трахіма, на свеце даўно няма, не вернецца ён з вайны?..

Затаіў і Нупрэй на Трахіма на доўгія гады крыўду. Сустракаліся, то адварочваліся адзін ад аднаго, каб не вітацца. І нават калі Нупрэй памёр, не пайшоў Трахім правесці яго ў апошнюю дарогу...

Успомнілася ўсё гэта, і Трахім ужо як бы са страхам, з нейкай незразумелай, няўцямнай бояззю пад'язджаў да Нупрэевага двара. Чутка хадзіла па вёсцы: сёлета вясною ў вёску наведалася Нупрэева дачка, Каця, што жыла ў горадзе, і быццам прадала бацькаву хату нейкаму невядомаму чалавеку, местачкоўцу. Прадала танна, за некалькі сот рублёў, і той чалавек нібыта думае забіраць хату з вёскі, перавозіць яе ў мястэчка... Але ці праўда гэта — пэўнасці ў Трахіма не было. Ці мала што людзі выдумаць могуць?.. Пагавораць, пагавораць, а ўсё астаецца гэтак, як і было. Хіба той жа Каці лішняя бацькава хата? Вунь прыехала летась з дзецьмі ў вёску, усё лета жыла. І сама раздабрэла на вясковых харчах, і дзеці паправіліся. Мужу яе, хоць ён інжынер, гараджанін, а таксама вёска спадабалася, з мужчынамі нават касіць у Гала ездзіў... Дык няўжо Каця галавы не мае і, праўда, прадала спадчыну?..

Тое, што неўзабаве адкрылася Трахімавым вачам, да глыбіні душы ўзрушыла яго. Хаты, якую так хацелася ўбачыць, на Нупрэевым селішчы не было. Стаяла толькі абдзёртая з усіх бакоў, ужо нават не белая, а нейкая плямістая, шэрая, з падцёкамі печ; паўзбоч яе ляжала ў ярусах бярвенне, кожнае бярно пранумараванае, нібыта кроўю, чырвонай фарбай. Грувасцела на градах, дзе кусціліся, зелянелі бучным лісцем, клубніцы, разламаная, пачарнелая ад часу дашчаная страха... Хату, мусіць, толькі што скончылі разбіраць, бо ў садзе, пад купчастаю яблынькай, схаваўшыся ў цень, сядзелі незнаёмыя непаголеныя людзі — ці не цыга-

ны? Перад імі на траве стаяла пляшка гарэлкі, ляжалі на газеце парэзаныя хлеб, каўбаса, блішчала задранаю крышкаю пачатая бляшанка кансервы...

І Трахіму раптам падумалася: тое самае, што з Нупрэевай, будзе і з яго, Трахімавай, хатай, калі ён пакіне яе, перабярэцца на могілкі. «Вядома, будзе... Бо не вернецца ж Раман зноў жыць на бацькава селішча. Што яму тут, у вёсцы, рабіць?..»

Пачуццё беззваротнасці і страты, што так нечакана ўзнікла, у наступную хвіліну завалодала цалкам Трахімам. Стала, як ніколі яшчэ дагэтуль, шкада свае хаты, самога сябе. Колькі сіл пакладзена, каб давесці да ладу спаленае ў вайну селішча! Хвіліны вольнае не было, усё стараўся, хацеў, каб сын не меў ні ў чым патрэбы, ні за што не крыўдаваў на бацьку. Садзіў агрэст, парэчкі, маліннік, ставіў не толькі на свой век хату... А выходзіць — дарэмна шчыраваў, нічога яго не трэба сыну... Гэтак жа, як нічога і Нупрэевага не трэба дачцэ, Каці... Бачыш, хату прадала... А мы ж некалі як сварыліся з Нупрэем з-за селішча, столькі гадоў не віталіся пасля... Памёр — і не памірыліся...

Трахім апусціў галаву і больш не падымаў яе, не глядзеў ні на што, пакуль не выехаў з вёскі...

Адразу за вёскаю пачынаўся і цягнуўся па абодва бакі дарогі на некалькі кіламетраў сад. Густа зелянелі раскідзістыя кусты парэчак, агрэсту, радамі беглі ўдалеч яблыні, грушы, слівы. Як помніў сябе Трахім — помніў і гэты сад. Быў ён панскі, потым, пасля рэвалюцыі, адышоў пад камуну; з тых жа дзён, калі арганізаваўся калгас, сад стаў калгасны. Мяняліся гаспадары саду, старэлі, сохлі то адно, то другое дрэвы, на іх месца падсаджвалі новыя, маладыя — сад заставаўся садам. Штогод вясною ён бялеў ад квецені, і ў паветры так густа пахла мёдам, што пчолы мо з усёй акругі зляталіся сюды; з другой жа паловы чэрвеня голле аж ламалася ад ягад і садавіны. Ледзь паспявалі абабраць парэчкі, як чырванелі вішні, чарнелі смуродзіны, наліваліся сокам, жаўцелі грушы, крутабокія яблыкі, слівы... Падводы, машыны, наладаваныя скрынкамі, кашамі спелых пладоў, кіраваліся праз вёску ў мястэчка, дзе быў кансервавы завод — там варылі кампоты, джэмы, павідлы, закатвалі ў слоікі і развозілі па га-

градах. Раман неяк расказваў, што слоікі з местачковага кансервавага завода бачыў недзе аж на Поўначы — ні то ў Мурманску, ні то ў Архангельску. Рэдка хто, кіруючыся паўз сад, не спыняў каня, не бег паласавацца ягадамі, набіць аскому яблыкамі, слівамі. Спыняў тут заўсёды, куды б ні ехаў, каня і Трахім. Асабліва калі быў хлапчуком, калі лёгкасць, спрыт былі не толькі ў руках і нагах, а і ва ўсім целе. Бег, аж вецер свістаў увушшу, да бліжэйшага ад дарогі дрэва ці куста, ірваў яблыкі, грушы, латашыў парэчкі, вішні, вінаград... Хапала ягад і садавіны дома, у сваім садзе, а ўсё адно чамусьці цягнула залезці ў сад, што быў за вёскаю, нібы тут усё расло не такое, як дома, а смачнейшае, саладзейшае. А цяпер вось ехаў каля саду Трахім, паглядаў на грушы, яблыні, камялькі якіх былі роўненька пабелены, бачыў, што кусты парэчак ужо чырванеюць ад ягад,— і не спыняў каня, нікуды не бег — не цягнула. Гады!.. Што робяць гады з чалавекам, з яго жаданнямі! Быў час, калі Трахім нічога так не жадаў, як мець сына... Лашчыць яго, насіць на руках, вучыць хадзіць, гаварыць, рабіць работу... Нарадзіўся сын, то Трахім праз усю вёску бегма бег да бальніцы, нават пераапрануцца забыўся — як быў у млыне ў падраных, запыленых мукой ватніках і ватоўцы, так і пабег. І калі спыняў яго хто і пытаў, што здарылася, крычаў, захліпаючыся ад радасці: «Я не адзін ужо, разумееш, я не адзін, нас двух — сын і я...» Потым, ужо ў вайну, нічога так не жадаў Трахім, як каб хутчэй скончылася вайна, вярнуцца дахаты, абняць жывых сына, жонку... А вярнуўся дадому — новы клопат: адбудавацца б, агараць бы кароўку, давесці да ладу запушчанае ў вайну селішча... Потым былі іншыя жаданні, а найважнейшае — вывучыць, вывесці ў людзі сына, каб стаў ён чалавекам. І вось амаль усе жаданні быццам збыліся: і вайна скончылася, і адбудаваўся, давёў да ладу селішча, і вывеў у людзі сына — жыве той цяпер у горадзе, працуе ў газеце, кнігі піша... А спакою на душы ў Трахіма ўсё адно не было, нечага нібы хацелася, не ставала... Чаго — ён і сам добра не ведаў... Часцей і часцей браў одум — а ці правільна зрабіў, што вучыў сына, адарваў яго ад зямлі, ад сябе? Можа б, лепш было, каб сын не вучыўся вельмі, жыў разам з бацькам, з маці

ў вёсцы — араў, сеяў, касіў, малаціў, вазіў на поле гной, ездзіў у лес па дровы. І дужэйшы быў бы, не сушыў бы над кнігамі днямі і начамі галавы сваёй, быў бы ўвесь час на прыродзе. І самому сыну было б куды лепш, лягчэй жылося б і яму, Трахіму. Не даймала б, можа, так адзінота... Жывая была Хадора, то і без сына неяк цярпелася. А завёз яе на могілкі — сумна, няўтульна зрабілася ў хаце. Ні пагаварыць з кім, ні параіцца, ні есці зварыць, ні прыбраць. Раман, праўда, у кожным пісьме ўпрошвае, каб не мучыўся адзін бацька — пераязджаў у горад, да яго — кватэра, дзякуй богу, ёсць, ёсць што і есці, догляд будзе. І доктар, калі раптам спатрэбіцца,— пазваніў па тэлефоне, і праз некалькі хвілін ужо каля цябе... Ды дзе ты бачыў — хіба Трахім пакіне сваю хату, селішча, вёску, паедзе ў горад да сына? Што ён будзе рабіць там, у тым горадзе?.. Есці ды спаць? Тут, дома, хоць сусед зойдзе ці суседка забяжыць — усё ж свае людзі. І навіны раскажуць, і пра здароўе папытаюць. А выйдзеш на двор — на неба паглядзіш, на хмаркі, што бягуць і бягуць, на дрэвы, што пасаджаны, дагледжаны сваімі рукамі. І ластаўку, шпака пачуеш, як яны спяваюць, і як вясновы ручай булькоча, і як вые, мяце за вокнамі снегам мяцеліца-завея... А ўночы — зор колькі высыпае ўночы! Да акна датупаеш — адарвацца няможна, усё глядзіш і глядзіш. Ці грубку запаліш — вечар каля агню праседзіш і не заўважыш... Гэтага няма ў горадзе. Там усё гатовае. Вада ў хаце — і цёплая, і халодная. Кран толькі адкруці — і палілася. У грубцы, у печы паліць не трэба — ацяпленне ж паравое. Ні па дровы на вуліцу не выходзь, ні да ветру. Усё ў хаце. Можаш тыдзень, месяц сядзець — і на падворку не пабудзеш. А хоць і выйдзеш — куды ісці? Людзі ўсе незнаёмыя, ніхто цябе не ведае, і ты нікога не ведаеш. І ўсюды машыны, машыны... Гудуць і гудуць, быццам насланнё. Нікуды ад іх не ўцячэш... Дый так — дом на доме, цесната. А дзе вальней — не прапхнуцца праз людзей. Усе некуды спяшаюцца. Мітусня, згэлк!.. Толькі дзён чатыры і вытрываў у горадзе Трахім, калі паехаў быў да сына ў госці. Не, не, горад не для яго, Трахіма. Ён прывык да вёскі. Тут нарадзіўся, тут бы і памерці... А вось што да сына, дык дарэмна яго ад сябе адпусціў, дарэмна, не трэба было гэта рабіць... І Хадо-

ра, калі яшчэ жывая была, неаднойчы казала: «Раман да горада прывык. Там і работа ў яго, і жонка, і сябры. У вёску яго ўжо не вернеш. А вось каб унучка Артурыка пераманіць да сябе, да ўсяго вясковага прывучыць — то гэта б на старасць нам радасць была. Хай бы і жыў тут пры нас у вёсцы з дзедам ды бабаю...»

Але пераманіць Артурыка ў вёску не так лёгка было, як спярша здавалася. То ён завельмі малы быў, і маці з бацькам не хацелі яго адпускаць ад сябе, то раптам ён пачаў хварэць. Ездзілі з ім на мора, пасылалі ў піянерскія лагеры. Зусім спесцілі дзіця. Прывезлі ў вёску, то і яда тая, якую варыла, стараючыся з усіх сіл, Хадора, не была смачная, і вада з калодзежа нечым пахла, і ў вёсцы не прадавалася марожанае, да якога Артурык быў вялікі ахвотнік, і хлапчукі вясковыя не ўмелі гуляць у тыя гульні, у якія ўмеў гуляць ён... Адзінае, чым Артурык быў на нейкі час захапіўся, дык гэта хіба хадзіць на рэчку і вудзіць разам з дзедам рыбу. Але і гэтае захапленне хутка прайшло. Выйшаў аднаго ранку Артурык на падворак, чарвяка на кручок пачапіў і, прымерваючыся, як будзе на рэчцы рыбу лавіць, закінуў лёску ў картаплянік. Хадора ж тым часам збіла ў бойцы масла, памазала скібку хлеба і паклікала Артурыка, каб ён перакусіў. Пакуль малы хадзіў у хату па хлеб, курыца знайшла ў картапляніку чарвяка і праглынула яго разам з кручком. Артурык усяго гэтага не ведаў. Выбегшы з хаты, пацягнуў да сябе вудзільна...

Давялося курыцу прырэзаць. А такая ж дабрэнная курыца была, ледзь не штодзень няслася...

А то быў прылаўчыўся матылёчкаў, жучкоў, конікаў лавіць. Зловіць — і шпількай да паперы прыколе. Махае крыльцамі матылёчак, ляцець, бедны, хоча, ды нельга, шпілька яго трымае. Убачыла гэта Хадора, крыку нарабіла.

— Што гэта ты робіш, басяк?

А Артурык хоць бы што!

— Гербарый.

— Які гербары? Хто гэта цябе навучыў так знушчацца з жывога? Хіба ж гэта можна? Грэх жа...

— Ніякага, баба, грэху няма. І бога таксама ніякага няма. А збіраць гербарый нас навучыла настаў-

ніца. У школе поўная шафа такіх матылёчкаў, жучкоў, мушак...

— Дык ім жа баліць! А каб цябе, ненарокам кажучы, хто гэтак вось віламі да зямлі прыпёр, га?..

— Я чалавек, мяне нельга так.

— А матылёчкаў хіба можна, хіба яны не гэтакія ж, як і мы, жывыя?

На тым размова Хадоры з Артурыкам і закончылася. А яго, Трахіма, яна, гэтая размова, уразіла. Што толькі робіць Раман, чаму не глядзіць сына? Выбайбусуе хлопец, а шкадобы да нічога жывога мець не будзе. Спачатку матылёчкаў, жучкоў, мушак вось так мучыць будзе, потым катоў, сабак, а потым... На чалавека накінецца... І скажы што — не даходзіць, не бяруць словы за душу... І нічым, нічым не здзівіш хлапчука. Сказаў неяк пра раку, што па ёй некалі параходы хадзілі, такая глыбокая яна была. «Мора глыбшае. Там і дна не дастанеш. Вось як ездзілі летась мы з бацькам...» Пахваліўся ўнуку, што даўней у іхнім лесе вадзіліся мядзведзі і ён, Трахім, бачыў на свае вочы іх жывых. А той: «Што, дзед, мядзведзі, я ў заапарку львоў бачыў...» Павялі яго з Хадорай у лес. Птушкі пяюць, аж заліваюцца, мошкі, камарыкі мак таўкуць, бы ўсё адно перад дажджом. Ягады на кожным кроку. Хоць бы нагнуўся. «У горадзе, дзед, на базары ягад колькі хочаш. Наглядзеўся я, як з мамаю аднойчы хадзілі».— «А ты не ґлядзі, ты нагніся, сарві ды ў рот сабе ўкінь».— «Яны нямытыя...» Бач ты яго! «Нямытыя»! А тое, што дождж[ы]к іх чысценькі, як сляза, мыў, дык гэта нішто... На базары наглядзеўся... Дзе такі ацэніць, колькі шклянка тых ягад каштуе, колькі разоў трэба было нагнуцца, каб назбіраць тую шклянку ягад. Яму купі, памый і на спадачку на стол падай — тады толькі ён есці будзе. Ды яшчэ цукрам пасып, каб саладзейшыя былі... Цьфу ты! Адкуль такое панства! І маці ў яго, здаецца, звычайная, вясковая дзяўчына, расла год, мусіць, да васемнаццаці ў вёсцы, недзе пад Слаўгарадам... І бацька ж, Раман, гора хапянуў. Хадора ж апавядала, як ехала яна з дзецьмі — Раманам і Маруськай (памерла тая, бедная, на чужыне) — у Нямеччыну, як жылі там... Хлебу чорнаму, бедныя, рады былі, бульбе варанай... А як з чужыны вярнуліся, у зямлянцы, пакуль хату паставілі, жылі —

то хіба ж лёгка было!.. На працадзень у калгасе тады што давалі? Гэта не цяпер — і грошы, і збожжа, і бульба, і сена... А тады... Жылі з сотак, з таго, што на гародзе радзіла. То і паесці не вельмі было чаго, ні надзець. Няўжо Раман забыўся, як жыў сам, чаму сына не прывучае, расце ён у яго беларучка, гультаі? Сказаў пра гэта Раману, дык той пакрыўдзіўся. «Што ты хочаш, каб і дзіця маё так мучылася, тое перажыло, што і я? Я дабра вельмі не бачыў, то хай хоць Артурык пажыве...» «Артурык пажыве!..» Ды Артурыку не жыць, з Артурыка чалавека расціць трэба. Каб ведаў ён, што такое гора, каб спачуванне да бяды людское меў, каб ведаў і што такое голад, і вайна, і несправядлівасць... А пажыць паспее яшчэ... Гэта ж і гаварыць не варта, гэта ж кожны разумее... А то спецілі дзіця, глядзець на яго моташна. Цьфу! Пішуць цяпер у пісьмах — вучыцца не хоча, бацьку, маці не слухае. Дык гэта ж, малы, смаркач. А што будзе, як падрасце, сілу ў сабе пачуе?..

Конь ішоў мернаю, але спорнаю ступою, нікуды не зварачаў з дарогі, нібы ведаў, куды яму трэба кіравацца. Толькі зрэдку, калі вельмі апаноўвалі сляпні і аваднi, трос галавою, злосна пырхаў. Рыпелі сырамцовыя гужы. Трашчаў, перасыпаўся пад коламі сухі пясок. І пякло, бязлітасна смаліла паўдзённае летняе сонца.

Трахім адкінуў галаву назад, палажыў яе на мяшок з соллю — прылёг. І толькі тады заўважыў, што сад скончыўся, пачалося поле. Клін рослага густога жыта падступаў да самай дарогі. Выцягнуўшы руку, Трахім хвілін колькі гладзіў каласы — яны беглі і беглі насустрач, ласкавыя, шаўкавістыя, слухмяна гнуліся, схілялі голаў... І Трахіму раптам згадалася, як некалі, даўным-даўна, калі быў яшчэ хлапчуком ехаў ён са сваім бацькам, ехаў упершыню па гэтай самай дарозе. Толькі тады не жыта тут расло, а лес. Стары пракаветны палескі дубняк. І не лета стаяла, а ляжала ўсюды белая-белая зіма. Пад палазамі парыпваў снег, снег ляцеў камякамі і з-пад капытоў у коней і пападаў іншы раз проста ў твар. Белыя ад снегу і інею былі і дрэвы, кусты, белая была дарога, белыя, бы ўсё роўна іх хто пабяліў, былі і коні. У лесе — пра гэта неаднойчы гаварыў бацька — аж кішэла розных звя-

роў: дзікоў, мядзведзяў, ваўкоў... І ён, Трахімка, тады зусім-зусім яшчэ хлапчук, ляжаў у сене, ціснуўся бліжэй да бацькавага кажуха, паглядаў на дрэвы, кусты, і яму здавалася, што вось-вось выскачыць на дарогу дзік, а то і мядзведзь... «Што мы з бацькам рабіць будзем, як абаронімся?..»

Даўно няма ўжо каля іхніх Лагоў лесу. Павыразалі, павысякалі... Як правялі ў тутэйшыя мясціны чыгунку, так і паехаў па рэйках невядома куды лес. Спачатку пан прадаваў яго цэлымі гектарамі, потым, пасля рэвалюцыі, адганялі лес далей ад вёскі самі людзі. Людзям трэба было поле. І яны церабілі хмызняк, карчавалі пні, палілі ламачча. Дзе забалочана было, мокра — капалі канавы, аплятаалі іх лазою, каб не заплывалі. Лес пакорліва адступаў, большаў і большаў абсяг вакол вёскі. Потым былі пабудавалі ў мястэчку лесапілку, завод, прамкамбінат. Лесу штогод трэба было ўга колькі. Цяпер яго пляжылі не толькі рабочыя, але і калгаснікі — штозіму калгас атрымліваў разнарадку, колькі ён абавязаны нарыхтаваць кубаметраў драўніны дзяржаве. Яшчэ далей адступіўся ад вёскі лес...

Што гаварыць ужо пра вайну. Людзей ані не шкадавалі, а лесу і пагатоў...

Вайна спапяліла сёлы, разбурыла гарады. І на ўсё зноў трэба быў лес — аднаўляць шахты, ставіць хаты, укопваць тэлеграфныя слупы, класці пад рэйкі шпалы... Чугрэі, студабекеры, а потым і МАЗы цягнулі, валаклі дзень і ноч бярвенне на станцыю. Дрэвы пляжылі ўжо не звычайнымі піламі, а электрычнымі...

Лагі з лясное вёскі сталі неўпрыкмет палявою...

Каб прывезці воз дроў, трэба трасціся на калёсах вёрст пятнадцать. Скажы, што некалі лес быў зусім побач, каля самай вёскі,— не паверацъ. Няма ўжо і тых брадоў, балацявін, альсоў і беляў, што сустракаліся ледзь не на кожным кіламетры. Шыр, прастор — вокам не ахапіць! Зімою, бывае, падхопіцца вецер, круціць, нясе снег, і затрымацца яму, беднаму, няма дзе. А ўлетку падзьме раптам узвей — збажына праз дзень-два і белая, бяры жні. А ў коласе не зярняты — заморкі...

Лес сякуць і цяпер, асушаюць балоты. Кажуць, вузкакалейку пралажылі і па ёй тралююць бярвенне, во-

зяць ваганеткамі торф. Трэба людзям і паліва, і дошкі, і слупы, і кроквы...

Асушылі і Гала. Там, дзе некалі боязна было ступіць нагою, бо льга было праваліцца ў багну па шыю,— ходзяць трактары, машыны... Проса расце бы чарот, буракі — па некалькі кілаграмаў кожны, бульба — па кулаку. І трава-сеянка, кажуць, сёлета парасла — касілка не бярэ. Таму і паехалі касіць косамі, уручную... Будзе калгасу чым аплаціць працадзень. Калі толькі не згарыць усё гэтак, як згарэла летась у Засямашках. Укінуў нехта запалку ў сухі торф — і пайшло гарэць асушанае балота. Нічым яго няможна было атушыць... Праз усё лета гарэла, восень, і нават снег нападаў, а яно ўсё пыхала. У вёсцы ад дыму было не прадыхнуць, у горле пяршыла, вочы выядала... Ямы такія павыгаралі, што цяпер не ўлезці — з поля зрабілася возера. Прыязджаў тады з горада Раман, пісаў пра ўсё гэта ў газеце. Перасцерагаў — маўляў, асушаць балоты не трэба спяшацца, трэба сем разоў адмераць, а раз адрэзаць. І пра лясы ён таксама пісаў — надта ж хутка агаляецца зямля, мала клапоцімся мы, што астанецца пасля нас нашым нашчадкам... Можа, і паслухае хто яго, можа, адумаецца, схопіцца за галаву. Каб толькі не позна было!..

Цюпаў, перабіраў нагамі Тарзан, беглі, круціліся колы, каціліся, плыла між жытоў па дарозе фурманка, і гэтак жа беглі, плылі ў Трахімавай галаве думкі.

Трахім думаў.

Як усё ж хутка ідзе, ляціць час! Мяняецца лета, восенню, восень — зімою, зіма — вясною, вясна — зноў летам! Колькі перабачылі ўсяго гэтага ўжо вочы. Палічыш — здаецца, і многа. А ўспомніш, падумаеш — мала, вельмі нават мала. Бо прайшлі, пранесліся яны як адзін дзень; калі — і не заўважылася. Кароткі чалавечы век. Аднагодкі ляжаць даўно ў магілах, мог і ён, Трахім,— і не раз! — апынуцца на тым свеце, асабліва ў вайну, калі смерць хадзіла па пятах. Жыццё пражыта, паміраць трэба. А і не нацешыўся, не здаволіўся, здаецца, нічым. Ні сонцам, ні небам, ні жонкаю, ні дзецьмі, ні людзьмі... У дзевяць год пахаваў бацьку. Ездзіў, небарака, па сена і ўваліўся ў балота. А ліпіпаўка была, самыя маразы. Вярнуўся дадому —

сарочкі нельга было садраць, здубянела, прымерзла да цела... Цара прагналі, зямлю людзям раздалі... Калгас узяліся арганізоўваць. Зноў клопат, мітрэнга — як жыць будзе ў тым калгасе, калі ўсё — і поле, і коні, і каровы — не тваё, а агульнае... Потым... Потым пачалася вайна... Усім хапіла, усім дасталося. І тым, хто дома ў сваёй вёсцы быў, і тым, хто на фронце. Яму, Трахіму, калгас даручыў гнаць у тыл калгасных кароў, ратаваць статак. Больш за два месяцы ішоў ён з пугаю дзень у дзень услед за каровамі. Бывала, вочы толькі стуліць, засне — стаіць уваччу тая дарога: каровы, паразбрыдаўшыся па полі, ідуць, ідуць з клункамі жанчыны, ідуць дзеці, ідуць запыленыя, непаголеныя, учарнелыя салдаты... Едуць фурманкі, машыны... І ўсе на ўсход, усе адступаюць... У дзяцей крывавочаць пазбіваныя аб каменне ногі, у кароў паапухалі, патрэскаліся капыты. А спыніцца, адпачыць нельга: па слядах сунецца страшнае — немцы... Праз кожныя тры-чатыры гадзіны — бамбёжкі. Налятаюць зграямі самалёты, скідваюць бомбы, паліваюць дарогу з кулямётаў... Спачатку гэта палохала, ледзь толькі ў небе гул — разбягаліся хто куды... Потым не зважалі, прывыклі, быццам так ужо і трэба...

Ля Вязьмы перахапілі немцы. Клопат быў — як вяртацца назад, дадому, калі статка калгаснага не ўратаваў. Хоць і наглядзеўся за дарогу на рознае — і на смерць, і на рэзрух, і на неразбярыху, а ўсё ж не па сабе было, калі думаў, што давядзецца перад праўленнем справаздачу трымаць. Каровы ж былі не чужыя — свае...

Без кароў, без даведак, што трапіў статак туды, куды трэба, і дадому, у сваю вёску, вяртацца не хацелася. Паспрабаваў пераходзіць фронт. Тры разы лавілі немцы, а на чацвёрты ўсё ж пашанцавала...

Ды радасць сустрэчы са сваімі была кароткая. Нешта тыдні якіх праз два трапіў у рукі да немцаў у палон...

Давялося зноў мераць сваімі нагамі тую самую дарогу — цяпер ужо не з захаду на ўсход, а з усходу на захад, пад канвоем... Дзе толькі не пабываў за вайну!.. І ў лагерах за калючым дротам на Украіне, і ў шахтах у Польшчы, і ў паноў у Нямеччыне... Успом-

ніш другі раз, што пераджыць давялося, не па сабе робіцца... Асабліва калі згадаецца адзіночка...

...У адзіночку Трахім трапіў на апошнім годзе вайны, у Нямеччыне. Іх, палонных, павялі ў поле грузіць на ваганеткі цукровыя буракі. Церусіў дробны асенні дождждык, далеч была заслана імгою, дзьмуў пранізлівы, халодны вецер. Іхні вартавы, стары, бяззубы ўжо немец, пастаяўшы трохі на полі, на ветры, замёрз і пайшоў да сціртты гарахоўніку, што была непадалёку на полі. Сеў там у зацішку, паставіў між каленяў вінтоўку і, сагрэўшыся, сцішыўся — ці не задрамаў...

Яны, палонныя, толькі гэтага і чакалі. Кінуліся ўрассыпную, хто куды...

...Яго, Трахіма, злавілі на трэці дзень, калі ён спрабаваў пераплысці раку. Допыт цягнуўся доўга. Усё ўскладнілася тым, што яго прынялі зусім за іншага чалавека, які перад гэтым уцёк з турмы. Ад яго патрабавалі прызнання, з кім, праз каго ён меў сувязь з Масквой. Трахім нічога не ведаў, а таму маўчаў ці цвердзіў, што ён палонны, уцякаў з лагера. Яго білі, ставілі па шыю ў ваду, заганялі ў пальцы голкі... Потым, не дамогшыся патрэбнага прызнання, збітага, змучанага катаваннямі, амаль непрытомнага кінулі ў адзіночку...

Адзіночка была цесная, змрочная, з невялічкім акном-шчылінкай пад самай столлю. Дацягнуцца да акна, паглядзець у яго было нельга — яно было высока. Тры разы на дні ў адзіночку прачыняліся дзверы. Невядомая рука ставіла проста на падлогу яду. Уранні — конаўку горкай жалудовай кавы, у абед — алюмініевую міску баланды, увечары — зноў тую ж конаўку чаю. Да прыварку — кожны раз танюсенькая, як лісток паперы, лустачка хлеба... І каб хоць якая работа, крык, шум... Не. Дзень і ноч цішыня. Нідзе, ніадкуль ні гуку, ні груку. Бы ўсё адно ў магіле... Спачатку ён лічыў дні, ночы. Потым і гэта перастаў рабіць — збіўся з ліку... Ён не галіўся, не мыўся... Нават не варушыўся — ляжаў і ляжаў на падлозе... Перабіраў у памяці ўсё, што толькі хоць калі здаралася з ім — у маленстве, у юнацтве... Находзілі то забыццё, то сон...

Ногі і рукі ў яго апухлі, перасталі слухацца. Ён ужо цераз сілу дапаўзаў да дзвярэй, каб узяць лустач-

ку хлеба ці чаго-небудзь выпіць. І тады ён зразумеў — жыць яму асталося на гэтым свеце мала, ён паміpae... І дзіва: яго гэта ані не ўстрывожыла. Ён зміpыўся са сваёй смерцю, не супраціўляўся ёй і толькі чакаў, калі яна нарэшце прыйдзе па яго, калі забярэ... Ён ужо так абяссілеў, што не мог дацягнуцца рукамі да конаўкі, каб напіцца...

І тады здарыўся цуд — у адзіночку да яго заляцела аднекуль муха. Звычайная муха, якіх так многа ў ўлетку ў кожнай вясковай хаце. Муха білася аб акно, хацела вырвацца на волю. Пасядзіць, пасядзіць, адпачне — і зноў гудзе, зноў б'ецца крыльцамі аб шкло. І яму, Трахіму, стала не па сабе. «Муха не хоча паміраць. А я...» І ён, напружваючы апошнія свае сілы, папоўз да акна...

Хацеў устаць на ногі — і не змог...

Праз шчылінку-акно ў цэлю прарэзаўся промень сонца, асвятліў лапінку на сцяне. І тады Трахім падумаў, як усё ж добра жыць — хадзіць па зямлі, адчуваць на сабе цяпло сонца, смяяцца, гаварыць...

Праз тыдзень ён ужо хадзіў па цэлі... А яшчэ праз нейкі час яго перавялі зноў у лагер...

...Скончылася вайна, вярнуўся дадому. Ні хаты, ні людзей...

Бэбіха, Нупрэева жонка, што атайбавалася, жыла на Трахімавым селішчы, расказала, дзе людзі. Сама яна з дзецьмі неяк ухітрылася ўцячы з акружанай немцамі вёскі і асталася жыць на папялішчах. Пахавала трое дзяцей. І сама была апухла, ледзь варуха́лася. То калі адчула, што смерць вось-вось прыйдзе па яе, з Кацяю сваёю развіталася, узяла рыдлёўку і на могілкі пайшла — ямку сабе капаць. Але адна аставацца, жыць у пограбе не захацела і Каця — пайшла ўслед за маткаю на могілкі... Удваіх сяк-так выкапалі магілу, але вылезці з яе Бабіха ўжо не мела сіл. Бадай, і сканала б там, каб Каця не ўбачыла салдат з чырвонымі зоркамі на пілотках — то былі савецкія разведчыкі... Салдаты выцягнулі з магілы Бэбіху, уратавалі...

Так асталася на могілках незасыпаная магіла Бэбіхі... Пасля хто б ні вяртаўся ў вёску, хадзілі глядзець на тую магілу. Хадзіў і ён, Трахім...

Недзе пад восень прыехала з Нямеччыны жонка, Хадора. І Трахім яе не пазнаў. Як расставаліся — зу-

сім, здаецца, маладая была яна. Сустрэў жа ён незнаёмую, сівую, зусім змардаваную жанчыну. І дачкі, Марускі, не было з ёю — памерла ў Нямеччыне. Адзіная радасць была — сын, Раман. Ён падрос, бацьку быў па плечы. І худы, што кіёк. Гледзячы на сына, на жонку, Трахім быў падумаў тады: «І я, мабыць жа, здорава пастарэў... Дзіва што, гэткае перажыць...»

Конь запырхаў, затрос галавою, пайшоў шпарчэй. Весялей пабеглі колы, жвавей затарахцелі драбіны. Дыхнула прахалодай.

Трахім абапёрся на рукі, падняў галаву — падвода ўязджала ў лес. Лес не лес, а так сабе, лясок. Замільгалі нятоўстыя камлькі бярозак, дубкоў. Цёмнай, калючай сцяною плыў насустрач, насоўваўся хвойнік. «Глядзі ты, як вырас!» — не паверыў, здзівіўся Трахім, успомніўшы, як адразу пасля вайны хадзіў разам з усёю сям'ёй — Хадорай, Раманам — у лясніцтва зарабляць грошы, садзіў гэты самы хвойнік. Сам ён, Трахім, хадзіў па свежых разорах і цяжкім мечам рассякаў зямлю, рабіў лункі. У гэтыя лункі Раман, нагінаючыся, садзіў па каліве маленечкія, кволенькія хвойкі, што прывозілі з гадавальніка, а Хадора проста рукамі абграбала, загортвала зямелькаю карэньчыкі... І, любуючыся хвойнікам, тым, як ён вымахаў угору, Трахім думаў, што, мабыць, недарма пражыў сваё жыццё. У вёсцы стаіць зрубленая яго рукамі хата, расце пасаджаны ім сад... У горадзе жыве сын, яго сын Раман, унук Артурык... Паднімаецца ўгору, імкне да святла, да сонца і гэты пасаджаны таксама яго, Трахімавымі рукамі хвойнік... А колькі пахадзіў ён за плугам, пераараў зямлі! Колькі памалаціў збажыны, нарыхтаваў стагоў сена, памалоў зерня, колькі папасвіў кароў... Канешне, усяго ён мог бы зрабіць і больш, каб не было вайны, каб менш зважаў на розныя згрызоты...

Хвойнік паступова перайшоў у чарналессе. Высокая — у рост чалавека — папараць і доўгая трава-пажарац зазеляненелі ля кустоў арэшніку і камлёў дрэў — ясеняў, клёнаў, дубоў. І Трахім успомніў, што з вясны сёлета вельмі дажджыла, па тыдню, а то і па два не паказвалася сонца, і было цёпла, парна, і ўсюды, нават вось тут, у засені дрэў, панарастала шмат травы. Маладой, ядранай, сакаўной. Вось каб скасіць яе ды на па-

годзе высушыць, зграбці, застагаваць... Сена б якое было — чай! Анігадкі каровы былі б зімою. Было б і малако, было б і мяса. І гэта добра зрабілі ў калгасе, што паехалі гуртам усе, хто толькі можа трымаць касу, касіць Гала. І што яду ўсім будуць варыць у адным катле — таксама добра. Бо не будзе ж кожны варыць сабе есці ў кацялочку, як гэта было даўней, да калгасаў... Адышло, канула тое ў вечнасць... Солі толькі вось не захапілі... А без солі, і праўда ж, якая яда...

У галаве ў Трахіма нешта як бы памутнела. Перад вачыма паплыў туман. Зялёны туман.

Трахім схіліў галаву зноў на мяшок з соллю, паглядзеў на неба. Але і неба было не сіняе, не блакітнае, а зялёнае.

«Чаму б гэта?» — падумаў ён.

І ў наступную хвіліну здагадаўся, узрадаваўся.

«Дзівак. Ды таму зялёнае, што еду я па лесе. Як ездзіў, бывала, калі быў дужы, малады...»

Сонца прасвечвала скрозь карункі лісця дрэў, трапляла ў вочы. І Трахім заплюшчыў, апусціў павекі. І... убачыў сябе дома, у сваім двары, на прызбе хаты. У двор зайшоў Хведарка.

— Дзядзька Трахім, га дзядзька Трахім! — крычаў Хведарка.— Вы ж ведаеце, як я нарадзіўся на гэты свет... Дык няўжо і дзіця маё павінна так нараджацца? З'ездзіце за мяне ў Гала, га?

— Дык я ж еду...

— Каб жа ж вы, дзядзька, у Гала ехалі. А то ж дадому...

— Куды дадому? Я табе дам, падшыванец, дадому...

І Трахім усміхнуўся.

— Ты не смейся, ты і праўда едзеш дадому. Набыўся адзін, хопіць,— пачуў раптам Трахім голас («Божа мой, зноў!..»)... голас сваёй Хадоры.

— Адкуль ты ўзялася? — спытаў ён і хацеў падняць галаву, паглядзець на жонку. Але галава была нязвыкла цяжкая, не падняць.

— Не клапаціся. Ні пра што не клапаціся,— сказала Хадора.

— Як не клапаціся? Жыць і не клапаціцца?

— Ты ўсё зрабіў, што трэба было зрабіць...

Сапраўды, пра што яму клапаціцца, чаго ён яшчэ не зрабіў?

— А соль? — раптам успомніў ён.— Хведарка ж прасіў мяне завезці касцам соль. Усё, едучы ў Гала, захапілі, а на соль забыліся. Без солі — якая ж яда?

— Соль Тарзан і без цябе завязе. Ён конь стары, ведае дарогу... Не клапаціся...

І Трахім нарэшце ўбачыў Хадору. На ёй была чорная крамная спадніца, белая, вышываная васількамі кофта, на галаве — завязаная ўчубкі хустачка. І была Хадора прыгожая, маладая, такая, якою была некалі, да замужжа. Яна працягвала рукі, прасіла:

— Трахімка, хопіць нам жыць адно без аднаго. І я занудзілася па табе, і ты, бачу, па мне занудзіўся... Едзь, едзь да мяне. І ні пра што не думай, не клапаціся... Тарзан завязе касцам у Гала соль. І ў Хведаркі добра ўсё абыдзецца — жонка народзіць сына. У бальніцы, як і належыць цяперашнім часам. І сына таго назавуць у тваю памяць Трахімам...

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

— Я ўсё, усё ведаю...

І Хадора ўсміхнулася. Усміхнулася па-дзявочы сарамліва, так, як усміхалася заўсёды, калі была ў нечым вінавата перад Трахімам, калі ў яго прасіла што-небудзь...

За гэтую ўсмешку Трахім гатовы быў зрабіць што заўгодна, пайсці хоць на край свету.

Забыўшыся на сваю хворасць, на боль у суставах, Трахім падаўся ўсім целам насустрач Хадоры. На хвіліну здалося — зямля халодная. Перад вачыма мільганула — белыя дрэвы, белая дарога і белыя-белыя коні. І на іх, гэтых конях, на санях, едзе ён, Трахім... Едзе па нявесту, Хадору. Едзе, як некалі ехаў на вяселлі туды, дзе жыла Хадора,— у Засямашкі...

Траслася, падскоквала па выбоістай, каранiстай дарозе падвода, ехала ўсё далей і далей у лес. І на ёй, гэтай падводзе, ужо не было Трахіма. Была салома, быў мяшок з соллю, былі бітоны з малаком. А Трахіма не было... Паехаў, памчаў ён на іншай падводзе, па іншай — белай дарозе, на іншых — белых конях, у белую-белую, як снег, зіму...

*1970 г.*

## З кнігі «Ваўчыца з Чортавай Ямы»

## У ВЁСКУ, ДА МАЦІ

Цягнік з гэтага вялікага горада на Сажы ў мае родныя мясціны адыходзіць нешта гадзін ці не ў шэсць вечара. І я, прыехаўшы ў горад яшчэ на досвітку, каб неяк прабавіць час, дзе толькі не пабываў — у магазінах, якія мала чым розніліся ад мінскіх, сталічных, на рынку — ён быў непадалёку ад аўтобуснай станцыі і зноў жа нічым асаблівым мяне не прывабіў, мо таму, што быў не базарны, а зусім звычайны будзённы дзень; сядзеў у рэстаране, а потым, паабедаўшы,— у парку, у гаючай цішы старых галлістых клёнаў і ліп. Дачакаўшыся нарэшце пасадкі на патрэбны мне цягнік, амаль першы кінуўся ў вагон. Выбраў месца ля акна, паставіў свой дарожны чамадан, зняў з плячэй балонню і, павесіўшы яе на кручок, сеў на абшарпаную, не надта чыстую лаўку. У вагоне, нагрэтым за дзень дзесьці на запасных пуцях у тупіку яшчэ даволі спякотным вераснёўскім сонцам, было душна, пыльна, пахла вугалем і фарбай. Я адчыніў акно — адразу ж пасвяжэла. «Ну вось, і зноў, здаецца, буду хутка дома»,— ледзь не ўголас сказаў я. І ў вачах паўстала раптам тая ў зяляніне густых акацый станцыя, дзе я на змярканні выйду з вагона, глухая, цёмная дарога праз зараслыя маладняком дзялянкі, вёска, што пачнецца за нешырокаю рачулкаю і купчастым лазняком, хата амаль на самым другім канцы гэтай вёскі... Зноў, як гэта было неаднойчы, я непрыкметна, ціха адчыню цяжкія дубовыя весніцы, зайду ў двор, пастукаю ў шыбу акна, скажу не вельмі гучна: «Мама, адчыні!» І мама, мая родная, дарагая мама, падхопіцца з пасцелі, яшчэ сонная, падбяжыць да акна, спытае з трывогаю: «Хто?» І, як толькі я абзавуся,

спалохана, радасна ўскрыкне: «Ой!» Ускрыкне і кінецца босая, у адной палатнянай начной кашулі на падворак. Паадчыняе хату, сенцы, цёплая, худзенькая, прыпадзе мне да грудзей, заплача: «А чаму ж ты, сынок, цаліграмы не даў? Я машыну б папрасіла, сустрэла...»

Дваццаць гадоў, як паехаў я са сваёй вёскі, і дваццаць гадоў вось гэтак, калі наведваюся дадому, сустракае мяне заўсёды маці. Багата, багата чаго змянілася за гэтыя клопатныя, добрыя гады і ў свеце, і ў краіне, і ў вёсцы, і ў жыцці маёй маці, ды і сам я змяніўся — з цыбатага падлетка-дзесяцікласніка стаў мажны, кржакаваты чалавек, сем'янін, бацька дваіх амаль ужо дарослых дзяцей. А сустрэча з маці не змянілася — яна ўсё такая ж непасрэдная, трапяткая... Адзінае, на чым я засяродзіў апошнім часам увагу, дык гэта хіба тое, што маці ўжо не так імкліва адчыняе дзверы і бяжыць мне насустрач, як бегала раней. Нічога не паробіш, старасць, кажуць, не радасць...

Між тым, пакуль я стаяў ля акна і думаў-успамінаў сваю вёску і маці, у вагон заходзілі людзі. З гонарам, быццам нёс немаведама што, нават не зірнуўшы на мяне, прайшоўся з уключаным на ўсю гучнасць транзістарам прышчаваты, даўгагрывы, надта ж падобны на малпу хлопец. Са смехам, нешта адна адной наўзахапкі расказваючы, чародкаю балбатлівых сінічак ускочыла некалькі зусім маладзенькіх, прыгожа апранутых дзяўчат, мабыць, студэнтак. З адчуваннем годнасці, самавіта грукаючы ботамі, пакіраваліся кудысь у канец вагона пяць ці шэсць чыгуначнікаў. Лёгка пратэпала, амаль не чуючы пад сабою ног, з невялічкаю гаспадарчаю сумачкаю паўнаватая, ружовашчокая маладзічка. З клункам, цяжка дыхаючы, ледзь спаднялася па прыступках старэнькая, уся нейкая сагнутая, бабка. І не пайшла шукаць лепшага месца, села адразу ж пры ўваходзе... Далей я не глядзеў, як і хто заходзіць у вагон — чакаў, хто сядзе ў тое купэ, якое выбраў сабе я, з кім мне давядзецца ехаць паўтары сотні кіламетраў да станцыі, дзе трэба будзе выйсці і ўжо дабірацца да сваёй вёскі пешкі.

Вагон запаўняўся даволі імкліва, хоць, як гаварыў ужо я, дзень быў і будзённы — ехалі дадому тыя, хто працаваў у горадзе, а жыў непадалёку ў вёсках, ехалі чыгуначнікі, ехалі, каму жыццё не давала ся-

дзець на адным месцы, гнала па самых неадкладных справах то сюды, то туды. І ў купэ, дзе я размясціўся зусім па-хатняму, таксама неўзабаве падселі — немалады ўжо, распаўнелы мужчына ў вайсковым, без пагонаў, і худая, з доўгімі, касцістымі і, як падалося мне, сквапнымі рукамі жанчына. Відаць было, што гэта муж і жонка, што яны штосьці важнае зрабілі, бо былі, асабліва жанчына, узрушаныя, усхваляваныя.

— Сотня ляснула,— не гаварыла, а шыпела жанчына на мужчыну.— Трэба разявай не быць!

— Хто ж ведаў, што там такія людзі,— бараніўся мужчына.

— Людзі ўсюды аднакія. Можна, то чаму ж не ўварваць.

І, дастаўшы з даволі абшарпанай, паношанай сумачкі шматок паперы, аловак, прысела да століка, пачала, шэпчучы сабе пад нос, лічыць — множыць, дзяліць, адымаць, складаць...

За гэтым заняткам і застала яе рухавая, нізкарослая кабета, што не бегла, а, здавалася, каціласяя, па вагоне, трымаючы перад сабою ладную кашолку,— выбірала месца, дзе б лацвей сесці.

— Го, Вераніка! — сказала, нібы ўздыхнула, узрадаваная кабета.— І Міхайла з табою. Чаго ета вы сёння ў горадзе?

— Яблыкі здавалі,— адказаў, трохі пачакаўшы, густым басам мужчына.

— Пачым? — адразу спынілася, шчыра зацікавілася кабета.

Мужчына назваў цану.

— Дык нешта ж вельмі дзешава?

Жанчына, якую назвалі Веранікай, перастала шаптацца над шматком паперы, падняла галаву.

— А я што казала! — паглядзела яна са злосцю на мужа.— Скідкі розныя. А то яшчэ аблічылі. Куды спяшацца, можна было пачакаць.

— Чаго ж чакаць? Цана дзяржаўная, яна не зменіцца,— адказаў спакойна, вельмі нават спакойна, мужчына.

— Яблыкі не толькі дзяржава купляе. Ета ж на базары я сёння была — там разы ў два даражэй. А каб у пограб ссыпаў ды да зімы пачакаў — па рублю можна кілаграм прадаць, а то і паболей,— не згадзілася з

мужчынам, пачала даводзіць сваё, прысаджваючыся насупраць, кабета.

— Можна, ды асцярожна,— зыркнуў на кабету мужчына.— Па-першае, дапільнаваць яблыкі да зімы не так і лёгка. Выкінеш палавіну...

— Чаго ж гэта іх палавіну выкідаць? — як аса, узвілася Вераніка.

— Ды таго, што пагніюць. А потым... Потым каб базар гэты пад бокам быў. А то нагружайся, едзь у горад. Стой, калаціся на холадзе цэлы дзень. Купі білет у горад, купі з горада. Схадзі ў сталоўку паабедаць, дый дзень прападзе, нічога другога рабіць не зможаш, трэба толькі гандляваць. Так што рубель той... Не выйграеш, а прайграеш...

Зноў, цяпер ужо ўтраіх, пачалі лічыць, колькі разоў трэба з'ездзіць у горад, каб прадаць, скажам, сотню кілаграмаў яблык, колькі каштаваць будзе абед, праезд, колькі трэба будзе выкінуць яблык гнілых, перш чым даляжацца яны да зімы. Выходзіла — мужчына не памыляўся: дзяржаве здаваць яблыкі было выгадней.

— Хто яго ведае,— квахтала, як курыца, кабета.— Усяк ета робяць людзі, бо кожны хоча, каб грошай болей.

— А ну іх, і людзей такіх, і грошай тых,— махнуў рукою мужчына.— Павар'яцелі! Ні пра што не думаюць, толькі пра грошы. Ашчадныя кніжкі пазаводзілі, хваляцца адзін перад адным як немаведама чым, колькі ў каго ў ашчаднай касе ляжыць.

— Ну, не кажы,— зноў не згадзілася з мужчынам кабета.— Грошы — ета добра. Трэба, дык узяў. Купіць што хочаш можна, дый неяк на нагах цвярдзей стаіш, калі рубель лішні за душою.

— Павучы, павучы, Ганна, яго,— кіўнула галавою на мужа Вераніка.— А то як пачну гаварыць, слухаць мяне не хоча, вушы затыкае.

— І затыкаць буду. Грошы чалавеку жыць памагаць павінны, а не адбіраць у чалавека жыццё. Чалавекам аставацца трэба, нельга з-за грошай рабіцца хабарнікам, махляром ці яшчэ кім. А то на кніжцы некалькі тысяч ляжыць, а ў хаце талеркі людскай няма, лыжкі. Дзеля чаго тыя тысячы? Каб перад суседам ці суседкай пахваліцца, у каго іх болей, га?

— Ну не, і я супраць такога збірання,— усміхнулася Ганна — квола, па-жаночы цнатліва.— Але не ўсе так збіраюць. Каторы камяніцу хоча сабе збудаваць, каторы машыну купіць. Вунь аднаго я ведаю, дый вы яго ведаеце. Банэдык, што ў Барбарах жыве. Сад у яго вокам не ахапіць. Дык летась яблыкі ўсе абабраў — ды ў пограб. Зіму ўсенькую на базары ў горадзе ета ўдваіх з жонкаю прастаялі. І ведаеце, на «Жыгуля» нагандлявалі. Даўнавата, праўда, не бачыла я Банэдыка, можа, ужо досі і купіў...

— А навошта — ты думала пра гэта? — Банэдыку «Жыгуль»? Куды ён на ім паедзе?

— Ну ета не кажы. Сядзе ды хоць бы ў горад той жа паедзе.

— Дык у горад і на цягніку заехаць можна. Ці на аўтобусе.

— А чым горш на сваёй машыне? Дзе захацеў — там спыніўся. Едзь хочаш удзень, хочаш уночы. Не, машына ета добра. Я і сама не адмовілася б, каб было за што купіць...

Цягнік нячутна крануўся — пабегла назад ад вагонаў прывакзальная плошча з чародкай тралейбусаў на прыпынку, цяжкая, чыгунная агароджа, ларкі з рознымі, загорнутымі ў цэлафан, прысмакамі за шклом, станцыйныя будынкі, дрэвы... Пакідаючы горад, цягнік паварочваўся, у вокны вагона зазірнула сонца — нізкае, сляпучае; ад нечаканасці я аж заплюшчыў вочы. Мо таму і не заўважыў, як і адкуль з'явіўся ў нашым купэ яшчэ адзін чалавек — мужчына гадоў пад пяцьдзесят, рослы, апрануты ў чорны, даўно не прасаваны касцюм, з гальштукам на шыі. Мяркуючы па тым, як мае спадарожнікі заварушыліся, даючы чалавеку месца, вітаючыся, ён быў ім знаёмы.

— А во, і сам Банэдык! — усклікнула Ганна. І заўсміхалася.— На воўка памоўка, а ён і тут.

— А што? — насцярожыўся, аж рот разявіў, чалавек, сядаючы на тую самую лаўку, дзе сядзеў і я.

— Ды не палохайся, нічога кепскага мы не гаварылі,— супакоіла чалавека Ганна.— Я ета расказвала, як вы з жонкаю гандлявалі зіму ўсенькую на базары, на «Жыгуля» грошы выручалі. Ці ж купілі хоць?

— А ну яго, таго «Жыгуля». Не да яго,— заплюшчыў вочы, зморана апусціў галаву чалавек.

— А што? — зрабіла выгляд, што вельмі спалохалася, Ганна.

— З бальніцы во еду.

— Самі хварэеце?

— Не, жонка, Валя. Трэці месяц ляжыць.

— Што ў яе?

— Ды тое, самае горшае. Аперацыю хацелі рабіць. Але Валя не згадзілася. А цяпер... Цяпер, кажуць, позна аперацыю рабіць. Каб лекі нейкія новыя дастаць, можа б, і пажыла яшчэ гадоў колькі. Але дзе ты дастанеш іх, тых лекаў? Быў я ўжо ў Мінску, быў у Кіеве, быў у Маскве. Вельмі ж шкада мне жонкі, жыцця без яе свайго не ўяўляю. Мы ўвесь час разам і разам, куды я, туды і яна. Калі б яшчэ, можа, дзеці былі. А то ж...

Чалавек уздыхнуў — яму цяжка было гаварыць пра сваю хворую жонку, якую — гэта адчувалася — ён кахаў. Уздыхнулі, быццам па камандзе, і ўсе — Ганна, Вераніка, Міхайла. І замоўклі — нейкі час трывала гняткая, сумная цішыня. Толькі чуваць было, як стукалі на стыках рэек колы. Та-тах, та-тах, та-тах...

Першая цішыню парушыла Вераніка.

— А да гемяпатаў не спрабавалі ездзіць? — спытала яна ў Банэдыка.

— Быў я ў гемяпатаў і яшчэ бог ведае ў каго. І ў Вільнюс ездзіў, і ў Тамбоў, і ў Гродна. За свае лекі грошы яны бяруць добрыя, а гарантаваць, што памогуць лекі тыя... Словам, гарантый ніякіх не даюць. Расказваюць, праўда, быццам во той ды той браў, то памагло. А можа, і хвароба другая ў таго была? Лекі іхнія я купляў, але пакуль яны ані не памаглі. Я ні сябе, ні грошай не шкадую, абы ўратаваць жонку ад смерці. Кажа жонка іншы раз мне: «Не кідайся, Іван, усё адно мне не паможаш ужо. Сам сябе толькі раней часу ў магілу загоніш». А я супакоіцца ніяк не магу, дома і дня не сяджу. Працу кінуў, з горада ў горад езджу, усё шукаю, як бы жонцы хоць чым памагчы, каб не мучылася яна, пажыла яшчэ...

— То сёлета вам, ета, не да яблык,— сказала са спачуваннем Ганна.

— Што вы! Якія яблыкі! Спярша, калі выязджаў

з дому, то сабаку ў садзе прывязваў. Але ведаеце, як у дарозе бывае — едзеш на дзень, а прыязджаеш праз тыдзень. Сабака ж згаладаецца, звер зверам робіцца, не падысці да яго нават мне, гаспадару. Неяк прыехаў я ўночы, дык ён так на мяне скочыў, што, каб не захінуўся за плот — разарваў бы. Падумаў я тады: а калі на чужога чалавека так кінецца, не дай бог? Адказваць жа давядзецца! І прагнаў сабаку з двара, сад так ніхто цяпер і не вартуе. Яблыкі хто хоча, той ірве. Не да іх мне...

Зноў у купэ запанавала гняткая, сумная цішыня.

Па вагоне прабегла правадніца, аб'явіла прыпынак — цягнік спыніўся. Спыніўся толькі на адну якую хвіліну і адразу ж тузануўся, зноў пачаў набіраць хуткасць: на абочыне чыгуначнага палатна асталіся стаяць некалькі мужчын і жанчын, што сышлі на паўстанку. Замільгалі, пачалі зноў праносіцца міма і адставаць ад вагонаў яшчэ зялёныя, толькі дзе-нідзе кранутыя жаўталістай неадступнай восенню дрэвы, парыжэлыя, з вастраверхімі стагамі сена, што сіратліва стаялі тут і там, лугі, тлуста-чорныя, пераараныя на папар палі, вёскі з тэлевізійнымі антэнамі амаль над кожнай хатай і настаўленымі ў неба вочапамі калодзежных жураўлёў. Шэрым павівастым паскам вільнула палявая дарога, і на ёй, той дарозе, мае вочы згледзелі нейкую адзінокую постаць, што імчалася, з усіх сіл націскаючы на педалі, на веласіпедзе. І ўспомнілася мне, што і я, здаецца, зусім-зусім нядаўна гэтак жа націскаў на педалі свайго старэнькага ржавага веласіпеда, ездзячы штодзень аж за дванаццаць кіламетраў у школу. Сядзіш прыгнуўшыся на сядзенні, трымаеш руль у руках і круціш, круціш педалі. Спяшаешся ж — раніцою, каб не спазніцца на ўрокі; пасля заняткаў у школе — каб дома хутчэй быць, памагчы маці панасіць з поля накапаную бульбу, насячы дроў ці збегаць у лес і ўзяць хоць з дзесятак баравікоў... І маці, бачачы, як я спяшаюся, руплюся ўсюды паспець нешта зрабіць, казала мне: «Не будзь такім сквапным, сынок! Работы ўсёй не пераробіш, грошай усіх не забярэш. Верабейка па зярнятку клюе — і сыты, а воўк авечак цягае — і галодны... Дый... Ёсць жа шмат чаго, чаму і цаны няма, што даражэй за ўсякіх грошай». На сэрцы стала скрухліва,

ураз агарнула ўсяго мяне нейкая няўцямная туга — можа, таму, што я падумаў: не вернецца ўжо ніколі тое, што было, не вернецца, як бы я ні хацеў яго вярнуць. Было — і няма...

«Няма-няма-няма!» — здаецца, паўтаралі ўслед за мною колы вагонаў...

Задумаўшыся, я сядзеў на лаўцы, глядзеў у акно і на хвіліну забыўся нават, што ў вагоне поплеч са мною сядзяць людзі, кожны са сваімі думкамі, клопатам. Згадаўшы сваё маленства, я раптам пачаў думаць пра тое, што ўсё, што праносіцца міма вагона, я бачыў ужо неаднойчы з акна, бо ездзіў па гэтай дарозе дзесяткі, сотні разоў. і дзіўна было, што на ўсё глядзеў цяпер зноў так, нібыта ўпершыню яго бачыў: тое, ранейшае, ані чамусь не запомнілася, прабегла, пранеслася *міма* мяне. Не запомніліся, пранесліся *міма* мяне, майго сэрца, і тыя людзі, з кім я сустракаўся па волі лёсу ў вагонах, тыя, з кім ехаў дадому, да сваёй маці; пазабываласся, вылецела з галавы і тое, пра што яны, тыя людзі, гаварылі, што іх клапаціла, трывожыла, чым яны жылі, як праз нейкі час забудзецца, мабыць, і тое, што чуў я сёння... І тут жа адагнаў ад сябе гэтыя думкі. «Не, сённяшняе не забудзецца, бо яно не чужое, яно нечым вельмі блізкае мне, дапаўняе і развівае тое, што чуў я ў маленстве ад сваёй маці... «Верабейка па зярнятку клюе — і сыты, а воўк авечак цягае — і галодны. Дый... Ёсць жа шмат чаго, чаму і цаны няма, што даражэй за ўсякіх грошай...» І каб лепш запомніць і тую размову, міжвольным сведкам якой стаў я сёння, і тых людзей, што ехалі поплеч са мною, я адвярнуўся ад акна, пачаў разглядваць спадарожнікаў. Сядзелі яны цяпер усе моўчкі, не парушаючы нічым той цішыні, што ўсталявалася ў нашым купэ, і тых думак, што віліся ў галаве ў кожнага. Банэдык, адкінуўшыся спіною да сценкі лаўкі, засляпіў вочы і думаў, мабыць, пра сваю хворую жонку і пра тое, як ёй памагчы; Міхайла — у расшпіленым афіцэрскім кіцелі, чыста паголены, спакойна глядзеў у падлогу і таксама нешта думаў сваё — ці не тое, што ён не гоніцца за доўгім рублём, жыве правільна, як чалавек... Думалі пра нешта сваё і жанчыны — Ганна і Вераніка: можа, пра дзяцей, якіх пакінулі дома і да якіх ехалі, а можа... Можа, пра іншае, бо хто

скажа, пра што думае жанчына, калі сядзіць у вагоне, вяртаецца з горада дадому, у сваю хату...

Сонца між тым схавалася, упала недзе за лес, далягляд звузіўся, сцьмянеў — набліжаўся вечар, цемра... А ў купэ так ніхто і не гаварыў, не вымаўляў ні слова — сядзелі моўчкі. Аб'явілі яшчэ прыпынак, потым яшчэ... Цягнік спыняўся, стаяў хвіліну-другую і зноў рушыў, набіраў хуткасць...

І калі раптам мае спадарожнікі неяк усе разам падняліся і, спяшаючыся, пакіраваліся да выхада, пакінуўшы мяне ў купэ аднаго, я падумаў: «А ёсць, ёсць жа тое, што не праходзіць міма — запамінаецца, астаецца навечна... І не дзеля грошай, а дзеля таго, добрага і вялікага, варта жыць, варта рупіцца, дбаць... Як дбала пра мяне некалі маці, каб вырас я не пустадомкам, каб гнаўся не за рублём, а за нечым большым, чаму і цаны няма, што даражэй за ўсякіх грошай».

У вагоне ўспыхнула, загарэлася святло, і тады я схамянуўся: блізка была тая станцыя, дзе і мне трэба пакідаць купэ, выходзіць з вагона.

А цягнік набіраў і набіраў хуткасць, імкнуў і імкнуў удалячынь...

*1974 г.*

## НАВАЛЬНІЦА

Яшчэ калі два леты таму назад Адарка ўпершыню ўбачыла на балоце незнаёмых людзей — у гумовых ботах, хто ў куртцы, а хто ў плашчы, з нацягнутымі на галовы капюшонамі (быў якраз пахмурны дзень, сеяўся дождж), яны хадзілі па самай непралазі і, цярэбячы лазняк, штосьці там рабілі, яна непрыязна, з нейкаю няўцямнаю трывогаю падумала: «Нагнаў жа іх аднекуль сюды чорт... Мусіць жа, не проста так боўтаюцца ў дрыгве... Нешта ж ім рупіць...»

Прадчуванне чагосьці прыкрага, нядобрага не падманула Адарку — неяк, і вясна яшчэ не мінула, а ў

іхнія Пасяюшкі наехала поўна чужых людзей, найбольш, вядома, моладзі. Удзень дзяўчаты і хлопцы, усё адно што буслы, цыбалі па балоце, мералі яго ўздоўж і ўпоперак сталёвымі стужкамі, убівалі колікі, ставілі тычкі, а ўвечары блукалі па вуліцы, смяяліся, спявалі песні, наладжвалі на поплаве непадалёку ад Адарчынай хаты гулі. У вёсцы стала гармідарна, людна. І Адарка пачула тады — гэта ж збіраюцца асушаць іхняе балота... «Асушаць? — здзівілася, перапытала са спалохам Адарка.— А нашто яго асушаць? Хіба поля мала?» — «Поля нямала, ды не зашкодзіць мець яго і болей. А то... Толк які з гэтага балота? Хіба смурод, нечысць, камары...» Ну, з апошнім Адарка не магла, ніяк не магла згадзіцца. Бо балота... Прывыкла Адарка да балота. Вясною, перад вялікаднем, хадзіла ў балота рваць лотаць — надта ж ёмка фарбаваць жоўтай квеценню яйкі. А па шчаўе куды ж, як не ў балота, пойдзеш? Ды і травы цяляці ўжаць, нарваць свінням бабоўніку... Зімою ж, калі пазамярзае ўсюды, вада лёдам возьмецца, і па дровы на саматужках з'ездзіць можна ў алешнік, лазняк, што параслі месцамі тут і там на балоце, асабліва дзе канавы старыя... Не, балота трэба... Без яго... Як жа жыць, калі не будзе балота?!.

Пачыналася балота — яго, гэтае балота, у Пасяюшках звалі Гіблым — за людскімі гародамі і цягнулася на многія кіламетры, аж пакуль, нарэшце, не пераходзіла ў лес, мокры, густы — не прадрацца. Вясною балота залівала вада. Вада і вада, цэлае мора вады, толькі кусцікі лазы ды алешніку дзе-нідзе тырчаць. Улетку вада трохі спадала, балота зеляпела жорсткаю, што напільнікі, асакою, рослым гнуткім чаротам, бучной рагазою. Кумкалі жабы, кігікалі кнігаўкі, клекаталі буслы, крэкалі качкі. Увосень балота рыжэла, жаўцела, вусцішна шумела нежывою сухою травой. Потым незаўважна набракала вадою, замярзала і ўсю зіму бялела, аж вочы выядала, роўным чыстым снегам. Прывыкла Адарка да ўсяго гэтага. Як помніла сябе, помніла і Гіблае. І жыць, не бачыць штодня, штохвіліны балота... Не, Адарка не магла нават уявіць, як можна жыць, калі не будзе побач, усяго гоней за колькі ад хаты, таго, што было, здавалася, вечна...

Таму і прыглядалася яна гэтак пільна да ўсіх, хто раптоўна наехаў аднекуль у вёску, спрабавала ўявіць, змогуць гэтыя людзі даць рады Гібламу ці так паходзяць па дрыгве, прыкінуць, што да чаго і як, ды, нічога не зрабіўшы,— і паедуць. Пакуль наезджыя рыхтаваліся да асушэння, Адарка не верыла, што яны паканаюць Гіблае. «Ат, паблукаюць, паходзяць ды і паедуць, адкуль прыехалі...» Але калі аднаго дня ў вёску прыгналі нейкія вялізныя дзіўныя машыны — іх вясковыя хлапчукі называлі экскаватарамі і бульдозерамі,— Адарка паверыла: на балота будуць наступаць, балота будуць асушаць... І вельмі нават можа быць — асушаць...

У тыя дні і пачалі вяскоўцы ўсё часцей і часцей бачыць Адарку ля Гіблага. Звычайна Адарка хадзіла ля балота не адна — услед за ёю, як хвост, целяпалася і ўнучка, Людка. Людцы было гадоў шэсць-сем, але была яна не ў прыклад дзецям яе ўзросту маўклівая, толькі зрэдку пытала пра тое, што яе цікавіла, бабу. Асабліва баялася Людка ўспамінаць сваю маму, бо тады баба раптам ні з сяго ні з таго злавалася, лаяла і маму, і яе, Людку.

— Сораму няма,— бубнела баба.— Хто ж робіць так? Не выходзячы замуж, жывот нагуляла... Нарадзіла дзіця, у вёску прывезла, а сама... Сама зноў кудысь паджгала... Зязюля! Чакай, матка, дачка праз год яшчэ адно дзіця прывязе. Няньчы! Глядзі!

А далей... Далей з вуснаў у бабы вырывалася тое, чаго ніяк, ніяк не хацела чуць Людка. Баба ўпікала Людчыну маму, сваю дачку Феню, што тая матыліца, хіба ж тут, у Пасяюшках, рабіць няма чаго, конча трэба ў свет ехаць, шукаць прыстанішча... Ведама, матыліца... Тут не пагуляла б так, як гуляе там, бо тут маці, людзі свае... А там... Там воля — што хочаш, тое і рабі, як хочаш, так і жыві...

Чуць усё гэта Людцы было непрыемна, таму яна старалася не ўспамінаць уголас сваёй маці. І наогул, старалася ні пра што ў бабы не пытацца, бо баба, асабліва пасля таго, як наехалі ў вёску чужыя людзі і ўзяліся нешта рабіць на балоце, усе дні была злосная, бурчала і бурчала сабе пад нос, што б ні рабіла, куды б ні ішла. Вось і цяпер, кіруючыся паўз балота, глядзіць, як спрытна ачэрпвае экскаватар дрыгву, пады-

мае поўны коўш гразі, з якога льецца вада, над сабою, паварочваецца і кідае ў кучу — за экскаватарам цягнецца роўная, як шнурам праведзеная канава,— і бурчыць, бурчыць:

— Во, капае, каб ён магілу сабе выкапаў... Поля мала!.. Панаехалі сюды з усяго свету, зброд розны... Напаскудзяць і ўцякуць. А нам... Нам што хочаш, тое і рабі... Было балота пад бокам, а цяпер... Трасца будзе... Ні лотаці, ні шчаўя, ні бабоўніку. Дый у гародзе... Калі блізка не будзе балота, і ў гародзе нічога не вырасце. Пасохне... Ум-гу, усё-усё пасохне...

Людка не змоўчала.

— Баба,— хутчэй папрасіла, чым сказала, яна.— Чаго вы лаецеся, лаецеся... Вунь людзі...

— Што-о? Людзі? — павярнула худы, змаршчакаваты і злосны, як у бабы-ягі, твар Адарка, упілася сваімі бізюкамі-вачыма ва ўнучку, не даўшы ёй дагаварыць, што тая хацела.— А ты... Ты не прыслухайся, што кажуць людзі. Ты бабу, бабу слухай... Баба цябе корміць, глядзіць... А людзі... Людзі не думаюць, ні пра што не думаюць. Замарачэнне нейкае на іх найшло. Ім абы перарабляць, што бог зрабіў. А бог... Бог падумаў, добранька падумаў пра ўсё. І каб рэчачка была, і каб поле было, і каб лясок быў... І пра балота таксама падумаў... Трэба яно — хай будзе... Дык бачыш — поля захацелася, усю б зямлю жытам засеяць, бульбаю засадзіць. А жабе той, буслу, кнігаўцы дзе падзецца? Дый мне, калі лотаці нарваць трэба ці шчаўя, бабоўніку — куды, куды падацца, га?

Тое лета выдалася на дзіва сухое. Дажджу не было ад самай вясны. Вось як растаў снег, адсеяліся — так быццам і завязала на дождж. Дні былі падобныя — сённяшні на ўчарашні, учарашні на сённяшні, заўтрашні — блакітнае, без адзінай хмурынкі неба, цішыня, ад якой аж звініць у вушах, з раніцы да вечара спякотнае, палючае сонца. Марнела на лугах трава, марнелі на палях пасевы. Вада высыхала там, дзе яна ніколі не высыхала. І Адарка вінавaціла ва ўсім тых, хто прыехаў у Пасяюшкі асушаць Гіблае.

— Во,— казала яна кожнаму, каго ні сустракала на вуліцы,— гэта ж толькі пачалі асушаць, а ўжо бачыце, што робіцца... А як асушаць? Прападзём жа...

Бо балота хмары прыцягвае. А без балота... Хто ж прыцягне сюды тую хмару? Дый... У гародзе вада ад балота заўсёды была. Раўчукі капалі, разоры рабілі, каб град не затапляла... А цяпер... Зямля ўсюды сухая, бы порах... Вады той... Колькі ні капай — не дастанеш...

Па-рознаму адказвалі Адарцы людзі. Адны пасміхаліся, другія злаваліся:

— Не мялі, Адарка, глупства. Хіба таму дажджу няма, што асушаюць балота?

— А чаму ж, чаму ж, скажы, яго німа? — кідалася коршунам Адарка на таго, хто не хацеў з ёю згаджацца.

— Няма, ды і ўсё!

— Хе-е,— прытворна, кпліва смяялася Адарка.— Тады чаму ж ніколі раней гэтак падоўгу не бывала дажджу, як цяпер, га?

— І раней, калі балот яшчэ не асушалі, надараліся гады, што па месяцу, а то і па два дажджу не было.

— А цяпер жа не месяц і не два, а з самай вясны... І не будзе!

— Ну, хоць калі, а дождж усё ж будзе!

— Нашто той дождж тады, калі ўсё пагарыць, пасохне?.. І гэта ж... Гэта ж кожнае лета цяпер так будзе. Хоць нічога не сей, не садзі...

Даказаць Адарцы нешта адваротнае таму, што яна думала, было немагчыма.

— Слухай, Адарка,— спрабаваў сёй-той пераконваць кабету.— Чаму раптам абараняеш ты балота, нашто яно табе?

— Бо я не толькі пра сябе думаю, а і пра вёску, пра людзей усіх.

— Каб думала ты пра вёску, людзей, ты б радавалася, што балота асушаюць. Камарэчы, гнюсу не будзе. Дый абшар такі без толку гібее. Вось асушым — поле будзе, луг. Колькі карысці ўсім! А ты...

— Хе-е, карысць тая... бокам вылезе... Во, не асушылі, а засуха, пагарэла ўсё...

— Дык і ў другіх жа вёсках, дзе балот асушаць не браліся, таксама засуха, пагарэла ўсё.

— У другіх... У другіх, можа, свае прычыны. А ў нас... У нас вінаваты тыя, што прыехалі асушаць...

І Адарка паказвала вачыма на Гіблае — там, уда-

лечы, нібыта даўгалыгія журавы, ківаліся раз-пораз, то нагінаючыся, то падымаючы высока ўгору каўшы з гразёю — капалі каналы,— экскаватары.

Адарка, можа б, і не перажывала гэтак, што ў іхніх Пасяюшках узяліся асушаць Гіблае, калі б не чула адной гутаркі старшыні калгаса, старшыні сельсавета і яшчэ нейкага начальніка, нетутэйшага, мабыць, з раёна. Мужчыны стаялі на поплаве, ля самага Адарчынага двара, нешта разглядвалі на вялізным аркушы паперы, якую трымаў у сваіх руках той, нетутэйшы, і гаварылі пра новую дарогу, што павінна прайсці каля іхняе вёскі.

— Дарога будзе важная, асфальтаваная,— гаварыў той, нетутэйшы.— Праляжа яна вось так...

І той, нетутэйшы, махаў рукою, усё адно што рэзаў паветра, паказваючы проста на яе, Адарчыну, хату.

— Тут жа... Тут жа хата... І балота...— бянтэжыўся старшыня калгаса.

— Хату давядзецца знесці... А балота... Балота ў планах асушэння... Вось як асушым яго, дык і за дарогу возьмемся. Дарога злучыць Пасяюшкі ды і наш раённы цэнтр з усім, можна сказаць, светам.

— А ці нельга было б дарогу... Ну, па вёсцы пусціць? — пытаў старшыня сельсавета.— Разумееце, выгада вялікая... Не трэба было б асфальтаваць вуліцы...

— Дарога будзе шумная, па ёй машыны адна за адной будуць імчаць... Ні свінча, ні курча на дарогу не выпускай... Не, выгада толькі тады людзям ад дарогі будзе, калі дарога праляжа не па вёсцы. Тыя, хто складаў план, падумалі... Пра ўсё падумалі...

Адарка палола грады ў гародзе, чула ўсю тую размову. Начальства ж, мабыць, не бачыла гаспадыні той хаты, якую трэба было зносіць, бо ад поплаву рос густы зялёны вішняк, ён і хаваў Адарку, не даваў бачыць, што робіцца ў двары, за плотам. А можа... Можа, знарок начальства гаварыла гучна, каб гаспадыня чула, што чакае яе, і загадзя рыхтавалася. Як бы там ні было, але Адарка не абазвалася. Моўчкі паслухала, пра што гаварыла начальства. Тое, што хату трэба будзе зносіць, цурацца наседжанага, абжытага селішча, балюча ўкалола Адарку. «Як, куды зносіць?»

Дзён колькі Адарка месца сабе нідзе не знаходзіла, не спала па начах. «Лёгка сказаць — хату зносіць. А паспрабуй знясі яе, калі хата старая, зусім-зусім старая... Раскідаць — раскідаеш, а складаць... Складаць не будзе чаго — парахня адна... Дый селішча... Тут усё абгледжана, абтупана. Ведаеш, дзе што сеяць, дзе што расце ці не расце... А на новым... На новым гады трэба, каб прыжыцца, карэнні пусціць...» Супакоілася Адарка трохі хіба тады, як падумала: «Ці будзе тое наогул яшчэ?.. А хоць і будзе, то не скора. Бо гэта ж трэба спачатку балота асушыць. А паспрабуй асушы яго! На гэта ж... На гэта ж не адзін дзень пойдзе. Дый ці ўдасца асушыць Гіблае, там жа багна, вада адна... Не балота, а возера. Летам калі і асушыш яго, то вясною зноў вадою зальє... Так што... Перажываць, думаць пра гэта не варта... Можа, усё тое тады будзе, калі мяне самой і на свеце ўжо не будзе...»

Пайшлі ад двара старшыня калгаса, старшыня сельсавета і той, нетутэйшы,— і думкі пра дарогу, пра тое, што хату трэба будзе зносіць, таксама ўслед за імі праз нейкі тыдзень ці два пайшлі...

А наехалі незнаёмыя людзі ў Пасяюшкі, пачалі па Гіблым хадзіць, мераць яго ўдоўж і ўпоперак, а потым і канавы капаць — успомнілася гаворка старшынь з начальнікам тым, нетутэйшым... І заныла пад сэрцам у Адаркі, засмактала — жыцця проста няма. І не сядзіцца, і не ляжыцца. Пройдзе Адарка паўз балота, у гарод свой вернецца, рабіць што-кольвек возьмецца. А думкі... Думкі ўсё пра тое ж, пра балота... «Гэта ж... Гэта ж калі асушаць яго — хату зносіць давядзецца, селішча кідаць...»

У тыя дні Адарцы ўпершыню і цюкнула — хай бы навальніца, страшная навальніца найшла на вёску, лінула ліўнем, ды такім, каб свету божага не відаць было, хай бы патапіла яна і тыя меткі, што пакінулі наезджыя на балоце, і тыя экскаватары, бульдозеры, што прыгналі сюды. «Пакуль бы зноў размералі балота, пакуль бы асушаць узяліся, глядзіш — год-другі і мінуў бы. А там... Там бог бацька»,— шаптала сама сабе па звычцы Адарка.

Успомніўшы неяк адзіную, дый тую непуцёвую, дачку Феню, якую Адарка нарадзіла ад шалапутнага мужа-шафёра Юліка, які ўсяго і пажыў з ёю, пакуль

траляваў лес у леспрамгасе, а тады паехаў дзесьці на новае месца і не абазваўся нават, і намысліла ліст Фені паслаць. Сама Адарка была малапісьменная, таму пісаць ліст пайшла прасіць суседку, Кацю. Суседка Каця і раней неаднойчы выручала Адарку — пісала лісты да Фені і тыя, што ад Фені прыходзілі, чытала. І казала Адарка гэты раз Каці паведаміць Фені пра Гіблае, маўляў, асушваць яго ўзяліся. А таму прасіла Адарка, каб Феня прыехала ў Пасяюшкі, калі не назусім, дык хоць бы на лета. Бо ёй, Адарцы, трэба пабачыцца з дачкою і пагаварыць пра тое, пра што ў лісце напісаць Адарка не асмельваецца. Дый за Людкай хай бы Феня прыгледзела, занудзілася зусім малая без маці, а ёй жа і ў школу сёлета ісці трэба. Сама ж Адарка старая, ані не здолее...

Суседка Каця, маладая, бяздзетная ўдава, муж якой загінуў недзе ў Сібіры, завербаваўшыся на лесараспрацоўкі, напісала слова ў слова ўсё, што прасіла яе Адарка. Заканвертавала ліст, адрас прыгожымі літарамі вывела, і ліст той Адарка аддала паштальёну. І стала чакаць адказу. «А мо і сама Феня прыедзе,— думала Адарка.— Тады б... Тады б я з ёю пагаварыла. Пра ўсё, пра ўсё пагаварыла б. І пра хату, якую давядзецца, мусіць, зносіць, пакідаць селішча, і пра ўнучку Людку, якую трэба глядзець не бабе, а самой маці, нельга ж, каб дзіця расло без маці, а маці гойсала па свеце, шукала невядома чаго, і пра самую сябе... Бо адчувае сябе яна, Адарка, апошнім часам не вельмі каб, і галава нешта баліць, аж расколваецца. Каб хоць, не дай бог, на старасць не схібіцца, памяці не згубіць...»

Тым часам спякота ані не спадала. Духата стаяла нават уночы такая, што нельга было заснуць. Людзі, каб адчуваць сябе хоць трохі лягчэй, не клаліся спаць на ложках, а слалі пасцелі на падлозе. Адчынялі нахлапч дзверы, вокны... І ўсё адно не было чым дыхаць, было так душна, што аж спірала, гарэла ў грудзях. Зеляніна нікла і жоўкла, скручвалася на дрэвах лісце. Сонца, узышоўшы ўранні, не хавалася цалюткі дзень — смаліла, пякло. Поле высахла, узялося пылам. Праедзе па дарозе машына — шэрая хмара гоніцца ўслед. Ад гарачыні гізавалі каровы, куры закопваліся

глыбей у пясок і сядзелі там з разяўленымі дзюбамі ад ранку да вечара.

Такое сухое надвор'е не радавала, не цешыла жыхароў вёскі. Але яно вельмі ж спрыяла меліяратарам, хто прыехаў асушаць Гіблае. Асушэнне ішло хуткі, каб не сказаць зусім імкліва, куды лепей, чым меркавалася. І касіць не пачалі, а ўжо шырокі магістральны канал распаласаваў, нібыта нажом, Гіблае надвае. Да магістральнага канала пацягнуліся другія каналы, канавы, стрэлкі. Па балоце, дзе спрадвеку баяліся ступіць людзі, цяпер ездзілі трактары, машыны. І Адарка, ходзячы штодзень паўз балота з Людкаю — гэта ў іх увайшло ў звычку — хадзіць штодня паўз балота, нават сцежачку сабе за гэты час у траве пратапталі,— бачыла: асушаць людзі балота, не будзе больш тут багны. А значыцца... І хату давядзецца зносіць, селішча сваё пакідаць... «Каб навальніца, лівень... Тады б... Тады б, можа, па-другому было... А так... Так асу́шаць... Дзіва што — спёка такая каторы месяц стаіць!» — шаптала, бубнела Адарка. Вечарамі ж, уклаўшы Людку спаць, яна падала на калені і прасіла, маліла госпада бога — хай злітуецца над ёй, пашле на вёску навальніцу, лівень. «Ды такую навальніцу, такі лівень, каб заліло ўсё на свеце... Нават не лівень, а патоп. Так, так, божа, пашлі патоп!..»

І тое, чаго так хацела, чаго так прасіла, маліла і чакала Адарка — здарылася. Навальніца такі найшла на Пасяюшкі. Найшла нечакана, пад вечар. Раптам падзьмуў, уздымаючы пыл, шумавінне, свежы вільготны вецер. Завуркатаў, пракаціўся па небе з краю ў край, адразу грозна і гулка, гром. З-за лесу паказалася, высоўваючыся, калматая чорная хмара — яна, здаецца, сваім цяжарам прыгнула да зямлі дрэвы. Зрабілася змрочна і ціха. Бліснула, асляпіўшы ўсё навокал, маланка. І сыпануў, усё адно што са жмені, дождж, буйны, спорны.

Адарка была дома, чакала з пашы чараду. Убачыўшы, што набліжаецца навальніца, заняла на вуліцы сваю карову, пагнала як не бягом у хлеў. Падаіла, дала папіць малака Людцы, палажыла тую спаць, а сама ўпала на калені перад абразом, пачала маліцца: «Божа, паслухай, хоць раз паслухай мяне... Ліні

такім ліўнем, якога ніколі яшчэ не было ў нашых краях. Патапі тыя трактары, тыя экскаватары, бульдозеры, што на балоце, разбуры каналы, канавы... Хай зноў у нас будзе такое самае балота, якое і было... Зрабі, зрабі так, божа, паслухай, паслухай мяне. Бо я не выраклася цябе, ніколі не выракалася. Верыла, заўсёды верыла. Верыла нават тады, калі ніхто ў нас у цябе ўжо не верыў...»

А за акном шугала, лютавала навальніца. Раз-пораз бліскала маланка, грымеў, калаціў, аж трэслася ўсё на свеце, гром, шумеў, гуў абломны лівень. Вада заліла падаконнікі, пачала цурчэць са столі, бо саламяная страха на Адарчынай хаце прагніла, яна не была падрыхтавана да такога нечаканага абломнага ліўню. Але Адарка не зважала на ўсё гэта. Яна як бы ажыла, пажвавела. Забегала, замітусілася па хаце, потым адчыніла дзверы, выйшла на ганак.

На дварэ было цёмна, нічога ані не відаць, як усё адно ўночы. Толькі калі бліскала маланка, на хвіліну асвятляла прыгнутыя ветрам і дажджом дрэвы, вуліцу, што плыла, пенілася, нібы рака...

— Так, так, божа,— шаптала Адарка.— Лі, яшчэ мацней лі!

І не спынілася на ганку, пайшла ў цемру, у ноч — яна, Адарка, была быццам сама не свая, яе нібы гнала штось, не давала спыняцца, стаяць на месцы...

Дождж шумеў, ліў як з вядра, ён аж збіваў Адарку з ног, сек, хвастаў, нібы бізунамі, па твары, плячах, спіне. Кофта, спадніца і кашуля ўраз намоклі, па целе пабегла руччом халодная вада. Бліснула, аж стала цёмна ўваччу, маланка, грымнуў, аглушыў — зазвінела, закалола нават у вушах — гром. Але Адарка ўсё адно не спынялася, ішла і ішла. Намацаўшы нагамі сцежачку, абмінула хлеў, пакіравалася далей, далей, дзе быў гарод, было Гіблае.

«Што, што там? Няўжо патопіць тое, што зрабілі там, на балоце, людзі?..»

Зноў красанула маланка, і ў яе святле Адарка ўбачыла хмары, што клубіліся, кіпелі нізка-нізка, здаецца, над самаю галавою. Рэзка, з нейкай як бы адцяжкай ляснуў гром. І лінуў такі лівень, што Адарка не ўтрымалася на нагах, упала.

«Божа, што гэта?..»

З цяжкасцю паднялася на ногі і аж сцеханулася — нібыта прасвятленне на яе найшло.

«Куды ж гэта я?.. Цемра такая, усё адно на балоце нічога не ўбачыш...»

Вярнулася, сяк-так дабрыла да хлява. Перавяла дыханне, пастаяла хвіліну, чуючы, як усё ўсюды шуміць, гудзе, аж, здаецца, ходырам ходзіць, потым пакіравалася назад да хаты. Ісці было амаль нельга, бо патокі вады падалі, ліліся з неба, беглі па зямлі, збівалі Адарку з ног. Але Адарка насуперак усяму, нават як бы на злосць разлютаванай стыхіі ішла, ішла, пакуль была змога. Тады раптам упала на калені.

«Божа, няўжо ты спраўдзіў маё... Няўжо паслаў патоп?..»

Зіхнула, асвятліўшы хату, гарод, маланка, і ў тую ж хвіліну гахнула, усё адно што абухам па пустой жалезнай бочцы.

«Ах! — прастагнала Адарка і не ўстояла на каленях — схапіўшыся рукамі за галаву, пачала падаць, правальвацца ў цемру, у бездань...

* * *

Калі, прачнуўшыся раніцою, Людка выйшла на заліты сонцам падворак, яна ўбачыла бабку Адарку — тая, уся мокрая, у гразі, ляжала на сцежцы непадалёку ад хлява і, сутаргава паводзячы худою жылістаю шыяй, роспачліва глядзела на балота — там, удалечы, быццам і не было ўночы ніякай навальніцы, панаваў будзённы працоўны рытм — ехала кудысьці гружаная бярвеннямі машына, раўлі, ссоўваючы карчы і купіны, бульдозеры, ківаліся раз-пораз, то чэрпаючы зямлю, то яе выкідаючы, экскаватары. Каля бабы, дзеўбучы дажджавых чарвякоў, пахаджвалі куры і неяк трывожна, несамавіта квахталі, кудахталі. Людка, яшчэ нічога не разумеючы, ні пра што не здагадваючыся, падбегла да бабы, спалохана ўзяла яе за руку.

— Баба! Чаго ты тут ляжыш?

Але баба нічога не адказала, толькі з вачэй у яе пацяклі слёзы. І тады Людка, прадчуваючы, што з

бабаю штосьці здарылася, здарылася нядобрае, закрычала, загаласіла на ўвесь двор:

— Баба, бабуля-я!.. Чаму ты маўчыш?.. А-а-а...

*1975 г.*

# СМАЛАКУРНЯ

## АД АЎТАРА

Усе пасляваенныя гады аж да самай пенсіі мой бацька працаваў у хімлясгасе — капаў смаловыя пні, драў бяросту, а зімою, калі зямлю скоўваў мароз, падаў снег — і зусім перабіраўся жыць на смалакурню: там, на лясной паляне, нарыхтаваныя ўлетку смалякі і бяросту пераганялі на шкіпінар, дзёгаць. Работы на смакалурні хапала — трэба было загружаць у вялізныя жалезныя чаны смалякі і бяросту, трэба было падвозіць з дзялянак дровы, трэба было і качагарыць — падтрымліваць аднолькава роўны агонь, трэба было і адкатваць пад навесы бочкі з яшчэ цёплым шкіпінарам і дзёгцем, урэшце, трэба было і глядзець, каб ніхто не пакраў дабра ці, не дай бог, не падпаліў. Смалакурня тулілася ў глухім лесе, далёка ад чалавечага жытла. Зімою дзень кароткі, не паспееш і вокам міргнуць, а ён і згас. Таму бацька дый іншыя рабочыя з навакольных вёсак на ноч дадому не хадзілі, начавалі там жа, на смалакурні, у вартоўні — цёплай амшанай хаце, што збудавана была з таўсценных бёрнаў-круглякоў невядома калі і кім. Начавалі ў той вартоўні многія, начаваў неаднойчы там і я. Прынясеш бацьку торбу з харчамі — «сідара», забавішся — глядзіш, змяркаецца, вечар, ноч насоўваецца. Куды такою пароюпойдзеш? Асабліва ў піліпаўку, калі гайнямі ваўкі па лесе шныраюць, пад самую смалакурню, бывае, падыходзяць і выюць, выюць на розныя галасы, аж мароз па скуры дзярэ. А то яшчэ — чароды дзікоў нясуцца, быццам чароды чарцей,— галлё трашчыць, віск, згэлк... Пападзіся на дарозе — разарвуць, растопчуць.

І я разам з іншымі ўціскаўся ў вартоўню, пасярод якой стаяла зробленая з жалезнай бочкі грубка, якая заўсёды, зіму ўсю, з восені да лета, і ўдзень і ўночы палілася, аж гула ад агню,— укладваўся, дзе было вальней — на лаву, што цягнулася паўз сцены праз усю вартоўню, на стол ці падаў проста на падлогу, і сяк-так, з горам папалам, бавіў ноч. Драмаў, праваль-ваўся, нібыта ў прорву, у сон ці, прахапіўшыся рап-тоўна ад грукату дзвярэй ці яшчэ ад чаго, слухаў, што гаварылі між сабою, успаміналі-расказвалі тыя, каму спаць было нельга, каму трэба было пільнаваць, каб хто чаго не збаёдаў, не ўкраў, каб не патух агонь у качагарцы, каб цёк, танюсенькім цурочкам, раўнютка цёк шкіпінар і дзёгаць у бочкі. Чутае і бачанае мною тады там, на смалакурні, не-не дый згадаецца цяпер. Вось некаторыя з тых згадак...

### ЛЯСУН

На смалакурню ён прыходзіў толькі ў лютыя халады. Бывала, як узырыць мароз-траскун перад са-мым Новым годам ці на каляды, так ён і сунецца з невялікаю палатнянаю торбачкаю за плячыма з лесу. Моўчкі, ні з кім не вітаючыся, зойдзе ў вартоўню, выбера месца, каб нікому вельмі не замінаць, часцей за ўсё дзе-небудзь у куточку, і, не здымаючы з сябе ўжо даволі паношанага, абшарпанага кажуха, шапкі-зімоўкі і валёнак, перасядзіць, пералежыць некалькі дзён і начэй, пакуль не пацяплее. А калі толькі мароз адваліцца, на адлігу паверне — нібыта ажывае, вcase-лее. Потым, як бы неўпрыкмет, закідвае за плечы тор-бачку — у ёй ашчаджаліся сякія-такія харчы: бульба, сушаныя грыбы, арэхі, соль — і зноў ідзе ў лес. Куды ідзе, дзе жыллё гэтага чалавека, ніхто са смалакураў пэўна не ведаў. Адны казалі, што ён, Лясун,— так чамусьці звалі ўсе гэтага чалавека-дзівака — выкапаў сабе ў лесе зямлянку і там бавіць час, другія сцвяр-джалі, што бачылі яго на нейкім старым дубе, высока ў галлі — там ён быццам намасціў сабе нешта накш-талт палацяў, трэція схільныя былі думаць, што ў Лесуна наогул няма ніякага сталага жытла, ён жыве ўсюды і нідзе, сёння тут, а заўтра... Заўтра ён і сам не ведае, дзе будзе...

— Скажы ты, гэта ж трэба, каб яго так пакараў бог,— уздыхалі некаторыя, круцячы са шкадаваннем галовамі.

Загадкавая таямнічасць гэтага чалавека — Лесуна — займала думкі смалакураў, многія хацелі яе разгадаць. Але... Сам Лясун нікому нічога пра сябе не расказваў. І наогул, як успамінаю, нічога ніколі не гаварыў, я, ва ўсякім разе, не чуў, каб ён хоць калі прамовіў якое слова. Моўчкі прыходзіў ён з лесу, моўчкі, быццам ваўчок, сядзеў ён у вартоўні, моўчкі і адыходзіў, хаваўся зноў праз некаторы час у лес. Пытаць пра Лесуна ў людзей... Дык жа каб ведаў хто што-небудзь путнае, а то ж... Не было сярод смалакураў чалавека, які б жыў з Лесуном у адной вёсцы ці хоць бы сустракаўся з тымі, хто з ім жыў. А пра Лесуна... Пра Лесуна гаварылі такое, што... Што не толькі паверыць, але і слухаць страшна было — Лясун забіў сам свайго сына...

— Як гэта — забіў сам свайго сына? — перапытвалі, аж рот разяўлялі ад здзіўлення тыя, хто чуў гэта ўпершыню.

Смалакуры разводзілі рукамі, паціскалі плячыма — маўляў, расказваць пра тое не бяромся, бо і самі толкам не ведаем, аднак што Лясун забіў сам свайго сына — то гэта праўда, такое было.

— Ды вы думаеце, што гаворыце? — не вытрымліваў, злаваўся той-сёй.— Так можна чортведама чаго на чалавека наплявузгаць, любы паклёп, любую напрасліну... Вам што, а чалавеку... Чалавеку і на вочы людзям не паказвайся...

Смалакуры моўчкі апускалі галовы і разыходзіліся хто куды — у кожнага раптам знаходзіўся нейкі вельмі пільны клопат, кожны спяшаўся. Я, ва ўсякім разе, ніколі не бачыў, не чуў, каб хто-небудзь са смалакураў пераконваў ці хоць бы спрабаваў пераконваць таго, хто не верыў, што Лясун забіў сам свайго сына. Смалакуры пра тое толькі паведамлялі. І ўсё. Хочаш вер, хочаш не вер. Але і не крыўдуй, калі пачуеш нешта яшчэ больш неверагоднае пра Лесуна — папярэджвалі ж, казалі ж, што гэта за чалавек.

Як жыў, чым карміўся Лясун зіму і весну — адзін бог ведае. Што ж да лета і восені, то яды ў такія поры года хапала ўсюды, а тым болей у лесе. Дый улетку

і ўвосень Лясун сяды-тады наведваўся на смалакурню, браў падводу і прывозіў аднекуль смалякі, якіх яму ўдавалася накапаць, ці бяросту, што назбірваў з валежніку і трухлявых ствалоў. Атрымаўшы грошы, купляў запалкі, соль, крупы, хлеб.

І зноў знікаў, бы ўсё адно раствараўся, на месяц, а то і на два ў лесе.

Хоць Лясун быў ваўкаваты, ні з кім ніколі не размаўляў, але людзі яго не баяліся. Хадзілі ў лес і па ягады, і па грыбы, і па арэхі, само сабой, ездзілі і па дровы, па мох ці бервяно ў сцяну на хлеў і хату. А пра нашага бацьку то ўжо і ўспамінаць няма чаго: ён усё лецечка прападаў у лесе. Дадому, у сваю хату, прыходзіў толькі позна ўвечары, начаваць — калі ж, як не ўлетку, калі дзень доўгі, і не папрацаваць, калі ж, як не ўлетку, і не зарабіць лішнюю капейку.

— Няўжо ты не сустракаеш у лесе Лесуна? — пыталі іншы раз у бацькі смалакуры.

— А як вы думаеце? — пытаў у сваю чаргу ў смалакураў бацька.

— Мы думаем, што сустракаеш.

— Лесуна, значыцца, слаба ведаеце, таму і памыляецеся,— смяяўся звычайна бацька.

Тыя, хто працаваў на смалакурні і ўлетку і ўзімку, нікуды ў лес асабліва не ездзілі і не хадзілі, вядома, не верылі бацьку.

— Прытвараешся, прызнацца не хочаш...

І тады бацька браўся бажыцца:

— Далібог, ні разу не сустракаў, не бачыў. Думаю іншы раз — ён далёка сыходзіць з гэтых мясцін. А можа, на дрэве дзе сядзіць, бы пугач...

Можа, той-сёй і не верыў бацьку, але я... Я верыў. Бо часта і сам, тады ўжо ладнаваты хлопец, хадзіў у лес з бацькам, падсабляў яму. І пні памагаў капаць, і драў тую ж бяросту. Асабліва ўлетку, на канікулах. Тады акурат пачынала адставаць ад мязгі свежая бяроста. Узбярыся на бярозу, нацюкай сякераю яе апратку, і тая аж ляскае, сама са ствала злазіць. Вядома, не з усякай бярозы дазвалялася драць бяросту. Дралі бяросту мы на дзялянках, з тых бяроз, якія неўзабаве павінны былі спляжыць леспрамгасаўцы на дровы ці яшчэ на што-небудзь. Вясёлая гэта была работа — драць бяросту з бяроз. Сякерку заткнеш за

пояс, узлезеш па астрове ці драбінах на бярозу аж у самае голле і — гах, гах, гах... Бяроста і адтапырыцца, адстане ад мязгі. Руку пад яе, яшчэ вільготную, засунеш, паднатужышся трохі — крах! — і цэлая палойка ляціць на зямлю. Бацька пад бярозаю збірае палойкі, пакуе, вяжа ў цюкі. А ты зноў сякеру з-за пояса дастанеш, зноў — гах, гах, гах!.. Праўда, увечары, калі стомішся, пакуль не памыешся дзе-небудзь у копані ці ў рачулцы добра з мылам увесь, з ног да галавы, пакуль рот не прапалошчаш — хлеба не ўкусіш: у роце такая гаркота, што толькі пляваццa хочацца. Ды і зморышся — рук не падняць, ног не пацягнуць. І вось, ходзячы з бацькам у лес, я таксама ні разу, ні аднаго разу не спатыкаў, не бачыў Лесуна. Дзе ён бавіў дні, што рабіў? Пра гэта не-не дый думаў я. І не толькі я, але і мой бацька. Помню, неаднойчы, калі надаралася навальніца,— а ў нас навальніцы бываюць лютыя, з жудаснымі бліскавіцамі і грымотамі, ліўнямі, што змываюць усё на сваім шляху,— і мы спяшаліся, каб не быць у лесе, паспець калі не дадому, дык хоць у поле выбегчы, бацька звычайна ўспамінаў Лесуна.

— Мы дома хутка будзем, абсушымся, цёплага чаго з'ядзім... А ён... Як ён, бядак, без печы, у лесе?..

Пра Лесуна, я заўважыў, бацька заўсёды гаварыў не з гневам, злосцю, а быццам са спачуваннем. Неяк я нават спытаў у яго:

— Чаму ты, тата, шкадуеш Лесуна? Ён жа — ты ж гэта чуў — ч а л а в е к а з а б і ў, с ы н а...

— Гэ,— гэкнуў задуменна бацька.— Чалавека, кажаш, забіў, сына... А калі чалавек той горш за звера, калі ён зло, шкоду іншым рабіў. А то і страляў людзей... Не такіх, як сам, а на багата лепшых за сябе. А што ён сынам быў... Што ж, сыны не ўсе ў бацьку ўдаюцца, розныя вырастаюць. Добра, калі дзіця добрае, калі людзі ім не нацешацца. І бацьку за гэта гонар. А калі... Калі паскудства, калі кожны плюецца, воўкам на цябе глядзіць, калі кожны вінаваціць цябе, што ты гада на свет жыць пусціў? Што, што бацьку тады рабіць? Чакаць, калі нехта са свету прыбярэ сорам твой, ці самому лепш яго са свету прыбраць?.. Чуў я — Лясун не проста так, ад нечага рабіць, сына свайго забіў — сын той паліцаем быў, немцам служыў... Помніш, у Гогаля кніжка такая ёсць, «Тарас

Бульба». Дык у кніжцы той таксама бацька сына свайго забівае — я цябе парадзіў, я цябе і заб'ю... Не ведаю, як там у Лесуна было, але... Не, не магу і вінаваціць я яго, хоць і апраўдваць таксама не магу. Дый... Дый каб Лясун вінаваты быў, не хадзіў бы ён па свеце, яго б пакаралі...

Помню, доўга тады думаў я над словамі тымі, што пачуў ад бацькі. І кнігу Гогаля таксама прачытаў. І ўсё адно не мог спакойна глядзець на Лесуна — аж калаціла мяне ўсяго, аж нямеў я, калі бачыў яго, спатыкаў у смалакурні. Адзінае, чым апраўдваў я Лесуна хоць трохі,— гэта тое, што сын яго быў паліцаем, служыў ворагу. Але сам, сам Лясун што ў вайну рабіў? Быў у партызанах? А мо... Наогул, што ён за чалавек, як жыў да вайны, дзе працаваў, хто была яго жонка, ці былі яшчэ ў яго дзеці? На гэтыя дый іншыя мае пытанні ні бацька, ні смалакуры не маглі адказаць, бо і самі нічога пэўнага не ведалі.

Таямніца Лесуна раскрылася выпадкова, як гэта часта і здараецца з самымі загадкавымі таямніцамі. Неяк зімою, калі я прынёс бацьку чарговага «сідара», у вартоўню зайшоў не вядомы нікому з нас чалавек. Было ў тыя дні акурат надта холадна, ціснуў пякучы мароз, аж у горле перасыхала, дыханне схлуплівала. І ў вартоўні ў куце сядзеў Лясун — аброслы рыжаю, што агонь, барадою, увесь заінелы, нейкі хваравіты. Ён толькі што прыйшоў таксама — прыгнала халадэча,— яшчэ не абагрэўся нават, не зняў з плячэй торбы. Убачыўшы не вядомага нікому з нас чалавека, Лясун раптам усхапіўся на ногі і — мы не паспелі нават апамятацца — кінуўся як не вопрамеццю ў лес, туды, адкуль толькі што прыйшоў.

Усе, хто быў у той час у вартоўні, з непаразуменнем паглядзелі на незнаёмца — ён быў яшчэ маладны, круглатвары, у чорным прыталеным казакіне, у белых, з адвароцікамі, валёнках, у калматай — ці не з труса — шапцы-зімоўцы. Незнаёмец, трохі збянтэжаны, стаяў, шырока расставіўшы ногі, у баку ад дзвярэй і, усміхаючыся, хітаў, хітаў галавою.

— Во-о дык прая-я-ва-а! — расцягваў неяк па-асабліваму, не па-нашаму словы незнаёмец.— Ай-я-яй! Гэта ж трэба, век не думаў, што яшчэ хоць калі вочы

мае, вочы Сцяпана Камара, убачаць яго... Ай-я-яй! І дзе́ — тут, на смалакурні!..

Чалавека, як ён сам сябе назваў — Сцяпана Камара, і праўда, мусіць, надта здзівіла гэтая сустрэча з Лесуном, бо ён усё стаяў у парозе, крутаплечы, рослы, і хітаў, хітаў галавою, быццам не верачы сабе і вачам сваім, і ўсё паўтараў, паўтараў:

— Ай-я-яй!

Калі мы самі трохі ачомаліся ад неспадзяванага ўтрапення, нехта спытаў у гэтага незнаёмца, Сцяпана Камара:

— Што, што вас так збянтэжыла і здзівіла?

— Ды ўсё,— сказаў аж занадта шчыра, па-свойску, быццам ведаў даўно, даўно ўсіх нас ведаў Сцяпан Камар.— І тое, што ён, гэты туляга, яшчэ жыве, і жыве не вельмі далёка ад нашага сяла, а мы пра тое ані не чулі. І тое, што баіцца мяне, як агню,— бачылі, як шмыгануў, калі мяне згледзеў, за дзверы... Ай-я-яй!

Сцяпан пастаяў яшчэ нейкі час у парозе, пахітаў галавою, потым, рашуча, шырока ступаючы, прайшоў далей на хату, расшпіліў свой казакін, сеў на лаву.

— Гэта ж маці ў мяне захварэла, то націранне наралі ёй. Я ў аптэку, аж там шкіпінару нямашака. Дык я каня ў аглоблі ды сюды, на смалакурню. Думаю, дзе-дзе, а тут шкіпінар павінен быць. Праўду кажу я, хлопцы, га?

І Сцяпан акінуў усіх тых, хто сядзеў у вартоўні, дапытлівым паглядам сваіх карых вясёлых вачэй.

— Эге ж, чаго-чаго, а такога дабра хапае ў нас,— адказаў за ўсіх мой бацька.

— Як не трэба, то яно не дабро, а як трэба, то і недабро — дабро,— сказаў Сцяпан, павярнуўшыся расчырванелым з марозу тварам да бацькі.— Дык прыязджаю, знацца, я сюды, дзверы адчыняю, а тутака... Тутака Хапацей...

— Хто-о? Хапацей? Які Хапацей?

— Ну ды гэты, што ў дзверы кулём кінуўся, ледзьве з ног мяне не збіў,— засмяяўся Сцяпан, паказаўшы ўсім нам роўныя белыя зубы.

— Мы яго... Мы яго Лесуном завём,— удакладніў, умяшаўшыся зноў у гаворку, мой бацька.

— Лесуном? — аж прыўстаў, здзівіўся Сцяпан.— Ды які ж ён Лясун? Ён Хапацей. Артамон Хапацей.

І дзед яго быў Хапацей. І прадзед. Ён з Макавішчаў, з сяла таго, дзе жыў і жыву я. Не, Лясун — гэта, мусіць, выдумалі. Ён Хапацей. Хапацей з Макавішчаў... Гэта ж ён сына сам свайго забіў...

— Ды пра гэта мы чулі,— сказаў неяк сумна зноў мой бацька.— Хоць і не ведаем толкам, як яно там і што было...

— Не ведаеце? — зноў шчыра здзівіўся, пакруціў галавою гэты нечаканы наведнік — макавішчанец Сцяпан Камар.— То я вам раскажу. Толькі... Толькі скажыце — даўно ён, Хапацей, жыве тутака ў вас?

— Ды ён не жыве ў нас. Прыходзіць калі-нікалі паграэцца. А так ён увесь час у лесе,— гаварыў Сцяпану Камару, як ужо добра знаёмаму, мой бацька.

— Як гэта — увесь час у лесе? — не зразумеў Сцяпан Камар.

— Ліха яго ведае. Ці то ў зямлянцы, ці то на дрэвах, як пугач. А каб толкам сказаць, дык і не ведае ніхто з нас. А што — гэты Хапацей... трэба вам?

— Ды не! — абыякава махнуў, здзеўшы з рукі, тоўстаю аўчыннаю рукавіцаю Сцяпан.— Хай жыве, дзе хоча і як хоча. Бо вінаваты ён ці не вінаваты... Э-э, хто цяпер ва ўсім тым разбярэцца... Аге, хто?..

...Артамон Хапацей жыў трохі наводшыбе ад Макавішчаў. На хутары. Перабраўся туды ў тыя часы, калі наразалі зямлю.

— Хэ, гэта ж выгода якая, свой хутар,— казаў-пераконваў ён кожнага.— Ні курыца чужая не ўплішчыцца ў двор, ні свінчо... Усё тваё табе і будзе. Выйшаў з хаты на ганак — поле сваё наўкруг бачыш. Дзе што прапалоць, дзе што абкапанічыць, дзе што абагнаць. Пракос сена высах, дык яго граблямі пад самы хлеў падкоціш, не трэба і падвода. Ці так што рабіць возьмешся — усё ля хаты. З пасцелі — і адразу за работу. Снеданне здарылася — паснедаеш. І зноў за работу. Цалюсенькі дзень бачыш і жонку і дзіця... Не, гэта разумная галава прыдумала гэтыя хутары. Так, толькі так і трэба жыць чалавеку...

Перад тым як перабрацца на хутар, Артамон жыў у Макавішчах, у бацькі. Дрэнна жыў, бо поля было мала, дый тое, што было, пясочак веяны, жоўценькі. Каб яшчэ гною ў пясочак той добра ўтаптаў, можа б, і ра-

дзіла што-кольвек. Але дзе ты возьмеш гною таго? Кароўка адна, конь адзін — ці багата яны настояць гною? Кеўлялі сяк-так, перабіваліся, як кажуць, з вады на квас і з квасу зноў на ваду Хапацеі. Да таго ж Параска, якую ўзяў сабе Артамон за жонку, няйнакш ва́ду нейкую мела — не жылі ў іх дзеці. Як народзіцца, тыдзень-два пакрычыць — і памрэ. Саб'е з дошак Артамон дамавіну, пакладзе ў яе надзею сваю, сыночка ці дачушку, і на могілкі занясе. Зіма, лета пройдзе, глядзіш — Параска зноў загрубела, зноў дзіця раджае. І зноў праз які тыдзень-два нясе дамавіну Артамон на могілкі. Чаго ні рабілі Хапацеі — і па знахарках ездзілі, і папу, як скуле ліхой, гадзілі, і богу маліліся на каленях — нішто не памагала: не жылі ў Хапацеяў дзеці, паміралі адно за адным.

На хутар Артамон ускладваў вялікія надзеі. І з галечы хацеў выбіцца, і кароўку, коніка свайго агораць, і дзетак, як усе добрыя людзі, займець.

— Цяпер мы зажывё-ом,— казаў Артамон жонцы сваёй, Парасцы.— Хутарок, хвала богу, людзячы трапіўся, і зямелька дай бог кожнаму. Можа, як з бяды выцерабімся, каб толькі здароўе...

І трэба сказаць — хоць і не занадта, але Хапацей запамогся. Мінула гадкоў колькі, і на хутары ў Хапацеяў і хатка пад чаратоваю страхою стала, і хлеў, і адрынка; на поплаве ж, паблізу поля, у адгароджаным жэрдкамі загоне папасвалася нізкарослая жыватастая кароўка. І Артамон ужо не хадзіў пешкі ў вёску да свайго бацькі, а, бывала, каб трохі пафарсіць перад мавішчанцамі, ездзіў на падводзе, запрэжанай паркаю шустрых коней. Бегаў па двары, рос і сын у Хапацеяў — Ігнась...

Калі пачалася калектывізацыя, Артамон, як і многія хутаране, у калгас не пайшоў.

— Э-э, навошта мне хаўрус? — казаў ён тым, хто спрабаваў яго ўгаворваць далучыцца да калектыву.— Толькі-толькі па-чалавечы жыць пачаў, і — на́ табе, адмоўся ад усяго свайго, нажытага, ні з чым аставайся. Я так дбаў пра зямлю, век яе дамагаўся і... Зноў будзь без зямлі. Годзе, набыўся, не хачу жыць так, як некалі жыў...

Раскулачваць Артамона не было за што — не такі ён быў і багацей. Да таго ж, язык таксама ўмеў тры-

мацъ за зубамі — не плявузгаў абы-чаго на калгас і тых, хто ў яго ўступаў, наогул стараўся не хадзіць на ўсякія людскія зборышчы, сходы. Капаўся, калупаўся на сваім хутары ад ранку да позняга вечара, а ледзь змяркалася — укладваўся спаць: заўтра ўранні чакала работа, трэба было хоць трохі адпачыць, набрацца сіл. Дый толк які — прасядзіш паўночы ў накуранай хаце, наслухаешся ўсяго-ўсякага, аж галава кругам пойдзе. А потым цёмначы валачыся на хутар. Добра, як суха. А як дождж, снег? Боўтайся тады па лужах ці мясі гурбы. Дзеля чаго? Другія хоць выступалі, сваё даказвалі. А ён... Ён маўчаў. Маўчаў нават тады, калі падыходзіў да яго хто-небудзь з макавішчанцаў і пачынаў абы-што казаць на калгас, а заадно і на тых, хто туды ўступаў.

— І ахвота ж табе языком мянціць! — як ад надакучлівай мухі, адмахваўся Артамон ад таго прыставалы, што ў душу лез.— Быццам паслухае цябе хто, па-другому рабіцьме... Добраахвотнае гэта пачынанне — калгас, хочаш уступай у яго, хочаш не. Я не хачу ўступаць, мяне наогул усё гэта не цікавіць... Дый... работы столькі дома, а мы стаім, прастарэкуем, бы купцы.

Трохі, праўда, Артамон быў паўпарціўся, пасупраціўляўся, калі ў яго, як у аднаасобніка, адразалі ладнаваты клін поля, абагульвалі каня:

— Як гэта — то наразалі зямлю, то абразаюць... Дык то зямлю... А коней... Коней жа ніхто мне не даваў, я сам іх нажыў... З мазаля! Недаядаў, недасыпаў...

Шукаць справядлівасці Артамон ездзіў ажно ў раён, у Ельнікі. Але той начальнік, да якога Артамон трапіў, папярэдзіў Хапацея, што калі ён не падпарадкуецца закону... Артамону гаварыць вельмі не трэба было, што будзе з ім, калі ён не паслухаецца, не супакоіцца. Сам бачыў, як раскулачвалі некаторых у Макавішчах, вывозілі сем'ямі — з жонкамі, дзецьмі. І куды — аж на Поўнач, у Сібір. Таму Артамон аддаваў усё, што трэба было яму аддаць, хоць крыўду на ўладу і затаіў, глыбока затаіў. Пакінутую яму зямлю абгарадзіў плотам, высокім, шчыльным, і калі раней рэдка выходзіў на людзі, дык цяпер і зусім яго ніхто нідзе не бачыў. У Макавішчах ён перастаў бываць — не было чаго, бацька і маці к гэтаму часу памерлі, а да астатніх людзей... Не, не гарнуўся ніколі асабліва Артамон

да людзей, цяпер жа дык і зусім адзічэў, адасобіўся. Абрабляў зямлю, а калі надараўся вольны дзень, не было чаго рабіць дома, блукаў па лесе — улетку збіраў грыбы, зімою — паляваў. З таго і жыў...

...— Але,— вёў сваё няспешнае апавяданне Сцяпан Камар,— у Артамона, як я і казаў ужо, рос сын, Ігнась. Вёска ўся дзівілася, адкуль узялося такое паскудства. Дзе ні павернецца, там і шкоды натворыць. Настаўнікі проста не ведалі, што і рабіць з такім вучнем. Як толькі хто паліто новае ці сукеначку свежую надзене — гразёю абкідае ці чарнілам абалье. Неяк настаўніца ў школу прыйшла, пераабулася ў лодачкі, а валёнкі ў парозе паставіла. Дык Ігнась лёду, снегу поўненькія натаптаў... Я равеснік Ігнася, вучыўся з ім у адным класе, то наглядзеўся, на ўсё наглядзеўся. Цярпліва, вельмі цярпліва выхоўвалі настаўнікі Ігнася. Выклікалі ў школу неаднойчы і бацьку, Артамона, расказвалі, чым займаецца яго сын. Артамону не падабалася тое, што рабіў сын. «Вы б... Вы б яго хіба трохі білі»,— прасіў ён настаўнікаў. «Ды як жа мы біць яго будзем! Мы ж настаўнікі...» — апраўдваліся тыя. «Бо я... Я не магу біць... Бачыце, у нас дзеці не раслі, паміралі... То мы з жонкаю зарок далі такі сабе — калі будзе жыць хоць адно дзіця, пальцам ніколі яго не кранем».— «Дык неабавязкова і біць трэба. Трэба выхоўваць».— «А думаеце, я не выхоўваю...»

...І Артамону верылі — выхоўваў ён сына. Не пругаю — словам. Праўда, пазнавата спахапіўся Артамон — сын не слухаў ужо бацькі, называў яго «аднаасобнікам», «кулаком»... І што дзень, то не лепшаў Ігнась, а горшаў. Ён ужо не толькі сам не вучыўся, дык не даваў вучыцца і нікому ў класе. Гучна рагатаў, свістаў на ўроку, а калі настаўнік спрабаваў сарамаціць яго ці браўся выганяць з класа — цвеліўся, гыгыкаў. Давялося, хоць гэтага і не хацелася настаўнікам, выключыць Ігнася са школы...

Ні ў калгас, ні так куды на працу Ігнась не ўладкоўваўся. Жыў у бацькі, правільней, начаваў, а днём валэндаўся па вуліцы, шукаў, дзе б каму зрабіць якую шкоду ці паскудства. Трапіў неяк на чыгуначную станцыю, злыгаўся з такімі ж, як сам, абібокамі, навучыўся піць гарэлку, гуляць у карты. Патрошку налаўчыўся і красці, спачатку дома, у маці і бацькі, а потым

і ў людзей. То курыцу ці гусь зловіць на пагоне і занясе на рынак і прадасць, то сала з кубельца вычысціць. Білі людзі Ігнася, як лавілі на шкодзе, але гэта не памагала, толькі люцейшым яго рабіла...

...— Калі прыйшлі немцы,— расказваў далей макавішчанец Сцяпан Камар,— то Ігнась падаўся да іх на службу. Немцам такія галаварэзы трэба былі, яны далі яму вінтоўку, зрабілі паліцаем, а потым, трохі спагадзя, і начальнікам паліцыі. Не ведаю, як адносіўся да немцаў сам Артамон. Можа, нават радаваўся, што прыйшлі яны, бо хацелася яму вярнуць тую зямлю. якую адрэзалі ў яго пры калгасах. Праўда, радасці сваёй ён асабліва не паказваў, наогул стараўся, як і раней, не трапляць на вочы людзям, жыў на сваім хутары, калупаўся ў зямлі ці валачыўся па лесе. Ён, відаць, не верыў надта, што немцы надаўга прыйшлі сюды, на нашу зямлю, а таму і старанііўся іх. А можа... Можа, былі ў яго іншыя якія меркаванні...

...Мінула зіма, пачалося зноў лета. Ігнась ужо не толькі шныпарыў па хатах, шукаючы гарэлкі ці таго, што можна было б узяць і прадаць, але і выдаваў немцам людзей, а то і сам арыштоўваў, вазіў на допыты ў камендатуру ў Ельнікі. Неяк ён данёс немцам, што ў Макавішчанскім лесе ёсць партызаны. Прыехалі карнікі. Акружылі вёску, пачалі выганяць людзей з хат. Ля клуба зрабілі сход, папярэдзілі, што, калі хто пусціць да сябе ў хату партызана ці дасць што-небудзь з яды альбо адзежы, таго застрэляць, а хату — спаляць. Людзі, напалоханыя, ужо разыходзіліся ад клуба, як раптам на хутары ў Артамона Хапацея пачуўся стрэл. Кінуліся туды немцы, кінуліся некаторыя і вяскоўцы. І... і ўбачылі там немца, які важна пахаджваў па двары; ля хлява ж, выпрастаўшыся, уся ў крыві, ляжала нічком забітая Артамонава жонка — Параска. Як стала потым вядома, немец — ён разам з іншымі акружаў Макавішчы — зайшоў на хутар. Ні Артамона, ні Ігнася дома не было, была дома адна Параска. Немец загадаў ісці ёй таксама ў вёску, туды, куды ішлі і ўсе людзі. Параска адмовілася, пачала паказваць, што сын яе — «во!» «во!» — носіць за плячыма вінтоўку і можа «бах!», «бах!» Немец не зразумеў, пра што гаворыць жанчына, падумаў: яна хваліцца, што сын у яе парты-

зан. І паколькі жанчына не слухалася загаду, немец яе прыстрэліў...

Параску пахавалі на макавішчанскіх могілках...

Сцяпан Камар памаўчаў, агледзеў усіх нас уважлівым паглядам сваіх карых, ужо не такіх вясёлых, як былі перад гэтым, вачэй.

— Можа, я... Можа, мне не трэба было ўсяго гэтага расказваць? — спытаў раптам ён.

— Не, чаго ж... Пачалі ўжо, дык канчайце,— падахвоцілі смалакуры Сцяпана Камара.

— Ды ўжо быццам і расказваць нямашака чаго. Пра тое, што далей адбылося ў Хапацеяў на хутары, я мала ведаю. Ды і ніхто больш не ведае. Здагадваліся, праўда, што між бацькам і сынам кошка дарогу перабегла, бо Ігнась пачаў цурацца бацькавай хаты, начаваў усё часцей і часцей у паліцыі, а не на хутары, дома. А мо ён партызанаў баяўся? Скажу вам, у нас партызаны былі з першага дня акупацыі. Я таксама не сядзеў дома, быў у лесе. У тыя дні якраз мы і наведалі хутар Хапацеяў, паднялі Артамона з пасцелі. Спыталі, дзе яго сын, Ігнась. Артамон маўчаў. Злазіўшы на гарышча, абшукаўшы клець і хлеў, мы пакінулі хутар. Думалі, гэтага даволі, каб напалохаць Ігнася. Але прайшло некалькі дзён, і наша разведка данесла: Ігнась разам з паліцыяй у Макавішчах заарыштаваў сем чалавек і павёз іх на падводах у Ельнікі. Праз тыдзень усіх тых арыштаваных людзей немцы расстралялі. Мой бацька быў таксама сярод тых сямі чалавек...

Сцяпан Камар зноў памаўчаў, зняў з галавы шапку, уздыхнуў.

...Групе партызанаў дадзена было заданне — выканаць народны прысуд, пакараць смерцю Ігнася Хапацея. Ды паганіць рукі крывёю здрадніка не давялося — неяк на світанні ў атрад прыйшоў Артамон Хапацей. Ён быў бледны, страшны. «Я сам... Я сам...— шаптаў ён.— Каб не думалі, што я заадно, каб не прыносіў больш нікому гора...»

Людзі з Макавішчаў расказвалі потым: уночы яны ўбачылі — гарыць Хапацееў хутар. Кінуліся хто з чым, каб атушыць. Але было позна — пакуль дабеглі да хутара, згарэў хлеў, згарэла клець, дагарала і хата. Толькі аставаўся яшчэ цэлы ганак, і на ім, тым ганку, людзі ўбачылі звязанага вяроўкамі, з ручніком у ро-

це — мабыць, каб не крычаў,— чалавека. У чалавека згарэлі валасы, бровы, паабгаралі і вушы, рукі, ногі; ён ужо не дыхаў, быў нежывы. Але ў чалавеку тым вяскоўцы ўсё ж пазналі Ігнася...

З тых дзён Артамона Хапацея ніхто не бачыў ні на папялішчы-хутары, ні ў Макавішчах. Ці то ён баяўся, што яму будуць помсціць за зло, якое зрабіў людзям яго сын, Ігнась, ці так чаго, але Артамон сышоў са сваіх родных мясцін, не паказваўся на вочы тым, хто яго ведаў...

Макавішчанец Сцяпан Камар, што нечакана заявіўся на смалакурню, узяўшы, колькі трэба было, шкіпінару, паехаў у сваю вёску — ён быў там цяпер за калгаснага брыгадзіра. А мы... Мы асталіся ў вартоўні, і доўга я чуў, як смалакуры не-не дый успаміналі Артамона Хапацея — Лесуна, перабіралі, абгаварвалі пачутае...

Сам жа Артамон Хапацей больш ніколі не паяўляўся на смалакурні. Ні ўлетку, ні зімою. Няйнакш сышоў з нашых лясоў некуды ў яшчэ дзічэйшыя, далёкія лясы і балоты...

## ЦЁТКА ГЭЛЯ

Цётка Гэля была адзіная жанчына, што таксама нейкі час працавала на смалакурні. Нізкарослая, грудастая, апранутая, як і ўсе смалакуры — ватоўка, ватнікі, на нагах — боты-кірзачы, толькі замест шапкі хустка,— з абветраным, мясіста-чырвоным тварам, яна даволі ўвішна загружала ў чаны смалякі і бяросту, зусім па-мужчынску зацягвалася самакруткай і гэтак жа брыдка лаялася, а то і мацюкалася. Дзіўна, але з першай сустрэчы я неяк неўзлюбіў цётку Гэлю. Мо таму, што прывык у жанчыне бачыць нешта незвычайнае, шчырае і добрае. Менавіта такая незвычайная шчырая і добрая была ў нашай сям'і маці. У самыя змрочныя, цяжкія часы маці не траціла надзеі на лепшае, умела і суцешыць і натхніць. Пры ёй, маці, кожны з нас, дзяцей, і нават бацька ніколі не сварыліся, не павышалі голасу, стараліся быць лагоднымі, не рабіць таго, што

прыніжае чалавека. Цётка ж Гэля нічога жаночага ў характары, здаецца, не мела, яна быццам знарок сама падавала мужчынам дрэнны прыклад, пры ёй хацелася паказаць не лепшае ў сабе, а горшае.

— Гэта не баба, а нейкі чорт у штанах,— гаварылі між сабою, смяяліся смалакуры.— І хацеў бы не мацюкацца, а ўбачыш яе — мацюк сам з языка зляціць. Скажы ты, раджаюцца ж такія!

— Э-э, не гняві бога,— пярэчылі некаторыя.— Раджаюцца людзі аднакія. Робіць жа іх рознымі жыццё!

— Ліха ведае, жыццё іх робіць ці самі людзі робяцца такімі,— умяшаўся ў гаворку смалакураў, калі я зноў неяк прыйшоў да бацькі і сядзеў у вартоўні, дзядзька Андрух — «навічок», як яго чамусьці ўсе звалі, хоць працаваў ён на смалакурні не менш за іншых рабочых.— Адно ясна — гэтая баба... Ды ну яе, лепш не ведаць...

— І як, скажы ты, яна сюды, на смалакурню, трапіла?

— Дык яна ж сама расказвала...

— Што яна расказвала? — аж узлаваўся быў, ледзь не крыкнуў сваім сіпатым голасам Андрух.

— Ну-у, сына ў вайну згубіла... Цяпер вось чакае, калі той знойдзецца, у вёску прыб'ецца...

— Э-э, ты гэтай бабе вер, вер, ды вазьмі і правер. Не тая яна, не тая, за каго сябе выдае...

— Раскажы нам, што ты ведаеш...

— Я расказаў бы, але...

Дзядзька Андрух падняўся з лавы, пайшоў да дзвярэй, прычыніў іх шчыльней. Вярнуўся зноў на сваё месца, сеў і ўжо не гаварыў, а шаптаў, сіпеў:

— Э-э, не баба гэта, а сучка...

— Так пра кожную жанчыну можна абы-што... Ты факты, факты дай...— патрабавалі смалакуры.

— Хвакты?.. Во яны, хвакты... Слухай,— гарачыўся, сіпеў дзядзька Андрух.— Яна ж, гэтая Гэля,— з Пакрашоў... А там брат мой жыве, Саўка. Дык надоечы, калі прыязджаў да мяне, я і спытаў, што гэта за хрукцік такі, гэтая Гэля. Саўка расказаў мне. Гэта ж... Словам, яна, гэтая Гэля, паехала яшчэ да вайны ў горад, на нейкай хвабрыцы працавала. І жывот, замуж не выйшаўшы, нагуляла. Нарадзіла дзіця, прывезла яго ў Пакрашы, сястры аддала, каб тая глядзела. Тая

і глядзела, а Гэлька гэтая зноў у горад паджгала. Гэты раз нея хутка і замуж выйшла. І жыла — толькі не ў тым горадзе, дзе раней працавала, а ў другім. І мужу свайму пра дзіця слова не сказала, не прызналася, што ў сястры ў Пакрашах яно жыве. Маўляў, сірата яна, Гэлька, нікога ў яе з радні няма. І ў вёску, у Пакрашы, не паказвалася. І наогул не аб'яўлялася, дзе яна, пісьмаў нікому не слала... А ў сястры Гэлінай, Палажкі, і сваіх дзетак аж трое было, ды і гэтае, чацвёртае... Словам, клопату хапала. Праўда, чалавек Палажкі трапіўся добры, Гэліна дзіця, як сваё, глядзеў. Але пачалася вайна. Іван Палажчын чалавек, на хронт пайшоў... А ў Палажкі — чацвёра дзяцей. І абуць іх, і адзець, і накарміць...

Раптоўна, нечакана адчыніліся дзверы, і Андрух змоўк — на парозе стаяла цётка Гэля. Расчырванелая, злосная, аж валасы, потныя, кужэльныя, выбіліся пасмамі з-пад хусткі-канаплянкі.

— Дык што, вы так і сядзець тут, у цяпле, будзеце? — разявіла яна свой вялікі рот.— А я... я работу за вас рабіцьму?..

І тут... Тут яна загнула такога мацюка, што не толькі я, падлетак, але і мужчыны паапускалі галовы, патупілі ў падлогу вочы.

Грукнуўшы дзвярыма так, што аж забрынчалі шыбы ва ўсіх трох вокнах, Гэля пайшла з вартоўні.

Мужчыны яшчэ нейкі час сядзелі, потым пачалі пераглядвацца між сабою і моўчкі, ні слова не кажучы, адзін за адным, быццам вельмі ў нечым былі вінаватыя, таксама падаліся ўслед за Гэляю.

У вартоўні, як гэта здаралася ўжо і раней, я астаўся адзін. Сядзеў і, помніцца, думаў пра цётку Гэлю. Удаюцца ж такія жанчыны! Мацюкаюцца горш за некаторых мужчын. І нічога жаночага няма ні ў паводзінах, ні так, знешне. Нават не па-жаночы апранаюцца. І з дзіцём сваім, сынам... Нарадзіла — і сястры аддала, лічы, выраклася... Няўжо і маці мая магла такое зрабіць?.. Не, мая маці не такая, яна зусім іншая, яна ніколі б, ніколі б не кінула свайго дзіцяці, не выраклася б яго... І наогул, мусіць, рэдка якая жанчына можа зрабіць такое...

Хацелася ведаць, што далей было і з тым дзіцем, якое кінула Гэля сястры, і з сястрою, і з сестрыным му-

жам, Іванам, ды і з самою Гэляю. Але ж... Але ж не пабяжыш услед за дзядзькам Андрухам, не будзеш жа пры цётцы Гэлі прасіць — раскажыце, дзядзька, што там і як далей было... Даводзілася чакаць, цярпліва чакаць, калі мужчыны зноў збяруцца разам, зноў пачнуць гаварыць пра Гэлю.

Помню, прыйшоў я неяк да бацькі, адчыніў дзверы ў вартоўню, а там... Там сядзяць смалакуры ўсе, як кажуць, у поўным зборы, дымна кураць і з невядомай мне прычыны лаюць, як неўзабаве я здагадаўся, сваю спадручную Гэлю.

— Чакайце,— перапыніў гаворку смалакураў мой бацька.— Але ж мы аднойчы пачалі былі слухаць, ды так да канца і не даслухалі пра гэтую Гэлю і яе дзіця. Помніце — нарадзіла, аддала сястры... Хто гэта расказваў?

— Андрух,— падказаў нехта.

Мужчыны, як па камандзе, павярнулі галовы да Андруха — ён, худы, доўгі, як палка, чамусьці не сядзеў, як усе смалакуры на лаўцы, а стаяў, прыпёршыся плечуком да сцяны, ля самага ўвахода ў вартоўню.

— Давай, Андрух, расказвай,— як не ў адзін голас папрасілі смалакуры.

— Ат, што там расказваць,— скрывіўся, працадзіў скрозь зубы абыякава Андрух.

— Ну-у, што сам ведаеш, тое і расказвай... Усё-такі цікава ж, як там і што было...

Андрух, па ўсім відаць, гаварыць сёння пра Гэлю асаблівай ахвоты не меў. Ён моршчыўся, адводзіў свае маленькія, тхарыныя вочы ўбок, неяк дзіўна высоўваў з каўняра ватоўкі доўгую шыю, круціў галавою і маўчаў.

— Ды што ты сёння...

— Добра пра добрае расказваць. А то...— І Андрух зноў кісла скрывіўся.

— Не муч людзей — раскажы...— папрасіў мой бацька.

— Дык я ж і кажу, расказваць вельмі няма чаго. Ну, пайшоў Іван на хронт, а сястра Гэліна, Палажка, з дзецьмі тут, у Пакрашах, асталася. Немцы прыйшлі, калатэча ўсчалася. А людзі... Людзі заўсёды былі і, мабыць, будуць розныя. Знайшоўся такі, мо па злобе, а мо так чаго, узяў ды данёс немцам, што народнае ў

Палажкі дзіця расце і яно... ні то цыганя, ні то... Словам, не нашае...

Андрух змоўк, апусціў вочы ў падлогу. Потым, пастаяўшы так, пайшоў да лавы. Мужчыны рассунуліся, даючы яму месца. Ён сеў.

— І немцы што, забралі тое дзіця ў Палажкі? — спытаў нехта нецярплівы.

Андрух кіўнуў галавою.

— Ну, а далей, далей што? — падганялі Андруха мужчыны.

— Далей?.. Далей гісторыя яшчэ больш сумная. Хлопца адразу не расстралялі, а завезлі ў Ельнікі. Патрымалі тыдняў колькі ў турме, потым перавялі ў лагер. А ў лагеры што? Голад. І вось, каб хоць неяк ратаваць хлопца, не даць яму памерці, пачала Палажка як не штодзень хадзіць у Ельнікі. Наладуе кош ядою — і пайшла. Свае дзеці недагледжаныя, ненакормленыя, а яна да таго, Гэлінага, бяжыць і бяжыць. Свае дзеці як яны ні ёсць, а на волі. Той жа... Ды і прывыкла, мусіць, Палажка да хлопца, ён быў ёй як родны ўжо. Аднойчы, пайшоўшы ў Ельнікі, забавілася Палажка. А тады ж гэты, каб на яго ліха, каменданцкі час быў. Не вярнулася, словам, нанач дадому Палажка. Толькі раніцою, у позняе снеданне, дабралася яна да свае вёскі. Падыходзіць да канцавых хат, а там — немцы. Яна — рукі ўгору. Павялі жанчыну да начальства іхняга, нямецкага, пачалі пытацца, хто яна ды адкуль. Палажка шчыра ва ўсім прызналася, расказала, куды яна хадзіла і чаму затрымалася. Людзей паклікалі. Тыя пацвердзілі, што Палажка не выдумала нічога, з Пакрашоў яна і з партызанамі сувязі не мае. Адпусцілі Палажку. Прыходзіць яна да свае хаты, а там — пуста... Яна да суседзяў: «Дзеці дзе?» А суседзі і кажуць, што многія з вёскі ў лес хавацца пабеглі, як пачулі, што немцы ў вёску едуць. І яе дзеці, мусіць, таксама пабеглі. Тым часам немцы, мала каго заспеўшы ў вёсцы, паехалі ў лес шукаць уцекачоў. І каго знаходзілі — стралялі, як партызанаў. І дзяцей Палажчыных немцы знайшлі. Усіх траіх. Бо яны недалёка і адбегліся ад свае хаты. У лазняку, мо ўсяго за які кіламетр ад вёскі былі...

Андрух змоўк, неяк балесна заморгаў доўгімі бялёсымі вейкамі, сцяў, нібы завязаў, тонкія губы.

— І што — немцы пастралялі Палажчыных дзяцей? — не стрываў, са страхам спытаў я.

Дзядзька Андрух пахітаў, пакруціў галавою, маўляў, не, не пастралялі.

— А што ж, што ж яны зрабілі з дзецьмі? — вырвалася ў майго бацькі.

— Парэзалі, цесакамі парэзалі,— ціха, вельмі ціха прамовіў Андрух.— А потым, на воз пагрузіўшы, у вёску прывезлі. Людзей усіх сагналі да воза таго. І, паказваючы пальцамі на парэзаных дзяцей Палажчыных, страшыць пачалі, што з усімі такое рабіць будуць, хто ўцякае ад іх, немцаў, калі яны ў вёску прыязджаюць. Добраму, маўляў, чалавеку няма чаго баяцца, няма чаго ўцякаць. А калі чалавек уцякае, значыцца, ён чагось баіцца, ён вінаваты...

— Ну ў чым, у чым дзеці вінаватыя? — абурыўся, сказаў уголас Хведарчук — ён быў самы маладзейшы сярод смалакураў, нежанаты яшчэ нават.

— Бачыш,— павярнуўшы галаву да Хведарчука, пачаў даказваць сваё Андрух,— гэтым немцы быццам прыкрываліся, яны, маўляў, невінаватых не чапаюць. А калі каго страляюць ці рэжуць, значыцца, ёсць за што страляць ці рэзаць...

— А Палажка?.. Палажка была ля таго воза? — перапыніў Андруха зноў нехта са смалакураў.

— Кажуць, была. Толькі не бачыла яна мёртвых дзяцей сваіх. Ад роспачы, слёз — не бачыла. А потым і зусім памяць у яе адабрала...

Андрух памаўчаў.

— Пахавалі пакрашоўцы Палажчыных дзяцей на могілках. А сама яна... Сама так і хадзіла, як непрыкаяная, аж пакуль зноў немцы не наехалі ў Пакрашы. Убачылі жанчыну, што немаведама чаго сноўдаецца сюд-туд па вуліцы і не слухаецца іхніх вокрыкаў... І застрэлілі яе...

— А Іван? Што з Іванам?

Андрух развёў рукамі, маўляў, чаго не ведаю, таго не ведаю. Потым праз хвіліну дадаў:

— Мусіць, загінуў. На хронце загінуў. Бо ў вёску ён так і не вярнуўся...

— Божа, колькі бяды нарабілася! — міжволі вырвалася ў Хведарчука.— І праз каго... гэтую... Гэлю.

Але з Хведарчуком не пагадзіліся смалакуры. І дзядзька Андрух таксама не пагадзіўся.

— Вядома, вінавата і Гэля,— нібыта падсумаваў Андрух думкі ўсіх.— Але не адна... Не адна яна. У іншы час усё неяк і перабылося б. А ў вайну... З немцаў віны не трэба здымаць, яны больш за ўсіх вінаватыя... І пра гэта ніколі-ніколі не трэба забываць!

Мужчыны доўга яшчэ не разыходзіліся з вартоўні. Сядзелі, курылі і ўсё абмяркоўвалі, абмяркоўвалі, як яно тое так сталася і па чыёй віне, што сям'я ўся да чалавека загінула ў Пакрашах...

Так здарылася, што быў я на смалакурні і ў той дзень, калі цётка Гэля, так і не дачакаўшыся звароту ў Пакрашы сына, узяла ў канторы разлік і зноў збіралася ехаць жыць і працаваць кудысьці далёка, у горад. Мужчыны нешта тады былі занятыя, у вартоўні сядзелі адзін мой бацька ды я. Цётка Гэля, гэты раз у квяцістым плацці, у расшпіленай на грудзях вязанай кофце — было яшчэ халаднавата, хоць на дварэ і вясна была,— неяк асцярожна, нясмела зайшла ў вартоўню, прысела на лаву, сказала, нібыта сама сабе:

— Ну во, напрацавалася я тут, нажылася... Еду... Сёння ж і еду...

— Куды едзеш? — спытаў мой бацька.

— Куды-небудзь. У горад,— ціха, вельмі ціха адказала цётка Гэля.

— У цябе, мусіць, сям'я там, у горадзе?

Цётка Гэля адмоўна пакруціла галавою.

— Нікога ў мяне нідзе няма. Адна я,— яшчэ цішэй прамовіла яна.

— Хіба ты так і не прыжыла з новым мужам дзяцей?

— Чаму ж, прыжыла,— сарамліва апусціла вочы цётка Гэля.— Двоечка... Хлопчыка і дзяўчынку. Але іх няма. У бамбёжку, у першую ж бамбёжку іх...

Цётка Гэля закусіла верхнюю губу, і з вачэй у яе пабеглі, пацяклі слёзы.

— Я на рабоце была. А вярнулася — на месцы дома груда цэглы... Думала, хоць сыночак мой, Сяргейка, жывы астаўся, у сястры выратаваўся. Аж яно, бачыце, як тут усё зрабілася...

І цётка Гэля заплакала, зарыдала, ашчаперыўшы галаву рукамі.

І я, і бацька разгубіліся, бо ні я, ні ён не чакалі, што цётка Гэля расплачацца, разрыдаецца раптам. І мне, ды, мабыць, і бацьку, здавалася: цётка Гэля не ўмее, не можа плакаць — яна можа, умее толькі лаяцца, гнуць па-мужчынску мацюкі. Аж яно вунь як!

— Ты не крыўдуй, Гэля,— сказаў да жанчыны мой бацька, сказаў спакойна, з развагай.— Але ж так, як ты... Пакінуць дзіця сястры і не абазвацца, не пацікавіцца, як яно жыве, расце...

Цётка Гэля перастала плакаць, падняла на бацьку свае чорныя, у слязах, нейкія аж надта вялікія вочы.

— А што ж, што ж мне было рабіць? — як не накрыкнула ў роспачы яна.— Ну, падманулі мяне... Нарадзіла я дзіця, да сястры прывезла. Яна згадзілася паглядзець. А я... Я паехала, каб на працу дзе ўладкавацца. Думала, уладкуюся, дзіця забяру, буду яго глядзець, жыць з ім буду. А прыехала ў новы горад, на мяне інжынер адзін заглядацца пачаў. Спадабалася я яму, ён мяне дадому пачаў праводзіць, распытваць, хто я і як жыву. Я не прызналася ні ў чым, выдала сябе за сірату. Адна няпраўда пацягнула за сабою другую — не прызналася я яму, што дзіця ў мяне ёсць, жыве ў сястры. А ён... Ён жаніцца са мною сабраўся. Плакала я, так і гэтак разважала. Толькі ж... Расказаць усё пра сябе... А што ён пра мяне падумае, як зробіць? А я жанчына, хіба ж мне не хацелася і мужа мець, і дзетак... Замуж за яго выйшла. Думала, потым, потым ва ўсім прызнаюся, потым, потым яму пра ўсё раскажу. Толькі потым... Зацяжарала я — яшчэ больш разгубілася. Прызнайся — кіне раптам ён мяне, зноў дзіця нараджу, і гэтае без бацькі будзе... Дый у вёску падацца з новым дзіцем як, як? Што пра мяне і сястра, і людзі падумаюць?.. А нарадзіла дзіцятка — душа разрывацца пачала. І тое дзіця, што ў сястры, і гэтае таксама ж дзіця... Ох, колькі паплакала я, колькі папамучыла сябе. Ды і яго, мужа майго. Прыйдзе ён з работы, а я ў слязах і ў слязах. «Што ды што ў цябе?» — пытае. А я... Што я магу яму сказаць? Прызнацца ва ўсім? А раптам кіне, зноў адна з дзіцем астануся... Словам, так і жыла я, не жыла, а пакутавала. Яшчэ адно дзіцятка знайшлося неўзабаве... Муж у начальнікі вялі-

кія выйшаў, у Маскву забралі яго. І я мелася пераехаць, але вайна пачалася. Муж па той бок лініі фронту, я па гэты... У падполлі была... У партызанах... Злавілі мяне немцы, катавалі... Потым у Нямеччыну адправілі... Два гады ў лагерах была... Нацярпелася — не дай бог нікому. Думала, у вёску сваю вярнуся, тут ажыву, душою акрыяю. А прыехала...

Цётка Гэля пахітала галавою і зноў, гэты раз яшчэ больш адчайна, разрыдалася.

— І чаму горачка на мяне, на сястру, на сям'ю ўсю нашу такое? Другія ж неяк ацалелі, выратаваліся, а мы... А ў нас...— як не галасіла жанчына.

— І ў другіх... У другіх таксама... У кожнай сям'і вайна нешта ўварвала, кагось забрала,— каб, мабыць, хоць трохі суцешыць, супакоіць жанчыну, сказаў мой бацька.

— Не-не, ва ўсіх не тое... Так, як у нас... Так, як у нас, ні ў кога няма! Думала, хоць сынок мой, Сяргейка, жывы, вернецца адкуль... Аж мабыць, і яго няма... Загінуў, бедненькі, недзе... Праз маці сваю загінуў... Праз маці, якую не ведаў, не помніў, праз маці, якая выраклася яго, пакінула...

Цётка Гэля зноў залілася слязьмі.

— А муж, муж твой дзе? — каб, мабыць, звесці гаворку на іншае, спытаў мой бацька.

— У Маскве ён. Ён цяпер вялікі чалавек... Можа... Можа, і шукае мяне.. Толькі... Не абзываюся я... І не абзавуся. Гэта ж каб не ён, не трапіўся ён мне на дарозе, можа б, інакш усё склалася... І сястра жывая была б, і дзеткі... А то надта ж мужа мецъ хацела, жыць як і другія жанчыны жывуць... На ўсё ішла, шчырая не была ніколі... А няпраўдай... Свет, кажуць, пройдзеш, а назад... Назад не вернешся...

У той жа дзень, недзе адразу па абедзе, цётка Гэля, развітаўшыся з усімі, з кім яна працавала, пайшла па дарозе ў Ельнікі, на станцыю. Мужчыны адварочваліся ад цёткі Гэлі, нават рукі свае неахвотна ёй падавалі. І толькі бацька мой даўжэй, чым іншыя, развітваўся з Гэляю, суцяшаў яе, а потым і стаяў на дарозе, не зводзіў вачэй, аж пакуль цётка Гэля не адышлася далёка, не схавалася за хвойнікам. І смалакуры не разумелі майго бацьку, круцілі галовамі, кідалі нейкія не

зусім прыстойныя жарты, накшталт: «А мы нічога і не заўважалі!», «А мы нічога і не ведалі!».

І толькі я разумеў бацьку, толькі я пра ўсё здагадваўся, што было ў яго тады на душы, бо чуў, чуў шчырую споведзь цёткі Гэлі пра ўсё перажытае ёю да вайны, у вайну і пасля вайны... Разам з бацькам чуў...

## АРЦЁМЧЫК-ЧАПЯЛУШКА

Аднойчы на смалакурні здарылася тое, чаго ніхто ніяк-ніяк не чакаў: прыехала з Ельнікаў міліцыя і проста з работы забрала качагара Арцёмчыка...

Хто такі быў Арцёмчык — смалакуры мала ведалі. Дый, прызнацца, не надта гэтым цікавіліся. Ат, мусіць, не было дзе падзецца чалавеку, вось ён і прыбіўся на лясную паляну. Працуе, як і кожны, зарабляе, каб было за што жыць. Сам жа Арцёмчык пра сябе нічога не расказваў, ён рэдка калі з кім гаварыў, больш маўчаў, быў наогул нейкі нелюдзімы, дзікі, ані не кампанейскі. Нават калі збіраліся мужчыны пасля палучкі, скідваліся па пяцёрцы ці дзесятцы, куплялі некалькі бутэлек гарэлкі і выпівалі, апавядаючы пры гэтым вясёлыя гісторыі, Арцёмчык не прымыкаў да ўсіх. Вечна, бывала, сядзіць і сядзіць у сваёй качагарцы, спасцярожліва паглядваючы на манометры. Падымецца, падкіне пад кацёл дроў, а калі тыя разгарацца, зашугаюць полымем, разграбе, рассуне агонь, каб вада ў катле не вельмі награвалася. З качагаркі Арцёмчык выходзіў толькі па патрэбе: вады вядро з калодзежа ачэрпне, дроў набярэ. І зноў хаваецца ў качагарку. Быццам чалавека нішто ніколі не цікавіла і не цікавіць, апрача агню пад катлом ды манометраў. Звычайна, калі на смалакурню наведваўся новы, нікому не вядомы чалавек, смалакуры, бы на якое дзіва, збягаліся да яго — што гэта за чалавек, чаго прыехаў? Раптам ён нешта ведае, тое, чаго ніхто не ведае, і расказа... Смалакуры былі жывыя людзі, і іх цікавіла ўсё-ўсё, што дзеелася і рабілася і ў раёне, і ва ўсім свеце. Арцёмчыка ж, здавалася, нішто не цікавіла. Яго, бывала, і не выпарыш з качагаркі, калі на паляне паяўляўся свежы чалавек. Якраз тады ў Арцёмчыка заўсёды была нявыкрутка з часам, ён ніяк-ніяк не мог пакінуць

агонь. І ўраз неяк увесь насцярожваўся, натапырваўся, як шашок. Нават быццам палохаўся.

Ад'язджаў з паляны чалавек, тады Арцёмчык, счакаўшы нейкую хвіліну, выходзіў з качагаркі, сноўдаўся, бы тручаны прусак, сюд-туд, пакуль не спатыкаў каго-небудзь з людзей, хто гутарыў з тым новым чалавекам. Звычайна Арцёмчык прасіў у знаёмага смалакура закурыць і, нібы неўпрыкмет, слова за словам выпытваў, што гэта за чалавек і чаго прыязджаў на смалакурню. На смалакурню прыязджалі розныя людзі, хто па патрэбе — трэба быў дзёгаць ці шкіпінар, а купіць не было дзе, а хто і выпадкова — едзе, бачыць — торная дарога: «Куды яна вядзе?» Паверне на дарогу — і трапляе на паляну, на смалакурню. Калі Арцёмчык чуў, што чалавек прыязджаў на смалакурню па шкіпінар ці дзёгаць, ён весялеў, нават іншы раз спрабаваў усміхацца. Але ўсмешка ў Арцёмчыка была вымучаная, няшчырая, яна не радавала, а хутчэй палохала людзей. Ды і сам Арцёмчык быў няшчыры, ён быццам насіў на душы нейкі цяжар, і той цяжар мучыў, гнёў яго. Ясна было: Арцёмчык — чалавек з нялёгкім мінулым. Але пра тое, што з ім і калі здаралася, смалакураўскі качагар нічога нікому не гаварыў. Ён наогул стараўся адмоўчвацца, хоць яму гэта не заўсёды і ўдавалася. Неспакой, душэўная трывога Арцёмчыка асабліва выдавалі тады, калі нехта незнаёмы без усялякае быццам на тое прычыны трапляў на смалакурню. «Як гэта — выпадкова! — ён сюды трапіў? — вырочваў круглыя, навыкаце, вочы Арцёмчык, калі яму казалі, што той ці іншы чалавек трапіў на смалакурню без ніякае патрэбы, выпадкова.— Што, хіба ён не ведаў, куды вядзе гэтая дарога?» — «Мусіць, не ведаў».— Гэ-э, не ведаў...— гэкаў, быццам злараднічаў, Арцёмчык.— Ведаў, добра ведаў, але ж нечага трэба было яму, нешта, няйначай, вынюхаць хацеў...» І Арцёмчык пахмурнеў, хаваўся ў качагарку. І тыдзень, а то і два быў сам не свой, пакуль якая-небудзь новая падзея не вяртала яго да звыклага жыцця. Некаторыя са смалакураў схільныя былі думаць, што Арцёмчык трохі «не таго», не ў сваім, пэўна, розуме...

Наведвалася на свалакурню, хоць, праўда, вельмі рэдка, і Арцёмчыкава жонка, Насця,— светлавалосая, дзябёлая і прывабная маладзіца. Сёй-той са смалаку-

раў, хітравата жмурачы вочы, пытаў у яе: «І дзе ты адкапала сабе такога?..» Насця ўсміхалася, адкрыта, шчыра. «Я яго з Нямеччыны прывезла»,— казала яна. Смалакуры і без Насці ведалі, што Арцёмчык нетутэйшы, ён — родам з-пад Кобрына. Як і чаго Арцёмчык апынуўся ў Нямеччыне — толкам ніхто не ведаў. Сваёй жонцы, Насці, сам Арцёмчык быццам так аб гэтым апавядаў: «Пайшоў я ў Кобрын, на рынак. Боты хацеў купіць. Ды на аблаву нямецкую натрапіў. Хапнулі мяне, як і многіх іншых. Патрымалі тыдзень у турме, а потым пагрузілі на цягнік — і на чужыну». Так гэта было ці не так — паспрабуй правер. Дзівіла ўсіх, праўда, адно — у Арцёмчыка не асталося нідзе ніякай радні. Быццам да чалавека знішчылі ўсіх сваякоў фашысты — і бацьку, і маці, і сясцёр, і братоў. Нават самой вёскі не асталося — яе спалілі разам з людзьмі. Што ў вайну палілі вёскі з людзьмі — дзіва ў тым не было ніякага. Вунь і ў нас, у Ельніцкім раёне, карнікі спапялілі вёсак, мусіць, з пятнаццаць. Дзіва было ў тым, што з вёскі нікога не асталося жывога. Бо ў кожнай спаленай у вайну вёсцы нашага раёна асталіся людзі — то нехта ў госці хадзіў, то ў лесе, у партызанах, быў, то яшчэ дзе. Але людзі з кожнай вёскі пааставаліся. Дзівіла, насцярожвала і яшчэ адно — у Арцёмчыка была перабіта ў локці правая рука і так зраслася, што не гнулася. Адкуль у яго раненне, калі чалавек, паводле яго расказаў, ні дня не ваяваў, не быў ні ў партызанах, ні на фронце. «Гэта ў мяне немец стрэліў. Да дзеўкі быў палез, а я заступіўся. Там, яшчэ ў вёсцы...» І такое магло быць, вядома. Але ж... Тым часам неяк не верылася, асабліва ў апошняе, мо таму не верылася, бо Арцёмчык быў не такі чалавек, каб заступацца за другога, каго б там ні было. Надта ж мала шчырасці, дабраты было ў Арцёмчыка. Вечна, калі ні ўбачыш, ён нейкі кіслы, незадаволены. І не глядзіць на людзей, а вочы свае хавае, патупліваe ў зямлю.

Апранаўся Арцёмчык таксама абы-як, не пільнаваўся ані, таму яго старая, выцертая і шмат у якіх месцах прапаленая ватоўка і чорныя, змятыя картовыя штаны ў што толькі не былі запэцканы, якіх толькі плямаў на іх не было! Ці мыўся хоць калі Арцёмчык — гэтага таксама ніхто са смалакураў пэўна не мог сказаць. Ад Арцёмчыка смярдзела дымам, дзёгцем, шкіпі-

нарам, смалой і яшчэ чортведама чым. Хоць нос рукою закрывай, калі, бывала, зойдзе ён у вартоўню. Таму не дзіўна, што і самі смалакуры стараніліся Арцёмчыка, не гарнуліся да яго. Ат, ёсць сярод іх такі чалавек, Арцёмчык, хай будзе. Падыдзе ён да іхняга гурту — не праганяюць; не падыдзе — то і не клічуць. Заўважаў я разоў колькі, як смалакуры неяк быццам ніякавелі, пераіначваліся, калі раптам да іх гурту набліжаўся Арцёмчык. Гамонка сама сабою, якая б цікавая ні была, сціхала, людзі насцярожваліся. Калі перад гэтым быў смех, ён прападаў. Настрой у людзей псаваўся, непрымушанасць і прыязнасць пераходзілі ў спасцярожлівасць. Смалакуры, спачатку адзін, потым другі, успаміналі, што ў іх ёсць нейкая пільная, неадкладная справа, і беглі, спяшаліся яе зрабіць. Ды і сам Арцёмчык адчуваў: ён лішні ў людской грамадзе, непатрэбны. Таму, патаптаўшыся хвілін колькі, нешта мрукаў сабе пад нос — і неўзабаве адыходзіў. Звычайна, калі Арцёмчык адыходзіў, яго ўсе праводзілі вачамі. Мо таму, што паходка ў Арцёмчыка была не зусім чалавечая, а... быццам сабачая. Ён не хадзіў, а нібыта бегаў, неяк не проста, а бачком, падціснуўшы пад грудзі рукі. Трух-трух-трух...

Дзве падзеі яшчэ больш аддалілі ўсіх смалакураў ад Арцёмчыка. Першая — гэта смерць такога ж, як і мой бацька, нарыхтоўшчыка бярозы і смаловых пнёў Патапенкі. Патапенка, ходзячы па лесе, наступіў на міну, якая асталася ў зямлі ад вайны. Усе смалакуры ездзілі на пахаванне Патапенкі. Не паехаў адзін Арцёмчык, хоць яго і прасілі памагчы выкапаць магілу. «Я не ведаў ніякага Патапенкі, чаму ж я паеду хаваць яго?» — вось што адказаў ён смалакурам. Не даў Арцёмчык ні рубля і тады, калі збіралі ў часе палучкі «хто колькі дасць» удаве і дзецям нябожчыка. «Я і так мала палучаю. Хай начальнікі даюць, у іх работа лягчэйшая, а зарплата большая...» Другая падзея — гэта пажар, што быў ускінуўся ў лесе ў сухмень. Пажар пачаўся ў нядзелю і шугаў дзён пяць. Тушылі яго не адны пажарнікі, а ўсе, хто толькі мог. Смалакурня ў тыя дні не працавала. Спачатку смалакуры абкапалі ровам паляну, каб з лесу агонь не перакінуўся на смалакурню, а потым гуртам пайшлі тушыць лес. Мой бацька, аж пакуль не патушылі пажару не прыходзіў дадому.

А калі прыйшоў, мы не пазналі яго — бровы, валасы на галаве ў яго абгарэлі, паабгаралі і калашыны штаноў, рукавы кашулі. Гэтак, як і мой бацька, памагалі тушыць пажар і іншыя смалакуры. Гарэў жа лес, гарэла народнае дабро. І як, як было не ратаваць яго! Мая маці дакарала бацьку: «За народнае ты гатовы і сам загінуць. А каб сабе што...» Бацька не сварыўся з маці, не пераконваў яе ў нечым адваротным. Толькі сказаў: «Ты разважаеш так, як рабочы ў нас адзін, Арцёмчык. Той таксама, калі яму сказалі, што трэба ехаць тушыць пажар, адказаў: «Я не паліў, чаго ж я маю тушыць? Хто запаліў, хай той і тушыць...»

Я быў дома, у хаце, калі бацька гаварыў з маці. І не мог, каб не папытаць:

— Дык што, Арцёмчык не ездзіў тушыць пажар?

— Не, не ездзіў... Астаўся на смалакурні.

— Дык жа смалакурня не працавала?

— Нічога, за вартаўніка астаўся, абы толькі не ехаць разам з усімі на пажар.

Аднаго разу, прыйшоўшы на смалакурню, я не застаў у вартоўні бацькі. Паблукаўшы па паляне і нідзе нікога не спаткаўшы, я зазірнуў у качагарку — можа, хоць там хто-небудзь ёсць? Ды і холадна было на дварэ, як-ніяк зіма ж, студзень месяц. Качагарка, збудаваная з цэглы, стаяла трохі ў баку ад астатніх будынкаў, пад трыма высачэзнымі, выносістымі хвоямі. Я адчыніў дзверы і адразу ж убачыў Арцёмчыка — ён сядзеў у ватоўцы, шапцы-вушанцы, валёнках, хоць у качагарцы было не тое што цёпла, але горача. Я, павітаўшыся, спытаў, дзе падзеліся людзі,— няма нідзе нікога.

— Не стой у дзвярах, холаду напусціш,— грубавата прыкрыкнуў на мяне Арцёмчык.— Хто табе трэба?

— Бацька,— ціха сказаў я, пераступаючы парог і зачыняючы за сабою старанна дзверы.

— Бацька? — перапытаў Арцёмчык, і пабранзавелы ад вобліскаў агню твар яго скрывіўся, быццам у чалавека нешта балела.— А хто твой бацька?

Я збянтэжыўся, разгубіўся — на смалакурні бываў я даволі часта, чый і да каго прыходзіў, ведалі тут бадай што ўсе. Няўжо не ведаў, чый я сын, Арцёмчык?

— Ды, чый ты, я ведаю,— нібы ўзрадаваўшыся, што збянтэжыў мяне, усхапіўся на ногі і пачаў нешта папраўляць сталёвым шворнам у печы Арцёмчык.—

Я хачу спытаць — хто твой бацька, дзе ў вайну ён быў?

— На фронце...

— Усю вайну быў на фронце?

— Не, ён у палон трапіў... Разам з намі ў Нямеччыну і яго ганялі...

— У-ум! — як бы нешта ведаючы такое, чаго я не ведаў, умкнуў Арцёмчык і, заплюшчыўшы вочы, паківаў галавою.— Значыцца, і ён, і ўся сям'я ваша таксама ў Нямеччыне былі... Самі туды паехалі?..

— Як гэта — самі? — не зразумеў я.— Хіба былі такія дурні, хто сам туды ехаў? Сяло наша немцы спалілі...

— А-а,— Арцёмчык зрабіў выгляд, што тлумачыць яму больш нічога не трэба — ён пра ўсё здагадваецца.— А я думаў, твой бацька ў партызанах быў.

— Ён памагаў партызанам. Але ў лесе... У лесе не партызаніў.

Арцёмчык нібыта не чуў ужо мяне — ён шураваў, шураваў у топцы дровы, глядзеў то на агонь, то на вялікае вока манометра.

— Дзядзька, а дзядзька? — спытаў, трохі пачакаўшы, зноў я.— А дзе, дзе зараз мой бацька?

— У Ельнікі паехаў,— не паварочваючы ў мой бок галавы, неахвотна працадзіў скрозь зубы Арцёмчык.

— А што там у Ельніках?

— Сход у канторы.

Я стаяў у парозе качагаркі, глядзеў, як Арцёмчык шуруе шворнам у топцы, то раскідваючы дровы, то зноў зграбаючы іх у кучу, і, помню, дзіўнае, няпэўнае пачуццё перапаўняла мяне: «Што за чалавек гэты Арцёмчык? Пагаварыць з ім і то па-людску няможна».

— Дзядзька, а вы чаму не паехалі разам з усімі ў Ельнікі?

— Абыдуцца. Без мяне абыдуцца. Дый... Дый некаму ж і тут заставацца трэба. Смалакурні так не пакінеш.

— Дык за вас мог іншы хто застацца. Конча хіба вам ды вам аднаму быць тут?

— Я ж кажу, што на сходзе мне рабіць няма чаго. Хто хоча, хай той едзе. Рабіць у нас няма каму, а ў ладкі пляскаць... Такіх... Такіх хапае...

У голасе Арцёмчыка чулася раздражнёнасць. Адказваў ён неахвотна, з нейкай як бы зацятасцю, злос-

цю. Адчужанасць, непрыязнасць былі ў яго паглядзе. І я, як толькі пачуў людскую гаману на паляне, пакінуў качагарку — аказалася, гэта вярталіся з Ельнікаў смалакуры і з імі — мой бацька.

...Пасля таго як міліцыя забрала Арцёмчыка проста з работы,— было гэта, помніцца, напрадвесні, снег ужо раставаў, набракаў усюды вадою,— смалакуры сабраўшыся ў вартоўню не-не дый успаміналі качагара.

— І што ён, дзівача, натварыў, чаму яго забралі?

— Мусіць жа, вінаваты ў нечым, інакш не бралі б.

— Можа, памыліліся?

— Э-э-э, калі б памыліліся, то выпусцілі б даўно. А то бачыш — трымаюць.

— Мусіць, у вайну нешта... Дзесьці ў нечым замешаны...

— Разбяруцца. Трэба толькі пачакаць...

І смалакуры цярпліва чакалі. Дый іншага нічога не заставалася, як чакаць.

Ішлі дні, ужо неба агалілася ад хмар, папрасторнела і пасінела, удзень паказвалася сонца, і дзе-нідзе булькаталі ручайкі — вясна напаміналa пра сябе, уваходзіла ў сілу. І разам з прыходам цяпла, вясны прыходзілі на смалакурню і весткі пра Арцёмчыка. «Паліцаем ён быў у вайну». «Ніякі не немец гэта прастрэліў яму руку, а партызаны». «У Нямеччыну ён сам паехаў, каб уцячы ад кары за паліцайства». «І не з-пад Кобрына ён родам, а з-пад Баранавіч. Вёска тая, дзе ён нарадзіўся, цэлая, не спаленая. Маці, бацька, радня — жывыя». «Ён не толькі паліцаем быў, а вёскі паліў, людзей нашых забіваў... Арцёмчык — гэта не яго прозвішча, а прозвішча чалавека, якога ён забіў у вайну».

А потым, калі снег растаў, зазелянела ўсё навокал, на смалакурню прыехаў начальнік міліцыі і, сабраўшы смалакураў, расказаў, што навотны качагар — ніякі не Арцёмчык, а Чапялушка. У вайну ён уступіў у паліцыю, выдаў немцам некалькі акружэнцаў, тых, што асталіся жыць у вёсках. Разам з немцамі ён ездзіў лавіць партызанаў. Калі ж немцы пачалі, адступаючы, паліць вёскі, зганяць і забіваць людзей, запісаўся ў знарок дзеля таго падрыхтаваную каманду. І паліў вёскі, забіваў людзей, пакуль аднойчы на каманду не напалі партызаны. Чапялушку пашанцавала больш,

чым некаторым. Яго не забілі, а паранілі. Вылечыўшыся, ён паехаў добраахвотна ў Нямеччыну. Там прыжаніўся з прастадушнай дзяўчынай Насцяй і прыехаў сюды. Смалакурню ён выбраў месцам сваёй працы таму, што гэта ціхі закутак. Былы паліцай асабліва не паказваўся на людзі — баяўся, што яго апазнаюць. Начальнік міліцыі заклікаў усіх смалакураў да пільнасці. Такія, як Арцёмчык, яшчэ хаваюцца ад справядлівай кары, іх трэба выяўляць, арыштоўваць...

— А ці будуць судзіць таго... Арцёмчыка-Чапялушку? — задаў пытанне дзядзька Андрух.

— А як жа? Будуць,— адказаў начальнік міліцыі.— Толькі не ў нас, у Ельніках, а там, дзе ён злачынствы рабіў. Ёсць шмат сведак, і яны раскажуць... Усё раскажуць, што рабіў гэты Арцёмчык-Чапялушка...

— Ці запросяць на суд каго-небудзь з нас? Мы ж працавалі, жылі з гэтым Арцёмчыкам-Чапялушкам апошнія гады? — спытаў Хведарчук.

— Абавязкова! Як будзе суд, то хоць некалькі чалавек, а пашлём...

Мой бацька на суд не ездзіў. А тыя, хто ездзіў расказвалі потым:

— Ніхто з нас і не здагадваўся, хоць і бачыліся з Арцёмчыкам на дні па некалькі разоў, які гэта гад... Божа, колькі людзей ён паслаў на той свет!.. У вёсцы нейкай дзяцей у калодзеж жывых кідаў... А ўжо што да расстрэлаў... Дзяўчынка на судзе выступала. Выпадкова жывая асталася: самлела і ўпала між трупамі, яе не забілі, падумалі, што мёртвая. Дык аж плакалі ўсе, слухаючы яе. Кажа, гэты самы Арцёмчык, ці Чапялушка, як яго цяпер і называць, ліха яго ведае, бацьку і маці яе застрэліў. І брацíка паўтарагадовага жыцця рашыў. Жывы брацік, як і дзяўчынка, астаўся, толькі паранены і плакаў. Дык гэты Арцёмчык-Чапялушка падышоў да брацíка, ботам на горла яму наступіў. І не адышоў, пакуль малое не зайшлося. І, стоячы над дзіцем, яшчэ лаяўся: «Жывучае ж! Усё адно, што кацяня».

— Адкуль у яго, гэтага Арцёмчыка-Чапялушкі, лютасць такая? — пыталі смалакуры ў тых, хто быў на судзе.

— І там, на судзе, пыталі пра гэта ў Арцёмчыка-

Чапялушкі. І ведаеце, што ён, гад, адказаў: «Замарачэнне на галаву найшло, фашыстам паверыў, што не ўсе людзі маюць права жыць, некаторых трэба знішчаць, каб тым, хто астанецца, лепей жылося». І плакаў, прасіў даравацъ яму, хацеў жыць астацца. То яму яшчэ былі адно пытанне задалі: «А тыя, каго ты страляў, каго ў калодзеж жывымі кідаў, хіба не хацелі жыць?» Словам, прысудзілі гэтага Арцёмчыка-Чапялушку да расстрэлу...

— А бацька, маці гэтага... Арцёмчыка-Чапялушкі былі на судзе?

— Былі. Бацька з вусамі доўгімі, як у прусака, і маці старэнькая, сагнутая, ледзь жывая. Калі ў іх спыталі, як гэта яны сына, вылюдка такога, выгадавалі, бацька сказаў: «Мы ўвесь век зямлі хацелі. Думалі — сын службай сваёй адданай заслужыць фальварак. Аж яно, бачыце, вунь як усё павярнулася...» А маці і слова вымавіць не магла, толькі плакала...

Слухаючы тых, хто быў на судзе, смалакуры ківалі галовамі і неяк зацята, пагрозліва маўчалі. А мой бацька не вытрымаў, сказаў:

— Нараджаюцца ж такія... Нібыта назнарок — каб не верылі людзі кожнаму, маўляў, хоць перад табою быццам і чалавек, а ты прыглядзься да яго, добранька прыглядзься: а раптам гэта зусім і не чалавек, а нелюдзь, звер...

*1976 г.*

# ВЯСКОВЫЯ ЗГАДКІ

## СВАЯ ХАТА

Даўно мінула, адышла, можна сказаць, у нябыт з нашае старонкі вайна. Але не-не дый напомніць яна аб сабе, паласне, бы касой па горле...

...Я прыехаў у родныя мясціны прыгожым зімовым днём і не стаў чакаць ні спадарожнай машыны, ні фур-

манкі — адразу ж, вылезшы з вагона цягніка, пакіраваўся пешкі дадому, у сваю вёску: балазе, ісці было недалёка, кіламетраў якіх пяць. Ціснуў сухі, скрыпучы марозік, усюды ляжаў глыбокі роўны снег. Мо таму роўны, што дарога — дзве шырокія, укатаныя гумовымі коламі каляіны — бегла па лесе, а ў лесе звычайна гурбаў ніколі, нават у самыя ветравеі не намятае.

Па дарозе то на станцыю, то са станцыі імчалі, гружаныя бочкамі, мяшкамі, нейкімі скрынкамі і проста так, паражняком, машыны. І мне даводзілася толькі тое і рабіць, што саступаць у снег, даваць машынам дарогу. Урэшце мне гэта надакучыла, і я, згледзеўшы добра ўтаптаную людскімі нагамі сцежачку, што бегла цераз балотца, ці, як у нас кажуць, на кладкі, з радасцю збочыў на яе. Гэта і бліжэй, а галоўнае, не трэба раз-пораз азірацца, лезці ў цалік па калені ў снег.

Па сцежачцы, што, віхляючы між дрэў, шылася ў гушчар, туды, дзе чарнеў голы алешнік, было балотца, кладкі, я мінуў малады хвайнячок, які даволі імкліва парос на рэдкалессі, і тут... Тут нечакана ўбачыў старую. Яна паволі, апіраючыся на кіёк, ішла, сунулася паперадзе мяне — у падшытых лямцам валёнках, у кажусе; галава яе была ўшушкана ў белую вязаную хустку. Пачуўшы мае крокі, старая прыпынілася, насцярожана павярнула галаву ў мой бок. І я пазнаў старую — гэта была жанчына з нашае вёскі, Хацім'я.

Параўняўшыся з ёю, я таксама спыніўся, паставіў у снег дарожны чамаданчык, здзеў пальчатку, працягнуў цётцы Хацім'і сваю руку.

— Дзень добры вам! — сказаў я знарок бадзёра, весела.— Адкуль гэта вы?

Хацім'я яшчэ раз насцярожана, уважліва агледзела мяне шэрымі, амаль што выцвілымі вачыма і, мусіць, пазнаўшы, усміхнулася, падала мне халодную, худую — адны костачкі — руку.

— Ды гэта ж я, дзеткі, у бальніцы ляжала,— сказала сарамліва, нібыта апраўдваючыся, цётка.— Ад восені самае... Як картоплю пакапала, дык і занядужала. Думала, канцы. Аж не, вычапалася... Сама, бачыце, грабуся во дадому, у сваю хату...

«...У сваю хату...» Я ўбачыў гэтую «сваю хату», калі, развітаўшыся са старою Хацім'яю, мо праз праўгадзіны выйшаў з лесу. Маленькая, нейкая нібы казач-

ная, сярод усяго белага, заснежанага, яна стаяла на краі вёскі і двума падслепаватымі вокнамі глядзела на дарогу, бы чакала, ніяк не магла дачакацца гаспадыні. У двор — калі толькі можна назваць дваром нічым не загароджанае поле — не было сцежачкі, нават следу да дзвярэй. Скрозь ляжаў чысты, белы, усё адно як вата, снег. Няцяжка здагадацца было, ад восені ніхто і не заходзіў у гэтую хату...

Тады, у тую хвіліну, і паласнула мяне, нібы касой па горле...

«Як бязлітасна абыходзіцца з людзьмі іншы раз лёс!» — падумаў я.

У Хацім'і ж была мо самая вялікая ў нашай вёсцы сям'я. За сталом, як садзіліся есці, не месціліся ўсе... І... нікога не засталося. Муж, Мікалай, не вярнуўся з фронту. Не вярнуліся з фронту і два старэйшыя яе сыны. Грышку, амаль хлапчука, забілі паліцаі, калі ён неяк надвячоркам наведаўся з лесу, з партызанаў, у вёску, да маці. Старэйшую дачку, Надзю, немцы звезлі ў Нямеччыну, і дзе яна там падзелася — дасюль пэўна ніхто не можа сказаць. Хацім'ю ж з трыма меншымі, калі палілі нашу вёску карнікі, разам з усімі таксама пагналі ў Нямеччыну, у няволю. Дваіх дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку — Хацім'я пахавала на чужыне — памерлі ў адзін дзень ад нейкае нечаканае хваробы. Самага малога, Віцьку, яна прывезла дадому. Але і яго не ўберагла — пайшоў ён з вясковымі хлапчукамі ў лес па ягады і не вярнуўся да маці — натрапіў на міну...

...Дома, у бацькоўскай хаце, мая маці, мабыць, убачыўшы ў мяне ў вачах незразумелую ёй тугу і боль, ажно слязу пусціла:

— А што ж, трэба часцей прыязджаць, то не так горна будзе...

А я сядзеў сумны-сумны, за сталом, на які насіла і насіла, стаўляла і стаўляла розныя пачастункі і прысмакі ўсхваляваная, радасная маці, і думаў:

«Гэта ж і Хацім'я прыграблася, мусібыць, ужо дадому, у сваю хату. Настылую, халодную... І ніхто з родных не сустрэне, не абрадуецца, не прывеціць яе, старую. Як яна там — адна?..»

## ДЗЯДЗЬКА РАМАН

Заўсёды, калі я кіруюся куды-небудзь па вёсцы, бачу яго: сядзіць абапёршыся — рукі на канцы кульбы, падбародак на руках — ля сваёй хаты на лавачцы і ні то нешта думае, ні то дрэмле. Іншы раз я спынюся, падам дзядзьку Раману руку, іншы раз, калі вельмі спяшаюся, прашмыгну ціха, бы мыш, і не абзавуся — дзядзька Раман сляпы і не здагадаецца, хто прайшоў міма і не павітаўся. Сляпы дзядзька не ад нараджэння, а з вайны. У вайну ён быў танкістам, і неяк так здарылася, што яму знявечыла твар, выпаліла агнём вочы...

Два гады праваляўся чалавек у шпіталях, але вярнуць зрок так і не ўдалося....

Раманава жонка, Каця, таксама ўцалела ў вайну, уцалела і іхняя дачушка Ніна, хоць, вядома, і набраліся гора, напакутаваліся, як і ўсе мы, на чужыне, у Нямеччыне. Вярнуўшыся на папялішча, сяк-так з дапамогай добрых людзей сям'я паставіла хату, абгарадзіла двор штакетнікам... І з тых дзён Раман сядзіць, бывае, цэлымі днямі на лавачцы ля сваёй хаты. Брацца што-небудзь рабіць, нічога не бачачы, усё адно не будзеш. Ісці ж да каго з суседзяў Раман не асмельваецца — кожны заняты, навошта ж адрываць сваімі размовамі людзей ад працы. Зусім іншае, калі чалавек мае час, прысядзе на лавачку, загаворыць. Раман тады радуецца. Сам сёе-тое раскажа, а больш распытвае. Бо хоць ён і сляпы, а да навін вельмі цікаўны, хоча ведаць, што робіцца і ў вёсцы, і за вёскаю.

За тыя гады, што мінулі пасля вайны, у Рамана нарадзілася яшчэ чацвёра дзяцей — тры дзяўчынкі і хлопчык, Ясь. Дзеці ўдаліся разумныя, прыгожыя... Дзяўчаты павырасталі, павыходзілі замуж, жаніўся і Ясь... Ніна і Ясь жывуць у вёсцы, астатнія Раманавы дзеці — у гарадах.

Зрэдку яны прыязджаюць у вёску, прыходзяць адведаць бацькоў. І мне, калі я гляджу, як завіхаюцца яны ля сляпога бацькі, робіцца не па сабе. Я, як ні сілюся, не магу пазбыцца думак, што вось у Рамана нарадзіліся, выраслі дзеці, а ён іх так нікога і не бачыў, пазнае хіба толькі па голасу...

## СЫНОЧКІ!..

Яна прыйшла да нас у хату нечакана, калі я, намахаўшыся ўволю касой, сеў за стол абедаць. Прыйшла, каб я напісаў «у райвон паперу, бо трэба хату перакрываць, страха цячэ, а нямашака чым, дык хай бы выдзелілі чаго — ці шыхверу, ці хоць сасну якую на дранку...» Яшчэ даволі дзябёлая, рухавая, хоць і сівая ўся, да апошняга воласа.

Я, адсунуўшы ўбок міску са шчаўем, узяў ліст чыстае паперы і хвілін колькі мудраваў над ім, думаючы, як і да каго лепш звярнуцца, а ў вушах у мяне гучала адно, толькі адно слова, чутае ў вайну, калі быў я зусім-зусім малы:

— Сыночкі!..

...Тады, у тую марозную студзеньскую ноч, мы прахапіліся ад страляніны. Стралялі недзе зусім блізка, побач з нашаю хатаю, і гэта паддавала ўсім нам страху. Маці і мы, дзеці, аж калаціліся.

— Не стойце пасярод хаты, падайце на падлогу, паўзіце да печы,— крычала, падганяла ўсіх нас маці.— Божа, і калі гэта мінецца, о-е-ёй!..

Падлога была цвёрдая, халодная, асабліва пасля пасцелі, але мы ляжалі на ёй, не варушыліся, бы папрырасталі, чуючы ў суседнім з нашым двары нейкую бегатню і стрэлы. Потым даляцеў да нас той крык — крык нашае суседкі, Мархуты:

— Сыночкі!..

...Пра тое, што адбылося ў Мархуціным двары, ранкам гаварыла ўся вёска. Расказвалі, што дадому, у сваю хату, уночы прыходзіў з лесу Мархуцін старэйшы, Кузьма — ён быў у партызанах. Кузьма хацеў угаварыць свайго меншага — Саўку, які перад гэтым уступіў у паліцыю, каб той не «блазнаваў», а ішоў таксама ў лес, у партызаны. Размова скончылася тым, што Саўка схапіў вінтоўку...

Кузьма выскачыў з хаты, кінуўся за хлеў...

Між братамі пачалася перастрэлка...

Мархута таксама выбегла з хаты, хацела памірыць сваіх дзяцей.

Ды дзе там!..

Раззлаваныя, раз'ятраныя, сыны, вельмі можа на-

ват быць, і не чулі зусім матчынага крыку, крыку-просьбы, крыку-адчаю:

— Сыночкі!..

...Даўно няма ўжо вайны. Няма і абодвух Мархуціных сыноў — для іх тая вайна з немцамі была першая і апошняя. Кузьма загінуў па-геройску ў партызанах, калі хадзіў на падрыў чыгуначнага моста. Склаў сваю неразумную галаву і Саўка — яго прыстрэлілі сабураўцы, калі кіраваліся рэйдам праз нашую вёску, на Украіну. І толькі іхняя маці — Мархута — асталася жыць...

## ЧЫМ ПАХНЕ ПОРАХ?..

.Хмурым асеннім днём, вяртаючыся з грыбоў, я прысеў на ўзлеску на пянёк, каб адпачыць. І зусім неспадзявана ўбачыў у траве пачарнелую ад часу гільзу. І ўспомнілася, нахлынула...

...Гэтакім жа хмурым асеннім днём я прыбягаў сюды, на ўзлесак, і тады, перад самым прыходам у нашую вёску немцаў. Тут, на ўзлеску, быў бой — нашы вайскоўцы, адступаючы, сутыкнуліся з немцамі. Немцы ўцяклі. Адступілі, захапіўшы з сабою параненых, і нашы... І мы, хлапчукі, счакаўшы які дзень, пабеглі на ўзлесак, на месца бою. Лазілі па кустах, неглыбокіх свежых акопчыках — збіралі адстраляныя гільзы. Панюхаўшы адну з іх, я крыкнуў:

— Хлопцы, а чым гэта гільзы так пахнуць?

Нехта са старэйшых таўхануў мяне ў плячо, сказаў са злосцю:

— Не крычы! Порахам пахнуць...

Я знайшоў некалькі, мусіць, згубленых у спешцы патронаў, выняў з іх кулі, высыпаў на далонь порах, панюхаў яго. Але пытацца, чым пахне порах,— не асмеліўся...

...Прайшлі гады. Я перажыў акупацыю, пабываў за калючым дротам у фашысцкіх лагерах, бачыў, як гарэлі хаты, гінулі дарослыя і дзеці. І чым пахне порах, я ўжо ведаю. Добра ведаю. І калі мяне хто-небудзь пытае, чым пахне порах, я адказваю:

— Смерцю. Вайной і смерцю...

## АСІРАЦЕЛЫЯ СЕЛІШЧЫ

Іх, гэтых селішчаў, некалькі ў нашай вёсцы. Адно каля самага лесу па дарозе ў Шапчынскі бор; два — у канцы вёскі, там дзе некалі, да вайны, стаяў, абчапляны махрыстымі ручнікамі, крыж; пяць ці шэсць — проста па вёсцы. На некаторых з іх яшчэ знаць печышчы — грудкі абы як зваленай, укрытай травою, бур'янам, палыном цэглы; на некаторых — і печышчаў ужо няма, растуць толькі дзе адзінокая, рачкаватая груша-дзічка, дзе купка вішняку, дзе куст маліннiку, бэзу. Гэта ўсё, што асталося ад колішніх упарадкаваных людскіх сядзібаў, двароў...

І калі б я ні ішоў міма гэтых пакінутых, забытых селішчаў, сціснецца сэрца, агорне сум.

Успомняцца хаты, што некалі тут стаялі, тыя людзі, што ў іх жылі... Дзядзькі, цёткі, дзеці... І вось нікога, нічога не асталося. Хаты пагарэлі ў вайну, а людзі... Людзей расстралялі, павесілі карнікі ці звезлі ў Нямеччыну, і яны адтуль ужо не вярнуліся — каго забіла ў бамбёжку, хто згібеў за калючым дротам... Гэтых людзей ні родныя, ні сваякі ўжо даўно не чакаюць. Чакай не чакай — не вернуцца яны, бо іх няма на гэтым свеце... Няма!

І толькі селішчы не хочуць нікому, нічому верыць. Чакаюць, упарта чакаюць гаспадароў...

...Быў я ў Хатыні. Быў на месцы многіх другіх вёсак, што былі спалены ў гады вайны разам з людзьмі і дзе ніхто пасля перамогі так і не паставіў ні адной хаты — буяе трава, расце лес...

Бачыць незагойныя раны вайны — асірацелыя, незабудаваныя людскія сядзібы, дзе б яны ні былі, балюча, да слёз балюча... Асабліва тым, хто перажыў фашысцкую навалу, ведае, што такое вайна...

## ПАРАХНЯ

Я і цяпер іншы раз яго сустракаю, калі прыязджаю дадому, у сваю вёску, і іду, бывае, куды-небудзь па вуліцы. Не той, не той ужо ён! Ціхенькі, мякенькі, лагодненькі — да раны прыкладай. І жвавасці, самавітасці той, ранейшай, у яго няма, хоць, здаецца, і тупае яшчэ даволі порстка, накульгваючы, як заўсё-

ды, на карацейшую ад нараджэння правую нагу. Нічога не паробіш — гады! Згледзіць, здараецца, на вуліцы мяне, яшчэ здалёку вітаецца нізкім кіўком галавы і бяжыць, бяжыць прэч — няйнакш баіцца, каб я не спыніўся, не загаварыў, не напомніў таго, пра што ведаем і ён і я...

...У сорак першым годзе, як толькі нападаў снег, да нас у вёску прыехалі карнікі страляць яўрэяў. Яўрэяў у нашай вёсцы жыло тры сям'і, і з імі карнікі расправіліся хутка. Сагналі і дзяцей і дарослых у канец вёскі, да тых ям, дзе людзі капалі на розныя патрэбы гліну, і пастралялі.

Карнікі збіраліся ўжо ад'язджаць, калі да іх падкульгікаў Хведар Парахня — ён жыў на хутары непадалёку ад нашае хаты.

— Шчэ адзін жыдок е,— сказаў ён карнікам.— Дзіця. Жыве тутака ў адной сям'і...

Немцы навастрыліся.

— Вядзі! — загадалі ў наступную хвіліну яны Хведару.

І той павёў... Павёў у наш двор.

Ні маці, ні мы, яе дзеці, нічога пра гэта тады не ведалі. Займаліся кожны сваім у хаце.

Парахня адчыніў дзверы і яшчэ з парога паказаў пальцам на мяне — я акурат сядзеў на падлозе, ладзіў санкі, каб было на чым катацца з горкі.

— Во, во жыдок! — сказаў ён.

Не паспеў я і апамятацца, як мяне схапілі дужыя рукі, павалаклі з хаты. Голага, босага...

Маці кінулася ўслед.

— Гэта няпраўда! Няпраўда-а! — загаласіла, заприычытала яна.— Гэта сын мой, Адась, спытайце ў суседзяў, у людзей!..

Да нашага двара збеглася ледзь не ўся вёска. Прыбег і стараста, Змітрок Когаць...

Доўга, мо з паўгадзіны, пераконвалі карнікаў, што я ніякі не «жыдок», проста ўрадзіўся чарнявы. Але карнікі не спяшаліся мяне адпускаць. Яны вельмі ўважліва агледзелі маю маці — яна таксама чарнявая,— потым абмацалі ў мяне патыліцу, вушы... І... тут жа, не выходзячы з нашага двара, пачалі дапытваць Хведара Парахню, чаму ён зманіў, сказаў няпраўду.

— Ведаеце... Хі-хі,— лісліва спрабаваў хіхікаць Хведар Парахня.— Папужаць трохі хацеў... Збыту ўлетку нямашака. Як толькі сад адцвіце, так і лезе чорная галава...

Мяне карнікі пусцілі, хоць і папамёрз босы я на снезе, а Хведара Парахню забралі з сабою, павезлі ў мястэчка. Праўда, яму нічога таксама не зрабілі — тыдні праз два ён прываloкся дадому...

...На той данос карнікам многія ў нашай вёсцы забыліся ўжо. Але я не-е, не забыўся. І не забудуся. Ніколі не забудуся!

## ДУБЫ

Яны стаялі пры ўездзе ў вёску, на поплаве, трохі ў баку ад дарогі. Стаялі купкаю адзін пры адным — усе тры рослыя, тоўстыя, галлістыя. І калі б я ні вяртаўся дадому — бачыў яшчэ здалёку іх непакорныя, пышныя вяршаліны. Сэрца маё адразу ж напаўнялася радасцю — пройдзе некалькі хвілін, і я буду ў сваёй знаёмай змалку хаце, сярод усяго такога звыклага, роднага, быццам я ніколі нікуды і не выязджаў.

Самыя розныя ўспаміны ажывалі раптам. Пад дубамі мы, вясковыя хлапчукі, як толькі мінала доўгая, халодная зіма, раставаў снег, зелянеў поплаў, пасвілі свінней, раскладвалі вогнішчы, пяклі пячонікі, ляжалі ў цяньку, уставіўшыся вачыма ў бяскрайні блакіт неба, думаючы, марачы кожны пра сваё. Дубы не маўчалі, шумелі лісцем, асабліва калі блізка была навальніца, ліў дождж. Шумелі па-рознаму, то ціха, спаважна, то глуха, трывожна — гледзячы якое было надвор'е, адкуль і як дзьмуў вецер.

— Нешта дубы разгаманіліся,— казалі ў нашай вёсцы і пазіралі на неба: ці не набліжаецца чорная хмара, навальніца?

Ляцелі з лесу ці ў лес птушкі — прысядалі адпачыць на дубах. Затрымліваўся, не мінаў дубоў і калашмай-вецер, падоўгу гушкаўся ў галінах. Восенню, калі жаўцелі палі, прастарнелі лугі, вецер атрасаў з дубоў спачатку жалуды, а потым і лісце. Паднімешся ранењка з пасцелі, прыбяжыш пад дубы, а там — услана жалудамі. Поўнымі, спелымі, нейкімі прадаўгаватымі, як кулі...

З усяе вёскі бывалі ў такую пару пад дубамі людзі. Прыходзілі не толькі збіраць жалуды, але і нанізаць на пруцікі сухое калянае лісце. На лісці, падсцілаючы ім под печы, пяклі ў нашай вёсцы хлеб. Дубовае лісце з усімі яго прожылкамі прыгожа адбівалася на ніжняй скарынцы бохана, і скарынка была вельмі смачная. Смачная і пахла летам, дубамі...

Па дубах, па тым, як яны распускаліся, выкідвалі зялёнае полымя жыцця, вясною гаспадары і гаспадыні меркавалі, што ўжо можна, а што нельга сеяць і садзіць у гародах. Бо дубы — гэта не бярэзнік, не асіннік і нават не алешнік: яны ніколі не памыляліся, чулі, надзейна чулі, павярнула на цяпло ці ўсё яшчэ будзе стаяць на холадзе...

Словам, дубы належалі вёсцы, да іх усе прывыклі, і нават уявіць сабе было цяжка, як можа быць вёска без такой красы — дубоў...

І вось сёлета дубоў не стала — усіх трох у адзін дзень: іх паваліла бура. Наляцела неяк пад вечар знянацку, ды з такой сілай, што не ўстоялі волаты, голлем ляглі на зямлю.

Вяртаючыся з горада ў вёску, я не ўбачыў іх пышных вяршалін. І мне зрабілася як ніколі яшчэ, ні разу, неяк няўтульна, сумна. Да слёз шкада было дубоў, шкада было, што, выспеліўшы тысячы, мільёны жалудоў, дубы не пакінулі на поплаве сваіх нашчадкаў, не ўзгадавалі, не ўзрасцілі такіх жа, як самі, волатаў...

Ах, чаму ж дубы былі такія неабачлівыя, бесклапотныя!..

Дый мы, вяскоўцы, таксама...

Доўга хадзіў я ў той дзень, а потым і ў іншыя дні па поплаве, глядзеў на вывернутыя з карэннямі дубы, і сум мой не мінаўся, не праходзіў...

*1973—1974 гг.*

## З КАЗКІ МАЛЕНСТВА

Маленства!.. Яно, басаногае, горкае і разам з тым шчаслівае, было ў мяне і ў цябе, дарагі чытач. І ў кожнага сваё, непаўторнае і ўсё ж у нечым падоб-

нае: тваё — на маё, а маё — на тваё. Давай жа не забываць яго, наша маленства, час ад часу згадваць, бо, як паспеў я пераканацца, згадваючы маленства, мы неяк дабрэем душой, святлеем думкамі, надзеямі. Маленства — гэта багацце, тая гаючая крыніца, якую носім мы ў сабе і з якой спатольвалі і будзем спатольваць яшчэ не раз прагу жыць.

## КОРШАК

Аднойчы (цяпер мы гэта ведаем — усё пачынаецца раптоўна, нечакана, а д н о й ч ы) твае бацька, маці, браты і сёстры ідуць з дому — хто на працу, хто ў лес па ягады ці па грыбы. Цябе ж, як самага меншага, пакідаюць пільнаваць хату. Вядома, пры гэтым табе наказваюць, раяць, што ты павінен рабіць, а што — не рабіць. Але ты парад тых і наказаў не чуеш, не хочаш іх чуць, бо і аставацца дома таксама не хочаш — хочаш разам з усімі ісці... Куды ісці? Гэта не так і важна, абы толькі не быць дома, не сядзець у сумнай адзіноце двара, не чакаць, калі нарэшце нехта з тваіх хатніх прыйдзе, вернецца дадому і табе можна будзе быць зноў вольным, бегчы, куды табе заманецца. Ты, вядома, не згаджаешся з маці, з бацькам, ты румзаеш, плачаш. Але на твае слёзы не зважаюць. Цябе спярша просяць, угаворваюць, потым строга-настрага загадваюць быць дома, ні на хвіліну не пакідаць двара, пільнаваць хату і... курыцу-квактуху, якая толькі ўчора ці пазаўчора вывела ні то пятнаццаць, ні то дваццаць куранят. Урэшце, калі ты не разумееш, не хочаш зразумець, што менавіта табе сёння трэба астацца дома, і бяжыш услед за маці, бацькам ці, галосячы на ўсю вуліцу, падаеш у пясок і соўгаеш, дрыгаеш нагамі, табе даюць добрых плескачоў і ўсё ж пакідаюць у двары, зачыніўшы на ўсе засовы вароты і весніцы, каб ты не змог іх паадчыняць і збегчы. І ты, папагаласіўшы, папаплакаўшы, паступова супакойваешся, бо ведаеш: бацька і маці далёка ўжо ад хаты, яны не чуюць твайго плачу, і ты хоць лопні, хоць разарвіся — ніхто табе не паможа, не адменіць свайго рашэння. Супакоіўшыся ж і ўсвядоміўшы, што хочаш — не хочаш, а сядзець сёння дома, у сваім двары, усё ж

давядзецца, падымаешся з пяску ці з прызбы — гледзячы, дзе ты сядзеў і глушыў гнеў плачам,— сноўдаешся злосны-злосны па двары. Убачыўшы курыцу-квактуху, што прыпала дзюбаю да вады (вада наліта ў старую, вышчарбленую скавараду), шпурнеш трэскаю ці палкаю. І тут жа пашкадуеш, што зрабіў гэта,— трэска ці палка папала не ў курыцу, а ў куранятка, і яно, маленькае, жоўценькае, пухнаценькае, павалілася на зямлю і, бедненькае, ні ў чым не вінаватае, квола дрыгае ружовенькімі лапкамі. Ты бяжыш да куранятка, бярэш яго ў рукі, нясеш да вады, даеш яму піць. І радуешся, як немаведама чаму, калі куранятка раптам расплюшчвае чорненькія, маленькія, як прасяныя зярняткі, вочкі, ажывае. Ты пускаеш яго на зямлю, яно імчыць да курыцы, якая, ваяўніча натапырыўшы пер'е, стаіць ля паленніцы дроў-рубанцаў, квокча і нешта крычыць, нібыта на кагось лаецца. Нейкі час ты глядзіш на курыцу і куранятак, што пішчаць, бегаюць вакол курыцы, потым зноў сноўдаешся па двары, шукаеш, чым бы заняцца, каб не доўжыўся час. Злепіш з гразі, што пасярод двара і ў якой звычайна качаецца свіння, хатку, збудуеш вакол хаткі паркан, варотцы, мосцік, разбурыш усё гэта і збудуеш нанова... На трэсцы ці цагліне — гэта ў цябе будзе машына! — будзеш вазіць з канца ў канец двара дровы, пілаваць іх кавалкам сталёвага абруча — «пілою» — складваць сваю «паленніцу». Калі ж надакучыць рабіць і гэта, прыдумаеш сабе нейкі новы занятак, яшчэ больш цікавы, вабны. Прыдумаць занятак у маленстве не так і цяжка, бо ўсё, куды ні ўпадзе вока, мае магічную сілу, яно такое, якім бачыш у пазнейшыя гады, і разам з тым не такое — твая фантазія можа ажывіць і нежывое, пабольшыць яго ці зменшыць. Звычайны трасочнік можа раптам ператварыцца ў поле бітвы ці ў казачны луг; слуп, да якога мацуюцца жэрдкі агароджы,— у разбойніка; лужына пасярод двара — у непраходнае балота, а то і ў вялізнае, без канца і краю, мора. І ты са сваёй фантазіяй і ўявай знайшоў бы чым займацца ў двары, аж пакуль не вернуцца бацькі, і табе ані не было б сумна, калі б... Калі б не твой сябрук Петрык ці Паўлік, якога бацькі не пакінулі, як цябе, аднаго дома пільнаваць хату і курыцу і які вольны, бы вецер, і бяжыць купацца на сажалку.

— Міхась! — крычыць сябрук з-пад весніц.— Давай на сажалку!

І ты забываеш на ўсё, што нарадзілі кагадзе твая ўява і фантазія, чым толькі што жыў. Зрываешся з месца, імчыш да сябрука. Бачыш пазачыняныя на засовы вароты, весніцы і ўспамінаеш: бегчы на сажалку табе сёння нельга, цябе пакінулі дома, трэба пільнаваць хату, курыцу... І пра ўсё гэта ты, са слязьмі на вачах і ў голасе, прызнаешся свайму сябруку. Сябрук, вядома, смяецца.

— Ну і што, як табе сказалі пільнаваць хату? — кажа ён.— Хіба хата ўцячэ?

Ты і сам разумееш, што хата нікуды не дзенецца, будзе стаяць там, дзе і стаяла, яе ніхто з месца не зрушыць, нікуды не забярэ.

— Але ж у хату можа залезці злодзей? — кажаш ты.

— А замок на дзвярах навошта?

І тады ты выкладаеш самае апошняе:

— Дык жа... Курыца куранят вывела. Трэба глядзець, каб не пагубляліся, каб коршак не пахапаў...

— Курыца лепш за цябе іх упільнуе. Ну, ды калі так хочаш, аставайся дома. Пасві куранят... Ха-ха... Курыны пастух...

І сябрук, здзекліва пасміхаючыся з цябе, бяжыць на поплаў, туды, дзе лазняк, сажалка. Ты цікуеш за ім праз плот, аж покі сябрук не хаваецца, не знікае за паваротам дарогі. І тады... Тады да цябе не вернецца больш настрой, які быў дагэтуль, і што б ты ні браўся рабіць, табе будзе нецікава. Вось тады і адчуеш па-сапраўднаму, якая гэта пакута быць аднаму дома, пільнаваць хату... І каб патрэба ў тым хоць якая была? А то ж... Зладзеяў не чуваць у вёсцы, ніхто нікога не абкрадае... Коршак? Але хіба коршак ведае, хіба яму хтось сказаў, што менавіта ў нас вывеліся куранята, што бегаюць яны разам з курыцай па двары... Ты будзеш злаваць на маці, бацьку, што яны наказалі табе нікуды не выходзіць, сядзець дома, праклінаць хату, курыцу, усё-ўсё на свеце. І ўрэшце, раззлаваўшыся на ўсё і ўсіх, асцярожненька падыдзеш да весніц і... Не, адчыняць іх не будзеш, а... Паглядзіш на плот, у адзін міг перамахнеш цераз яго і... прыпусціш таксама на сажалку. «Я ненадоўга, я толькі пагляджу, хто там

сёння... Ну і... Можа, пакупаюся...» — думаеш, суцяшаеш сабе ты, бегучы з усіх ног.

Сажалка, атуленая густым лазняком,— на поплаве, у канцы вёскі. Ля сажалкі — поўна тваіх равеснікаў. Тут і Петрык, тут і Паўлік, тут і Косцік, і Марынка, і Вера, якую завуць Рапухаю... І ўсе голыя, як маці нарадзіла. Адны ляжаць у пяску, грэюцца, другія плёскаюцца, боўтаюцца ў вадзе...

— Глядзі, і Міхась прымчаў! — крычыць нехта.

Ты скідаеш з сябе яшчэ на бягу кашулю, штаны, шпурляеш іх на траву і з разгону, падымаючы пырскі, падаеш у ваду. Вада не такая цёплая, як пясок, але і не халодная. Прыемная, празрыстая свежасць абдае ўсё тваё цела, напружвае мускулы, весяліць. Рукою заціскаеш нос, даеш нырца. Выплываеш з-пад вады і зноў, зноў ныраеш. І ўжо не вылазіш з сажалкі, пакуль цела тваё не ўкрыецца пупыркамі, пакуль не пасінееш увесь, як гусіны пуп, не пачнуць біць цябе дрыжыкі. Тады, толькі тады ты вылезеш на бераг, упадзеш у гарачы, як прысак, пясок. Ды і як ты можаш вылезці на бераг, калі Петрыку ўдалося злавіць голымі рукамі жабу, а Паўлік налавіў поўныя прыгаршчы апалонікаў. І ты таксама хочаш нешта злавіць у вадзе, ты ж не горшы за астатніх, ты ж таксама не абы-хто, ты ж спрытнюга...

У пяску доўга не паляжыш, бо раптам хтось прыцягне дошку і, упаўшы на яе жыватом, імкнецца пераплысці сажалку. Калі гэта яму ўдаецца, хоча сваю ўдачу паспрабаваць кожны. Тут чарга. Хто раней стаў у чаргу, той першы і паплыве...

На сажалцы — смех, жарты, словам, весела; і ты не заўважаеш, як мінае дзень, сонца хіліцца на вечар. Тады ты адчуеш, што табе вельмі ж хочацца есці, што трэба, пара бегчы дадому, дахаты. І ўспомніш раптам, што цябе пакідалі пільнаваць хату, курыцу, табе загадвалі не выходзіць з двара, а ты... Што скажа табе маці, што скажа бацька? Вядома, лупцоўкі не мінаваць. Але і лупцоўка бывае розная. Калі ў двары ўсё ў парадку, хата на замку, а курыца з куранятамі на прызбе і ні адно куранятка нідзе не згубілася, не знёс яго коршак, то лупцоўка лёгкая, яна так, для прыліку. А калі... Ідзеш дадому — і ногі не нясуць цябе. Хочацца есці і не есці. Хіба ўзяць ды пачакаць? Чаго пача-

каць — і сам не ведаеш. І ты б пачакаў, не спяшаўся ісці дахаты, калі б не голад, што неяк дужа ж падцягвае жывот. І ты, хоць і неахвотна, быццам на смерць, а сунешся, ідзеш...

Зрэдку, праўда, табе ўдаецца ўспомніць раней, не ўвечары, што цябе пакідалі пільнаваць хату і курыцу. І ты, пабоўтаўшыся трохі ў вадзе, паляжаўшы ў гарачым, як прысак, пяску, вяртаешся дадому, у свой двор. Ні бацькі, ні маці, хвала богу, яшчэ дома няма, і ты радуешся, што вось жа на сажалцы пабыў, пакупаўся, і пра тое, што ты быў на сажалцы, ніхто з родных не ведае і не будзе ведаць, ніхто на цябе не насварыцца, што ты парушыў наказ, сыходзіў з дому. Лупцоўкі, вядома, чакаць не трэба, можа, нават маці ці бацька пахваляць цябе, скажуць, які ты малайчына...

Ты загадзя смакуеш ужо сваю перамогу, тое, як табе ўдалося хітра абвесці вакол пальца бацьку і маці, і ідзеш, ідзеш па сваім двары, каб паглядзець, ці на месцы на хаце замок, ці не збегла з двара куды-небудзь курыца з куранятамі. І раптам — ты аж слупянееш ад нечаканасці! — з-пад самых тваіх ног, абдаючы цябе ветрам, падымаецца вялізны шэры коршак. І ў кіпцюрах у гэтага коршака — ты гэта бачыш! — маленькае жоўтае куранятка. Ад перапалоху, страху, ты крычыш і, не ведаючы, як памагчы кураняці, бяжыш услед за коршакам. Той не спадзяваўся, што ты так рана прыйдзеш, вернешся ў свой двор, будзеш крычаць, бегчы за ім,— і выпускае недзе ўжо за хлявом у бульбоўнік з кіпцюроў куранятка. Ты хапаеш яго ў рукі, бяжыш назад у двор, мочыш дзюбку ў ваду... Позна! Куранятка хоць і цёплае яшчэ, але ўжо нежывое...

І тады, апамятаўшыся, ты гойсаеш па двары, шукаеш, дзе з астатнімі куранятамі курыца. І знаходзіш яе ў самым неспадзяваным месцы — у нары, што выкапаў сабака ці вырыла свіння лычам пад прызбаю хаты, у хляве ці ў градах, дзе лапушыста паразрасталіся буракі і гуркоўнік і дзе можна схавацца, каб не ўбачыў коршак. Спехам пералічваеш куранят і раз, і два, і тры... І кожны раз недалічваешся ні то чатырох, ні то пяці... Значыцца, іх таксама за той час, што не было цябе дома, пацягаў у сваё гняздо коршак!..

Вечара чакаеш, як смерці. Выдумваеш розныя гі-

сторыі, чаму цябе не было дома, чаму ты не быў, правільней, змушаны быў не быць, пакінуў на хвілінку, на адну толькі хвілінку двор, хату, курыцу... І адчуваеш: ні аднаму твайму слову ні маці, ні бацька не паверацъ. А значыцца, не памогуць сёння табе ні твой плач, ні просьбы, што ты так болей рабіць ніколі не будзеш, як зрабіў. Нішто, нішто табе не паможа! Добра, калі хопіць у цябе мужнасці дачакацца ў двары бацькоў, расказаць ім праўду. Часцей жа, згледзеўшы, што нехта з іх ідзе, кіруецца да свайго двара, ты пульнеш з усіх ног у лес ці схаваешся ў разору, у бульбоўнік. І да самага змярку не падасі голасу, не пакажашся нікому на вочы, будзеш ляжаць стаіўшыся — і не дыхаць нават. А бацькі твае спярша будуць злавацца, што цябе зноў — каторы ўжо раз! — няма дома, збірацца добранька адлупцаваць, як толькі ты з'явішся ў двор. Выявіўшы, што не хапае чатырох ці пяці куранят, зусім разгневаюцца, пачнуць між сабою сварыцца: трэба было пакідаць цябе аднаго дома ці лепш было б астацца яшчэ каму-небудзь, нават папрасіць, можа, каго з суседзяў... Злосць і гнеў паступова спадаюць, іх месца заступае клопат, дзе падзелася іхняе няшчаснае дзіця, гэта значыцца, ты. «Можа, дзе ўтапілася,— выкажа здагадку маці.— А што? Убачыла, што коршак гэтулькі шкоды нарабіў, і сышло з дому! Бо ты,— гэта ўжо да бацькі! — ніколі з ім толкам не пагаварыў, як толькі што — хапаешся за папругу!» І маці заплача, загалосіць. Ціхенька, крыўдліва, потым усё мацней, жаласлівей. «Ліха з імі, з тымі куранятамі! Я яшчэ курыцу пасаджу, выведзе! Знайшлося б, вярнулася б толькі дзіця!» І зноў пачне папракаць бацьку за строгасць — не дзіва, вунь дзіця пачало баяцца ўжо сваіх бацькоў, баяцца сказаць ім праўду. Ды хіба ж яно, дзіця, хацела, каб коршак пахапаў куранят? Можа, яно і ў двары было, нікуды не сыходзіла з дому, а зрабіць з драпежнікам так нічога і не змагло...

Недзе на змярку, калі на поле, на траву ападзе халодная раса і маці з бацькам, абгледзеўшы, аблазіўшы гарышча і хлеў, будуць збірацца ісці шукаць цябе ў лес ці на сажалку, ты не вытрымаеш, пакінеш сваю схованъ і памалу, нага за нагу, вінавата папляцешся да свайго двара, у хату. Табе, напэўна ж, гэты

раз пашанцуе, ніхто цябе ні ў чым не папракне, не адлупцуе. А можа, і папракне, можа, і адлупцуе? Але не гэта, зусім не гэта будзе цябе ўжо хвалявацъ, клапаціць. Бо ты ведаеш — усё было б добра, як найлепш, ніхто цябе ні ў чым не папракнуў бы, слова дрэннага не падумаў бы нават сказаць, каб не той ненавісны шэры зладзюгман — коршак...

Коршак! Ён не будзе выходзіць з галавы, будзе займаць твае думкі, сніцца па начах, аж пакуль... Словам, даведаўшыся, што сёння ты не патрэбен дома, можаш выпульвацца на ўсе чатыры, ты кінеш свае дзіцячыя забавы, забудзешся пра сажалку і пойдзеш у лес. Пойдзеш, каб знайсці коршакава гняздо. А знайшоўшы, адпомсціш коршаку. За ўсё, за ўсё адпомсціш!..

Не буду прадугадваць падзеі, не буду расказваць, як ты будзеш помсціць свайму лютаму ворагу, злыдню-коршаку. Раскажу лепей, як аднаго разу помсціў яму я...

...Тое было даўнавата ўжо, гадоў трыццаць таму назад. Але ані-ані не забываецца, помніцца, ды яшчэ як помніцца! І дуб той на ўскрайку лесу, тоўсты, карысты, і гняздо, намошчанае з сухога галля ў самым вільчыку, і я, зусім яшчэ хлапчук у белых палатняных штоніках і такой жа кашульцы, пад дубам тым... Доўга хадзіў я па ўзлеску, прымерваўся, як узабрацца на той дуб. Там, дзе суччa, галлё, я бадай што спраўлюся, там лезці будзе лёгка. Дастаў рукамі сук, падцягнуўся, лёг на яго, выпрастаўся, зноў рукамі дастаў, цяпер ужо новы сук... А вось да сучча як дабрацца? Камель у дуба тоўсты, яго не абхопіш ні рукамі, ні нагамі. Да таго ж кара, кара якая! Парэпалася, патрэскалася, месцамі паабрастала мохам. Ды і высока ж — да сучча сама меней метраў пяць-шэсць. Ведаў коршак, якое дрэва выбраць сабе пад гняздо. Не кожны, хто захоча ўзабрацца на дуб,— узбярэцца...

Паспрабаваў я лезці па кары камля, але, пралезшы метры са два, адчуў: не здолею. Ссунуўся ўніз, на зямлю,— і абадраў да крыві рукі, парваў на грудзях кашулю...

«Трэба астрова, добрая сукаватая астрова ці драбіны... Толькі яны, толькі яны памогуць, выратуюць мяне!»

Драбіны дома ў нас былі. Але іх трэба прыцягнуць у лес. Ці спраўлюся я адзін гэта зрабіць? А скажаш каму, навошта драбіны, возьмецца хтось памагаць... Тады якая ж гэта помста будзе коршаку! Коршак зрабіў зло мне, і я адзін, адзін павінен яго пакараць!

Я кінуўся шукаць астрову. І — паверыце — знайшоў. Прычым недалёка, ля тых трох дубоў, на якіх стаялі калодачныя вуллі. Мусіць, пчаляр, лазячы да пчол, высек сабе астрову. І хаваў яе, каб не кожны, убачыўшы вуллі, мог залезці да пчол. Астрова была сухая, не вельмі цяжкая, сукаватая — па ёй латва лазіць, гэта я здагадаўся адразу ж. І, прыцягнуўшы яе да дуба, сяк-так падняў, прыставіў да камля. Астрова даставала ледзь не да самых сукоў. Палез па астрове, потым, дастаўшы рукамі сук, усеўся на яго. Аддыхаўся — і вышэй, вышэй...

Хутка я быў ужо ў вільчыку, ля самага коршакавага гнязда. Але гэта з зямлі яно здавалася невялікім. На самай жа справе яно амаль такое ж, як і ў бусла,— шырокае, ёмістае. Перагнуцца і паглядзець, што ў гняздзе, нельга — замінае галлё. Я пацягнуў за ламачыну, намерыўся разбурыць гняздо. І ў тую ж хвіліну ўбачыў каршучыху — яна, аказваецца, сядзела ў гняздзе. Шэрая, вачастая... Вось яна распасцёрла крылы, натапырыла пер'е, прахрыпела нешта, вуркнула і скочыла на мяне... Добра, што я паспеў схаваць галаву за сук. Інакш бы... Я не ведаю, што было б інакш.

«Так яна і забіць мяне можа,— падумаў я, убачыўшы пагрозліва растапыраныя каршучыныя кіпцюры і вострую, касцістую дзюбу.— Трэба, пакуль не позна, злезці з дуба, пашукаць палку! Палкаю можна і каршучыху аперазаць, і гняздо спрытней разбураць...»

Паволі, каб не зваліцца з якога-небудзь сука, я злез з дуба, знайшоў даволі ёмкую палку. Але як з ёю, палкаю, узбірацца зноў на дуб? Адна ж рука занята, трэба ў ёй увесь час трымаць палку. Па астрове ўзбірацца яшчэ можна так. Але ў галлі?.. Заткнуў палку за пояс, палез. Ды як толькі ўзяўся рукамі за сук — палка зачапілася за кару, не дае сагнуцца. Ледзь не зваліўся. Але прага адпомсціць коршаку такая неадольная, што я гатовы на ўсё. І я дабіраюся ўсё ж зноў у самы вільчык, да гнязда. Праўда, цяпер я за-

ўважаю, што ў гняздзе не адна каршучыха,— там сядзіць ужо і коршак. Ды гэта, можа, і лепш, хай бачыць зладзюга, што я зраблю з яго гняздом, хай ведае, як хапаць куранят...

Я замахваюся палкаю, і коршак з каршучыхаю ўзлятваюць з гнязда. Пакуль яны спрабуюць разабрацца, што далей і як буду я рабіць, я палкаю разварочваю гняздо і бачу, як з яго з піскам нешта падае, гэпаецца аб зямлю.

«Ага, гэта іхняе дзіця, птушаня!» — шалею я ад радасці.

Гняздо, прапоранае маёю палкаю, скасабочваецца, з яго сыплецца труха, трапляе ў вочы. Я пачынаю іх церці і... аж енчу ад болю — у плечы мне ўпіліся кіпцюры, і коршак сваёю сталёваю дзюбаю дзяўбе мяне ў галаву. Наводмаш б'ю кулаком па коршаку. Той узлятае, з крыкам носіцца нада мною і гняздом. Я выцягваю з гнязда палку, махаю ёю. І адчуваю — нешта цёплае, ліпкае паўзе ў мяне па плячах, з галавы... Цягнуся рукою да таго цёплага і жахаюся: «Кроў!»

Гэта паддае мне сілы, ахвоты, смеласці, злосці. І хоць коршак з каршучыхаю носяцца нада мною, сядзяцца на гняздо, кідаюцца, як усё адно сабакі, на мяне, фыркаюць, хрыпяць, крычаць, я не спыняю сваёй работы, разварочваю і разварочваю гняздо. Урэшце яно, скранутае са свайго месца, падае ўніз, на зямлю, абсыпаўшы ўсяго мяне смеццем, трухой. Разам з гняздом падае і мая палка...

І гэта заўважаю не толькі я. Гэта заўважаюць і коршакі, якія носяцца, лётаюць і лётаюць нада мною, садзяцца мне на спіну, хочуць пацэліць дзюбай і кіпцюрамі ў галаву. Мо таму, што яна чорная, калматая і падобная на іхняе гняздо...

Я адганяю ад сябе коршакаў рукамі, выгінаюся, хаваю галаву то за адзін, то за другі сук... І не вытрымліваю раўнавагі — зрываюся з сука, лячу, падаю на зямлю...

...Ачынаюся я ў траве. У мяне баліць у грудзях, я не магу дыхаць, не магу нават плакаць. «М-ма... М-ма-ма!» — крычу я, і дыханне маё прарываецца, я ўжо дыхаю. Але ў грудзях — схлуплена і баліць-баліць... Баліць і галава, баліць і спіна, баляць і рукі, ногі. Аглядаю сябе і бачу — я ўвесь у крыві. Акрываў-

леныя і мае штаны, кашуля. «Няўжо мяне дзяўблі коршакі і доле, ляжачага? А мо я так пабіўся, падаючы з дуба?»

Гляджу на дуб — і ў праменнях сонца, якое залаціць вільчык дуба, не бачу больш коршакавага гнязда. І гэта мяне супакойвае, напаўняе сэрца і думкі радасцю. «Усё ж я адпомсціў коршакам. За ўсё, за ўсё адпомсціў! Будуць помніць, век будуць помніць, як хапаць, красці куранят!»

## КАВУНЫ

...Яшчэ не восень. Але ўжо і не лета. Лугі пакошаны, збажына зжата — тут і там жаўцеюць пожняю стрыжаныя палосы поля, стаяць залацістыя, яшчэ не пачарнелыя сціртры саломы, вастраверхія, плячыстабухматыя стагі сена. Дні прыкметна паменшалі, а ночы — пабольшалі. Сонца, хоць, здаецца, па-ранейшаму падымаецца высока ў неба, не такое спякотнае, гарачае, як было зусім-зусім нядаўна; позна яно ўзыходзіць і рана заходзіць. Па вечарах жа, волкіх і росных, клубіцца, кудзеліцца, паўзе адусюль з балот туман. Сажалка не цягне ўжо да сябе, не вабіць у свае цяністыя сховы і нетры лес, мо таму, што на палянах няма вогненна-чырвоных салодкіх суніц, ды і ў чарнічніку толькі хіба дзе-нідзе чарнеюць разбухлыя, перапспелыя, нейкія вадзяністыя, ані не смачныя ягады.

Не ведаю, як хто, а я ў такую пару, бывала, надта ж любіў блукаць па гародзе, садзе. Цвіце жоўтым запозненым кветам агурэчнік, гарбузнік; пузацеюць, круглеюць стручкі фасолі, гароху, бобу; выкінула, сушыць свае кучары-косы кукуруза; шамаціць пабялелымі макаўкамі мак; тужэюць, аж рыпяць, ядраныя качаны капусты; згінаецца, апускае стомленую, пацяжэлую галаву-кружалку сланечнік; таўсцеюць, набіраюцца моцы, аж ірвуць зямлю буракі, морква, бручка; чырванеюць, гараць полымем памідоры; шастае, шамаціць растапыранымі ва ўсе бакі мяцёлкамі ўкроп... На яблынях жа наліваюцца цудадзейнымі сокамі, саладзеюць яблыкі, на грушах мякчэюць грушы, на слівах жаўцеюць ці дымна сінеюць слівы... Ёсць і паглядзець на што, ёсць і пасмакаваць што, ёсць чым і паласавацца. Проста з грады выбіраеш зялёны, кра-

мяны, увесь у пупырках, з белым наляжалым бокам агурок, цярнеш яго аб падол кашулі і хрум зубамі — аж пырсне, пацячэ з роту сок. Ці нагнешся, выцягнеш за зялёную грыўку махрыстага лісця моркву, абскрабеш яе кавалачкам шкла і, ружовенькую, гладзенькую, халодную — толькі што з зямлі! — таксама ў рот. Хрум-хрум, хрум-хрум... Смаката! А то раструшчыш стручок бобу ці гароху, сарвеш макаўку з яшчэ не ацвярдзелымі карычняватымі зярняткамі, скруціш вялізную, што рэшата, кружалку сланечніку... Згледзіш на вішні ў самым вільчыку дзве-тры спелыя-спелыя, аж чорныя, вішні, змайструеш «даставала» — у канец доўгай палкі ўваб'еш цвік і трохі прыгнеш яго — і пазрываеш спакусу. Міжволі пашкадуеш, што не пакінуў, абіраючы некалі, улетку, у галлі больш вішань — эх, цяпер так бы імі ласаваўся! Вядома, настрой у цябе найцудоўнейшы, лепшага і быць не можа. Ды і чаму б не быць яму, таму настрою, калі на цябе ніхто ні за што не сварыцца, нічым не папракае, ніхто нікуды не пасылае. Бацьку і маці не да цябе — яны занятыя, як і заўсёды, а цяпер — асабліва: стаяць жа цёплыя, пагодлівыя дні, і трэба паспець, пакуль не задажджыла, усё і ўсюды зрабіць. І бацька з маці спяшаюцца, робяць — дзесьці штосьці дажынаюць, дзесьці штосьці дакошваюць, дзесьці даграбаюць сена, дабіраюць лён... А то, досвіткам, найчасцей у нядзелю, калі ты яшчэ спіш, бягуць у лес. І з лесу прыносяць паўнюткія — укоптур — кашалі грыбоў. Маці запальвае ў печы, а бацька, пакуль гатуецца снеданне, бярэ табурэт, садзіцца пасярод хаты і перабірае прынесенае з лесу дабро — тугія, як сыр, баравікі (шапачкі ў іх зверху карычняватыя, чорныя, а то і папяляныя, быццам закарычняватыя, чорныя, а то і папяляныя, быццам задымленыя) кладзе асобна, старыя, пазелянелыя ўжо спадыспаду, таксама асобна; асобна, кожны ў сваю купачку, кладуцца і чырвонагаловыя мясістыя падасінавікі, і цыбатыя падбярозавікі, і жоўценькія танюткія лісічкі, і ліпкія масленікі, і сыраежкі, грузды, ваўнянкі. Маці ачышчае грыбы ад зямлі, ігліцы, лісця і каторыя мые ў вадзе, крышыць на скавараду, каб засмажыць (скаварада гарачая і, вядома ж, злосна, на ўсю хату шыпіць!), а каторыя акуратненька садзіць на пасланую жытняй саломкай бляху — потым, калі выпаліцца ў печы і выграбецца жар, маці пастравіць іх су-

шыцца. У хаце пахне сухімі дрывамі, саломай, лесам, грыбамі. І быццам бы трошкі чадна... Маці, як толькі адснедаемся, не трымае нікога дома, выганяе ўсіх «на паветра». Што хочаш, тое і рабі, дзе хочаш, там і гуляй. Кураняты, праз якіх нельга было адлучацца нікуды з селішча, павырасталі ўжо; цыбатыя, не зусім яшчэ апераныя курачкі трымаюцца па-ранейшаму сваёй балбатлівай кампаніі; пеўні ж пачуваюць сябе зусім самастойна, упэўнена — цэлы дзень хрыпата, надрываючы маладыя галасы, крычаць, гарлапаняць ці заядла дзяўбуцца, аж кроў з грабянёў капае. Ныркнеш сюды, ныркнеш туды. І, не знайшоўшы сабе нідзе ніякага занятку, адчыніш весніцы, выйдзеш на вуліцу. Пастаіш ля двара, паглядзіш на скапычаную, заследжаную дарогу — па ёй прагналі ўжо на пашу кароў, авечак, пратупалі, хто спяшаючыся, а хто паволі, нага за нагу, у поле і ў лес людзі; збочыш у раўчук, які ўвесь захламлены абрэзаным вясною з садовых дрэў голлем і зарос травою, конскім шчаўем, крапівою, дзядамі. Выламіш хлёсткі дубчык і пачнеш ім, тым дубчыкам, нібыта шабляю, ссякаць лісце, траву. З асаблівым імпэтам, ахвотаю і нават смакам ссякаеш лісце і парасткі з дзядоў, якія амаль роўныя з табою і ўжо выкінулі свае ружаватыя шышкі, каб вось-вось зацвісці. Чаму ў цябе такая злосць менавіта на гэтых калючых дзядоў, ты і сам не ведаеш, толькі адчуваеш, як прыемна, проста радасна іх сячы. «А вось вам, вось!» — прымаўляеш ты і сячэш, сячэш, аж пакуль ад зялёных, бучных зараснікаў не астанецца цурубалле, здратаваная, стаптаная паляна...

Вернешся зноў на дарогу, акінеш вачыма вясковую вуліцу. Нідзе нікога — ціхата. Толькі хіба, рохкаючы, з вымазаным у гразь бокам, лянiва сунецца кудысь чыясь амаль сонная свіння ды трухае, спяшаецца, разявіўшы рот і высалапіўшы язык, прыблудны сабака. А так больш — нідзе нікога! Усе занятыя, усе штосьці робяць — хто на калгасным полі, хто — у сваім двары. Успомніш Петрыка, Паўліка — яны ж таксама, мусіць, дома, дзе ж ім яшчэ быць, як не дома! — і пабяжыш, памчышся да кагось з іх.

У Петрыка — здараецца ж і такое! — застаеш ты і Паўліка.

— О! — радасна крычаць у адзін голас яны, як

толькі ты адчыняеш весніцы і заходзіш у двор.— А мы збіраліся ўжо бегчы па цябе.

— А што? — насцярожваешся ты.

— Ды нічога...

Але ты адчуваеш, бачыш — не нічога, а чога! Калі збіраліся бегчы па цябе, то, значыцца, ты трэба. Але навошта, навошта ты трэба?

Сябрукі не спяшаюцца гаварыць — марудзяць. І ты не вытрымліваеш — сам выказваеш здагадку:

— Можа, нагледзелі што?.. Сад?

— Не, не сад,— круціць круглаю, стрыжанаю нажніцамі — у рады — галавою Петрык.

— Гарод?

— І не гарод.

Што ж яшчэ можа быць, чаму збіраліся бегчы па цябе сябрукі? Ты думаеш то пра адно, то пра другое і ўрэшце зусім губляешся ў здагадках. Выручае Паўлік.

— Кавуны,— як не шэпча ён сваім шчарбатым ротам.— У калгасе...

Што сёлета сеялі ў калгасе на Цімаховым расцяробе кавуны — гэта ты чуў. Успамінаеш — пра кавуны гаварылі неяк вясною за сталом маці з бацькам: «Ці паспеюць яны толькі ў нас?» — «Аграном не проста так сее, мусіць жа, ведае».— «Мо і ведае. Пабачым...»

— А хіба кавуны паспелі? — пытаеш ты.

— Паўлік кажа — паспелі...

Ты глядзіш на Паўліка, на яго аблуплены ад сонца, пасіверашы нос, на тонкія, аж чорныя ад загару рукі, босыя, у цыпках, парэпаныя ногі.

— Адкуль ты ведаеш, што паспелі?

— Бацьку хадзіў я сустракаць, калі ён з лесу дадому вяртаўся, дык бачыў... Паласеюць скрозь на полі кавуны. І ладнаватыя ўжо. Некаторыя — бы гарбузы ў нашым гародзе.

— Але ці спелыя яны?

— Мусіць жа, спелыя, калі такія параслі...

— Ага,— агакаеш ты, і ў галаве ў цябе ўзнікае раптам цэлы рой думак. Ты ведаеш — каб сказаць, спелы кавун ці няспелы, трэба яго разрэзаць і пакаштаваць. Але ж... Перш чым разрэзаць, трэба мець што разразаць. А каб мець што разразаць, трэба... М-м... Яно залезці ў кавуны не так і цяжка. Асабліва калі мі-

нуць лужок, паспрабаваць зрабіць налёт на Цімахоў расцяроб з алешніку, лазняку. Ды... Ды паблізу ж Цімаховага расцяробу калгасны сад, а ў садзе — вартаўнік. І не абы-які вартаўнік, а вартаўнік са стрэльбаю — дзядзька Кузьма. Як перахітрыць яго, як зрабіць так, каб і кавун адарваць і каб вартаўнік не ўбачыў, не пазнаў?..

Сякі-такі вопыт скрытных набегаў у чужыя сады і гароды, вядома, ёсць у цябе. Ёсць ён і ў Паўліка, і ў Петрыка. У кожнага свой. Бо, бывала ж, лазілі ў чужыя сады і гароды і кампаніямі, і па адным — як калі выпадала. Але ж то былі сады і гароды суседскія, людскія. А гэта ж... Гэта ж калгаснае... Ды яшчэ і кавуны... І блізка, зусім блізка вартаўнік, вартаўнік са стрэльбаю, дзядзька Кузьма...

— Паспрабаваць, вядома, можна,— урэшце цэдзіш ты праз зубы, нібыта згаджаешся і не згаджаешся.

— Канечне, можна! — жвавее Паўлік.— Я адарваў бы кавун, каб не бацька. Не даў ён. Кажа, гэта кавуны агульныя, усёй вёскі, нельга іх рваць...

— Твой бацька вельмі правільны чалавек. Ён чужога і макулінкі не возьме. Пра гэта маці мая кажа,— шморгае носам Петрык.

— Ум-гы,— згаджаешся з Петрыкам і ты, бо таксама неаднойчы чуў, як гаварылі пра Паўлікавага бацьку — «такі ўжо часняга, такі часняга, як, можа, няма другога такога нідзе».

Нейкі час вы яшчэ абмяркоўваеце, варта ці не варта лезці ў калгасныя кавуны, а калі варта — то як лепей гэта зрабіць, каб і кавуноў нарваць, і на вочы дзядзьку Кузьму не трапіць. Ну, а потым...

...Потым адзін за адным, «гуськом», падаючы на зямлю і тут жа зноў падхопліваючыся, папрыгінаўшыся, будзеце красціся да таго Цімаховага расцяробу — поля, дзе раскашуюцца, «паласацеюць» кавуны. Людскія гароды мінаюцца хутка і без прыгод. Без прыгод перабягаеце і даўно скошаны, парослы зялёнаю кволаю атаваю лужок. І толькі перад лазняком, гушчаром на хвіліну прыпыніцеся.

— Тут жа гадзюкі плодзяцца! — прашэпча нехта з вас ціха, таямніча і разам з тым спалохана.

І хоць, патаптаўшыся на месцы, вы ўсё ж ныркеце ў змрочную прахалоду зялёнага голля,ісці вы будзеце

не так, як ішлі ці беглі дагэтуль, а з асцярогаю, нібыта па гарачай блясе ці па распаленым да чырвані вуголлі. І калі чыя нага наступіць на халодны, слізкі корань — усіх вас скалане міжвольны крык:

— Ой!

Адразу ж кожны спыніцца, паглядзіць са страхам на таго, хто не вытрымаў, крыкнуў.

— Што, гадзюка?

— Ды не, на корань наступіў...

І ад радасці, што нага наступіла не на гадзюку, а на корань, засмяецца. Засмяецеся і вы ўсе.

— Га-га-га... Можа, і няма тут ніякіх гадзюк. Можа, бацькі палохаюць нас, каб мы не адлучаліся з дому, не хадзілі абы-дзе,— скажаш ты.

І табе паверыць, бо трэба паверыць, каб не баяцца, каб думаць не пра гадзюк, а пра тое, як непрыкметна выскачыць на поле — Цімахоў расцяроб — і залезці ў кавуны. Астатні кавалак дарогі па гушчары прабягаеце хутка, толькі патрэсквае пад нагамі сухое шыллё...

Перад полем зноў спыніцеся.

— Па адным ці разам? — падасць хтосьці з вас голас.

— Давайце... Давайце разам...

І... і пабяжыце на поле. О непаўторны, незабыўны момант! Помніце — сэрца як не выскоквае з грудзей, ад трывогі, хвалявання аж дыхаць няма чым. Зіркнеш у адзін, у другі бок — ці няма поблізу каго-небудзь, ці не бачыць цябе хтось? — і імчыш, імчыш, не чуючы пад сабою ног, па полі. Вось ты падбег да аднаго кавуна, але ён здаўся табе малым, няспелым. Кідаешся да другога, трэцяга... А іх, іх... Аж вочы разбягаюцца. Ляжаць, вытыркаюцца і з-пад лісця, і ў разоры, і проста на чыстым полі... Нарэшце ты спыніўся, выбраў сабе такі, які быццам бы і шукаў,— не вельмі вялікі, але і не малы, ірвеш яго. Кавун не адрываецца, ты прыгінаешся, перакусваеш хвосцік зубамі. Хапаеш кавун у рукі, трымаеш перад сабою, быццам невядома што, і зноў імчыш з усіх ног, цяпер ужо назад, у гушчар, лазняк.

Там, у гушчары, супакоіўшыся і аддыхаўшыся, успамінаеш, што ты не адзін выбягаў на поле, у кавуны, а з Паўлікам, Петрыкам. Дзе яны? І як, як гэта ты забыўся на сяброў?

І Петрык, і Паўлік, аказваецца, таксама ўжо ў гушчары. І таксама ўспомнілі пра цябе.

— Ау! — абзываецца хтосьці першы.

— Ау! — адгукаешся нясмела і ты.

І ідзяце, набліжаецеся адзін да аднаго. Мінае хвіліна, другая — і вы сыходзіцеся ўсе трое, пачынаеце разглядваць, хто які кавун адарваў, прынёс у гушчар. Кавуны ва ўсіх ладнаватыя і быццам бы на пагляд спелыя. Адышоўшыся ў гушчар, дзе ажыннік, сядаеце ў траву і разразаеце кавуны. Кожны свой. І хоць кавуны круглыя, на пагляд спелыя, але ўсярэдзіне яшчэ белыя, быццам гарбузы. І зярняты таксама белыя. Спрабуеце кавуны на смак — яны ані не салодкія, толькі трошкі нібыта кіславатыя...

— Няспелых нарвалі,— крывіцца нехта з вас.— Давядзецца яшчэ раз выбягаць на поле...

— Ды ўжо ж,— згаджаешся ты і чамусьці азіраешся... І валасы ў цябе на галаве растуць, растуць — зусім блізка, крокаў усяго якіх за дзесяць, стаіць... воўк. А мо і не воўк, а сабака — разбярыся, пазнай, што за чатырохногае, рыжаватае стварэнне, натапырыўшы вушы, глядзіць, не зводзіць з цябе вачэй, тым болей калі ты ведаеш, успамінаеш — непадалёку адсюль старыя конскія могілкі і сюдою, праз гушчар, ваўкі бегаюць і зімою, і летам есці падлу. Колькі разоў было ўжо, што яны рвалі цялят, кароў і свінней, якія выпадкова забрыдалі ў гэты гушчар. І вось цяпер...

— Хлопцы, воўк! — шэпчаш ты.

— Дзе?

— Ды вунь, глядзіць на нас...

І не паспяваеш ты паказаць рукою ў той бок, дзе стаіць воўк, як хлопцы-равеснікі — пырх! — дзе і падзеліся. Тут былі, і тут — іх няма. Ты таксама не астаешся на месцы, бяжыш што ёсць сілы з гушчару, да гародаў — там вёска, людзі. Калі што — выратуюць, абароняць, не дадуць ваўку ўчыніць над табою расправы...

Увечары, калі сядзіш за сталом, ясі маладую, ужо сопкую бульбу з не вельмі яшчэ кіслымі — маласольнымі — гуркамі, ты чуеш, пра што расказвае бацька маці:

— Гэта ж у калгасную кантору сёння я заходзіў,

ага. Там і суседа, Яўмена, з сынам меншым, Паўлікам, бачыў. «Чаго ты тутака сядзіш?» — пытаю. «Ды во, з сынам старшыні калгаса чакаю».— «Чаго раптам?» — «Панімаеш, злодзей у хаце расце,— і паказвае вачыма на Паўліка.— У кавуны калгасныя лазіў. Трэба нешта рабіць, а то сёння ў кавуны, заўтра — у сад, а пасля і ў кішэню чалавеку залезе ці, не дай бог, яшчэ і карову з хлява чыйго выведзе». Ага, пасмяяўся я з Яўмена, а ён заклапочаны такі, ледзь не плача. «Каб у маёй хаце ды злодзей! Не!»

— Яўмен вечна што-небудзь выкіне,— смяецца маці.— Падумаеш, у кавуны дзіця залезла, дык яго трэба да старшыні калгаса весці. І хто — родны бацька?

— Ага, ведаеш, думаў я пра гэта. І скажу табе — каб усе гэтак рабілі, як Яўмен, можа б, дзеці другія выраслі. А так залезе ў чый сад ці гарод — і толькі шкоды наробіць. Бо рве зялёнае, няспелае, і не столькі, колькі яму трэба з'есці, а ў некалькі разоў больш. На дрэвах голле паламае, тыя ж кавуны з карэннямі павырывае, ага... А мы маўчым, не зважаем. Потым пытаемся — адкуль у нас дзеці такія: ні павагі да старэйшага, ні любасці да меншага? Падабаецца табе нешта ў кагосьці, дык можна і не пытаць дазволу — забраў, ды і ўсё...

— Кінь ты. Дзіця ў кавуны залезла... Ну дык і што? Успомні лепш — хіба сам не лазіў у чужыя сады, як малы быў?

— Гэта нічога не значыць, што лазіў. Паверыш, не хацеў бы я, каб маё дзіця шастала па чужых садах альбо каб чыё дзіця ў мой сад лазіла, ага.

— Яно-то так...

Усю гэтую размову ты слухаеш моўчкі, не падымаючы вачэй. «Няўжо Паўлік прызнаўся, што не адзін лазіў у кавуны, а з Петрыкам, з табою? А калі нават яшчэ і не прызнаўся, то ці прызнаецца? Асабліва калі пачне пытаць, адзін ці з кім лазіў ён у кавуны, сам старшыня калгаса? А калі Паўлік усё начыстату расскажа, што зробіць старшыня, як паставіцца да ўсяго твой бацька?» Вячэраеш — і смаку яды не чуеш, сам не свой, душа твая, як кажуць, у пятках — ні жывы ні мёртвы.

«Трэба ж было паслухаць сябрукоў, лезці ў тыя кавуны... Хай бы яны згарэлі...»

Спаць кладзешся адразу ж, вылезшы з-за стала. Але, лёгшы ў пасцель, засынаеш не хутка. У галаве мроіцца абы-што — то табе здаецца, што і цябе вядзе бацька да старшыні калгаса, каб прызнаваўся, расказваў, як лазіў у кавуны; то быццам бы сцябаюць цябе дзягай і прымаўляюць пры гэтым: «Не лезь, куды цябе не просяць, не лезь»; то ты ўцякаеш, а за табою гоніцца са стрэльбаю вартаўнік, дзядзька Кузьма... Не, не вартаўнік нават, а ваўкі, цэлая гайня ваўкоў... Ты прахопліваешся, увесь мокры ад халоднага поту, ляжыш, думаеш, зноў і зноў шкадуеш, што паддаўся спакусе, палез у калгасныя кавуны. «І каб жа хоць спелыя тыя кавуны былі, каб ты іх паеў уволю. А то ж...» Дачакаўшыся ж нарэшце світання, раніцы, бяжыш да Петрыка, расказваеш пра ўсё, што чуў учора ад бацькі. Але Петрык на дзіва спакойны. «Лухта гэта. Ну і што, як да старшыні Паўліка бацька павёў? Падумаеш, знайшоў чым палохаць!» Але адчуваеш ты — Петрык гэта гаворыць, каб супакоіць трохі і цябе, і сябе...

Разам з Петрыкам вы кіруецеся да Паўліка. Ды ў двор так, адразу не заходзіце. Доўга топчацеся ля веснііц, не асмельваючыся іх адчыніць. Толькі пераканаўшыся, што ў двары нікога няма, адзін Паўлік, вы нясмела адчыняеце веснііцы, заходзіце ў двор.

Паўлік сядзіць на ганку, абыякавы, ціхі. І не бяжыць, як бывала, заўсёды, насустрач, а чакае, калі вы самі падыдзеце, наблізіцеся да яго.

— Ну як? — пытаецеся вы з Петрыкам, але не словамі, а вачыма, паглядам.

— Нічога, хлопцы,— не кажа, а шэпча Паўлік.— Не бойцеся, нікога з вас я не выдаў. Я сказаў, што ў кавуны лазіў адзін.

— А старшыня што на гэта? — уздыхаеце, смялееце вы.

— Старшыня?.. Старшыня пацісну́ў майму бацьку руку і супакоіў яго: «Ён больш не палезе. Праўда ж?» — і паглядзеў на мяне. І я... Я сказаў — больш ні ў чый сад і гарод не палезу. І не палезу...

Паўлік апускае вочы долу і маўчыць, толькі неяк плаксіва чмыхае носам. Маўчыце і вы з Петрыкам: Паўлік малайчына, не выдаў вас. І добра, што ўсё тым скончылася. Больш не адзін Паўлік, але і Петрык, і ты ў чужыя сады і гароды не палезеце. Гэта кожны з вас

адчувае, ведае, нават, хоць гаварыць уголас пра гэта, прызнавацца неяк і не хочацца. Ды і хіба няма іншага занятку, што конча трэба кудысь да кагось лазіць? І вы, памаўчаўшы, пагаварыўшы адзін з адным, хутка знаходзіце сабе новы занятак, куды цікавейшы, вартнейшы, а галоўнае — ніхто з дарослых за гэты занятак, гэта вы ведаеце, на вас не насварыцца, не папракне...

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ

...Зіма. Толькі што нападаў снег. На дварэ — бела, аж вочы коле. Белая, нібыта абкладзеная ватай, зямля. Белыя дрэвы. Белыя стрэхі хат. І нават дарога — і тая белая.

Мароз яшчэ не паспеў замураваць шыбы акон, і ты, прачнуўшыся і адчуўшы, што ў хаце неяк нязвыкла светла, падхопліваешся з пасцелі, садзішся наўколенкі на лаўку і глядзіш, глядзіш, не могучы адвесці вачэй, на тое, што, вядома ж, бачыў, і неаднойчы, але што змяніў, зыначыў снег. Ды як, як змяніў, як зыначыў! Глядзіш — і, здаецца, упершыню бачыш і нізенькі, дзе-нідзе пахілы плоцік, і прысадзістую, зрубленую з бярвенцаў-круглякоў сцёбку, што сіратліва стаіць адразу ж за гэтым плоцікам, і разложыстыя, галлістыя яблынькі, і купку вішань, і грушу на ўзмежку, ды і само поле. Чысценька, беленька, быццам і не было зусім нідзе параскіданага шумавіння, гічы, бадылля, трэсак, вырытых то тут, то там ям. І над усім — ты гэта вельмі хутка пачынаеш адчуваць — пануе нейкая як бы святочнасць, урачыстасць. І яна, гэтая святочнасць, гэтая ўрачыстасць, незаўважна перадаецца і табе. І ты сядзіш, нібыта заварожаны, на лаўцы, глядзіш у акно, а ў душы ў цябе гучыць чароўная музыка, ты ўвесь у палоне гэтай музыкі, слухаеш яе, жывеш ёю і на хвіліну забываеш, дзе ты, пра што зусім-зусім нядаўна думаў, мроіў, што цябе хвалявала. І з гэтага дзіўнага, раданага ўтрапення ніштo-нішто не можа цябе ўжо вывесці, нават маці — яна, убачыўшы, што ты прачнуўся і сядзіш босы, у адной начной кашульцы ля акна, крычыць:

— А-я-яй, і колькі ж гэтак можна сядзець?.. Скалеў, калоціцца ўвесь, а сядзіць. А ну ў пасцель!..

І калі нарэшце, ты пачуеш, дойдуць да цябе матчыны словы і ты юркнеш зноў у пасцель, схаваешся пад цёплую коўдру, музыка ўсё адно не знікне, яна будзе гучаць і гучаць у тваёй душы, паступова набываючы пэўнасць, акрэсленасць, пакуль не выльецца ў думкі-словы. «Ага, значыцца, зіма прыйшла. Санкі, лыжы, канькі... Але гэта... гэта не сёння. Гэта потым, калі маразы ўзырацць, калі снег глыбокі ўсюды ляжа. А сёння? Што рабіць, чым заняцца сёння?..» І ты ляжыш ціхенька, бы мыш, адчуваючы, як адыходзіць ад холаду, саграваецца тваё цела, і думаеш, што табе рабіць, чым заняцца сёння, вось зараз, як уднее. І так, нічога ніякага не прыдумаўшы, ты вылезеш з-пад цёплае коўдры, памыешся халоднай, толькі што з калодзежа, аж ледзяною вадой, умосцішся за стол снедаць. На снеданне сёння... Ну, можа быць наварысты, заскварany салам булён з сушанымі белымі грыбамі — з міскі, у якую ён наліты, б'е аж у столь клубамі густая, сытная пара. А можа, маці напякла пульхных пшанічных аладак ці дранікаў, і ты будзеш смакаваць іх з яечняю ці са свежаю, кагадзе знятаю з малака смятанаю. А можа быць і першае, і другое, усё смачнае, бо ты за ноч прагаладаўся, дый яда гатавалася ў печы, пры сухіх бярозавых дрывах, і трошкі гарчыць, аддае дымком. Дымком і печчу, тою вялікаю — на паўхаты — цагля-наю печчу, якою пахне ўсякая яда ў вёсцы. І, сёрбаючы булён, жуючы аладкі ці дранікі, ты зноў жа будзеш думаць, чым бы заняцца, што б такое знайсці рабіць, каб ані не здоўжыўся дзень, каб было цікава, весела. І маці, бачачы, што ты над нечым задумаўся і мачаеш блін не ў міску са смятанай, а ў міску з булёнам, рап-там стукне цябе лыжкаю па лбе:

— Ты што гэта сёння! То ля акна мёрз голы, то блін у булён мачаеш...

І ты, збянтэжаны, прысаромлены, угнеш яшчэ ніжэй у плечы галаву і не падымаеш на маці вачэй, не прызнаешся, нізавошта не прызнаешся, што цябе мучыць, чаму ты сёння такі, не падобны на сябе таго, учарашняга, ранейшага.

Запіўшы яду кубкам сырадою — не летняга, пеністага і цёплага, а халаднаватага, ужо зімовага,— вылезеш з-за стала і... Куды ж падацца, што сёння рабіць? На вуліцу так адразу, як бывала, не пабяжыш —

на дварэ ж снег. Трэба нешта апрануць, абуць. А што апрануць, што абуць? Успамінаеш: валёнкі ў тую леташнюю зіму ў цябе былі. Але ці ўзлезуць на ногі яны сёлета? Дый ці не падраліся яны, ці не аддала іх маці каравачніку, што ездзіў па вёсцы і збіраў рознае не патрэбнае нікому рыззё? Была ў цябе і шапка-абла-вушка, быў і кажушок. Ды дзе, дзе яны цяпер? Хіба папытаць? Але ў каго пытаць? Бацька, каб ведаў, дзе твая цёплая адзежа, сказаў бы, вядома. Ды яму такое неўпамкі. Ён ніколі не стыкаецца дома. Розныя клопаты, турботы гоняць і гоняць яго з дамоўкі. Вось і цяпер, ледзь толькі пад'еў, падаўся ў калгас — у акне мільганула толькі яго камлюкаватая постаць ды зарыпеў пад нагамі неяк надта ж міла і мякка снег. А маці... маці сёння злосная, нядобрая. Лепш не чапаць, ні пра што ў яе не пытаць. Здагадаецца — сама скажа, што мне надзець на вуліцу. А не здагадаецца... Што ж, пабуду, пагуляю ў хаце, дома. Толькі б... Толькі б чым, чым заняцца, што б такое пачаць рабіць, каб не доўжыўся, не цягнуўся бог ведае як дзень?

Клямкнулі дзверы, і ты, азірнуўшыся, бачыш — гэта пайшла з хаты маці. Але куды, куды яна магла пайсці? Момант — і ты ля акна. Прыпаў тварам да халоднай шыбіны і глядзіш, глядзіш на двор. Зноў — каторы ўжо раз! — дзівішся, як змяніўся, перайначыўся падворак, як бела, чыста, весела навокал. Згледзеўшы маці ля свінушніка, здагадваешся — маці пайшла карміць свінней. Вось яна вымела са збітага з дошак карыта дзеркачом снег, выліла з вядра рэдка замешаную на муцэ бульбу, падышла да свінушніка, адчыніла лаз. Свінні — рабенькі, кругленькі, што бочачка, парсючок і доўгая, плоская, быццам дошка, лычастая свіння — выскачылі са свінушніка, кінуліся кулём да карыта. Парсючок адразу ж згаладала прыпадае да яды. Свінні нешта не спадабалася — яна, рохнуўшы, злосна ворсае парсючка лычам пад бок. Парсючок віскнуў, адскочыў ад карыта. Яго месца заняла свіння, ды так нахабна, што аж улезла з нагамі ў яду. Цяпер ужо раззлавалася маці.

— А каб цябе, каб!..— лае яна свінню і апяразвае лазовым дубцом, што так, на ўсякі выпадак, трымала ў руцэ.

Свіння вымае з карыта ногі, але ад яды не адбягае — самавіта есць, смакуючы тое, што вынесла з хаты маці. Да карыта вяртаецца і парсючок. Стаў каля свінні, апускае лыч у карыта. Спахапліва, нібыта хто падганяе, то падымаючы ад яды лычы, то зноў іх апускаючы ў яду, свіння і парсючок упраўна апаражняюць карыта.

Як толькі свінні наядаюцца і маці заганяе іх назад у свінушнік, да карыта збягаюцца куры. Праўду кажучы, куры да карыта збегліся раней, але, пакуль елі свінні, яны не набліжаліся да яды, стаялі збоку, чакалі. Цяпер жа, калі свінней ля карыта няма, там гаспадараць куры. Хапаюць кавалкі бульбы, адбягаюцца ўбок і дзяўбуць, глытаюць. Да карыта падкрадаюцца і нахохленыя, нязвыкла тоўстыя вераб'і, сінічкі і... чырванагрудыя, караткадзюбыя, нейкія надта ж самаўпэўненыя, жвавыя... Няўжо снегіры? Ага, так, так, гэта снегіры...

І тваё сэрца соладка, мляўка заміраё. Ты ўспамінаеш зноў раптам, што гэта ж прыйшла зіма, лёг усюды снег і птушкам няма чаго есці. Яны, галодныя, лётаюць па дварах, шукаюць, дзе б што спажыць. І ты... Ты можаш злавіць любую птушку. Нават таго ж прыгажуна снегіра...

Як злавіць — гэта ты ведаеш: тою ж, ранейшаю зімою лавіў. Трэба злазіць на гарышча, знайсці старое рэшата. Потым узяць аборачку, прывязаць яе да коліка, а колікам падперці рэшата... Насыпаць хлебных крошак на снег, а яшчэ лепш — канапель. Як толькі снягір, дзеўбучы хлебныя крошкі ці каноплі, падлезе пад рэшата, пацягнуць за вяровачку. Рэшата ўпадзе і... накрые сабою снегіра. Дастаць птушку з-пад рэшата і прынесці ў хату — гэта ўжо кожны зможа...

І ты, не чакаючы, калі вернецца ў хату маці, выбягаеш у сенцы, борзда-борзда лезеш па драбінах на гарышча.

На гарышчы — цёмна, і ты хвілін колькі нічога не бачыш, ходзіш там, быццам сляпы. Але паступова вочы твае прывыкаюць да цемры, і ты бачыш звязкі лазы, нейкія лахманы, падвешаныя да крокваў; ногі твае натыкаюцца на скрынкі з-пад пасылак, пафарбаваны ў жоўты колер даўні куфэрак, пакарабачаны, аблезлы чамадан. Але рэшата ты не бачыш. «Дзе, дзе яно?» Аб-

ходзіш і раз, і два гарышча, пільна прыглядаешся да ўсяго, што там ляжыць і вісіць, і, урэшце, знаходзіш тое, што шукаў. Рэшата стаіць каля саменькага лежака, у ім — мякіна. І ты ўспамінаеш: у рэшаце выседжвала сёлета куранят курыца-квактуха... Асцярожна бярэш рэшата, высыпаеш з яго мякіну. І, паглядзеўшы, ці не згніло зусім дно (яно, на тваё шчасце, не згніло, яшчэ даволі моцнае, толькі дзірка збоку невялікая, але ж дзірку можна і залатаць ніткамі ці заткнуць, гэта ж не муку сеяць!), злазіш з рэшатам у руках з гарышча.

Адчыняеш дзверы ў хату — і ніякавееш: маці ж дома. Хаваеш рэшата сабе за спіну, але маці тваю хітрасць бачыць.

— Навошта ты рэшата старое ў хату нясеш? — пытае яна.

— Ды... снегіра хачу злавіць,— прызнаешся ты.

— Снегіра? — І твар у маці святлее, святлее, яна ўсміхаецца.— Ну што ж, лаві. Толькі глядзі, не прастудзіся... А то бачыш, снег лёг, а мы не падрыхтаваліся... Нечаканая сёлета зіма.

— Добра, я не буду стаяць на холадзе. Я ў сенцах.

— А ў сенцах хіба не холадна? Ватоўку маю на плечы накінь...

І распранаецца, падае табе ватоўку. А сама... Сама ідзе да куфра, дастае сваё лепшае, святочнае плацце. На ногі абувае бліскучыя гумовыя боты, надзявае плюшавую жакетку, завязвае хустку-махроўку. Лезе зноў у куфар, корпаецца ў прыскрынку, адлічвае некалькі чырвоных дзесятак грошай. І тады, яшчэ раз агледзеўшы цябе ўсяго з галавы да ног, ідзе з хаты, не забываючы напомніць, каб ты нікуды не хадзіў, быў дома і не прастудзіўся.

— Я хутка вярнуся,— кажа маці, зачыняючы дзверы.

І ты... Ты астаешся дома, адзін. Чаму адзін? А браты, сёстры? Ды іх жа няма з самага досвітку, яны ў школе, на ўроках. Ты спаў, калі яны паснедалі і вымеліся з хаты. Што ж, пра такое толькі марыць можна — астацца ў такі дзень аднаму дома.

Хлеб — на стале, пад ручніком. Ты адразаеш лусту, пальцамі вышчыпваеш мякіш, робіш з яго крошкі. Канаплянае семя — ты гэта таксама ведаеш! — ві-

сіць у мяшочку на бэльцы, каля самай печы. Дастаеш мяшочак, набіраеш жменю семя. Колічак выразаеш з палкі — ну хоць бы з той, што пад акном, па якой улетку плялася фасоля-павітушка. Вось толькі дзе аборку знайсці? Каб была яна доўгая і тонкая... Некалькі хвілін бегаеш па хаце, шукаеш аборку то пад ложкамі, то на печы. Нарэшце, убачыўшы на плоце лапаць з абораю — ён вісіць на штыкеціне з лета, з сенакосу, з таго самага дня, калі бацька хадзіў касіць і абуваў лапці (надта ж мокра было ў балоце, дый у ботах нязручна, ногі прэюць!), выбягаеш на вуліцу, прыносіш лапаць у хату. Выборсваеш абору, прывязваеш да яе колік. Здаецца, сіло гатовае. На ўсякі выпадак расстаўляеш яго ў хаце, падпіраеш спаднізу рэшата колікам — стаіць. Пацягнеш за аборку — колік падае, падае і рэшата. Значыцца, усё ў парадку, можна лавіць снегіра.

Выносіш — рэшата, колік, аборку, хлебныя крошкі, канаплянае семя — з хаты. Дзівішся, як на дварэ свежа, зябка і... холадна. Расстаўляеш сіло, сыплеш хлебныя крошкі, каноплі на снег, прычым так, каб каля рэшата іх было мала, а больш — пад рэшатам. І, яшчэ раз паспрабаваўшы тузаць за аборку і пераканаўшыся, што сіло спраўнае, хаваешся ў сенцы. Дзверы ў сенцах не зачыняеш, бо пільнаваць жа трэба, каб відаць было, ці садзяцца на тваю прынаду птушкі. Вачэй, вядома, з рэшата не зводзіш, ты ўвесь увага, нават забываеш на холад, на тое, што мерзнуць голыя рукі, мерзнуць нос, зубы.

Першы, як правіла, прылятае на прыманку ўвішны, таўсматы верабей. Ён весела скача па снезе, нешта ціўкае, круціць то сюды, то туды галоўкаю, узлятвае, садзіцца на плот, зноў ляціць да рэшата, хапае хлебную крошку, глытае яе. Зноў нешта пішчыць, зноў узлятвае, цяпер садзіцца ўжо на вішню, потым імкліва падае да рэшата. Гэты раз верабей не адзін, з ім яшчэ некалькі жвавых шэрых камочкаў. Яны дзяўбуць крошкі, пішчаць — няйнакш аб нечым між сабою перамаўляюцца. Вераб'і смялеюць, адзін з іх, а потым і другі залазяць пад рэшата. Варта пацягнуць за аборку — і вераб'і ў пастцы, яны твае. Але ж табе трэба не верабей, не вераб'і, а снягір. І ты цярпліва, цярпліва чакаеш...

...І снегіры прылятаюць. Іншы раз адразу ж, услед за вераб'ямі, іншы раз пасля, калі ты прастоіш, стаіўшыся ў сенцах, і гадзіну, і дзве, здубееш на холадзе, аж дрыжыкі пачнуць біць усё тваё цела. Жвавыя, тупаносыя, з чырвонымі пярэднічкамі на грудзях. І, вядома ж, снегіра ты зловіш. Зноў жа, можа, не адразу, можа, толькі з другой, трэцяй спробы... Важна, што снягір усё ж трапіў у рэшата, сядзіць там, спалоханы, і не ведае, што з ім здарылася, і што яму трэба рабіць. Ты імчыш, аж, здаецца, вось-вось выскачыць з грудзей сэрца, да рэшата, прыпадымаеш яго, усаджваеш руку і хапаеш, ловіш снегіра. Ён трапеча крыльцамі, хоча вырвацца, але ты сціскаеш пальцы, чэпка абхопліваеш жывое, цёпленькае, укрытае мяккім пер'ем цельца, бяжыш у хату.

У хаце ты нейкі час трымаеш снегіра ў руцэ, разглядаеш яго. Снягір ніяк не можа пазбыцца спалоху, зразумець, што ж такое з ім здарылася, чаму ён не на волі, там, дзе яго сябры. Круціць сюд-туд галоўкаю, грэбае лапкамі, спрабуе паварушыць крыльцамі, паляцець. Але пальцы твае трымаюць снегіра моцна, учэпіста. Урэшце табе надакучыць трымаць няшчасную птушку ў руцэ, і ты яе выпускаеш. І снягір паляціць. Паляціць па хаце адразу ж туды, дзе светла,— на акно. Гах — глуха стукнецца ён аб шкло і ўпадзе, асунецца, расставіўшы крылле, на падаконнік. Ты падбяжыш да акна, захочаш злавіць птушачку зноў. Але снягір не дасца — паляціць да другога акна, да трэцяга. І ўсюды будзе стукацца аб шкло і не разумець, куды ён трапіў, як выбавіцца з бяды. Калі снягір стоміцца, калі яму не захочацца біцца зноў і зноў аб шкло, ён сядзе дзе-небудзь высока на шасток, сядзе так, каб ты яго не дастаў рукамі. І ты будзеш глядзець на снегіра, і табе зробіцца яго шкада. «Навошта яго злавіў? Навошта пазбавіў сяброў, волі?» І ты адчыніш у хаце дзверы, паспрабуеш выпусціць няшчасную птушачку на волю. Але ж каб тая птушачка хоць штокольвечы разумела! А то ж... Дзверы адчынены, а снягір не ляціць у іх, сядзіць на шастку. Ты бярэш качаргу, зганяеш снегіра з шастка. Але снягір зноў не ляціць у дзверы, а ляціць да акна. Гах — б'ецца з разгону зноў аб шкло. «Так і заб'ецца ён можа. Ці акно па-

біць»,— палохаешся ты і гонішся за снегіром, хочаш, каб ён знайшоў дзверы, паляцеў на волю...

За гэтым заняткам і застае цябе маці.

— Ай-я-яй! — круціць яна галавою, пераступіўшы парог.— Такі вялікі, а чым, чым займаецца?

І, не распранаючыся, не скідваючы жакеткі і не развязваючы хусткі, пачынае памагаць табе выганяць з хаты снегіра. Удваіх выганяць яно куды спрытней. Маці становіцца ў адзін кут, ты — у другі. І снегіру, калі вы пачняце біць у ладкі, махаць рукамі, нічога не астаецца, як паляцець у дзверы і праз сенцы — на вуліцу.

Ты, вядома, не чакаў, што так хутка прыйдзе дадому маці. І цяпер, калі выгналі снегіра і маці зачыніла ў хаце дзверы, чакаеш, што ж будзе далей — будзе на цябе маці сварыцца ці...

— Гэта ж трэба, хату так выстудзіў,— чуеш ты матчын голас.— А ўсё — што занятку ніяк сабе падабраць не можаш...

І з вузла, што прынесла з сабою ў хату, маці раптам дастае новыя валёнкі, палітцэ, цёплае, з каўняром, шапку-вушанку. І яшчэ... Яшчэ прыгожа размаляваную кніжку.

— Гэта ўсё табе я купіла,— кажа ласкава маці.— Не бойся, ідзі сюды, памерай...

І ты, усё яшчэ збянтэжаны, здзіўлены, падыходзіш да лавы, на якую маці палажыла, дастаўшы з вузла, адзежу, мераеш спачатку шапку, потым паліто, а пасля ўжо абуваеш на ногі валёнкі. Усё быццам у самы раз, бы ўсё адно на цябе і пашыта. Вось толькі валёнкі, здаецца, вялікаватыя, шлёпаюць на нагах. Але калі ты кажаш пра гэта маці, яна цябе супакойвае:

— На босую ж ногу ты іх абуваць не будзеш... Шкарпэткі шарсцяныя звяжу. Ды можна і анучкаю мякенькаю нагу абгарнуць...

І ты, стоячы ва ўсім новым, развесялелы, узрадаваны, глядзіш, не зводзіш вачэй з прыгожа размаляванай кніжкі, што ляжыць на лаве.

— А гэта... Гэта каму? — пытаеш урэшце ты ў маці.

— Гэта? Гэта таксама табе,— адказвае маці, ледзь прыкметна ўсміхаючыся, няйнакш таксама радая, што ўсё, што яна купіла, падышло, прыйшлося якраз.

І ты кідаешся да кнігі, хочаш яе пагартаць. Але маці спыняе цябе:

— А рукі памыў? Не, перш чым кнігу браць, трэба памыць рукі. Гэта раз. А потым... Годзе табе байбусаваць. Чытаць, пісаць вучыся...

І сама бярэ ў рукі тую прыгожа размаляваную кнігу.

— Я адзежу ў магазіне купляла, аж бачу — буквары стаяць. То я і купіла табе,— расказвае маці, гартаючы кнігу.— За зіму і чытаць навучышся. Пойдзеш у першы клас — адразу выдатнік, хай другія цябе даганяюць. І якраз кніга тая трапілася, па якой чытаць вучацца. Называецца яна — буквар. Разумееш, буквар. Тут літары ўсе напісаны, значкі такія. Вывучыш іх. З літар складаюцца словы, са слоў — сказы...

Маці і яшчэ б з табою гаварыла, але ў гэты час адчыняюцца дзверы, са школы вяртаюцца твае браты, сёстры. Яны абступаюць цябе, разглядваюць шапку, паліто, валёнкі.

— Ну, добра? — пытаецца маці.

І ўсе згаджаюцца з ёю — добра.

— А то ў школу вас усіх збірала, купляць трэба было кожнаму то сёе, то тое. Цяпер вось чарга і да самага меншага дайшла...

— А буквар, буквар навошта ты купіла? — пытае хтось з большых.

— Буквар? — перапытвае маці.— А каб і яго,— і паказвае вачыма на цябе,— чытаць вучыць. Што ж ён байбусаваць зіму будзе, хай і ён пры вас вучыцца. Вы за стол свае ўрокі рабіць, а ён — свае...

...Увечары, лёгшы ў пасцель, ты доўга не засынаеш. Які сёння незвычайны дзень! Нападаў снег, ты злавіў снегіра, маці купіла шапку, паліто, валёнкі і... кніжку — буквар. Бук-вар! І ў той кніжцы чаго толькі не намалявана! Дзядзькі, цёткі, бручка, рэпка, морква, буракі, памідоры, агуркі, птушкі, звяры розныя-розныя... І чорныя значкі, якія называюцца — літары. А, Б, М, У... Калі літары скласці разам, атрымаюцца словы: ма-ма, та-та...

Засынаеш — і ўсю ноч сніш белае, засыпанае снегам поле і на ім, тым полі,— намаляваных дзядзькоў, цётак, моркву, буракі, памідоры, агуркі, бручку, рэпку, розных-розных звяроў, птушак. І чырванагрудага

снегіра таксама бачыш. Ён жывы — лётае па полі, між тых значкоў, што завуцца літарамі. Складае іх, разлучае.

— А-а,— смяецца снягір.— Мяне злавіць дык ты можаш. А паспрабуй вось літары запомні, чытаць навучыся, га!

Але насмешка снегіра цябе ані не злуе. Ты смяешся разам з ім таксама:

— Гы-гы, другія запамінаюць, то і я запомню. І чытаць навучуся. Вось пабачыш — навучуся!

— Вучыся, вучыся,— кажа неяк надта ж лагодна, паблажліва снягір і гэтак жа, як і ты, весела смяецца.

*1975 г.*

## ПРА АДНАГО ПАЭТА

Цяпер ён — гонар і слава нашай літаратуры. Паэт-рамантык... Паэт-філосаф... Адзін з самых глыбокіх, праніклівых лірыкаў... Некалькі разоў ён заслужана атрымліваў розныя прэміі, а ўрад рэспублікі надаў яму вельмі паважанае ў народзе званне. Вершы яго друкуюцца тысячнымі тыражамі, перакладаюцца на мовы свету. Іх уключаюць у анталогіі, хрэстаматыі, вывучаюць у інстытутах, школах. Закаханыя перапісваюць іх ад рукі, каб пры нагодзе прачытаць «ёй» ці «яму». Кампазітары амаль кожны яго радок кладуць на музыку. Сам паэт, хоць і немалады ўжо, даўно сівы, як лунь, але ўсё яшчэ высокі, стройны, з арліным паглядам вачэй, ціха, задуменна смяецца, калі хто-небудзь напамінае яму пра славу.

— Кіньце! «Быть знаменитым — некрасиво. Не это подымает ввысь»,— цытуе ён звычайна іншых паэтаў.— «Известно, в славе нет блаженства...» І не дасягнуў «я ни в чем того, что так меня тревожит: все кратко на шару земном, и вечно слава жить не может...» Так, так, паэты не памыляліся. І паверце ў маю шчырасць — чаму я бясконца рады, дык гэта хіба што, нарэшце, у мяне ёсць дзе жыць, ёсць дзе праца-

ваць, ёсць што есці. І ёсць таварышы, якія мяне не забываюць, заходзяць, помняць хто я, кім быў некалі...

І паэт, адкінуўшы трохі як бы тэатральна прыгожую, пабеленую інеем гадоў галаву і ўставіўшыся вачыма некуды далёка-далёка, раптам пачынае ўспамінаць тыя дні, калі ён, не вядомы нікому чалавек, упершыню прыехаў у сталіцу. То быў нялёгкі для ўсяе краіны час. Толькі што закончылася доўгая, жудасная вайна. Яна разбурыла гарады і вёскі, пакінула ў сэрцы кожнага незагойныя, крывавыя раны. Не было чаго есці, не было дзе жыць. Сталіца ляжала ў руінах. І ён, паэт, як ні шукаў, не змог знайсці сабе пакойчык. Калі шчыра прызнацца, пакойчык можна было, вядома, знайсці. Прыватнікі, асабліва на ўскраінах, не адмаўлялі тым, у каго былі грошы, было чым плаціць. Але паэт быў «гол, акі сакол». У яго не толькі гуляў у кішэнях вецер, але і не было работы, не было прапіскі. І на першым часе ён асталяваўся жыць у парку. Спаў на лаўках, падклаўшы пад галаву вялікі, даволі ёмісты, абшарпаны партфель. У партфелі месцілася ўсё паэтава багацце — ручнік, кашуля, паўбохана хлеба. Ляжалі там, старанна загорнутыя ў газету, і рукапісы вершаў. Яны, гэтыя рукапісы, і прывялі паэта ў сталіцу. Хацелася паказаць, пачытаць вопытным літаратарам спробы свайго пяра. Паказаць!.. Каму з нас, пісьменнікаў, невядома тое хваляванне! І дзень, і два ходзіш каля рэдакцыі, перш чым асмелішся, набярэшся храбрасці пераступіць парог. Усё здаецца: тое, што ты напісаў,— глупства. І ані не варта назаляцца, паказваць, чаго ніяк, ніяк нельга нікому паказваць... А ў яго, паэта, было не толькі гэтае хваляванне. У яго было яшчэ і хваляванне чалавека, жыццё якога быццам не склалася, пайшло наперакос. Біяграфію яго кожны мог тлумачыць па-свойму... Мог верыць паэту, а мог і не верыць. Ні сведак, якія пацвердзілі б, што тое ці іншае здарылася так, а не гэтак, ні дакументаў ніякіх не было. Так, прынамсі, паэт тады думаў. Вайна застала яго, зусім маладога, нявопытнага салдата, на адной з пагранічных застаў непадалёку ад легендарнай цытадэлі — Брэсцкай крэпасці. У першым жа баі ён быў цяжка кантужаны, паранены ў нагу. Хвала богу, у палон не трапіў — уратаваў хлопчык Віця, што прыехаў на лета з горада да бабулі, якая жыла

непадалёку ад крэпасці ў вёсцы. Віця адшукаў яго, непрытомнага, у кустах і зацягнуў у хату да сваёй бабкі Хадоры. Бабка Хадора і выхадзіла, вылечыла салдата, хоць параненая нага ў яго і перастала згінацца ў калені, як бы адзеравянела. Ды ён быў бязмежна ўдзячны гэтай сардэчнай бабцы і яе ўнуку. Ледзь толькі апратаўся, падаўся на ўсход. Немцы былі пад Масквою, пагаворвалі ўжо: хутка канец вайне. Ён гэтаму не верыў, ведаў па сабе: не скарацца, не стануць на калені такія, як ён. А такіх многа, такі ўвесь народ. Дабраўшыся да вялікага палескага горада, ён усё ж надумаў пачакаць вясны — кульгікаць далей на ўсход ды яшчэ зімою было яму непасільна. Каб не памерці з голаду, падбіваў, латаў людзям абутак. Там жа, у горадзе, зусім выпадкова натрапіў на след падпольшчыкаў, звязаўся з імі. І не пайшоў далей на ўсход. Больш двух гадоў, прыкрываючыся шавецтвам, рабіў усё, што толькі можна было рабіць у тых умовах і абставінах для перамогі. Напрадвесні сорак чацвёртага года, перад самым вызваленнем, падполле пацярпела жахлівы правал. Ён, пачуўшы пра арышты, уцёк з горада ў вёску. Там, у вёсцы, і дачакаўся вызвалення. Тады вярнуўся назад у горад, зноў падбіваў, падшываў людзям іх нядошлы абутак. І пісаў, пісаў, выліваў і выліваў на паперу свой гнеў і сваю радасць ад жыцця на гэтым няўтульным, такім неўладкаваным свеце, заўсёды поўным нечаканасцей і загадак. Скончылася вайна, жыццё пастулова наладжвалася, уваходзіла ў свае берагі, і ён надумаўся падацца ў сталіцу. Падацца з адною толькі мэтаю — паказаць каму-небудзь з вядомых паэтаў тое, чым ён жыў усе гады вайны, што вылілася, лягло на паперу ў словах і рытмах.

— У рэдакцыі, куды я неяк нарэшце усё ж асмеліўся зайсці,— успамінае паэт,— мяне сустрэлі падазрона. Можа, таму, што выгляд у мяне быў неважнецкі, я не ўсяляў асабліва нікому даверу. Дый, як цяпер разумею, я пачаў гаворку не з таго, з чаго трэба было пачынаць. Калі мяне папрасілі пачытаць свае вершы, я сказаў, што зрабіць гэта, на жаль, не магу — я двое сутак нічога не еў. Адзін з супрацоўнікаў рэдакцыі параіў, што, каб такое не здаралася, трэба заўсёды мець на ашчаднай кніжцы грошы. Другі, які перад гэтым вельмі зычна, задзёрыста смяяўся, папрасіў мяне

пакінуць свае вершы. «Зойдзеце як-небудзь,— сказаў ён,— мы пачытаем вашы вершы і скажам, чаго яны варты...» Я, вядома, доўга чакаць не мог — зайшоў у рэдакцыю назаўтра ж. Вершы мае прачыталі, нават некаторыя з іх пахвалілі. Але да друку не прынялі ні радка. «Разумееце, вы пішаце не пра тое, пра што трэба пісаць. Ваш боль і ваша радасць — гэта ваш боль і ваша радасць. А трэба, каб яны былі болем і радасцю ўсіх, усяго народа. Тое, што мы перамаглі ў вайне,— не выпадковасць. Гэта вы разумееце. Але тлумачыце ўсё па-свойму. Вашы плачы, вашы праклёны ворагу не натхняюць. А ў нас гарады і вёскі разбураны, кожная хата, кожная сям'я каго-небудзь ды пахавала ў вайну. Вершы павінны натхняць. Натхняць на новыя подзвігі. Не сыпце соль на раны. Яны і так крывавяць, баляць... Да таго ж, вы збіваецеся з рытму, рыфмоўка часам дзеяслоўная. Гэта даравалася Пушкіну, Лермантаву, але не даруецца нам. Паэзія любіць нечаканасці — параўнанні, алітэрацыі, свежыя росныя словы. І, вядома ж,— думкі, думкі і яшчэ раз думкі!.. І ўсё гэта — у спалучэнні з пачуццём...»

Супрацоўнік рэдакцыі, які гаварыў са мною, быў маг, ён ведаў усё, нават, здавалася, крышачку болей, чым наогул можна ведаць аднаму чалавеку, быў не абы-якім спецам. Мне падумалася: гэта адзін з самых вялікіх нашых паэтаў. Я быў у захапленні, слухаў, лавіў кожнае яго слова. «І не пішыце многа,— раіў мне супрацоўнік.— Здаецца, Леў Талстой сказаў: каб астацца ў літаратуры, дастаткова адной кнігі. Разумееце, адной кнігі!.. Прыклады? Калі ласка — наш Максім Багдановіч, рускія — Цютчаў, Гаршын, Надсан...»

З рэдакцыі я выйшаў хістаючыся. Не так ад голаду, як ад пачутага. Я ніколі не думаў, што ёсць людзі, якія так многа ўсяго ведаюць і якія так ахвотна дзеляцца набытым, назапашаным вопытам з кожным, нават зусім выпадковым чалавекам, якім быў я. «Мне трэба, абавязкова трэба жыць у сталіцы, бліжэй да такіх людзей. Гутаркі з імі ўзбагацяць мяне, нададуць маім вершам пэўны накірунак, сэнс...» — падумаў я.

У той жа дзень паэт-самавук кінуўся шукаць работу. Яму пашанцавала — удалося ўладкавацца ў шавецкую майстэрню. Ён зноў пачаў падбіваць, падшываць абутак. Праз нейкі час, калі завяліся ў кішэні грошы,

наняў на ўскраіне горада пакойчык. І ўвесь вольны час аддаваў паэзіі. Чытаў творы выдатных майстроў слова, а больш за ўсё пісаў сам. Зрэдку, раз у месяц, а то і ў два, заходзіў у рэдакцыю. Не так паказаць свае новыя вершы, як паслухаць, што гавораць пра паэзію і наогул пра літаратуру супрацоўнікі. І заўсёды пакідаў рэдакцыю як учадзеўшы. Кожны з супрацоўнікаў рэдакцыі так многа ўсяго ведаў, што ў нявопытнага літаратара аж галава ішла кругам.

— Дзівіла мяне тады толькі адно, — успамінае паэт,— як гэтулькі ўсяго ведаючы — і пра людзей, і пра час, у які мы жывём, і якой павінна быць літаратура, ні адзін з супрацоўнікаў не сядзе за стол і не напіша шэдэўра... Потым, праз некаторы час, я здагадаўся, у чым сакрэт. Гэтыя людзі, сустракаючыся з многімі вядомымі пісьменнікамі, нахапаліся вяршкоў, наслухаліся розных думак, часам нават вельмі слушных. Але ні адну з гэтых думак не прапусцілі праз сваю душу, сэрца, а значыцца, ні адна з гэтых думак не стала іхняй — сваёй. І таму, ведаючы быццам усё, самі яны асуджаны былі на бясплоднасць. Бо, каб пісаць, трэба не толькі ведаць, што і хто гаварыў пра літаратуру як, пісаў ці піша той ці іншы пісьменнік, але і мець нешта за душой, мець свае думкі. Неабходны і назіранні над жыццём, інакш кажучы, свой вопыт, які памагае сапраўднаму мастаку быць самім сабою, мець пад нагамі цвёрды грунт, не паўтараць ні ў чым нікога... Я, не ведаючы многіх вядомых нават пасрэднаму літаратару ісцін, пісаў, што было ў мяне на душы, пісаў, як умеў. І гэтым, як цяпер разумею, я цікавы, арыгінальны, самабытны. Многае з таго, што ў свой час лічылася недахопам у маіх творах, выстаўляецца як наватарства. Калі мяне надрукавалі, гэта была, як тады пісалі крытыкі, сенсацыя...

Але было гэта пасля, значна пасля. Перад гэтым былі падзеі, якія ў памяці і цяпер у кожнага з нас. Рака жыцця, якую некаторыя спрабавалі зацiснуць у бетон, раптам выйшла з берагоў, разлілася... Загаварылі пра многае, пра што раней не гаварылі. Тады пачулі людзі і пра гераічную абарону Брэсцкай крэпасці, пра тое падполле, дзе паэт значыўся як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў. Невядомага дагэтуль шаўца ўзна-

гародзілі адразу двума баявымі ордэнамі. Яго пачалі запрашаць на радыё, на тэлебачанне, у студэнцкія аўдыторыі, у школьныя класы.

— Усё гэта было мне нязвыкла,— расказвае паэт.— Мала таго, што я не ўмею на людзях прыгожа гаварыць, дык яшчэ і бянтэжуся. А самае галоўнае — выступленні гэтыя забіралі ў мяне ўвесь той час, які раней я аддаваў паэзіі. Сядзець тры-чатыры гадзіны ў дзень за сваім пісьмовым сталом стала ў мяне нормаю. Бывалі дні, што за гэтыя тры-чатыры гадзіны я не пісаў ні радка, але сядзеў за сталом усё адно. І вось гэтых трох-чатырох гадзін у мяне раптам не стала хапаць. Хаця быццам жыццё маё і наладзілася — я атрымаў кватэру, з шавецкае арцелі перайшоў на працу ў адну з рэдакцый. Я сам пачаў бракаваць і прымаць да друку вершы, вучыць кожнага, хто прыходзіў у рэдакцыю, як трэба пісаць, пачаў гаварыць рознае глупства, накшталт таго, што чуў некалі сам ад іншых. І заўважыў — з паэта я раблюся балбатуном. Я ўжо не пішу сам вершаў, а вучу другіх, як трэба пісаць, быццам пісанню вершаў можна кагосьці навучыць... Рэдакцыйнае балота тлумнае. І не робіш, здаецца, асаблівага нічога, а дадому вяртаешся стомлены, знерваваны. Да таго ж розныя плёткі, дзе хто каго за што як... Словам, мне давялося трохі папакутаваць, перш чым я асмеліўся пакінуць работу ў рэдакцыі. Палохала многае, а галоўнае, ці змагу я пісаць зноў так, як пісаў некалі. Я рады, што перамог сябе, што цяпер аддаюся ўвесь паэзіі... Езджу, вядома, у калгасы, сустракаюся з людзьмі працы, вывучаю, дзе толькі можна, жыццё, а больш за ўсё сяджу за сваім звыклым сталом, займаюся тым, чым і павінен займацца кожны паэт,— пішу. І калі гавораць, што мне ўдалося нешта зрабіць, то гэта дзякуючы таму, што я адмовіўся ад многага ў жыцці дзеля паэзіі і вельмі не слухаў тых, хто ўмее прыгожа гаварыць і не ўмее нічога сам рабіць. О, гэта страшныя людзі! Яны навучыліся зваблівa іграць на сваёй дудачцы. А пайдзі за імі — апынешся ў багне, у балоце...

...Іншы раз я сустракаю Яго. На сходах, у пісьменніцкім доме, а то і проста на вуліцы. І не магу, каб нізка не пакланіцца — Чалавеку, Грамадзяніну, Паэту.

*1972 г.*

# ДАВОЛІ ЦІКАВАЯ КАБЕТА

Мой сябар, дырэктар вялікага галантарэйнага магазіна, Барыс Рабушэня, калі я неяк завітаў да яго на працу, водзячы мяне ад прылаўка да прылаўка і расказваючы, дзе, у якім аддзеле і што можна купіць, раптам спыніўся, паказаў вачыма на прыгожую, з густам апранутую маладую жанчыну, што стаяла каля вітрыны і разглядвала сумачкі.

— Звярні ўвагу на вось гэтую жанчыну ў коцікавым футры,— сказаў ён мне пошапкам.— Даволі цікавая кабета! Амаль штодзень заходзіць у наш магазін. Я спытаў аднойчы, што яна шукае. І ведаеш, які быў адказ? «Таварыш дырэктар, у мяне усё ёсць. Не стае хіба толькі... мужа...» І... густа-густа пачырванела...

Праз месяц мой сябар знаёміў мяне з новай сваёю жонкаю — Надзяю. Я амаль не здзівіўся, убачыўшы перад сабою тую... даволі цікавую кабету.

— Цяпер у вас, напэўна, усё ёсць,— сказаў я трохі як бы з падкусам, трымаючы ў сваёй руцэ руку Надзі.

— Але, я не крыўдую на лёс. Боб мяне кахае і не шкадуе нічога,— сказала Надзя і... густа-густа пачырванела.

Нешта вельмі хутка пасля жаніцьбы майго сябра з Надзяю мне выпала доўгая замежная камандзіроўка. Калі я вярнуўся зноў на радзіму, я даведаўся, што мой сябар Барыс Рабушэня не працуе дырэктарам магазіна. На маё пытанне: «Дзе ён?» — мне адказалі: «У турме».— «За што?» — не мог стрымаць я свайго спалоху.— «За растрату!»

Суддзя, які разбіраў справу Барыса Рабушэні і да якога я звярнуўся, каб ён патлумачыў, што ж здарылася з маім сябрам, расказаў мне наступнае:

— Ваш сябар — прастак. Ён, каб дагадзіць новай сваёй жоначцы, цягнуў з магазіна ўсё, што толькі можна было цягнуць. Што ж, сем гадоў, якія ён атрымаў, няхай будуць яму добрай навукай. Вядома, судзіць варта было не аднаго яго, а і жоначку. Тым болей, што ваш сябар не першы, а трэці яе муж, якога яна адпраўляе ў турму за растрату. Але...— Суддзя развёў рукамі.— Няма такога артыкула, па якім можна было б судзіць яе, тую жоначку...

Нядаўна я зусім выпадкова сустрэў былую сябраву жонку, Надзю, яшчэ ў адным, гэты раз ужо ў абутковым, магазіне. Яна... густа-густа пачырванела і зрабіла выгляд, што мяне не пазнала. Дзіва што! Якраз жа ў той момант на прыманку бралася новая «рыбка» — непадалёку ад Надзі стаяў дырэктар абутковага магазіна і з замілаваннем глядзеў, не зводзіў вачэй з яе... гэтай... даволі цікавай кабеты...

*1974 г.*

# ЗЯЛЁНАЕ ДРЭВА

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Калі я ўпершыню надоўга пакідаў свой родны кут, ехаў у горад вучыцца, бацька вывеў мяне з хаты, сказаў:

— А цяпер, сынок, спыніся, паглядзі на хату, у якой ты жыў, на гарод, сад наш. Добранька паглядзі! І на лес вокам кінь, на поле, неба. І ўсё, што ўбачыш, убяры ў сябе, запомні. Бо сюды дадому, у сваю вёску, неаднойчы будзеш вяртацца, калі не наяве, дык у думках. І гэты зварот заўсёды надавацьме радасці, сілы, адвагі...

...Мінае за годам год. А тыя словы, што сказаў, праводзячы мяне ў дарогу, бацька, не забываюцца. Часта-часта ўспамінаю я іх, як успамінаю і вёску тую, дзе я вырас, і ўсё, што некалі ў маленстве бачыў, чуў, звedaў. І думаю: жыццё бацькі — працаўніка, а ў вайну — франтавіка, вязня фашысцкіх турмаў і лагераў,— навучыла мудрасці...

Дзякуй табе, тата, што сваю мудрасць, мудрасць любові і павагі да роднага кутка, да ўсяго-ўсяго нашага, беларускага, ты перадаў, прывіў і мне...

## МЛЫН І СЕЙБІТ

Цяпер нават не магу пэўна сказаць, куды я і з кім тады ехаў. Помню толькі: шырокае, да самага небакраю, поле, дарога, што шызым пыльным паскам то

падымаецца на пагорак, то паволі спадае ў лагчыну. Па ёй, гэтай дарозе, трасецца, паўзе, нагружаная цяжкімі мяхамі збожжа, падвода, на якой сяджу я ці то са сваім бацькам, ці то з дзедам. Вось вынырнула, паказалася ўдалечы нешта дзіўнае — стаіць, махае, быццам вялізная птушка, крыламі — няйнакш спрабуе падняцца ў паветра, паляцець. І не ляціць — стаіць і стаіць на месцы.

— Што гэта такое? — паказваю я рукою наперад.

— Гэта млын. Вятрак,— тлумачаць мне.— Ён меле на муку зерне. А з мукі, ты гэта ведаеш, пякуць смачныя, пульхныя блінцы, аладкі, духмяны хлеб...

Там жа, ля млына, яшчэ праз нейкі час я заўважаю босага, апранутага ва ўсё белае, палатнянае — штаны, доўгую, па калені, кашулю,— старога з сівою барадою, што даволі борзда ходзіць па полі і размашыста сее, рассявае рукою з ліповае сявенькі нейкае насенне...

З той ці не першай далёкай паездкі памяць мая больш нічога не захавала. Але той малюнак — я на мяшках на падводзе, сівенькі белы дзядок, што сее нешта на полі, млын-вятрак наперадзе — не-не дый мільгане, паўстане ў вачах. І як заўсёды апячэ, скалане ўсяго мяне думка: «Чаму, чаму адно зерне павінна легчы ў зямлю, каб набрацца там сіл, прарасці, узгадаваць жменю, прыгаршчы новых зярнят, а другое, такое ж самае зерне, мусіць упасці на каменні млына і быць раздушаным, змолатым на муку? Што гэта — выпадковасць, якому зярняці куды трапіць — у цёплую, пульхную раллю ці на цвёрды, бязлітасны камень млына? А мо — не, не выпадковасць?..»

## КУРЫНАЯ ЛАПКА

З акна маёй кватэры добра відзён гарадскі сквер. Зіма, толькі што выпаў белы пушысты снег. У скверы сабраліся ледзь не з усяго нашага двара дзеці — забаўляюцца з Джэкам, куртатым касалапым сабачкам. Адзін хлопчык, Вася, вынес з дому курыную лапку і трымае яе так, каб Джэк падскокваў угору. Джэк і падскоквае, хоча схапіць лапку, але Вася кожны раз падымае яе вышэй і вышэй, прымушае Джэка падскокваць яшчэ і яшчэ...

Дзецям весела, яны крычаць, раяць Васю, як лепш трымаць курыную лапку, каб сабака падскокваў вышэй. Смех, рогат. Аднаму толькі Джэку не смешна, ані не смешна: вельмі ж смачна пахне яна, тая курыная лапка, і ў Джэка аж цячэ з рота сліна — яму хочацца, да слёз хочацца не праваронiць курынае лапкі, схламаць яе.

Раптам... Ой, я нават у першую хвіліну не паверыў вачам сваім. Джэк падскочыў і схапіў зубамі... Не, не курыную лапку, а Васю, за руку Васю...

Вася заплакаў, выпусціў у снег сабачую спакусу. Але Джэк не схапіў яе, а кінуўся з усіх ног прэч ад Васі, прэч ад усіх дзяцей...

Нехта падняў са снегу курыную лапку, пачаў маніць да сябе сабачку:

— Джэк, Джэк, нá!

Але Джэк нават не азірнуўся — папыліў, папыліў па снезе некуды далей, далей. Маўляў, калі вы хацелі даць мне тую курыную лапку, дык трэба было даваць, навошта было мучыць мяне, пацяшацца, прымушаць, каб я скакаў і скакаў, хапаў і хапаў лапку і не еў, а толькі чуў, як смачна, зваблiва яна пахне...

## ПАДКОВА

Калі я выязджаю з горада і, здараецца, іду палявою дарогай, я заўсёды прыглядаюся, пільна прыглядаюся сабе пад ногі — раптам дзе-небудзь у пяску, у пыле ці на абочыне ў траве ляжыць падкова. Звычайная конская падкова. Даўно, даўно я шукаю, даўно хачу яе мець. Падкова ж, знойдзеная на дарозе, прыносіць шчасце...

Але ці то мала цяпер коней, ці то яны не губляюць падкоў, бо як я ні шукаю, як ні прыглядаюся сабе пад ногі,— падковы не знаходжу.

А мо... Мо шчасце маё не хоча, каб я яго знайшоў?

## ЖУРАВЫ

Уночы над вёскаю ляцелі ў вырай журавы.

— Курлы, курлы, курлы! — крычалі яны з паднябесся і махалі, махалі крыламі, нібыта развіталіся, назаўсёды развіталіся з зямлёю, з тымі балотамі, ля-

самі, палямі, дзе нарадзіліся, дзе спазналі першыя радасці і нягоды, дзе пражылі, прагулялі лепшыя свае леты.

Я сядзеў на прызбе ля хаты, чуў гэтыя журботныя, адчайдушныя крыкі, і мне чамусьці здавалася, што журавы крычаць не «курлы, курлы», а «куды, куды»... Куды, куды ляціце вы, журавы, куды, куды, у якія неведамыя краі нясе вас лёс?.. І куды, куды лячу я сам, ляцім усе мы, людзі, вось каторы ўжо год, каторы век?..

## СІЛА ЖЫЦЦЯ

Вясною, аглядаючы сады, людзі абразаюць з яблынь, груш, сліў галлё і выносяць, выкідаюць у раўчукі. Пазней, калі сады ўкрываюцца лісцем, адцвітаюць, зелянее раптам, зацвітае і абрэзанае, выкінутае ў раўчукі галлё.

І, ходзячы міма, я заўсёды думаю пра тую вялікую сілу жыцця, што закладзена ва ўсім жывым,— нават адрэзаныя ад ствала, пазбаўленыя сокаў каранёў, асуджаныя на смерць, небыццё, галінкі яшчэ некаторы час жывуць, зелянеюць, цвітуць...

І ці не ў гэтай сіле — увесь трагізм і радасць жыцця?..

## ЗАЎТРА

— Ат, няхай... Зраблю гэта заўтра...

Так дні пры дні мы адкладваем і адкладваем многае, што можна было б пры жаданні зрабіць сёння, на заўтра, быццам заўтраў тых наперадзе ў нас — лічыць не злічыць.

Мінаюць дні, тыдні, месяцы, годы... І не зробленага збіраецца ўсё больш і больш, а заўтраў астаецца ўсё менш і менш. І калі наступае старасць, нямогласць, мы з жахам азіраемся назад, на пражытае, і бачым, колькі чаго маглі зрабіць, ды не зрабілі. Не зрабілі толькі таму, што адкладвалі на заўтра...

## ГРУШЫ-ДЗІЧКІ

Па ўсім нашым полі параскіданы, каржакаваценоць то тут, то там грушы-дзічкі. Калючыя, рачкаватыя, нейкія няветлыя, злыя. Але без іх, гэтых груш, нецікавае, голае, было б поле. Лёс груш-дзічак ва многім павучальны. Ніхто іх ніколі не сее, не саджае — узыходзяць самі і растуць, набіраюцца сіл насуперак усім і ўсяму. Іх топчуць коні, выварочваюць, падразаюць плугі. Неаднойчы наязджалі і наязджаюць на іх трактары, аблузвалі і аблузваюць на камлях кару. Дый людзі не шануюць іх надта — узлаваўшыся, гахаюць сякерaю, абламваюць галлё, раскладваюць поблізу вогнішчы. Таму грушы і вырастаюць такія скалечаныя, крывыя, часам аднабокія. І ўсё ж — не іх, а яны, перамагаюць. Перамагаюць, выжываюць і красуюцца па ўсім полі. У поўдзень, у самую спёку, пад цень груш-дзічак збіраюцца людзі — перакусіць, паляжаць у траве, адпачыць. Нагоніць вецер хмару, ліне неспадзявана дождж — зноў жа бягуць хавацца пад густое зялёнае галлё. Не мінаюць груш-дзічак людзі і ўвосень, калі агаляецца, цішэе, пусцее поле, жаўцее, асыпаецца з дрэваў лісце,— на грушах-дзічках якраз даспелі плады. Плады не бог ведае якія, а ўсё ж... Паляжаць дзеньдва ў сене — і з'есці можна, і на зіму ссушыць...

Грушы-дзічкі дамагаюцца свайго, іх прызнаюць, што яны ёсць, без іх не абыходзяцца...

А хіба ж так вырастаюць, адваёўваюць сабе месца пад сонцам адны грушы-дзічкі?..

## ПРАГА ЖЫЦЬ

Мусіць, вы таксама, блукаючы па лесе, неаднойчы бачылі гэткія дрэвы. Ляжаць яны, гвалтоўна спляжаныя бураю, на зямлі. Але ствол... Ствол не зусім яшчэ зламаны, асталася нейкая, часам вельмі танюсенькая, жылка, якая звязвае голле з карэннямі. І дрэва... Дрэва не сохне, дрэва жыве. Больш таго — калі мінае лета, восень, зіма, надыходзіць вясна, дрэва зноў весялее, распускаецца, выкідвае расткі жыцця...

А мы?.. Хіба ж не гэтак і мы трымаемся за жыццё, калі толькі ёсць хоць маленечкая надзея, ёсць яшчэ за што трымацца?!.

## НАША РАДАСЦЬ І ШЧАСЦЕ

Усе мы, падрастаючы, хочам як мага хутчэй пакінуць дом, вёску, горад, дзе нарадзіліся і ўзгадаваліся, вырвацца ў свет. Там, за лясамі, за даламі, нам здаецца ўсё не такое, да чаго мы прывыклі і што нам абрыдла бачыць кожнага дня,— там жыццё, там наша радасць і шчасце...

І з гадамі мы вяртаемся зноў дадому. Калі не ў сапраўднасці, то ў думках. І адчуваем, бачым — жыццё наша, наша радасць і шчасце былі дома, там, адкуль мы некалі такірваліся, так імкнулі ў свет...

## ІДЫЛІЯ

Я н ы сустрэліся напрадвесні, калі ўжо добра прыгравала сонца, раставаў снег і ў прыродзе ўсё ажывала — дрэвы, кусты, трава, розныя казюркі, чарвячкі, мошкі. І адразу, з першай жа сустрэчы, спадабаліся адно аднаму. Мінула некалькі дзён, і я н ы пабраліся.

Жылі дружна, весела, ніколі не сварыліся. Дый, шчыра кажучы, не было за што сварыцца. Ён кахаў я е, я н а кахала я г о. А ўсяго астатняга, за што звычайна сварацца, у і х хапала: было што есці, было што піць, было дзе жыць. Што ж яшчэ трэба было і м?

Прайшоў час, і ў і х нарадзіліся дзеці. І ё н і я н а не шкадавалі сіл, разам іх кармілі, паілі, выхоўвалі. І дзеці выраслі на славу — дужыя, прыгожыя, а галоўнае — вясёлыя, такія ж, як і бацькі. Бацькі навучылі дзяцей усяму, чаму і трэба было навучыць, і аднойчы, калі пахаладала, зажаўцеў дзе-нідзе на дрэвах ліст, правялі на свой хлеб...

І рассталіся бацькі з дзецьмі і дзеці з бацькамі добра, без слёз, нават нібыта з радасцю: дзеці не патрабавалі нічога ад бацькоў, а бацькі таксама не патрабавалі нічога ад дзяцей. Рабіць тое, што звычайна робяць людзі, калі ў іх вырастаюць дзеці, і дзеці, калі

ў іх старэюць бацькі, не трэба было, бо я н ы і не былі людзі, а ўсяго толькі птушкі. Самыя звычайныя вольныя птахі...

## БЭЦЯ

На навукова-даследчую станцыю яго прывезлі пагранічнікі. Сказалі, што аленя зваць Бэця, яму цяпер два гады, а тады, калі ўпершыню падабралі ў лесе і прынеслі на погранзаставу, не было і месяца. Чаму яны, пагранічнікі, прывезлі яго сюды, на навукова-даследчую станцыю? Ды таму, што трымаць аленя на погранзаставе больш нельга: апошнім часам ён панадзіўся па некалькі разоў на дзень пераходзіць туды і назад граніцу. Спрабавалі расстацца з «парушальнікам» па-добраму, але дарэмна: дзе б ні пакідалі Бэцю начаваць, усё адно ён вяртаецца на заставу...

Пагранічнікі паехалі, а супрацоўнікі станцыі пачалі меркаваць, што рабіць з аленем. Алень быў зусім свойскі, ані не баяўся людзей. Тут жа, на вачах ва ўсіх, ён падышоў да пяцігадовай дачкі вартаўніцы станцыі і, пакуль дзяўчынка гладзіла аленя па шыі, спакойна паеў манную кашу, якую маці прыгатавала дачушцы на абед. Малая гэта ўбачыла пасля, калі алень канчаў вылізваць сподачак. І, паколькі есці манную кашу ёй не хацелася, яна ўзрадавалася, забрала сподачак і здзівіла сваю маму.

— Мама, а я ўсю кашку паснедала! — запляскала ў далоні дзяўчынка і паказала чысты сподачак.

Мама, вядома, не паверыла, пачала пытацца ў супрацоўніц, ці не бачылі яны часам, дзе падзела яе дачка кашу. І падман выкрыўся...

Супрацоўнікі пасмяяліся і, параіўшыся трохі паміж сабою, парашылі завесці Бэцю ў аленевы загон, які быў ля гасцініцы і які заўсёды паказваюць экскурсаводы прыезджым: маўляў, лепшага і не прыдумаеш, бо гэты алень не надта будзе нудзіцца, тужыць па волі, а галоўнае — адтуль не ўцячэ на погранзаставу.

Але ў загоне Бэця не пабыў і гадзіны. Ледзь толькі яго туды ўпусцілі, алені-старажылы пайшлі да яго знаёміцца — нюхаць. І адразу ж неўзлюбілі Бэцю. Ці то таму, што ён быў не такі, як яны, не сын лесу і ночы, а выгадаваны, выпеставаны людзьмі чужак, ці то што

ён не ведаў законаў пушчы, тых законаў продкаў, паводле якіх алені жылі і цяпер жывуць нават тут, у загародцы... Як бы там ні было, аднак алені ўсёй чарадой напалі на Бэцю і, бадай што, забілі б яго, калі б на помач не прыбеглі людзі і не вырататавалі бедака...

Трымаць Бэцю ў аленевым загоне было рызыкоўна. І яго выпусцілі зноў на волю, у лес: ат, што будзе, тое будзе...

Але і на волі Бэця астаўся адзінокі. Яго не прыняла да сябе чарада, з ім не хацела дружыць ні адна аленіха. Больш таго: за ім пачалі паляваць старыя алені, хочучы яго забіць. І Бэця толькі тое і рабіў, што ратаваўся ад сваіх дзікіх суродзічаў, уцякаючы да людзей...

Супрацоўнікі зноў пачалі думаць, куды б яшчэ накіраваць гэтага выгадаванага людзьмі аленя. Усім было ясна: алені не прымуць яго да сябе і рана ці позна падловяць, калі не будзе поблізу людзей, і заб'юць...

Чым бы ўсё гэта скончылася, дзе б падзелі Бэцю, невядома, калі б не памог выпадак. Аднойчы, ратуючыся ад сваіх дзікіх суродзічаў, Бэця заскочыў у загон, дзе спакойна і мудра жавалі жвачку зубры. Зубры толькі пакасіліся на чужака і не кранулі яго. Бэця пераначаваў у зуброў, перадняваў, яшчэ пераначаваў і яшчэ перадняваў... І астаўся там жыць. Супрацоўнікі станцыі не выганялі з зубровай загародкі аленя, тым больш што паявіўся новы цікавы аб'ект для навуковых доследаў. Адзін супрацоўнік нават пачаў падумваць, ці не напісаць яму дысертацыю, скажам, хоць бы на такую тэму: «Сужыхарства аленяў і зуброў»... Га?

Так Бэця і жыве разам з зубрамі. І якая б экскурсія ні прыязджала ў пушчу, заўсёды знойдзецца чалавек, які абавязкова папытае, чаму гэта раптам алень жыве не з аленямі, а з зубрамі.

Экскурсаводам такое пытанне падабаецца, і яны ахвотна апавядаюць, як апынуўся ў зубровым загоне алень Бэця. І ўсміхаюцца...

## ВЯРНІСЯ, ВЯРНІСЯ!..

Чым болей жывём мы, тым часцей успамінаем даўняе, тое, што некалі здаралася з намі, было. І просім: «Вярніся, вярніся!..» Вярніся, маленства, прабасаножанае на поплаве і ў лесе, вярніся, каханне, маладосць, дужасць і спрыт, вярніся ўсё-ўсё, што некалі трывожыла, радавала, хвалявала...

Але... Але нішто не слухаецца нас, нішто не вяртаецца... Ні маленства, прабасаножанае на поплаве і ў лесе, ні каханне, ні маладосць, ні дужасць і спрыт... Нішто-нішто не вяртаецца, нішто не паўтараецца зноў...

І тады нас агартае роздум, сумота. І бачым, адчуваем мы — жыццё наша ў мінулым, яно пражыта, пражыта...

## ДОМА

Хаджу па лугавых і палявых сцежачках, дарожках, гляджу на лес, што з усіх бакоў атуляе цёмнаю зубчастаю сцяною маю родную, такую маленькую, ціхую вёсачку, і ўспамінаю, як ірвалася некалі адсюль мая душа, імкнула ў свет, туды, дзе былі няведамыя краі, моры, горы...

Не думаў тады я, не гадаў нават, што ўсяго праз некалькі гадоў, аб'ездзіўшы многія чужыя краі, пабачыўшы і моры, і горы, душа мая будзе рвацца зноў сюды, на гэтыя лугавыя і палявыя сцежачкі, дарожкі, у знаёмы мне змалку лес, у сваю такую ціхую, маленькую вёсачку.

Божа, як мне добра, лёгка тут!

*1960—1975 гг.*

## ДЗЕЛЯ ЖЫЦЦЯ

Галінка не атрасае лісток, пакуль не завяжа новы. І гэты лісток-пупышка восень і зіму гушкаецца на ветры, стыне ў слоту, калее ў сцюжу, каб потым, вясною, як прыгрэе сонца, растане снег, распукнуцца, выкінуць зялёнае полымя новага жыцця...

Ці не так і мы — не павінны, не маем права адыходзіць, не даўшы жыцця некаму яшчэ, хто мусіць, хто павінен расцвісці пасля нашае смерці.

# ПАКУЛЬ НЕ РАЗВІДНЕЛА

Падпольшчыкаў узялі ўночы. Проста з пасцелі. Усіх, дваццаць шэсць чалавек. Пяць мужчын, семнаццаць жанчын і чатыры падлеткі. Першыя такія вялікія ў мястэчку арышты прайшлі непрыкметна, ціха, калі не лічыць таго кароткага пісталетнага стрэлу, якім паслаў сабе кулю Аўген Камарэвіч, сувязны партыйнага цэнтра. Але стрэл гэты ўжо не мог нікому ні памагчы, ні пашкодзіць — Камарэвіча бралі апошняга.

Больш таго: немцам, нарэшце, удалося напасці на след партызан і нават абсачыць месца, дзе стаяў цяпер іх атрад.

І камендант раёна обер-лейтэнант Ганс Вінкель быў як ніколі яшчэ ўзбуджаны. Ён спяшаўся. Заручыўшыся папярэдне згодай вышэйшага начальства, ён выклікаў войскі з бліжэйшых гарнізонаў і вырашыў заўтра ж, ледзь толькі развіднее, пачаць карную экспедыцыю і, такім чынам, за якіх два-тры дні, адным, як кажуць, махам, скончыць з гэтым незразумелым і такім зацятым супраціўленнем пакораных, з гэтымі «фарфлюхтэтэ бандытэн», праз якіх няма спакою ні ўдзень ні ўночы — кладучыся звечара спаць, ніколі не ведаеш, ці прачнешся ўранні, ці не астанецца ад цябе, як і ад тваіх папярэднікаў толькі прозвішча ў спісах забітых і страчаных па невядомых прычынах на землях Усходу. Каб ніхто не здолеў прабрацца да партызан і не паведаміў пра карную экспедыцыю — што нехта паспрабуе гэта зрабіць, камендант быў упэўнены: гэтых людзей бі, палі, вешай, а яны ўсё роўна жывыя, зноў робяць тое, што і рабілі,— Вінкель аддаў загад сёння ж перакрыць усе дарогі да вёскі Доўгі Мох, по-

блізу якой, як яму далажылі, акурат і атабарыўся партызанскі атрад.

Ахоўваць дарогі нельга было самім немцам — гэта адразу кінулася б у вочы, і пра тое, што нешта рыхтуецца супроць партызан, ведалі б у лесе. Таму Вінкель, падумаўшы, намерыўся ахову дарог і подступаў да Доўгага Моху даручыць паліцыі — так будзе лепш: менш падазронасці, дый нямецкія салдаты змогуць як мае быць адпачыць і падрыхтавацца да нялёгкага паходу. Дзеля гэтага ён і загадаў яшчэ нацямку падняць начальніка паліцыі Коўціка.

Коўцік з'явіўся ўслед за пасыльным. Як валяўся ў пасцелі, так і прыбег — у чорных памятых штанах, барвовай, такой жа памятай, як і штаны, бы пажованай, сацінетавай кашулі, на манішцы якой былі вышыты блакітныя васількі, нават не расчасаўшыся і не спаласнуўшы вадой заспанага твару. Нясмела прачыніў дзверы і, убачыўшы за сталом каменданта, выцягнуўся ў струнку.

— Дазвольце зайсці, гер камендант! — гучна сказаў ён хрыпатым голасам і ляпнуў абцасамі новых хромавых ботаў.

Вінкель не спяшаўся гаварыць, чаму ён загадаў так рана падняць начальніка паліцыі. Марудзіў. Паволі-паволі вылез з-за стала, залажыў рукі назад, моўчкі прайшоўся сюды-туды па вялізным кабінеце — былым школьным класе. Спыніўся ля акна, што выходзіла на вуліцу, і нейкі час стаяў, глядзеў, як валтузяцца ў густым зарасніку акацыі маладыя шпачкі. І толькі тады раптам рэзка павярнуў галаву да начальніка паліцыі.

— Доннэрвэттэр! — вылаяўся ён.— Дзе вашы людзі, гаспадзін Кофцік? Зноў трынкен водка і шпаць баба?..

— Вінават! — яшчэ больш выцягнуўся перад камендантам Коўцік.

— Вас? — аж віскнуў камендант.— Нямецкая дысцыпліна не ведае слова вінават. Фюрэру і вялікай Германіі патрэбны работа, парадак! А не трынкен водка і шпаць баба...

І ўсё ж камендант быў сёння не зусім злосны. І Коўцік гэта заўважыў. «Хвала богу, пранесла»,— мільганула ў яго галаве. І ён усміхнуўся. Лісліва, па-сабачы.

— Гы-гы... Мае людзі, гер камендант, не толькі трынкен водка і спяць з бабамі, але патроху і пуф, пуф, страляюць, значыцца. Вось і ўчора...

Але камендант не даў яму дагаварыць.

— За цэлы тыдзень — адзін бандыт! — І маленькія, шустрыя вочкі ў каменданта пацямнелі — гэта бывала ў яго заўсёды, калі ён злаваўся і пачынаў крычаць.— Мы не можам больш цярпець такой распусты. У нас ёсць людзі, якія, спадзяюся, наладзяць дысцыпліну ў паліцыі.

Коўцік прыкусіў язык. А камендант не падыходзіў — падкрадаўся на насочках ціха, бы кот, і ўжо не гаварыў — шыпеў:

— Зараз жа сабраць паліцыю і заняць усе дарогі на вёску Доўгі Мох. Не пускаць ні туды, ні адтуль — нікога! Усіх, хто будзе ехаць ці ісці, арыштоўваць і трымаць пад вартай. Гэта апошняе заданне. Калі праваліце і яго...— Камендант так паглядзеў на Коўціка, што той і без слоў здагадаўся, што чакае яго, калі ён, не дай божа, праваліць заданне.— Ясна?

— Ясна! — І Коўцік зноў нязграбна ляпнуў абцасамі.

— Запомніце, у Доўгі Мох не павінна прапаўзці нават мыш. За ўсё адкажаце галавой... Там чума...— шыпеў камендант.

— Як чума? — здзівіўся Коўцік.— Нашы ж людзі былі там учора...

— Думкопф! — не стрываў камендант.— Для вашых людзей і ўсіх, хто будзе ісці ў Доўгі Мох, там чума. Ясна, гаспадзін Кофцік?

— Ясна, гер камендант! — Коўцік хацеў выкінуць наперад руку, зусім так, як гэта робяць нямецкія салдаты, калі ім нешта загадваюць іхнія камандзіры, але ў яго гэта не выйшла. І ён, засаромеўшыся самога сябе, крыва ўсміхнуўся і вяла апусціў рукі па швах. Спытаўся: — Дазволіце ісці?

— Шнэль! — гаркнуў на ўсё горла камендант.

Начальнік паліцыі выскачыў з камендатуры як апараны — толькі ляснулі за ім дзверы.

* * *

І ўсё ж і пасля такога вялікага правалу падполле жыло...

Сярод людзей, што мелі патрэбу ў той дзень наведацца ў Доўгі Мох і ішлі туды па дарозе з мястэчка, была і дзяўчына гадоў пад пятнаццаць-шаснаццаць, не надта прыгожая з твару, уся ў рабацінні, да таго ж цыбатая і худая. У руках у яе не было нічога, апроч звычайнага лазовага кошыка, старога, абшарпанага, на дне якога ляжалі чаравікі і вузельчык — старанна загорнутыя акрайчык хлеба і вараная бульба. Вялікаваты, па ўсім відаць, матчын, сачак сядзеў на плячах мешкавата, нехлямяжа, босыя ногі былі запыленыя і парэпаныя, а паркалёвае плацце выцвіла так, што цяпер нават ніхто не сказаў бы, якое яно было новае — ні то сіняе, ні то зялёнае,— на ім толькі дзе-нідзе былі яшчэ знаць белыя плямы — ці кветкі, ці нейкія іншыя немудроныя ўзоры.

Мала хто, спаткаўшы на дарозе тое дзяўчо, падумаў бы, што гэта партызанская сувязная. А між тым дзяўчына ішла ў лес да партызан, ішла з першым заданнем...

Быў поўдзень. Млявы, спякотны поўдзень пачатку ліпеня, калі ад гарачыні ўсё сохне і вяне, нават як сяды-тады і праходзяць дажджы. А сёлета дажджу не было ад самай вясны. Укінулі ў зямлю зерне, так дажджу нібы завязала — няма яго і няма. Спачатку хоць хмары збіраліся на небасхіле пад вечар. Збяруцца, патабуняцца, паклубяцца над лесам, а пад раніцу зноў разыдуцца. Цяпер жа — ніякіх прыкмет блізкай і такой жадомай вільгаці. Высокае, светлае, усё роўна бы паліналае ад спёкі неба, белае, сляпучае сонца — і больш нідзе нічога. І так — дзень у дзень. Так другі ўжо месяц. Раса і то перастала выпадаць уночы.

Дарога ідзе па полі. Яно, гэтае поле, нават у ранейшыя, лепшыя гады, пры калгасах, ніколі не засявалася. Сей не сей — усё адно нічога не вырасце. Не збярэш і насення. Чысты, веяны пясок. Майдан, дый годзе — ні лагчынкі, ні дрэва. Пустуе, рыжэе, гультаявата горбіцца пагоркамі поле і сёлета — не да яго людзям: вайна. Толькі сям-там узышлі на ім рэдкімі ку-

пінкамі не прагная да вады чэзлая трава-мучка ды не прывыклы да выгоды палын. Але і яны марнеюць і гінуць на корані, так і не даспеўшы, не дасягнуўшы старасці. Трава пажоўкла, зрабілася сухая і жарая, як увосень, а палын пасівеў, запыліўся і, здаецца, ужо не ўверх расце, а хаваецца назад, у зямлю...

Цяжка ісці па такім полі ўлетку, у сухмень. Яшчэ цяжэй узімку, калі лютуе — гойсае і свішча — завіруха і ад снегу не відаць свету. Тады і не думай выходзіць у поле — згоніць ветрам з дарогі, абмарочыць, закруціць — не выбавішся з сумётаў і гурбаў. Яно і не дзіва — дзе ж яшчэ ёсць такі прастор ветру і дуйцы. Насіся, дзьмі, галёкай, вішчы, вый — нішто не спыніць: вольнаму воля. Бывала, як разгуляецца, увойдзе ў імпэт завея — па тыдню, а то і па два ніхто не мог выбрацца з мястэчка ў Доўгі Мох. А хоць і разатруць, пратопчуць дарогу — ненадоўга. Уночы яе ўсё адно закідае, замяце снегам. Нават не ў ветраніцу, у самую, здаецца, што ні ёсць ціш, калі пячэ, аж смаліць мароз-траскун і над камінамі стаяць, не зварухнуцца роўныя, аж у самае неба слупы дыму. І ўсё праз гэтае праклятае поле.

Летам тут таксама дарога несамавітая — жоўты сыпучы пясок па самую ступіцу. Пуда лішняга не кладзі на воз, бо і жыццё няміла стане — колы лезуць і лезуць у пясок, бы на той свет, а воз асядае, пакуль зусім не ляжа на зямлю панарадам. Асабліва дакучае гэтая дарога ў ветраныя дні — узімку нясе снегам, сячэ, бы шротам, у твар; улетку засыпае вушы, вочы і нават рот пяском. Здавалася б, што прасцей — абсадзі дарогу дрэвамі, вось і атхланне, канец пакутам. Ды людзі неяк абыходзіліся, мірыліся, а мо забывалі гэта зрабіць. Толькі перад самай вайной былі паўтыкалі паабапал дарогі танюткія парасткі — бярозкі, асінкі, дубкі, клёны. Але ад той пасадкі мала што ацалела — што пасохла, а тое, што прыжылося і зазелянела,— паламалі самі людзі. Едзе каторы на валах, валы занатурацца, стануць, а падагнаць іх няма чым. Саскочыць дзядзька з воза і выламіць дубец...

Асушалі наўкруг мястэчка балоты, якіх было тут некалі процьма, глыбей і глыбей хавалася ў зямлю вада, усё вышэй і вышэй падымалася ўгору пясчаная выспа, да якой ляпілася мястэчка і па якой ішла, губ-

ляючыся ў пяску, пакуль нарэшце не ўпадала ў лес, дарога. Сохла і сохла поле, рабілася ўсё менш і менш прынаднае ўсяму жывому. І ўсё роўна з году ў год, ледзь толькі пачынала прыграваць сонца і спаўзаў з пагоркаў снег, яно зелянела. Свяжэла трава-мучка, маленькімі бялёсымі кветкамі цвіла пастуховая торбачка, пускаў атожылкі палын. Праўда, раслі і зелянелі яны нядоўга — сонца ўсё часцей і часцей касавурыла вока на гэтую незайздросную расліннасць, потым аднекуль браўся і пачынаў дзьмуць сухі гарачы вецер і нібы языком злізваў усю гэтую скупую раскошу поля, дачасна сушыў і выветрываў яго.

І зноў усё жоўкла і вымірала...

І зноў, як толькі раставаў снег, поле ажывала, зелянела...

---

Юля азірнулася: ад канцавых хат мястэчка яна адышлася не так ужо і далёка. І ўсё ж уздыхнула лягчэй. Тое, што яе больш за ўсё палохала, засталося, здаецца, ззаду. Цяпер яна не баялася, што не стрывае і чым-небудзь — неасцярожным паваротам галавы ці раптоўным спалохам у вачах — выдасць сябе. Тут, на гэтай доўгай і амаль нявіднай у пяску дарозе, якую яна ведала як свае пяць пальцаў і па якой магла ісці з краю ў край хоць з завязанымі вачыма, Юля адчула сябе зноў так, як адчувала і заўсёды, калі, бывала, хадзіла ў Доўгі Мох да цёткі Матруны. А гэта, як казаў дзядзька Падабед, самае галоўнае. Галоўнае, навучаў ён яе, прывыкнуць да таго, што ты ідзеш, як і хадзіла неаднойчы ўжо, да цёткі Матруны, і зусім забыцца, што ты — партызанская сувязная і нясеш вельмі важныя звесткі. У тваёй маці скончылася бульба, вам няма чаго есці. Маці хворая, і ты ідзеш у Доўгі Мох, каб узяць там якой яды. І тады, казаў Падабед, усё будзе здавацца звычайным — і дарога, і хада, і людзі, што, пэўна ж, будуць сустракацца скрозь.

Забыцца?.. Як жа можна забыцца на тое, што ні на хвіліну не выходзіць з галавы, што так і свідруе цябе ўсю: «Заўтра, роўна ў чатыры нуль-нуль, немцы падпаляць Доўгі Мох. Гэта і будзе пачатак карнай экспедыцыі супроць партызан. Атраду дзядзькі Цімаха, што б ні было, трэба прарвацца да ракі Віць, перайсці яе ўброд, і спяшацца на злучэнне з атрадам Суворава.

У бой з карнікамі не ўступаць, яны сцягнулі вялікія сілы, ёсць нават танкі, самалёты. Задача ў партызан такая — тым часам, пакуль карнікі будуць прачэсваць лясы, паспрабаваць сарваць блакаду — напасці разам з атрадам Суворава на гарнізоны ў Крынках, Балацянах і Парэччы,— гарнізоны там аслабленыя, усе войскі адтуль забраны і ідуць на партызан. Наступаць на Доўгі Мох фашысты будуць адразу з трох бакоў — з Крынак, Балацян і Парэчча... Дзе цяпер стаіць партызанскі атрад, немцам вядома, у мястэчку спрэс правалы, ёсць падазрэнне — у падполле пранік правакатар. Хто ён? Не падаць духам, за намі — перамога!»

Юля яшчэ раз паўтарыла сама сабе слова ў слова, што павінна яна перадаць камандзіру атрада дзядзьку Цімаху. Здаецца, нічога не забыла. Больш падрабязны план, кудою будуць наступаць карнікі і колькі іх, дзядзька Падабед напісаў на паперку і хацеў уплесці ў косы. Але, падумаўшы, не зрабіў гэта. Юлю маглі схапіць немцы і знайсці ў яе план. І тады б...

Дзядзька Падабед не казаў, што было б з ёю, калі б план трапіў на вочы немцам,— не маленькая, разумела ўсё сама...

Ісці ў Доўгі Мох не варта. Адразу ж, як толькі яна міне за вёскай Млынок раку Віць, ёй трэба збочыць налева, па той дарозе, што вядзе ў Муціжанскі лес. І ісці па ёй, нікуды не зварачаючы, да самага броду. Там, дзе канчаецца брод, будзе стаяць абвуглены з камля пракаветны дуб, і ля яго, гэтага дуба, яе аклікнуць партызанскія вартавыя. Яны ж, гэтыя вартавыя, і завядуць Юлю да дзядзькі Цімаха. Самой ёй вяртацца назад, пакуль не закончыцца аблога, небяспечна — можа ўсё здарыцца. Таму лепей за ўсё пабыць дзён колькі разам з партызанамі, а ўжо калі ўсё ўляжацца, аціхне, вярнуцца дадому, у мястэчка...

На хвіліну Юля прыпынілася, скінула з плячэй сачак — вельмі ж горача, душна. Сачака Юля, бадай, і не брала б, але ў лесе давядзецца начаваць, а ўночы золка, нават холадна. А можа збярэцца і на дождж? Колькі ж без дажджу будзе? Не ўсё ж лета канешне. Тады сачак — як знойдзеш.

Юля абвяла вачыма неба — яно высокае, чыстае, попельна-сіняе — нідзе ні хмурынкі. Усюды, куды ні

глянь, рыжэе, аж вочы рэжа, пясок. Жоўтае мёртвае поле. І над ім, гэтым полем, на ўсю яго разлегласць трымціць, пераліваецца перагрэтае паветра. Скачуць, пералятаюць з месца на месца, шукаючы ў пяску спажывы, даўгахвостыя сыткі. Суха і ціха, нават не звоняць конікі,— іх тут няма, бо няма і таго, што іх жывіць, што дае прытулак і схованку — зяляніны.

Вось прыляцеў на поле аднекуль коршак. Вялізны шэры, няйнакш курнік. Плаўна-плаўна зрабіў круг, потым на нейкі момант запаволіў лёт, застыў у небе і раптам, нечага спалохаўшыся, хутка-хутка падаўся прэч ад гэтай мёртвай у паўдзённай спякоце пустэлі. І амаль у тое ж імгненне Юля пачула стрэлы:

— Тг-гы! Тг-гы! Тг-гы!..

І зноў стала ціха...

Стралялі ў хвойніку, што вытыркаўся і цёмна зяленеў зубчастымі вяршалінкамі за пагоркам. Юля ведала: у гэтым хвойніку немцы забіваюць людзей. Прывозяць са скручанымі назад рукамі на машынах з усіх вёсак у мястэчка, дапытваюць, катуюць дзён колькі ў камендатуры, потым вязуць у хвойнік і расстрэльваюць. Расказваюць, што перад тым, як расстраляць, немцы загадваюць людзям капаць сабе магілы... Ох, як гэта, мусіць, страшна — капаць самому сабе магілу? Вакол зеляніна, жыццё. Трашчаць, як і заўсёды ў хвойніку, сарокі, свішчуць дразды, некуды бягуць, спяшаюцца па траве мурашкі, казюркі — усё жыве, весяліцца. Ты жывеш таксама, але ўжо ведаеш: праз якую хвіліну цябе не будзе, ты будзеш ляжаць мёртвы ў той яме, якую капаеш...

Аж здрыганулася ад гэтай уявы. Колькі людзей з аднаго толькі іхняга мястэчка вывезлі немцы ў гэты хвойнік!.. Дырэктара школы Яна Рыгоравіча... Міліцыянера Харошку... Лейбу, што жыў каля лазні... Цыганку Зусю... Ды хіба ўсіх пералічыш!.. І вось забілі яшчэ. Сёння, проста ўдзень. Можа нават некага з тых, каго арыштавалі ўночы і хто павінен быў ісці ў Муцiжанскі лес, каб сустрэцца з партызанамі і перадаць тое, што перадасць ужо яна, Юля... Бо, як казаў Падабед, ён застаўся на волі ці не адзін з падпольшчыкаў. Усіх сёння ўзялі, праз каго ён меўся перадаць звесткі. Сам ён не можа пайсці ў лес: не мае права пакінуць свой пост — павінен, што б ні здарылася, заставацца

ў мястэчку. Жыццё падполля парушана, і яму, Падабеду, калі толькі яго не возьмуць, трэба зноў наладзіць работу, звязаць разарваныя нечаканымі арыштамі ніточкі ў адну суцэльную нітку, зматаць новы клубок падполля. На змену тым, хто арыштаваны, трэба знайсці новых людзей. Падполле — гэта вочы і вушы тых, хто ў лесе. І яно павінна бачыць і чуць усё, што робіцца ў мястэчку...

Падабеда аж нельга было пазнаць. За адну ноч ён пастарэў, зарос сівым шчаціннем. Такога Юля яшчэ ніколі яго не бачыла. Ён сцінаўся ўвесь, нібы яму было холадна, і не загадваў — прасіў яе схадзіць у Муціжанскі лес. І на вачах у яго ўвесь час блішчалі слёзы. Ён быў шчыры і гаварыў з Юляй упершыню як з дарослай, гаварыў усё, што было тады ў яго на душы. Ён верыў ёй, нібы ведаў загадзя: яна, гэтая рабенькая дзяўчынка, дачка яго суседа, нікому і ні за што не выдасць яго. Верыў — і папярэджваў, што можа быць з ёю, і з ім, і з кожным, хто хоча памагчы свайму народу прагнаць чужынцаў, калі зловяць і яна хоць адным словам прагаворыцца, хто яна такая і дзеля чаго ішла ў Доўгі Мох. Нават калі яе паставяць твар у твар з ім, тым, хто яе пасылаў, яна павінна маўчаць. У маўчанні, толькі ў маўчанні яе паратунак, яе жыццё.

— Будзь асцярожная, дачушка,— казаў Падабед, і Юля бачыла, як напіналіся і густа сінелі на шыі ў яго жылы — так цяжка было яму гаварыць.— Ты павінна думаць цяпер не толькі пра сябе, але і пра нас усіх, пра тых, хто ў Доўгім Моху, і тых, хто ў лесе. Памятай — ты ідзеш да цёткі Матруны, каб прынесці адтуль хоць трошкі бульбы і круп... Ды не забудзься ўзяць з сабою торбачку...

Торбачка ў кошыку. У яе загорнуты кавалак хлеба, вараная бульба. Гэта каб было чым падсілкавацца, калі прыстане, зморыцца. Цяпер у кошык Юля палажыла і сачак. Сама засталася ў адным толькі лёгкім паркалёвым плацці. І ўсё роўна душна, аж дыхаць няма чым — пясок нагрэўся, і ад яго, бы ад напаленай печы, патыхае гарачынёй. Ах, каб як-небудзь барздзэй мінуць гэтае голае поле, увайсці ў лес! Там можна было б нават не ісці, а бегчы. Бо заданне вельмі важнае. Яго трэба перадаць як найхутчэй. Тады да

світання партызаны змогуць забраць з сабою людзей з Доўгага Моху, пакінуць свой лагер і бясследна знікнуць з-пад самага носа ў немцаў...

Вось і пагорак той, узышоўшы на які можна добра бачыць хвойнік, што, прыкрыты смугой, гусцее па правую руку і ўжо цягнецца ўсцяж да лесу, аж пакуль не зліваецца з ім. Ісці далей трошкі весялей. Не таму, што спала спёка. Не. Спёка і не думае нават спадаць — яна сáма ўбіраецца ў сваю паўдзённую сілу і пячэ, пячэ, проста паліць. Весялей, бо відзён хвойнік, відзён наперадзе лес, а значыць — блізка прахалода, зацішак, цянёк. Дый з пагорка ногі, здаецца, самі бягуць, толькі перастаўляй...

Дарогу наўскасяк перапаўзла чарапаха. Старая, вялікая, рэпаная. Паварочваючы галаву то ў адзін, то ў другі бок, яна імкліва перабірае лапамі, грабецца, бы курыца, па сухім і сыпкім дарожным пыле — некуды валачэ свой тугі, цяжкі панцыр — за ёю ўслед застаецца няроўная палоса... Потым туды ж, куды папрасцавала чарапаха, пабегла і шустрая яшчарка — караткахвостая, тоўстая. І Юля ўспомніла, як аднаго разу, калі яны хадзілі з бацькам у лес,— о, як гэта было даўно, аж два гады таму назад! — бацька казаў ёй: калі ў лесе цябе пачне мучыць смага і ты не будзеш ведаць, дзе напіцца, прасачы, куды паўзуць чарапахі, вужы ці яшчаркі. Яны чуюць ваду. І ідзі ў той бок — там, блізка ці далёка, абавязкова ёсць вада...

І сэрца ў Юлі сцялася.

«Дзе ён цяпер, бацька?..»

Бацьку Юля любіла. Любіла можа нават болей за маму, бо з бацькам ёй заўсёды, куды б яны разам ні ішлі — у школу, на ўрокі (бацька яе быў настаўнік) ці ў лес, па ягады, па грыбы, а то часам і проста так, паблукаць,— было цікава: ён многа ведаў і ўмеў пра ўсё як ніхто расказваць. А найлепей бацька ведаў лес. Бо і вырас ён у лесе — там, непадалёку ад таго броду, куды яна вось цяпер ідзе. Некалі, яшчэ да калгасаў, там, на невялікай паляне, стаяла леснічоўка, і ў ёй, у гэтай леснічоўцы, жыў бацькаў бацька, Юлін дзед, Мірон — ён служыў тады за лесніка. Леснічоўка тая згарэла ў пажар. Гэта здарылася ўжо тады, калі бацьь-

ка закончыў сваю навуку ў горадзе і прыехаў настаўнічаць у мястэчка. К гэтаму часу яго сястра Матруна выйшла замуж і перабралася ў Доўгі Мох. Туды ж, у вёску, да свае дачкі, перайшоў жыць пасля пажару і дзед Мірон.

А бацька асвоіўся ў мястэчку. Тут ён сустрэўся з Юлінай мамай, тут яны і пажаніліся. Усё гэта было яшчэ да таго, як нарадзілася Юля, і пра ўсё гэта ёй апавядалі неаднойчы і сам бацька і маці. А далей ужо Юля помніла ўсё сама. Бацька штодзень хадзіў у школу, увечары сядзеў за сталом — правяраў сшыткі, чытаў газеты, кнігі. Іншы раз ён ездзіў, як казала мама, на раён, чытаць лекцыі, даклады калгаснікам.

Вольны бацька быў, дый то не заўсёды, у нядзелю. І ў суботні вечар звычайна ўсе яны — і бацька, і маці, і Юля — былі заняты прыемным клопатам — варылі яйкі, шчыпалі пер'е цыбулі і часнаку, рэзалі хлеб, сала і пхалі ўсё гэта ў дарожны мяшок — ладавалі кайстру. А ўранні, яшчэ на досвітку, ішлі ў лес. Гэта былі самыя шчаслівыя дні ў Юлі. Бо бацька не толькі багата чаго расказваў, ён вучыў Юлю пазнаваць душу лесу, бачыць у ім усё жывое і разумець яго — ад маленечкага чарвячка ў кары да самага высачэннага дуба-волата. І гэта быў такі вялізны свет, які на пэўны час цалкам захапіў Юлю. За некалькі летаў яна сабрала па каліву ўсіх красак, што толькі раслі ў іхнім лесе. Бацька памог ёй апісаць кожную з іх — дзе якая любіць расці: на жаўтапеску, ля балота, у гушчары ці на волі, як кожная сеецца і цвіце. Потым з бацькам яны апісалі ўсе лясныя травы, усіх птушак, што тут пладзіліся ці пралятаў. А як кончылі і гэта, узяліся апісваць дрэвы, звяроў, матылькоў, розных мурашак і казюрак... І работы ў іх не меншала, а большала, бо трэба было ўжо ведаць, як тая ці іншая трава ці казюрка завецца не толькі па-кніжнаму, але і як называюць яе тут, у вёсках. І што гэтай травою ці яе каранямі лечаць, і якая птушка прыносіць людзям карысць, якая шкоду, і дзе гняздзіцца, і што спажывае... І які нораў у тутэйшых звяроў, і што яны, гэтыя звяры, ядуць і дзе блукаюць...

І калі дайшлі да самага, як здавалася Юлі, цікавага — здарылася неспадзяванае. Дзён колькі бацька хадзіў сумны, хмара-хмарай, і ўсё аб нечым шаптаўся

з маці... Потым ён зусім знік. І не было яго дома нешта гады два. Дзе ён гэтыя гады быў — Юля так і не ведала. Бо ні бацька, ні маці нічога ёй пра гэта не казалі. Сказала ўжо трошкі пазней, калі Юля падрасла, дый то толькі тое, што ведала сама, цётка Матруна. А ведала яна небагата. З яе апавядання Юля запомніла вось што: бацька яе нешта сказаў тое, чаго ніяк нельга было гаварыць. На каго, што — цётка Матруна не ведала. На бацьку завялі справу, пачаліся допыты. Следчы спачуваў бацьку, але памагчы нічым не мог. Ён толькі параіў, каб бацька не быў дурнем, на час з'ехаў куды-небудзь з мястэчка.

І бацька паслухаўся следчага — з'ехаў.

Акурат тады заклікалі ехаць на нейкую будоўлю, і ён завербаваўся...

К таму часу, калі ён вярнуўся зноў у мястэчка, не стала таго следчага, што разбіраў бацькаву справу. Не стала і таго чалавека, што падаваў на бацьку заяву. Але справа, якую на бацьку некалі завялі, асталася. Праўда, бацьку болей не выклікалі, толькі забаранілі яму працаваць у школе, вучыць дзяцей...

Зноў у нядзельныя дні яны ўсёю сям'ёй хадзілі ў лес, але цяпер бацька ўжо менш расказваў, а больш пацiху сядзеў дзе-небудзь у заглушы на пяньку і пра нешта ўпарта думаў. Ён наогул за гэтыя два гады змяніўся. Пастарэў, у куточках яго вуснаў стаіліся дзве сухія, жарсткаватыя складкі. І зрабіўся ён вельмі маўклівы. Нават дома. Толькі ўсё нешта час ад часу запісваў у сіненькую кніжачку.

Неяк, калі бацька некуды пайшоў, а кніжачка тая засталася ляжаць на стале — бацька, мусіць, забыўся ўкінуць яе сабе ў кішэню,— Юля разгарнула яе і прачытала першае, што трапіла на вочы: «Колькі жыву, ніколі яшчэ не бачыў, каб што-небудзь у прыродзе ці ў жывёльным свеце памагала адно аднаму, калі сабрат яго трапляе ў пастку ці ў бяду. Відаць, памагаць у бядзе і ў горы — уласціва толькі чалавеку...»

Далей яна чытала ўжо не адрываючыся — запіс за запісам:

«У заглушы, далёка ад людскіх паселішчаў, натрапіш часам на след чалавека і спалохаешся: хто ён, гэты чалавек? І чаго ён тут ходзіць? Пастаіш, пастаіш вось так — і назад, назад, як ад звера. Падумаеш між-

волі: а што, калі гэта нядобры чалавек ды яшчэ дужэйшы за цябе? Тут, у заглушы, спадзявацца на помач няма ад каго...»

«Зімою — доўгія-доўгія ночы. І лес, бывае, так разаспіцца, што і днём не прачынаецца. Зойдзеш у яго, а ён, увесь белы, абкрыўся пухавікамі і спіць, спіць... Нават ні адной галінкай не варухне...»

«Павучок спусціўся на павуцінцы з лазовага куста, што над самай вадой, зазірнуў у лясное люстра і хуценька-хуценька пачаў падымацца назад, угору — спалохала яго глыбіня ці ўбачыў, якая ён пачвара...»

Перагарнула лісток — на другой старонцы было неспадзяванае: «Чамусьці заўсёды, як зацвітаюць сады, укідваюцца і маразы. Няўжо бель квецені прыцягвае холад? А ўрэшце, разбярыся, што робіцца ў прыродзе! Зусім як у чалавечым жыцці. Калі б сама радавацца — няшчасце надарыцца. Калі б і паплакаць можна — радасць яшчэ большая прываліць...» І далей: «Старасць таксама бывае розная — гордая, як у дуба, плаксівая, як у асіны, тужлівая, як у бярозы, і скрыпучая, як у вяза. Але якая б ні была яна, ёй усё роўна ніхто не зайздросціць...» А ўнізе, у самым ражку, зусім дробненькімі літарамі, прыпісачка — аж разабраць яе нельга: «Божа, што робіцца! Самаму дарагому чалавеку не кажаш, што ў цябе на душы... Падазронасць, чаканне нечага невядомага і страшнага...»

Юля загарнула кніжачку і палажыла яе зноў на стол.

І ні тады, ні пасля не прызналася бацьку, што чытала тыя яго запісы. Толькі калі бачыла, што бацька дастае кніжачку і нешта хуценька піша ў ёй, ніколі яму не перашкаджала,— адыходзілася ад яго далей у лес...

«Дзе, дзе ён цяпер, бацька?..»

Пры ўваходзе ў лес дарога раздвойвалася, разбягалася на дзве дарогі. Адна, вузкая, калёсная, спадала ў лагчыну і прабіралася нізам, праз кусты, як бы апаясваючы сабой нешырокі чысты лужок. Другая была больш кружная, байчэйшая і ішла верхам па сасновым бары. Карані спрэс павыпіналіся з зямлі цэлымі вузламі, абабітыя, абадраныя — на іх усюды выступіла, пазападала пяском і аж запяклася на сонцы смала.

Была тут яшчэ і сцяжынка — ледзь прыкметная, усланая сасновымі іголкамі і калючымі, бы вожыкі, шышкамі. Яна праставала цераз лужок і далей па лесе ўжо віляла між дзвюх дарог, то аддаляючыся, то набліжаючыся ад адной да другой. Юля збочыла на гэтую сцяжынку.

Лужок быў нядаўна скошаны, яшчэ нават не адрасла атава. Скрозь толькі тырчала густою шчоткаю вострая пакоша. Сухая, жоўтая на пракосах і зялёная, ядраная там, дзе ляжалі рады. Відаць, той, хто тут касіў, добра ведаў, што пакідаць сена ля дарогі нельга,— кожны, хто будзе сюдою ехаць, ускубе ці каню, ці сабе пад бок, каб не мулка было трэсціся на голых драбінах, і перавёз яго дахаты, бо ні стажка, ні коп нідзе паблізу не было відаць. Трава ўсюды была скошана чыста, роўна, нават паабкошвана была дарога. Толькі ў адным месцы рыжэла перасохлымі сцяблямі невялічкая лапінка — драбнютка паблісквалі мяцёлкі божых слёзак, званіў сухімі галоўкамі званец, цвіў лапавусік. Калі Юля наблізілася да гэтай латкі, здагадалася, чаму яе не выкасіў невядомы касец: у траве лапушыўся ядраны сунічнік...

Ягады паспелі ўжо і пазіралі на Юлю засмяглымі чырвонымі вочкамі ледзь не з-пад кожнага лістка. Але іх усе міналі, ніхто не браў — побач была дарога, і ягады запыліліся: укінуць іх сабе ў рот не асмеліўся б самы неперабарлівы ядок.

Юля таксама не нагнулася, не сарвала ні адной. Толькі здзівілася: «Глядзі ты, суніцы... А ў мястэчку ніхто і не ведае, што яны паспелі ўжо. А хоць і ведае, усё роўна не пойдзе ў лес па ягады... Вайна!..»

З лужка сцяжынка падымалася ў дубняк. Адразу пры полі ён быў рэдкі, чысты, без зарасніку і кустоў. Але чым далей углыб, тым ён усё больш і больш гусцеў. Поруч з маладымі гонкімі дубкамі часцей і часцей зелянелі раскідзістыя купы арэшніку і крушыны, а дзе-нідзе трапляўся і зусім непралазны грабняк, асіннік.

Спякота тут даймала менш, у гушчары яна была не такая сухая і нясцерпная, як у полі, а парная, даўкая. Пахла травамі, прэлаю карою, тхланню.

Узбоч сцяжынкі ўсюды плялася трава,ківаліся

блакітныя кволыя званочкі. Заклапочана гулі чмялі, бзыкалі авадні і мухі. Птушкі маўчалі, іх не відаць было ні ў галлі дрэў, ні ў зарасніках — няйнакш, пахаваліся ад спякоты ў дуплы і гнёзды, спачывалі.

Дубняком Юля падышла да той дарогі, што была павярнула раней нізам, і тут неспадзявана ўбачыла падводу, якая скрыгітала і марудна паўзла насустрач. Коні здарожыліся, цяжка саплі, пырхалі і раз-пораз сцепалі галовамі назад — бараніліся ад надакучлівай заедзі, што вілася ля конскіх храп роем.

За падводаю ішлі трое — з вінтоўкамі і белымі павязкамі паліцэйскіх на рукавах. Ішлі лянíва, нага за нагу. Адзін нават сцягнуў з галавы шапку і нёс яе ў руцэ. Паліцаі былі зусім маладыя, яшчэ, пэўна, нежанатыя, хлопцы...

На возе, у саломе, трэсліся састаўленыя ўпрытык лясковыя кашалі, што плятуць з сасновых дранак, лазовыя кошыкі, карзіны. Зверху ў іх нешта бялела. Толькі падышоўшы бліжэй, Юля здагадалася: паліцаі везлі аднекуль цэлы воз яек. «Глядзі ты, назбіралі ж!» — падзівілася Юля. І прыгадала, як узімку вось па гэтай дарозе вёз адзін паліцай поўныя сані валёнак, нарабаваных у людзей. І калі ўжо выязджаў з лесу, з кустоў выйшлі партызаны, адабралі ў паліцая вінтоўку, далі яму па карку, селі ў сані на валёнкі, завярнуліся — і будзь здароў. Паліцай прыдыбаў у мястэчка, зайшоў у камендатуру і расказаў немцам, што здарылася ў дарозе. Немцы, вядома, не паверылі паліцаю, палічылі, што валёнкі ён збаёдаў ці прапіў, і паліцая расстралялі...

«Усім, і немцам і паліцаям, нагналі пуду партызаны. Цяпер нават з возам яек аж траіх пасылаюць. Баяцца...» — зларадна падумала Юля, збочваючы са сцяжынкі на лес, каб быць далей ад паліцаяў: яшчэ прыстануць, паспрабуй, адчапіся ад іх тады...

І пакуль ішла па лесе, доўга чула, як пелі нямазаныя колы, аж галасілі прарэзліва і адчайна. Бы ўсё роўна сухое разгатае дрэва ў ветраны дзень. Лес неўпрыкмет гусцеў — пачалі пракідацца бярозы, сосны, ясені... Стаялі ў паўдзённай млявасці ціхія, дрымотныя. Чэкаў недзе ў верхавінні дзяцел, пракукавала зязюля. Ку-ку, ку-ку... І змоўкла, як чым падавілася. І зноў цішыня. Цяжкая, стоеная. Толькі скрыгочуць,

галосяць, паволі аддаляючыся, колы паліцэйскай падводы.

Юля выйшла зноў на сцяжынку. І думкі яе вярнуліся да паліцаяў.

«Што змусіла іх пайсці служыць чужынцам?..»

Успомніла Міхася Цапка, сына іхняга суседа, што жыў цераз вуліцу,— ён таксама запісаўся ў паліцаі. «Чаму ён зрабіў гэта?.. А да вайны ж і хлопец, здаецца, ніштаваты быў, дзевяць класаў скончыў, збіраўся ў інстытут паступаць... Змянілася ўлада, прыйшлі немцы — і нá табе, паліцай. Што яму трэба ў той паліцыі? Цяпер п'е ды баб па мястэчку, як вар'ят, пужае: «Уцякай, бабы, я страляць буду!» — і смаліць сп'яну ў неба...

Сынок п'е, па вуліцах з вінтоўкаю гойсае, а бацька тым часам дом сабе новы стаўляе. Велічэзны, на дзевяць акон, нібы таго, што ёсць, не хапае. Узрадаваўся, што за лес плаціць не трэба: пляж, вазі колькі заўгодна і які душы тваёй падабаецца. Дый ад голаду людзі пухнуць — за кулідку хлеба два чалавекі цалюткі дзень спіны не разгінаюць, сякерамі грукаюць. Меўшы хлеб, не тое што дом, харамы можна будаваць... А Цапкі хлеб маюць — не разгубіліся, поўную хату нацягалі, як нашы адступілі, неразбярыха пачалася... Старэйшы ж сын Цапка, Юзік, у Чырвонай Арміі... Чаго нарабіла вайна? Папраўдзе, як кажа цётка Матруна: «Брат на брата ідзе, і сын на бацьку...»

Між частых камлёў засвяцілася паляна. На ёй, гэтай паляне, цяпер таксама ніхто не сеяў — пуставала. Толькі сям-там кволенькімі кусцікамі ўзрасло жыта-самасейка. Яно выкінула дробныя каласкі, красавала. І неяк да болю тужліва было глядзець на гэтыя чэзлыя кусцікі жыта, на голае, як бубен, поле, дзе ўсюды яшчэ значны былі разоры,— у іх, гэтых разорах, паўзыходзілі і шпарка цягнуліся ўгору маленькія бярозкі, асінкі. Поле зарастала лесам. «Чалавеку толькі здаецца, што ён узяў верх над прыродай,— успомніла Юля бацькавы словы, якія ён любіў часта паўтараць, калі, бывала, блукалі па лесе.— Чалавек пакуль што ва ўладзе прыроды. І гэта добра. Прырода не любіць аднастайнасці, яна ніколі не паўтарае самую сябе. Не толькі на адной галінцы, на ўсім дрэве няма лістка,

які б зусім падобны быў на другі, ужо не гаворачы пра ўсё астатняе. А чалавек, наадварот, схільны да аднастайнасці, да яе ён вельмі хутка прывыкае і перастае заўважаць. А аднастайнасць — смерць усяму жывому... У лесе,— не раз гаварыў бацька,— усяму свой час, нават кожнай сцяжынцы. Паспеюць суніцы — ідуць браць іх па тых сцяжынках, што вядуць да сунічніку. Па чарніцы, маліны, брусніцы, журавіны — свае сцяжынкі. Па грыбы — таксама свае. Прапусцяць па сабе ўсіх, хто таго хоча, і зноў спачываюць...» «А цяпер вось спачывае і поле,— вяла свае думкі-развагі далей Юля.— Няўжо і яму прыйшоў час спачыць, пабыць, хоць колькі год без чалавека? — І пашкадавала: — Эх, няма бацькі!» Каб быў, ён сказаў бы нешта такое, што яна, Юля, напэўна, запомніла б на ўсё жыццё. Бо бацька ведаў кожную з'яву ў прыродзе і ўмеў пра яе апавядаць. Ён па тым, дзе мурашкі аблюбавалі сабе прыстанішча, мог сказаць, ці ёсць поблізу балота і вада, па недаспелых ягадах ці па тым, як разыходзяцца ад ствала галіны, пазнаваў, дзе поўнач і дзе поўдзень, а па кары на камлі дрэва ведаў, колькі дрэву год. Ён наогул ведаў у лесе ўсё. Калі неяк яны спалохалі дзікую казу і Юля добра не разгледзела яе, бо бачыла ўпершыню, ён параіў схавацца за куст і стаяць там, стаіўшыся... Каза, гаварыў ён, абавязкова прыйдзе на тое месца, дзе яе спалохалі,— такая ў яе ўжо натура: хоча паглядзець, хто яе напалохаў...

І каза папраўдзе неўзабаве прыйшла зноў на той самы лужок. І нават не адна, а з дваімі рыжанькімі казляняткамі, якія надта ж пацешна цюпалі след у след за маткаю...

Юлін бацька вырас у лесе і заўсёды па ім сумаваў. Можа таму, калі яму не дазволілі болей вучыць дзяцей, ён надта і не дамагаўся гэтага — уладкаваўся ў лясніцтве за лесніка, на месца свайго бацькі, які перад гэтым памёр. Памёр дзіўна. Пайшоў уранні са сваёй дубальтоўкай у абход і не вярнуўся. Знайшлі яго праз два дні. Ляжаў, бы ўсё адно спаў, на траве, там, дзе некалі стаяла леснічоўка і дзе было яго селішча...

Юліна маці доўга не магла змірыцца з тым, што

бацька так лёгка памяняў работу. І часам дакарала яго:

— Чаго табе баяцца? Дабівайся свайго. Нельга ж век хадзіць з плямай...

Бацька спярша жартаваў. Маўляў, ён толькі таго ўсё жыццё і хацеў, каб стаць ляснікам, каб замяніць на службе свайго бацьку пасля яго смерці. Потым, калі маці зноў неяк зачапіла яго, сказаў:

— Радавацца трэба і так, што я на волі. Работа — гэта паўбяды ўжо, глупства, не прападу і тут, дасць бог — не здзічэю ў лесе... А пачні дабівацца, усплыве нешта яшчэ — і ўсё...— і дадаў вельмі ціха і сумна: — Пасадзяць...

— Невінаватага не пасадзяць,— не хацела згаджацца з бацькам маці.

Тады бацька, які маці ніколі слова насуперак не сказаў, раптам узлаваўся:

— Няўжо ты, Каця, і праўда лічыш, што ўсіх, каго забралі, забралі правільна?..— і, не чакаючы, што тая адкажа, гаварыў далей: — Дык ведай жа — гэта казаў мне сам той следчы, што разбіраў маю справу, бо гэта быў добры знаёмы нашай сям'і, ён ляжаў паранены ў нашай хаце яшчэ ў грамадзянскую, калі тут былі белапалякі: некаторыя справы, якія ён разбіраў, такія ж, як і мая, ліпавыя... Я не гаварыў табе пра ўсё, каб ты менш ведала і менш перажывала... І мне трэба маўчаць, калі я хачу быць на волі, маўчаць, як мышы. Нідзе нікому ні пра што нічагуткі, ні шэп нават...

Юля не чакала, калі скончыцца гэтая размова. Яна, згледзеўшы, як пабялеў бацька, калі ўбачыў яе ў хаце — ён, відаць, думаў, што дачкі няма дома, а яна сядзела ў спальні і ўсё чула, пра што гаварылі бацька з маці,— выйшла на вуліцу.

Аднак пасля гэтай размовы Юля не помніла, каб хоць калі ў чым папракала бацьку маці ці раіла яму дабівацца ранейшай работы — настаўніцтва...

У тыя дні і зачасціў да іх дзядзька Падабед — ён быў маленькі ростам, з угнутай у горб кароценькай шыяй і ненатуральна доўгімі, як і ва ўсіх гарбуноў, рукамі. Звычайна ён укатваўся надвячоркам у хату, тоўсценькі, кругленькі, дабрадушна смяяўся і гаварыў да бацькі:

— Лухта, лухта ўсё, Ляксандр Міронавіч.— У яго была звычка ўсіх зваць па імю і па бацьку, нават часам дзяцей.— Не бядуй, як кажуць, усё перамелецца, мука будзе...— І толькі тады, счакаўшы трохі і насцярожана агледзеўшыся наўкола, раскрываў, што было ў яго на душы.

Аднойчы ён расказаў бацьку і маці такое, чаго Юля доўга не магла забыць.

— Гэта ж прыходзіць да мяне,— гаварыў ціхутка, бы ўсё роўна шаптаў, Падабед,— Піліпавіч. (Юля ведала: Піліпавіч быў сакратар райкома.) Садзіцца насупроць, боты разувае. «Падбі, кажа, Мінавіч, добранька падбі боцікі мае. Дарога вялікая, ой якая вялікая намячаецца!» А голас такі невясёлы, проста — ну, як замагільны. «Камандзіровачка?» — пытаюся, а ў самога і сэрца ўпала: «Няўжо, думаю, і да Арцёма Піліпавіча чарга ўжо дайшла?..» «Так, так,— кажа Піліпавіч,— камандзіровачка. І не на тыдзень, не на два і нават не на год. Доўгая, доўгая камандзіровачка!..»

Гаворым так і не глядзім адзін аднаму ў вочы. Сорамна. «Ды што ж гэта вы,— не вытрываў урэшце я,— сябе абараніць не можаце?» — «Не магу, Мінавіч, не магу...— кажа Піліпавіч і ўздыхае.— Давучвацца паеду, мала я, аказваецца, у царскіх турмах гніў...»

Бяру бот, набойкі новыя падстаўляю, цвік хачу забіць, толькі малаток мой не па цвіку, а па руках найбольш цаляе. Убачыў гэта Піліпавіч ды за плечы мяне рукою як страсяне. «Што гэта ты, Мінавіч, паддаўся? А ну, давай нашу!» — і зацягвае ціхенька так, напаўголасу: «Вихри враждебные веют над нами, черные силы нас злобно гнетут...» Падпяваю я яму, а слёзы ў мяне з вачэй, як боб, так і сыплюцца, нічога перад сабою не бачу. Гэта ж разам з ім мы гэтую песню яшчэ пры цару спявалі, як на кватэры ў мяне збіраліся, і ў семнаццатым, як рэўком устанаўлівалі, і ў васемнаццатым, як ён у партызанах быў ды ў мястэчка да мяне прыходзіў... Я ж у падполлі тады тут быў... Толькі я не пайшоў у начальства, грамата ў мяне малаватая. Дый так я чалавек не відны... Саўладаў я з сабою, шыла ў рукі ўзяў. А Піліпавіч невідушчымі вачыма ўставіўся некуды ў кут, кажа: «Зайздрошчу, ох як зайздрошчу я табе, Мінавіч. Вышэй за цябе няма цяпер у нашым мястэчку чалавека. Цябе ніхто тут у

тваёй каморцы не бачыць, а ты нас усіх бачыш. Навылёт. Бо ўсе мы нясём табе свае боты. А ты чалавек разумны — па ботах чытаць умееш, хто чым займаецца. Боты ўсё скажуць, калі за ботамі ўмееш чалавека бачыць... А ты, Мінавіч, умееш!.. Таму і зайздрошчу табе. І ты вечны, як вечная і твая работа. Ніхто ў цябе малатка і шыла ніколі не адбярэ. Ты заўсёды на сваім месцы, дзе б ты ні быў. І калі я ў лесе, памятаеш, некалі быў, і пасля... І калі што — там... А я?.. Іду вось дадому і не ведаю, дзе заўтра буду. Ох як такія, як мы з табой, трэба будуць... Вайна ж, Мінавіч, на нас коцщца... Ды вось бяда жыцця нашага — назад хадзіць нельга. Наперад, і толькі наперад. Нарадзіўся, падхапіў цябе вецер — і гоніць, гоніць... Падбі, падбі, Мінавіч, добра падбі мае боты! Багата я імі дарог перамераў, яшчэ можа больш давядзецца перамераць. І не забывай на нас, старую гвардыю, мы заўсёды будзем з вамі, з жывымі...— І зноў зацягвае тую, нашую: «Вихри враждебные веют над нами...»

І кончыў Падабед зусім шэптам:

— А сёння прыходжу на работу і чую: няма ўжо нашага Піліпавіча...

— Арцёма Піліпавіча ўзялі? — жахаўся бацька.— За што ж яго?..

— Паражэнчы настрой... Дый іншае адно да аднаго прыплялося...

І ўжо за цэлы вечар не прамовілі ні слова — моўчкі пілі чай, моўчкі слухалі, што перадавала радыё... Бацька толькі час ад часу спасцярожліва паглядваў на маці, нібы сваімі вачамі яшчэ спрачаўся з ёю: ну, што я, маўляў, казаў табе? Калі Піліпавіча ўзялі, дык чаго ж ужо чакаць нам...

«Тата, тата, дзе ты цяпер?..»

За палянай зноў пайшло чарналессе. Дубы, ясені, клёны... Гонкія, амаль без галля, і нізкія, разгатыя; старыя, з сівымі барадамі моху на камлях і суччы, і зусім маладзенькія, танюткія — не таўсцей ад цуголкі. А ў лагчынах, дзе вясною збіраецца талая вада,— цэлыя зараснікі алешніку, бераскплету, баравой і лугавой лазы. Сонца сюды амаль ніколі не пранікае — не можа прабіцца праз густыя шаты. І тут заўсёды ўлетку, нават у такі сухмень, як сёлета, сыра, прытарна

пахне земляным сэрцам і прэллю. І заўсёды, калі б ні ішоў, тут гудуць, таўкуцца хмараю камары. Вялікія, нейкія рыжыя і надта ж кусачыя. Юля не паспела і агледзецца, як яны абляпілі ёй рукі, ногі...

Збочыла са сцежкі, хацела адламаць бярозавую галінку, каб было чым адмахвацца. І ў той жа момант скокнула ўбок — ля самай нагі зашыпела гадзюка. Ужо калі адбеглася на чыстае, убачыла: гадзюка, скруціўшыся ў абаранак, падняла галаву і жвава вадзіла ў паветры доўгім чорным раздвоеным языком. Спіна ў гадзюкі была рыжая, як і ва ўсяго жывога, што пладзілася тут, у чарналессі, пабітая на шашачкі, а галава чорная, сплюснутая. Зялёныя вочкі пераліваліся злосным шалёным агнём.

«Вось і пабыла б я ў Муціжанскім лесе»,— сумна ўсміхнулася сама сабе Юля.

Вярнулася, падняла кошык, што ад страху была ўпусціла з рук. І ўжо далей, пільней прыглядаючыся пад ногі, пабегла бежкам па лесе — трэба было спяшацца, каб не спазніцца да броду, папярэдзіць партызан...

Выбегшы на поле, Юля перадыхнула, пайшла зноў памалу.

Спякота патроху спадала. Аднекуль дыхнула ветрам — ён быў цёплы, сухі, але ўсё ж прыемна абдаваў твар, халадзіў спацелую спіну і ногі. Цень прыкметна большаў — з кароткага, прысадзістага ён выцягваўся ў доўгі, худы. Удалечы ляніва махаў крыламі вятрак. Млынкоўскі. Сама вёска Млынок хавалася за пагоркам і з дарогі не была відна. Толькі чырванелі дзе-ні-дзе каміны ды вытыркаліся стрэхі. Казалі, што адсюль, ад ветрака, палавіна дарогі да Доўгага Моху.

Юля паглядзела на сонца — яно было высока, хоць ужо і зрушыла з поўдня. Падумала: калі гэтак і далей будзе ісціся, ніхто не затрымае, яна рана будзе ля броду. Яшчэ нават не змеркнецца. Перадасць тое, што прасіў перадаць дзядзьку Цімаху Падабед, а сама папросіцца збегаць у Доўгі Мох — сказаць усім у вёсцы, каб хаваліся, дзе хто можа, бо вёску заўтра спаляць немцы. Цётку Матруну, вядома, яны з маці забяруць да сябе, у мястэчка. Хай жыве ў іх, месца ў

хаце хопіць. Вось толькі з ядой не вельмі... Але што ты зробіш, як-небудзь з хлеба на ваду будуць перакідацца, з голаду, можа, не памруць...

Цётка Матруна была старэйшая і адзіная бацькава сястра. Іхняя маці памерла рана, жаніцца другі раз і браць сваім дзецям мачыху ляснік Мірон не захацеў, таму ўвесь сямейны клопат змалку лёг на Матруніны плечы.

— Ат, які толк з дзявочай навукі,— апраўдваўся каторы раз ляснік перад сябрамі (іх было ў яго многа, яшчэ з партызанства), калі тыя, бывала, пыталіся, чаму ён не вучыць дачкі.— Распісацца ўмее, і до. Хай лепей замуж выходзіць ды дзяцей гадуе...

Замуж Матруна выйшла, але дзяцей не нарадзіла. Ні аднаго. Спачатку спрабавала па знахарках розных ездзіць, усё рады якой сабе шукала. Пасля і на гэта рукой махнула, хоць бяздзетнасць сваю і вельмі перажывала. Можа праз тое, што не было ў яе дзяцей, Матруна і кінулася так з усёй шчырай душою да бога, відаць, недзе ў глыбіні душы спадзеючыся выпрасіць у яго хоць на старасць сабе дзіцятка.

— Усё ў руках божых,— гаварыла яна.— Захоча бог — абдорыць, захоча — забярэ і тое, што даў. Нечым я не дагадзіла яму... Ён высока, зверху яму відней...

Юля доўга не магла прывыкнуць да цётчынай набожнасці, а маці дык і зусім баялася, не хацела на першым часе пускаць Юлю да цёткі ў вёску.

— Яшчэ дзіця саб'е з тропу,— казала яна мужу.— Жах, у сям'і савецкіх настаўнікаў — набожнае дзіця!..

Але бацька смяяўся.

— Ды кінь ты, Каця. Не прымай гэта ўсур'ёз. Матруне проста цяжка жыць без дзяцей. І яна выдумала сабе бога. Улешчвае яго, гутарыць, як з малым дзіцем...

У цёткі Матруны быў вялізны гарод, і ў які куточак там ні забярэшся — знойдзеш ласункі: ці то мак, ці гарох, ці боб, ці моркву, а то напорашся і на кавуна. Пярэстага, тугога і такога салодкага: калі разрэжаш — аж пырскае з яго сок... І Юля, як толькі прыходзілі канікулы, сама рвалася ў Доўгі Мох. А тыя ле-

ты, калі бацька пераійшоў на работу ў лясніцтва, і зусім пражыла ў вёсцы. Памагала цётцы палоць грады, акопвала бульбу, а іншы раз хадзіла з цёткай нават і ў калгас.

Там, у вёсцы, Юля падружылася і з Сяргеем. Ах, як добра было сядзець з ім ціхімі летнімі надвячоркамі на лавачцы ля цётчынай хаты!.. Сяргей вучыўся, як і яна, у восьмым класе і пасля школы збіраўся плаваць на моры...

Калі грунула вайна, ён разам з бацькам пайшоў у ваенкамат, каб забралі на фронт і яго. У ваенкамаце з ім і гаварыць не захацелі. Тады Сяргей вярнуўся ў вёску, сабраў такіх жа, як сам, васьмікласнікаў чалавек пяць — і пайшлі на ўсход. Але вырвацца з фашысцкага акружэння ім не ўдалося: за дзень да іхняга прыходу немцы разбамбілі пераправу цераз Дняпро, а перавезці іх на лодцы на той бераг ніхто не згадзіўся. Хлопцы былі ўпартыя, пачалі самі вязаць плыт... І, бадай, пераплылі б Дняпро, каб не напаткалі дзядзьку, што не ўцякаў, як усе людзі, ад немцаў, а ішоў да іх, на занятую імі зямлю. Гэты дзядзька і сказаў хлопцам, што ісці на той бераг Дняпра не варта, бо там ужо таксама немцы. Куды будзе лепш, калі яны вернуцца дадому, у сваю вёску, трохі перачакаюць там, збяруць параскіданыя ўзбоч дарог вінтоўкі і патроны, а тады ён іх пакліча, скажа, што трэба рабіць. Бо, казаў той дзядзька, немцаў можна біць не толькі на фронце, але ўсюды, дзе б яны ні былі...

Хлопцы, хоць і без аніякай ахвоты, усё ж вярнуліся дадому.

І праўда, мо праз які месяц Сяргей, а разам з ім і ўсе тыя, хто хадзіў да пераправы, зніклі, і маці іхнія гаварылі, што хлопцы зноў пайшлі прабірацца на ўсход, да сваіх. Але гэтаму мала хто паверыў. Бо нешта вельмі хутка па начах пачалі гарэць адзін за адным драўляныя масты, што былі па ўсіх дарогах з мястэчка, потым і калгасныя свірны са збожжам... Тады і папаўзла з вуха на вуха чутка, што масты і свірны паліць не хто іншы, як Сяргей і яго дружбакі. Некаторыя нават кляліся, што бачылі Сяргея, як ён аднойчы прыходзіў да маці, забавіўся і раненька, на світанні, краўся гародамі да лесу...

«...Няўжо і праўда Сяргей у партызанах? — думала, ідучы полем, Юля, і сэрца ў яе аж зашчымела.— Пра што я раскажу яму, калі ўбачу сёння? Што я зрабіла, каб не было на нашай зямлі немцаў? Сядзела дома, баялася патыкаць і нос на вуліцу... Але годзе, больш я не буду ні дня дома... І хай не плача маці, усё роўна яе не паслухаюся. Бо хіба ж можна сядзець склаўшы рукі, калі ўсюды немцы, калі яны паляць сёлы, забіваюць людзей... Я павінна памагчы свайму бацьку («Дзе ён, дзе? Як паехаў па мабілізацыі, так і не прыслаў ні аднаго пісьма! Але ён — Юля ўпэўнена ў гэтым — недзе на фронце, б'е немцаў!»), памагчы ўсім, хто не баіцца смерці і помсціць фашыстам...»

Млынкоўскае поле няроўнае, пагорыстае; цяпер, у вайну, яно парэзана на дробныя вузенькія загончыкі. Лапінка ячменю, лапінка бульбы, лапінка жыта, зноў бульба, зноў ячмень, зноў жыта... На такое поле неяк дзіўна глядзець — прывыклася ўжо бачыць усюды калгасную шыр: калі бульба — дык бульба, да самага небакраю, на ўвесь абсяг вока. І каліва ў каліва, бо ў адзін дзень садзілася, аднолькава ўгнойвалася, даглядалася. А то — месцамі жыта красуе, месцамі толькі высыпала, пусціла колас, а месцамі яшчэ нават у трубцы. Адно — чыстае, рослае, другое — чэзлае, усё ў траве. Бульба дзе пасаджана пад капаніцу, а дзе пад плуг; дзе абворана двойчы, а дзе не абганялася і разу — зарасла малачаем, драсёнам, свірэпаю, лебядою, пырнікам — не відно нават каліўя. Ці няма чалавеку на чым абагнаць, ці рукі не бяруцца рабіць. А можа, няма ўжо і гаспадара таго. Пасеяць пасеяў, а сабраць — не давялося: ляжыць, спачывае на могілках. Яны тут жа, непадалёку ад ветрака, пры самай дарозе...

Юля з бояззю і скрухай павярнула галаву да могілак — яны на пагорку, у старым, панурым хвойніку. І аж зжахнулася — так пабольшалі могілкі за апошнія гады... Усюды, куды ні паглядзі, бялеюць між камлёў новыя крыжы. Новых крыжоў нават больш, чым старых, пахілых. Асабліва там, дзе малады хвойнік. Крыж пры крыжы, і ўсе свежыя, дубовыя, яшчэ нават пачарнець не паспелі — цэлыя новыя могілкі.

«З вёсак людзі перабіраюцца на могілкі. Там спа-

кайней цяпер, чым у вёсцы»,— усплылі ў памяці словы, што чула ад цёткі Матруны.

І ў думках Юля зноў вярнулася да Доўгага Моху.

У Доўгім Моху Юля жыла з маці ўсё першае лета вайны. Бацька, калі яго праводзілі на фронт, строганастрага наказаў ім перабірацца з мястэчка да цёткі Матруны. «Прыйдуць немцы, то зарплаты штомесяц ніхто вам плаціць не будзе, за што ж вы жыцьмеце? А там што-што, а бульба будзе, дый так зацішней — усё ж вёска». Маці не верыла, што могуць сюды прыйсці немцы. Яна ўпэўнена была: немцаў разаб'юць яшчэ на граніцы. І да таго, што ёй раіў зрабіць бацька, не вельмі прыслухалася...

Але немцы такі сюды дапялі. Іх не разбілі нашы войскі на граніцы, не затрымалі і далей. І тады маці пазачыняла наглуха аканіцы, забіла цвікамі дзверы ў хату і пераехала з дачкою ў вёску.

Матрунін мужык, Казік, быў таксама на фронце, і Матруна была рада, што да яе перабраліся сваякі з мястэчка.

Хата ў Матруны была вялікая, прасторная, есці таксама было што, і з месяц жылося ціха. Немцы ў вёску наведаліся толькі адзін раз — назначылі старасту і паехалі. І людзі трохі паабвыкліся, асмялелі, нават некаторыя пачалі пагаворваць, нібыта ўсе тыя страхі, што расказвалі некалі пра немцаў,— дарэмныя. Цяжка, маўляў, будзе толькі тым, хто ў начальстве хадзіў ды грошы вялікія аграбаў, а рабочаму чалавеку заўсёды жытка аднакая — ары зямлю ды хлеб сей... І не лезь вельмі ў палітыку, бо гэта не тваёй галавы клопат...

Але немцы хутка паказалі, хто яны такія. Неяк, праязджаючы на машынах міма вёскі, яны забілі дзяўчыну, папярэдне згвалціўшы яе... Двух хлапчукоў, што аказаліся поблізу, не пашкадавалі таксама — перапалавінілі з аўтаматаў...

Потым у вёсцы згарэў калгасны свіран са збожжам. Збожжа гэтае людзі хацелі падзяліць між сабою, калі разбіралі калгас, ды не далі немцы. Свіран успыхнуў уночы, перад світаннем, калі ўсе людзі сама спяць. Вуглы і сцены нехта абліў газай, таму не дзіва, што атушыць збожжа не ўдалося — тыя, хто прыбег

на пажар, толькі пагрэліся ля агню і разышліся па хатах...

Назаўтра прыехалі немцы, пачалі шукаць, хто падпаліў свіран. Але колькі ні дапытвалі, чым ні страшылі,— ніхто ні на каго не паказаў. Застрэліўшы ў злосці штук пяць сабак, якія надта ж гаўкалі і кідаліся, калі чужынцы адчынялі весніцы і спрабавалі зайсці ў двор, немцы так ні з чым і паехалі.

Але праз дзень яны зноў былі ў вёсцы. Нехта перастрэў на дарозе двух немцаў, што чагосьці кіраваліся на матацыкле ў Доўгі Мох, і забіў іх. Невядомыя забралі зброю, матацыкл спалілі, а забітых немцаў так і пакінулі ляжаць на дарозе. Гаварылі, быццам зрабілі гэта салдаты-акружэнцы, што адсталі ад сваіх і ўсё яшчэ прабіраліся па лясах ад граніцы на ўсход. Хто-ніхто намякаў, што забітыя два немцы — гэта няйнакш работа хлопцаў, што зніклі з вёскі разам з Сяргеем...

Цяпер немцы былі не зусім такія, як тыя разы. Усіх людзей, і старых і малых, сагналі на майдан, дзе быў клуб і дзе да вайны збіраліся людзі на першамайскія і кастрычніцкія святы. І пачалі па адным вадзіць у клуб і пытацца, хто забіў іхніх салдат і ці ёсць у лесе «партызанен»... Людзі адмоўна хіталі галовамі і ніхто ні на кога зноў не паказаў...

Тады немцы вывелі з гурту дваццаць мужчын і падлеткаў, тых, хто быў праварнейшы і дужэйшы, і ўсіх расстралялі... Тут жа, на вачах у дзяцей, жонак і матак...

— Так будзе заўсёды! — паказваючы рукою на расстраляных, сказаў напаследак нямецкі афіцэр, што прыязджаў разам з салдатамі.— Памятайце: за аднаго забітага нямецкага салдата будзе расстраляна дзесяць рускіх!

І гэтая падзея так напалохала ўсіх — такі пра фашыстаў казалі праўду, гады яны ўсё ж! — што маці ў той жа дзень сабралася ўцякаць з вёскі назад у мястэчка.

— Там такое яны не асмеляцца тварыць,— казала яна Юлі і Матруне.— А тут што захочуць, тое і зробяць... Ведама, вёска...

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што маці вельмі баялася, каб дачцэ не перадалася Матрунiна набожнасць,

якая цяпер, з пачаткам вайны, перарасла ў фанатызм. Баялася маці і яшчэ аднаго — каб дачка не сустрэлася з Сяргеем, з якім, яна ведала, тая сустракалася і раней, і праз яго не звязалася з партызанамі. Тады, як толькі данясе хто — дачкі не стане... А Юля была ў яе адна.

І яна перабралася з Юляю назад, зноў у мястэчка, пачала жыць дома, дзе жыла і да гэтага...

У мястэчку рабілася нешта такое, чаго доўга не магла ніяк зразумець маці. Людзі, якім яна верыла як самой сабе, раптам ішлі служыць да немцаў. Больш таго, калі пачаўся верасень і немцы адчынілі школу — толькі на малодшыя класы, на старэйшыя чамусьці не адчынялі,— многія настаўнікі, з якімі яна некалі працавала, пайшлі вучыць дзяцей у гэтую школу. Давалі работу ў школе і Юлінай маці, але яна адмовілася, спаслаўшыся на болі ў галаве, якія мучаць яе штодзень, і на тое, што з малодшымі класамі яна ніколі не працавала.

— Лацвей ёй адмаўляцца,— перадалі маці словы адной знаёмай настаўніцы.— У яе адно дзіця, дый залвіца ў вёсцы... А ў мяне пяць ратоў, і ўсе есці просяць... Чым я накармлю іх, калі не пайду на работу?..

Потым у мястэчку пачаліся арышты, а за імі — і расстрэлы. І сярод людзей, каго фашысты расстрэльвалі, былі не толькі тыя, што сядзелі дома, але і тыя, што працавалі ў розных нямецкіх установах. І гэта зусім збіла з панталыку маці... Яна ані не магла разабрацца, хто цяпер свой, а хто вораг...

Тады і пайшла па людзях гамана, чаму так лютуюць фашысты — у мястэчку засталося партыйнае падполле, і немцы хочуць яго выкрыць. На сценах дамоў і на дашчаных платах яны папрыбівалі загад, надрукаваны адразу на чатырох мовах — рускай, беларускай, нямецкай і польскай. У гэтым загадзе пералічваліся ўсе кары, якія чакаюць кожнага, хто хавае зброю, пускае ў сваю хату начаваць людзей, не заявіўшы пра гэта ў камендатуру, ці будзе хадзіць па мястэчку ў недазволены час.

Але ўжо ў першую ноч на кожным такім загадзе была наклеена вузенькая палосачка, на ёй ад рукі было напісана: «Смерць нямецкім акупантам!» А яшчэ

дні праз два з рэек зляцеў пад адхон цягнік, што вёз на фронт гарматы і танкі... Тыя, хто жыў поблізу чыгункі, расказвалі пра пагнуты, перавернуты паравоз, пакарэжаныя, абгарэлыя вагоны, гарматы, танкі, пра тое, як зганялі немцы людзей з вёсак, каб памаглі ім падаставаць з-пад гломазду скрываўленыя, знявечаныя трупы фашысцкіх салдат...

Немцы зусім ашалелі. Хапалі кожнага падазронага і цягнулі ў камендатуру. А тут яшчэ, як на тое, нейкі смяльчак у форме нямецкага афіцэра сярод белага дня застрэліў каменданта...

Новы камендант сваю работу пачаў з таго, што ў адзін дзень загадаў сабраць усіх яўрэяў, выгнаць іх у поле да тых ям, дзе капалі на цэглу гліну, і расстраляць... Яўрэяў расстралялі, але і камендант не надта доўга дыхаў «не атручаным яўрэямі паветрам» — нешта дні праз тры ён знік, не пакінуўшы па сабе нідзе ніякіх слядоў... Казалі, што яго выкралі самі яўрэі, што ўратаваліся неяк ад расстрэлу...

Трэці камендант, Вінкель, вельмі клапаціўся пра паліцыю. Раней паліцыя была ў мястэчку ды ў валасцях. Цяпер яе арганізавалі ў кожнай вёсцы. Начальнікам паліцыі стаў Коўцік — чалавек, які невядома адкуль паявіўся, але пра якога ўсе гаварылі, што ён люта ненавідзіць бальшавікоў і ўсё, што хоць чым-небудзь напамінае Саветы. Хадзіла пагалоска, што сам ён з кулакоў, бацьку яго нібыта раскулачылі і саслалі, а ён недзе перахаваўся і ацалеў. Паліцаі і памаглі скласці спісы ўсіх былых савецкіх актывістаў, іхніх сем'яў. І немцы пачалі іх браць і расстрэльваць...

— Трэба ж, каб знайшліся такія! — доўга не магла супакоіцца Юліна маці.— Не было б гэтых прадажнікаў, што б зрабілі немцы? Яны ж як сляпыя тут, ані нічога не ведаюць... А гэтыя, свае, усё ведаюць і, калі што, падказваюць!..

Юля менш за ўсё думала аб прадажніках. Яна была занята толькі адным — знайсці, натрапіць на след Сяргея ці падполля. Дзеля гэтага яна неяк нават пайшла ў клуб, дзе калі-нікалі ўвечары збіраліся хлопцы і дзяўчаты, каб патанцаваць. Дзяўчаты не вельмі то на тыя танцы і хадзілі, найбольш хадзілі маладыя салдаткі, што не надта дбалі пра сваю жаночую цноту

і не баяліся, што пра іх гулі нехта раскажа іх мужыкам. А хлопцы былі таксама ведама ж якія — паліцаі.

Юля праціснулася ў дзверы — яна спадзявалася ўбачыць у клубе хоць каго са сваіх аднакласнікаў. Але не паспела яна і агледзецца, як да яе падскочыў Цапок.

— Юлька! — крыкнуў ён і, абхапіўшы за плечы, пацягнуў у круг.

Гралі нейкі новы танец. Танцаваць яго ніхто палюдску не ўмеў, кожны танцаваў нешта сваё, і Юлі вельмі хутка адтапталі ногі. Цапок быў п'яны і ўсё даказваў, дыхаючы ў твар самагонным перагарам, як добра Юля зрабіла, што прыйшла ў клуб.

— А то цябе падазраваць пачалі ўжо...— сп'яну балбатнуў ён.

Хто і ў чым пачаў падазраваць — ён не паспеў сказаць, бо ў гэты момант зайгралі сербіянку. І Цапок, забыўшыся на Юлю, пусціўся раптам упрысядкі. Дробна перабіраючы нагамі, падбег да гарманіста, адкінуў назад галаву, страсянуў доўгай кучаравай шавялюрай і, па-заліхвацку паляпваючы рукамі па халявах, заспяваў:

Сербіянка, мая мамка,
Не хадзі на вуліцу...

А далей з яго вуснаў вырваліся такія словы, што Юлю заўсёды кідала ў чырвань, калі ўспаміналa Цапка.

Яна ледзь уцякла тады з клуба, бо кожны паліцай так і мерыўся, каб аблапіць яе...

Больш яна ні разу не хадзіла на танцы...

За могілкамі Юля ўбачыла наперадзе сябе жанчыну: яна несла з поля, прытрымліваючы рукою, каб не падала, поўны, укоптур, кашэль касцярушкі, малачаю і лебяды. Відаць, палола свае загоны і навыбірала заадно свінням травы.

«Даганяць ці не?» — падумала Юля.

Усё ж палічыла за лепшае дагнаць.

Жанчына была не старая, хоць і вельмі стомленая. Твар жаўтлявы, худы, а рукі і ногі чорныя ад загару і зямлі.

— Добры дзень вам, цётка,— сказала Юля, калі

параўнялася з жанчынай, і, кіўнуўшы галавою на кашэль, спыталася: — Што, свінням?

— Аге ж, свінням,— акінула ўважлівым позіркам з ног да галавы Юлю жанчына. І цяжка ўздыхнула.— Ці есці тое сала будзеш, ці не, але пакуль жывеш, пра жывое і думаеш... А ты ж гэта куды ідзеш, нябога, ці часам не ў Доўгі Мох?

— У Доўгі Мох,— прызналася Юля і сумелася.— Адкуль вы ўгадалі?

— Ды тут і гадаць не трэба,— сказала жанчына.— Спыталася, бо не пускаюць туды нікога. І адтуль нікога. Кажуць, чума там. Але я думаю — якая ж там бо чума? Зроду яе ў нас не чуваць было. Нешта надумалі фрыцы, то і не пускаюць. Паліцаяў нагналі поўнае сяло. Не на добрае ўсё гэта... А ў цябе хто там жыве? — спыталася, зноў павярнуўшы галаву да Юлі, жанчына.

— Цётка. А я местачковая сама. Маці захварэла, і есці акурат няма чаго... Іду, каб у цёткі ўзяць,— паказала Юля вачыма на свой кошык.

— Калі толькі па гэта, дык назад лепей ідзі, дзяўчыначка мая харошая,— спагадліва параіла жанчына.— Бо возьмуць яны цябе... Бяруць, гады, каб яны папруцянелі, каго папала. Хлопец мой уранні пабег гусей займаць на поплаў, што па той бок ракі, дык таксама ўзялі. Сядзіць цяпер у свіронку, пад вартай. Нікога не падпускаюць ні на крок — есці нават не даюць занесці. Поўны свіран назганялі людзей — каго толькі ўбачаць, таго і хапаюць...

Жанчына зноў цяжка ўздыхнула.

— Шкода мне цябе. Трапіш да іх у рукі — а вырвацца як бог дасць. Але калі табе так пільна трэба ў Доўгі Мох — паспрабуй на кладкі пайдзі! Гэта па сцяжынцы направа, як сяло пяройдзеш. Там, кажуць, уранні ніхто яшчэ не стаяў. Толькі калі папраўдзе ты з мястэчка і ў Доўгім Моху радня ёсць...— і ўжо зусім ціха, хоць на дарозе не было нікога, толькі яны ўдваіх: — Надоечы ішла адна такая, таксама, казала, з мястэчка... Перастрэла я яе, кажу — вярніся, дзеўка, не ідзі... Не паслухалася... Узялі яе тут, кажуць, з самой Масквы была. Па мове і пазналі... Бо колькі ні пыталі, як ні білі — нічога не сказала, хто яна і адкуль. Бы ўсё адно нямая... Павесілі сёння... Во сялом ісці

будзеш, паглядзі, калі сэрца ў цябе здаровае. На браме вісіць... Я не магла...

І жанчына загаласіла:

— Што ж гэта робіцца, людзечкі? Колькі ж цярпець так можна? Як дзень настае, то і чакай, каго забяруць ці застрэляць... А ў нас гэты яшчэ Шылахвост, начальнік паліцэйскі, чаго ён ужо толькі ні вытварае... Учора злавіў мяне, як па ваду ішла. Вёдры пагнуў. «Я,— кажа,— ведаю цябе, сволач. У поле штодзень, трэба табе ці не трэба, ходзіш, людзей перастракаеш, што ў Млынок ідуць, ды расказваеш, што ў сяле ў нас робіцца...» А сёння хлопца майго пасадзіў у свіронак... І каб толькі са мною, а то ж з усімі людзьмі так, заеўся, нікога за чалавека не лічыць... Горш за немца праклятага...

У вёсцы жанчына спынілася, яшчэ раз пільна агледзела з ног да галавы Юлю.

— Во і дом мой,— паказала на хату, што стаяла ў вішняку за высокім, густым штыкетнікам,— відны былі толькі блакітныя, ужо месцамі адлупленыя аканіцы ды жоўтыя, абабітыя дошкамі сцены.— Маўклівая ты нейкая, дзяўчынка. Нічога мне не хочаш казаць. Не верыш, значыцца... А я ж з добрай душой да цябе, як да дачкі роднай...

— Не бойцеся, цётка,— слаба ўсміхнулася Юля.— Я праўда з мястэчка. І цётка ў мяне ў Доўгім Моху ёсць.

— Таму кажу табе ўсё гэта, што Шылахвост наш усіх тут ведае. Падмануць яго не ўдасца. І не спрабуй нават... Ну, то шчаслівай табе дарогі!

— Дзякую,— кіўнула на развітанне галавою Юля.— Шчасліва і вам...

Што ў Млынку паліцаі і што яны нікога не пускаюць за Віць, было новае, непрадбачанае. Пра гэта нічога не ведаў нават сам Падабед, інакш ён папярэдзіў бы Юлю, сказаў бы, як быць, каб яе не затрымалі.

Ідучы поплеч з жанчынай, Юля ўвесь час толькі і думала, што ёй рабіць. Вяртацца назад, паспрабаваць абысці вёску бокам было позна — яе маглі ўжо бачыць паліцаі і кінуцца даганяць. Дый сама гэтая жанчына — хто яна такая? Гаварыла як бы пра ўсё шчыра, а тым часам хто ведае, што ў яе на душы... Давя-

рацца кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму не варта... «Што ж, што будзе, тое будзе, а назад дарогі няма. Паспрабую перайсці Віць па кладках. Калі запыняць, скажу: не ведала, што нельга ў Доўгі Мох. А што пайшла кладкамі, дык сюдою, маўляў, я заўсёды хаджу, бо кладкамі намнога бліжэй і дарога лепшая, цвярдзейшая, не трэба па калена пясок нагамі мясіць...»

Млынок — вёска невялікая, двароў усяго якіх мо шэсцьдзесят-семдзесят. Адна вузенькая крывая вулічка, абсаджаная па абодва бакі садамі, абгароджаная парканамі і густымі лазовымі плятнямі. Хаткі старыя, маленькія, стрэхі саламяныя ці чаратовыя — іх паспеў ужо добра ўкрыць зялёны мох: землі ў вёсцы пясчаныя, неўрадлівыя, і людзі жылі тут заўсёды бедна. Вокны і дзверы ў некаторых хатах пазабіваны крыж-накрыж дошкамі, гароды пры хатах не засеяны — пустуюць: пазарасталі бур'янам, лопухам, дзядамі... Падаліся людзі ў бежанцы ці можа паўцякалі ў лес... А хаты стаяць, чакаюць, калі вернуцца гаспадары...

Пасярод вёскі пры самай дарозе — вялізная глыбокая яма. Ад бомбы. Скінуў гэтую бомбу яшчэ ў першыя дні вайны нямецкі самалёт, што неяк ляцеў адзін нізка над лесам. Бомба ўпала ў гародчык, выбухам скасабочыла вугал хаты, знесла страху, патрушчыла на друзачкі шыбы, разбурыла печ... Добра, што ў хаце ніхто не жыў — гаспадары пайшлі на ўсход, у бежанцы.

Так ад таго лета і зеўрае пасярод вёскі незасыпаная яма. Бакі яе пааб'язджалі, абсунуліся; на дно, дзе блішчыць каламутная, зеленаватая лужына вады, дзеці панакідалі палак, драных чаравікаў, галёшаў... Стаіць і хата тая разбураная... Пашчапаныя асколкамі бярвенні, паламаныя кроквы і латы, ля плота — куча пачарнелай саломы са страхі... Нікому да ўсяго гэтага няма клопату, нікому не коле яно вочы... Калі Юля з маці яшчэ жылі ў Доўгім Моху, пра тую бомбу шмат гаварылі. Некаторыя нават спаць не кладліся ў хатах, а ішлі нанач дзе-небудзь на гарод ці забіраліся ў паграбы...

Людзей на вуліцы не было — ніхто не хацеў выходзіць у такую спякоту з хаты ці мо стараніліся паліцаяў... Сноўдалася, сонна парохкваючы, паўз платы

вялізная, вываленая ў гразь, свіння, няйнакш шукала шчыліны, каб залезці і спустошыць які гарод, ды грабліся ў пяску куры.

Ля брамы — яна стаяла збоку, пры ўваходзе ў школьны двор — Юля прайшла, не падымаючы ад зямлі вачэй. Баялася, што ўбачыць павешаную дзяўчыну, пра якую гаварыла тая жанчына, і спалохаецца, пабяжыць. А гэтага рабіць ніяк нельга было. Цішыня і бязлюднасць у вёсцы насцярожвалі: ці не сочыць хто за ёю з акна? Ці з-за паркана?.. Бо чаму ж не відно нідзе ні чалавека? А можа жанчына тая казала няпраўду, можа ніякіх паліцаяў няма і не было ў Млынку? Але навошта было ёй тады маніць?..

І разам з тым так і карцела, цягнула паглядзець — хто ж яна, тая невядомая дзяўчына. Але Юля перамагла ў сабе гэтую цікаўнасць, не паглядзела.

Праўда, павешаную ўсё роўна ўбачыла. Не, не самую, а цень ад яе. У першую хвіліну аж не паверыла сабе — скаланулася ўся, калі на вочы ёй упаў той страшны цень — ён слаўся акурат паўз плот па сцяжынцы.

Павагалася — ступаць ёй на гэты цень ці лепей абысці?..

Ногі збочылі, здаецца, самі са сцяжынкі...

Аж спацела, пакуль перайшла вёску.

Адразу за канцавымі хатамі пачынаўся алешнік. Малады, густы — не ўваткнуць нідзе і пальца.

Прыглядаючыся да алешніку, каб не прамінуць той сцяжынкі на кладкі, пра якую гаварыла жанчына, Юля пайшла далей. Не прамінула — сцежка, вытаптаная да чарнаты, бегла праз паплавец і была добра значна ў траве.

Звярнула на сцяжынку. І тут адчула, як трывожна і часта б'ецца ў грудзях сэрца — аж коле.

«Чаго яно так? Здаецца, нічога ж яшчэ і не здарылася. Нават паліцая ні аднаго не бачыла...»

Але праз хвіліну нешта як бы штурхнула яе — яна ўспомніла цень ад павешанай.

«Ну і што, як бачыла той цень? — спыталася цікаўная думка.— Ці мала цяпер каго вешаюць і забіваюць?.. Баяцца гэтага?..»

«А хіба я кажу што?» — адказала гэтай думцы другая думка.

«Дык навошта ўспамінаць тады?»

«А так...»

І ўсё неяк няпэўна, з трывогай...

Каб хоць трохі адагнаць ад сябе думкі, пачала глядзець на алешнік. Ён невысокі, лапушысты і рос усюды купамі, кустамі. Відаць, алешнік гэты ўзімку людзі секлі ўсёй вёскай на апал, бо тут і там з кустоў вытырчаліся вострыя ражны пянькоў. Пянькі папускалі парасткі, атожылкі, і карчы ад гэтага яшчэ болей пабушнелі.

У алешніку стракочуць сарокі, свішча нябачны гівал. У гразі грабуцца два пеўнікі-весенчукі. Скубуць пры самай сцежцы траву гусі. Сычыць зусім блізка конік. Цэрк-цэрк, цэрк-цэрк...

Але трывога не праходзіць. Наадварот, яна расце з кожным крокам, і тым больш, чым менш застаецца да ракі.

«Што, калі мяне вось зараз затрымаюць і не выпусцяць?.. Хто, хто перадасць тады партызанам тое, што павінна перадаць я?.. І што будзе заўтра з тымі людзьмі, якіх застануць немцы ў Доўгім Моху, што будзе з самімі партызанамі? Ах, якая ж я дурніца... Пайшла сама ў рукі паліцаям. Чаму не вярнулася, калі пачула, што ў Доўгі Мох не пускаюць, што ўсіх, хто туды ідзе, арыштоўваюць? — узнікалі, таўкліся ў галаве, абганяючы і выцясняючы адна адну, думкі.— Казаў жа Падабед, мне трэба думаць не толькі пра сябе, але і пра тых, хто ў лесе, хто застаўся ў мястэчку, хто жыве ў Доўгім Моху...»

Уваччу паўстаў Падабед. Устрывожаны, такі, які ён быў, калі ўбег сёння ў поўдзень да іх у хату. Як гаварыў са слязьмі на вачах ёй, Юлі:

— Дачушка, памажы нам... Бо калі мы не звяжамся з партызанамі, колькі людзей загіне!.. Ведаю, не час табе яшчэ займацца гэтым, але што зробіш, вайна!..

«Я перадам, усё перадам, што вы прасілі, дзядзька Падабед!» — клялася Юля ў думках і падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй да ракі...

Трывожылася Юля недарэмна — перайсці Віць па кладках ёй не ўдалося.

Ледзь толькі яна мінула алешнік, убачыла: на траве, ля самых кладак, заціснуўшы між кален вінтоўкі,

сядзяць паліцаі. Трое. Усе ў чорных хромавых ботах, без шапак, на рукавах — белыя шырокія павязкі. Адзін паліцай тасуе калоду карт, два другія не зводзяць вачэй з яго рук.

Паліцаі былі так заняты картамі, што, здавалася, нідзе і нічога не бачаць.

Юля спынілася.

«А што, калі ўзяць ды шмыгануць назад, у кусты?..»

Але не паспела яна гэта зрабіць, як яе аклікнулі:

— Гэй, дзеўка, хадзі сюды!

Сэрца ёкнула.

«Вось і ўсё...» — мільганула ў галаве, і Юля паволі пайшла да паліцаяў. Ногі нейк адразу адзеравянелі, зрабіліся як чужыя, ані не гнуліся ў каленях. Яна ішла, а ў душы было такое адчуванне, што яна не ідзе, а стаіць на месцы.

Калі ж нарэшце яна падышла да паліцаяў, здагадалася, чаму так пільна яны сачылі за картамі — гулялі ў ачко. Ля іхніх ног ляжала шапка, поўная скамечаных і зусім новых, яшчэ храбусткіх савецкіх і нямецкіх траячак, рублёў і марак. Быў акурат ці не стук.

— Ты куды? — спытаўся, не падымаючы на Юлю вачэй, адзін з тых, што глядзелі за сябрам, як той тасаваў карты,— ён быў старэйшы ад астатніх, шыракаплечы, тварваспаваты, паклёваны.

— У Доўгі Мох, да цёткі,— адказала Юля вельмі ціха, не сваім голасам. І адчула, як пахалодала пад сэрцам, як бяруць яе дрыжыкі...

— Што ты гамзіш там сабе пад нос? Баішся каго?..— спытаўся зноў той жа, паклёваны — толькі цяпер Юля ўбачыла, якія вялікія ў яго вушы. Бы ўсё роўна налісnікі.

— Вас,— проста адказала Юля.

— Чаго ж гэта нас баяцца? Што, рогі ў нас на галаве? — буркнуў сабе пад нос той, што тасаваў карты, ён быў хваравіты і надта ж худы. Праз меру доўгі нос завастраў яшчэ больш і без таго востры ягоны твар.

Юля не адказала — адчула, што лепей маўчаць.

— Адкуль ты? — спытаўся праз хвіліну зноў паклёваны.

— З мястэчка...

— Гэта мы даведаемся зараз! — у яго голасе чула-

ся пагроза і нібы насмешка.— Свердзел! — перавёў ён свой позірк на таго худога, што тасаваў карты.— Здаецца, твая чарга. Завядзі дзеўку да Шылахвоста...

— Пачакай, дабанкую,— буркнуў худы.

— Што тут банкаваць. Дай карту,— працягнуў шырокую, як лапата, далонь паклёваны.

Худы даў.

— Па ўсіх! — і паклёваны папрасіў яшчэ адну карту. І адразу ж перавярнуў абедзве карты — прыйшлі дзесятка і туз.— Гы-гы-гы,— паказаў ён вялікія і жоўтыя, як у каня, зубы і, згробшы рукамі шапку, проста з грашыма надзеў яе на галаву.

Трэці паліцай — зусім яшчэ хлапчук, ад нечаканасці толькі свіснуў...

Худы са злосцю пляснуў калоду карт вобземлю і падняўся.

— Ну, хадзем, дзеўка,— пацягнуўшыся, сказаў да Юлі.

І яны пайшлі — Юля папераду, паліцай крокі на тры ад яе ззаду. Як і належыць арыштаванай і канвойнаму...

* * *

Калі ў пачатку восені сорак першага года немцы прыехалі ў Млынок стаўляць новае начальства і сярод іх млынкоўцы ўбачылі з вінтоўкаю Шылахвоста, многія не паверылі вачам сваім. Як, Шылахвост з немцамі? — пацiскалі плячыма людзі.— Чаго ж гэта ён пайшоў да іх на службу? Помсціць?.. Але за каго — бацьку ж яго не раскулачвалі ў трыццатым, бо гэта быў бядняк з беднякоў. Каровы нават сваёй ніколі не меў... Раскулачвалі яны, Шылахвосты, і столькі былі нарабілі кулакоў, што аж у раёне не паверылі. Прыязджаў з мястэчка сам сакратар райкома Арцём Піліпавіч, каб разабрацца, хто папраўдзе кулак і каго трэба раскулачваць, а хто проста добры гаспадар, а таму трошкі лепей і жыве.

Не пацярпеў ніхто з Шылахвоставай радні і ў трыццаць сёмым. Наадварот, людзі пацярпелі ад Шылахвоста-меншага,— стары Шылахвост к гэтаму часу парыў ужо ў зямлі свае косці. Неаднойчы да яго ў Млынок прыязджаў той чалавек з раёна, якога ведалі ўсе,

і гаварыў, падказваў яму, на каго трэба напісаць заяву... І Шылахвост — гэта нікому не сакрэт — пісаў...

А цяпер, калі прыйшлі чужынцы, Шылахвост зноў вынырнуў, апынуўся наверсе. Зноў ён будзе над людзьмі, зноў будзе наводзіць свае, шылахвостаўскія, парадкі... Не, людзі не разумелі не толькі гэтага чалавека, а і саміх сябе...

А разумець Шылахвоста вельмі і не было чаго. Бацька яго, Банадысь, як жыццё яго ні кідала, ні цёрла, праз увесь век свой застаўся верны самому сабе — хоць з голаду падыхаў, але ніколі нідзе на пуп добра не браў, не перасільваўся, а то часам і наогул нічога не рабіў. Сена ў яго заўсёды гніло на лузе нягрэбенае, снапы прарасталі немалочаныя ў копах, а тое, што ўдавалася яму неяк абмалаціць, прэла ў мяшках, бо прасушыць зерне ў Банадыся не даходзілі рукі. Пажыўшы гэтак год колькі, ён і зусім аддаў свой невялікі надзел «на долю» суседу, а сам паехаў, як казалі ў вёсцы, шукаць лёгкага хлеба... Але лёгкага хлеба, як Банадысь ні шукаў, нідзе не было, усюды, дзе ён патыкаўся, трэба было рабіць. Дарма ніхто не хацеў плаціць. І Банадысь вярнуўся дадому. Прадаў сваю зямлю, а сам пачаў перакідацца з хлеба на ваду выпадковымі заробкамі — хадзіў капаць канавы, гаціў грэблі, а то часам наймаўся і ў пастухі... Сваю абыякавасць і непавагу да працы Банадысь перадаў і сыну. Сын перарастаў бацьку, а ўсё яшчэ байбусаваў па вёсцы. Таму і не дзіўна, што ў Шылахвостаў на стале рэдка калі бываў хлеб, не гаворачы ўжо пра што-небудзь іншае, смачнейшае...

Змалку, вырасшы ў страшэннай галечы і нястачах, не з'еўшы ніколі ўволю нават кавалка хлеба, не знасіўшы ні аднаго людскага кажуха і ботаў, Шылахвост зненавідзеў усіх, хто меў гэты хлеб, хто мог апрануць цёплы кажух, абуць боты і сыта пасмяяцца з яго, Шылахвоста, усюды, дзе б там ні было,— на вуліцы ці на вечарынцы. Ён ніколі асабліва не задумваўся, чаму ў аднаго нешта ёсць, а ў другога няма. Ён проста зайздросціў таму, хто быў багацейшы, і люта яго ненавідзеў...

Калі пачалася калектывізацыя, ён першы нараіў свайму бацьку падаваць заяву ў калгас — там будзе ўсё агульнае, рабіў не рабіў, абы за сталом лыжкаю цэрабіў! — першы пачаў чыніць расправу над тымі, хто

з яго некалі смяяўся. Ён аж перайначыўся за гэтыя дні, павесялеў, зрабіўся рухавы і прыткі — цэлымі днямі хадзіў па вёсцы, цёрся між людзей, усё прыглядаўся, прынюхваўся, падслухоўваў, дзе хто і што гаворыць. Трэба было якую сям'ю раскулачваць, то ён смела заходзіў у хату, і калі ў каго з камісіі не падымаліся рукі выкідаць на падворак з хаты вузлы, ён рабіў гэта з найвялікшай ахвотай і радасцю...

Кончылася калектывізацыя, і людзі зноў пачалі жыць, як і жылі раней,— аралі, касілі, сеялі, скародзілі, жалі, малацілі, пасвілі авечак і кароў, гадавалі дзяцей... Але рабіць тое, што рабілі ўсе, Шылахвост не хацеў — не прывык дый не ўмеў. Затое яму спадабалася быць за камандзіра, стаяць над людзьмі і ні за што не адказваць. Ды вось бяда — каб хадзіць у начальстве, на гэта трэба было мець грамату. Хоць куртатую, але без яе не абысціся — які ж ты начальнік, калі распісацца нават добра не ўмееш. І Шылахвост падаўся вучыцца. Праўда, правучыўся ён не доўга, праз які ўсяго год ці паўтара вярнуўся назад у Млынок, так і не скончыўшы тых курсаў, на якія яго пасылалі,— вучоба лёгка не давалася, трэба было шмат карпець над кнігай, думаць...

Ажыў быў ён, акрыяў зноў душою ў трыццаць сёмым годзе. Ох, і папапісаў жа тады ён гэтых самых «заявак». І на сваё, калгаснае начальства, і на раённае...

Але прайшоў і гэты час, а Шылахвост астаўся тым, кім і быў,— яго ніхто не прымеціў, не вылучыў ні ў якія дэпутаты, не даў ніякай кіраўнічай пасады. Ды цяпер Шылахвост быў не той, што некалі. Ён трохі пацёрся між начальства і ведаў: многія ў раёне, хто стаіць над ім і камандуе, не разумнейшыя за яго, і грамата ў іх не на багата большая. «Чаму ж тады ён карпее ў калгасе за брыгадзіра, а яны раз'язджаюць з тоўстымі партфелямі па раёне і жывуць сабе прыпяваючы... Прыедуць у вёску, прашалюхаюцца сюды-туды, і паехалі... А то яшчэ і чарку дармовую вып'юць, панаядаюцца ўсяго пералюбнага ад пуза ў сваіх падначаленых — калгаснага начальства... Хіба ён не можа займець такую ж, як і яны, пасаду і жыць гэтак жа, як і яны?..»

І калі такія думкі прыйшлі Шылахвосту ў галаву, ён дзён колькі нідзе не мог знайсці сабе месца — як

апантаны, лётаў сюды-туды — то ў поле, дзе людзі ўраблялі зямлю, то назад у вёску. Потым не вытрымаў — пагаліўся, надзеў лепшае, што было ў яго, запрог калгаснага жарэбчыка і паехаў у раён да сакратара райкома Арцёма Піліпавіча. Папрасіўся да таго на прыём і расказаў яму, як некалі з бацькам праводзіў у Млынку калектывізацыю, як змагаўся з ворагамі народа ўсе гэтыя гады. Не ўмоўчаў нават пра тое, што да яго прыязджае вядомы начальнік і падказвае, на каго напісаць...

— І вы пішаце? — аж прыўстаў з-за стала, пачуўшы такое, сакратар райкома.

— А як жа? — не зразумеў гневу сакратара Шылахвост.— Калі трэба, значыць трэба... Ворагаў савецкай улады я не шкадую, літасці да іх у мяне няма...

— Дык што вам трэба ад мяне? — ускрыкнуў тады сакратар райкома.

І Шылахвост, не маргнуўшы вокам, напомніў сакратару, што на яго, Шылахвоста, не трэба забываць, што яму даўно пара даць большую пасаду, чым брыгадзір, каб ён мог і далей змагацца з ворагамі савецкай улады, ужо не толькі ў межах вёскі, але і раёна.

І тут здарылася тое, чаго ніяк не чакаў Шылахвост. Сакратар райкома раптам увесь наліўся чырванню, аж пасінеў, і замест таго каб «падтрымаць маладога, вельмі ініцыятыўнага таварыша», паказаў яму на дзверы і прахрыпеў:

— Во-он! Каб і нагі тваёй больш не было тут!..

І выгнаў са свайго кабінета...

І гэта моцна, за жывое забрала Шылахвоста. У той жа дзень ён напіўся і позна ўвечары п'яны заваліўся да таго начальніка, што разоў колькі прыязджаў да яго ў Млынок. Упершыню сам, проста на кватэру, і расказаў пра сваю размову з сакратаром... Як на духу, не ўтаіў нічога, усё, як было, слова ў слова. І начальнік той змяніўся ў твары. «Балван! — закрычаў ён.— Што ты нарабіў!» І загадаў тут жа напісаць такую «заяўку», як пісаў Шылахвост неаднойчы, на сакратара райкома. У гэтай «заяўцы» трэба было расказаць, як Арцём Піліпавіч некалі, у калектывізацыю, берагаў ад раскулачвання кулакоў, апісаць падрабязна ўсю сваю сённяшнюю размову з сакратаром, умоўчаць трэба было хіба толькі адно — што начальнік раённага ад-

дзялення НКУС ездзіў да яго, Шылахвоста, і што па просьбе гэтага начальніка ён, Шылахвост, пісаў заявы...

Арцёма Піліпавіча неўзабаве ўзялі. Кануў як у ваду — нідзе і почуту аб ім не было. Потым, мо ўсяго праз які тыдзень, узялі і Шылахвоста... Знаёмы начальнік, відаць, замятаў за сабою сляды, каб такія, як Шылахвост, не ўблыталі недзе і яго.

А далей з Шылахвостам здарылася вось што. У турму, дзе ён адбываў пакаранне, сам добра не цямячы за што, у першыя ж дні вайны трапіла бомба. Турму разбурыла, і Шылахвост, у паніцы і неразбярысе, даволі лёгка апынуўся зноў на волі. Але воля гэтая яго не радавала — трэба было думаць, што рабіць, як жыць далей. Адступаць разам з усімі на ўсход?.. Але ж там — ён ведаў — яго чакалі зноў няволя, змрочныя муры турмы і напаўгалоднае, бяспраўнае існаванне. Гэта ў лепшым выпадку. Бо тое, што ён уцёк з турмы, яму, вядома, не даруюць. Могуць нават «шлёпнуць» у павучанне іншым, каб не рабілі таго, што зрабіў ён... Тады, як пакідаў калючы дрот турэмнага двара, пра тое, што некалі за гэта трэба будзе адказваць, не думалася: вельмі ж зваблівая была ўжо сама думка аб волі, аб тым, што ты можаш вольна, дзе хочаш, хадзіць, што хочацца душы тваёй есці, рабіць, урэшце, тое, што хочаш... А цяпер, калі турма была далёка, думкі гэтыя ні на хвіліну не выходзілі з галавы. Можна было, канешне, падацца і дадому, у Млынок. Але ж і там было мала радасці — ні жонкі, ні дзяцей ён не меў — не паспеў абзавесціся; маці памерла перад тым, як яго пасадзілі. Дый усе тыя, каго ён раскулачваў і на каго пісаў некалі «заяўкі», не даруюць — будуць рупіцца адпомсціць. Калі не самі, дык іхнія дзеці, сваякі...

І чым болей Шылахвост думаў, тым болей хмурнеў: выратаваць яго ад ка́ры людской магло толькі адно — служба ў немцаў. І чым большы ён будзе начальнік, тым цяжэй будзе помсціць яму, калі толькі хто захоча гэта рабіць...

Пра тое, што з ім будзе, калі немцы раптам не адзержацца на савецкай зямлі і іх прагоняць, Шылахвост не думаў — галава аж трашчала ад іншых клопатаў, больш надзённых...

Тыя некалькі тыдняў, пакуль немцы не занялі

Млынок, ён перахаваўся ў лесе. А тады, як толькі ў мястэчку над дзвярыма школы паявілася чорная шыльда са словам «Kommandantur», Шылахвост пастукаўся да каменданта. Расказаў яму, як змагаўся з кулакамі, як падаваў «заяўкі» на «ворагаў народа». Толькі цяпер ужо гэта былі не проста кулакі, а культурныя гаспадары, і, змагаючыся з імі, ён, Шылахвост, тым самым падрываў эканоміку савецкай дзяржавы; «ворагі народа», што былі пасаджаны па яго, Шылахвоставых, «заяўках», былі цяпер лепшыя партыйныя і савецкія кіраўнікі, і ён памагаў іх садзіць, каб лягчэй было вялікай нямецкай арміі здужаць Саветы. Ён не пабаяўся нават выдумаць, што яго бацька, Шылахвост Банадысь, некалі, яшчэ ў імперыялістычную вайну, памагаў немцам...

Немцам патрэбны былі людзі, і яны не надта ўнікалі — праўду Шылахвост расказваў ці не,— паставілі яго начальнікам млынкоўскай валасной паліцыі. Тым больш што вельмі хутка немцы і самі ўпэўніліся — служыць Шылахвост лепей і не трэба, не шкадуе нічога дзеля перамогі вялікай Германіі. Яго воласць першая здавала падаткі, першая сабрала ўсю зброю, нават паляўнічыя бярданкі і вялікія кухонныя нажы, першая прыслала спісак камуністаў і былых савецкіх актывістаў, першая і сама больш прывезла ў мястэчка кажухоў і валёнак... Усё гэта адзначалася ў нямецкіх загадах, але павышэння па службе не было. А яно вунь як трэба было Шылахвосту! Начальнік раённай паліцыі Коўцік, бацька якога некалі быў раскулачаны, ненавідзеў усіх, хто хоць калі меў нейкае дачыненне да раскулачвання ці прыклаў да гэтага сваю руку, і ўсяляк помсціў, каму толькі было льга... Помсцілі і тыя, што стаялі ніжэй за Коўціка — супрацоўнікі розных упраў і нават паліцаі. А сярод апошніх былі і такія, чыіх бацькоў ці родзічаў выкідаў з хат ён, Шылахвост, ці каго забіралі ў трыццаць сёмым па яго, Шылахвоставых, «заяўках»... Да таго ж, яго адданую службу немцам убачылі і тыя, што былі ў лесе,— партызаны, і вынеслі яму ўжо смяротны прысуд... І Шылахвост адчуваў — калі ён у самыя бліжэйшыя дні не атрымае павышэння і не перабярэцца жыць у мястэчка, з ім расправяцца. Не свае, падначаленыя, дык тыя, што ў лесе. А ён хацеў жыць, ён нават не збі-

раўся паміраць... Дзеля чаго жыць? Шылахвост ніколі не думаў і пра гэта — абы толькі жыць. Жэрці напоўніцу, уволю таго, чаго так не хапала ў маленстве і ў турме, надзяваць на сябе самыя дарагія, лепшыя касцюмы і боты, камандаваць тымі, хто ніжэй па службе... Дый, нарэшце, на вока яму ўпала дзяўчына, бацькі якой былі не супроць меці Шылахвоста за зяця. Праўда, сама дзяўчына нешта капыліла нос, але на тое ж яна і дзяўчына, каб пазадавацца, каб не адразу, з першага вечара, кінуцца на шыю...

І тады ён успомніў трыццаць сёмы год, таго начальніка, што прыязджаў да яго ў Млынок... І напісаў на імя нямецкага каменданта першую ананімку на начальніка раённай паліцыі Коўціка. Пасля, счакаўшы які тыдзень, зайшоў і сам да каменданта. Камендант балазе быў новы, двух яго папярэднікаў, якім некалі расказваў пра сябе Шылахвост, забілі партызаны. І быў, здаецца, больш дзелавы, ён шукаў тутэйшых людзей, якія памаглі б немцам хутчэй пералавіць партызанаў, выкрыць падпольшчыкаў і дыверсантаў. Шылахвост і напомніў тут, нібы між іншым, што ён, быўшы на месцы каменданта, памяняў бы даўно начальніка раённай паліцыі, бо Коўцік ператварыў паліцыю ў зброд выпадковых людзей, якія толькі п'юць гарэлку ды распусьнічаюць з бабамі. А сам, замест таго, каб вучыць паліцаяў ваяваць з партызанамі, заняты адным — знайсці тых людзей, што раскулачвалі яго бацьку, і расправіцца з імі...

Трэба сказаць, што каменданту Шылахвост спадабаўся. І калі сёння ўранні ён сварыўся на Коўціка і гаварыў, што ёсць людзі, якія могуць яго замяніць на пасадзе начальніка раённай паліцыі, меў якраз на прымеце Шылахвоста...

Атрымаўшы загад ад самога Коўціка не прапускаць нікога за Віць, Шылахвост расставіў сваіх людзей па ўсіх дарогах і сцяжынках, і ўжо ў поўдзень, калі ў Млынок прыехалі паліцаі з мястэчка, ён загадваў завесці ў свіронак дваццаць восьмага чалавека. Не, ён не выслужваўся, не стараўся, каб не трапіў ніхто ў Доўгі Мох. Ён нават хацеў, каб туды хто трапіў, ды каб трапіў не проста выпадковы чалавек, а якраз той, якому і трэба туды трапіць, дзеля якога тут і пастаўлены яны, паліцаі, каб ён, той чалавек, не прайшоў... Шыла-

хвост адчуваў: рыхтуецца нешта вельмі важнае. І калі б той чалавек з мястэчка прабраўся ў Доўгі Мох і сарваў тое, што намячаюць заўтра там зрабіць немцы, тады б... Тады б, гэта ўжо напэўна, Коўціка прагналі б і на яго месца паставілі б яго, Шылахвоста... Ён ажаніўся б, пераехаў бы жыць у мястэчка, а там яго не падстрэліў бы ніхто — ні паліцаі, ні партызаны... Там, у мястэчку, у яго была б свая варта, дый немцы ж навокал, цэлы гарнізон...

Так, Шылахвост хацеў, каб трапіў той, каму і трэба было трапіць у Доўгі Мох, але баяўся, каб ён, той чалавек, не пранік туды праз Млынок. Калі чалавек пройдзе праз Млынок і пра гэта ўведаюць немцы,— не быць ніколі яму, Шылахвосту, начальнікам раённай паліцыі, а значыць — і не насіць на плячах галавы, не жыць на гэтым свеце...

Таму і садзіў у свіронак Шылахвост кожнага, хто толькі спрабаваў падысці да Віці,— усё роўна, быў гэта свой, млынкоўскі, ці чужы...

Вось хто быў Шылахвост, да якога вялі Юлю...

* * *

Увесь час, пакуль Юля ішла па алешніку, яе не пакідала думка ўцячы ад паліцая. Кінуцца вось так у кусты на скрут галавы і бегчы, бегчы, куды глядзяць вочы, абы толькі быць на волі, абы не ісці да таго невядомага і страшнага Шылахвоста, пра якога з такой злосцю гаварыла незнаёмая жанчына ў полі ля Млынка. Хай гоняцца за ёю, хай страляюць — ёй усё роўна...

Але Юля чамусьці ішла ды ішла па сцяжынцы і нікуды не бегла. Нешта стрымлівала яе — ці не думка, што могуць злавіць і нават забіць, і тады тое, што так прасіў перадаць Падабед, яна ўжо ніколі не перадасць. А так жыла, цеплілася ў душы хоць невялікая, кволая надзея — а раптам яе адпусцяць, не пасадзяць у свіронак. А калі і пасадзяць — няўжо нельга будзе адтуль уцячы? Можа здагадаюцца людзі прадраць, як змеркнецца, у свіронку страху і разбегчыся хто куды.

Кожны ж ведае: трапіць у рукі да немцаў лёгка, а вырвацца мала каму ўдаецца...

Вось ужо і алешнік скончыўся, вось сцяжынка вывела на дарогу, вось і вёска пачалася. Платы. Хаты... Адна, другая, трэцяя... Далей Юля не лічыла — ішла, апусціўшы галаву, і глядзела на свае брудныя, запыленыя ногі.

...— Направа,— камандуе паліцай, і Юля зварочвае ў нахлашч расчыненыя вароты, дзівячыся, якая яна стала чужая сабе і слухмяная.

У двары, пад старою расахатаю грушаю, у цяні, стаяць распрэжаныя вазы, і на іх, гэтых вазах, храпуць хлопцы, мужчыны. Побач, на сене, валяюцца вінтоўкі.

«Паліцаі»,— здагадваецца Юля.

«Як жа гэта я ішла па вёсцы і не бачыла гэтых расчыненых нахлашч варот, гэтага застаўленага вазамі двара?» — пытае зноў сама сябе Юля і ліхаманкава аглядае паліцаяў — ці няма сярод іх каго знаёмага. Не, няма. Чалавек шэсць, выкачаных у сене, сядзяць на прызбе, сонна водзяць вачыма,— праспаліся ўжо. Адзін, убачыўшы Юлю, пяцярнёй расчэсвае на галаве злямцаваныя валасы, спрабуе нават жартаваць — маўляў, такая маладая, а ўжо награшыць паспела, пад канвой трапіла... І Юля пазнае, што ў гэтым двары яна некалі была. Ці не тады, калі яны з маці неслі з Доўгага Моху бульбу і заходзілі сюды піць ваду? Тады на гэтай прызбе сядзела старэнькая бабулька. Яна вынесла з хаты вядро, выліла тут жа, ля ганка, ваду і набрала са студні халоднай — аж нельга было яе піць...

Паліцай, што вёў Юлю, раптам абагнаў яе, перайшоў наперад. Потым падняўся на прыступкі, адчыніў дзверы ў сенцы. За ім услед падалася і Юля. Па скрыпучых сенечных маснічынах, якія пахлі паранай бульбай і мукой, прайшлі ў хату — яна была адчынена. На вушаках вісела толькі посцілка — гэта каб не заляталі з двара камары.

Хата была на некалькі пакояў, зусім новая, нават яшчэ не тынкаваная. Са сцен усюды звісаў касмылямі мох.

У тым пакоі, куды прывёў Юлю паліцай, ля акна, што выходзіла на вуліцу, стаяў нічым не засланы стол на козлах. За ім, гэтым сталом, абапёршыся на локці,

сядзеў вельмі змораны чалавек. Ён нешта пісаў, не падымаючы ад папер лысаватай галавы. І Юля доўга разглядала яго — хацела даўмецца, хто ён такі. Чалавек быў не стары, але нейкі непрыемны з выгляду: твар белы, бы ўсё роўна ніколі не бачыў сонца, і маршчакаваты. Нос з гарбінкай і шырокімі храшчаватымі ноздрамі, а лоб выпуклы і нейкі сіні.

Але вось чалавек скончыў пісаць, паклаў на стол ручку-самапіску, паглядзеў на хату маленькімі тхарынымі вочкамі.

— Што, Свелдзел? — спытаўся — ён не вымаўляў «р» — і, прыкрыўшы рукою рот, пазяхнуў.

— Ды вось, пане Шылахвост, дзеўку прывёў... Кажа, з мястэчка, у Доўгі Мох ішла, да цёткі...

«Дык гэта і ёсць Шылахвост!» — падумала Юля, і сэрца ў яе ёкнула зноў.

— Як цётку завуць? — перавёў свае вочы на Юлю чалавек. І ў тую ж хвіліну іх апусціў — нейкае ўнутранае, аднаму яму вядомае пачуццё падказала: гэтая дзяўчына і ёсць той чалавек, які ідзе ў Доўгі Мох і які не павінен туды трапіць. Усе, каго раней прыводзілі,— драбяза, іх маглі і не прыводзіць. А вось гэтую...

— Матруна. Матруна Пакумейка,— адказала, сабраўшыся з сілай, Юля.

— Матлуна Пакумейка? — перапытаў па прывычцы Шылахвост, бо ў галаве ў яго ўжо білася, засланяла ўсё на свеце адна, і толькі адна думка — вось, вось тая дзяўчына, што ідзе ў Доўгі Мох і што не павінна туды трапіць... Што да Матруны Пакумейкі, дык ён яе ведаў. Праўда, жыла ў Доўгім Моху такая. Бацька яе быў некалі ляснікам, потым, здаецца, ляснікам быў яе брат, той, што, казалі, вучыў дзяцей у мястэчку ды нечым не дагадзіў начальству, і яго прагналі... А гэтая дзяўчына ці не дачка таго настаўніка?..

— А ты чыя будзеш? — спытаўся так, на ўсякі выпадак, Шылахвост, каб не губляцца ў здагадках. Убачыўшы ў парозе паліцая, што таптаўся, перамінаўся з нагі на нагу, сказаў:

— Ну, плывыкаеш патлоху, Свелдзел?... Лепш, чым у палоне? А ты баяўся... Можаш ісці, ты вольны...

Паліцай быў у гэтай хаце лішні.

Свердзел нешта няўцямнае мармытнуў і выйшаў.

— Я Матрунінага брата дачка,— адказала як мага спакайней Юля.— Можа помніце, ён перад самай вайною ў Доўгім Моху за лесніка быў...

Канешне, Шылахвост помніў яе бацьку. Больш таго, той начальнік з НКУС прасіў неяк напісаць на гэтага лесніка «заяўку», што, маўляў, хто даверыў ахову народнага дабра такому чалавеку, які спачатку быў настаўнікам, потым за антысавецкую агітацыю трапіў пад следства, некуды ўцёк, а цяпер заняўся і зусім шкодніцтвам — прадае цэлымі вазамі каму папала лес, а то нават і падпальвае яго... Усе пажары, што былі ў апошнія два гады, справа яго варожых рук... Гэтую «заяўку» ён, Шылахвост, павінен быў аформіць і падаць нешта праз тыдзень. Але тут здарылася нечаканае — ён пайшоў да сакратара райкома, і ўсё закруцілася, завярцелася і перавярнулася дагары нагамі... Спачатку сакратар, а потым і ён, Шылахвост, апынуліся ў турме... А дзе ж, дзе падзеўся гэты... як яго... Матрунін брат?

— Бацька твой дзе цяпел?..

— Не ведаю. Адступіў разам з усімі...

«Глядзі ты, не пасадзілі, выкруціўся!» — аж не паверыў Шылахвост.

Дзяўчына глядзела на яго наіўнымі, невінаватымі вачыма, нібы і папраўдзе была анёлак. А яна ж ішла да партызан. І Шылахвост гэта адчуваў, ведаў нават, хоць пацвердзіць свае здагадкі нічым яшчэ і не мог. І чым болей ён гаварыў з дзяўчынаю, тым болей пераконваўся, што ён не памыліўся: дзяўчына гэтая — партызанская сувязная. І дзіўна — яму раптам, як ніколі яшчэ, захацелася не падпарадкавацца таму загаду, што атрымаў сёння ад Коўціка, і не затрымліваць — адпусціць гэтую дзяўчыну...

Ён сядзеў за сталом, а ў галаве ў яго так і вярцелася думка, шаптала яму: «Адпусці дзяўчыну, адпусці... У гэтым, і толькі ў гэтым твой ратунак!.. Дзяўчына гэтая дойдзе ў Доўгі Мох, раскажа людзям тое, што ведае... Тады людзі зробяць, што трэба, каб немцы заўтра засталіся з носам... Што — які табе ад гэтага клопат?.. Галоўнае — немцы застануцца з носам... А там... А там ты становішся начальнікам паліцыі...»

І тут галаву яго як бы нешта асвятліла: «Ты становішся начальнікам паліцыі і... бярэш... бярэш гэтую

самую дзяўчыну. Б'еш яе, катуеш, і яна выдае падполле...»

Таго, што падполле ўжо амаль усё выкрыта і арыштавана сёння ўночы, Шылахвост яшчэ не ведаў...

Яму зрабілася аж горача ад гэтых думак, і далей ён ужо не мог сябе стрымаць — у думках ён лез, як цыган па драбінах, у неба... Немцы ставяць яго бургамістрам ці, можа, забіраюць і вышэй, у вобласць... Тады... Ах, навошта думаць, што будзе тады... Каб толькі выбрацца з гэтага Млынка... Я зажыў бы!.. Але як, як зрабіць, каб адпусціць дзяўчыну і не адказваць за гэта ў выпадку чаго?.. А што яна дабярэцца да Доўгага Моху — у гэтым ён ані не сумняваецца...

І раптам ён успомніў...

Тут, у гэтай хаце, у суседнім пакоі, спіць на падлозе месточковы паліцай Цапок. Ён малады, і павінен ведаць гэтую дзяўчыну. А што, калі Цапок паручыцца і пад яго адказнасць я адпушчу дзяўчыну?.. І козы сыты, і сена цэла...

— Цапок! — гукнуў Шылахвост на дзверы, што вялі налева.

— Што? — спытаўся адтуль голас. І Юля гэты голас пазнала. І ўзрадавалася — у душы ў яе з'явілася надзея, што Цапок упросіць гэтага агіднага чалавечка і той яе адпусціць...

— Ідзі сюды!

Цапок выйшаў — заспаны, з расхрыстанай грудзінай, у галіфэ, ад чаго і так крывыя ногі яго яшчэ больш пакрывелі. Убачыў Юлю і здзівіўся.

— А ты чаго тут? — спытаўся ён, зашпільваючы на грудзях кашулю.

— Ішла ў Доўгі Мох, да цёткі Матруны... Каб есці чаго ўзяць,— паказала яна вачыма на кошык.— А мяне сюды прывялі... Кажуць, няможна туды... Заўсёды хадзіла — і нічога. А сёння раптам няможна...

— Загад такі ёсць, сама ведаеш, вайна...— пачухаў суглобамі пальцаў патыліцу Цапок.

— Вы што, ведаеце адзін аднаго? — паглядаў то на Юлю, то на Цапка Шылахвост.

— Не толькі ведаем, а і знаем...— засмяяўся Цапок.— Як-ніяк, суседзі...

Шылахвост заклапочана паківаў галавою і сказаў да Цапка, нібы шкадуючы:

— Што лабіць будзем? У свілонак дзеўку замыкаць тлэба... А не хацелася б...

— Што вы, пане Шылахвост? — дабрадушна і неяк паблажліва пацепнуў плячыма Цапок.— Хай дадому ідзе. Канешне, хай дадому ідзе,— замахаў ён рукамі.

— А калі лаптам?.. — не дагаварыў Шылахвост.— Ведаеш сам, загад ёсць...

— Ерунда. Форменная ерунда. Дый... Самі ведаеце, што робяць немцы з дзяўчатамі, калі тыя да іх пападаюць... А яе бацьку ў трыццаць сёмым...— Цапок пачынаў чырванець, як і заўсёды, калі хваляваўся.

— Я магу адпусціць яе,— прытворна ўсміхаўся Шылахвост, узрадаваны: клюнула.— Але... Але пад тваю адказнасць, пад тваё палучацельства... Калі што, адказваць будзеш ты. Загад жа ёсць! — напомніў ён Цапку зноў пра загад.

— Ды ну іх у с... з іх загадамі,— вылаяўся раптам Цапок.— Што гэта за ўлада, калі за суседа паручацца трэба,— і, павярнуўшыся тварам да Юлі, сказаў: — Хадзем.

Юля пайшла, яшчэ не верачы, што выбавілася з рук паліцаяў. Ішла і ўвесь час чакала, што вось-вось пачуецца голас Шылахвоста і верне яе назад.

Але голасу не было. Ні тады, калі яны выходзілі з хаты ў сенцы, ні тады, калі пакідалі двор...

І не магло быць — у гэты самы час, калі Юля з Цапком выходзілі на вуліцу, Шылахвост рагатаў, рагатаў першы раз за апошнія гады. Рагатаў да ікаты, так дзіка і буйна, што тыя, хто заставаўся з ім у хаце, аж павыскоквалі з-за перагародкі,— думалі, ці не звар'яцеў часам іхні начальнік...

Па вёсцы ішлі моўчкі. На душы ў Юлі было такое адчуванне, быццам яе злавілі на нечым патаемным і брыдкім. Яна нават не прымеціла, як мінула браму. (Потым, колькі ні ўспамінала, не магла ўспомніць — ступіла яна хоць адной нагою на той страшны цень ці цень перамясціўся, сышоў са сцежкі.) Юля ішла і ўсё адно не верыла, што яе адпусцілі, што яна зноў на волі... Не, яна не баялася — ні допытаў, ні нават калі б яе катавалі. Яна ведала: што б з ёю ні рабілі — хай, яна будзе маўчаць, не выдасць Падабеда, не скажа, чаго ішла ў Доўгі Мох. Калі і была ў яе якая

боязь, дык хіба толькі адна — што не перадасць партызанам таго, што так прасіў перадаць Падабед. І ў часе размовы з Шылахвостам яна думала таксама толькі пра гэта — вырвацца з паліцыі, дайсці да таго броду, што ў Муціжанскім лесе... Нават той страшны цень забыўся, неяк вылецеў з галавы і ані не спалохаў яе, хоць яна ведала — тое, што зрабілі немцы з невядомай дзяўчынай, маглі зрабіць і з ёю, і з кожным, хто памагае ці думае памагаць партызанам...

Мінулі апошнія хаты, выйшлі ў поле. І толькі тут Юля трошкі пасмялела, ачулася ад утрапення.

Павярнулася да Цапка, сказала:

— Ну, я тут бадай што і адна пайду. Дзякуй...

І не магла, каб не ўсміхнуцца: няўжо яна і праўда зноў на волі?

— Пачакай, не гані,— пакрыўдзіўся Цапок.

— Я не ганю. Я проста так кажу. У цябе ж, мабыць, работа нейкая ёсць там,— паказала Юля галавою на вёску.— То ідзі...

— Ат, якая там работа...— абыякава махнуў рукою Цапок.— Хіба вось каб гарэлкі дзе пляшку дастаць ды напіцца...— Толькі цяпер Юля падумала, чаму Цапок сёння ані не п'яны.— Так напіцца, каб на ўсё забыць... Я заўсёды так раблю, калі нешта нейкае чакаецца,— прызнаўся Цапок.— Тады падымаюць-падымаюць, ставяць-ставяць на ногі, дый плюнуць... Не хачу сваімі рукамі паскудства рабіць, людзей забіваць... А ў мяне на гэта нюх ёсць. Чую, калі смаленым пахне... Дый сама памяркуй — навошта б яны гналі нас сюды, у Млынок?.. З усіх бакоў Доўгі Мох акружылі. Кажуць, гарнізоны агалілі — салдат нямецкіх сюды вязуць... За Віць і чалавека не пускаюць. Вунь свіронак налавілі дзядзькоў ды цётак, што раку пераходзілі. Усе падазроныя. У каго конь на тым баку пасецца, у таго гусі раку пераплылі... Сядзяць, лаюцца ўсе... Ух, не магу больш... У пячонках маіх сядзіць служба гэтая сабачая...

— То чаго ж ты служыш, Міхась? — спыталася Юля і павярнулася зноў да Цапка. Як ён змяніўся за гэтыя апошнія два гады, у плячах раздаўся — мужчына, сапраўдны мужчына! Нават вусы адрасціў.

— Не я, Юля, служу, гора маё служыць,— сказаў сумна Міхась і яшчэ ніжэй апусціў галаву.

Нейкі час ішлі зноў моўчкі. Потым Цапка нешта нібы скаланула, ён загаварыў хутка, амаль без пярэдыху:

— Бацька, ён, ён вінаваты, што я ў паліцыі!.. Ты ж ведаеш, які ён у мяне. Яму абы яго не чапалі. А нашы гэта ці немцы — усё роўна. Прыйшлі гэтыя, а ён мне і кажа: «Усё адно табе, сынок, адседзецца не ўдасца. Калі ў партызаны не пойдзеш, у паліцыю трэба падавацца. Бо ў Нямеччыну звязуць. Як іншых... Дарога туды далёкая, а ці вернешся адтуль — невядома... З усіх бед выбірай найменшую. Мая рада табе такая — ідзі ў паліцыю. Не лезь вельмі там, не выслужвайся — папі гарэлкі трохі, за дзеўкамі пабегай, затворам паляпай... А там убачым, хто над кім верх бярэ: немцы — немцам і служыць будзеш. А нашы — у лес пойдзеш. Скажаш: так, маўляў, і так, хлопцы, не мог раней да вас прыйсці, усё зручнага выпадку шукаў... Нічога, савецкая ўласць літасцівая, даруе. Ды яшчэ калі ты ў паліцыі не надта лезці куды будзеш. Бо ў партызаны цяпер ісці — хто ведае, як далей будзе... Раптам і праўда немцы Маскву ўзялі? Куды ж тады?.. А так — і пры доме, і, як кажуць, пры дзеле... Дый калі сын у лесе, бацькам як жыць?.. А так не зачэпяць. Стары я ўжо. Адваяваўся. Я і ў маладым веку не вельмі куды лез, а цяпер і пагатоў у другі бок глядзець буду. Уласць, яно, канешне, добра ў руках мець, а яшчэ лепей быць ад яе далей... Тым болей, калі яна мяняецца часта... Дый можна так прыстроіцца, што не ты ўласці, а ўласць сама служыць табе будзе...»

Цапок памаўчаў, абцёр рукавом засмяглыя губы.

— Ну што ты скажаш — логіка! Я падумаў, падумаў дый запісаўся ў паліцыю. Спярша піў, бязбожна піў. Так напіваўся, што дадому прывозілі і без ботаў, і без шапкі, і без кажуха... А цяпер п'ю, і хмель мяне не бярэ... Одум усё часцей і часцей агартае: што я раблю, каму памагаю, на каго рукі свае падняў!.. Бацька мой хату сабе новую стаўляе, жыць збіраецца... А я ведаю, што другую мне хату ўжо недзе робяць... З дошак...

— То кідай ты, Міхась, гэтую паліцыю, у лес ідзі, у партызаны, калі яна табе так агоркла,— параіла Юля.

— У лес, у партызаны,— паўтарыў Цапок Юліны словы і неяк крыва ўсміхнуўся.— Думаеш, гэта так

лёгка?.. Я цяпер — як тая рыба: улез у нерат, ні ўзад ні ўперад. Я ў лес, а яны за бацьку, маці ды ў той хвойнік, што за мястэчкам. Ведаеш?.. Што я тады Юзіку скажу, як вернецца? Дый там, у лесе, хлопцам што я гаварыць буду, чаму ў паліцыю пайшоў?..

Ён цяжка дыхаў, нібы яму не хапала паветра.

— Паложым, бацькі я і не шкадую,— разважаў ён уголас.— Як хамут такі на мяне, на роднага сына, надзеў, то ён не бацька мне болей. «За тваёю, сынок, спіною і бацьку лягчэй, хату вось на старасць якую стаўлю...» Бачыш, яму не я, хата ў яго ў галаве! А маці мне шкода. Яна ў нас такая добрая... Ціхая. Усё маўчыць. Ведае ўсё і маўчыць...

Спыніўся, падаў Юлі руку.

— Разгаварыўся я нешта сёння,— нібы перапрашаючы, сказаў Цапок.— Ды ладна, ідзі дадому. Скажы маці маёй, што жывога, здаровага мяне бачыла. Прывет перадай... А я назад пайду, гарэлкі буду шукаць...

Юля не стрывала — зірнула Цапку ў вочы. І зжахнулася — такая туга была ў іх. Туга чалавека, які збіўся з дарогі і страціў надзею хоць калі зноў патрапіць на яе.

Цапок павярнуўся і пайшоў назад, у Млынок. Пайшоў памалу, нага за нагу. Сагнуты, згорблены, нібы стары.

Юля нейкі час яшчэ стаяла, глядзела яму ў спіну. Потым пайшла і сама. Цяпер зноў адна. Але думкі яе яшчэ доўга віліся вакол Цапка, вакол таго, што ад яго пачула...

...«Гэта ж трэба, каб свой родны бацька так давёў хлопца... «Папі, за дзеўкамі пабегай, затворам паляпай...» А адказваць за ўсё хто будзе? Вернуцца вось нашы, у бацькі не спытаюць, спытаюць у яго, у Міхася... А я думала, чаму Міхась у паліцыю пайшоў?.. Аж вунь тут што!.. Дый Міхась сам добры — не мог раней скеміць, да чаго гэта ўсё прывесці можа... Прывык, каб за яго нехта думаў... Цяпер на бацьку звальвае. А свая галава нашто на плячах?..»

Успомніла, што гаварылі пра старога Цапка суседзі:

12 Зак. 1138

— Гэты ўсіх перажыве. Адгарадзіўся плотам ад усяго свету — нідзе і шчылінкі няма. Выйдзе за вароты, паглядзіць, паслухае, дзе што робіцца, і зноў, як той смоўж, у сваю ракавіну хаваецца...

Дражніліся часам, перакрыўляючы Цапка:

— Стаўлю я гэтую хату, а ці пажыву ў ёй. Цяперашнім светам...

Успомнілася і жонка Цапкова, Юстыня. Была яна ціхманая, сарамлівая і, здаецца, усё жыццё некага баялася. Прыбяжыць у хату, то на табурэт добра не сядзе, а заўсёды з краёчку прымосціцца. І ўсё да вокан падбягае, зіркае, ці хто зваць яе не ідзе. Уголас ніколі слова не сказала, а ўсё пошапкам, пошапкам. Нават смяялася не як усе людзі, а таксама пошапкам.

— Я гэта, таечка, на хвіліначку толькі да цябе,— шаптала заўсёды яна Юлінай маці.— Ну, ці не чутно нічога ад твайго?

— Не, нічога, — насцярожвалася маці. — А хіба прыйшоў хто?

— Кажуць, з Пралетарскай адзін вярнуўся. З палону... Расказвае, пагналі іх адсюль на пераправу, цераз Лоеў... А самалёты як наляцелі, то многа і пагінула там... Кажа, вельмі ж ужо бамбілі...

Памаўчыць, зіркне ў акно. І зноў:

— Што ж гэта робіцца на белым свеце, таечка? Вунь у мяне — адзін у паліцыі, другі ў войску нашым. Брат на брата. Кажу свайму: «Навошта хлопца выправіў у тыя паліцаі?» А ён: «Не тваё дзела. Маўчы, баба. Сам ведаю, што раблю». А што тут і ведаць — кепска ўсё гэта, як на маю галаву, і нядобра. Ой, як нядобра! Чуе сэрца маё, ладам усё гэта не скончыцца. А ён яшчэ хату гэтую пачаў... Людзі пра смерць думаюць, а ён пра хату...

І зноў памаўчыць, зноў зіркне ў акно.

— Добра табе, таечка. Адна дачушка, і той нідзе не відно, не чутно. А сыны — гэта няшчасце, слёзы, ды яшчэ ў такую вайну, як гэтая... Удзень цярплю неяк. А вечар прыйдзе — одум мяне бярэ, так сэрца і сціскае... Дваіх нарадзіла, а ні аднаго няма... Таго можа там, на пераправе, а гэтага вось тут...

Яна выцірала ражком хвартуха вочы, усхліпвала і выбягала з хаты...

А назаўтра ўранні зноў прыходзіла.

— Сніўся сёння мне мой Юзік...— шаптала яна.— Нібыта на канікулы, на ўсё лета, як бывала, са свайго тэхнікума прыехаў... І гасцінец мне прывёз — хустку белую ў кветкі чырвоныя... Што б гэта значыла, Кацярына Кузьмоўна, га? Не скажаце?.. Можа пісьмо прышле ці мо сам прыйдзе?.. А можа гэта параніла яго дзе ці забіла?..

І маці нешта гаварыла, каб суцешыць старую. А калі тая выходзіла з хаты, уздыхала.

— Шкода мне яе. Мучыцца, пакутуе яна.

І Юля таксама шкадавала гэтую жанчыну. Як помніла, усё жыццё вось гэтак прашапталася цётка Юстыня. Ніколі не відно было, каб радавалася яна ці смяялася, ці ў госці да каго хадзіла. А калі і трэба было разам з мужам ісці куды, дык усё роўна ніколі поплеч з ім не ішла — ён папераду, а яна конча ззаду. І заўсёды адна — цішком, бяжком, бачком...

І тады Юля яшчэ болей ненавідзела старога Цапка...

У лесе Юля спынілася. Успомніла, чаго ішла па дарозе цераз Млынок і чаго, так і не дайшоўшы, куды трэба, вярнулася. І ёй стала страшна. Упершыню стала страшна, што не дабярэцца да Муціжанскага лесу і не перадасць партызанам таго, што так прасіў перадаць Падабед. Што, калі яе зараз зловяць паліцаі зноў, завядуць назад у Млынок, пачнуць дапытваць, біць?.. Не, яна ўсё роўна ні ў чым не прызнаецца, не скажа, чаму ёй трэба было сёння быць на тым баку Віці. Хай яе нават павесяць...

І ў тую ж хвіліну ўявіла, як будзе вісець яна недзе на браме і ад яе будзе падаць на зямлю такі ж чорны цень, як і ад той невядомай дзяўчыны, што вісіць у Млынку... І нехта таксама, як вось нядаўна яна, будзе праходзіць паўз тую браму і будзе таксама, як і яна, думаць — ступаць на той цень ці лепей абысці яго бокам...

Згадала: дзён колькі назад немцы зганялі на плошчу людзей са ўсяго мястэчка, каб глядзелі, як будуць вешаць партызанаў. Яны з маці тады неяк схітравалі і не пайшлі — схаваліся ў хляве, у сене... Цяпер жа ад адной толькі думкі, што ўсё мястэчка, і нават родная маці, будзе глядзець, як курчыцца ў пятлі яна, Юля, ёй зрабілася не па сабе...

«А што, калі, пакуль я так думаю, за мною сочаць паліцаі, глядзяць, куды я пайду?»

Азірнулася — дарога была бязлюдная, пустэльная. Расцягнулася шырокім пакручастым паскам па зялёным полі. Спачывала. Няпэўна шарэлі ў пыле толькі яе ды Міхасёвы сляды.

«Што ж гэта я стала такая насцярожаная? Мне трэба спяшацца, каб хутчэй быць ля броду. І так колькі часу змарнавана!..»

Збочыла з дарогі ў малады, кашлаты і густы, як шчэць, хвойнік,— надумала абысці Млынок лесам і паспрабаваць перайсці Віць уброд ці пераплысці. Так, і толькі так, бо інакш яна не дабярэцца да партызан...

У ногі адразу ж закалола ігліца — сухая, яна лезла ў цела, як іголкі. Юля выбрала чыстую лапінку, прысела. Абула чаравікі. Потым павольна пайшла далей...

Спякота спадала. Сонца проста ўвачавідкі апускалася на лес і слала ўсюды па зямлі худыя цені. Цені выцягваліся, раслі, пярэсцілі і ўкрывалі сабою невялікія круглыя лужкі, белі, прагалы. Ажылі, павыляталі са сваіх дзённых схованак ачмурэлыя ад утомнай і чаднай гарачыні камары, мошкі. Замітусіліся, занылі — тонка і наўздзіў нявесела:

— Нь-нь-нь-нь-нь...

Надакучлівая і доўгая, як зубны боль, сумота павісла між дрэў.

Хвойнік неўпрыкмет перайшоў у малады, вельмі часты і чысты бярэзнік. Бярозкі былі тонкія, стройныя, амаль без галля. Ціхутка трапятала, шумела лісце. Потым чаравікі зашоргалі па ягадніку, верасе — пачынаўся звычайны палескі лес, стары і рэдкі — дубы, асіны, хвоі. Верас яшчэ не цвіў, толькі збіраўся зацвітаць, быў сухі, калючы і драпаў па лытках. Аж не верылася, што гэтыя сухія дзеркачы праз які месяц выкінуць цэлымі жменямі маленечкія, як макавыя зярняткі, ружаватыя, вельмі кволенькія кветачкі.

Юля ішла ўзлескам, каб занадта не аддаляцца ад поля і не зблудзіць. Сюдою, узберагам, бегла, звіваючыся між камлёў, нешырокая, густа зарослая травою, па ўсім відаць, глухая, дарога. Узбіўшыся на яе, Юля паддала хады — пайшла шпарчэй. Цяпер яна ні пра што не думала, нічога не ўспаміНала — уся яна была

сама насцярожанасць — каб хаця не сустрэць каго, не трапіць на чые непажаданыя вочы.

Пачула — недзе поблізу ляскочуць калёсы. Сышла з дарогі, прырасла да камля сасны. Але, прыслухаўшыся, здагадалася: ляскат даносіцца не з лесу, а з поля. Неўзабаве на полі яна ўбачыла і дарогу — па ёй ехала запрэжаная паркай коней фурманка,— везлі з лесу дровы. Вазак, хлапчук год пад трынаццаць, ішоў збоку, трымаючы ў руках лейцы. За возам цюпала жанчына, відаць, хлопцава сястра ці маці — несла на плячы пілу,— ад пілы люстрам адсвечвала сонца.

Юля зноў выйшла на дарогу, па якой яна толькі што ішла ўзлескам. Заўважыла між іншым: дарога далей збягае ў лагчыну і хавае ад вачэй за пагорак вёску. Відаць былі толькі канчакі каміноў ды самыя высокія вільчыкі стрэх.

Лес з усіх бакоў агінаў млынкоўскае поле, сама вёска стаяла на вялізнай выспе-паляне. Большала вёска, большала і поле. А лес людзі секлі, церабілі, карчавалі і ўсё далей і далей адпіхвалі ад свайго паселішча. То на дровы, то на хаты, а то і проста, каб было болей поля, зямлі. Лес падатлівы, ён не працівіўся чалавеку — адступаў. Цяпер ён ужо адступіў дзе кіламетры на два, а дзе і на ўсе пяць. Толькі ля самай Віці ён яшчэ гусцеў, цягнуўся ўверх як нічога і не было,— там мокра, і тая зямля, што займаў лес, не прыдатна ні пад поле, ні пад луг.

Хоць і трэба было даваць лішняга кругу, але ж да рэчкі можна падысці непрыкметна лесам. І Юля гэта ведала. А таму можа, калі не ўдалося перайсці Віць ні па мосце, ні па кладках, пабрыла сюдою. Яна не верыла, каб паліцаі стаялі пры рацэ і тут, у лесе,— хваробу пастаяць, а партызаны нашто. Драмаць жа яны не будуць... І глядзець на паліцаяў, як на святых, таксама не ўцерпяць.

Ля старой скарабачанай асіны Юля прыпынілася. Надта ж галасіста і заядла крычалі ў ёй маладыя дзятлы. Аж разлягаўся наўкруг лес.

Адышлася крокаў на колькі, паглядзела на ствол. І адразу ж убачыла дупло: яно было кругленькае і такое маленькае, што каб і хацеў, не прасадзіш рукі. Пад губачком. Каб не крык малых, бадай што і не ўбачыў бы яго, гэтага дупла. «Хто б дзятла ведаў, каб не яго

нос»,— згадаліся Юлі словы, што любіў паўтараць яе бацька. Бацька казаў некалі: дзятлы ніколі не вывадзяць у адным і тым жа дупле сваіх дзяцей. На кожную новую сям'ю дзяўбуць і новую хату. Зімою, ад няма чаго рабіць, каб не змерзнуць. А сваё дупло, ранейшае, пакідаюць шпакам, галубам, сіваваронкам, крутагаловікам... Хто першы зойме.

Прыляцелі два старыя дзятлы. Малыя, пачуўшы блізка бацькоў, зачэкалі яшчэ галасней. Спачатку самка, а потым ужо і самец, упырхнулі ў дупло. Малыя на момант прыціхлі. Потым закрычалі зноў наперабой:

— Чэ-чэ-чэ-чэ...

Нехта маніў у вёсцы свінней. «Гуцё, гуцё, гуцё!» — даносіла сюды рэха жаночы голас.

«Дзіўна! Усюды вайна. Вешаюць, забіваюць. А лес жыве гэтак, як жыў да вайны, як можа жыў і сто, і дзвесце год назад...»

Дарога вывела Юлю да лужка — ён быў яшчэ не скошаны і ўвесь цвіў. Запахла мёдам, дурнап'янам травы і квецені. Тут дарога ўпадала ў тую, што бегла з поля, і пачынала крута паглыбляцца ў лес. Юля збочыла з дарогі, пайшла зноў па ўзлеску. Чамусьці ў памяці ўсплыло, як пазалетась увосень хадзіла з Сяргеем па грыбы, і, калі вярталася дадому, у яе закружылася галава. Юля, каб не ўпасці, прыхілілася да дрэва і стаяла так доўга-доўга, аж пакуль не падышоў Сяргей. І ёй было так добра, бо кружылася, гайдалася, бы ў тумане, у нейкім млявым і дужа зваблівым танцы ўсё — дрэвы, неба, зямля...

— Юля, што з табою? — спыніў гэты дзівосны карагод спалоханым голасам Сяргей.

— Нічога,— ледзь выціснула з сябе тады яна, не радая, што яе патрывожылі.— Проста галава закружылася...

У яе і праўда вельмі кружылася галава. Цэлы дзень без хусткі на спякоце, на сонцы, па хвойніку, дубняку, ягадніку, каля багуну...

Нешта вельмі знаёмае, падобнае да таго, даўняга, агартала Юлю і цяпер — у яе лёгка-лёгка кружылася галава і ўсё плыло ў вачах, нібы ў сне. Гэтак мякка-мякка і ціха-ціха. Толькі гэты раз хацелася прытуліцца не да дрэва, а да Сяргея, калі б толькі ён стаяў, як

тады, поплеч, і гэтак жа, як тады, непаразумела глядзеў у вочы...

Потым думкі яе зноў вярнуліся да бацькі... Як не хапала ёй цяпер яго!..

«І дзе ты, тата? Ці жывы хаця?..»

Да рэчкі Юля падышла надвячоркам. І не сухім, роўным лесам, а лазняком. Асцерагалася ўсё ж — баялася, што на сухім могуць быць паліцаі. Трапляць другі раз ім на вочы было нельга. Ведала: больш не адпусцяць. Не паможа і Цапок...

Дыхнула водарасцямі, сырасцю. І было наўкруг так ціха, што, здавалася, вымерла ўсё жывое. Толькі не змаўкалі камары, нылі і нылі. Іхні гуд, бясконцы і жаласлівы, здаецца, павіс усюды — у кустах, у галлі дрэў і проста ў паветры.

Юля села на купіну — разулася. Пасля, падумаўшы, скінула з сябе і плацце. Палажыла яго ў кошык. Агледзела сябе вельмі прыдзірлівым позіркам — ногі яе год ад году паўнелі, круглелі і клубы, грудзі — ранейшыя ліфчыкі, трусы рабіліся цесныя і вельмі шчыгульна аблягалі цела...

Успомніла Сяргея... Ці ведае хаця ён, як падарослела яна, як ёй другі раз хочацца пабыць з ім наадзіне, каб ён абняў яе, прыгарнуў да сябе. І так сядзець поплеч, адчуваць, як б'ецца яго сэрца, як дыхаюць яго грудзі... Дзе яму пра ўсё гэта ведаць!.. Ён, можа, нават і забыўся ўжо, што недзе ёсцека такая, як я... Вунь жа колькі ўсюды дзяўчат цяпер... Куды ні пайдзі — адны дзяўчаты. А хлопцаў няма — усе на фронце...

Але до! Трэба рушыць. І так вунь колькі часу страціла, пакуль вырвалася ад паліцаяў... Гэта ж трэба прыйсці самой проста да іх у рукі!.. Падпольшчыца называецца!.. Дый камары ўпіваюцца ў цела, ім толькі раздзенься...

Спачатку па крапіве, якая вельмі пякуча стрыкалася і кусала за голыя лыткі, пасля па зараслях асакі, чароту і рагазы — рагаза акурат выкінула галкі, яны былі яшчэ не тоўстыя і не чорныя, як бываюць увосень, спелыя, а рудаватыя,— Юля дайшла да ракі. Глянула ў адзін бок, у другі — нідзе нікога. Прыслухалася, стаіўшыся,— тая ж цішыня, што і ўсюды. Толькі крум-

каюць недзе ў ціхай завадзі важка і цягавіта жабы ды ныюць, звіняць камары.

Рака плыла ў лазняках. Вясною яна разлівалася ў лясах і балотах шырока і рэдка калі ўжо ўваходзіла ў берагі. Нават у такія вось засушлівыя леты, як сёлетняе. Гніла, гібела ў зарасніках, на радасць жабам, камарам ды рознай другой лясной заедзі і гнюсі. Плыла рака павольна, што плыве яна, нават не відаць было. Бы ўсё роўна ў стаячым возеры, берагі пазарасталі асакой, блёкатам; ваду скрозь усцілала раска, лапушыстае лісце лілей. Сям-там распусціліся гускі. Такія бялюткія, ядраныя, а ўсярэдзіне — жоўтыя. Толькі ля вялізнага куста ніцай лазы вада як бы струменілася ў багавінні, бруілася вірлівым ручайком.

Некалі — пра гэта Юля не раз чула і ад дзеда Мірона, і ад бацькі — Віць была вялікая, магутная рака. Па ёй хадзілі нават параходы. Але з тых часоў, як у гэтыя краі праклалі чыгунку, пачалі высякаць лясы і асушаць балоты, Віць год ад году мялела, а ў летнія сухія месяцы вады ўбаўлялася так, што ўжо дзе-кольвек на полі рака спрабавала перасыхаць. Глыбока было хіба толькі ля моста, ля самага Млынка, дзе зусім нядаўна стаяў яшчэ млын. Там вада, падаючы з лопасцяў, павыбівала такія ямы, што і цяпер не маглі знайсці жэрдку, якою б можна было дастаць дно. І заўсёды вірыла, круціла там, бы ўсё адно кіпела...

Вада, пасля хады па гарачым пяску і колкай ігліцы, прыемна студзіла ногі. Юля ступала асцярожна, каб не плёскаць. Так асцярожна, што яе не пачула нават качка — яна плавала са сваім вывадкам на перамелі ля лазовага куста. Паперадзе — сама качка, а за ёю, адно за адным, жоўтыя пухнаценькія качаняткі. Але вось качка насцярожылася, падняла галаву, пракрычала:

— Кра, кра!

І ў той жа момант нырнула ў ваду. За ёю паныралі і качаняты.

Яшчэ хвіліна — і ўсе яны імкліва беглі за качкаю прэч ад ракі, толькі мокра шастала ды хісталася ўслед за імі трава. Адно качанятка як бы разгубілася — мітусілася, кідалася то сюды, то туды па вадзе і пішчала. Але і яно хутка дагнала сваю сям'ю, схавалася ў траве...

Вада ўжо даходзіла Юлі да пах. І, падумаўшы, што пад нагамі можа быць дзе-небудзь яма, Юля далей паплыла. Нагамі і адной рукою — другой трымала кошык. Ціха, амаль нячутна...

Калі вылезла на бераг, не стала адразу адзявацца, а адбеглася ў кусты. І толькі там нацягнула плацце. Плацце адразу ж намокла, зрабілася знобка — волкі халадок браў за плечы. Юля дастала з кошыка сачак, накінула наапашкі. Зноў абула чаравікі...

Сонца вісела ўжо над самым лесам. Крычала недзе сойка, пішчаў берасцянік. Клікаў некага голуб:

— Гуга, гуга, гуга!..

Лес спакайнеў, насцярожваўся — вечарэла.

Ад ракі да Муціжанскага лесу кіламетры чатыры. Праўда, цяпер трэба было ісці не бітай дарогай, а лесам, амаль па незнаёмых мясцінах, наўздагад. Але, як казаў Падабед, гэта нават і лепей — на глухіх лясных дарогах, што вядуць у глыб лесу, радзей можна сустрэць паліцаяў і немцаў, асабліва ўвечары і ўночы. Бо ноч і вечар — гэта час тых людзей, што ў лесе. Немцы спачатку гэтага не ведалі — і дорага плацілі за сваю недасведчанасць. Пасля таго як іх некалькі разоў абстралялі партызаны і неяк нават падняли ўночы ў Млынку, змусілі ў адной бялізне ўцякаць,— немцы больш не аставаліся нанач у вёсках — стараліся абавязкова да змярку паспець вярнуцца ў мястэчка. Сыходзілі з вёсак на ноч і паліцаі — хто куды, абы толькі не засталі іх дома партызаны... Партызаны адваявалі сабе ўжо ноч, гаварыў Падабед, хутка яны адваююць і дзень. І тады будзе перамога... Яшчэ ён казаў, каб Юля, калі пяройдзе Віць, вельмі не спяшалася, а каб пачакала трохі, пакуль ацямнее, пакуль прыгоняць з пашы кароў. К гэтаму часу звычайна ўсе людзі з вёсак вяртаюцца дадому, у лесе астаюцца толькі партызаны... А што патрапіць да броду — дык пра гэта яна няхай нават не думае. Патрапіць, абавязкова патрапіць. І вельмі лёгка, бо хай яна толькі сочыць за дарогай, і дарога яе завядзе сама, куды трэба.

Падабед намаляваў нават тую дарогу на паперцы. Адтуль, ад моста, трэба збочыць налева, па дарозе, што агінае каланчу...

«Дзе ж каланча?» — падняла галаву Юля.

Каланчы адсюль, з лесу, не было відаць.

«Давядзецца, мабыць, падысці да моста. І ўжо там узбіцца на дарогу і ісці па ёй да броду».

А брод той яна, Юля, ведае — неаднойчы хадзіла туды з бацькам па маліны, толькі не з Млынка, а з Доўгага Моху. І, вядома, яго пазнае. Вакол алешнік, грэбля ўзбоч і зялёная, заплеснелая, зацягнутая раскай вада... Той абпалены дуб, ля якога яе павінны аклікнуць партызанскія вартавыя,— збоку, на грудку. Пад ім не раз яны сядзелі з бацькам, сілкаваліся...

Паперку тую Падабед парваў на дробныя шматкі і шматкі схаваў сабе ў кішэню. Прасіў запомніць усё так. Бо калі гэтую паперку ўбачаць немцы ці паліцаі — яны здагадаюцца, хто такая Юля...

Зноў пайшла па лесе, цяпер яшчэ больш чуйна прыслухоўваючыся да цішыні. Падумала — калі нагодзяцца паліцаі, будзе ўцякаць. У лесе не зловяць...

* * *

Цапок, правёўшы Юлю, вярнуўся назад у вёску і ўжо наважваўся быў ісці шукаць гарэлкі, але яму сказалі, што яго кліча да сябе Шылахвост. Шылахвост не меў ніякай улады над Цапком. Цапок быў пад камандай начальніка местачковай паліцыі і мог, вядома, не паслухацца Шылахвоста, не пайсці да яго. Але вечар быў яшчэ далёка, таму Цапок, папрасіўшы ў хлопцаў закурыць, проста так, каб нечым прабавіць час, паплёўся ў хату да Шылахвоста.

Шылахвост сядзеў усё за тым жа сталом, ля акна. Падпёр рукамі галаву і пра нешта думаў.

Убачыўшы Цапка, ён падняўся, вылез з-за стала. Засунуў рукі ў кішэні штаноў, змераў Цапка вачыма.

— Ну як, плавёў сваю суседку? — спытаўся ён і неяк загадкава ўсміхнуўся.

— Ну, правёў... І што? — абыякава сказаў Цапок, не цямячы яшчэ, навошта паклікаў яго да сябе Шылахвост.

— Нічога...— І зноў усміхнуўся той жа загадкавай, падкусліва-яхіднай усмешкай.— А ці ведаеш хоць ты, што твая суседка — падпольшчыца, што яна ішла ў Доўгі Мох, каб пеладаць тое, чаго і мы з табой не ве-

даем, га? — выпаліў ён раптам, у адзін дых вельмі ціха.

— Ды вы... Гы-гы... Ды вы што? — гыгыкнуў Цапок.

— Я кажу сул'ёзна,— нібы нешта жуючы, скрывіў рот Шылахвост.

— Ерунда гэта, з галавы выкіньце...— зусім шчыра параіў начальніку паліцыі Цапок.— Юля не такая, я ж ведаю яе...

— Ведаеш, ды мала,— павучальным тонам адказаў Шылахвост.— А каб ты не велыў так людзям і тлошкі па-длугому на ўсё глядзеў, хадзем са мною...

Ён зняў са сцяны з кручка вінтоўку, насунуў на самыя вочы кепку-шасціклінку і бадзёра затупаў з хаты.

За ім след у след пацягся і Цапок — яго ўзяла цікавасць: няўжо гэты крывашлапы і такі непрыемны з выгляду чалавек і папраўдзе нешта ведае пра Юлю такое, чаго не ведае ён, Цапок?..

* * *

Мо праз паўгадзіны Юля набрыла на дарогу. Даволі шырокую, раз'езджаную калясьмі. На ёй тут і там чарнелі каляіны, выбітыя коламі ямы і калдобіны. Дарога, відаць па ўсім, вяла да моста, што цераз Віць.

Юля пайшла па гэтай дарозе. Не далей, у лес, а назад, да моста, падумаўшы: а што калі гэта не тая дарога, па якой ходзяць і ездзяць з Млынка ў Муціжанскі лес? Зойдзеш тады бог ведае куды, недзе зусім у другі бок...

Бацька некалі вучыў Юлю разбірацца ў дарогах. Кожная дарога, казаў ён, куды-небудзь ды вядзе. Адна можа завесці цябе туды, адкуль ты ніколі не выйдзеш. І наадварот, другая можа цябе вывесці адтуль, адкуль, здавалася б, яшчэ ніхто не выходзіў...

«Запамятай,— казаў ён,— калі паглыбляешся ў лес, дарогі разыходзяцца, развінаюцца ў розныя бакі. Калі выходзіш з лесу, набліжаешся да людскога паселішча, дарогі збіраюцца, сыходзяцца ў адну. Дарогі наогул вытоптваюць і пракладаюць людзі, а чалавеку трэба разумець другога чалавека заўсёды, што б ён ні рабіў. Разумець нават па тых самых дарогах...»

Бацька казаў і другое: калі ўжо надарыцца такая прыгода і згубіш дарогу, заблудзішся ў лесе і не ведацьмеш, як патрапіць на поле, паспрабуй высачыць, у які бок ляцяць з дупла галубы. Галубы хоць і гнязддзяцца ў дуплах, а птушкі найбольш палявыя — лятаюць на поле збіраць каменьчыкі і зярняты. Высачыўшы, ідзі ў той бок — ты абавязкова выйдзеш на поле... Дзе поле, там поблізу і людское жытло: поле — гэта работа чалавечых рук, упартае і доўгае яго змаганне з прыродай...

«А калі заблудзішся ўночы і галубоў няма? Што тады рабіць?» — узнікла раптам у галаве думка. І Юля адчула, што не ведае, як знайсці дарогу, выйсці з лесу, калі саб'ецца з дарогі выпадкам уночы — ніколі так і не давялося ёй з бацькам хадзіць цёмначы па лесе. Усё збіраліся схадзіць, і кожны раз нешта ў іх не ладзілася — здаралася то адно, то другое.

«Ён бы расказаў мне і гэта. Абавязкова расказаў бы. Ён ведаў усё...»

Бацька расказваў Юлі: на месцы цяперашніх палескіх балот і лясоў было калісьці вялізнае мора. Потым тое мора заплыло цінай і высахла. Паднялося мноства астраўкоў-выспачак, забуяла зеляніна, выраслі лясы... У лясы прыляцелі птушкі, прыйшлі звяры... Прыйшоў услед за звярамі сюды і чалавек. Ён паляваў на звяроў, драў з дубоў слепет, лавіў рыбу і з гэтага жыў. Калі ж стала не хапаць звяроў і рыбы, бо іх з кожным годам усё меншала і меншала, а людзей усё большала і большала, чалавек пайшоў у наступ на лес, навучыўся адбіраць у яго лепшыя ўчасткі. Паліў яго цэлымі дзялянкамі, ачышчаючы поле ад дрэў і тым самым яго ўгнойваючы, і на выпаленых дзялянках сеяў сабе хлеб. Калі поле не мела ўжо змогі радзіць, чалавек пераходзіў на новае месца і паліў лес там... Потым і гэта адпала, бо куды чалавек ні ішоў, усюды былі людзі. Чалавек скідаў ля поля першую сваю хату і пачаў абжывацца на адным месцы... Паступова поле ля хаты большала, бо большала і тых, каму трэба было есці хлеб. Калі людзям рабілася цесна ў адной хаце, ставілася побач другая, трэцяя... Так узнікалі вёскі...

Наступ на лясы ідзе на Палессі і сёння, казаў бацька. Толькі цяпер ён ідзе не так марудна, як некалі.

У руках у чалавека замест каменнага тапара з'явіліся тапор жалезны і піла, замест каня і вала — трактар, машына, поезд... Дый дрэва патрэбна ўжо не толькі, каб зрубіць хату ці прапаліць у печы, дрэва трэба ўжо і на тое, каб дыміў завод і грукатаў па рэйках цягнік... Урэшце, чалавеку ўсё роўна поля мала, хоць лясы высякаюцца хутка, і ён наступае на балоты, сам робіць тое, што не паспела за вякі зрабіць трава, прырода. Тыя астраўкі-выспы, што падняліся з вады некалі першыя і першыя зазеляненелі, лысеюць — карэнні не толькі травы, карэнні нават дрэў не могуць ужо даставаць ваду, бо яна з асушэннем балот ідзе ў глыбіню зямлі... І хто можа сказаць, што будзе на месцы былога мора, цяперашняга Палесся, праз сто, тысячу год?.. Таму, казаў бацька, трэба вывучаць Палессе, каб спыніць першабытнае варварства, якое перадалося з пакалення ў пакаленне і паводле якога жыве і цяпер чалавек: мала поля — сячы вакол вёскі лес, падымай балота, спрамляй, капай глыбей канаву...

Пра ўсё гэта бацька збіраўся нават пісаць некуды пісьмо...

Але паслаць тое пісьмо так і не паспеў — пачалася вайна... І ён пайшоў на фронт... Пайшоў разам са сваімі думкамі... І ці вернецца зноў дадому? Што, калі ён ляжыць дзе параненны, без рук ці без ног? А можа яго і зусім ужо няма жывога на свеце?..

Ад гэтых думак Юлі зрабілася страшна. На вочы нагарнуліся слёзы. Як жа яна, Юля, будзе жыць без бацькі?..

Але праз хвіліну яна адагнала гэтыя нядобрыя думкі. Не, яе бацька не загіне, не можа ён, проста не мае права памерці, пакуль жыве яна, жыве яе мама. Ён жывы і вернецца да іх. Так, вернецца і зробіць тое, зрабіць што не дала яму вайна... Яны будуць яшчэ не раз блукаць, як бывала, па лесе, і бацька будзе расказваць ёй усё, што ведае сам. Тады яна не забудзецца і абавязкова спытае, як знайсці дарогу і выйсці ў поле, калі выпадкам заблудзішся ў лесе ўночы...

Дарога спусцілася ў лагчынку, паднялася на пагорак, павярнула направа і шмыганула ў хвойнік. Маладым і ў вечаровай шэрані яшчэ больш калючы, густы. Адсюль была відна ўжо каланча — яна вынырнула не-

чакана, адразу ўся — стаяла на грудку ля самай рані, старая, знізу абвугленая. Відаць, яе спрабавалі падпаліць партызаны ці немцы...

Такая самая каланча некалі стаяла і ля Доўгага Моху. У полі, мо ўсяго за якога паўкіламетра ад вёскі. Зробленая гадоў трыццаць назад са стромых палескіх сосен, яна падымалася высока над наваколлем і цягнула, вабіла да сябе заўсёды, калі б Юля ні прыязджала да цёткі Матруны. І аднойчы, у спякотны летні дзень, калі нікога не было дома, Юля, хаваючыся з галавою ў ячмені і жыце, па разоры пакралася да каланчы...

Зблізу каланча здалася куды аграмаднейшая, чым зводдалі. Але ўсё ж не такая непрыступная і недасяжная, каб спалохаць Юлю. Не прайшло і некалькі хвілін, як яна ўжо караскалася наверх — дзе па гнілых, хісткіх лесвіцах, якія густа паабрасталі зялёным мохам, а дзе і проста па бярвеннях. Млелі рукі, пруцянелі ў каленях ногі, замірала сэрца, а Юля ўсё лезла і лезла, стараючыся не глядзець уніз, каб не закружылася галава і каб не ўпасці...

І вось нарэшце яна забралася так высока, што далей і лезці няма куды. Стала на драўляным, вымашчаным дубовымі плашкамі мосціку і на нейкі час застыла, разявіўшы ад неспадзяванасці рот — такі чароўны і нязвыклы краявід бачыўся адсюль. Лес на даляглядзе быў ужо не суцэльнай замрыянай сцяною, а гарамі, зацягнутымі зверху лёгкай мутнаватай павалокай, пакатымі пагоркамі. Пры ім, гэтым лесе, на зялёнай лапіне лугу, капашыліся маленькія,— ну, проста мурашкі,— людзі. Граблі сена, насілі да адзёнкаў копы, клалі стагі... Бліжэй было поле, шырокае, пабітае на загоны. Па полі беглі дарогі. Па адной з іх, той, што вяла ў вёску, нехта ехаў верхам на кані. Ехаў памалу, падоўгу спыняючыся і азіраючы з краю ў край поле... Сама вёска была таксама не такая, якую Юля ведала, а куды меншая, згрувашчаная, хата да хаты, хлеў да хлява... Такі прастор за вёскаю, і такая цесната ў самой вёсцы!..

Юля доўга стаяла і глядзела на ўсё, нібы гэта была зусім не ява, а казачны, прыгожы сон...

З каланчы злезла толькі на змярку, калі з пашы

гналі дадому кароў, а лес пацямнеў, і з яго на лугі хмараю папоўз густы, шызы туман...

З гэтага дня Юлі не было ўжо ніякай гульні ў вёсцы. Ледзь толькі снедалі, яна ўцякала з дому да каланчы. Забіралася на самы верх яе, кожны раз знаходзячы сабе нешта новае: то яна бачыла далёка-далёка на лузе ў самым вільчыку дуба бусленіцу і цыбатага бусла на ёй, то любавалася, як віецца сюды-туды па лазняках рачулка Уюнаўка, што ўпадала ў Віць, то як бяжыць, цягнучы за сабою доўгі хвост пылу, з поля трактар... А аднаго дня паўз каланчу коршак пранёс у сваёй дзюбе доўгую, як пугу, змяю. Змяя звівалася, біла хвастом коршака, і ён часта падаў на зямлю. Коршак дзёўб змяю і зноў падымаўся з ёю...

Потым на каланчу разам з ёю пачалі хадзіць суседскія хлапчукі, дзяўчаткі... Скрыпелі гнілыя драўляныя лесвіцы, сыпалася з-пад ног і рук парахня, ходырам хадзіла ўся каланча, а яны ўсё роўна лезлі і лезлі: паглядзеўшы на наваколле з вышыні аднойчы, яны не маглі ўжо, каб не глядзець на яго адтуль штодзень...

Неяк — Юля добра памятае, было гэта ўжо на схіле лета, у поўдзень,— калі яна мінала апошні пралёт, пачула крык за спіною. У тое ж імгненне азірнулася. І ўбачыла — ляціць на зямлю, сарваўшыся з лесвіцы, яе аднагодак Грышка Пекур... Яшчэ момант, і ён, раскінуўшы, што крылы, рукі, падае на дол. Падае, і хоць бы зварухнуўся — ляжыць, бы нежывы...

Яна не помніла і сама, як злезла з каланчы. Падбегла да Грышкі. Ён яшчэ дыхаў, з рота ішла кроў. Але гаварыць ужо не мог...

І яе ахапіў жах — гэта ж не хто, а яна звабіла дзяцей, завяла іх на каланчу...

Яна з усяе сілы пусцілася наўцёкі... За ёю пабеглі, хто куды, і дзеці. Астаўся ляжаць на полі адзін толькі Грышка...

Назаўтра каланчу падрэзалі піламі, і яна стаяла гэтак можа яшчэ з тыдзень, пакуль уночы не ўсхадзіўся вецер і не паваліў яе. Ранкам Юля выйшла на падворак і не ўбачыла больш каланчы. І тады раптам і вёска, і ўсё, што яе акружала, здалося Юлі нецікавым, страціла ранейшую прыгажосць і сэнс...

І толькі іншы раз, калі Юля ўспаміна́ла каланчу,

яе пёк у самае сэрца сорам: яна спалохалася і першая пабегла тады ад каланчы, пакінуўшы на полі нямоглага сябра...

Прайшла яшчэ трохі — другіх дарог ні ўлева, ні ўправа не было. Была адна гэтая ды тая, што вяла ў Доўгі Мох.

Падыходзіць бліжэй да каланчы Юля збаялася: а што, калі і там стаіць паліцэйская варта?..

Вярнулася, зноў пайшла, цяпер не да моста, а ў лес.

Сонца села ўжо, схавалася за дрэвы — залаціўся толькі вільчык каланчы ды барвовела на захадзе неба. Лес адразу ж прыціх, яшчэ жаласлівей занылі камары. За ракою, відаць у Млынку, працяжна рыкнула карова. З балота золка цягнула вільгаццю.

Успомнілася маці... Што яна робіць цяпер адна дома?.. Відаць, сядзіць пры акне ў хаце, як і заўсёды ўвечары... Гэтая прывычка сядзець пры акне на сконе дня і глядзець на вуліцу ў яе паявілася ў тыя гады, калі бацька перайшоў на работу ў лясніцтва і часта такою вось парою, на сутонні, вяртаўся з лесу. Цяпер маці, канешне, думае пра яе, Юлю. Ведае, што Юлі не будзе дома ні сёння, ні заўтра, і ўсё роўна чакае. Такі ўжо яна чалавек. Два гады, як пайшоў на фронт бацька, а яна ўсё адно чакае яно штовечар — ёй усё здаецца, што вось-вось адчыняцца весніцы і зойдзе ён, бацька. А то — убачыць мужчыну, што чаго-небудзь заварачае да іхняга двара, і бяжыць да дзвярэй: «Бацька!..»

Калі прыйшоў Падабед упрошваць Юлю схадзіць да партызан, маці не адгаворвала Юлі, нічога не сказала і Падабеду. Папрасіла толькі:

— Можа лепей я сама б пайшла? Яна ж дзіця яшчэ зусім...

Але Падабед стаяў на сваім.

— Не,— сказаў ён цвёрда.— Юлі будзе зручней. Да яе менш прыглядацца хто будзе, менш хто падумае, што яна ідзе да партызан. А калі вы, Кузьмоўна, хочаце так, дык я вам работу знайду і тут, у мястэчку... Людзі нам цяпер во як,— правёў Падабед рукою па шыі,— трэба!..

Маці прайшла з ёю па мястэчку. Пацалавала, як расставаліся.

— Беражыся, дачушка,— прашаптала яна ціха ледзь не ў самае вуха.— Ты адна ў нас. І калі з табою што здарыцца...

І не сцярпела — заплакала...

Маці заўсёды вось так — ніколі не здагадаешся, як яна будзе весці сябе. Можа плакаць, абліваючца горкімі слязьмі, можа маўчаць, бы ўсё роўна закамянее.

Калі яны пасля таго, як немцы расстралялі ў Доўгім Моху дваццаць мужчын і падлеткаў, вярнуліся зноў у мястэчка і зайшлі ў сваю хату, маці ўпала на голы ложак, разрыдалася. І суцешыць яе нічым не мог ніхто — ні Юля, ні Падабед, які, убачыўшы, што нехта паадчыняў аканіцы ў іхняй хаце, акурат быў забег паглядзець, хто ж гэта.

— Што гэта вы, Кузьмоўна? — спытаўся тады Падабед у маці.— Здарылася што?

— Што ж можа здарыцца страшнейшае за тое, што ўжо здарылася? — адказала маці і не ўстала з ложка, плакала і плакала.

— Тут мы, Кузьмоўна, нічога не зробім...— спакойна разважыў Падабед.— Позна... Мы толькі думаць павінны, як бы выжыць ды немцаў прагнаць...

— Паспрабуй, выжыві, прагані іх, калі яны звяры...— і маці, глытаючы слёзы, расказала Падабеду, што зрабілі немцы ў Доўгім Моху.— Яны не пашкадуюць — усіх гэтак пераб'юць...

— Усіх не ўсіх, а ляжа людзей... Многа ляжа...— сумна паківаў галавою Падабед.— Вельмі хутка ён, вораг, пёр, нічога не паспелі зрабіць... Дый так... Усё ворагаў у сябе шукалі, хоць усім ясна было як божы дзень, дзе вораг той наш галоўны... Народ у няволі... Усё іншае лухта. Але што б ні рабілі немцы, як бы ні страшылі людзей, нічога не выйдзе. Мы прагонім іх!.. Вось пабачыце...

— Каб жа даў бог! — летуценна прамовіла маці.

— Дасць, дасць, Кузьмоўна. І не бог, людзі нашы... Памянеце слова маё. Так турнём, да самага Берліна будуць бегчы не азіраючыся,— сказаў Падабед і ўстаў.— Ну добра, я пайду, абжывайцеся тут. Калі што трэба будзе — не саромейцеся, ідзіце да мяне. Памагу, чым здолею. Усё ж я мужчына, чабатар... Работы ў мяне заўсёды хапае, і плата нейкая ёсць... Дый я сам буду заходзіць да вас... Калі, канешне, можна мне будзе...

...Вось чаму Падабед гаварыў так: «Калі, канешне, можна мне будзе». Ён у падполлі. І не хацеў, каб, калі што, падазрэнне падала на нашу сям'ю...

І думкі яе зноў вярнуліся да маці.

«Мама, мама,— шаптала Юля.— Ты так баялася немцаў. А бачыш — неяк жа пражылі больш за год. Яшчэ год які прамадзеем, а там і нашы вернуцца. Кажуць жа, наступаюць ужо, гоняць немцаў. Марудна, але ж гоняць... Толькі ты, мама, не бядуй так, вельмі не мучайся. Усё будзе добра. І я вярнуся дадому, і тата наш вернецца... Вось пабачыш...»

І адчула, што яна сама немаведама чаго плача...

Падняла руку, выцерла слёзы...

* * *

Дашкандыбаўшы да таго месца ў полі, дзе Цапок расстаўся з Юляй, Шылахвост паглядзеў на яго зноў з той жа загадкавай, падкусліва-яхіднай усмешкай і моўчкі пайшоў далей. І ішоў так, аж пакуль Юліны сляды не зніклі з дарогі там, дзе Юля збочыла на лес — у хвойнік.

Тут Шылахвост спыніўся.

— Ну, што я табе казаў? — прыжмурыў ён адно вока.— Ведаеш, дзе яна цяпел? Пелайшла ўжо Віць. А плаз гадзіну яна будзе ў Доўгім Моху, ці — у самім палтызанскім атладзе... І пеладасць тое, што не павінна была пеладаць ні за што...

— Ды не можа гэтага быць! — усё яшчэ не даваў сабе веры Цапок.

— Можа!.. Я гэта даказаў табе. Астатняе ўбачыш сам... Заўтла...

І па дарозе ў вёску не прамовіў больш ні слова.

Тое, у што ён верыў і пра што здагадваўся, але ў чым усё ж не быў да канца ўпэўнены,— пацвердзілася. Цяпер ён лічыў, што дамогся свайго — начальнікам раённай паліцыі ён стане заўтра ж. І заўтра ж ён возьме гэтую дзяўчыну і па тым, што яна раскажа, пачне разматваць клубок падполля. Мала таго, ён арыштуе самога Цапка і прымусіць яго прызнацца, што ў паліцыю ён пайшоў і працаваў па заданню падполля... І не адзін. Па заданню падполля ў паліцыі працавала цэлая арганізацыя. І ён пастараецца, каб

у гэтую арганізацыю Цапок упісаў усіх яго, Шылахвоставых, ворагаў... Ён дакажа Вінкелю, што Коўцік быў чалавек непрадбачлівы, сляпы, трымаў у сябе ў паліцыі партызан... Ён, Шылахвост, дасць Коўціку мат у два хады, выкрые падполле, а заадно — знішчыць і ўсіх сваіх ворагаў... А там?.. Там відно будзе, што рабіць далей...

* * *

Дарога крута павярнула ўправа, потым улева, потым зноў управа. Ад яе адбеглася вузенькая сцяжынка, а яшчэ крокаў праз колькі дарога і зусім раздваілася: адна, вузейшая, ішла проста, шырэйшая шыбавала ўбок і хавалася адразу ж за першым паваротам у гушчары.

«Па якой жа з іх мне ісці?» — задумалася Юля.

Успомніла: дзядзька Падабед, паказваючы на паперцы, кудою яна, Юля, павінна ісці, каб не заблудзіцца, недзе ў адным месцы ставіў крыжык. «Запомні,— папярэджваў ён,— шырэйшая дарога вядзе на балота, за якім стаяла некалі тая вёска, што спалілі разам з людзьмі вясною немцы — Муціжан. Пільнуйся вузейшай дарогі, яна і завядзе цябе да таго броду, дзе партызанскі пост атрада дзядзькі Цімаха. Адсюль,— тыцкаў ён алоўкам у крыжык,— яшчэ дзве дарогі будуць, і абедзве ўлева, на балота...»

«Ці не тут гэта, на гэтай развілцы, і ставіў Падабед той крыжык?»

Пайшла па вузейшай дарозе.

І праўда, вельмі хутка з-за камлёў дрэў насустрач вынырнула дарога злева, адна, потым і яшчэ адна. Юля павесялела — значыць, яна ідзе правільна, не заблудзілася.

«Калі так, то недалёчка ўжо і грэбля. А ад грэблі — гэта Юля ведала — рукой падаць і да броду...»

Мо праз якога паўкіламетра Юля ўбачыла грэблю. Грэбля была старая, гацілі яе даўно, яшчэ пры цару, калі нейкі генерал захацеў быў асушыць тутэйшыя балоты, у якія проста нельга было ўлезці — адна твань ды багна. З таго часу грэблю як не штогод папраўлялі — падкідвалі ламачча, падсыпалі пяску, але яна ўсё

роўна бурылася, распаўзалася. Паабапал дарогі чарнелі раўчукі. Раўчукі капалі тады ж, як рабілі і грэблю, тады ж і аплятали іх лазой, каб не засыпаліся, не заплывалі гразёй і глеем. З гадамі лаза месцамі збуцвела, пагніла, а месцамі папрыжывалася, пусціла карэнні і буяла вялізнымі купамі-кустамі.

У раўчуках скрозь стаяла вада — цёмная, зацягнутая плесняй і зялёнай раскай. Па вадзе, высока паднятшы галаву, плыў вуж. Гучна плёхнулася чарапаха, так гучна, што ад нечаканасці ў Юлі аж сцялася сэрца.

Адразу за грэбляю пачынаўся і брод. Ён быў доўгі, шырокі і таксама поўны вады. Цераз брод, відаць, некалі ездзілі на падводах. Цяпер плыткі перамел зарос чаротам, рагазою, па ім як не слалася ніцая лаза. Вада тут не мела сцёку, была затхлая і смярдзела тванню.

Бацька расказваў Юлі, што некалі тут, дзе цяпер брод, працякала невялікая рачулка, якая ўпадала ў Віць. Але бабры перагарадзілі яе, зрабілі запруду. Рака пасля гэтага пачала патроху расплывацца па лесе, запаўняць лагчыны. Там, дзе былі лагчыны, узніклі альсы і белі, а сама рэчка абмялела, зарасла лазою, алешнікам. Ад рэчкі застаўся толькі гэты брод.

Юля прайшла далей па дарозе да таго дуба, ля якога яе меліся аклікнуць партызаны. Ён стаяў на краі броду, высокі, тоўсты,— самыя рослыя алешыны ледзьве даставалі яго голле. На дуб, дзе ад ствала адыходзілі адразу два сукі, нехта ўсцягнуў калодны вулей. Але пчолы ў вуллі не вяліся — былі нават адчынены дзверцы. Відаць, нехта павыдзіраў мёд, і пчолы пакінулі вулей.

Такія дубы, як гэты, гаварыў бацька, калі яны тут абедалі, будуць стаяць у лесе, пакуль самі не ўпадуць, бо няма пілы, якою льга было б спляжыць такога таўстуна. Рэжуць, пляжаць дрэвы, што вакол, а дуб стаіць ды толькі лісцямі шапоча — да яго нельга падступіцца нікому: кароткія пілы.

Але што гэта? Юля падышла да самага дуба, а яе так ніхто і не аклікае.

Яна прайшла сюды і назад, вярнулася, зноў падышла да дуба. Спынілася — цішыня, нібыта тут нікога няма і не было ніколі. Толькі крумкаюць, цягнуць нешта сваё, адвечнае, жабы ды б'е, баўтае хвастамі — аж выскоквае з вады — рыба.

Падняла ламачыну, што валялася пад нагамі, шыбнула яе ў ваду. Ламачына гучна плёхнула.

— Лёх!

Жабы прыціхлі. Але толькі на момант. У наступную хвіліну яны зноў краталі, як бы нічога і не здарылася, нават, здаецца, яшчэ больш заўзята:

— Ку-ва, ку-ва, ку-ва...

Потым нечакана нейкая адна збівала рытм. Яна нібы кашляла ці прачышчала горла: кхы, кхы... І зноў той жа рытм, тая ж надакучлівая, цягучая і абрыдлівая музыка, ад якой аж глухне ў вушах:

— Ку-ва, ку-ва, ку-ва...

Юля пачакала яшчэ трохі. Прыслухалася. Нідзе нікога.

Тады яна заспявала. Спачатку ціхутка, напаўголасу, потым усё мацней, мацней.

Але ніхто не адгукаўся на яе голас — толькі забугаў недзе далёка ў балоце вадзяны бугай. Бгу-гу-гу-у! Бгу-гу-гу-у!..

Юля насцярожылася яшчэ больш. Крыкнула:

— Гэ-гоў!

— Гэ-гоў! — падхапіла рэха яе голас і панесла некуды ўдалячынь. Потым вярнула яго назад, аслабелы, амаль нячутны.

— Гэ-гоў!

У душу закралася хваляванне, трывога — што ж здарылася, чаму няма нікога ля броду? Падабед жа казаў: тут абавязкова яе аклікнуць партызаны, адсюль яе завядуць да дзядзькі Цімаха.

«А можа той, хто павінен мяне аклікнуць, заснуў?..»

Крыкнула яшчэ, гэты раз ужо мацней.

Зноў рэха падхапіла Юлін голас, зноў некуды панесла і зноў вярнула яго назад.

Прайшла па дарозе далей ад броду. Потым вярнулася назад да дуба: усё ніяк не магла паверыць, што ля броду нікога няма. «Можа за мною цікуюць, прыглядаюцца, хто я такая? Яны ж бачаць мяне ўпершыню. І можа не ведаюць — абзывацца на мой голас ці лепей памаўчаць?..»

Не стрывала — крыкнула зноў.

У адказ — маўчанне. Глухое, сцятае...

Раней, яшчэ ў мястэчку, Юлі здавалася: варта толькі ўвайсці ў лес, як адразу ж напаткаеш партызан. У галаву нават прыходзіла думка — калі не ўдасца напасці на след падпольшчыкаў, пайсці самой у лес, пашукаць партызанскага атрада. Сказаць, хто яна такая, і, калі не дазволяць ёй застацца ў лесе, хай хоць дадуць якое заданне. Хіба яна не можа, як тыя невядомыя людзі, расклейваць па начах на сценах і на платах лістоўкі, сачыць, што робяць у мястэчку немцы, куды яны ездзяць, і перадаваць усё гэта ў лес?..

Аж, аказваецца, знайсці партызан у лесе не так лёгка. Яны змушаны хавацца, бо амаль усе яны — людзі тутэйшыя. Недзе зусім побач, у вёсках, жывуць іхнія жонкі, дзеці, родзічы. Варта ж каму заікнуцца, што бачыў таго ці іншага чалавека ў партызанах — гэта дойдзе да немцаў ці паліцаяў, сям'ю партызана расстраляюць, а хату спаляць... Цётка Матруна, калі Юля з маці хадзіла да яе ў вёску, гаварыла, што ў іхняй вёсцы амаль у кожнай хаце ёсць партызаны. Уночы яны разам з атрадам ходзяць на заданні, а ўдзень — дома. Аруць, сеюць... Бо пайсці з сем'ямі ў лес яны не могуць — атраду нялёгка будзе хавацца, калі нападуць немцы, дый партызанам трэба хлеб...

І ўсё ж думка, што партызанаў у лесе многа, што імі ўсюды аж кішыць лес, не пакідала Юлю. Бо надта ж баяліся патыкацца ў лясныя вёскі немцы, надта ж часта нападалі, асабліва ў апошнія месяцы, партызаны на паліцэйскія і нямецкія гарнізоны, падрывалі масты, цягнікі, палілі склады... У мястэчку толькі і гаворкі на людзях было, што пра партызан.

Выходзячы ранкам на падворак, кожны пытаўся ў свайго суседа, ці той не чуў, што сёння ўночы зрабілі партызаны — дзе што падарвалі, спалілі ці каго з немцаў ці іхніх паслугачоў забілі. А каторы раз, прачнуўшыся ад выбухаў, людзі не спалі ўсю ноч — стаялі ля сваіх хат і глядзелі, як нешта недзе за лесам гарыць. Пайшла нават чутка пра вялікую партызанскую армію, якая быццам бы вызваліла Мазыр, Калінкавічы і наступае ўжо на Васілевічы, Хвойнікі, Брагін... Казалі, што армія гэта мае сталую сувязь з Масквою, што як не штоначы ў лес прылятаюць самалёты, якія забіраюць параненых і прывозяць зброю. Нямецкія гарнізоны раз-

бягаюцца ці здаюцца партызанам без бою — такая гэта вялікая і добра ўзброеная армія!..

Цяпер жа, стоячы ў Муціжанскім лесе, ля броду, Юля спалохалася — раптам яна не знойдзе сёння партызан з атрада дзядзькі Цімаха, нікога з іх так і не ўбачыць, а значыць — не зможа і перадаць таго, што так прасіў перадаць Падабед?.. Ён даверыў ёй, а яна...

І Юля, набраўшы поўныя грудзі паветра, закрычала што было моцы:

— Гэ-гоў!

— Гэ-гоў! — загаласіла, нібы здзекуючыся з яе, на ўвесь лес рэха.

Яшчэ раз, цяпер ледзь не бягом, прабегла ля дуба туды і назад.

Сутоньвалася. Дзённае святло згасала і меркла. Мутнаватая вечаровая няпэўнасць і змрок абвалаквалі, прыкрывалі сабою кусты, дрэвы, і ўжо цяжка пазнаць было, што за дрэва стаіць па той бок дарогі — ці то дуб, ці клён.

Адусюль па-здрадніцку ціха і хутка кралася, наступала цемра...

«Што ж мне рабіць?» — агартаў Юлю неспакой, одум.

І ў гэты момант на вочы ёй неспадзявана ўпалі сляды. Нечыя незнаёмыя, чужыя. Босыя, па ўсім відно, дзявочыя, ступні ног глыбока ўязджалі ў пясок, асабліва пальцы — дзяўчына, напэўна, спяшалася. Сляды вялі да дуба. Адтуль, на дарогу, выходзілі ўжо не адны — тыя ж, босыя, дзявочыя, і нейкія мужчынскія, у ботах. Тут, на дарозе, мужчына з дзяўчынай пра нешта гаварылі, бо была вельмі ж вытаптана дарога. Потым сляды зварочвалі ў лес і там знікалі. Свежыя зусім сляды, нікім яшчэ не пачапаныя, нават не прасохла зямля...

«Чаму я раней не бачыла гэтых слядоў?»

Прайшла па лесе ў той бок, куды вялі сляды. І набрыла неўзабаве на вузенькую сцяжынку — сцяжынка, звіваючыся між камлёў, бегла некуды ў глыб лесу...

Пайшла па гэтай сцяжынцы...

Сцяжынка вывела Юлю на балота. Сухое, куп'істае, яшчэ не кошанае. Рослая, густая трава — бліскаўка, круглец, сінюшка — пераплялася і месцамі аж палягла.

Над балотам курыўся і плыў нізкі, рэдкі туманок. Пахла нагрэтым торфам, цёплай, дрыгвяністай багнай.

Сцяжынка тут не канчалася, яна перасякала балота наўскасяк і ішла да таго ляска, што няпэўна чарнеў на грудку ўдалечы.

Над галавою, гучна лопаючы крыламі, праляцелі качкі. Вялікія, крыжныя. Відаць, на жыр.

Юля пастаяла, падумала — ісці ёй у той лясок ці лепей вярнуцца назад, да броду?

Не вярнулася, пайшла па сцяжынцы далей...

У лясок Юля прыйшла, калі добра ўжо ацямнела. Але ўсё ж разгледзела, што лясок гэты не такі, як той лес, па якім яна толькі што блукала, а нейкі надта ж чысты, без кустоў і зарасніку. Толькі ў глыбіні нешта падымалася ўгору, бы ўсё роўна копы сена. Падышла бліжэй. І ў першую хвіліну не паверыла вачам сваім — у ляску, сярод чорных камлёў дрэў, стаялі зробленыя з галля, бяросты і травы будданы, зямлянкі. Трошкі далей ад іх, паўз балота, вужакай віўся выкапаны ў зямлі раўчук. Акурат такія віхлястыя і вузенькія раўчукі капалі ля мястэчка і нашы салдаты, калі адступалі... І звалі іх... Ага, як жа іх звалі? Здаецца, траншэі...

«Няўжо я набрыла на партызанскі лагер?»

Абабегла буданы, зямлянкі. Але людзей нікога не знайшла...

Зазірнула ў будан, той, што быў з краю,— можа там хоць хто ёсць? Будан быў даволі прасторны, дол увесь засланы сенам. У кутку на сене ляжала ватоўка — старая, прапаленая і падраная. Ад яе вельмі тхнула прэллю.

«Дзе ж падзеліся людзі?» — узяла Юлю трывожная цікавасць.

Абышла лясок яшчэ раз. Але слядоў, куды пайшлі людзі, нідзе не ўбачыла: было цёмна.

«А можа яны блізка адсюль дзе? Можа чаго пахаваліся?»

Юля кашлянула. Потым, трохі счакаўшы, крыкнула:

— Гэ-гоў!

— Гэ-гоў! — адказала рэха.

І зноў усё сціхла. Стала так ціха, што чутно было, як непадалёку грабецца ў зямлі крот.

«Дзе ж, дзе падзеліся людзі? Што здарылася — чаму ніхто не спаткаў мяне ля броду? І што рабіць далей?.. Сядзець тут, чакаць, можа хто адкуль сюды прыйдзе? А можа гэта стары, даўні лагер?..»

Не, лагер быў не даўні, бо ў адным месцы, на невялікай прагале, цьмела яшчэ чырвоным жарам вогнішча: людзі, відаць, некуды вельмі спяшаліся, забыліся нават патушыць за сабою агонь.

Юля падышла да вогнішча. Села на чурбачок, што валяўся тут жа, на зямлі. Кінула на жар жменьку сушняку. Сушняк закурэў, потым успыхнуў яркім полымем, на момант асвятліўшы хмурыя, насупленыя дрэвы. Забегалі, замітусіліся палахлівыя цені.

Нылі ногі. Толькі цяпер Юля адчула, як стамілася. Хацелася зваліцца вось тут, ля вогнішча, і не ўставаць ужо ніколі — ляжаць і ляжаць, выпрастаўшыся на траве. А павекі сталі такія цяжкія, што проста зліпаюцца самі. І нават камары пахаваліся недзе — не звіняць, не кусаюцца...

Салодкая дрымота паволі агартала цела. І Юля, не маючы сіл змагацца з ёю, замгнула вочы...

І адразу ж прахапілася: «Што ж гэта я? Сяджу, драмлю... Мне трэба бегчы як мага хутчэй у Доўгі Мох, трэба папярэдзіць людзей, каб уцякалі, бо заўтра, ледзь толькі пачне днець, на вёску нападуць карнікі... Хутчэй, хутчэй у Доўгі Мох!»

Устала, адкінула ад сябе кошык. Цяпер ён быў лішні. З кошыка ўзяла толькі яду.

Пайшла з грудка ўжо не па сцяжынцы, як ішла сюды, а нацянькі, цераз балота, тудою, кудою падалося ёй, што будзе бліжэй да лесу.

Было ўжо зусім цёмна.

На лес Юля выйшла, і даволі хутка. Патрапіла нават на брод. І гэта яе падбадзёрыла, абнадзеіла. Яна згадала, што да Доўгага Моху ад броду кіламетры чатыры-пяць, калі не больш. Але ёсць дарога і карацейшая, прасцейшая — цераз алёс. Па гэтай дарозе хадзяць узімку, як замярзае ці калі не мокрае лета. Сёлета лета было якраз сухое, баяцца, што недзе не пяройдзеш балота і алёс, не варта было. Трэба спяшацца ў Доўгі Мох, каб людзі змаглі да світання не толькі

пакінуць свае паселішчы, але і адысціся хоць бы кіламетраў на некалькі ад вёскі. Інакш...

Юля ўявіла, што будзе заўтра з людзьмі, калі яна не паспее раней за карнікаў у вёску. І ёй зрабілася жудасна. Не, яна не бачыла, як немцы паляць жывых людзей. Толькі чула — зганяюць вёску ў дзве-тры хаты, гэтыя хаты абстаўляюць кулямётамі і падпальваюць.... Калі людзі пачынаюць выскакваць з агню, косяць іх з кулямётаў...

Дзве-тры гадзіны — і на месцы паселішча толькі галавешкі, попел... Ды косці, чарапы ад людзей — мужчын, жанчын, дзяцей...

Гэта зрабілі немцы ўжо ў Муціжане. Гэта зробяць яны заўтра ў Доўгім Моху, вёсцы, дзе яна, Юля, так часта бывала, дзе зведала, пержыла столькі ўсяго добрага, радаснага!.. І яна больш ніколі не пройдзе па той вуліцы, што хадзіла, не ўбачыць тых людзей, якіх ведала амаль усіх у твар, не ўбачыць цёткі Матруны, не пачуе яе ціхага і такога ласкавага голасу...

«Не, гэтага не будзе!.. Яшчэ не позна — я паспею ў Доўгі Мох. Не папярэдзіла партызан, папярэджу хоць тых, хто ў вёсцы!..»

І тут Юля ўспомніла, што гаварыла неяк цётка Матруна,— у Доўгім Моху амаль у кожнай хаце ёсць партызаны...

«Як я на гэта забылася! Мне трэба было адразу ад броду і бегчы ў Доўгі Мох. Расказаць, што я прынесла з мястэчка вельмі важныя звесткі, што мяне павінны былі спаткаць партызаны, ды чамусьці не спаткалі... Папрасіць, каб завялі да камандзіра атрада дзядзькі Цімаха... І яны, канешне, завялі б...»

«І як я да гэтага не дадумалася раней? — упікнула зноў сама сябе Юля.— Я не блукала б немаведама дзе, я была б ужо даўно ў вёсцы...»

Марудзіць больш было нельга. І Юля рызыкнула — пайшла ў Доўгі Мох не па звыклай, добра вядомай дарозе, а наўздагад, па лесе, проста ў той бок, дзе, яна ведала, стаіць вёска...

Цемень гусцела. Ужо не пазнаць было, дзе камлі дрэў, а дзе кусты — спрэс стаяла чорная сцяна лесу. Не памагалі і зоры — яны былі рэдкія, блеклыя, нібы прысыпаныя попелам, і кідалі на зямлю надта ж ску-

пыя, каб яе асвятліць, промнікі святла. Месяц таксама не паказваўся — ці то рана было яму яшчэ кіравацца ў сваю вандроўку, ці ён разгультаіўся, захацеў урваць сабе хоць адну ночку, каб спакойна паспаць...

Юля ішла навобмацак, натыкаючыся на пні і пасырчакі. Адзінае бадай што, за чым яна неаслабна сачыла,— гэта каб не збочваць нікуды, ісці проста туды, дзе, яна адчувала, павінен стаяць Доўгі Мох. Яна ведала: варта толькі збочыць, пайсці ўлева ці ўправа, пачаць абыходзіць валежнік ці якую мокрую бель, і яна заблудзіцца. А таму ішла ды ішла, выставіўшы перад сабою рукі, адхінаючы імі голле, кусты, і не вельмі прыглядалася, што ў яе пад нагамі.

Як бы трошкі пасвятлела, нешта засвіцілася наперадзе.

«Няўжо поле? — узрадавалася Юля.— Але нешта надта ж хутка?..»

Яшчэ крокаў праз колькі ўбачыла: свіцілася не поле, свіцілася тая палоса лесу, што паваліла перад самай вайною бура. Бура ўсчалася была пад вечар, і як захапіла палосу шырэй чым на кіламетр, так і спляжыла ўсе засаб дрэвы, і старыя і маладыя. Што павыварочвала з карэннем, што паламала. І ў той год у Доўгім Моху вельмі багата гаварылі пра гэтую дзіўную і небывалую яшчэ ў тутэйшых мясцінах буру. Неба было чорнае і нізкае, хмара як не сунулася па самай зямлі, і было цёмна, як усё роўна ўночы. Грымела, і неба раз-пораз паласавалі, крэслілі маланкі. Вецер дзьмуў такі, што каб наляцеў ён на вёску, не засталося б на хатах ні адной страхі. Добра, што буру гэтую прагнала бокам, міма Доўгага Моху. Там, дзе яна ішла, заставалася мёртвая пустэча, бо да моцнага, шквальнага ветру падаў яшчэ і град, вялізны, мо па галубаваму яечку. Град змалаціў, так прыбіў да зямлі жыта і проса, што і жаць не было чаго. Пастух, якога захапіў гэты град з чарадой у полі, хваліўся пасля, што з неба падалі цэлыя ледзяшы і быў такі вецер, што як падхапіў кароў, дык гнаў іх аж да самага лазняку...

Тады, перад вайной, многа расказвалі людзі страшнага і таямнічага. Адны казалі, што бачылі, як у поўнач узыходзіў на небе крывавы крыж; другія гаварылі, што нехта, калі вяртаўся з поля, сустрэў старэнькага дзядка, белага-белага, і той дзядок даў святое піс-

мо і прасіў перапісваць яго і раздаваць людзям. Бо неўзабаве, казаў дзядок, пачнецца тое, чаго яшчэ ніколі не было, і астанецца жыць пасля гэтага толькі той, у каго будзе ў хаце святое пісьмо. Некаторыя паверылі і перапісвалі пісьмо, і гаварылі, што гэта прыходзіў на зямлю сам бог... Перапісала сабе пісьмо і цётка Матруна, і не адзін раз, а некалькі, каб даць яго іншым.

Трывога і страх былі ў людскіх сэрцах... Людзі адчувалі: набліжаецца і папраўдзе нешта страшнае, што ад іх чамусьці тояць...

Тую палосу лесу, што паваліла тады бура, так і не паспелі прыбраць — пачалася вайна...

Дрэвы ляжалі плазам адно на адным, віселі на суччах, горбіліся выварацнямі, каранямі, галлём. Каб яшчэ ўдзень, калі відно, можа б і льга было як прабрацца цераз завалы. А тут была ноч, ды яшчэ такая цёмная...

«Што ж рабіць?..»

Юля не хацела вяртацца назад — дарагая была кожная хвіліна, таму прадзіралася, як толькі магла, наперад — караскалася цераз камлі, абыходзіла выварацні, падлазіла пад голле...

Спынілася яна толькі тады, калі ўспомніла, што ёй няможна зварачаць ці абыходзіць дрэвы — трэба было ісці проста ў той бок, дзе вёска. Інакш яна саб'ецца з дарогі і заблудзіцца.

Абыходзячы паваленыя дрэвы, яна зусім забылася на гэта...

«Куды ж мне цяпер ісці? Дзе, у якім баку вёска?»

Глянула на неба — можа хоць па зорах можна пазнаць ці здагадацца, дзе вёска. Але неба было нізкае, чорнае, зусім без зор. Калі яны і чаму пахаваліся, Юля нават не прымеціла.

«Трэба вярнуцца назад да броду,— прыйшло ў галаву.— Інакш я заблуджуся і ні за што да ўсходу сонца не патраплю ў Доўгі Мох... А тады... Тады будзе позна...»

Ёй стала страшна.

Яе прасіў дзядзька Падабед перадаць партызанам такія важныя звесткі, а яна не змагла перадаць...

«Хто, хто паверыць пасля, што я гэта зрабіла не сумысля? Хто, хто даручыць мне яшчэ хоць калі новае

заданне, хто будзе ўпэўнены, што не здарыцца таго, што здарылася вось цяпер?..»

Юля павярнулася і ўжо не пайшла — пабегла назад да броду...

І колькі не бегла — броду не было і не было.

«Дзе, дзе ён, чаму яго ўсё няма і няма?» — мільгалі ў галаве думкі, і Юля бегла, бегла...

З-пад ног вылецела нейкая вялікая птушка, відаць, курапатка. Але Юля нават не спынілася, не спалохалася — куды большы страх было тое, што яна не перадала партызанам загад падполля, што праз яе заўтра загіне цэлая вёска. І можа нават партызанскі атрад...

Юля заплакала...

Калі праз нейкі час ногі яе ступілі ў нешта мокрае і густое, сэрца яе як не выскачыла з грудзей, так яно калацілася — вось нарэшце гразь, вось і брод...

Але гэта быў не брод — гэта была Віць.

«Няўжо Віць?» — не паверыла Юля і пайшла далей.

Папраўдзе, гэта была рака. Шырокая, ільсняна-чорная, яна масляніста пераліvalася ў цемры і цяжка, стомлена дыхала ў чаратах і лозах.

І Юля, выбраўшыся з гразі, пабегла назад — яна яшчэ не траціла надзеі паспець, пакуль не развіднела, у вёску...

Неба тым часам пашарэла, потым пабялела, зрабілася светла-сіняе, аж зеленаватае, бы ўсё роўна шкляное,— кароткая летняя ноч адыходзіла, бралася на дзень.

«Няўжо так хутка мінула ноч? — жахнулася Юля.— Тады чаму ж, чаму не спяваюць пеўні, чаму не гаўкаюць сабакі? Доўгі ж Мох тут недзе зусім побач... А можа я гэтак адышлася ад яго далёка, што не чутно?..»

Узяла правей, наўздагад, бо куды ёй трэба ісці, цяпер яна ўсё адно не ведала. Проста бегла, каб не стаяць, не быць на адным месцы, каб хоць думаць, суцяшаць самую сябе, што яна бяжыць і вось-вось будзе ў вёсцы...

Лес паступова драбнеў, пераходзіў у маладняк. Порсткі, густы — не прабрацца.

Потым пачалася лаза, алешнік, ажыннік... А потым

зноў балота, зноў гразь, зноў цэлыя зараснікі чароту, высокага, рослага, як лес, і нейкага сухога, леташняга. Чарот ламаўся і трашчаў пад нагамі, нібыта ішоў па ім не чалавек, а чарада дзікоў...

Чарот скончыўся, зноў пайшло балота — чыстае, роўнае і таксама някошанае.

«Няўжо гэта тое балота, што ля Віці і па якім я ўжо ішла?..»

Балота было не тое. Бо ледзь толькі Юля так падумала, пад нагамі ў яе зазыбалася, нешта хруснула, разарвалася, і яна правалілася ў багну. Халодную, ліпкую...

Багна зверху падсохла, зацягнулася травою, а так была ўсё тою ж багнаю, што і дагэтуль.

Ухапіўшыся рукамі за траву, Юля паспрабавала вылазіць. І адчула, што тонкая плеўка з карэння і травы кволая, яна рвецца і рассоўваецца ўсё болей і болей — багна не хацела выпускаць са сваіх чэпкіх абдымкаў чарговую ахвяру і цягнула, усмоктвала яе ў сябе...

Баючыся, што не зможа выбрацца з гэтае жывое пагібелі, Юля загрэбала рукамі, нагамі і папаўзла... Папаўзла, сілячыся з апошніх сіл трапіць зноў на сухое, каб бегчы далей...

«Хутчэй хутчэй! — падганяла яна сябе.— Іначай я не дабягу да вёскі, і тады ўсё прапала...»

Было ўжо светла, як выбралася Юля зноў на лес. І толькі тут да яе дайшло, што спяшацца няма куды — у Доўгі Мох яна не паспее раней за немцаў... А хоць бы і паспела, што б зрабілі людзі, куды б яны ўцяклі — з дзецьмі, са старымі... Немцы ўсё роўна іх дагоняць...

Разумела гэта, і ўсё адно не хацела згаджацца. Ёй усё яшчэ здавалася, што яна дабяжыць да вёскі і выратуе людзей...

І Юля бегла, бегла, аж пакуль не ўбачыла, што развіднела зусім...

І тады яна нарэшце паверыла, гэты раз канчаткова, што ўсё прапала,— яна не зрабіла таго, дзеля чаго яе пасылаў дзядзька Падабед, не папярэдзіла ні партызан, ні людзей... Позна!..

Ногі падагнуліся ў каленях, і Юля ўпала ў траву... Упала і закалацілася ўся ад плачу, зарыдала...

Калі прыступ роспачы і адчаю прайшоў, Юля паднялася. Агледзела самую сябе. І не пазнала — няўжо гэта і праўда яна, Юля? Рукі і ногі ў балотнай твані, тая ж твань і на плацці, на сачаку, калі толькі можна яшчэ назваць плаццем і сачакам тое ашмоцце, што звісае з яе... Адно калена аб нешта збіта ці праколата і крываВіць. На другім — чырвоным струпам закарэла кроў... Відаць, лазячы па валежніку, зачапілася аб нешта вострае...

Пайшла па лесе. Стомленая, абыякавая да ўсяго. Без усялякіх думак — на душы было пуста-пуста...

Лес прачынаўся. Спяваў, аж заліваўся ў галлі недзе салавейка, хрыпата буркатаў пастушок, цвірлікаў крутагаловік, пішчала пеначка... Высока над галавою, віруючы між галля, праляцелі галубы. Двое. Адзін, відаць, самец, уперадзе, галубка трошкі ззаду.

І Юля ўспомніла, што казаў некалі ёй бацька. «Калі ўжо здарыцца такое, і ты заблудзішся ў лесе, высачы, куды ляцяць галубы. Там, куды яны ляцяць, поле...»

І яна паволі пайшла ў той бок, куды паляцелі галубы...

Неймаверная цішыня і спакой стаялі ў лесе. І было свежа-свежа. Выпала нават раса. Ці не ўпершыню за апошнія ночы. Блішчала ўсюды на траве, у лісці маленькімі празрыстымі кропелькамі. Блішчала, як шчасце.

Але што гэта?.. Аднекуль цягне дымам, запахла гарэлым... Наперадзе нехта стрэліў.

І гэты стрэл нібы вярнуў Юлю з утрапення да свядомасці — ды гэта ж карнікі напалі на Доўгі Мох...

Яна пабегла... Спачатку памалу, потым з кожным крокам усё хутчэй, хутчэй...

Вось свіціцца ўжо лугавіна, вось тая дарога, па якой яны хадзілі з Сяргеем некалі ў лес, па грыбы... Далей павінен быць бярэзнік, узлесак... А там... Там поле...

Нібы прасвятленне найшло на Юлю — яна бегла і ўсё пазнавала, усё ўспамінала, што надаралася з ёю некалі тут, у гэтым лесе...

На ўскрайку поля яна доўга стаяла, ніяк не могучы даўмецца, што гэта такое вялізнае і чырвонае

перад ёю — ці то ўзыходзіць сонца, ці гэта нешта іншае... Потым здагадалася: ага, ды гэта ж гарыць вёска, гарыць Доўгі Мох!..

Дымныя слупы агню падымаліся і падымаліся ўгору і на нейкі момант нават закрылі сабою сонца. Яно, маленькае, дробненькае, бы аблушчаная долька гарошынкі, марудна прабівалася ў мутных пасмах полымя, нібы блудзіла, ніяк не могучы выбрацца на волю. Але вось яно паднялося вышэй, выбліснула з дыму і сыпанула вострыя дзіды-праменні на поле, на лес, на ўсё, што яшчэ не гарэла, што яшчэ жыло, расло, цвіло... І дрэвы, трава перайначыліся — заблішчалі, заіскрыліся ў кроплях расы...

Вёска палала. Палала як вялізнае і страшнае вогнішча, палала ўся, з канца ў канец. І відно было, як вакол яе, па гародах, бегалі, мітусіліся немцы — у цёмна-зялёных накідках, з аўтаматамі ў руках...

Жудасная, як смерць, думка пранізала Юлю:

«А дзе ж людзі, дзе тыя людзі, што жылі ў вёсцы? Няўжо іх пастралялі ўжо, няўжо яны гарадь разам са сваімі хатамі, са сваім нажытым нялёгкай працай скарбам?..»

Прыгледзелася: на пагорку, пры ўездзе ў вёску, дзе стаяў абвязаны ручнікамі чорны дубовы крыж, чатоўпілася купка людзей. Зусім маленечкая купка, чалавек мо ўсяго дзесяць — дванаццаць, не больш... Не, гэта былі не немцы, гэта былі людзі з вёскі... Немцы ж былі далей — сядзелі ў акопчыку за кулямётам і навадзілі яго на людзей...

Вось выйшаў з купкі мужчына, спыніўся ля немца. Немец настаўляе на яго пісталет, нешта, мусіць, пытае... Што — не чуваць. Мужчына маўчыць, потым, схапіўшыся рукамі за грудзі, паволі хіліцца долу...

І толькі пасля ўжо да Юлі далятае стрэл...

«Калі гэта людзі з вёскі, то чаму іх так мала?» — круціцца ў галаве думка.

І Юля глядзіць і глядзіць на гэтую купку людзей, якая з кожнай хвілінай усё меншае і меншае...

Вось з купкі выйшла жанчына ва ўсім чорным. Павярнулася тварам да крыжа, перахрысцілася. Ці не цётка Матруна гэта?..

Зноў тая ж кароткая размова, і жанчына падае...

І зноў Юля чуе стрэл... Раптоўны, глухі...

Здагадка працінае Юлю: «А што, калі... гэта ўсе, каго захапілі ў вёсцы немцы. Астатнія ўцяклі... І немцы дапытваюць, дзе падзеліся людзі...»

«Але адкуль уведалі яны, людзі, што немцы сёння спаляць Доўгі Мох? Хто, хто перадаў ім тое, што павінна была перадаць я?..»

На момант, толькі на адзін момант у вачах у Юлі паўсталі тыя босыя дзявочыя сляды, што бачыла ля броду на дарозе, ля таго дуба, дзе павінны былі яе аклікнуць...

«Можа... Можа не адна я ішла ў лес да партызан. Нехта яшчэ нёс тыя ж звесткі, што несла я... І не спазніўся, паспеў...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ішоў новы дзень, а з ім ішлі і новыя трывогі.

---

...Ні Юля, ні нават Падабед не ведалі, што ў той дзень, калі выйшла з мястэчка Юля, толькі на некалькі гадзін раней, па дарозе ў Доўгі Мох пайшла і яшчэ адна дзяўчына і што яна, гэтая дзяўчына, несла партызанам тыя ж звесткі, што і Юля. Гэтая дзяўчына перайшла Віць і першая дапала ў Муціжанскі лес да броду, перадала партызанам, што іх чакае і што трэба рабіць...

Дзяўчына гэтая была дачка Аўгена Камарэвіча, таго Камарэвіча, што не захацеў жывы здавацца немцам і застрэліўся, калі прыйшлі яго арыштоўваць. Паслаў яе, гэтую дзяўчыну, да партызан чалавек, што таксама быў у падполлі, і пра тое, што ён у падполлі, не ведалі ні Падабед, ні ў нямецкай камендатуры...

*1965 г.*

# АПОШНІЯ І ПЕРШЫЯ

## РЭКВІЕМ

> ...Сёння мы проста гаворым: «Была вайна». І больш ні слова, бо няма ў нас вакабул, каб хоць на хвіліну ўзнавіць яе, хоць на адну хвіліну. І мы зноў проста гаворым: «Так, так, гэта было». Таму што ўсё астатняе — балбатня, няма ж вакабул для яе, няма рыфмы і рытму, гэтак жа, як няма ні оды, ні драмы, ні псіхалагічнага рамана, якія б умясцілі яе, не лопнулі б ад яе крывава-чырвонага рыку...
>
> *Вольфганг Борхерт*

Я хацеў бы, каб гэта быў сон. Але гэта не сон. Не, не сон...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...У той дзень нешта вельмі рана прыгналі з пашы кароў. Яшчэ нават не схавалася за лес сонца. Вялізнае, барвова-чырвонае, яно вісела даволі высока над стромкімі вяршалінамі далёкага Шапчынскага бору, нібы прыглядалася, выбірала месца, дзе лацвей сесці. І калі каровы, падымаючы клубы пылу, брылі, ківаліся па вуліцы, то чамусьці ўсё рыкалі і ані не заходзілі ў двары. Стаялі як укопаныя ля нахлашч парасчынятых варот і рыкалі.

— Му-у! Му-у! — раз-пораз то там, то тут разлягаліся па вёсцы жаласлівыя рыкі.

Каб як-небудзь заманіць карову ў двор, мая маці вынесла з хаты ражку лушпаек. Але гэты раз не памаглі і яны — наша Дунька, такая ласая на якія б то ні было прысмакі, цяпер, выцягнуўшы шыю, стаяла перад самаю ражкаю і, здавалася, нічога не бачыла, не чула — рыкала.

— О божачка мой! — заўздыхала, забедавала маці.— Хаця б пажару якога не было... Кажуць жа, зноў немцы на сёлах злосць сваю спаганяюць... Доўгі Мох спалілі...

І не прамовіла больш ні слова. Узяла са штыкеціны даёнку і, як толькі нам нарэшце ўдалося ледзь не сілаю ўвапхнуць Дуньку ў двор і я зачыніў вароты, пацлялася ўслед за кароваю ў хлеў...

Калі праз нейкі час маці выйшла з хлява, я не пазнаў яе — такая яна раптам зрабілася сумная, зажураная. Моўчкі прашлэмала ў раскошных, не аб назе бацькавых апорках міма мяне ў сенцы, моўчкі адчыніла хату, моўчкі паставіла на стол даёнку. І пакуль цадзіла малако, разлівала яго ў вялікія паліваныя гладышкі, ужо ні на хвіліну не спускала з мяне вачэй — усё глядзела і глядзела, бы развітвалася, бы ўсё роўна ведала, што бачыць мяне апошні раз. Потым сказала ціха і нейк нязвыкла:

— Ясік, сыночак, ці не занёс бы ты сёння цётцы Лісавеце малако?

— Як, цяперака? — недаўменна паціснуў я плячыма.

— Ага,— кіўнула галавою маці.— Пераначуеш тамака, у цёткі, у Замошках, а ўранні і дадому прыбяжыш...

У тым, што маці прасіла мяне занесці малака сваёй роднай сястры, якая перад вайною выйшла замуж і перабралася жыць у Замошкі, не было нічога дзіўнага. З таго дня, як у Лісаветы нарадзіўся маленькі Уладзік, я часцяком насіў ёй малако. Але звычайна рабіў гэта ўранні, зрэдку ў абед. А каб бегчы ў Замошкі ўвечары, ды яшчэ там начаваць — не, такога ні разу не было.

Я не хацеў сыходзіць нанач з дому і доўга ўпіраўся, аднекваўся, казаў, што я і так набегаўся за дзень, у мяне, маўляў, смыляць ногі і вельмі баліць плячо,— яго я намуляў на тым тыдні, калі цягалі ўдваіх з маткаю з лесу сушняк на дровы,— але маці не адступалася ад свайго, не дабрэла, а ўгаворвала і ўгаворвала, каб я пайшоў да цёткі Лісаветы менавіта сёння, увечары, і каб там астаўся начаваць.

— Усё адно, сынок,— ледзь не прасіла яна мяне,— малако трэба занесці. Занясеш сёння — заўтра будзеш вольны. Можам нават у лес з табою схадзіць, суніц пашукаем... Паспелі яны ўжо, надоечы сама бачыла, як Хведарава Каця паўнюткую кузеньку з Шапчынскага бору несла...

Кажуць, матчына сэрца заўсёды чуе бяду, якая б яна, тая бяда, ні была. Можа і сэрца маёй маці чула тое няшчасце, што навісла над нашаю вёскаю, над усімі тымі, хто ў ёй жыў. Але што гэта за няшчасце, маці, пэўна, не ведала, а таму, можа, гэтак і ўгаворвала мяне, каб я ішоў у Замошкі, разважыўшы, мусіць, па-свойму, па-жаночы, што калі я астануся разам з ёю ў вёсцы і, не дай бог, прыедуць немцы нас паліць, дык мы загінем абое. А будзем начаваць у розных вёсках, то нехта выжыве, не загіне... Хто ведае, можа, нічога такога яна і не думала. Проста паслала мяне ў Замошкі, каб быў я заўтра вольны, каб і праўда льга было схадзіць нам удваіх у лес па ягады...

Як бы там ні было, я, хоць і неахвотна, але ўзяў са стала ачэпленую канаплянаю аборкаю гладышку, поўную, да беражкоў, малака, выйшаў з хаты і, у чым стаяў, паволі паклыпаў разораю цераз поле на сцежку, што вяла ў Замошкі. І пакуль не ўвайшоў у лес, усё азіраўся і бачыў маці — яна стаяла ў гародзе, ля хлява, глядзела на мяне і, калі я паварочваўся да яе, махала мне рукою... І я думаў, чаму яна не ідзе ў двор, чаму стаіць на гародзе і махае мне рукою. Гэтак жа яна ніколі яшчэ нікуды мяне не праводзіла. Другі раз, бывала, як выпраўляе з дому, з хаты не выйдзе. А то ўсё стаіць і стаіць, усё махае і махае рукою...

Замошкі — самая блізкая ад нашае Рудні вёска. Нават могілкі ў нас агульныя — адразу ж за Лысаю гарою, на пагорку, у старым панурым хвойніку. Паўз могілкі, зніваючыся і пятляючы, бяжыць і дарога ў Замошкі — шырокая, пыльная на полі і цесная, змрочная ў лесе. Але па гэтай дарозе ўлетку мала хто ходзіць. Часцей за ўсё кожны браўся на сцежку, што праставала цераз мох, ці, як казалі ў нас, на брады. Гэта набагата бліжэй. Перабег поле, мінуў мох, балота, а там, за дубнячком, глядзі — і тая выспа, да якой туліліся сваімі нізкімі, пляскатымі стрэхамі Замошкі. Праўда, увосень, калі разнягоджвалася, лілі па тыдні, а то і па два дажджы, ці вясною, як раставаў снег, па гэтай сцежцы не вельмі пройдзеш. Куды ні ступі — вада і вада. Не ратавалі і кладкі, што ляжалі скрозь узбоч сцежкі. Але вада ніколі доўга не бавілася ў балоце і імхах, сплывала ў Віць, якая працякала мо ўся-

го кіламетраў за пяць ад тутэйшых мясцін. І толькі дзе-нідзе ў брадах ды ў глухіх, багністых выгарах вада гніла, плеснела праз усё лета, на радасць, між іншым, жабам і шматлікаму гарластаму балотнаму птаству...

За тыя весну і лета, што насіў я цётцы Лісавеце ў Замошкі малако, я так вывучыў сцежку, што мог ісці па ёй нават заплюшчыўшы вочы. І нідзе б не спатыкнуўся, нідзе б з яе не збіўся, нідзе не замачыў бы ног. Я ведаў, праз колькі крокаў і куды паверне сцежка, бо неаднойчы, вяртаючыся дадому, каб не доўжылася, мераў колькі крокаў ад павароту да павароту, ведаў, дзе які брод і ці ёсць у ім вада, і загадзя абыходзіў на кладкі. Больш таго: я ведаў усе дуплы ў дрэвах, што стаялі ўзбоч сцежкі, ведаў усе птушыныя гнёзды ў прыдарожных кустах. І часта, ідучы ў Замошкі, збочваў на лес, каб паглядзець, дзе, у якім дупле ці гняздзе ўжо вывеліся птушаняты, дзе яны паабрасталі пер'ем, а дзе набраліся сіл і паляцелі...

Але ў той ціхі чэрвеньскі надвячорак мне было не да птушыных гнёздаў. Я ішоў па сцежцы, а ў вачах стаяла маці. Чаму яна выправіла мяне сёння нанач з дому?.. Чаму не ўважыла, не паслухала — я ж так не хацеў ісці ў Замошкі, так прасіўся?.. І чаму яна гэтак сумна, з журбою глядзела на мяне, як цадзіла малако, чаму гэтак доўга не ішла з гарода, а ўсё стаяла і стаяла, махала і махала рукой?..

Думкі гэтыя не пакінулі мяне і ў Замошках, калі я, аддаўшы цётцы Лісавеце малако, лягаў у яе ў хаце на пасцелі. Наадварот, яны мучылі, наганялі жуду і страх. Я ўспамінаў, як не хацелі заходзіць у двары каровы, як яны раз-пораз рыкалі на ўсю вуліцу... І незразумелая, няўцямная трывога ўсё больш і больш агартала мяне...

«Няўжо маці здагадваецца пра нешта, што мае здарыцца сёння ўночы ў нашай вёсцы? А можа чула пра што, ды не сказала?..»

Усплывалі ў памяці словы пра пажар, што былі сарваліся так, нібы між іншым, з языка ў маці, калі мы заганялі з ёю ў двор Дуньку, пра тое, што немцы пачалі спаганяць злосць на сёлах, што яны спалілі ўжо Доўгі Мох, і ў думках я зноў і зноў вяртаўся ў сваю вёску...

Не помню, спаў я ці так і не замгнуў вачэй,— чэрвеньская ноч, балазе, кароткая, калі яна праляцела, я і не заўважыў. Але як толькі павіднела, ледзь-ледзь пасвятлелі вокны, я ціхенька ссунуўся з лаўкі, дзе мне паслала ўчора прыцемкам цётка пасцель, на пальчыках пакраўся да дзвярэй, асцярожна прачыніў іх і вышмыгнуў на двор.

Цётчына хата стаяла пры самым лесе. Старэнькая, нізенькая, яна ціснулася чаратовай страхою да зямлі, нібыта ўсімі сіламі трымалася за яе, каб не ўпасці, праліпець яшчэ хоць які год, пакуль гаспадары скончаць новую хату, што жаўцела смалістым зрубам цераз паплавец з расцяробу. За расцяробам, на пагорку, відна была і сама вёска — забудаваная нешырокая вуліца ўздоўж Віці, што млява выгіналася ў купчастых лазняках і як бы аблямоўвала густою зелянінаю з трох бакоў вёску. Частыя, невысокія платы; хаты, крытыя найбольш саломай і дранкаю; вузкія, сівыя ад расы загоны поля; сады; стромыя, настаўбурчаныя ў неба жураўлі калодзежаў... І ўсюды, над усім гэтым — лёгкі ранішні туманок, што, як дым, расплыўся і павіс у паветры. У дрогкім сутонні ўсё яшчэ спала, нішто не асмельвалася парушаць чуйнай перадсвітальнай дрымоты і сну. Толькі ў нечым двары ля самай ракі гаўкаў сабака. Гаўкаў моцна, заядла, аж захліпаўся.

Сцежачкаю, што перасякала наўскось цётчын гарод, па бульбе, якая адразу ж абдала зябкім холадам расы мае босыя ногі, я дайшоў да той сцежкі, што праставала лесам на мох у нашую вёску, і тут нечакана спыніўся. Далёкае і як бы прыглушанае гурчанне матораў даляцела да маіх вушэй. Я прыслухаўся — гурчанне ішло з дарогі, што вяла міма могілак у нашу вёску. Яно не змаўкала, а расло, набліжалася, ад яго ўжо стугнела, калацілася зямля. Мінула яшчэ хвілін колькі, і я ўбачыў, як з дубнячку, што зелянеў у лагчыне, вырвалася на поле купка матацыклістаў. За ёю паказаліся — адзін-два-тры-чатыры,— ліхаманкава лічыў я,— грузавікі, поўныя нямецкіх салдат... Потым пачалі выкатвацца цёмна-зялёныя, тупарылыя, запыленыя танкеткі...

Не даязджаючы мо з паўкіламетра да вёскі, грузавікі спыніліся. Пачулася кароткая, гарластая каманда, і ў той жа момант немцы пачалі адзін за адным вы-

кульвацца з кузаваў. Трымаючы перад сабою напагатове аўтаматы, яны, усе рослыя, дужыя, у накінутых наапашкі жоўта-зялёных і мышастых плашчах, у касках, насунутых на самыя вочы, рассыпаліся ланцужком па полі — пабеглі ўслед за танкеткамі, якія параўняліся ўжо з грузавікамі, акружаць вёску.

Сабака забрахаў яшчэ больш адчайна. Ён ужо екатаў, выў, бы яго хто рваў зубамі.

Грымнуў стрэл, і сабака змоўк...

«Што немцам тут трэба, у Замошках? Навошта яны акружаюць вёску?..»

Прыгнуўшыся, я з усіх ног прыпусціў у лес...

Ужо адбегшыся за дубняк, я падумаў, што мне не варта было так спяшацца, а трэба было пастаяць хоць трохі на полі, паглядзець, што будуць рабіць у Замошках немцы... Можа нават вярнуцца назад, пабудзіць цётку Лісавету... Крыкнуць ёй, каб яна ўцякала разам са мною і Уладзікам у лес, каб схавалася дзе, перачакала, пакуль не паедуць з вёскі немцы.

Але нейкая сіла не давала мне спыняцца, гнала і гнала далей і далей. Я не тое што вяртацца — азірацца баяўся назад. «Немцы маглі бачыць мяне, калі я стаяў на полі... Яшчэ падумаюць, што пабег да партызанаў, каб папярэдзіць, сказаць, хто ў вёсцы... І кінуцца ўслед за мною, даганяць...»

О, я добра ведаў, як немцы баяцца партызанаў. Калі аднаго разу ўзімку некуды ехалі праз нашу вёску і заначавалі, то нікога нават па пільнай патрэбе за хлеў не пускалі — прымушалі рабіць усё ў іх на вачах, пасярод двара — няйнакш, думалі, што калі чалавек выйдзе за хлеў, то абавязкова ўцячэ ў лес, да партызанаў... Дзед наш не паслухаўся быў таго загаду, дык яго ў халодную камору замкнулі і не выпускалі, аж пакуль не паехалі з вёскі... А дзядзьку Хведара, што жыў ля калгасных гародаў, і зусім забілі. Ён вяртаўся ўночы з уюноў і не ведаў, што ў вёсцы немцы. Дый адкуль яму было ведаць, ён жа цэлы дзень сек лёд на Віці, каб паставіць каробачкі. А як змерклася, паваloкся дадому. Немцы схапілі яго ля самай хаты і застрэлілі. Не паглядзелі, што ў Хведара аж пяцёра дзяцей... Не, лепей не пападацца на вочы немцам, праваты свае ім не дакажаш.

За балотам я трохі супакоіўся, пайшоў памалу.

«Можа нічога страшнага і не будзе ў Замошках? Прыехалі немцы?.. Ну, дык і што?.. Прыехалі і паедуць. Ператрасуць, напалохаюць людзей, як было гэта ўжо неаднойчы, і паедуць, куды ім трэба. Не канечне ж ім некага страляць, забіваць...»

І тут жа сумеўся: што гэта я? Яшчэ ж не было такога, каб немцы, прыехаўшы ў вёску, так і паехалі, нікога не застрэлілі... Кожны раз, як наведваліся, абавязкова некага забівалі... То старога яўрэя Іцку, што хаваўся з самай акупацыі па хлявах і пясочніках, то старасту Мікіту, на якога нехта данёс, што па начах да яго ў хату прыходзяць партызаны, то цётку Тэклю — яе злавілі з шасцю кулідкамі хлеба, калі яна несла іх у мяшку некаму ў лес... А то аднаго разу прыехалі, сагналі да клуба сем'і тых, хто да вайны хадзіў у сельсавецкім і калгасным начальстве, пасадзілі на машыны і некуды павезлі... Гаварылі пасля, быццам усіх, каго тады ўзялі, назаўтра пастралялі ля мястэчка, у хвойніку...

«Не, трэба спяшацца хутчэй дадому,— прыйшло мне ў галаву.— Расказаць, што немцы акружылі Замошкі, што яны маюцца нешта там рабіць. І, пакуль не позна, ратавацца, уцякаць з маці ў лес...»

Я зноў пабег...

Заняты сваімі думкамі, я не чуў, як спадала, квола шлёпаючы па лісці, у той досвітак раса з дрэваў, як абуджаліся і пачыналі крычаць, славячы прыход новага дня, птушкі; не бачыў, як святлела, барвовела на ўсходзе неба, як яно з кожнай хвілінай шырэла, гнала прэч начныя суцінкі і моракі, як спагадзя з-за цёмнай сцяны лесу, нібы з-за вялізнай крутой гары, вырвалася раптам аднекуль на волю сонца і, пераліваючыся, асыпаючы ўсё навокал вострымі, зыркімі промнямі, паплыло над зямлёю, панесла ўсяму жывому цяпло і радасць.

Я спыніўся, асleплены сонцам, толькі на ўзлеску, перад полем. Лёгкі ранішні ветрык калыхаў загоны жыта, што падступала да самай сцежкі, і яно лъснілася, выгіналася і роўна, вусцішна гуло, шумела сівым, яшчэ не налітым коласам. З лугавін і пералогаў рэдзенькім дымком поўз, хаваўся ад сонца бліжэй да ку-

стоў малочна-белы, па-летняму палахлівы, амаль празрысты туман. І адусюль, аглушаючы цудадзейную, гаючую цішыню раніцы, у неба рваліся песні, песні бязмежнай хвалы і крылатай птушынай весялосці.

Вёска ляжала ў лагчыне. Акружаная з усіх бакоў цесным вянком лесу, яна бязладна збілася саламянымі стрэхамі і пачарнелымі платамі ў кучу, нібыта ёй не хапала месца, і амаль не відна была з густой зеляніны рослага вішняку і яблынь. Толькі плавіліся, залаціліся ў праменнях сонца вокны ды кучаравіўся над комінамі дым.

Але мне і не трэба было бачыць хат, я добра ведаў і так, дзе чыя стаіць і хто ў ёй жыве. Вось па правую руку, з краю, ля альса, паўз які нешырокаю доўгаю палосаю цягнуўся некалі аж да лесу калгасны гарод, горбіцца хата дзядзькі Хведара, таго Хведара, якога застрэлілі немцы, калі ён вяртаўся ўночы з уюноў. Цяпер у гэтай хаце жыве яго жонка Паўліна з дзецьмі — Мішкам, Кацяй, Галяй, Надзяй, маленькім Петрыкам... Побач з Хведаравай хатай яшчэ летась чырванела бляшаным верхам хата, у якой жыў са сваёй сям'ёй Сахрон, чалавек, да якога ўся вёска, як у нас казалі, прытыкала вочы, бо быў Сахрон майстра на ўсе рукі — ён мог зляпіць печ і грубку, падбіць чаравікі, пашыць боты, выштукаваць раму, пашкліць вокны. І ўсё, за што б ён ні браўся, выходзіла ў яго аднолькава прыгожа і моцна, навек. Сахронаву хату раскідалі немцы, зрабілі з яе масток цераз грэблю пасля таго, як партызаны неяк напрадвесні аблілі газай і спалілі той, што быў паслany даўней, пры калгасах... А там і пайшлі двары, хаты — кульгавага Максіма, Тэклі, якую забілі немцы, старое Уласіхі, Радзівонава, Астапава, Пятрова... Наша хата ў самай сярэдзіне, там дзе вёска як бы згінаецца і дзе адзін канец яе паварочвае на поле, да Лысай гары... Сваю хату я пазнаю ўсюды, як бы далёка ні адышоўся ад дому, пазнаю па ліпе, што стаіць у нашым двары. Такой высокай і кашлатай ліпы ні ў кога няма ў Рудні. Пазырыўся быў на яе, калі прыйшлі немцы, паліцай Гуртавенка, на невашта яна вельмі ж трэба была яму. Прыйшоў з пілою, сякераю да нас у двор, хацеў спляжыць. Але зрабіць гэта не даў дзед, матчын бацька, што жыў пры нас, у адной хаце. Як ляжаў ён на печы ў палатняніках і кужэльнай сароч-

цы, босы, так і выбег з хаты, хаця на полі яшчэ дзенідзе бялеў лапінкамі снег і зямля пасля зімы не адагрэлася, халодная была. Стаў ля камля і сказаў Гуртавенку: «Ты садзіў яе, што пляжыць прыйшоў? Перш пасадзі, душагуб, хай вырасце, а тады ўжо і пляж, каб цябе нячыстая спляжыла... Сваю. А мае не чапай... Засяку!..» І падняў над галавою калун, які ляжаў тут жа, на дрывотні, на падхваце, і якім мы калолі дровы... Гуртавенка, на што ўжо кальвін, а не захацеў звязвацца з дзедам, пайшоў з двара. Толькі, як зачыняў за сабой весніцы, плюнуў пад ногі ды, заікаючыся, працадзіў скрозь зубы: «Усё ад-дно ссяк-ку... Н-не ўп-пільнуеш...»

За нашаю хатаю — хата старасты. Не таго, Мікіты, што павесілі немцы, а новага, Аўхіма Аглабелькі,— яго паставілі за старасту толькі сёлета, напрадвесні... А там, далей, зноў хаты, двары, поле... Крыху ў баку ад вёскі, наводшыбе, бялее новай гонтавай страхою школа, куды я бегаў — о, як даўно гэта было! — шторанак вучыцца. Ля школы — вятрак, доўгі калгасны двор, Лысая гара — з яе так хораша з'язджаць узімку на лыжах... Вецер трэпле матузкі на вушах шапкі, пругкімі хвалямі ўпіраецца ў грудзі, расхрыствае полы світкі, халодзіць твар і ўсё бяжыць, нясецца насустрач — толькі стой, цвёрда стой, не ўпадзі...

Але што гэта? Узышло сонца, а на гародах, у полі нікога так і няма, бы і не лета цяпер, бы і не глухнуць пасевы ад зелля, бы і няма чаго акопваць, абворваць, палоць... Не відно і кароў на поплаве, хоць шторанак, перад тым як пагнаць на далёкія, лясныя пашы, пастухі заўсёды пасвяць іх поблізу вёскі... Чаму б гэта?..

Кароткая рэзкая чарга з аўтамата вывела мяне з задуменнасці. Мне нават падалося, што гэта нехта паласнуў па мне. І я як стаяў, так і ўпаў у траву. Потым, хвілін праз колькі, апамятаўшыся, папоўз у жыта, увесь час азіраючыся ў той бок, адкуль я толькі што бег,— няўжо немцы такі і праўда ўбачылі мяне на полі ў Замошках і гоняцца ўслед?..

Але на сцежцы не было нікога. Не было і чуваць, каб нехта бег ці ехаў.

«Хто ж тады тут страляў?..»

Падняў галаву. Нідзе нікога. Цішыня. Насцярожана капае з лісця раса, звініць у паднябессі, бы прывя-

заны на нітцы, цілівон. Недзе гупае ў лесе сонна голуб — гу-гу, гу-гу, гу-гу...

Я стаў на ногі, прыгнуўся і, раз-пораз паглядваючы на бакі, пакраўся на ўзлесак. Не па сцежцы — па жыце.

Ужо на ўзлеску, схаваўшыся за тоўсты камель старое хвоі, я ўбачыў, як з вёскі гародамі, рассыпаўшыся па адным, бягуць сюды, да лесу, людзі. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем... Сем чалавек! Вось яны мінулі загоны бульбы, выбеглі на сцежку, што вядзе сюды, на мох, потым неяк усе разам спыніліся, замахалі перад сабою рукамі, нібы хацелі ад нечага імі прыкрыцца. Адзін чалавек паваліўся ў картаплянік, астатнія павярнуліся і сыпанулі назад.

Зноў рэзкая, цяпер доўгая, чарга з аўтамата палохае мяне сваёй нечаканасцю. Але я ўжо ведаю, дзе страляюць,— страляюць вунь там, у вёсцы, дзе гароды. Страляюць у людзей...

Страшная думка працінае ўсяго мяне:

«Немцы не толькі ў Замошках... Яны і тут, у нашай вёсцы...»

Хвіліну-другую я яшчэ стаю на ўзлеску і непаразумела гляджу на гароды, на тых людзей, што, размахваючы рукамі, спяшаюцца, уцякаюць назад, да хлявоў. Потым, калі людзі знікаюць, хаваюцца ў дварах, за парканамі, я паварочваюся і іду ў лес.

«Вось чаму так рыкалі ўчора каровы... Вось чаму яны не хацелі заходзіць у двары»,— думаю я. І ўспамінаю, што і перад тым днём, калі немцы першы раз наведаліся ў нашую вёску, гэтак рыкалі ўвечары каровы і не хацелі заходзіць у двары. І вылі сабакі, вылі жаласліва і доўга, бы ваўкі.

Тады, у той дзень, я таксама не быў у вёсцы. Пачуўшы спрасонку на вуліцы нечы крык: «Немцы!» — я ўсхапіўся з пасцелі і вобмельгам кінуўся на гароды. Перабег па захлеўю поле, ускочыў ля Хведаравай хаты ў алёс і па лазняку, па вадзе, па жабурынні падаўся далей ад Рудні...

Дадому я вярнуўся толькі надвячоркам, на змярку. І даведаўся ад маці, што немцы, не заставшы многіх людзей у вёсцы, ездзілі іх самі шукаць у лес. І каго пазнаходзілі — пастралялі...

— Так мы заўсёды будзем рабіць з тымі, хто ад нас

уцякае,— гаварыў афіцэр, што прыязджаў з немцамі, усім тым, хто аставаўся дома і нікуды не ўцякаў, калі людзей сагналі да клуба.— Мы ведаем: хто не вінаваты, таму няма чаго нас баяцца, той не будзе ўцякаць...

І маці, абдымаючы і цалуючы,— так яна рада была, што немцы мяне не знайшлі, што я астаўся жыць,— загадала мне больш ніколі не ўцякаць, як прыедуць у нашу вёску немцы... Калі ж здарыцца такое, што я астануся дзе-небудзь адзін, каб хаваўся глыбей у лес, шыўся ў хмызняк, у непралазь, у заглуш, каб, баронь божа, не ішоў дадому, пакуль не ацямнее, пакуль не паедуць немцы...

Але адысціся, як некалі загадвала мне маці, глыбока ў лес і там схавацца я не змог. Неспакой і трывога вельмі хутка вярнулі мяне назад, зноў на ўзлесак. Мне раптам пачало здавацца, што гэты раз немцы прыехалі не так сабе ў нашую вёску, а прыехалі, каб зрабіць нешта страшнае, чаго яшчэ не рабілі... Таму і акружылі яны вёску, таму і не пускаюць адтуль нікога — страляюць...

«Што, што яны хочуць там рабіць?.. Няўжо будуць паліць, як спалілі Доўгі Мох?..» — І я, дзе прыгінаючыся, па разорах, а дзе хаваючыся за кусты, у хмыз, пакраўся бліжэй да канцавых хат.

Сонца паднялося ўжо высока і пачынала прыпякаць — дзень меўся быць і сёння сухі, гарачы, такі самы, якімі былі і ўсе папярэднія дні. Павылятаці са сваіх начных схованак авадні, сляпні, мухі — закружыліся, зазвінелі ў паветры. Раса апала. Ядраная, празрыстая, яна толькі дзе-нідзе холадна паблісквала ў лапушыстых лісцях малачаю ды студзіла, мачыла ногі ў густых зарасніках алешніку і крушыны.

Узберагам поля я дайшоў да таго лазовага кружка, што быў ля калгаснага гарода і куды я, як быў меншы, заўсёды лазіў вясною спорваць сарочыя гнёзды і дзе аднаго разу нават пабраў качыныя яечкі, і тут спыніўся. Людскі галас, мітусня і незразумелы рух даходзілі сюды з вёскі. Чуваць было, як трывожна рыкалі каровы, іржалі коні, бляялі авечкі, верашчалі свінні... Час ад часу то ў адным, то ў другім двары галасілі жанкі, плакалі дзеці. Нехта крычаў, лаяўся густым мужчынскім басам. Але разабраць, што крычаў чала-

век, як я ні сіліўся, было нельга... Вёска была ўсё ж далекавата адсюль... Я ступіў крок, другі, каб падысці бліжэй да вёскі, і акурат у гэты час убачыў, як нейкія незнаёмыя людзі ў чорным, з вінтоўкамі за плячыма, хто пугаю, а хто і дубцом спахапліва гналі па дарозе ў мястэчка коней, кароў, авечак, свінней... Усіх разам, у адной чарадзе, і гэтая вялізная, разнамасная, пярэстая чарада расцягнулася на ўсю грэблю.

На хвіліну ў вёсцы прыціхла. Не чуваць стала нават людскіх галасоў і плачу... Але гэтая цішыня цягнулася нядоўга. Раптам, неяк знянацку, захлёбіста заекатаў кулямёт, і цішыня ў той жа момант узарвалася людскім крыкам... Крычалі не адзін, не два чалавекі, а многа-многа людзей, крычала ўся вёска!.. Крык шырыўся, рос і паступова пераходзіў у суцэльнае немае і страшнае галашэнне — а-а-а-а-а! І яно, гэтае галашэнне, ужо не змаўкала доўга-доўга... «Што там?..»

Вачыма я пашукаў, на што б узлезці, каб было відаць, што робяць у вёсцы немцы, чаму так доўга і страшна крычаць людзі. Убачыў невысокі кашлаты дубок, што стаяў крокаў за трыццаць ад кружка лазы і на які можна было лёгка ўскочыць, бо голле яго як не слалася па зямлі, і мітнуўся да дубка... І адразу ж задам, задам падаўся назад, да лазы: пад дубком, за кулямётам, які быў настаўлены руляй на вёску, ляжалі, шырока параскідаўшы ногі, два немцы. Адзін нешта швергятаў другому, і абое захліпаліся сытым, задавольным рогатам...

Не зводзячы з немцаў вачэй, я дайшоў да кружка, паваліўся ў траву і папоўз у лазняк... Потым, калі стала мокра паўзці, падхапіўся на ногі і, тулячыся за хмызняк, пабег зноў на ўзлесак...

На ўзлеску я прыпыніўся, перавёў дыханне. Глянуў зноў на вёску. І ўбачыў дым. Гарэла нашая школа. «Паляць?..»

Не паспеў я так падумаць, як проста ў мяне на вачах рудыя пасмы дыму падняліся, заскакалі і на другім канцы вёскі — над Хведаравай хатай. Потым, у які момант, яны ўзвіліся над страхою Тэклінай хаты, Максімавай, старое Уласіхі, Радзівонавай, Астапавай... Дымнае полымя імкліва бегла па вуліцы і ахапляла хату за хатай, хлеў за хлявом... Вось яно дабегла да на-

шай хаты, і тая ўспыхнула таксама, як і іншыя, выкінуўшы ўгору слуп агню і дыму. І полымя не спынілася, пабегла далей па вёсцы — вось яно ўзнялося ўжо над стараставай хатай, над хатай паліцая Гуртавенкі... Над калгасным дваром... Над млынам...

Густы, чорны, з жаўцізною дым вялізным слупам стаў над вёскаю і закалыхаўся, зашугаў угары. Страшны чорны цень, цень смерці і пажару, лёг на поле, на зялёныя пасевы і ледзь не дасягнуў лесу...

Сумнявацца далей не было чаго — немцы палілі нашу вёску...

«А людзі, што зрабілі яны з людзьмі?..»

Захлёбісты перастук кулямёта і людскі крык, што перайшоў быў у адно суцэльнае немае галашэнне, які чуў я, калі стаяў там, ля кружка лазы, аглушыў мяне зноў, цяпер ужо не ў сапраўднасці, а ва ўяве, і я хутчэй адчуў, чым падумаў,— *яны пастралялі людзей...*

Слёзы хлынулі ў мяне з вачэй.

— Ма-ма-а! — закрычаў я і, ашчаперыўшы галаву, сам добра не цямячы, што раблю, пабег у лес, пабег туды, адкуль я і прыбег — у Замошкі...

Што кіравала тады мною?.. Страх, адчай?.. Я не ведаю. Помню адно — бег я ў Замошкі, каб расказаць там, што зрабілі немцы з нашаю вёскай, з людзьмі, з маёю мамай...

Пра тое, што немцы на досвітку прыехалі чагосьці і ў Замошкі, я зусім забыўся на той час...

Але калі выбег з дубняку на поле, я ўбачыў і над Замошкамі такі ж самы слуп агню і дыму, які шугаў і над маёю вёскай...

І я, зжахнуўшыся яшчэ болей, павярнуўся і пабег назад, зноў у сваю Рудню...

Ці бачылі мяне немцы?.. Ці стралялі па мне?.. Не помню. Нічога-нічога не помню...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі я ачуўся, зноў прыйшоў да памяці, была ноч. Цёмнае, вялізнае і глыбокае неба вісела нада мною, і праз яго то тут, то там нясмела, але настойліва прараславіся зоры — буйныя, міргатлівыя. Недзе збоку рыпеў дзяркач. Рыпеў зацяжна, бы ўсё роўна нехта рэзаў

тупою пілою дровы — к-хі-і-і... к-хі-і-і... Смярдзела — аж пяршыла ў горле — гарэлым. І ўсюды, над усім наваколлем стаяла цішыня. Мёртвая, тупая цішыня, ад якой аж звінела ў вушах...

У мяне кружылася ў галаве, балелі плечы, рукі, а ног дык і зусім нельга было падняць — так пакутліва яны нылі. Стомлена і абыякава я павярнуўся на бок — удалечы нешта чырванела. Падзімаў лёгкі нізавы ветрык, і тады там, дзе была чырвань, успыхваў агонь. Ён звабліва міргаў, выкідваў у чорную цемру жмені залацістых іскраў і маўкліва клікаў ісці да яго.

Я ўстаў... Галава закружылася яшчэ больш, пачало браць нават на ваніты, але я, не цямячы, дзе я і што са мною, усё ж паволі паваloкся на агонь. Густая трава, а потым рослы картаплянік, непадатныя сцяблы жыта блыталіся ў нагах. У цемры я разоў колькі спатыкаўся і падаў. Апіраўся на рукі, уставаў і зноў спакваля крок за крокам мераў поле. Раса вельмі хутка змачыла калашыны маіх палатняных портак, і яны гучна шасталі па лытках. Зябкі халадок сцінаў плечы. Я калаціўся ўвесь, і зубы мае дробна трымцелі.

Узышоў неяк нечакана і адразу ўвесь круглы барвовы месяц, і за мною па полі пацягнуўся цёмны доўгі цень. Цень то выпростваўся, большаў, то смешна гарбацеў, перарываўся, калі я ступаў у якую-небудзь калдобіну ці разору. Сцішана ўкладвала некага спаць перапёлка. «Спаць пара, спаць пара»,— чуўся раз-пораз над полем яе засмяглы, зmoраны голас. Ныў і ныў над вухам камар.

Месяц схаваўся за хмару, зрабілася цёмна. Але ненадоўга — хутка ён вынырнуў зноў — такі ж поўны, круглы і ясны, як быў і хвіліну назад. І цяпер, у блеклым святле месяца, я пазнаў, дзе я: я быў на полі поблізу вёскі — падзеленая парканамі і платамі, уся ў садах, яна няпэўна чарнела ўдалечы. І ўсюды, дзе былі гароды, то там, то тут невялічкімі лапікамі мякка цьмела чырвань... Яна то большала, ярчэла, то зноў патухала.

«Гэта жар...— прыйшла мне ў галаву здагадка.— Жар ад спаленых хлявоў, хат... І дзе лапінка чырвані — там нечае селішча...»

«А дзе ж наша селішча?.. Дзе стаяла тая хата, у якой жыў я, жылі мая маці, бацька, дзед?..»

Вачыма я яшчэ раз акінуў поле, гароды, сады. І позірк мой спыніўся на ліпе, нашай ліпе,— яна высока падымалася над няроўнымі купамі вішняку і яблынь, што, здаецца, спалі ў начной цішы і шэрані. Над ліпаю, над самай яе вяршалінай, перавярнула свой зорны коўш Вялікая Мядзведзіца, нібы ліла з яго нешта, нібы тушыла тыя агні, што ўсё яшчэ час ад часу ўспыхвалі, гарэлі ў цемры, клікалі, каб я ішоў да іх...

Далей у маёй памяці зноў правал, невядомасць. Як я дабраўся да свайго селішча?.. Як зайшоў у двор?.. Што там убачыў?..

Захавалася толькі: я стаю наводдаль у картаплянніку, гляджу на тое месца, дзе яшчэ сёння ўранні чарнеў збуцвелай чаратовай страхою хлеў... І не пазнаю — няўжо гэтае шэрае, укрытае попелам вуголле, абапал якога кураць, дымяць галавешкі і ад якога яшчэ патыхае цяпло, гэтыя дзве высокія абгарэлыя сахі, што, як сашчэпленыя ў кулакі рукі, тырчаць над пажарышчам,— усё, што асталося ад таго прасторнага, зрубленага па-старасвецку, на доўгі век, з моцнага смалістага дрэва, нашага хлява?.. Няўжо тут, дзе цяпер вуголле і попел, была страха і пад тою страхою жавала па начах жвачку нашая перапялясая рахманая Дунька, а маці ўранні і ўвечары даглядала яе, даіла?.. Няўжо тут, пад страхою, быў сенавал і бацька штовосень сюды прывозіў з лугу бахматыя вазы зялёнага, духмянага мурагу, абарачаў іх ля варот, а ўжо мы з дзедам ладавалі, парадкавалі — цягалі віламі і абярэмкамі сена на вышкі, тапталі нагамі, падграбалі граблямі, каб нідзе не згубілася і сянінка... І няўжо гэта сюды на гэты вось пляц, пад сохі, мы насілі ўвосень кашалямі з гародаў бульбу, каб яна прасыхала і можна было яе закопваць на зіму ў капцы?..

Потым, калі я ўспамінаю тую ноч, бачу сябе на дрывотні, пад ліпай. Я сяджу на абцюканай сякерай і ад таго шорсткай калодцы, на якой мы з маці, як пайшоў на вайну бацька, секлі і калолі дровы... У мяне над галавою мігціць зоркамі Вялікая Мядзведзіца, дрыготка і неяк палахліва шамаціць падсохлым ад пажару лісцем ліпа, а збоку, над полем і лесам, ціха і вольна некуды бяжыць, плыве месяц... Шоргаюць і рыпяць, мусіць, ададраныя жывасілам з завесаў, у нечым

двары вароты. Патрэскваюць, сіпяць, дагараючы, галавешкі, штандары. Едкі дым казыча горла...

Я не зводжу вачэй са свае печы, што неяк надта ж адзінока і сіратліва бялее трохі збоку на чорным пажарышчы. Я чамусьці намагаюся ўявіць, як выглядала наша печ да таго, як спалілі вёску немцы, як выглядала наогул уся нашая хата, што ў ёй і дзе стаяла, якія ў нас былі сенцы, падлога, сцены, столь... Уявіць гэта нялёгка, бо ў галаве ў мяне ўсё як у тумане. Адна якая-небудзь згаданая дробязь цягне за сабою другую, тая, у сваю чаргу, яшчэ нейкую, і вось ужо мае думкі пайшлі, павіліся далёка-далёка, у маленства... Але мне цяпер усё роўна, як і што ўспамінаць, мне абы толькі не забыцца, што я ля спаленай сваёй хаты, ля таго, што ў мяне было і чаго ўжо няма і ніколі-ніколі не будзе, абы мне толькі думаць, успамінаць... І я сяджу, успамінаю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Мне пяць ці шэсць год. Я нешта забавіўся на вуліцы, мусіць, загуляўся з дзецьмі, мяне забыліся паклікаць у хату, хоць даўно ўжо змерклася. І я, агледзеўшыся, што мне пара быць дома, бягу сам у свой двор.

У вокнах гарыць святло — жоўтыя прамавугольнікі з чорнымі крыжамі рам сцелюцца проста ў мяне пад нагамі. Я пераскокваю адзін такі прамавугольнік, другі, трэці, узлятаю па прыступках на ганак, дастаю рукою жалезны холад клямкі, націскаю на язычок і з усёй сілы піхаю ад сябе цяжкія дубовыя дзверы... І ў тую ж хвіліну нема крычу — у сенцах, у чорнай непрагляднасці цемры мне здалося, што нехта варухнуўся і, гучна сапучы, пайшоў на мяне...

На мой крык з хаты выбягаюць бацька, маці, дзед. Яны акружаюць мяне, хапаюць на рукі, нясуць у хату, на святло. Задыхана, перабіваючы адзін аднаго, пытаюць, што здарылася, чаму я крычаў...

Я хачу расказаць, што ў нашых сенцах нехта быў, што ён наваліўся на мяне, каб задушыць, але ад страху ў мяне адняло мову, і я, як ні стараюся, не магу вымавіць ні слова...

...З гэтага дня я баюся сенцаў. Яны ў нас вялікія, цёмныя, без аніводнага акна, і калі б я праз іх куды ні ішоў, мне абавязкова ўявіцца, што ў сенцах нехта стаіць і толькі чакае таго моманту, калі я падыду да яго бліжэй, каб можна было мяне схапіць...

Уся наша сям'я смяялася з мяне. Асабліва дзед.

— Ат, якія цяперака страхі,— звычайна абыякава махаў ён вялікаю жылістаю рукою.— От калісь дык і праўда страхі былі...

І дзед пачынаў расказваць... Як у іхнюю камору, што была па другі бок сенцаў, калі дзед быў яшчэ малады, панадзіўся быў хадзіць поначы злодзей. І, каб злавіць злодзея, дзед са сваім бацькам — хай яму лёгкім пухам будзе зямля, цьфу-цьфу! — некалькі ночай не спалі, сядзелі з сякерамі ля дзвярэй, усё пільнавалі, калі падыдзе да каморы ён, той злодзей. Але злодзей быў хітры, ён усё роўна іх абдурваў — кожны раз ён знаходзіў сабе новы лаз у камору, набіраў колькі чаго яму трэба было і гэтак жа ціха, непрыкметна ўцякаў...

А то раней, калі яшчэ і дзеда не было на гэтым свеце, у іхняй каморы пасяліўся быў Страх. Удзень ён спакойна спаў, заваліўшыся недзе ў цёмны кут, а ўночы прачынаўся, шалеў і чаго толькі не вытвараў — гойсаў сюды-туды па каморы, барабаніў у парожнія бочкі, свістаў, рагатаў... Мала таго, дык ён праз комін улазіў у хату і так быў напалохаў усю дзедаву сям'ю, што ніхто не начаваў дома — ледзь толькі змяркалася, бралі з сабою посцілкі, кажухі і сыходзілі спаць да суседзяў... І выгнаць з каморы таго Страха нельга было ніяк. Не памагалі ні замовы знахароў, ні паповы малітвы... Страх нешта гады праз два знік сам, праўда, нарабіўшы напаследак багата шкоды — паламаў абручы на бочках, паабарачаў кадаўбцы, пазрываў падвешаныя да сцен торбы з кілбасамі і салам, вывернуў на падлогу з барыла вёдзер пяць мёду...

У каморы і цяпер стаялі вялізныя, пузатыя, аж пад столь, бочкі, шчані, кадаўбцы. Між імі павукі пазвівалі сабе гнёзды, і нельга было зайсці ў камору, каб не абчапляцца павуціннем. Бочкі, шчані і кадаўбцы асталіся ад той пары, калі дзед быў аднаасобнікам і ўсё сваё збожжа, каб яно не горкла і не прарастала, сушыў на печы і ссыпаў у драўляны самаробны посуд. На кожнае зерне была і асобная, свая пасудзіна. Самая

меншая — на гарох. З гэтай бочкі гарох можна было дастаць стоячы на падлозе. Самая вялікая бочка — пад жыта. Каб набраць з яе зерня, звычайна абвязвалі вяроўкаю пад пахі і апускалі на дно мяне. І я, седзячы ўпацёмку наўколенках, насыпаў, награбаў рукамі і паўміскам колькі трэба было мяшкоў. Потым абкручваў, як мяне вучылі, мяшкі вяроўкамі, і бацька з дзедам выцягвалі іх, бы ўсё роўна са студні ваду. Мяшкі былі вялікія, цяжкія, я не мог іх як мае быць абкруціць вяроўкаю, і аднаго разу мяшок сарваўся і ледзь не да смерці прыдушыў мяне...

З тае восені жыта больш не ссыпалі ў самую вялікую бочку.

Слухаючы часта дзеда, я, між іншым, зазначыў сам сабе, што ўсе страхі, пра якія ён апавядаў, надараліся толькі ў тыя гады, калі камора аж разломвалася ад дабра. З таго ж дня, як бочкі апаражніліся, у камору перасталі наведвацца злодзеі, ніколі не пасяляўся там і Страх. Пра гэта я сказаў дзеду, і дзед, глыбакадумна моршчачы лоб, доўга, цяжка ўздыхаў:

— Што ёй тутака рабіць, той нечысці, у гразі, пяску ды брудзе?.. Яна заўсёды тамака, унучак, дзе багацце, грошы... Гэта ты, хоць малы, а добра прымеціў...

І моўчкі палез на печ...

...Бадай што нічога так не любіў наш дзед, як печ. Яна была ў нас шырокая, амаль на паўхаты, з цёплым высокім прыпечкам і вузкаю цёмнай шыйкай. У шыйцы заўсёды, як я помню, стаяла старое падранае рэшата, дно якога было заслана каравымі анучамі-суконкамі. На гэтых анучах, скруціўшыся ў клубок, штодзень, калі не была галодная, драмала, задаволена мармычучы нешта сабе пад нос, кошка. Там кошка выводзіла і кацянят, бывала, і па два разы на год; там кацяняты і поўзалі, пакуль не вырасталі і іх не разбіралі людзі...

На печы, на чаране, маці ўсё лета сушыла то ягады, то грушы, то яблыкі, то грыбы. Там жа са жніва даходзілі і проса, жыта, ячмень... Для дзеда гэта былі самыя цяжкія, пакутлівыя дні. За зіму і вясну ён так прывыкаў да печы, што нідзе ва ўсёй хаце не знаходзіў сабе месца. Заклаўшы рукі за спіну, сноўдаўся з кута ў кут і ўсё паглядаў на печ... І ўжо калі маці зграбала з печы дабро і падмятала чарэн курыным

крылом, дзед забіраўся на печ і па тыдню, а то і па два не злазіў з яе нават за стол есці...

— Хоць адагрэюся,— шаптаў ён сам сабе.

Любіў дзед яшчэ і плясці лапці, садзіць і даглядаць тытунь. Лапцей у нашай хаце ніхто не насіў, апрача хіба самога дзеда, але ён як бы і не хацеў гэтага ведаць — плёў і плёў, пара за парай, то аб назе мне, то бацьку, то маці, то сабе... І пераканаць, што лапці не трэба нікому, не мог яго ніхто. Кожны вечар я нанізваў цэлую вязку лапцей і насіў на гару, падвешваў іх за кроквы, пад латы. За некалькі год я так завешаў гару лапцямі, што нельга было ступіць па пясочніку кроку, каб не зачапіцца за іх галавою. Маці другі раз не ўцерплівала: сварылася на дзеда — навошта ён, маўляў, мазоліць вочы і пляце тыя лапці. Дзед пасля гэтага дзень-два моўчкі ляжаў на печы, потым, як бы перапрашаючы маці, вінавата апраўдваўся:

— Не магу без работы... Рукі свярбяць, каб нешта рабіць...

І назаўтра зноў ішоў у лес па лыка...

Кідаў плясці лапці дзед толькі вясною, калі зямля дыхала цяплом і людзі пачыналі ўсюды патроху сеяць. Тады і дзед, насунуўшы на галаву аблезлую заечую шапку і падпеіразаўшы лазовым акраўкам кажушок, усё часцей і часцей выходзіў на падворак — зграбаў граблямі з дрывотніка шумавінне, трэскі, падбіраў параскіданыя за зіму дровы, зносіў іх да хлява і акуратненька складаў у паленніцу — ачышчаў сабе пляц пад тытунь. Тытунь дзед садзіў ля самай хаты, на трасочніку, не ленаваўся штодзень па некалькі разоў кожнае каліва паліваць, і тытунь вырастаў сапраўды на дзіва, як лес — высокі, вышэй за мяне, і бучны-бучны. А лісце, што гэта было за лісце! Ні ў кога ва ўсёй вёсцы ніколі не было такога лісця! Адным лістом можна было накрыць, як абрусам, стол, за якім мы ўсёй сям'ёй вячэралі, абедалі і снедалі. Лета-лецейка хадзіў, тупаў, корпаўся дзед ля тытуню — то акопваў яго, то сынкаваў, то абложваў карэнні свіным гноем, а калі тытунь наспяваў, дзед разразаў бадылле зверху да самага кораня нажом — і тытунь яшчэ так дзён колькі вяліўся, жоўк на сонцы. А потым дзед ссякаў яго сякераю, цягаў на гару, развешваў яго там, каб пасля, як падсохне,

абарваць лісты, звязаць іх у ёмкія папушы, папярэдне пераклаўшы кожны ліст нейкай духмянай травою, па якую знарок хадзіў аж у Шапчынскі бор...

Тытунь у дзеда пасля таго, як ён крышыў і замешваў яго, быў такі злосны, што ледзь толькі ён даставаў капшук, каб закурыць, усе ў нашай хаце чыхалі, і на вачах у кожнага нагарталіся слёзы.

Ля печы ў нас быў палок. На палку маці штовечар слала дзеду пасцель, але дзед ніколі на ёй не спаў — усё вылежваўся на чаране, адаграваўся і стагнаў... Усярэдзіне ў яго нешта балела, яшчэ з германскай вайны, калі, як казала мне маці, немцы атруцілі яго газамі. Праз гэта дзед доўга не мог ажаніцца, ніхто за яго, такога хваравітага, не хацеў выходзіць замуж. Выйшла за яго толькі маці маёй маці. Але пражыла яна з дзедам нядоўга — вельмі хутка памерла. Хворасць у дзеда з гадамі не праходзіла. Цяпер ужо ён проста не мог жыць без печы — як толькі злазіў з яе, яго душыў, аж раздзіраў грудзі, кашаль... У сне дзед часта смяяўся і з некім гаварыў — расказваў, як ён хадзіў у штыкавыя і як яго атруцілі немцы газамі. І калі я прачынаўся ўночы і чуў ягоны смех, мне рабілася да жудасці страшна. Я не вытрымліваў і ішоў будзіць маці. Маці не чапала дзеда, не трывожыла яго сну, а мне казала, што гэта дзед смяецца нейкім сваім думкам і што калі чалавек пачынае смяяцца па начах у сне — значыць, ён недаўгавечны, хутка памрэ... І тут жа згадвала, што і тыя дзве мае сястрычкі Людка і Верка, што нарадзіліся былі пасля мяне, перад тым як памерлі, вельмі ж ужо смяяліся ў сне...

— Бывала, падыду да калыскі і рабіць не ведаю што... Адсмяяліся, бедныя, сваё...

Маці прыгартала мяне да сябе, абдымала рукою і, уткнуўшыся тварам у падушку, пачынала плакаць — ёй шкода было тых маленькіх дзетак, што нарадзіліся і так, не пакрасаваўшыся, не пажыўшы, памерлі...

А я, счакаўшы трохі, ішоў зноў у сваю пасцель. Сцішваўся там і нішком ляжаў, дакараў сябе, што не стрымаўся, пабудзіў маці і, не жадаючы таго сам, гэтак расстроіў яе, увёў зноў у плач...

...Людкі я амаль не помню — яна памерла, калі я быў зусім малы...

...У нашай хаце поўна людзей. І ўсе чамусьці падыходзяць да лавы, дзе, абкладзеная кветкамі, ціхенька ляжыць Людка. На вачах у маці слёзы. Бацька стаіць у парозе і нешта гаворыць дзеду... Я — на печы. Сяджу і з-за коміна пазіраю, што робіцца ў нашай хаце... І нічога не разумею... Але вось людзі ўносяць з двара даўгаватую, збітую з абгабляваных дошак скрыню, кладуць туды Людку і моўчкі выходзяць з хаты. Дома астаёмся дзед ды я. І толькі цяпер я заўважаю, якая вялікая і няўтульная ў нас хата. І што здарылася з Людкаю, куды яе панеслі?.. Я пачынаю хныкаць, клікаць маці... Дзед бярэ мяне на рукі, ссаджвае з чарана. Адстаўляе ўбок засланку і віламі дастае з печы вялізны, чорны ад сажы і копаці чыгун. Налівае ў міску капусты і ладзіцца карміць мяне драўлянай лыжкай, якая не лезе мне ў рот...

У хату вяртаюцца бацька, маці, зноў чужыя людзі... Ужо без Людкі. Садзяцца за састаўленыя ўпрытык сталы, п'юць гарэлку, закусваюць і не-не дый успамінаюць Людку...

Я ў маці на каленях. Слухаю, намагаючыся даўмецца, пра што гамоняць між сабою людзі, і зноў бачу, як цякуць у маці з вачэй слёзы... Яна асцярожна, мусіць, каб менеи хто бачыў, выцірае іх ражком хусткі і глядзіць кудысьці ў кут, паўз бацьку, які налівае сабе нешта мутнаватае ў чарку і моўчкі, ні з кім не чокаючыся, п'е...

...Бацька мой усе гады рабіў у лесе — то прымаў дровы, што прыязджалі з другіх сёл рэзаць людзі, то быў нейкім начальнікам над тымі вясёлымі рагатунамі-хлопцамі, што рвалі кожнае лета ў нашым лесе смаловыя пні. Дома ён амаль не стыкаўся, рэдка бачыў я яго нават у нядзелю. З лесу ён вяртаўся позна, калі я ўжо засынаў, і выпраўляўся зноў у лес, калі я яшчэ не прачынаўся. Быў бацька заўсёды хмуры, больш маўчаў, чым гаварыў. Маці ў нечым яго часта папракала, і бацька тады сарамліва ўсміхаўся, гледзячы на маці. А часам ні то сварыўся, ні то прасіў:

— Ды кінь ты абуля-што плявузгаць, людзей пасаромейся!..

Маці выходзіла з хаты і, схаваўшыся дзе-небудзь у цёмны куток сенцаў, плакала. Калі ў такія хвіліны я

падыходзіў да яе і пытаўся, чаго яна плача, маці гладзіла мяне рукою па галаве і гаварыла, што яна расказала б мне пра ўсё, але я яшчэ малы і ўсё роўна нічога не зразумею. Я айкаў, прасіў расказаць, і тады маці злавалася...

Пасля ўжо, трохі з матчыных папрокаў, а трохі і са слоў бацькі, я здагадаўся, чаго так часта плакала ў тыя гады маці: у той канторы, ад якой працаваў бацька ў лесе, сядзела вельмі прыгожанькая жанчынка, удава, і маці, пэўна, раўнавала да яе бацьку. На гэта ў маці былі сякія-такія прычыны — бацька ішоў з лесу не дадому, а ў кантору, каб, як ён апраўдваўся, здаць зводку...

Калі мы праводзілі бацьку на вайну, ішла недзе ў натоўпе жанок і тая, як маці называла, канторшчыца. Але бацька нават не глянуў ні разу на яе — ён ішоў, трымаючы на адной руцэ Верку, а другой вёў за руку мяне. І ўсё паўтараў адно і тое ж да маці, што плялася трохі ззаду, за намі:

— Ну, ты, Мар'я, глядзі: вайна вайною, а людзі, тым часам, і ў вайну жывуць... Рук не апускай вельмі, калі... гму-гму...— гмыкаў бацька, нешта не дагаворваючы.— Дзяцей глядзі, хай растуць... Падгадуеш — помач будзе... А я, тым часам, не прападу — як усе, так і я... Ды цялічку прырэж, хай дзеці з'ядзяць... А захаладае — і парсючка закалі... Не шкадуй, вайна скончыцца — купім...

А маці плакала. Так плакала, што калі, абняўшыся і пацалаваўшыся апошні раз, бацька, раз-пораз азіраючыся і махаючы нам на развітанне шапкаю, пабег даганяць мужчын, што купкаю аддаляліся на шлях у мястэчка, упала проста ў пясок і ляжала доўга-доўга — ірвала на сабе валасы, прычытала:

— І пажылі ж мы з табою, Міхалёк, так мала-а... І так пагана!.. І я гэта, я ва ўсім вінаватая!..

Мы з Веркаю сядзелі ля маці, глядзелі на яе і таксама румзалі...

...Верка памерла ў вайну. Памерла, як казала маці, з перапалоху. Уваліліся неяк узімку ў нашу хату паліцаі, п'яныя, як гразь. Нейкі незнаёмы дзядзька, калючы, барадаты, убачыўшы Верку — мы з ёю сядзелі на

печы,— палез да нас, схапіў Верку на рукі, пачаў падкідаць. Верка ў крык, а паліцай — рагатаць...

Пайшлі паліцаі з хаты, а Верка так і не перастала крычаць... Увечары падкінулася гарачка, ды такая, што Верка ляжала ў калысцы, уставіўшыся нерухома ў столь, і толькі раз-пораз аблізвала засмяглыя, перасохлыя губкі. Маці наварыла чарніц і ўсю ноч ліла ягадны ўзвар чайнаю лыжачкай ёй у рот. Можа ад таго ўзвару ў Веркі, калі яна на світанні апошні раз усхліпнула і ўжо навечна заціхла, і былі чорненькія губкі. Сама беленькая, як снег, а губкі чорненькія...

Як хавалі Верку, я хадзіў разам з маці на могілкі, хоць і холадна было вельмі на дварэ: вераб'і, казалі, на ляту замярзалі. І дзе магілка яе — добра запомніў: пад раскідзістым кустом акацыі, поблізу старой, панурай хвоі...

...Потым, пад восень, памёр і дзед... Увечары павячэраў разам з намі за сталом, пабедаваў, што не мае сілы, а то б пайшоў у лес, каб біць погань — так ён называў паліцаяў і немцаў,— і палез на печ спаць...

А ўранні, калі мы ўсталі з пасцелі, знайшлі яго ўжо нежывога, халоднага...

Пахавалі яго на могілках, там, дзе ён і прасіў,— пад маладою, гонкаю бярозкаю на пагорку, каб, як ён казаў, і з таго свету відны былі яму поле і тая ліпа, што расла ў нашым двары...

...Пасля Верчынай і дзедавай смерці маці не пускала мяне ні на крок ад сябе. Куды ішла сама, туды вяла і мяне. І ўсё напаміначала, напамінала, каб я нікуды не адлучаўся з дому.

— А то прыедуць немцы, а цябе нямашака. Будзеш ісці дадому, то яны, злыдні, схопяць, як дзядзьку Хведара, ды застрэляць... З кім жа я астануся тады? Што бацьку скажу, як з вайны вернецца?..

Пускала яна аднаго мяне хіба толькі ў Замошкі, каб занёс цётцы Лісавеце малака. І то раніцою, калі ў вёсцы было ціха і пагаласкі не было, што ўдзень прыедуць немцы... Але ішло гэта зноў жа не ад раскошы — без той гладышкі малака, што я насіў як не штодзень у Замошкі, цётка немаведама чым карміла б Уладзіка...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што я думаў, пра што яшчэ ўспамінаў у тую ноч ля папялішча роднай дамоўкі?.. А можа, і наогул нічога я не думаў, нічога не ўспамінаў, проста сядзеў, агаломшаны, прыбіты горам, што так нечакана ўсім сваім цяжарам звалілася на мяне. І гэта, як цяпер я згадваю, было верагодней за ўсё... Я сядзеў на дрывотніку і, помню, не зводзіў вачэй з таго, што асталося пасля пажару ад нашае хаты, ад усяго зялёнага, такога звыклага змалку селішча... Крокаў за дзесяць ад мяне зеўрала не закрытая засланкай, уся абкуродымленая, з абваленым комінам і праламаным чаранам, нейкая надта ж голая, як бы раздзетая, а таму і страшная ў святле месяца печ... Печ, якая ратавала столькі зім нас усіх ад холаду, печ, дзе ляжаў, не злазячы тыднямі, пакуль не памёр, дзед, печ, у якой уранні і ўвечары столькі год варыла есці маці... На чаране дыміць, звісаючы аж да самага прыпечка, кавалак абгарэлай бэлькі. Побач з бэлькаю чарнеюць дзве тоўстыя, абвугленыя дошкі, відаць, са столі... Адна кроквіна ўпала ў гародчык, другая распасцерлася аж пад ліпай — як апынулася яна там, хто яе туды закінуў ці зацягнуў?.. Няўжо звалілася сама з хаты?.. Ганак амаль цэлы, толькі абгарэла плашка, што ля сцяны. А так можна ступаць на яго хоць цяпер, можна ісці... Куды ісці?.. У сенцы?.. Але ж сянец няма. Там, дзе былі яны, патрэскваюць, дагараючы, галавешкі. Галавешкі параскіданы і так усюды, па ўсім двары: яны кураюць на прызбе, у гародчыку, у бульбе... Асабліва многа іх на вуглах — там яны час ад часу ўспыхваюць чырвоным полымем, выкідваюць разам з агнём угору пучкі зыркіх, міргатлівых іскраў... Сцелецца, паўзе, бы сляпы, нейкі надта ж слухмяны, падатлівы, хоць вазьмі ды пагладзь яго рукою, дым — агонь дабраўся да набраклых вадою за доўгае ляжанне ў зямлі падвалін, штандараў... Вусцішна шуміць сухім лісцем ліпа — няўжо агонь шугаў аж туды, у самае яе голле?.. І тут бачу, што і картаплянік у нашым двары звяў і зжалеў, зжалеў і агурэчнік на градах, гарбузнік... Пажоўклі і кусты агрэсту...

Божа мой, што нарабіў пажар!.. Я аглядаю селішча і яшчэ больш жахаюся — агнём прыхапіла і адзін бок яблыні, што расла ў гародчыку ля хаты, самай лепшай нашай яблыні, бо радзіла яна год у год і яблыкі на ёй

былі вялікія і ўжо са жніва салодкія, як мёд. Агнём прыхапіла і сліву, і грушу... А вішні, што кусціліся ля плота, і зусім пагарэлі. Згарэлі і весніцы, вароты, платы... Стаяць толькі дзе-нідзе абвугленыя, бы знарок паўтыканыя, слупы, чорныя дубовыя шулы...

«Няўжо так спапялілі немцы ўсю вёску, нідзе нічога не пакінулі?.. Ці гэта толькі адных нас, адно наша селішча?..»

Я ўстаю з калодкі і, паволі перастаўляючы ногі, іду на вуліцу...

Месяц падняўся, ён плыў ужо над вёскаю — вялікі, чысты і такі ясны, што на ім відаць былі тыя браты, пра якіх расказваў мне дзед: пасварыўшыся, яны пачалі біцца між сабою і адзін у гневе праткнуў віламі другога і падняў над сабою. Што яму трэба было, месяцу?.. Хацеў і ён паглядзець, гэтак жа, як і я, што асталося пасля пажару ад нашае вёскі, ці ён наважыўся нечым супакоіць мяне, суцешыць — маўляў, несправядлівасць і гора былі на зямлі заўсёды, і вінаватых вельмі жорстка карае бог. Так, як пакараў тых братоў, што асмеліліся паднімаць адзін на аднаго вілы,— за гэта бог закінуў іх аж на месяц і прымусіў быць там вечна: каб бачылі ўсе, што рабіць так, як зрабілі гэтыя браты, няможна... Ва ўсякім разе, з таго моманту, як я ўвайшоў у вёску, месяц не пакідаў мяне ні на хвіліну, усё плыў і плыў за мною, усё зырыў і зырыў сваё вока, асвятляў і асвятляў папялішчы. А можа ён і сам разглядаў тыя галавешкі, што пакінулі на месцы вёскі немцы, каб расказаць некаму невядомаму пасля, што прыносіць людзям вайна?..

Усё гэтак жа дакучліва, наганяючы жуду, рыпелі ржавымі завесамі вароты. Пах гарэлага драў, пяршыў у горле, ад яго аж схлуплівала дыханне. І адусюль поўз, выгінаўся, лез у вочы дым... Дым... Дым... Дым... Дым па ўсёй вёсцы, з канца ў канец. Едкі, вяртлявы, густы... Бы ўсё роўна на ўсяночную, перад вялікаднем, калі людзі выграбаюць на вуліцу са сваіх двароў трэскі, шумавінне і падпальваюць іх. А самі сядзяць зводдалі на лавачках і чаго толькі не расказваюць, чаго не ўспамінаюць... Цяпер жа — хоць бы дзе чалавечы голас, хоць бы адна жывая душа. Нідзе нікога. Ціхата. Ціхата і спакой. Як на могілках. Толькі ўсюды, па абО-

два бакі вуліцы, закураныя, разваленыя печы, чорныя, абсмаленыя ствалы груш і яблынь, чырвоныя ад жару папялішчы...

«А людзі, дзе ж людзі?..— прыходзіць раптам мне ў галаву.— Дзе мая маці? Што немцы зрабілі з ёю, з усімі людзьмі вёскі?..»

Страшны людскі крык, той крык, што чуў я там, ля кружка лазы, зноў скаланае мяне.

«Яны пастралялі людзей... Застрэлілі маю маці. Застрэлілі ўсіх, каго засталі ў той ранак дома...»

«...Але ж калі немцы пастралялі людзей, то яны недзе павінны ляжаць забітыя... Немцы, пэўна, не закапалі іх...» — уюцца, плывуць думкі. І я іду і іду па вёсцы, мераю і мераю крокамі вуліцу, грабуся і грабуся па пяску...

Вось ужо я мінуў тое месца, дзе бялеў новым гонтавым верхам клуб, дзе вытыркаўся аж на вуліцу адным вуглом магазін, дзе было праўленне калгаса... Далей вёска нешырокай вулачкай выходзіць у поле і там, ля сажалкі, канчаецца...

Я зварачаю ў гэтую вулачку. Людзей — ні жывых, ні мёртвых — нідзе няма.

«А можа немцы іх не пазабівалі?.. Можа пагналі дзе?.. Казалі ж, што некаторых яны гоняць у Нямеччыну, на работы... А што стралялі, дык маглі і так чаго страляць... Не канечне ж у людзей...»

«Але тады чаму так нема крычалі людзі?.. Не адзін, не два чалавекі, а многа-многа людзей?..»

Думкі ўзнікаюць, таўкуцца ў мяне ў галаве, хочуць, каб я ўсё ім сказаў. А я не магу нічога сказаць, бо нічога не ведаю... Іду і іду, бы здань, па пустэльнай, бязлюднай вуліцы і толькі да ўсяго прыглядаюся, прыслухоўваюся, сілюся ўцяміць, даўмецца, што зрабілі з маёю маці, з усімі нашымі людзьмі немцы...

Што гэта? Нейкі сіплы сабачы голас, брэх?.. Ці гэта мне падалося?..

Я спыняюся, прыслухоўваюся. І праўда — недзе непадалёку, у полі, брэша сабака. Нават не брэша, а хутчэй за ўсё вые. Вые жаласліва, працяжна:

— Га-о-во-во-во-ў!..

Яшчэ праз нейкі час я здагадваюся: сабака вые не

проста ў чыстым полі, а там, дзе была наша школа, дзе быў млын...

Па сцежцы, што няпэўна шарэла ў святле месяца, я пакіраваўся па людскіх гародах на сабачы брэх.

Глухая, мёртвая цішыня ляжала над полем. Усё спала, усё адпачывала пасля доўгага, небывалага ў тутэйшых мясцінах летняга дня і толькі час ад часу нібы ўздыхала — неба, зямля, дрэвы, што вялізнымі чорнымі стагамі ўзвышаліся то тут, то там на ўзмежках.

Але дзіўна — цішыня гэтая мяне не супакойвала. Наадварот, чым бліжэй я падыходзіў да школы, тым усё больш і больш агартала мяне нейкая няўцямная, шчымлівая трывога, страх.

Не заўважыў, як збіўся са сцежкі, зноў папраставаў па полі. Рослы, ядраны картаплянік зноў блытаўся ў нагах, я чапляўся за яго і падаў... Уставаў і зноў ішоў...

Сабака ўсё выў. Не, нават не выў, а скавытаў, скавытаў ціха, расцяжна, бы ўсё роўна галасіў, некага аплакваў. Мёртвы холад скрабануў мяне па сэрцы.

«Чаго ён вые, чаго скуголіць?..»

Я ішоў, а ногі не слухаліся мяне. Падгіналіся ў каленях, нямелі. І тады мне раптам, як ніколі яшчэ ранней, захацелася ўпасці на зямлю, у росны картаплянік, прыкрыць рукамі вочы і заліцца слязьмі. Але я мусьці не зрабіў гэта — ступаў і ступаў усё далей і далей...

Месяц заплыў яшчэ вышэй і як бы на хвіліну прыпыніўся, застыў у самым пуку неба.

Маўчанне панавала ў наваколлі. Усё прытаілася і, здавалася, сцята слухала разам са мною скавытанне сабакі, што выліваў і выліваў у роспачы сваё гора...

Потым я ўбачыў і самога сабаку — ён сядзеў, падцяўшы пад сябе хвост, на вяршку вялікай прышкольнай клумбы, крокаў за дзесяць ад папялішча, якое тлела яшчэ жарам, чорны, нібы выразаны з кардону, і, выцягнуўшы ўгору галаву, выў, скуголіў. Па правы бок ад сабакі, за густымі кустамі акацыі, нешта чырванела. Вялізнае, круглае, нібыта з-пад зямлі выкатвалася сонца.

«Ды гэта ж камяні ад млына...— здагадаўся я, падышоўшы бліжэй.— Гэта яны нагрэліся, распаліліся так ад пажару...»

І новая, другая думка пранізала мяне:

«Чаго менавіта тут вые сабака?..»

Цяжкі пах — ці то чагосьці гарэлага, ці то гнілога — ішоў ад школы, казытаў у носе, схупліваў дыханне. Я не зводзіў вачэй з сабакі і зусім забыўся глядзець сабе пад ногі. Мусіць, таму, знячэўку зачапіўшыся за нешта мяккае, я паваліўся ў картаплянік. Падняўшыся, сеў на калені.

Азірнуўся. І спалохаўся — у картапляніку ляжаў чалавек.

«Чаго ён тут ляжыць?..»

Дакрануўся да чалавека рукою — ён быў халодны.

«Мёртвы?.. Хто ён?..»

Павярнуў чалавека тварам да сябе. Нерухомыя, ашклелыя вочы блііснулі ў святле месяца страшнай таямнічасцю і як бы ў нечым мяне папікнулі, як бы нечага папрасілі. У чалавеку я пазнаў Астапа Гусака, таго дзядзьку Астапа, што ўзімку паліў у школе грубкі, а ўлетку вартаваў калгасныя гароды і ганяўся за намі, дзецьмі, калі мы падпаўзалі блізка да град...

«Хто яго тут забіў...»

Я падняўся на ногі і толькі тады адчуў на руцэ нешта халоднае, ліпкае. Паднёс да вачэй руку — на далоні была кроў. Густая, чорная. Сцепануўшыся, я ліхаманкава абцёр руку аб калашыну штаноў, потым нагнуўся, пачаў абмываць аб росны картаплянік. І колькі ні абмываў, усё мне здавалася, што рука мая ў крыві... Чалавечай, Астапавай крыві...

Калі ж нарэшце я выпрастаўся, каб ісці далей, убачыў, як збягае з клумбы сабака. Збягае і шыбуе, уцякае некуды ўбок, пад лес.

Сабака быў мне незнаёмы, мусіць, не з нашага канца вёскі. Але я ўсё ж не стрымаўся, свіснуў на ўсякі выпадак:

— Ф'ю, ф'ю.

Потым паманіў:

— Цю-цёў, цю-цёў!

Сабака спыніўся, павярнуў да мяне галаву і яшчэ шпарчэй прыпусціў прэч, у жыта, што цямнела адразу ж за школай.

Я абкружыў зводдалі пажарышча, якое надта ж дыміла і чадзела, падняўся на клумбу, дзе толькі што выў сабака, і... у тую ж хвіліну падаўся назад... З пажа-

рышча, дзе міргаў, успыхваў час ад часу агонь, глядзеў на мяне чорнымі дзіркамі вачніц белы чалавечы чэрап...

І зноў у маёй памяці невядомасць, правал... Куды я пабег? Дзе быў?.. Што рабіў?..

Ужо світала, калі я зноў падыходзіў да школы. Палахлівае ранішняе святло цадзілася на зямлю спакваля, адганяючы далей на захад, за лес, цемру, начныя суцінкі. Месяц неяк адразу ж змізарнеў, зрабіўся бледны і кволы — яго амаль не відаць было ў небе, якое проста ўвачавідкі празрысцела, шырэла, а на ўсходзе ўжо дзе-нідзе і ўсміхалася, палавела яркаю барвай.

Сабака сядзеў на клумбе. Толькі цяпер ён быў не чорны, як гэта падалося мне ўночы, а руды, з залацістым адлівам. І ўжо не выў, а ціха-ціха цахлеў.

Пачуўшы мае крокі, сабака збег з клумбы. Доўгім, уважлівым позіркам, нібы хацеў скеміць, хто я, аглядзеў мяне. І зноў засемяніў у жыта, сівое ад буйнай расы і зябкай перадранішняй золі.

Камяні ад млына трохі, мусіць, астылі, бо ўжо не чырванелі гэтак, як уночы, а ружовіліся, бялелі. Агонь атухаў і на пажарышчы, там, дзе стаяла яшчэ ўчора ўранні школа. Дыміла вельмі толькі на ганку, дзе быў уваход у калідор.

Я паволі падыходзіў бліжэй і бліжэй да пажарышча, і страшная здагадка працінала мяне...

«Няўжо праўда тое, пра што я думаю, што адчуваю?..»

Я амаль верыў, што не памыляюся, што ўсё, пра што думаю, праўда, і ўсё роўна ўсяляк адганяў прэч ад сябе свае думкі, сваё адчуванне, а яно, як на тое, расло, падымалася аднекуль з глыбіні душы, і стрымаць яго я быў ужо не ў змозе. Яно раптам вынырнула і апякло мяне — *яны спалілі людзей у школе... І маці маю таксама спалілі. Спалілі ўсіх, хто быў дома, хто нікуды не паспеў схавацца, уцячы... Таму і чадзіць так, нясе ад пажарышча незразумелым пахам, таму і выў гэтак жаласліва тут сабака... А той чалавек, Астап, якога я знайшоў у картапляніку, мусіць, уцякаў са школы, і яго забілі. Ён ляжыць там, дзе напаткала яго куля, смерць...*

Я ішоў і баяўся, што тое, што неўзабаве ўбачу,—

пацвердзіць маю здагадку і яна перастане быць здагадкай, перастане быць толькі маім прадчуваннем, а стане страшнай, жахлівай рэальнасцю, недарэчнай і сумнай праўдай...

Крок... Яшчэ крок...

Дым схлуплівае мне грудзі, не дае дыхаць. Хвіліну-другую я стаю, адкашліваюся і гляджу на свае папэпаныя, збітыя, абадраныя і мокрыя ад расы ногі, усё не асмельваюся ніяк падняць ад зямлі вочы, зірнуць на пажарышча. Потым раптам палахліва, але рашуча ўскідваю вочы...

І зноў з усіх ног бягу прэч ад школы... Бягу, а ў скронях б'е, пульсуе, аж звініць кроў — *гэта праўда, усё праўда, што я думаў... Яны спалілі людзей у школе... І маці маю таксама спалілі... Спалілі ўсіх, хто быў дома, хто нікуды не паспеў схавацца, уцячы... Таму і чадзіць так, нясе ад пажарышча цяжкім, незразумелым пахам... Таму і выў гэтак жаласліва тут сабака...*

Далей, калі я ўспамінаю тое, што давялося тады перажыць, бачу сябе зноў на дрывотніку, ля папялішча сваёй хаты, на той пасечанай, абцюканай сякерамі і ад таго шорсткай калодцы, на якой мы з маці, як пайшоў на вайну бацька, калолі дровы і на якой я сядзеў надоечы. Проста ў вочы мне свеціць, аж сляпіць, зыркае ранішняе сонца, і ад яго цяпла патроху адыходзяць здранцвелыя, закляклыя ад начной хады і золі мае ногі, рукі, плечы, сохнуць абрасяненыя вышэй калень калашыны абшалюханых, заплямленых у гразь і зеляніну палатняных штаноў — ад іх аж падымаецца, злёгку струменіць угору пара...

Я павяртаюся так, каб сонца пякло мне не ў вочы, а ў спіну, і зноў бачу чорнае, абвугленае пажарышча, печ, пажоўклую націну картапляніку, гуркоў, гарбузоў... Толькі цяпер, у гуллівых праменнях сонца, усё выглядае куды жахлівей, чым уночы... Святло, дзень як бы агалілі ва ўсёй непрыхаванай жудасці тое, што нарабіў на нашым селішчы ўчора разгул смерці і полымя — дзікі шал агню. Можа б і не было той жудасці, страху, калі б я не ведаў, які быў наш падворак да пажару, дзé тут і што стаяла, дзе што расло, цвіло... А то ж куды ні паглядзі — бачыш не тое, што было, а зусім іншае... Таго ж, што было, няма. Няма і ніколі ўжо не

будзе... На абгарэлай штыкецціне загарадкі, што адным сваім канцом уткнулася ў зямлю, а другім усё яшчэ ліпіць, трымаецца на цвіку за слуп, вісіць абсыпаная гарай і попелам даёнка. Побач з ёю — парудзелая ад часу і малака цадзілка... І я згадваю, што маці заўсёды, падаіўшы карову, вешала цадзілку і даёнку на плот, каб яны сохлі... Пад плотам, ля карыта, у якім маці карміла, пакуль іх не пазабіралі партызаны, свінней — лапавухую, падгалую, вечна ненаедную свінню і беленькага, кругленькага парсючка (яго маці так і не рашылася калоць, хоць бацька і наказваў ёй зрабіць гэта, як ішоў на фронт),— ляжыць абкоранае грабільна і некалькі неабструганых стаўпцоў — гэта дзед некалі збіраўся майстраваць на пакос граблі, ды так і не зрабіў іх, памёр... У сенцах — якіх сенцах, сенцаў жа няма, проста на пажарышчы — з вуголля вытыркаецца вушка капаніцы... Той капаніцы, якой яшчэ пазаўчора маці акопвала бульбу... А як прыйшла з гарода, сказала мне... Чакай, што ж яна сказала?.. Ага, каб я збегаў да каго ў хату і прынёс на распал у чарапку жару... І калі ў нашай печы зашугалі дровы, прыставіла варыцца чыгунок салонікаў... Але тых салонікаў я нават не пакаштаваў — я панёс цётцы Лісавеце малако...

Я перавёў вочы на печ і ў першую хвіліну не паверыў сабе — на загнетцы, куды маці звычайна выграбала вуголле, стаяў накрыты скавародкай чыгунок, той чыгунок, у якім маці варыла на вячэру бульбу...

Асцярожна, каб не папячы ног,— папялішча было яшчэ гарачае, сям-там нават чырванеў жар, асабліва там, дзе былі сцены і вуглы,— я даскакаў да печы. Зняў з чыгунка скавародку — салонікі як зварыліся, так і стаялі нечапаныя. Праўда, вады ў чыгунку не было — ці маці адцадзіла яе, ці яна высмягла, высахла, як гарэла хата. А так усё як мае быць, нават ні адзін гарэлік не кратаны матчынай рукой.

«Яна не ела салонікаў...»

Любасць і замілаванне да маці агарнулі мяне. Я стаяў ля печы, глядзеў на белую разварыстую бульбу, якая нават праз суткі не пачарнела, а бачыў перад сабою маці... Вось яна сядзіць на ўслончыку ля паліцы, басая, у сінім квятастым плацці, і лупіць бульбу... Перад ёю, на падлозе, кашэль, куды падаюць з-пад яе рук

лушпайкі, і вялікая белая паліваная міса, куды маці акуратна кладзе, каб не ляцелі на хату пырскі, аблупленую бульбу... Бульба ў маці і лупленая кругленькая, як яечкі, і чысценькая-чысценькая. Не тое, зусім не тое, што ў мяне. У мяне аблупленая бульба вуглаватая і брудная-брудная, абмусоленая рукамі... Маці нейкая асабліва засяроджаная, задуменная і ціхая, маўклівая... Чаму? Ці натамілася, цэлы дзень хакаючы капаніцай, ці пачула нешта нядобрае і не хоча сказаць пра тое мне?.. Потым яна падымае на мяне вочы, цёмныя, журботныя, і кажа, каб я збегаў да каго-небудзь і прынёс у чарапку жару...

«І гэта ўсё... Гэта апошняе, што загадвала мне рабіць маці... Пашукаць жару і занесці цётцы Лісавеце малако...»

Я накрыў чыгунок скавародкаю, пайшоў зноў на дрывотнік. Сеў на калодку, на якой толькі што сядзеў.

«Чаму маці не вячэрала?.. Чакала, калі я вярнуся з Замошак? Але ж яна сказала, каб я не вяртаўся ўвечары дадому, а начаваў у цёткі Лісаветы?..»

Прыгадаў, як ішла ўслед за мною на гарод маці, калі я выпраўляўся з дому, як стаяла яна ля хлява і ўсё махала, махала мне рукою...

«Няўжо яна што ведала?.. А можа прадчувала, што бачымся мы ў той вечар апошні раз?..»

І апусціў галаву — успаміны зноў бясконцым, балючым сном нахлынулі на мяне...

...Вялізны, як ахапіць вокам, луг, што аж стракаціць, пераліваецца ўвесь ад красак — сініх, блакітных, жоўтых, чырвоных, белых... Высокае, па-летняму чыстае неба — па ім толькі зрэдку, сяды-тады над лесам, што цьмяна сінее на даляглядзе, праплываюць лёгкія, купчаста-дымныя сухмаркі... Свеціць, пячэ сонца.

Вузкая, выгінастая сцежачка, якая, калі на яе ступаеш босымі нагамі, дурасліва пырскае між пальцаў халаднаватай вадой, уецца па высокай, густой траве. І па гэтай сцежцы ідзём некуды мы — бацька, маці, дзед і я. Куды, чаго — я не ведаю. Дый не вельмі хачу ведаць. Я і так бязмежна рад, што мяне не пакінулі і сёння дома глядзець хату, а ўзялі з сабою. І я, часта перабіраючы нагамі, бягу паперадзе ўсіх, стараюся.

каб бачылі, які я вялікі і пруткі і што я нізавошта ўжо не адстану ад дарослых, не падаб'ю ў дарозе ног, не стамлюся.

Сцежачка выводзіць нас да вілястай, даволі шырокай на перамеле рачулкі. Вада пераліваецца, блішчыць на сонцы і ціха шалпоча ў чаратовых берагах і лазняку, нібы ўздыхае. Крумкаюць раз-пораз жабы, кігічуць кнігаўкі. Гудзе, ные камарэча. Бацька і дзед разуваюцца, падкасваюць вышэй калень калашыны штаноў. Маці бярэцца за спадніцу, і ўсе гуртам, высока падымаючы ногі, цыбаюць па вадзе. А я стаю і не ведаю, што рабіць — ісці ў ваду ці прасіць, каб мяне перанеслі цераз рачулку на руках.

— Тутака мелка,— кажа, павярнуўшыся да мяне тварам, бацька.— Не бойся!

Але яго словы мяне мала супакойваюць, бо я ведаю, што ў вадзе, якая б яна мелкая ні была, плаваюць п'яўкі і жабы, а я баюся іх страшэнна, да смерці. І ў гэтым я нікому-нікому не прызнаюся. Нават маці і бацьку.

Бацька, стоячы ў вадзе, пасміхаецца ў свае пышныя пшанічныя вусы, сарамаціць мяне:

— Эх ты, а шчэ ў школу збіраешся...

Што праўда, то праўда. У школу я збіраюся. З самай вясны. Ужо ў мяне ёсць нават кніжка, якая завецца буквар і ў якой чаго толькі не намалёвана — і ягады, і гарбузы, і мак, і морква, і капуста, і нейкія незнаёмыя дзядзькі, цёткі.. Эх, каб гэта можна было, я гартаў бы той буквар і дзень і ноч, дзень і ноч разглядаў бы тое, што там намалёвана... Ды маці кажа, што, калі я часта буду гартаць буквар, ён падзярэцца. «Прыйдзеш у школу, ва ўсіх новыя будуць буквары, а ў цябе ў аднаго — стары... Настаўнік возьме дый выганіць цябе са школы, скажа, што ты мурза...» Я, вядома, не хачу, каб мяне праганяў са школы настаўнік, бо тады зноў нельга будзе гартаць буквар, нельга будзе чапляць цераз плячо тую скураную сумку, што купіў мне бацька, абуваць чаравікі, што прынесла аднекуль аж з мястэчка маці,—яны, тыя чаравікі, навенькія, чорненькія, вісяць на шнурочках на шастку проста над маёй пасцеллю, і я кожны вечар, лежачы пад коўдраю, чую, як прыемна яны пахнуць, і, пакуль не засну, думаю пра той дзень,

калі я абую іх і — рып-рып, рып-рып — пайду ў школу...

І пры напамінку пра школу я зажмурваю вочы і смела — дзе там смела, у мяне аж халодае сэрца ад страху! — ступаю ўслед за бацькам у ваду...

...У нашу школу прыехаў новы настаўнік. Мы, вучні, бегаем, таўчомся ля хаты старое Уласіхі, дзе спыніўся на кватэры настаўнік, і пытаемся адзін у аднаго, які той новы настаўнік,— стары ці малады, злосны ці добры.

Потым, усяго праз які дзень, настаўнік — цяпер мы бачым, што ён малады, зусім хлопец,— заходзіць у наш клас.

— Мяне зваць...— ціха кажа ён, кладучы на стол класны журнал, і чамусьці не дагаворвае, усміхаецца шырока-шырока, так шырока, што нам усім відзён блішчасты залаты зуб у яго роце.— Завіце мяне,— праз хвіліну папраўляецца ён,— Пятром Анісімавічам...

...Мінае восень, зіма, і я чую, што цётка Лісавета, якая жыве ў нашай сям'і і таксама вучыць дзяцей у школе, толькі не нас, а першагодак, выходзіць замуж за Пятра Анісімавіча і што яны пераязджаюць жыць у Замошкі...

...Зіма. Ноч.

...Я прахапляюся ад сцішанай, прытоенай гамонкі. Шэпчацца з некім мая маці...

«З кім? — доўга ніяк не магу даўмецца я. Голас такі густы, мужчынскі і, здаецца, знаёмы...— Дзе, дзе я чуў гэты голас? І калі?..»

— Дык ты, Мар'я, ужо глядзі... Не забывайся на Лісавету...— далятаюць да мяне словы, і цяпер я пазнаю ўжо, што гаворыць, шэпчацца ў нашай хаце з маёю мамай Пятро Анісімавіч, колішні наш настаўнік, Лісавецін муж...

«Адкуль ён узяўся?.. Ён жа пайшоў разам з маім бацькам, з усімі мужчынамі на фронт?» — думаю я.

— Ды будзем ужо неяк мірыцца,— кажа тым часам мая маці.— Хай яно толькі народзіцца, тое дзіця...

— Я не прасіў бы цябе пра гэта загадзя,— гудзе зноў голас Пятра Анісімавіча.— Але сама ведаеш, час які... Ідзеш у вёску і не ведаеш, ці вернешся назад, у

лес... Паліцаяў наставілі, старастаў розных... Дый пакідаем мы скора надаўга свой лес...

— Пакідаеце? А мы то як жа без вас жыцьмем? — уздыхае маці.— Так смялей усё ж было, ведалі, што калі што — абароніце, свая ўласць пад бокам...

— Нічога не зробіш...— разважліва цягне сваё Пятро Анісімавіч.— Так трэба... А ўласць наша тут была і будзе, ніякая нямецкая сволач яе не заменіць...

Маці яшчэ хвілін колькі шэпчацца пра нешта з Пятром Анісімавічам, але так ціха, што я не магу разабраць нічога, апроч асобных слоў. Пасля яны ідуць у сенцы — чуваць, як маці спачатку адчыняе, потым зачыняе, бярэ на засоў дзверы і зноў вяртаецца ў хату. Цяпер адна.

— Чаго ён прыходзіў да нас? — пытаюся я, калі маці распранаецца і лажыцца ў пасцель.

— Хто? — прытворна перапытвае маці, як бы і не ведае, хто толькі што быў у нашай хаце, з кім яна гаварыла.

— Ды Пятро Анісімавіч...

— Перахрысціся ты,— палохаецца маці.— То можа са сну табе што прыплялося... Нікога не было ў нашай хаце... Спі... Не гавары нікому пра тое, пра што ты кагадзе сказаў, смяяцца будуць. Пятро Анісімавіч на фронце, разам з тваім бацькам... Ты хіба забыўся?..

Я пераварочваюся на другі бок і змаўкаю, больш ні пра што не пытаюся ў маці — ведаю, яна нізавошта не прызнаецца, што ў нашай хаце толькі што быў Пятро Анісімавіч... Так, мусіць, трэба... Ідзе вайна, нас занялі немцы, і сакрэтаў у кожнага прыбавілася. Нават у нас — у мяне і ў маіх сябрукоў Грышкі і Косціка. Мы пакляліся: нікому-нікому не скажам, што ў нас у лесе ў патаемным сховішчы ў дупле дуба, поблізу таго хвойніку, што ў Гудагаі, ляжаць амаль новенькая вінтоўка і дзве гранаты-«лімонкі»... Вінтоўку і гранаты мы знайшлі ў полі, у разоры... І перанеслі ў лес... Потым нанасілі туды і сала, хлеба... Гэта каб не галадаць на выпадак, калі мы ўцячом з дому і не адразу дападзём да партызанаў — а мы збіраемся ісці ў партызаны, вось толькі хай пацяплее, хай снег растане... Але і пра гэта мы нікому-нікому не скажам, нават сваім маткам... Так трэба...

...Цяпер я як не штоноч прачынаюся ад стуку ў нашыя вокны ці дзверы. Да нас у хату прыходзяць незнаёмыя людзі з лесу, ад якіх вельмі пахне дымам, і, не запальваючы святла, просяць то хлеба, то солі. А неяк яны, калі ў нас ужо не стала свінней, пачалі шукаць павадца, каб забраць цялічку.

Дзед раззлаваўся, разбурчаўся на маці:

— Казаў жа, давай зарэжам... Мяса было б... А так — пухні вось на нішчымніцы...

— Сам з'еш і вала, адна хвала,— апраўдвалася маці.— Дый пасаліў бы чым яго, тое мяса?.. Солі ж нямашака...

— На марозе і нясоленае не прапала б...

— Не заўсёды ж і мароз будзе... А як адліга?.. — не здавалася маці.— А так з'ядзяць гуртам у лесе... Не немцам жа ды паліцаям яе пакідаць...

...У нас ужо нічога няма — ні курэй, ні свінней, ні цялічкі. Асталася адна карова. Але і па яе прыходзяць, каб забраць, паліцаі.

Ратуе карову дзед. Як пачуе, што ў наш двор прастуюць гайнёю паліцаі, злазіць з печы.

— А ну пайшлі вон адсюль, гіцлі! — крычыць ён яшчэ з ганка.— Дабро ў мяне знайшлі?.. А ваша дзе, дзе ваша дабро, я пытаюся? Кахі-кахі, ках...— пачынае ён кашляць.

Кашляе дзед страшна. У грудзях у яго — бы ўсё роўна ў тым сапсутым машынным маторы, калі яго заводзяць,— усё трасецца, гырчыць і вохкае... Дзед аднаю рукой трымаецца за грудзі, а другою цягне да сябе за тапарышча калун, якім мы з маці колем дровы і які заўсёды ляжыць у нас на ганку, на падхваце, і кідаецца з ім на паліцаяў. Тыя — хто куды, урассыпную, забываюцца і на вінтоўкі, што целяпаюцца ў іх за плячыма.

— Пачакай, малахольны! — грозяцца яны дзеду іншы раз з-за варот.— Партызанам беражэш кароўку! Усё ўжо аддаў. Цяперака карову думаеш аддаць?..

— У вас не спытаюся, каму што аддаваць,— адгырквaецца дзед. І зноў заходзіцца ад кашлю: — Кахі-кахі, ках!..

Маці, калі дзед вяртаецца пасля такой перасваркі з двара зноў у хату, не-не дый паўшчувае яго:

— Дабегаешся, даскачашся вось, што возьмуць ды застрэляць... Ім жа ўсё адно, у каго страляць, у чалавека ці ў сабаку...

— Мне таксама ўсё адно, як паміраць,— абыякава махае рукою дзед.— Ці сваёю смерцю, ці ад кулі...

І лезе зноў на печ.

...Я разам з маці цалюсенькі дзень, не разгінаючыся, капалі паліцаю Гуртавенку бульбу. Увечары, як ацямнела, што не стала відаць у разоры вывернутай плугам бульбы, мы сабраліся ісці дадому. Акурат у гэты час на поле аднекуль прывалокся і сам Гуртавенка. Стаў, шырока раскірэчыўшы ногі, і спытаўся, як заўсёды, заікаючыся, у маці:

— Чым п-плаціць т-табе, Мар'я? Хлеб-бам ці адзежай?

Маці аж сцеханулася:

— Адкуль у цябе адзежа тая? Калі гэта ты так разбагацець паспеў, што адзежай нават плаціць збіраешся?..

— Дык й-я ж н-на службе, як-ніяк,— усміхнуўся Гуртавенка.

— А хіба на службе гэтай вам адзежай плацяць? — зноў пытаецца маці.

— Ды н-не прытварайся ты, Мар'я. Сама ведаеш, што н-на аперацыі ездзім. А тым, што ў зямлі, усё роўна, ці г-голым ляжаць, ці надзетым — ім адзежа н-ніякая не трэба...

— Няўжо з мёртвых здзіраеш? — жахаецца маці.

— Н-не бойся,— супакойвае маці Гуртавенка.— Я не такі, як нек-каторыя... З забітых я адзежы н-не бяру... Калі мне што падабаецца, я загадваю зняць, а тад-ды ўжо страляю...

Маці, пачуўшы такое, прызналася:

— Вось гавару з табою, Антон, і, паверыш, дрыжыкі мяне праймаюць... Адкуль у цябе жорсткасць такая?.. Яшчэ возьмеш ды мяне заб'еш...

— Хе-хе,— сыта рагоча Гуртавенка.— Мяне т-ты не бойся. У мяне рука лёгкая. Я ледзь дакрануся да чалавека, а ён і б-брык, ужо нежывы. Ані не мучыцца. Не так, як у другіх... П-па-людску чалавека забіць н-не ўмеюць...

— І як гэта ты можаш такое?..— яшчэ больш пало-

хаецца маці.— Дзіўлюся я з цябе, Антон. Хлопцам курыцы ніколі не зарэзаў. А цяпер... Расказваеш, а ў мяне мароз па целе...

— А што? — абыякава махае рукою Гуртавенка.— Трэба ўм-мецъ, усё трэба ўм-мецъ. Затое мае дзеці ніколі без хлеба н-не сядзелі, н-ні тады, н-ні цяперака... Уласць, якая б яна ні была, скажу табе, любіць, каб чэсна ёй служылі... Тады і ўласць табе нічога шкадаваць н-не будзе. Была тая ўл-ласць — я ёй чэсна служыў. А цяпер новая прыйшла — я ёй служу... М-мы ж з табою н-не вінаваты, што ўласці мяняюцца... Жыць жа нам трэба...— Пастаяў, падумаў.— Н-ну дык як, адзежу возьмеш ці хлеб?..

— Нічога мне не трэба,— аднекнулася маці.— Хіба ж я галодная ці голая?

— Дарам я н-не хачу...

— Тады давай, што табе не шкода,— сказала, мусіць, проста так, каб адчапіцца, маці.

І Гуртавенка назаўтра ўвечары прынёс у нашую хату цэлую вузляку адзежы.

— Можа шчэ к-калі паможаш што,— кінуў ён пад ногі маці вузляку.— А адзежу хлопец збузуе, у м-мяне яе ўсё адно н-насіць няма каму... Сама ведаеш, адны дочкі. Сына бог пашкадаваў... Ды н-не гідуй ты,— відаць, убачыўшы, як у маці перасмыкнуўся твар, сказаў ён праз хвіліну.— Адзежа чыстая, проста з жыдоўскіх шафаў... Й-як у мястэчку расстрэльвалі, н-набраў...

І паволі павалюхаўся з хаты...

Маці нават не развязвала вузлякі, не паглядзела, што ў ёй. Ледзь дачакалася цемнаты, узяла рыдлёўку і пайшла на гарод закопваць тую адзежу...

Пасля, дома, доўга-доўга мыла з мылам рукі. І ўсё гідзілася:

— В-вуй... І нясе гэта мне, каб дзіця маё надзявала, душагуб!..

Я не стрываў, сказаў:

— Трэба было конча ісці нам да Гуртавенкі... Заработкі знайшлі...

— А што ж я магу яму сказаць? — заплакала маці.— Хай яго сарочка не чапае... Прыйшоў, просіць, то паспрабуй не паслухай толькі!.. Чапіцца пасля, за што трэба і за што не трэба, будзе... Падаткамі абкла-

дзе, шкуру з жывога чалавека злупіць... О, гэтакі гад!.. Не дзіва, фінагентам жа быў!.. А бацька, шчэ пры цары, стражнікам! Такое кодла, прывыклі кроў з людзей піць!..

●

...Маці плача.

Прачнулася ўночы і плача, калоціцца ад слёз.

— Мама, што з табою? — прахапіўшыся, бягу я да матчынай пасцелі.

Маці не адказвае. Абдымае мяне рукою, прыцягвае бліжэй да сябе і, здаецца, плача яшчэ гарчэй.

Хвіліну-другую я сяджу моўчкі, потым пачынаю плакаць сам. Нейкі час мы плачам удваіх, разам. Пасля, трохі спагадзя, маці як бы апамяталася, павярнулася тварам да мяне.

— Чаго ты, сынок?

— Гм-м!

— Хай я плачу, дык у мяне гора...

— Якое гора?

— Усякае... І бацька дзе, і Верка вось памерла.. І дзед...

Яна зноў захліпаецца, душыцца ад слёз.

У хаце ў нас цёмна, ані нічога не відаць, бо за вокнамі — чорная, як сажа, ноч.

Але і ў гэтай цемры я бачу, як прымае маці ад свайго твару руку, цягнецца ёю да мае галавы і пачынае гладзіць валасы, так лёгка-лёгка і пяшчотна-пяшчотна, што я аж заплюшчваю вочы.

— Сціхні, сынок...— шэпча яна.— А мо і перажывём як гэтую навалу, бацькі свайго дачакаешся... Хоць без Веркі... Без дзеда... Без мяне...— чую я матчын голас...

...і ў той жа момант ачынаюся, сцепваюся ўвесь, падхопліваюся на ногі.

«Дзе я?.. Што са мною?.. Няўжо так гаварыла хоць калі мне маці?.. І хто, хто гэта ля мяне так горка плача?..»

Азіраюся навокал... І бачу чорнае, зацягнутае, прыцярушанае ўжо лёгкім сівым попелам пажарышча сваёй хаты, печ, абгарэлыя ствалы яблынь, груш... І здагадваюся, дзе я...

Усё яшчэ свеціць, пячэ сонца. І нікога каля мяне няма, ніхто не плача, толькі ціўкае недзе ў голлі на

ліпе канаплянік. Плачу я сам. Нават не плачу, а цяжка, усім сваім нутром усхліпваю, стагну...

Марудна, як праз мутную павалоку сну, успамінаю, чаго апынуўся зноў на сваім падворышчы, што бачыў перад гэтым у вёсцы, там, дзе стаяла раней школа... Успамінаю і, таго не заўважаючы, іду міма спаленага нашага хлява па картапляніку ў поле. Іду, сам не ведаючы куды, проста туды, куды глядзяць вочы, абы толькі не быць у вёсцы, абы не бачыць, што зрабілі з ёю і з тымі, хто ў ёй жыў, немцы, абы толькі ні пра што не думаць, нічога болей не ўспамінаць...

...Я ляжу ў дамавіне, абкладзены ўвесь, з ног да галавы, кветкамі, і да мяне адзін за адным падыходзяць людзі — мама, тата, дзед, Верка, старая кульгавая Уласіха, дзядзька Хведар, стараста Мікіта...

Дарослыя і дзеці, уся наша вёска... Нагінаюцца, цалуюць мяне нейкімі надта халоднымі, сухімі губамі, і кожны шэпча нешта на вуха. Што — я не чую, дый не вельмі стараюся пачуць, бо заняты другім: я ляжу на мяккай падушцы са свежага сена і ўвесь час не зводжу вачэй з паліцая Гуртавенкі — ён чамусьці сядзіць на нашай печы, на чаране, і з-за коміна нейк загадкава, па-змоўніцку падміргвае мне адным вокам, быццам ведае, што я ніякі не мёртвы, а жывы і толькі прытвараюся, што мёртвы.

«Што яму да таго, што я ў дамавіне?» — пакутліва думаю, мучаюся ў здагадках я.

А да мяне ўсё падыходзяць і падыходзяць людзі, усё цалуюць і цалуюць халоднымі губамі, усё шэпчуць і шэпчуць нешта на вуха...

Але вось нарэшце і гэта скончылася, да мяне больш ніхто не падыходзіць. Толькі чуваць шморганне насоў ды ўсхліпы — нехта плача.

«Хто? Ці не мая маці?..»

З сенцаў уносяць у хату вечка, якое зроблена з жоўтых абгабляваных дошак і якое надта ж пахне смалою, і ўсе людзі гурмою зноў ідуць да мяне. Паперадзе Пятро Анісімавіч, цётка Лісавета, за імі смешна дыбае босымі, замурзанымі ножкамі Уладзік... Узяўся маленькай ружовенькай ручкай за краёк вечка і бяжыць услед за бацькам і маткаю. Вось яны ўтраіх наблізіліся да мяне, памеркавалі пошапкам, як лацвей палажыць

на дамавіну вечка, і пачалі апускаць яго мне на вочы, закрываць ад мяне святло. Назаўсёды. Навечна.

Я халадзею ад жаху.

— Што вы робіце?! — крычу я што ёсць моцы.— Хіба вы не бачыце, што я жывы?.. Я жывы! Жывы я!

Але мяне ніхто не слухае, не чуе... Я спрабую падняцца і толькі цяпер заўважаю, што ў мяне анямела ўсё цела, адняліся рукі і ногі, я больш не валодаю імі... Хачу выскачыць з дамавіны і не магу, няма сілы...

Цемра закрывае мне вочы. І ў ёй, у гэтай цемры, я чую, як у дамавіну нехта забівае цвікі. Гах-гах-гах!.. Асцярожнае шорханне ног, тупат, сапенне, бразгат, звон цвікоў — мусіць, намацвае рука ў кішэні патрэбныя — і зноў — гах-гах-гах! — ужо ў другім месцы...

Потым наступае цішыня. Доўгая, маўклівая, пакутлівая...

Раптам дамавіна адчыняецца, і я бачу Гуртавенку. Ён стаіць нада мною, шырока раскірэчыўшы ногі, мыляе губамі, нібы нешта жуе, потым з усёй сілы б'е мяне насцаком пад бок.

— Ан-ну ўставай! — крычыць ён.— Д-думаеш, я н-не бачу, што ты жывы, што ты прытвараешся? М-мяне, брат, не п-правядзеш, я стрэлены верабей!..

Я хуценька ўстаю з дамавіны. І бачу, што я ўжо не ў хаце, а на могілках, ля таго раскідзістага куста акацыі, пад якім мы пахавалі Верку. Побач, пад маладою, станістаю бярозкаю, дзедава магіла. А трошкі ўбаку выкапана і яшчэ адна ямка. Свежая, глыбокая.

— Раздзявайся! — загадвае Гуртавенка і настаўляе на мяне чорнае вочка рулі вінтоўкі.— Й-я ведаю, што ты н-не насіў той адзежы, што я даў вам. Вы закап-палі яе за хлявом!.. Радуйся, што да м-мяне папаў... У м-мяне рука лёгкая... З першага разу забіваю...

Я спакваля сцягваю з сябе сарочку, шпурляю яе да ног Гуртавенкі.

— І шт-таны скідай! — крычыць ён.— Ды хутчэй, м-мне некалі,— падганяе ён мяне, і з рота ў яго скача пена — такі ён злосны.

Я расшпільваю папружку, скідаю адну калашыну штаноў, другую... І ў гэты момант аднекуль з цемры выплывае маці. Паволі-паволі яна ідзе да Гуртавенкі, рукою кранаецца яго пляча.

— Антон, не чапай майго хлопца...— кажа яна.— Ён не вінаваты. Гэта я сама закапала адзежу...

— Ах, в-вунь яно што! — ятрыцца яшчэ болей Гуртавенка. Ён паварочваецца тварам да маці, піхае яе руляй вінтоўкі ў грудзі, піхае так, каб яна ўпала ў тую ямку, што выкапана побач з Верчынай магілай. Я кідаюся да маці, хапаю яе за рукі, хачу выцягнуць з ямкі.

— Мама! Мама-а! — крычу я. Але маці праганяе мяне ад сябе.

— Ідзі да цёткі Лісаветы, занясі ёй малако...— кажа яна мне.— Ды не бяжы позна ўвечары дадому, пераначуй тамака, у Замошках... Не бойся... Салонікаў я не буду адна есці, пачакаю, калі вернешся ты...

І некуды адплывае, аддаляецца ад мяне... І ўсё махае, махае рукою, бы развітваецца са мною...

І толькі голас яе ўсё яшчэ чуцён, ён аж грыміць над маёю галавою, такі ён гучны. Ад яго гнуцца, прыпадаюць да самай зямлі старыя хвоі.

— Уцякай з могілак!.. А то і цябе ўкінуць у ямку!.. А табе жыць, трэба жыць!.. Табе трэба дачакацца бацькі... Расказаць яму, што зрабілі з Рудняю немцы, што зрабіў са мною, з людзьмі Гуртавенка... Уця-а-а-ка-ай!

Матчын голас падхопліваюць хвоі, крычаць:

— Уця-кай!

І я, трымаючы рукамі штаны, каб яны не спадалі, бягу... Але ўжо не па могілках, а па полі. Поле голае, роўнае, як падлога. Нідзе ні травінкі, ні кусціка, ні дрэўца... Мёртвая пустэля. Толькі вецер час ад часу круціць, падымае ўгору віхурыстымі слупамі пыл... Не, не пыл, а попел... І там, дзе віхурыць вецер, астаюцца на зямлі белыя чалавечыя косці, праламаныя нечым вострым і цяжкім чарапы...

— Ма-ма-а! — крычу я і бягу далей, далей...

Але вось поле некуды знікае, знікаюць і чалавечыя косці, чарапы. Я — ля вялізнай крутой гары. Гара такая высокая, што аж не відно неба. І голая-голая. Толькі ў падножжы растуць краскі. Многа-многа красак, аж не згледзець вокам. Не, не тыя краскі, што растуць у нас на лузе і ў полі, а нейкія дзіўныя, казачныя. Кветкі ў іх чырвоныя, пышныя і цвітуць не на сцяблах, а на лісці...

Я хаджу ля гары і рву краскі. Не букет, а шмат-

шмат. Красак у мяне ўжо цэлая бярэма, як панесці. А я ўсё рву і рву, яшчэ і яшчэ. Раптам краскі дзе і падзеліся з маіх рук: былі ў руках — і няма. Ні адной. Я хачу назбіраць новых, але бачу, што нехта павырываў усе краскі з карэннямі і патаптаў. «Хто? Няўжо я?» І тут у галаву мне прыходзіць, што мне няма чаго без дай прычыны бавіць час, а трэба конча ўзабрацца на самы верх гары. Чаго мне трэба туды — я не ведаю. Ведаю толькі: мне трэба гэта, і ўсё. Нейкая сіла гняце мяне, падганяе: «Не марудзь, узбірайся! Хутчэй, хутчэй!..»

І я пачынаю ўзбірацца... Гара зусім не голая. Гэта мне толькі здавалася, што яна голая, пакуль я не лез. А пачаў лезці — убачыў: гара ўся зарасла лесам. Густым, дрымучым, у ім, пэўна, не ступала яшчэ ніколі нага чалавека. І мне трэба прайсці праз гэты лес, інакш я не ўзбяруся на верх гары. І я іду. Ні птушкі, ні звера. Пусты, маўклівы лес, нібы ў ім ніколі нішто і не пладзілася, не жыло. І ўсё нейкае пачварнае, дзікае — дрэвы, кусты... Страх скоўвае думкі, ад хады і крутога пад'ёму ёкае сэрца, падкошваюцца ногі...

За лесам — кусты, непралазныя, калючыя. Ні то ажыннік, ні то шыпшына. Яны чапляюцца за мяне, ірвуць адзежу, да крыві абдзіраюць рукі, твар. Ногі мае ад стомы ўжо адзеравянелі і не гнуцца ў каленях — так саслаблі і самлелі. У знямозе я падаю. Але ляжу нядоўга, бо мяне зноў нешта пачынае падганяць: «Хутчэй, хутчэй!»

І я, сабраўшы апошнія сілы, караскаюся, лезу ўсё вышэй, вышэй. А кустам, здаецца, і канца няма, і чым далей, тым яны гусцейшыя...

Ледзьве жывы, я ўсё ж выпаўзаю на роўны, халодны камень. Гляджу на свае рукі. І палохаюся: такія яны абдзёртыя. Не пазнаць, дзе пальцы, а дзе далоні. Аглядаю сябе — ажно і адзежа на мне ўся ў крыві і гэтак падрана, што звісае адусюль ашмоццем...

Немы жах скоўвае маё сэрца. Я хапаюся за камень і хачу паўзці далей, вышэй. Але гэта немагчыма, бо камень ужо не востры, шурпаты, як быў дагэтуль, а імшысты, слізкі, нібы намылены мылам. Падаюся ўсім целам наперад і што ёсць сілы цягнуся рукамі, каб схапіцца за што і ўтрымацца на гары. І не ўтрымліваюся, зрываюся. Зрываюся і сунуся на жываце ўніз. Прыў-

знімаю галаву... і жахаюся: пада мною — прадонне. Чорная, як сажа, апраметная, бездань.

«Што рабіць?..»

У мяне займае дух. Я страчваю раўнавагу і лячу ў прорву. Хачу крыкнуць, паклікаць каго на помач, але ў мяне адняло мову. Я крычу — і сам не чую свайго голасу... І холадна-холадна... Бр-р-р...

Я прахапляюся, са страхам расплюшчваю вочы. Нада мною — неба. Нізкае, чорнае, густа ўсыпанае, нібы вугалькамі, цьмянымі мігатлівымі зоркамі. Чуваць, як недзе збоку, удалечы, злёгку пагойдваецца, шуміць і як бы стомлена стогне лес. І ціха-ціха. Бы ўсё роўна вымерла ўсё навокал. Ціхата і спакой. Ды яшчэ холад — так холадна, што ў мяне не цаляе зуб на зуб. Я сціскаюся ўвесь, прыпадаю да зямлі, нібыта яна можа мяне сагрэць, вярнуць жвавасць і сілу закляклым, здранцвелым суставам.

Перабіраю ў памяці тое, што бачыў, перажыў у сне.

«Што б магло гэта значыць?.. Чаму мне сасніўся такі дзіўны сон?..»

Але думаць доўга пра сон я не магу. Холад прабірае мяне да касцей, лезе некуды ўнутр, у самую сярэдзіну. Я ўстаю. Бегаю, скачу, каб сагрэцца. Цяпер я ўжо не ўспамінаю, як апынуўся тут, у полі. Ведаю: у мяне няма больш хаты, няма маці, нікога наогул нідзе няма, я астаўся адзін... Адзін з усёй нашай вёскі...

Пацямнела, потым, неяк неспадзявана, неба на ўсходзе пашарэла, пабялела і пачало вельмі хутка святлець. Адна за адной тухлі, знікалі зоры. Вісела ўсё яшчэ нізка над лесам толькі Мілавіца — самая вялікая і чыстая, як сляза, ранішняя зорка. Азваўся ў кустах салавей, праляцелі, гучна лопаючы крыламі, качкі. Цэлая чарада. Дыхнуў аднекуль ветрык, і з грушы-дзічкі, што карчавела на ўзмежку, з шорхатам сыпанула золкая раса. «Ш-ш-шшы» — прабегла па лісці.

Прачыналася, неахвотна ўставала, працірала заспаныя вочы раніца.

Я скакаў, бегаў, пакуль не ўгрэўся. Тады агледзеўся, дзе я,— я быў на полі, поблізу той сцежкі, што вяла ў Замошкі,— і заспяшаўся зноў у вёску, да свайго селішча. Я яшчэ не прывык да таго, што ў мяне няма

больш хаты, няма маці, нікога і нічога няма на свеце, і па даўнішняй звычцы, дзе б ні апынуўся, браўся дадому, да свае хаты...

І зноў быў дзень, і зноў ноч была. І прайшлі гэтыя дзень і ноч, і прыйшлі новыя. Цемра змянялася святлом, і святло змянялася зноў цемраю. Усходзіла сонца, і заходзіла сонца. Выплываў на небе месяц, і знікаў з неба месяц. Загараліся зоры і патухалі... А я ўсё туляўся і туляўся, блукаў і блукаў па полі, па лесе, не могучы знайсці сабе нідзе ніякага прыстанку. Стамляўся, падаў дзе-небудзь на ўзмежку ў траву і на нейкі час забываўся на ўсё на свеце — правальваўся, нібы ў прорву, у цяжкі, трывожны сон... Потым неяк знянацку ачынаўся, спахапліва ўскокваў зноў на ногі, бы ўсё роўна мне некуды вельмі рупіла, трэба было спяшацца, і зноў хадзіў, зноў блукаў па лесе, па полі, па лузе, адзінокі, абыякавы да ўсяго,— так непрыкаяна адчувае сябе, мусіць, жывёліна, калі адаб'ецца ад свае чарады і сноўдаецца дзе папала, пакуль яе хто не зловіць і не завядзе ў хлеў...

Іншы раз, калі ад стомы і хады пруцянелі ногі і адмаўляліся мяне трымаць, я брыў у вёску, да свайго селішча. Садзіўся там, на тую абцюканую сякерамі і ад таго шорсткую калодку, на якой бацька, маці, а потым і я секлі дровы і якая неяк ацалела і не згарэла бадай што адна з усяго нашага селішча, ашчаперваў рукамі галаву і думаў... Пра што я тады мог думаць?.. Пра тое, што вось і няма болей таго, з чым я зжыўся, да чаго прывык, няма маці, хаты, наогул нікога і нічога няма... Ёсць толькі хіба вось гэтае папялішча ды шырокае, неабдымнае неба над галавою... Ды яшчэ цішыня... Дзень і ноч цішыня. Так ціха, што, здаецца, нідзе, на ўсім белым свеце, ніхто ўжо не жыве — усіх пастралялі, папалілі немцы. Ні смеху, ні крыку, ні лаянкі — усё супакоіла, прыглушыла смерць... Смерць, смерць, смерць... Над усім вісіць, пануе смерць... І прыйдзе такі дзень і час, што і мяне таксама не стане, як не стане і тых, што прыйдуць пасля мяне... Усё паміpae, усё падуладна смерці. Смерці і тлену... І толькі адно неба ды, можа, цішыня не падуладны ёй, кажучы, яны — вечныя... І яны будуць заўсёды, нават тады, калі не будзе мяне... І пакуль я жывы, мне трэба жыць...

Навошта жыць, дзеля чаго жыць?.. Што дасць яно мне, тое жыццё?.. О мама, мама! Ты мяне так любіла! Чаму ж ты пасылала мяне ў Замошкі, навошта хацела, каб я жыў!.. Лепей бы я быў мёртвы... Ляжаў бы разам з табою, разам з усімі ў школе, і мне было б добра, як і табе... Я не ведаў бы, што цяпер на зямлі — раніца ці вечар, ноч ці дзень, свеціць сонца ці лье дождж, не ведаў бы, што зрабілі немцы з нашаю вёскаю, з людзьмі, з табою, мама! Я нічога-нічога не ведаў бы, не бачыў бы, не адчуваў... Да ўсяго-ўсяго я быў бы абыякавы. Мне не трэба было б хадзіць па папялішчах, не трэба было б ні пра што думаць, не трэба было б жыць... Я быў бы тым, чым сталі цяпер усе вы,— попелам, касцямі... А так мне трэба жыць... Скажы мне, мама, як мне цяпер жыць, што рабіць?.. Куды пайсці, дзе прытуліць сірочую галаву сваю? Хто пасцеле пасцель мне, хто есці наварыць, хто кашульку маю памые і палатае, калі яна падзярэцца? Нічога ж, нікога ж нідзе няма — усё, усіх спапяліла вайна, спапялілі немцы... За што? У чым вінаваты вы — ты, мама, нашыя суседзі, мае сябрукі — Грышка, Косцік, усе, каго няма і каго ўжо ніколі не будзе?.. За што вас спалілі, што вы такое зрабілі — ну, хаця б тым жа самым немцам?.. Партызанскі край, і ў ім павінны быць спалены вёскі з людзьмі, павінна быць спалена, знішчана ўсё жывое!.. Такі загад... Той, хто яго аддаваў, мусіць, не думаў пра нас, тых, каго спаляць, не думаў пра тое, што, калі хто неяк ацалее, астанецца жыць, будзе век свой мучыцца, пакутаваць, успамінаць тых, каго спалілі... Хаця што яму, таму ка́ту, да таго невядомага, далёкага чалавека, да мяне, да ўсіх нас... Яму абы аддаць загад!.. А тыя, хто ніжэй за яго па службе, старанна выканалі той загад, зрабілі ўсё, што ад іх залежала, каб не асталося *нікога жывога*... І вось няма вёскі... Няма гэтулькіх людзей! Няма цябе, мама... Няма нашай хаты... І мяне не павінна было быць — я мусіў быць мёртвы... Такі быў загад... І тое, што я астаўся жывы,— выпадковасць... Хаця... Хаця — якая ж выпадковасць?.. *Я не павінен быў астацца жывы, я мусіў быць мёртвы*... І ў тым, што я астаўся жыць, няма ніякай выпадковасці, а ёсць недагляд... І вінаваты ў ім, гэтым недаглядзе, тыя, хто выконваў загад... Вядома, вінаваты *яны*, і толькі *яны*... Бо калі б *яны* пастараліся, я не жыў бы, я

быў бы мёртвы... Проста *яны* выканалі той загад не зусім добра, вось я і astaўся жыць... Божа літасцівы, дык што ж гэта? Няўжо ў вайну можна рабіць што заўгодна — забіваць, паліць, катаваць — вінаватых і невінаватых — і за гэта ніколі ні перад кім не адказваць?.. Будзь жа пракляты да канца дзён сваіх ты, хто выдумаў вайну, хто, каб апраўдаць забойствы і здзек, прыдумаў гэткае паганае, бязлітаснае слова — вайна! Хай цябе ні зямля, ні вада не бярэ, вечна гібей і пакутуй у самых страшных, нечалавечых хваробах, адзін, без вады і яды, без сонца і неба... І хай цябе вечна смокча, точыць чарвяк сумлення, вечна мучаць людская пагарда, нянавісць і тыя няшчасці, што прынёс ты людзям... Божа, паслухай мяне, пакарай таго нелюдзя, таго ка́та, таго людаеда!..

Я сядзеў на калодцы і аж скрыгатаў зубамі — маліў, прасіў, заклінаў, сам не ведаючы каго, але хто — я ў гэтым тады быў упэўнены — быў нада мною і хто быў вінаваты ў маім горы, у горы тысяч і тысяч такіх жа, як і я, людзей. А можа гэта мне толькі цяпер здаецца, што я думаў тады пра гэта, думаў менавіта так... Бо і гадоў мне тады было небагата, і многага я тады яшчэ не разумеў... Але прынамсі ўсё гэта я, помню, тады адчуваў... Я не мог гэтага не адчуваць... Я быў абыякавы да ўсяго — да дзён і начэй, што прыходзілі і адыходзілі, да таго, што мяне нехта можа ўбачыць тут, ля папялішча, і забіць... Неабыякавы я быў толькі да тых, каго спалілі, і да тых, хто гэта зрабіў... І ў бяссіллі сваім я прасіў, маліў таго, хто вышэй за нас усіх, каб ён ажывіў маю маці, каб ён пакараў, адпомсціў тым, хто спаліў нашую вёску, хто ўвагнаў у магілу раней часу гэтулькі ні ў чым не вінаватых людзей...

На трэці ці чацвёрты дзень — пэўна не помню, бо дні чаргаваліся начамі, а ночы днямі, і я не лічыў іх, нават, калі хочаце ведаць, не бачыў, яны проста міналі мяне, пралятала нада мною, як пралятаюць птушкі, хмары, нічуць і нічым мяне не кранаючы, не ўражваючы,— я пачуў на вуліцы поблізу нашага селішча нечыя ціхія, спасцярожлівыя крокі — нехта невядомы, як мне ў першую хвіліну падалося, краўся да мяне, хацеў схапіць, перш чым я пачую яго і ўцяку.

Хутчэй інстынктыўна, чым свядома, я ўсхапіўся на ногі, каб пабегчы, нырнуць у гарод, і ў той жа момант паваліўся на зямлю — ад доўгага, нерухомага сядзення ў мяне закляклі ногі, і я не мог на іх стаць. Падняў галаву, прыслухаўся — ці ніхто не гоніцца за мною? Не, за мною ніхто не гнаўся — крокі былі такія ж ціхія, спасцярожлівыя, як і раней, яны, чуваць было, хоць і марудна, усё ж набліжаліся да нашага селішча.

«Няўжо мяне тут хто ўбачыў, падпільнаваў? Хто ён — нехта з нашай вёскі ці, можа, чужы?..»

Рызыкаваць я не хацеў дый не мог — нейкая невядомая сіла гнала мяне быць далей ад дрывотні, прымушала хавацца, не паказвацца гэтак адразу на вочы чалавеку, хто б ён ні быў — свой ці чужы. Інстынкт самазахавання падказваў мне быць як ніколі яшчэ асцярожным, нікому і ні ў чым не давярацца. І я, дапаўшы да разоры, па якой хадзіў раней на сцежку, што вяла ў Замошкі, папоўз да кружка крушынніку, што купчасцеў, зелянеў у канцы нашых сотак.

Ногі ў мяне трохі папрутчэлі, іх ужо не зводзіла штохвіліны сутарга, і я падняўся. У галаве гуло, вельмі балела і ў скронях. Але я ўсё ж сяк-так дабраўся ў канец сваіх сотак і, схаваўшыся ў самы густы і шырокі куст, пачаў пільна сачыць, цікаваць за нашым селішчам. Хоць і пагарэлі хата, хлеў, паркан, хоць агнём прыхапіла і некалькі яблынь, груш і вішань, зеляніна саду была яшчэ даволі густая, праз яе не праглядалася вуліца, і я не бачыў, зайшоў ён, той невядомы чалавек (што крокі былі чалавечыя, пра гэта я здагадаўся адразу ж, як толькі іх пачуў), да нас у двор ці ён пайшоў міма, некуды далей па вуліцы. І я, паляжаўшы трохі ў крушынніку, папоўз назад, у вёску: цяга, жаданне ведаць, хто яшчэ, акрамя мяне, астаўся жывы і ходзіць па спаленай вёсцы, былі большыя за страх. Я проста не мог ужо стрымаць сябе, каб не паглядзець, хто ён, той невядомы, што прыблукаў аднекуль сюды, на папялішча.

Ля хлява — не хлява ўжо, вядома, а толькі пажарышча — я ўлавіў зноў тыя ж нетаропкія, спасцярожлівыя крокі. Яны то заціхалі на нейкі момант — відаць, чалавек спыняўся, стаяў,— то шорхалі зноў і зноў па зямлі. Цяпер я выразна мог разабраць, што ча-

лавек хадзіў не па вуліцы, а ў суседнім з нашым селішчам двары, там, дзе некалі стаяла хата старасты Аўхіма Аглабелькі, ці, як звалі яго ў нас па-вулічнаму, за вочы, Падзямельніка. Прыпаўшы ўсім сваім целам да разоры, я паволі-паволі падняў з картапляніку галаву — Аглабелькавых двор, гэтак жа, як і наш, быў увесь засаджаны грушамі, яблынямі, слівамі, вішнямі. Густая зяляніна саду зноў замінала мне бачыць, хто там, у двары, ходзіць. І я, асмялеўшы яшчэ больш, падпоўз бліжэй да суседскага плота, што месцамі чамусьці не згарэў, і схаваўся за яго. Потым, счакаўшы трохі, выбраў лагчынку, адкуль добра аглядалася пажарышча Аўхімавай хаты, упоўз у яе, асцярожна адарваў у плоце дошку і прынік да шчыліны.

Прайшло яшчэ некалькі хвілін — і вочы мае спыніліся на тым чалавеку, што так неспадзявана спалохаў мяне і прагнаў з дрывотніка,— ён быў невысокага росту, але моцны, каранасты, з доўгімі худымі рукамі. На галаве ў чалавека ляжала кепка, белая палатняная кашуля была падпяразана конскім путам ці кавалкам вяроўкі. Штаны таксама былі палатняныя, хутчэй за ўсё — споднікі, брудныя, пакамечаныя. Чалавек стаяў спіною да мяне, бязвольна апусціўшы, бы плёткі, рукі, і я доўга глядзеў на яго, сілячыся здагадацца, хто ён, гэты чалавек. А чалавек усё стаяў, не зводзіў вачэй з папялішча. Ён нібы застыў у нейкай апантанасці і нерухомасці і, здаецца, апрача папялішча, нідзе нічога не бачыў, не чуў.

Нешта знаёмае і разам з тым чужое было ва ўсёй паставе гэтага чалавека.

«Ды гэта ж дзядзька Аўхім! Аўхім Аглабелька! — цюкнула раптам мне.— Як ён уратаваўся? Няўжо яго не спалілі разам з усімі?.. Ён жа жыў да апошняга дня ў вёсцы, не паразджаў, як паліцаі, у мястэчка... Ці яго, можа, пашкадавалі, не ўкінулі ў агонь, ён жа, якніяк, стараста?..»

Чалавек павярнуўся тварам на гарод, і я ўсумніўся — ці Аглабелька гэта? Твар увесь у брудным рыжым шчаціцні, кадык выпнуўся далёка наперад, а вочы глядзелі неяк валавата і па-вар'яцку тупа. Чалавек, няйнакш, пра штосьці думаў, ён нібыта забыўся пра нешта важнае, патрэбнае і ўсё сіліўся ўспомніць, ды гэта яму ніяк не ўдавалася... Вось ён стукнуў сябе ку-

лаком па лбе, зажмурыў вочы і хутка-хутка пабег з двара на вуліцу. Там ён спыніўся, зноў стукнуў сябе кулаком па лбе і вярнуўся на папялішча. І зноў, пастаяўшы нейкую долю секунды, хутка-хутка пабег назад, на вуліцу.

Яшчэ праз нейкі час мне было відаць, як ён, той чалавек, паволі-паволі, бы ўсё роўна ў вялікім одуме, сунуўся па вуліцы, сунуўся туды, дзе былі некалі клуб, магазін, праўленне калгаса... Я сачыў за чалавекам, аж пакуль ён не збочыў на тую сцежачку, што вілася праз людскія гароды да школы. Тады я адпоўз зноў да кружка крушынніку і ўжо адтуль пачаў цікавацць, куды ён пойдзе яшчэ.

Чакаць давялося нядоўга — хутка я ўбачыў, як чалавек, не вельмі пільнуючыся сцежкі, па бульбе, па жыце — праставаў да школы.

«Няўжо ён ведае, што там немцы спалілі людзей?.. Пэўна, што ведае, бо нікуды больш не зварачае, ідзе да школы...»

Чалавек, усё гэтак жа ўгнуўшы галаву, і праўда падышоў да школы. Нагнуўся, нешта падняў з папялішча. Паднёс да твару. І так нібы замёр...

Я не зводзіў вачэй з чалавека, сілячыся пазнаць, Аглабелька гэта ці нехта іншы, чужы. І што яму, гэтаму чалавеку, тут, у нашай вёсцы, трэба? Чаго ён ходзіць? Што робіць ля школы?.. А чалавек не варушыўся, бы аслупянеў — стаяў і стаяў ля папялішча і, здаецца, не думаў нават нікуды далей адтуль ісці. Стаяў і глядзеў на тое, што падняў кагадзе з зямлі.

Сон і змора бралі, адольвалі мяне. Толькі цяпер я заўважыў, што поўдзень ужо, што сонца высока-высока, што яно пячэ, проста аж паліць. Над картаплянікам, над густымі зялёнымі загонамі жыта і ячменю трымцела, пералівалася перагрэтае паветра. І я, не маючы змогі так доўга глядзець на поле, на таго чалавека, што ўсё стаяў і стаяў ля папялішча школы, апусціў галаву ў мяккую, прахалодную траву. І, мусіць, заснуў, бо калі я прахапіўся і зноў падняў галаву, сонца вісела ўжо над Шапчынскім борам, вялізнае, чырвонае, і слала на зямлю няяркія, косыя, па ўсім відаць — апошнія, развітальныя промні. Спякота спала, але цяпер я адчуў, што вельмі хочацца піць. Так хочац-

ца, што я не магу павярнуць у роце языка — усё нутро маё гарыць, аж рэжа сухім пранізлівым болем.

Я ўспомніў, што недзе тут, непадалёку, у крушынніку, павінна быць копанка, дзе ўсе нашы канчане, і маці мая таксама, мачылі і выбівалі пранікамі палотны, мылі бялізну, і паволі папоўз да яе.

Вада ў копані была нячыстая, зацягнутая плесняй, з чарвякамі і апалонікамі, да таго ж — вельмі цёплая, смярдзючая. Але я, лёгшы на жывот, прыпаў на нейкі момант да вады і, не чуючы смаку, прагна піў. Піў доўга, піў датуль, пакуль не здаволіўся, не прагнаў смагі. Тады перавярнуўся на спіну, каб аддыхацца, адпачыць. Ад вады мяне кінула адразу ў пот, і я ляжаў, выпрастаўшы рукі і ногі, хвілін колькі, дзівячыся, як я раптам аслабеў — не толькі не магу падняцца на ногі, але нават выцерці з твару пот.

Тады я ўспомніў пра таго невядомага чалавека, што чагосьці блукаў сёння па вёсцы.

«Дзе ён?..»

Я выпаўз з крушынніку зноў на поле. Зірнуў у той бок, дзе стаяла раней школа,— чалавека там ужо не было.

«Куды ён пайшоў? Дзе падзеўся? — спалохаўся невядома чаго я — ці не таму, што страціў надзею сустрэцца з жывым чалавекам, можа, нават з кім-небудзь са свае вёскі.— Я расказаў бы яму, што зрабілі немцы з маёй маці, з усімі нашымі людзьмі. Не канечне ж той чалавек паганы, ён расказаў бы таксама нешта, памог бы мне чым-небудзь...»

«А можа ён нікуды яшчэ і не пайшоў з вёскі, можа ён і цяпер стаіць на Аўхімавым селішчы, як стаяў і тады, калі я яго першы раз убачыў?» — прыйшло мне ў галаву.

І я, напружваючы ўсе свае сілы, папоўз па картаплянiку да той дзіркі ў плоце, што быў зрабіў некалькі гадзін назад і адкуль ужо цікаваў за чалавекам.

•

Ля Аўхімавага селішча нікога не было.

«Дзе ж ён падзеўся, той чалавек?..— узяў мяне одум.— І чаму ён нікуды больш не заходзіў, толькі ў двор да Аглабелькавых і да школы?.. А мо і яшчэ куды заходзіў, ды я не бачыў?.. І хто, хто ён?..»

Я праціснуўся ў дзірку, яшчэ раз, цяпер ужо больш пільна, уважліва, агледзеў суседскі двор. І хоць было мне ў гэтым двары ўсё бадай што гэтак жа знаёма, як і ў сваім, бо неаднойчы я аглядаў яго, калі браў са студні ваду (у нас была агульная з Аглабелькавымі студня, акурат на мяжы селішчаў) і калі лазіў на сенцы — клаў там гарбузы, каб даспявалі, і вешаў мак,— аднак цяпер я не пазнаў суседскага двара — так тут усё зыначыў пажар. Не было ўжо ні хлява, ні хаты, ні прыгрэбніка, ні тых акуратна складзеных у сціртачкі дроў-рубанцаў, што заўсёды сохлі пад павеццю,— усё з'еў ненажэра-агонь. Заместа іх усюды — чорныя лапіны вуголля, попел... Агонь прыхапіў і слівы, яблыні, што стаялі блізка ад пабудоў. Зелянела толькі ўсё гэтак жа, як і раней, ані не кранутая агнём вялізная старая груша, што расла ля самага плота. Я падняў вочы на грушу і адразу ж пасунуўся назад у дзірку — на грушы, на самым тоўстым суку, што вытыркаўся, лез аж на наш двор, вісеў той чалавек, што немаведама чаго блукаў сёння па вёсцы. Вісеў у пятлі... Босыя, парэпаныя і ўжо закарчанелыя яго ногі ледзь не даставалі пальцамі зямлі...

Каб некалькі дзён назад я дзе-небудзь напаткаў нешта падобнае — першае, што я зрабіў бы, гэта кінуўся б прэч, наўцёкі. Але цяпер, перажыўшы многае і нагледзеўшыся не на такое, я, мусіць, страціў уражлівасць, бо толькі адпоўз у свой двор і, лежачы ў картапляніку, моўчкі глядзеў праз плот на павешанага. Не, сумнявацца болей не было як — у пятлі вісеў дзядзька Аўхім, Аўхім Аглабелька, наш сусед і стараста. Я пазнаў яго па вусах, што рыжэлі пад шырокім храшчаватым носам, па доўгай жылістай шыі, якую пераціскала тоўстая льняная вяроўка, па зачэсаных набок рэдзенькіх і мяккіх, як у малога дзіцяці, валасах... На правай руцэ ў дзядзькі Аўхіма не было ўказальнага пальца, і я ўспомніў, што гаварыў неяк наш дзед: Аглабелька адцяў сабе палец яшчэ ў маладыя гады — баяўся, каб не забралі ў войска...

«Чаму ён засіліўся? Што змусіла яго рашыць сябе жыцця?.. А можа і не сам ён гэта зрабіў, можа яго павесіў хто?..»

Я падпоўз бліжэй да грушы, каб паглядзець, ці няма там чыіх слядоў.

Не, нічыіх слядоў пад грушаю не было. Былі толькі сляды самога Аўхіма.

«Значыцца, ён засіліўся сам... Але чаму?.. Ён жа зусім яшчэ нядаўна, сёння хадзіў па вёсцы... І чаму яго не спалілі разам з усімі людзьмі ў школе, як ён ацалеў?.. Няўжо не начаваў, як і я, дома? А можа ўцёк?.. Ці немцы яго не чапалі — ён жа начальства, стараста?..»

Недзе зусім побач гыркнуў сабака. Гыркнуў спахапліва, злосна. І гэта перапыніла мае думкі. Імгненна я ўгнуў галаву, зноў прырос да зямлі.

«Адкуль ён узяўся тут, гэты сабака? Сам сюды прыvалокся ці мо з чалавекам? І на каго ён, прыблуда, так гыркнуў? Няўжо на мяне?..»

Я ператварыўся ўвесь у чаканне і слых. Марудна, вельмі марудна прайшла хвіліна-другая. Але ні крокаў чалавека, ні гыркату сабакі я больш не пачуў. Асцярожна падняў галаву. Агледзеў навокал сябе картаплянік. Нідзе нікога!

«А можа і не было ніякага гыркату, можа гэта мне толькі падалося?..»

Не паспеў я апусціць галавы — зноў пачуў сабачы гырк.

«Што б гэта магло значыць? — занепакоіўся я.— Не відно нікога, і так выразна, зусім, здаецца, побач гырчыць сабака...»

Па разоры, па бульбе я папоўз бліжэй да папялішча Аўхімавай хаты. І зноў пачуў сабачы гырк — цяпер я ўлавіў, што ішоў ён, гэты гырк, аднекуль з таго боку, дзе была студня, і як бы вырываўся з-пад зямлі. Прыслухаўшыся, я нават пачуў валтузню і хруст касцей — сабака нешта рваў, грыз, а яму, няйнакш, нехта перашкаджаў, нехта яго дражніў, і ён злаваўся.

Яшчэ крокаў праз колькі я натрапіў на пограб. Ён ледзь-ледзь вытыркаўся з густой націны лапушыстага гарбузніку і быў амаль непрыметны. Дзверцы лаза былі адчынены, і я здагадаўся пра ўсё: сабака, мусіць, ускочыў у пограб і нешта там грыз.

Я падпоўз да лаза, паглядзеў у пограб: там было цёмна. Але ўсё ж убачыў, як адтуль, з цемры, на мяне ўтаропіліся два бліскучыя, зеленаватыя агеньчыкі.

Кот!

Калі мае вочы трохі прывыклі да цемры, я ўбачыў

і сабаку — ён, прыпаўшы ўсім целам да зямлі, нешта грыз, валтузячыся ля бочкі, што падпірала куток пограба, і раз-пораз гырчаў на ката, які сядзеў бліжэй да лаза, на другой такой жа вялікай, пузатай бочцы. Між гэтымі бочкамі ціснуліся меншыя бочачкі, стаялі зробленыя з дошак скрынкі, лазовыя кашы... З пограба аж біла ў нос сырасцю і нечым салёным, кіслым. Пах гэты, відаць, і напомніў мне пра яду...

«Я ж столькі дзён нічога не еў!..»

У жываце ў мяне забурчала, заныла, я забыўся ў момант на ўсё: на павешанага Аўхіма, на ката і сабаку ў пограбе, на тую небяспеку, што падсцерагала мяне на кожным кроку. У галаве ў мяне білася, не давала спакою адна, толькі адна думка — есці, есці, есці...

Абапёршыся на рукі, я скочыў уніз, у пограб. Адкінуў вечка з аднаго каша, з другога — у кашах ляжалі вялізныя, спечаныя на дубовым лісці, круглыя бoханы хлеба. Я адламаў акраец, усунуў яго ў рот і, жуючы, зазірнуў у бочку — у бочцы было сала. Тоўстыя белыя палосы, густа пасыпаныя соллю. Ударыла ў нос пахам кмену... Скрынкі былі напакаваны тугімі, падрумяненымі ў печы сырамі, яйкамі. У гладышках і макатрах стаяла кіслае малако, смятана, масла... Яды ў пограбе было назапашана нечпадзявана багата. У першую хвіліну я нават не паверыў, што тут столькі яды.

Нейкі час, не чуючы смаку, я еў усё, што трапляла пад руку: хлеб, сала, масла, сыры... Калі што перасядала ў горле і не лезла, запіваў сыраквашай ці яйкамі і зноў пхаў сабе ў рот, зноў еў, жаваў... Потым, адчуўшы цяжар у жываце, апамятаўся — што я раблю, мне нельга так многа адразу есці, інакш мяне зноў агорне такая ж слабасць, як была агарнула, калі я напіўся ўволю вады...

Яшчэ раз агледзеў пограб. Чаго толькі тут не было панастаўлена, панавешана, назапашана! Бочкі, дзежкі, кадаўбцы, кашы, скрынкі... Адна сцяна абвешана полькамі, світамі, кажухамі, валёнкамі, ботамі... У кутку, там, дзе толькі што рваў нешта зубамі сабака,— цяпер я бачыў, што гэта было свіное сцягно,— была паслана пасцель...

«Няўжо тут нехта жыве? — падумаў я.— А можа жыў?.. Жыў дзядзька Аўхім...— успомніў я зноў пра

Аглабельку, што вісеў у пятлі на суку грушы.— Хто ж яшчэ мог тут жыць, як не ён. Пэўна ж, што ён... Бо і боты вунь яго, і штаны верхнія, і сарочка ляжаць абы-як, скамечаныя, на скрынцы,— аглядаў я ўсё ўважлівей і ўважлівей пограб.— Але ж чаму ён павесіўся? Што прымусіла яго рашыць сябе жыцця?.. І як ён выратаваўся ад смерці, калі палілі вёску?.. Няўжо схаваўся ў пограбе?.. Але ж тут яго вельмі лёгка можна было знайсці... Не, тут нешта другое... А што?.. І яды, адзежы навошта ён сюды столькі нацягаў?.. Няйнакш, збіраўся тут доўга жыць...»

І раптам думкі мае, як гэта здаралася ўжо не раз за апошнія дні, зноў пераскочылі на іншае: я ўспомніў сабаку і ката, што былі да мяне ў пограбе.

«Дзе ж яны падзеліся? Няўжо ўцяклі праз той лаз, праз які ўскочыў я ў пограб?»

Я падняў галаву — лаз быў даволі высока. Я не мог да яго дацягнуцца нават рукамі.

«А можа яшчэ які лаз у пограбе ёсць, другі?.. Бо не можа быць, каб сабака і кот уцяклі з пограба тудою, кудою ўлез я... Высока ж!..»

Я пайшоў уздоўж сцен, мацаючы дубовыя плашкі і пазы між імі. І неўзабаве наткнуўся на дзірку, шырокую, як пралезці чалавеку. Зверху, знізу і па баках яна была акуратна абкладзена дошкамі.

«Куды яна вядзе?..»

Улез у дзірку, папоўз па ёй. І вельмі хутка апынуўся ў падпечку на папялішчы Аўхімавай хаты. Вярнуўся назад у пограб. І ледзь толькі вылез — у сцяне, што напроці, убачыў другую дзірку, таксама ўсланую з усіх бакоў дошкамі. Упоўз у яе — гэтая нара была даўжэйшая за тую, што вяла пад печ. У адным месцы яна нават разыходзілася на дзве нары. Адна, шырэйшая, ішла проста, другая збочвала налева. Папоўз проста і выпаўз за хлеў, у жыта. Мяне разбірала цікавасць — навошта Аўхіму трэба былі гэтыя норы? Вярнуўся назад, папоўз па вузейшай, той, што збочвала налева. І выпаўз да студні...

«Умгы,— падумаў я.— Значыцца, адзежа і яда ў пограбе не так сабе. Аўхім, выходзіць, хаваўся тут... І не толькі як спалілі вёску, але і раней, калі прыходзілі партызаны ці прыязджалі немцы... Яны ў вёску, а ён пад печ, у нару... І ў пограб, ці за хлеў, у жыта...

Здагадайся, знайдзі, дзе ён... Вось чаму яго ніхто ніколі чужы і не мог застаць дома,— успомніў я.— Колькі ні лавілі яго, так ні разу ніхто і не заспеў... Недарма празвалі Аўхіма Падзямельнікам,— варухнулася нядобрае ў мяне на душы.— Ні немцам, ні партызанам ён не памагаў, усё хаваўся, норы сабе капаў...»

Па гэтых норах — у гэтым не было ніякага сумнення — цяпер і лазілі ў пограб, чуючы там багаты спажытак, сабакі, каты...

Я панакрываў зноў кружкамі і вечкамі бочкі з салам, кашы, скрынкі з хлебам, сырамі і яечкамі. Стомлена апусціўся на пасцель — яна была даволі мяккая, намошчаная на драўляных падпорах, з сена і саломы... Паверх пасцель была заслана посцілкай.

«Колькі ночай я не спаў ужо на пасцелі?.. Дый наогул ці спаў я?.. Сон то быў у мяне ці проста забыццё?..»

На вочы мне зноў папалі кажухі, світкі, польты, якімі была завешана сцяна ля пасцелі.

«Адкуль Аўхім нацягаў усяго гэтага? А можа сваё?..»

Я падняўся на ногі, падышоў да адзежы, пачаў мацаць яе рукамі. І ў кажуху, што вісеў з правага боку крайні, пазнаў наш кажух, кажух майго бацькі — яго забралі ў нас паліцаі, калі збіралі цёплую адзежу немцам. Таптаўся, перамінаўся з нагі на нагу недзе ў парозе тады ў нашай хаце і дзядзька Аўхім, стараста...

«Нічога не паробіш, суседка,— гугніў ён хутчэй сабе пад нос, чым да маці.— Не сабе ж мы збіраем, а па загаду...»

«Аж бачыш,— не без злосці вёў свае думкі я далей,— хоць і па загаду, ды ўсё ж сабе...»

Я зняў з вешала бацькаў кажух — яго я пазнаў бы сярод тысяч і тысяч другіх кажухоў, бо шыўся ён, гэты кажух, ужо на маёй памяці і нават на маіх вачах — шыў яго Сахрон, той дзядзька, да якога прытыкалі ўсе ў нашай вёсцы вочы, шыў зімою, у нас дома, у нашай хаце... І я памагаў яму: сукаў ніткі, шнураваў іх аб воск — вашчыў. А дзядзька Сахрон курыў, пускаў у доўгія, як у прусака, рудыя вусы дым ды смяяўся, жартаваў са свае жонкі Полі (яе звалі ў вёсцы за малы рост Мятровачка): «Мне то што, я сваю Мятровачку і ў кішэню магу схаваць...» І яшчэ, я помню, у нас тады

не хапіла сваіх аўчын, і мы куплялі ў некага на сяле. Белай не знайшлі, таму рукавы зрабілі з чорнай аўчыны: усё роўна, маўляў, не відно, а выварочваць рукаў, каб паглядзець, з якой ён аўчыны — белай ці чорнай, ніхто не будзе...

Каб упэўніцца, што кажух гэты — кажух майго бацькі, а не так чый, чужы, я нават вылез з пограба і паглядзеў на яго пры святле. Так, кажух быў наш, майго бацькі... Нават цурубалкі на ім былі тыя, што я навыразаў з сухой грабовай палкі...

«Глядзі ты, а я яшчэ шкадаваў яго,— з непрыязню падумаў я зноў пра Аўхіма.— А ён кажух наш забраў сабе... Сусед, называецца...»

Радасць агарнула мяне — я трымаў у руках наш кажух, кажух майго бацькі, той кажух, якім я ўкрываўся ў халодныя зімовыя ночы ў пасцелі, каб не змерзнуць, і якога я не бачыў з самай вясны. І не думаў, што ўжо хоць калі ўбачу...

«А што, калі і маці мая не згарэла там, у школе?.. Можа яна ўцякла?.. Схавалася дзе-небудзь ці пабегла ў лес?.. Аўхім жа, бачыш, неяк уратаваўся, не загінуў... І пройдзе некалькі дзён — я знайду сваю маці, сустрэнуся з ёю...»

Слёзы лінулі ў мяне з вачэй...

Я ведаў, што тое, пра што думаю, неверагодна, што маці мае няма жывой, што я з ёю больш ужо ніколі не ўбачуся, не сустрэнуся, не пагавару... Гэта я адчуваў, амаль верыў у гэта... І ўсё ж мне вельмі хацелася, каб маці мая жыла, і я проста не мог адабраць у сябе гэтую апошнюю сваю надзею... Дый, калі шчыра казаць, не хацеў адбіраць...

«Мама! Мама!» — паўтараў я, седзячы ў картапляніку ля Аўхімавага пограба, і нічога не бачыў перад сабою з-за слёз, што цяклі і цяклі з маіх вачэй...

---

На магіле маці сваёй плакала, аблівалася слязьмі Дзіця. Плакала не дзень, не два, а доўгія месяцы, гады. І сэрца, каменнае, нечалавечае сэрца старое кашчавае Смерці не вытрымала — закалацілася: з рук у яе выпала шчарбатая каса, а на вочы нагарнуліся слёзы.

— Што табе трэба ад мяне, Дзіця? — спытала Смерць.

— Нічога мне твайго не трэба,— адказала Дзіця.— Я хачу толькі аднаго: каб ты аддала мне маю маму...

Доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Я не магу аддаць табе тваёй мамы,— прызналася нарэшце яна.— Твая мама мёртвая, я дам табе другую маму... Толькі запомні: калі я зноў убачу цябе тут, на могілках, я забяру ў цябе і другую маму, зраблю цябе навечна сіратою...

Нічога не адказала Дзіця. Толькі выцерла кулачком вочы і моўчкі пайшло з могілак...

Мінула некалькі дзён, і на магіле маці сваёй зноў плакала, зноў аблівалася слязьмі Дзіця.

— Што табе яшчэ трэба ад мяне? — запыталася Смерць.

— Я хачу, каб ты аддала мне маю маму,— сказала Дзіця.

— Я дала табе новую маму, заместа тваёй... Што ты яшчэ ад мяне хочаш?

— Я хачу, каб ты аддала мне маю маму,— стаяла на сваім Дзіця.— Тая мама, што ты мне дала, не мая... У мяне адна мама, і ніхто яе мне не заменіць...

— Але ж я гаварыла ўжо: я не магу аддаць тваю маму. Яна мёртвая...

— Тады зрабі так, каб было мёртвае і я,— папрасіла Дзіця.

Зноў доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Добра,— урэшце сказала яна.— Я зраблю так, каб ты было мёртвае. Але не, не цяпер. Перш чым я забяру цябе да тваёй мёртвай мамы, ты пажывеш адно на белым свеце... Каб ведала, як жыць аднаму... Я забяру ў цябе і тую маму, што я табе дала...

— Забірай,— сказала Дзіця.— Яна ўсё адно не мая, а чужая...

— У-у, якое няўдзячнае ты дзіця,— разгневалася Смерць.— Адмовіцца ад мамы, што я дала?.. Мучайся ж, пакутуй адно... Бо я і бацьку ад цябе забяру, аддам яго новым дзецям і іхняй маме... А ты будзь адно... Адно!..

Яшчэ мацней сціснула Смерць касільна, скрыгатнула зубамі і знікла з вачэй...

А Дзіця асталося на магіле сваёй маці. Асталося плакаць, успамінаць, якая ў яго была ласкавая мама і як добра было пры ёй жыць...

* * *

На магіле свайго дзіцяці плакала, абліваласся слязьмі маладая Маці. Плакала не дзень, не два, а доўгія месяцы, гады. І сэрца, каменнае, нялюдскае сэрца старое кашчавае Смерці не вытрымала — закалацілася: з рук у яе выпала шчарбатая каса, на вочы нагарнуліся слёзы.

— Што табе трэба ад мяне, Маці? — спыталася Смерць.

— Нічога мне твайго не трэба,— адказала Маці.— Я хачу толькі аднаго: каб ты аддала мне маё дзіця.

Доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Я не магу аддаць табе тваё дзіця,— прызналася нарэшце яна.— Дзіця тваё мёртвае, і ажывіць яго не можа ўжо ніхто. Нават я. Ідзі адсюль, я дам табе другое дзіця...

— Але ж гэта будзе другое дзіця, не тое, што ў мяне было,— сказала Маці.— І я ўсё адно буду плакаць, сумаваць па тым, першым...

— Яно будзе тваё дзіця. І ты палюбіш яго, ты забудзешся на тое дзіця, што ў цябе было...

— Не, не забудуся,— адказала Маці.— Але дай мне другое дзіця, калі не можаш вярнуць майго, першага... Дай!..

— Добра,— згадзілася Смерць.— Толькі запомні: калі ты будзеш вельмі плакаць, сумаваць па тым, мёртвым, будзеш хадзіць штодзень на могілкі, я забяру ў цябе і другое дзіця...

Нічога не адказала Маці, моўчкі пайшла з могілак...

Доўга чакала на могілках Смерць. Але Маці не ішла. І тады Смерць прыйшла сама да Маці.

— Ну як, Маці? — спыталася яна.— Забылася ты на тое дзіця, што я ў цябе забрала?

— Не, Смерцю, не забылася,— тулячы да грудзей другое сваё дзіця, адказала Маці.— Але я палюбіла гэтак жа, а можа нават болей, і тое дзіця, што ты мне дала... Не забірай у мяне яго, Смерцю, раней, чым забярэш мяне самую... Інакай я буду зноў гэтак жа сама плакаць, зноў гэтаксама абліваццa слязьмі і на магіле новага свайго дзіцяці... Бо яно мне такое ж роднае, як і тое, што было...

— Ці хопіць у цябе ласкі і сэрца,— спыталася ў Маці Смерць,— каб лашчыць, песціць жывое і ўспамінаць, думаць пра мёртвае?

— Не бойся, Смерцю. Нават калі ты мне дасі яшчэ некалькі дзяцей, у мяне хопіць і ласкі і сэрца на іх усіх. Бо мне нічога на свеце няма даражэй за маіх дзяцей...

— Добра, хай будзе так, як ты хочаш, удзячная Маці,— адказала Смерць і пайшла прэч ад Маці — на могілкі...

---

На заходзе сонца, забраўшы з сабою бацькаў кажух, я пайшоў зноў у поле. Цяпер мяне не страшыла ноч, не страшыў холад — у мяне было на чым спаць, было чым укрыцца. Была ў мяне і надзея, слабая, нявэўная, ды ўсё ж надзея — я перачакаю, перахаджу некалькі дзён каля вёскі і знайду, сустрэну сваю маці... Толькі не трэба нікуды аддаляцца адсюль, інакш мы размінёмся... А так — рана ці позна — маці дападзе да свайго селішча і тут убачыць мяне...

«А чаму б і праўда ёй не ўцячы ад немцаў? — Амаль паверыў ужо я ў свае думкі.— Я ж бачыў, як уцякалі тым ранкам, калі прыехалі немцы, з вёскі людзі...»

«Але ж па іх стралялі...» — не згаджалася са мною нейкая ўпартая думка.

«Мала што стралялі... Магла ж маці і раней уцячы з вёскі. Яшчэ да таго, як вёску акружылі немцы... Я і то нейк аднойчы ўцякаў... А чаму маці не магла ўцячы?..»

У вачах на хвіліну ўзнік той чыгунок з салонікамі, што астаўся стаяць, накрыты скавародкай, у нас на загнетцы, перадпеччам. І гэта яшчэ больш мяне ўпэўніла: мая маці жывая! Яна не вячэрала, бо і не начавала дома, бо, відаць, яшчэ звечара сышла з селішча некуды ў лес... Таму і салонікі асталіся стаяць нечапаныя ў чыгунку... А мяне яна выправіла ў Замошкі, каб я спаў не ў лесе, на голай зямлі, а ў хаце, на пасцелі... Так, і толькі так!.. Бо мы ж і да гэтага некалькі разоў начавалі ў лесе,— успамінаў я.— І тады, як нехта быў пусціў пагаласку, што нашу вёску спаляць. І тады, як выбраліся жыць у мястэчка паліцаі. І яшчэ аднойчы, калі праз вёску некуды вельмі ж ехалі немцы... І кож-

ны раз, калі мы вярталіся з лесу дадому і я пачынаў кашляць, маці шкадавала, што не выправіла мяне нанач у Замошкі,— там, маўляў, для майго горла (малы я часта хварэў на горла) было б лепей, сушэй, цяплей...

«Як я раней пра гэта не падумаў! Гэта ж мяне маці і паслала таму ў Замошкі, каб я не начаваў з ёю ў лесе...— І ўсярэдзіне ў мяне ўсё ледзь не крычала ад радасці: — Мама жывая! Яна недзе тут, поблізу вёскі, і не сёння-заўтра мы з ёю спаткаемся, убачымся...»

Цяпер, праз столькі год, што прайшлі з таго лета, як мяне асіраціла вайна, як я застаўся адзін з усёй нашай вёскі, калі я згадваю, што мне давялося перажыць,— усе мае довады, што маці ўцякла і недзе жыве, здаюцца мне, прынамсі, наіўнымі, нават смешнымі. Я проста дзіўлюся з сябе, як я мог тады так лёгка і шчыра ва ўсё гэта паверыць. А тады, помню, я сапраўды верыў... Мне здавалася: усе-ўсе маглі загінуць, толькі не мая маці... Яна выратавалася, яна ўцякла, і не сёння-заўтра мы з ёю сустрэнемся... Ой, і будзе ж нам пра што адно аднаму расказаць!..

Ноч тую, вядома, я не спаў. А ледзь толькі пасвятлела на ўсходзе неба, рушыў зноў у вёску, да свайго селішча.

«Я не павінен адыходзіцца ад дому ні на крок... Бо мы размінёмся з мамаю, і яна можа падумаць, як зусім нядаўна думаў пра яе я, што я не ўратаваўся, загінуў...».

Ноч яшчэ спала, дабачвала апошнія, самыя прыемныя, самыя салодкія перадсвітальныя сны свае — адпачывала перад доўгім, спякотна-гарачым, да зморы, да смягі сухім чэрвеньскім днём. Нават раскідака і калашмай вецер і то не гайдаўся, не гушкаўся ў голлі дрэў, а недзе прытаіўся, нібы баяўся неасцярожным уздыхам патрывожыць некага, разбудзіць...

Ціша і спакой панавалі над вёскаю. Здавалася, яна спіць, акружаная густой зялянінай садоў, спавітая бялёсымі пасмамі туману, спіць, як спіць усё навокал. І нічога асаблівага, тым болей страшнага, не здарылася, ніхто яе не паліў. Проста вёска спіць, як спяць птушкі, дрэвы, кусты, поле... І пройдзе зусім мала ча-

су — можа хвіліна, а можа дзве — і недзе, у нечым двары, абудзіцца ад сну певень. Спрасонку расплюшчыць вочы і спалохаецца, сам добра не цямячы чаго, гучна лопне крыламі і крыкне сваё спрадвечнае, галасістае «ку-ка-рэ-ку...». І тады яму, гэтаму пеўню, адказа нешта сваё, доўгае і зычнае, певень з другога двара, з трэцяга... І вёска ўраз прачнецца, скіне з сябе ліпкую і цёплую коўдру сну — заспявае, загаўкае, зарыкае, завішчыць: кожны на свой лад будзе сварыцца на таго, хто першы асмеліўся парушыць цішыню дрымотнага сутоння, і тым самым будзе будзіць, клікаць дзень, што, пэўна, недзе ўжо расплюшчыў павекі, умыўся золкай расою і ідзе, сігае, не разбіраючы дарог, напрасткі, ідзе ўсё бліжай і бліжай да вёскі...

Але мінае і хвіліна, і другая, а вёска як спала, так і спіць. Ніхто не парушае яе спакою, ніхто яе не будзіць. Дзе, дзе падзеліся вы, гарлапаны-пеўні? Ці вы заспалі сёння, ці мо ў вас пахрыплі горлы? А можа вы не хочаце першыя парушаць цудадзейнай цішыні — надакучыла, абрыдла вам слухаць штодзень наракание, лаянку ўсіх? Тады чаму ж, чаму маўчыцё вы, каровы, авечкі, коні, сабакі?.. Хіба вы не чуеце, як высвіствае ўжо салоўка, як стракоча ў лазняку, мусіць, недавольная, што яе пабудзілі, сарока, як заліваецца, то падымаючыся ў неба — «бяру кія бога біць, біць, біць!» — то імкліва падаючы назад, на зямлю — «кій упаў, кій упаў, кіў упаў!» — цілівон... Крычыце ж, гаўкайце, іржыце, рыкайце, вішчыце — ці ж вы паглухлі, ці ж вы забыліся, што блізка ўжо дзень?..

Ах, вы маўчыце, вы не хочаце гаўкаць, іржаць, рыкаць, вішчаць, не хочаце парушаць спакою вёскі... Хай спіць... Хай спяць тыя, хто вас даглядаў, хто вас карміў і паіў, хто за вамі ўсюды хадзіў... Хай спяць... Спяць вечным, непрабудным сном. Спяць там, дзе вучыліся іхнія дзеці... Хай спяць... А мы памаўчым... І я разам з вамі таксама памаўчу... Хаця... Што ж гэта я? Хіба я забыўся, што і вас ужо няма ў нашай вёсцы, што вас пагналі адсюль... Хто пагнаў? Куды? Чаго?.. Хіба вам мала было тут, на нашых лугах, травы, хіба вам мала было тут, у нашых крыніцах, вады? Ці не былі цёплыя ў вас хлявы, ці гаспадыні і гаспадары былі няласкавыя?

Ах свет, свет! Ах, гора маё, гора!.. Вёска як спала,

так і спіць... Ніхто-ніхто не падае адтуль голасу... Ні конь, ні карова, ні парася, ні сабака...

Ні чалавек...

І не падасць, бо ў ёй няма нікога жывога... Яна мёртвая... Нават вёскі самой няма... Асталіся толькі папялішчы... Ды яшчэ сады, гароды, што дбайна ўрабілі, засеялі людзі — кожны ж збіраўся жыць, кожны сеяў нешта, садзіў, каб не пухнуць узімку з голаду, каб было што есці...

«Нічога,— супакойваў я сябе.— Абы толькі жыла мая мама, абы толькі яна не загінула...»

Выбліснула з-за лесу сонца, круглае, іскрыстае, і над палямі, балотамі, лугамі, што ляжалі і справа і злева ад вёскі, пацягнуўся, закурэў, заварушыўся і папоўз да кустоў хавацца малочна-белы туман. Загарэлася, заблішчала расой на дрэвах лісце, трава... А птушкі дык і зусім адурэлі, пашалелі ад радасці: спявалі, ціўкалі, чэкалі, свісталі, гупалі, сакаталі — стараліся перакрычаць адна адну.

Шматгалосы, бязладны гам і згэлк павіс у паветры...

І толькі спала, не прачыналася вёска... Спала цяжкім, магільным сном...

Ногі мае неяк самі сабой, перш чым зайсці на сваё селішча, збочылі на Аўхімаў двор. Выпітая ўчора ў копані вада і тая яда, што з'еў я ў пограбе, вярнулі мне адчуванне голаду... Я аж скрыгатаў зубамі — так смактала пад лыжачкай, так хацелася есці... «Я знябыўся за гэтыя дні,— узнікла ў мяне ў галаве.— І калі я хачу выжыць, хачу дачакацца мамы, мне трэба есці... Есці ўсё, што будзе трапляцца ядомае на вочы, і як мага больш... Інакш я аслабну, аслабну так, што не змагу хадзіць на сваё селішча, а значыць — не змагу і сустрэцца з мамай... Нават калі мяне хто ўбачыць і кінецца даганяць, я не змагу ад яго ўцячы...»

Аўхім вісеў на грушы, і ля яго ўжо роіліся мухі. Твар яшчэ болей зарос рыжым, з сівізною, шчаціннем, і гэта мяне вельмі ўразіла: няўжо Аўхім учора, калі я падпаўзаў да яго, быў жывы? А як выцягнулася ў яго шыя, якая яна стала тонкая і доўгая! Як параспухалі, панабрынялі рукі, парабіліся нейкія тоўстыя, плямістыя!..

Прыгнуўшыся, каб не чапляцца галавою за голле, я прайшоў па садзе да пограба, адкінуў дзверцы, якімі быў учора прычыніў лаз, і скокнуў у цемру. І ў першую хвіліну разгубіўся: у пограбе зноў былі тыя самыя сабака і кот — сабака дагрызаў сцягно, якое вывалак учора з кубла, а кот неяк ухітрыўся абярнуць гладышку і цяпер злізваў разлітую па доле смятану. Як толькі я ўскочыў у пограб, сабака і кот шмыганулі ў норы: кот — у тую, што выходзіла з-пад зямлі ў падпечак, а сабака — у тую, што вяла за хлеў.

«Яны паабарачаюць, расцягаюць тут усё,— падумаў я,— калі не пазатыкаю чым-небудзь дзірак... А нам жа з мамаю трэба будзе жыць. І гэтая яда, адзежа вельмі згодзяцца. Дзе мы што возьмем?.. У нас жа ўсё пагарэла...»

Я абышоў зноў сцены пограба і неўзабаве намацаў дзве плашкі, зусім такія, якімі абкладзены сцены; імі — пра гэта няцяжка было здагадацца — мусіць, Аўхім прыкрываў свае лазы. Я ўзяў адну плашку, потым другую, прыклаў іх да дзірак — плашкі закрылі норы так шчытна, што нідзе не заставалася і шчылінкі. Каб плашкі не пападалі, каб іх нельга было лёгка зрушыць з месца, я прываліў іх яшчэ і камянямі, што, мусьці ляжалі таксама ў пограбе,— ці не прывальваў імі норы і сам Аўхім?

Потым сеў на засланую посцілкай пасцель. Ад яе — цяпер я пачуў — вельмі ж патыхала прэллю: відаць, салому і сена Аўхім нацягаў у пограб даўно і з таго часу ні разу не здагадаўся іх памяняць...

Пограб быў сухі, цёплы. У ім можна было нават жыць.

«А што,— вёў свае думкі я далей,— чым меў бегаць ды валачыцца па полі, дык лепей атайбавацца тут... І на выпадак дажджу добра будзе, і нават калі мяне хто падпільнуе, то тут не зловіць. Ёсць норы, праз іх уцячы льга...»

Я разаслаў паверх посцілкі бацькаў кажух, дастаў з кубла штыгаль сала, адламаў ад той кулідкі, што і ўчора, кавалак хлеба, паставіў перад сабою гладышку малака і пачаў снедаць... Цяпер я не баяўся, што ў мяне будзе балець жывот, што мяне кіне зноў у пот ці агорне слабасць,— еў доўга, са смакам, аж пакуль не здаволіўся. Малако, праўда, было ўжо нясмачнае, яно

перакісла і заплеснела. Давялося гладышку адставіць убок і ўзяцца за яечкі, запіваць імі сваё снеданне.

Пахадзіў па паграбе, паглядзеў, што стаіць у кожнай бочцы. У дзвюх было крута пасоленае сала.

«Глядзі ты, дзе Аўхім і соль тую браў? У нас жа нават бульбы не было чым у гаршку пасаліць»,— падумаў я.

У кубельцы, адзін на адным, ляжалі кумпякі. Мяса ў торбах і некалькі лычкаў каўбасы віселі пад столлю, на круку. Дзяжа была поўная мёду, а ў тых бочках, што падпіралі куты, моклі ў расоле яшчэ леташнія гуркі, качаны капусты... Апрача гэтага, у паграбе было некалькі скрынак і кашоў з сырамі, яйкамі, хлебам...

«Навошта Аўхіму трэба было мець у паграбе столькі яды? Няўжо ён збіраўся тут доўга жыць? І чаму, чаму ён засіліўся?..»

Пытанні адно за адным узнікалі ў мяне ў галаве, і ні на адно з іх я не мог нічога пэўнага адказаць...

Калі я вылез з пограба, зачыніўшы яго гэтак жа, як і ўчора, сонца паднялося ўжо над сухім дубам, што бялеў голым, аблупленым голлем ля грэблі, непадалёку ад той дарогі, што вяла ў мястэчка. Дзень і сёння абяцаў быць пагодлівым, такім, як і ўсе папярэднія дні. На небе не было ні хмурынкі, ні воблачка. Можа, таму і само неба здавалася нейкім асабліва высокім, блакітна-матавым, аж сінім. Адзінока і сумна кружыў, плаваў, няўлоўна памахваючы крыламі, бусел — ці не гэтак жа, як і я, шукаў хоць каго са сваіх, спадзяваўся, што, можа, той яго блізкі, каго ён шукаў,— уратаваўся, ацалеў як-небудзь, калі гарэла разам з хлявом гняздо,— і цяпер ён кружыў, чакаў, што вось-вось той узмахне крыламі, падымецца ў паветра. І тады... Што тады?.. Ах, навошта думаць, навошта ўяўляць, што будзе тады... Каб толькі той, блізкі, дарагі, быў жывы, каб ён замахаў крыламі, падаў адкуль-небудзь свой голас!..

Глыбокая, амаль што паўдзённая цішыня глухла над вёскаю.

Ад пограба я папраставаў па градах, на якіх кусцілася морква і ўжо гарэлі жоўтым цветам гуркі, да свайго селішча, адзначыўшы, між іншым, сам сабе,

што маці мая ніколі не рабіла ў двары град — садзіла гародніну лета ў лета за хлявом, бліжэй да кружка крушынніку, дзе быў чарназём і дзе заўсёды, нават у сушу, трымалася вільгаць. Густы дашчаты плот, што адгароджваў Аўхімава селішча ад нашага, згарэў амаль да самай студні, ад яго асталіся стаяць толькі чорныя, абсмаленыя слупы ды дзе-нідзе папрыбіваныя да слупоў цвікамі-маставікамі галузы жэрдак. І я, не выходзячы на вуліцу, даволі лёгка і скора дапаў да свайго дрывотніка, да той калоды, на якой мы некалі секлі дровы і на якой я чамусьці ўпадабаў сядзець заўсёды, калі б ні прыходзіў на сваё селішча.

Маці ля пажарышча не было.

Не было нідзе відаць і нічыіх слядоў, акрамя маіх.

Чорны, закопчаны чыгунок з салонікамі, накрыты скавародкай, стаяў там жа, на загнетцы, перадпеччам. Стаяў гэтак жа, як і тады, калі я прыйшоў да пажарышча свае хаты і ўпершыню яго ўбачыў. Ніхто не падыходзіў да печы, ніхто не браў чыгунка. Адзін толькі я. Мае сляды, босыя, малыя, усё яшчэ значны былі ў попеле.

На абваленым коміне, на самым яго версе, на разламанай напал цагліне, сядзела ластаўка. Чорныя прасінкі яе вачэй з цікавасцю глядзелі на мяне, нібы ластавачка сілілася пазнаць: той гэта хлапчук, што некалі лазіў у яе гняздо — яно было зляплена з гразі і шумавіння ў застрэшку нашай хаты — ці не той. Што ёй трэба было, гэтай ластавачцы, тут, на нашым селішчы? Няўжо і яна каго шукала, няўжо спадзявалася ўбачыць сваіх пісклятак, што былі вывеліся перад самым пажарам і, пэўна, згарэлі разам з нашаю хатай? Хаця... Ці магла яна, птушка, зразумець, што здарылася з нашаю хатаю, з усёю вёскаю, з маленькімі яе піскляткамі?

«Не толькі ў мяне гора... А і ў таго бусла, што ўсё кружыць і кружыць у паднябессі... І ў той ластавачкі... Ва ўсіх, ва ўсіх, хто жыў у нашай вёсцы...»

Прыгадалася: я залез на пясочнік нашае хаты і паціху, каб не чула маці — яна акопвала ў гародзе бульбу,— аддзіраю ў шаляванні дошку, каб можна было прасадзіць у шчыліну руку і дастаць ластаўчына гняздо. Вось дошка і ададрана, вось ужо я высунуў з шалявання руку і цягнуся да ластавянятак. І трэба ж тако-

му здарыцца, што акурат у гэты самы час нечага ідзе ў хату маці. Убачыла маю руку і раскрычалася, пачала мяне сарамаціць: маўляў, я такі вісус і займаюся абы-чым... Мне зрабілася ніякавата, не па сабе. І я, злезшы з пясочніка, доўга блукаў па вуліцы, усё ніяк не мог асмеліцца паказацца маці на вочы... А калі нарэшце зайшоў у хату, маці нават і слова не сказала пра ластаўчына гняздо, нібы баялася напамінаць пра тое, у чым я раскаяўся ўжо і сам,— загаварыла зусім пра другое: пра сена, што трэба неяк назапасіць карове на зіму, пра нейкіх падазроных людзей — ці не цыганоў? — якіх нехта бачыў у Шапчынскім бары, калі хадзіў туды рэзаць луцце...

Як я ўдзячны быў тады маці, што яна змоўчала пра маю дурноту!..

«Дзе яна цяпер, мая мама?..» — падумаў я і тут жа зразумеў, што, пра што б я ні думаў у гэтую хвіліну, я ўсё роўна буду думаць пра маці. Адагнаць думкі пра яе мне не ўдасца, нават калі б я таго і хацеў...

«Калі яна жывая, то чаму ні разу не прыйшла на сваё селішча? — закралася ў самае сэрца зноў трывога, неспакой. Але я адагнаў ад сябе гэтыя думкі.— Яна баіцца ісці ў вёску, думае, што тут немцы...»

«А можа яна ў Замошках? — прыйшло раптам у галаву.— Можа яна шукае мяне тамака, а не ў Рудні? Адкуль яна ведае, што я прыбег з Замошак сюды?.. Канечне, адкуль яна гэта ведае?.. І можа праўда шукае мяне там, у Замошках? Я ж там, у цёткі Лісаветы, начаваў, а не тут...»

«Як я не падумаў пра гэта раней! — папракнуў я сябе.— Можа б быў ужо з мамаю, не шукалі б адно аднаго, як цяпер... Былі б разам...»

«Але ж Замошкі таксама згарэлі...» — успомніў я, як бегаў ад вёскі да вёскі ў той дзень, калі немцы палілі нашую Рудню, і ўсюды бачыў агонь, дым...

«То не Замошкі гарэлі,— упершыню ўсумніўся я.— Гэта гарэла нашая вёска, а мне падалося, што немцы падпалілі Замошкі. І я бегаў не з Рудні ў Замошкі і не з Замошак у Рудню, а вакол Рудні... І бачыў не два пажары, а адзін і той жа...»

«Усё можа быць,— згадзіўся праз хвіліну я са сваімі думкамі.— Я быў вельмі ўстрывожаны, узрушаны...

Мне здавалася тады, што гарэла ўсё наўкруг, гарэў увесь свет... А са страху ўсё можа здацца...»

І чым болей я ўспамінаў той дзень, тым болей верыў сабе: гарэла адна нашая вёска і я бегаў вакол яе.

«А Замошкі цэлыя... Іх ніхто не паліў... І маці мая недзе там, і, мусіць, удваіх з цёткай Лісаветаю шукаюць мяне...»

«Як я не дадумаўся раней да гэтага, чаму дасюль не схадзіў у Замошкі!.. Хутчэй, хутчэй туды!..»

Мо праз якую гадзіну я быў ужо ў Замошках.

О словы, словы!.. О багатая і ў той жа час такая бедная людская мова!.. Як перадаць мне тое хваляванне, тую трывогу, надзею і чаканне, з якімі я выходзіў з дубняку на замошкаўскае поле, з якімі я ступіў на сцежку, што вяла да Лісавецінай хаты. Што, што ўбачаць мае вочы, калі я падымуся на пагорак?.. Будзе рыжэць між зяляніны гародаў і высокіх, вастраверхіх таполяў чаратовая страха ці зазеўрае, зачарнее непраўнай, страшнай праўдай пажарышча?.. Абрадуюся я, што жывыя цётка Лісавета, Уладзік, што ў іх схавалася ад смерці мая мама, ці давядзецца паверыць, гэты раз канчаткова, назаўсёды, што няма болей нідзе ніякіх Замошак, няма цёткі Лісаветы, Уладзіка, няма маёй мамы?..

Вось тая груша-дзічка, ля якой я стаяў у той ранак, калі прыехалі ў Замошкі немцы, і глядзеў, як яны борзда выкульваюцца з кузаваў грузавікоў, рассыпаюцца ланцужком па полі і, трымаючы напагатове аўтаматы, бягуць акружаць вёску... Вось дубок, нізенькі, кашлаценькі, ля якога я пачуў гурчанне танкетак і матацыклаў і спыніўся насцярожаны... Вось другі дубок, асінка — тут я азірнуўся і апошні раз убачыў цётчыну хату...

Сэрца маё як не разрывалася. Яно білася, тахкала ў грудзях так, што здавалася, не вытрымае і выскачыць.

Крок... Яшчэ крок...

Я паднімаю галаву, гляджу туды, дзе зелянеюць тры высачэзныя, вастраверхія таполі і дзе...

Лісавецінай хаты няма.

Няма!

Там, дзе стаяла яна, чарнее, нібы немаведама кім выкапаная яма, пажарышча...

Не відаць і таго новага смалістага зруба, які радаваў мяне заўсёды, калі б я ні ішоў у Замошкі, што жаўцеў праз паплавец з расцяробу... Не відаць і другіх хат...

Усюды, куды ні кінь вокам, чарнеюць, сівеюць пажарышчы, папялішчы ды стаяць белыя, закураныя, напаўразбураныя печы, прыхопленыя агнём дрэвы, сады...

Не помню, як я спусціўся з пагорка, як збочыў у разору, што вяла ў цётчын двор... Помню толькі: картаплянік на загонах аж белы ад попелу. І я доўга, упарта думаю, адкуль мог узяцца тут гэты попел, пакуль нарэшце не здагадваюся: мусіць, калі палілі немцы цётчыну хату і хлеў, сюды, на поле, быў вецер... І ці не ён, гэты вецер, нанёс у бульбу попелу, бо чым бліжэй я падыходжу да двара, тым попелу ўсё болей і болей. Ён усцілае ўжо не толькі лісце, але бялее шараватым пылам і на полі, на каліўі... І ўсюды, тут і там, у картапляніку, ціха шамаціць чорнае, скурчанае лісце...

«Адкуль яно?..»

Я акідваю вачыма цётчына селішча — тыя тры старыя таполі, што высока падымаліся ў двары над хлявом і хатай, толькі здалёку ўдавалі зялёнымі. Зблізку ж яны амаль голыя. Пагарэла на іх не толькі лісце, але і дробныя галінкі, кара... Хлеў згарэў увесь, нават сохі. Пагарэлі і платы, вароты, веснічкі... Зеўрае чорнай задымленай засланкай на папялішчы печ, чарнее абсмаленае шула. Тое новае шула, што быў укапаў перад самым адыходам на вайну Пятро Анісімавіч... Шула было свежае, сырое і вельмі цяжкае. Каб падняць яго і паставіць, памагаць хадзілі ўсёй сям'ёю мы — бацька, маці, дзед. І дзед не вытрымаў быў, спытаўся, навошта Пятро Анісімавіч закопвае гэтае шула на старым селішчы — новая ж хата амаль гатовая.

— Прызнацца, і сам я толькі што пра гэта падумаў,— сказаў Пятро Анісімавіч.— Ды ладна ўжо, абарачаць не будзем...

І, узяўшы ў рукі жалязняк, ён пачаў прысыпаць шула зямлёю...

«Чаму тут усё так пагарэла?..»

Я ступаю крок, другі наперад — і на пажарышчы, дзе стаяў раней хлеў, бачу чалавечыя чарапы, косці... Голыя, чыстыя, як усё роўна на тым шкілеце, што горбіўся некалі ў калідоры нашай школы...

«Значыцца, я не памыліўся — то гарэлі і праўда Замошкі... Не, я не мог тады памыліцца... Божа мой! Што ж гэта робіцца?.. Доўгі Мох немцы спапялілі... Спапялілі маю Рудню... Спапялілі Замошкі!.. Чаму яны так лютуюць, чаму так бязлітасна паляць усё — хаты, хлявы, людзей?.. Хто, хто прасіў іх, вылюдкаў, прыязджаць у Замошкі, у маю Рудню, прыходзіць наогул сюды, на нашу зямлю? Што ім трэба тут?.. За што, за што яны спалілі цётку Лісавету, Уладзіка, маю маму, Доўгі Мох, Рудню, Замошкі, спалілі гэтулькі людзей?.. За што?.. За што-о?..»

Я ашчаперваю галаву і, не бачачы перад сабою нічога-нічога, іду прэч ад цётчынага селішча, іду туды, куды вядуць мяне самі мае ногі...

---

Усё паўтараецца на гэтым свеце:
Вясна і восень, лета і зіма...
Дзень зменіць ноч. І напрадвесні
Там, дзе расла, зноў вырасце трава.

І воля будзе дужацца з няволяй.
Па землях міру прагрыміць вайна...

І толькі ты ды я не паўтарымся болей.
Жыццё адно, і смерць у нас — адна...

---

Здарылася гэта ў звычайны летні дзень у звычайным лесе. І не тое, каб надта раптоўна, употайкі, а ва ўсіх навідавоку. І пра тое, што можа нешта здарыцца, ніхто і думаць не думаў, і гадаць не гадаў... Дый як было пра гэта думаць, калі ніадкуль не павявала ветрам, калі на небе не было нідзе ні хмурынкі, калі ўсюды так галасіста пелі, высвіствалі птушкі, бомкалі чмялі, бзыкалі авадні, мухі, цененька-цененька звінелі камары, мошкі... Усё весялілася, радавалася сонцу, цёпламу, ціхаму летняму дню, і нікому і ўпамкі не было, што можа нешта здарыцца. А між тым яно здарылася... І пачалося не адкуль-небудзь, а з самога лесу, з той

мясцінкі, дзе міргала, скакала, заляцеўшы невядома адкуль, Іскрынка. Кожны ж быў заняты сваім: дрэвы, натаміўшыся за ноч, адпачывалі ў паўдзённай млявасці, звяры палявалі, птушкі шукалі корму дзецям, кветкі цвілі, травы раслі...

Іскрынка ж тым часам таксама не драмала — займалася сваім.

— Хто хоча быць такою, як я? — пыталася яна ў сухой іглiцы і лісця, якімі быў спрэс усланы дол.— Ці вы і далей будзеце ляжаць на зямлі, будзеце гнісці, цярпець, калі па вас ходзяць, калі вас топчуць, калі вас ніхто за дабро не лічыць? А ну пайшлі са мною, мы яшчэ пакажам усім, чаго мы варты!

Хто не хоча, каб па ім не хадзілі, каб яго не тапталі? І лісце, іглiца, вядома, хоць яны і не патрэбныя нікому былі, сухія, а ўсё ж нечага другога хацелі, як на зямлі ляжаць, пад чужымі нагамі подсцілам быць. Пайшлі яны за Іскрынкай туды, куды яна клікала іх ісці. І сталі Агнём.

— Хто хоча быць такім, як я? — зашугаў Агонь, падбягаючы да сухіх галінак, пнёў.— Ці вы і далей будзеце гнісці, будзеце цярпець, каб вас кожны таптаў, кожны зневажаў? А ну пайшлі са мною, мы яшчэ пакажам усім, чаго мы варты!

Не ведалі галінкі і пні, што з імі станецца, калі яны з Агнём пойдуць, бо Агонь усё, што пасля сябе пакідаў, дымам засцілаў густым, каб ніхто таго не бачыў. Пайшлі галінкі і пні з Агнём.

Пачулі пра гэта травы, кусты, дрэвы. Зашапталіся:

— Што вы робіце? Адумайцеся! Агонь жа вас усіх паесць, а тады і нас пачне жэрці. Хіба вы гэтага не бачыце?..

— Гэта яны ад зайздрасці так шумяць. Ачысцім нашу зямлю ад кустоў, траў! — загалёкаў на ўвесь лес Агонь.— Ачысцім, каб яны не закрывалі нам сонца, каб яны не плявузгалі пра нас абы-чаго, не абражалі!

І ну падпякаць дрэвы, кусты, траву, ну іх сушыць, паліць. Каторыя дрэвы таўсцейшыя ды вышэйшыя былі, тыя асталіся, агонь рады ім не даў, хоць і карэнні сям-там пагрыз, камлі абсмаліў. А каторыя маладзейшыя — не ўстоялі, здаліся Агню, самі Агнём зрабіліся.

Убачылі звяры, птушкі, казяўкі, казюркі розныя, што ў лесе робіцца, кінуліся ўцякаць хто куды...

А Агню толькі і трэба было гэта.

— Я ўладар усяго жывога! — зароў, п'янеючы ад улады, Агонь.— Дужэй за мяне нікога на свеце няма! Што захачу, тое і зраблю! — і ўжо нават не пытаўся, хоча хто з ім ісці ці не хоча,— хапаў кожнага, хто быў у яго на дарозе, і паліў яго, жор...

Ніхто не мог спыніць Агню, бо Агонь перастаў ужо быць проста Агнём, а зрабіўся Пажарам. Ён паглынаў не толькі маладзенькія дрэўцы, кусты, а валіў, вываротчваў з карэннямі сосны, бярозы, векавыя дубы...

— Пажар! Пажар! — галасілі птушкі.

— Пажар! Пажар! — крычалі звяры.

— Пажар! Пажар! — гулі чмялі, мухі, мошкі.

І ляцелі, беглі хто куды — уцякалі ад Пажару. Ведалі: спыніць яго нельга, а паміраць не хацелася. Усё жывое як магло ратавалася...

І толькі адна вечная працаўніца Вада ціха булькала сабе ў берагах ды слухала, што крычаў усюды хвалько-Агонь. Хто-хто, а яна добра ведала, што Пажар ніякі не ўладар, што ён дужэе, калі ёсць што есці, калі ён ідзе, сунецца наперад. Варта ж толькі перагарадзіць дарогу, не пусціць, каб ён ішоў далей, і ён упадзе, аслабне і патухне.

І Вада, бачачы, як п'янее ад улады і ахвяр Пажар, як ён нішчыць усё жывое, не сцярпела — целам сваім, ракою, перагарадзіла яму дарогу.

— Гэта ты мяне хочаш стрымаць? — зароў ад злосці Пажар.— Хто ты? Ды я цябе высушу, я цябе выпару!

І давай сушыць, давай выпараць Ваду.

Толькі высушыць ды выпарыць Ваду Пажару не ўдалося. Вада ўсё прыбывала і прыбывала. Сілы ў яе не меншала, а большала. Мала таго, што яна далей шугаць па лесе Пажар не пусціла, дык яшчэ і, выпараная, у небе ў хмарку сабралася, дожджыкам спорным на зямлю лінула...

І патушыла Пажар...

Але перш чым яна зрабіла гэта, колькі лесу загінула, вуголлем, попелам стала!..

---

Дадому, у сваю вёску, я прыбіўся толькі назаўтра. Дзе я блукаў увесь гэты час?.. Што рабіў?.. Ані нічога не помню...

Быў поўдзень. Сонца стаяла ўжо высока, ледзь не ў самым пуку неба, і пякло, пякло гэтак жа, як і ўчора, як і пазаўчора, як і тыдзень таму назад. Вяў і нікнуў долу картаплянік, бялела, палавела, не наліўшы коласу, на пагорках жыта. Зямля сохла і трэскалася, рабілася гарачая, бы прысак, і сыпучая, як пясок. У чыстым, бясхмарным паднябессі, якое нібыта выцвіла і абясколерала, кружыў коршак. Час ад часу, пралятаючы над полем, ён паныла прасіў ціхім, засмяглым голасам: піць, піць, піць... І здавалася, разам з ім прасіла піць усё на свеце: поле, дрэвы, трава...

Піць, піць, піць!..

Праз свае соткі я даваloкся да хлевішча, на якім чарнелі абсмаленыя сохі, што кожны раз, калі б я ні праходзіў міма, палохалі мяне сваім падабенствам на абгарэлыя, сашчэпленыя ў кулакі рукі, якія цягнуліся ўверх, у неба, нібы некага прасілі ці заклінаі. Не спыняючыся, не прыслухоўваючыся, дзе што робіцца ў вёсцы, я папраставаў у Аўхімаў двор, да пограба — голад ужо даўно смактаў мяне, і яго трэба было чым-небудзь прагнаць, заглушыць.

Падышоў да плота, правільней — да той дзіркі, якую зрабіў надоечы, адарваўшы дошку, прасунуў галаву і паглядзеў на грушу-дзічку, на суку якой засіліўся Аўхім....

Аўхіма на грушы не было. Звісала толькі вераўчаная пятля. Сам жа Аўхім ляжаў у картапляніку, і я з жахам убачыў, што ён без галавы... Не, галава была, але яна ляжала крокі за два ад Аўхіма, асобна. Валасы адваліліся ад яе разам са скураю, і з-пад іх відзён быў голы чэрап... Па ім поўзалі вялікія белыя чарвякі, мухі... Чарвякі, мухі капашыліся і ў ямках вачэй, у роце, яны поўзалі і па расхрыстанай, уздутай грудзіне, па руках, нагах...

Непрыемны, прытарны пах стаяў навокал, біў у нос, давіў горла...

Усім сваім целам я падаўся назад, у дзірку. Закрыў яе за сабою дошкаю і, заціскаючы рукою нос, абкружыў грушу як мага далей па сваім селішчы — намерыўся прабрацца да пограба тудою, кудою ішоў на

дрывотнік учора ўранні: праз спалены плот, што ля калодзежа. Я наблізіўся да таго месца, дзе мы заўсёды ўвосень закопвалі капцы, і тут раптам мяне спалохаў нейкі падазроны, прыглушаны стук, што чуўся з Аўхімавага пограба, з-пад зямлі.

«Няўжо туды зноў залез сабака? — падумаў я.— Але ж я пазавальваў быў там усе дзіркі... Кудою ж ён, той сабака, туды забраўся?..»

Я ступіў яшчэ колькі крокаў да пограба і насцярожыўся болей: нейкая валтузня і тупат чуваць былі і з вуліцы. Прыгледзеўся: ля Аўхімавага двара стаяў запрэжаны ў калёсы буланы конь. Пад мордай у каня ляжала зялёная прывялая дзятлавіна, але ён не еў: каня апанавалі мухі і авадні, і ён, бедны, бараніўся ад заедзі як толькі мог — біў у зямлю капытамі, махаў, хвастаў сябе раз-пораз хвастом, сцепаў скураю, пырхаў...

«Адкуль узяўся тут гэты конь? Хто на ім прыехаў?..»

Я паваліўся, як рабіў ужо неаднойчы, калі чуў непадалёку небяспеку, у картаплянік — балазе, ён парос на нашым двары высокі, густы, аж буяў — так гнаў яго, мусіць, той гной, што навыносілі мы з маці ўвясною кашалямі са свінушніка,— і папоўз назад, у канец нашых сотак, да кружка крушынніку. Але адлежацца там доўга мне не ўдалося: цікавасць брала сваё. І я, трохі счакаўшы, папоўз зноў да Аўхімавага двара. Праўда, цяпер ужо не адтуль, дзе было наша аселішча і дзе расла груша-дзічка, а з другога боку, адтуль, дзе Аўхімаў двор межаваўся з дваром лесніка Яўмена і дзе быў пракапаны глыбокі, амаль у мой рост, раўчак. Па ім, гэтым раўчаку, вясною сплывала з кружка і з суседскіх сотак вада ў алёс. Летам раўчак высыхаў, густа зарастаў плюшнікам, шылегам, асакою, блёкатам, і мы, дзеці, каторы раз рабілі па ім імклівыя, патаемныя і скрытныя налёты ў сад да Аўхіма ці да дзядзькі Яўмена.

Па раўчаку я дапоўз да раскошнага куста маліннiку, што рос поблізу, акурат на мяжы, і адкуль добра відаць былі пограб і конь, што, прывязаны лейцамі да шула, усё біўся, гупаў капытамі, баронячыся ад заедзі. Схаваўшыся ў маліннік, я пачаў чакаць, калі па-

кажацца невядомы чалавек, што чагосьці прыехаў у нашую спаленую вёску.

Чакаць давялося нядоўга. Прайшло вельмі мала часу, і з Аўхімавага пограба вытыкнулася лысаватая галава. Чалавек паставіў у гарбузнік кош, другі, трэці. Знік на момант у пограбе, потым вытыкнуўся зноў, цяпер больш, ужо да пояса — чалавек даставаў тую дзежачку, у якой, я ведаў, быў мёд. Яшчэ праз нейкі час вылез і сам чалавек — ён быў у чорнай картовай кашулі, цёмна-сініх, з чырвонымі кантамі міліцэйскіх штанах, у ботах. Паправіў за плячыма вінтоўку, узяў у адну руку і ў другую па кашу і панёс іх да воза — кашы былі, відаць, цяжкія, бо ішоў чалавек уроскідку, паволі, вельмі шырока расстаўляючы ногі. Ля воза ён спыніўся, паставіў кашы ў аглабцы, на сена, і, прысеўшы на біла, пачаў перакладваць з іх нешта белае ў бочку, што стаяла там жа, на возе...

«Сала,— здагадаўся я.— Але ж хто, хто ён, гэты чалавек?..»

Вось чалавек скончыў перакладаць сала з аднаго каша ў бочку і ўзяўся за другі... Нешта ў яго не ладзілася, бо ён раптам узлез ботамі на воз, перагнуўся і паглядзеў у бочку... Паправіў нешта там рукамі, саскочыў з воза на зямлю і, павярнуўшыся тварам на гарод, пакіраваўся зноў да пограба, па дзежачку...

Цяпер я пазнаў чалавека — гэта быў не хто іншы, як Гуртавенка. Той паліцай Гуртавенка, якому мы з маці некалі капалі бульбу і які заплаціў нам за работу адзежай, садранай з мёртвых людзей...

«Чаго ён прыехаў сюды? Няўжо толькі дзеля таго, каб палазіць па людскіх паграбах, пазабіраць тое, што асталося, не пагарэла?.. Ды ўжо ж... Чаго ж бо яму яшчэ сюды трэба было ехаць, як не па гэта... Сваё ж, пэўна, ён усё забраў тады, як у мястэчка пераязджаў... Вось гад! Ведаў, што спаляць вёску, і нікому пра гэта не сказаў... А радні ж тут поўна ў яго было, нават бацька і маці жылі... І нікому не сказаць!..» Нядобрыя думкі варухнуліся ў маёй галаве, і я яшчэ пільней пачаў сачыць за Гуртавенкам. Мяне аж перасмыкнула ўсяго, калі я ўбачыў, як Гуртавенка дастаў з пограба цэлае бярэма адзежы і панёс яе да воза. Я калаціўся ўвесь як асінавы ліст: у тым бярэмі я пазнаў бацькаў кажух, той кажух, які я быў знайшоў і які

здуру прыцягнуў назад у папраб: думаў атайбавацца там жыць. Гэта быў ужо нават не кажух, а нешта большае, тое, што не мела сабе цаны,— адзінае, што асталося мне на памяць аб нашай хаце, аб маці, бацьку, дзеду...

«Каб цябе зямля не насіла, як забраў ты насіць той кажух, пакваліўся на наша дабро! — кляў я зусім так, як некалі кляла мая маці, Гуртавенку.— А я ж думаў у Аўхімавым пограбе жыць... Ды каб ён, гад, застаў мяне тут, у пограбе, ён забіў бы... Не пашкадаваў бы... Ого, такі пашкадуе!..»

Я заплакаў... О, каб была ў мяне сіла, каб мог я здужаць тады Гуртавенку! Я кінуўся б на яго, схапіў бы за горла і душыў бы, ірваў бы рукамі і зубамі, аж пакуль ён не перастаў бы дыхаць, пакуль не ўпруцянеў бы...

А так што я, дзіця, мог зрабіць з ім, мужчынам! Да таго ж, у яго была вінтоўка. У мяне ж нічога не было. Толькі голыя рукі...

І таму я ляжаў у малінніку, глядзеў, як носіць, грузіць Гуртавенка на свой воз Аўхімава дабро, і ад бяссілля і злосці скрыгатаў зубамі. І плакаў...

Калі Гуртавенка, наладаваўшы гэтак воз, што яго ледзьве скрануў з месца буланы конь, паехаў з вёскі, я ўспомніў зноў пра тую вузляку адзежы, якую прынёс быў нам Гуртавенка за тое, што мы выбіралі бульбу, і якую маці, нават не развязаўшы, не паглядзеўшы, што там, закапала ў гародзе, за хлявом. І падумаў: «А калі адкапаць тую вузляку? І прынесці яе сюды, на Аўхімава селішча?.. Можа прыедзе Гуртавенка і заўтра сюды лазіць па чужых паграбах, то хай бы забраў яе назад сабе... Можа спатрэбіцца яна яму, можа ёю ён некаму яшчэ раз заплаціць за нешта?.. Хай ведае, гад, што мы не пакваліліся на яго плату, не насілі той адзежы...»

«Гэта ж трэба, каб жыў у нашай вёсцы такі нягоднік! — аж калаціўся, кіпеў я ад злосці.— Тады, да вайны, бегаў штодзень па хатах, падаткі збіраў... Шчыраваў як бы, за дзяржаўнае дабро клапаціўся... А на душы ў яго вунь што!..»

Я вылез са сваё схованкі, выбег на вуліцу. І ўбачыў: Гуртавенка, аказваецца, нікуды ад Аўхімавага селішча далей і не ездзіў. Наладаваў поўны воз розна-

га дабра тут. Нават да школы не схадзіў, не паглядзеў, што зрабілі немцы з нашымі людзьмі — з суседзямі, сваякамі, яго бацькам і маці...

«О гад! О нелюдзь!» — доўга не мог супакоіцца я.

А як толькі падвода з Гуртавенкам выехала на дарогу, што вяла ў мястэчка, і схавалася за грэбляю, я пайшоў на свой гарод шукаць той ямы, дзе маці закапала Гуртавенкаву плату. Проста рукамі разгроб зямлю, выцягнуў з ямы вузляку з адзежай — адзежа яшчэ не згніла, была цэлая, толькі ад яе вельмі патыхала прэллю. Я сяк-так узваліў вузляку на плечы, вынес яе на дарогу, да таго шула, дзе нядаўна стаяў з падводай Гуртавенка, і шпурнуў у пясок. І толькі тады, атрэпаўшы рукі, пайшоў прэч ад Аўхімавага селішча...

Назаўтра, у поўдзень, я прыйшоў да Аўхімавага двара, каб паглядзець, ці не прыязджаў у вёску Гуртавенка, ці не забраў той адзежы, якую ён наздзіраў недзе з мёртвых людзей і якою быў заплаціў нам за работу...

Адзежа ляжала там, дзе я яе і пакінуў. Да яе ніхто не падыходзіў, ніхто не браў...

Ляжала таксама, ля шула, цэлая, некранутая, яна і напаслязаўтра... Але гэта не ад таго, што Гуртавенка гідзіўся яе і абмінаў. Каб ён бачыў тую адзежу ці хоць ведаў, што яна тут ляжыць, ён бы прыехаў па яе, забраў бы. Ва ўсякім разе, мне думалася, што ён зрабіў бы менавіта так...

Як жыць, што рабіць мне было далей?..

Дзень у дзень я зноў блукаў, непрыкаяна, без усялякай мэты сноўдаўся па лесе, па полі, па спаленай вёсцы, нідзе не знаходзячы сабе ні спакою, ні прыстанішча. Страшэнны сум і дзікая, проста невыносная адзінота гнялі, давілі мяне. У галаву лезлі думкі, адна змрачнейшая за другую. Усё, што б я ні ўбачыў, што б ні трапіла на вочы, наганяла жуду, адчай. Вось праляцелі над маёю галавой некуды галубы. Трое, з поля,— ён, яна і, пэўна, іхняе дзіця. І я думаў, што пройдзе нейкі час — і яны будуць дома, у сваім дупле... Усе, сваёю невялічкай сям'ёю... Прапархаў, пранёсся, нібыта падняты ветрам шматок белай паперы, матылёк. І я ўжо зайздросціў яму: ён таксама некуды

паляцеў туды, куды яму хочацца... Па зямлі бегла, цягнула нейкую труху маленькая рыжанькая мурашка — і я зайздросціў ужо ёй: ёй таксама некуды трэба спяшацца, нешта трэба рабіць. І яна спяшаецца, робіць... Усё-ўсё некуды спяшаецца, ляціць, бяжыць, нешта робіць... І толькі адзін я нікуды не спяшаюся, нічога не раблю — мне нічога нідзе не трэба. Бо ў мяне няма больш дамоўкі, няма сям'і, наогул — нікога і нічога нідзе няма. Я адзін. Адзін у бязмежна вялікім і такім неўладкаваным, беспрытульным свеце. Навошта блукаць мне дзень у дзень па полі, па лесе, па спаленай вёсцы?.. Навошта бачыць пажарышчы, папялішчы, разбураныя, закураныя печы, абгарэлыя платы, дрэвы?.. Навошта думаць, уяўляць, як выглядала ўсё да пажару?.. Навошта?.. Жыць... Дзеля чаго жыць?.. Вось прайшоў адзін дзень, і заўтра прыйдзе новы... Што ён дасць мне, чаго наваражыць? Зноў я буду сноўдацца, зноў буду блукаць, сам добра не цямячы, што мне трэба, чаго я хаджу, чаго шукаю... Каб нешта паесці, дзе пераспаць?.. І гэта толькі дзеля аднаго — каб жыць... Дык навошта ж яна, жытка такая?.. Вол цягне цяжкі воз, але ён ведае: прыйдзе час, ён давязе воз да млына ці да двара — і яго выпрагуць, ён адпачне... А хіба зменіцца што хоць калі ў маім жыцці, хіба прыйдзе такі дзень і час, што мне будзе лягчэй? О мама, мама! Навошта нарадзіла ты мяне на гэты свет, навошта люляла, ночай недасынала — усё хацела, каб я жыў, каб рос дужы, прыгожы, разумны? Нічога-нічога ты не ведала, ні пра што, ні пра што не здагадвалася... Нашто цяпер мне сіла тая, калі яе няма каму паказаць?.. Нашто прыгажосць мне тая, калі ёю няма каго ўсцешыць? Нашто розум мне той, калі я адзін?.. Нашто мне жыццё? Жыць і ўсё жыццё сваё толькі тое і рабіць, што думаць, успамінаць, што было ў мяне і чаго ўжо няма, няма і ніколі-ніколі не будзе... О!..

І прасіў я Смерць:

— О Смерцю, Смерцейка! Колькі гора ты прыносіш усяму жываму! Але ніхто нідзе не гаварыў яшчэ, колькі прыносіш ты і дабра. Усіх ты пашкадуеш, усіх прыгалубіш, суцешыш, усіх возьмеш да сябе, усім дасі прытулак, вечны супакой... Для ўсіх ты роўная, як

роўныя перад табою ўсе мы. Ты прыходзіш заўсёды да таго, хто цябе папросіць, хто стоміцца жыць, каму зробіцца невыносна цяжка і ад каго адвернуцца жывыя... Прашу цябе, пашкадуй і мяне, прыйдзі, забяры да сябе. Забяры туды, дзе мая мама, дзе мае сёстры, дзед, дзе ўся мая вёска, дзе ўсё, усё-ўсё мёртвае. Ты чуеш, чуеш мяне, Смерцю?

Маўчала Смерць. Не ішла, кашчавая, па мяне...

І прасіў я Зямлю:

— О Зямля, Зямелька! Спрадвечная карміцелька ты нашая! Усяму жывому ты даеш жыццё, усіх і ўсё корміш, поіш... І ўсіх забіраеш да сябе, усім даеш месца, калі замыкаецца круг жыцця, калі канчаюцца чые б то ні было дні на белым свеце і прыходзіць Смерць. Забяры і мяне да сябе, прытулі маё цела, засып вочы мае, забяры туды, дзе мая мама, дзе мае сёстры, дзед, дзе ўся мая вёска, дзе ўсе, усё-ўсё мёртвае. Ты чуеш, чуеш мяне, Зямля?

Маўчала Зямля. Не брала, шчодрая, мяне да сябе...

І прасіў я Ночы:

— О Ноч, Ночачка! Мякка, ціха ходзіш ты па зямлі, сонца, святло, дзень ад усяго жывога адбіраеш, цемраю іх прыкрываеш... Адбяры і ад мяне іх. Бо навошта мне сонца, калі яно мяне не грэе? Бо навошта мне святло, калі на душы ў мяне цёмна, калі вочы мае не бачаць нічога ад слёз? Бо навошта мне дзень, калі ён не нясе радасці? Не ўцякай ад мяне, будзь нада мною заўсёды, як заўсёды ты над маёй мамай, над маімі сёстрамі, дзедам, над усёю маёй вёскаю, усімі, усім-усім мёртвым. Ты чуеш, чуеш мяне, Ноч?..

Маўчала Ноч. Уцякала ад мяне, цёмная, светламу дню дарогу давала...

І тады яшчэ больш страшная, роспачная туга і сумота агарталі мяне. Мне не хацелася ні ісці куды, ні што б там ні было рабіць. Не хацелася нават нічога есці. Цэлымі днямі я ляжаў у полі і, падклаўшы пад галаву рукі, глядзеў на неба. Лёгкі чэрвеньскі ветрык

гайдаў, пакалыхваў жытнёвыя каласы, яны схіляліся нада мною і вусцішна гулі, шапталіся пра нешта адвечнае, сваё. Жаўтаваты, клейкі пылок сеяўся мне на рукі, твар, грудзіну... Я збіраў яго навобмацак наслііненым пальцам, нёс чамусьці сабе ў рот і лянiва, паволі жаваў... Жаваў і думаў, што вайна асірацiла не толькі мяне, але і гэтае вось поле, і лес, і луг, і ўсё-ўсё, без чаго яшчэ некалькі тыдняў назад не маглі жыць людзі, што яны сеялі, садзілі, даглядалі, касілі, куды хадзілі па грыбы, па ягады ці проста так, адпачыць... Бо дзе б я ні быў, дзе б я ні спыняўся — усюды бачыў, як тамілася, пакутавала ўсё без людзей. У лесе гнілі пры самай дарозе сыраежкі, абабкі: іх не было каму браць. У полі зарасталі зеллем проса, жыта, лён: не было рук, якія б іх прапалолі. На лугах палягала трава: не было касцоў, якія б яе скасілі... Усё расло, налівалася, спела, і ўсяму накавана было загінуць, бо яго не было каму даглядаць, убіраць.

Без людскіх галасоў сумавалі палі, глухлі лясы, моўклі ў дурнап'яне квецені лугі...

А неба, якое вялікае, якое высокае і якое чыстае было неба! І каб хаця дзе ці воблачка, ці хмарка, ці нат хмурыначка — нідзе нічога. Усюды, куды ні глянь,— глыбіня, бязмежны светлы блакіт. Толькі зрэдку, і то часцей за ўсё пад вечар, па небе час ад часу праплывалі хмары. Яны былі розныя — то аграмадныя, цёмна-сінія, страшныя, то зусім маленечкія, беленькія, як клубы пары. І плылі яны паволі-паволі, як бы нехаця, кожную хвіліну мяняючы свае абрысы і колер. І я, гледзячы на іх, пазнаваў раптам нашу хату, што вельмі ж яскрава вырысоўвалася ў прасветлінах, сенцы, хлеў.... Потым уява гэтая знікала, хмары сутыкаліся адна з адной, грувасціліся, перамешваліся, і на месцы нашай хаты, сенцаў, хлява, усяго нашага падворка вырасталі нейкія пачвары, страшыдлы — яны біліся між сабою, адсякалі мячамі адно аднаму галовы, рукі, ногі, ірвалі валасы, хапаліся за бароды... Потым знікала і гэта, і неба завалаквала вялізная белаябелая гурба снегу. Але і гурба гэтая не надта доўга грэлася на сонцы — неўзабаве расплывалася, і яе месца займаў рухавы, вёрткі і, па ўсім відаць, вельмі вясёлы, абраслы з галавы да пят сівымі кужэльнымі валасамі стары і такая ж сівенькая, нездаляшчая бабулька. Мі-

нала хвіліна-другая — і яны, гэтыя старыя, дзе і дзяваліся: на небе з'яўлялася нешта новае, яшчэ больш цікавае, загадкавае, зваблівае... Не, ні перад гэтым, ні пасля мне не ўдавалася больш ніколі ўжо бачыць столькі ўсяго незвычайнага, колькі бачыў я тады, у тое лета, у хмарах... Можа гэта ад таго, што я быў адзін, нікога нідзе не сустракаў, ні з кім не гаварыў, і мая фантазія, уява малявалі ўсё, што я страціў і што мне так хацелася бачыць... Ляжаць на полі і глядзець на неба я мог днямі. І гэта мне ніколечкі не надакучала, а наадварот — неяк дзіўна і хораша супакойвала, настройвала на добры лад — мне хацелася жыць і вечна бачыць неба...

Успаміналася маці... І заўсёды амаль адно і тое ж: я ляжу хворы на ложку, ля мяне на падушцы — кулёчак цукерак, булка, два драбкі белага-белага, як снег, цукру... Тут жа, ля ложка, на табурэціку прымасцілася і маці — моўчкі глядзіць на мяне блакітнымі, сумнымі вачыма і ўсё гладзіць рукою па галаве...

Ад гэтае ласкі мне робіцца так добра, што я заплюшчваю вочы і не заўважаю, як засынаю...

Калі я прачынаюся, нада мною густое белае пакрывала з марлі — маці акрыла ім ложак, каб не надакучалі мухі. У хаце ціха-ціха. Чуваць, як бубніць і цяжка бомкае аб шкло, мусіць, заляцеўшы ў хату, чмель. Над самым маім вухам вядзе сваю нудную песню камар. Я паварочваю галаву, хачу злавіць камара і бачу ля сябе, на падушцы, тую пульхненькую, зарумяненую зверху булку, той жа кулёчак цукерак і тыя два бялюткія, як снег, драбкі цукру...

Потым адчыняюцца дзверы, і ў хату заходзіць бацька. Ён у ботах і, выціраючы ногі аб мокрую дзяружку, што паслана ля парога, моцна грукае па масніцы абцасамі. Маці ўсхопліваецца з табурэціка, бяжыць да бацькі.

— Цішэй ты, ён жа толькі што заснуў,— шэптам сварыцца яна на бацьку.— Разбудзіш...

І ад гэтага трывожнага, ласкавага матчынага шэпту, ад таго, што бацька і сапраўды перастае грукаць ботамі і ціха, на адных насочках, крадзецца, бы кот, да ложка, дзе ляжу я, а пасля і зусім садзіцца на табурэцік, на якім толькі што сядзела маці, ад таго, што ад бацькі так весела, так бадзёра пахне смалою і лесам,

мне зноў робіцца лёгка-лёгка. Я заплюшчваю вочы і зноў неўзабаве засынаю...

Гэты выпадак успамінаўся мне часта і так жыва, што я другі раз, ачынаючыся, паварочваў галаву і глядзеў — ці не ляжаць і папраўдзе ля мяне тая зарумяненая зверху булка, той кулёчак з цукеркамі і тыя два драбкі цукру, што была прынесла аднекуль мне маці... Але каля мяне не было нічога — ні булкі, ні цукерак, ні цукру. Была толькі шэрая, перасохлая, пераплеценая карэннямі зямля ды густая, хоць вазьмі ды прыстаў да яе барану, зялёная шчотка жыта...

А то ўспаміналася, як аднойчы на мяне насварыўся бацька. За што — памяць не зберагла. Але за нешта такое, у чым я не быў вінаваты. І гэта мяне так пакрыўдзіла, так раззлавала, што я пакінуў сваю дамоўку, надумаўся ісці ў свет. Куды ісці, мне было ўсё роўна, абы толькі не быць дома, абы не бачыць расчырванелага бацькавага твару, не чуць, як бацька крычыць... Хай нават вадзіць па чужых хатах сляпых старцаў... Вадзіць старцаў нават было б лепей, бо тады хай бы бацька бачыў, як мне цяжка жыць аднаму, хай бы пашкадаваў, што нізавошта на мяне насварыўся... І я, падумаўшы гэтак, пераскочыў цераз паркан, выбег на гароды, за кружок крушынніку, і пасеменіў па сцежцы ў лес...

Быў надвячорак. З балота, з альсоў ужо валокся, поўз па полі туман. Зямля была халодная, волкая, я быў у адной палатнянай кашулі, босы. І я бег, сцінаючыся ўвесь ад холаду, і чуў, як бегла за мною маці і прасіла мяне вярнуцца дадому.

— Ясь, Ясік, вярніся-я! — крычала яна мне ўслед.

Але я нават не азіраўся — бег і бег, уцякаў ад яе ў лес.

У лесе я трохі апамятаўся.

«Што я нарабіў?» — узяў мяне трывожны одум.

Вярнуцца дадому я не мог — не дазваляў гонар: «Не, куды заўгодна, толькі не дадому...»

Ад холаду і золі я калаціўся ўвесь, але дадому ўсё адно не ішоў. Скруціўшыся ў клубочак, я сядзеў у ягадніку і ціха, наўзрыд плакаў...

Плакаў я, мусіць, доўга, бо, калі трохі супакоіўся і падняў галаву, каб агледзецца, дзе я, было ўжо зусім цёмна. Я зірнуў у адзін бок, зірнуў у другі, і на галаве

ў мяне заварушыліся і ўсталі валасы: адусюль, амаль што з-за кожнага дрэва на мяне зырыліся нечыя прагныя, лупатыя вочы і шчэрыліся агідныя, клыкастыя звярыныя морды...

Ад страху я забыўся на сваю крыўду, на тое, што пакінуў дамоўку, каб болей ніколі-ніколі туды не вяртацца,— усхапіўся на ногі і што было сілы прыпусціў дадому...

На падворку я ледзь не збіў з ног маці. Яна стаяла, прыхінуўшыся плячом да пералазу, і плакала. Убачыла мяне, падхапіла на рукі і так, на руках, панесла ў хату, раз-пораз горнучы да сябе, цалуючы.

— Ясічак! Мой Ясачка дома!.. Дома ён!..— прымаўляла яна.

Лес і цяпер палохаў мяне сваёй спрадвечнай дрымучасцю і цёмнай, непрыступнай таямнічасцю нетраў і сховаў. Змрочны, асмужаны, ён абступаў з усіх бакоў поле вакол нашай вёскі і ніколі-ніколі не маўчаў — удзень і ўночы лапатаў лісцем, шумеў, гуў...

У першыя дні, астаўшыся адзін, я доўга не мог прывыкнуць да гэтага цягучага, глухога і бясконцага, як само жыццё, гуду, які то аціхаў, то раптам пачынаў зноў набіраць сілы, голасу і трывогі. Мне ўжо здавалася, што дрэвы гудуць не так сабе, што яны нешта ведаюць, нешта тояць, нешта перадаюць з вуха на вуха, каб, баронь божа, ніхто-ніхто не пачуў іх. Лежачы дзе-небудзь на ўзлеску ці на полі, я глядзеў, як гайдаюцца, гнуцца, прыпадаюць адна да адной вяршаліны, і падоўгу ўслухоўваўся ў іхні гуд, сілячыся даўмецца, пра што ўсё ж шэпчуцца між сабою дрэвы. Але разгадаць таямніцу ляснога шуму мне так і не ўдалося — лес чамусьці хаваў яе ад мяне, ніяк не хацеў расказаць таго, што ведаў, прадчуваў...

Удзень лес поўніўся птушынымі галасамі. Якіх толькі тут не было спеваў! Сумных, скрухлівых, што наганялі нейкі няўцямны жаль, беспрасвецце і жуду і ад якіх аж разрывалася сэрца, і вясёлых, бесклапотных, ад якіх хацелася скакаць, весяліцца і плакаць. Удзень у лесе спявала ўсё, і кожная птушачка, кожны камарык па-свойму, на свой лад, як умелі, нішто не баялася, што яго голас заглушыць нечы другі, мацнейшы. Але, як я заўважыў, птушкі любілі спяваць

асабліва пасля сну, калі наставаў досвітак, відната і калі яшчэ не ўсходзіла, не смяялася ў небе сонца, калі ад яго праменняў толькі залаціўся, барвовеў, нібы ўсміхаўся над лесам усход... Птушыная гамана вісла тады ў паветры, бы ўсё роўна туман, і чуваць была ўсюды, дзе б я ні стаяў...

І пасля гэтага птушыны зграй і згэлк ужо не аціхаў ні на хвіліну цалюсенькі дзень...

Спярша птушыныя галасы для мяне зліваліся ў адно — аднолькава спявалі ўсе дзятлы, усе шпакі, усе дразды, аднолькавыя галасы былі і ва ўсіх берасцянікаў, падшопнікаў, славак, чэкавак... Потым з соцень, тысяч галасоў я пачаў вылучаць знаёмыя. Я ўлавіў, што не ўсе, да прыкладу, слаўкі спяваюць тое ж самае: у песні кожнай з іх ёсць нешта яшчэ і сваё, што адрознівае яе ад іншых славак, робіць яе голас не падобным на іншыя галасы...

І калі выпадкам пазнаваў голас знаёмай мне птушкі, той, якая спявала мне ўчора ці пазаўчора, я радаваўся, нібы спаткаў кагосьці вельмі блізкага, жадомага...

Нішто не прыносіла мне гэтулькі ўцехі і радасці, як ляжаць на ўзлеску, глядзець на неба і слухаць, разбіраць птушыныя галасы...

Але праходзіла гадзіна, другая — і гэта таксама абрыдала, надакучала. І я ўставаў, ішоў шукаць сабе нейкага новага занятку, іншай забавы, каб не так марудна доўжыўся, цягнуўся дзень...

Быў канец чэрвеня, і ночай амаль не было. Сонца ледзь толькі хавалася за стромкія вяршаліны Шапчынскага бору і адразу ж паказвалася зноў, ужо з другога боку — з-за Гудагаю. Проста дзіўна было, як яно паспявала так хутка абабегчы ўсю зямлю і вярнуцца зноў да нас. І зноў сушыла, зноў пякло...

Паспелі чарніцы.

Ідучы неяк па дубняку паўз імшарыну, я ўбачыў, як засівелі яны ледзь не з-пад кожнага лісціка і ад іх цяжару палеглі, папрыгіналіся долу танюсенькія, кволенькія голлечкі. Я адарваў адну ягаду, другую, укінуў сабе ў рот. Якой мілай, знаёмай радасцю павеяла ад чарніц на мяне! Я ўспомніў, як, бывала, хадзілі мы з маці ў лес па чарніцы, як я шчыраваў — не разгінаў-

ся ні на хвіліну, баяўся ўкінуць хоць адну бубачку сабе ў рот — усё стараўся набраць болей ягад, каб перагнаць маці...

А вакол нас, па ўсім ягадніку, па ўсім лесе, таксама бралі чарніцы другія жанкі, дзеці; перагукваліся, крычалі, спявалі... Песні былі ягадныя, старадаўнія, доўгія-доўгія і цягучыя-цягучыя...

Ой, пайду я па лесе, па зялёнай дуброве,
Дзе хадзіла малою, ногі мыла расою...—

пачынала якая-небудзь ягадніца, і голас яе ляцеў, бы на крылах, далёка-далёка, і не слабеў, а нарастаў, набіраў плаўнасці і гучання...

Слёзы пакаціліся ў мяне з вачэй, і туга мёртвым холадам сціснула сэрца — я падумаў, што ўжо ніколі-ніколі больш не пайду з маці ў лес па чарніцы, ніколі-ніколі не пабачу, як узрадуецца яна, заўсміхаецца, калі я набяру поўны слоік ягад і прыйду высыпаць у кашэль, ніколі-ніколі не пачую, як падхопіць маці тую песню, што завяла невядомая ягадніца, як яна ціха-ціха, спачатку напаўголасу, потым усё мацней і мацней будзе падпяваць:

Дзе матуля блукала, шчасце-долю гукала...
— Доля, доля, доленька, ой, як ты далячэнька.
Хто цябе дзе схаваў, мо ў зямлю закапаў...

І лес панясе матчын голас, а я, стаіўшыся, буду слухаць, як ён пераліваецца, звініць і плача, бо «доля-доленька» не ішла, бо «матулечка толькі слёзы ліла», і даражэй за гэты голас, за гэтую песню мне не будзе нічога, нічога ў свеце...

Іншы раз, прачынаючыся ўранні дзе-небудзь на ўзлеску ці ў капе пачарнелай леташняй саломы, я не ведаў, што буду рабіць сёння ўдзень, дзе буду хадзіць, чым буду бавіць час. Выпадковая і зусім нязначная дробязь, што трапляла на вочы, здаралася, адводзіла мае думкі далёка-далёка ўбок, і я ляжаў на траве, падставіўшы ўсяго сябе сонцу, каб яно саграваю, лашчыла мяне сваімі промнямі, і перабіраў, згадваў розныя выпадкі са свайго ранейшага жыцця ў сям'і: то як праводзіла мяне першы раз у школу маці — пасля прызналася, што баялася, каб мяне не пакусалі сабакі,— і ўсё ішла след у след за мною праз усю вёску,

а я азіраўся і чырванеў: мне было сорамна, што вось я, такі вялікі, іду ў школу, а за мною, як хвост, цягнецца маці, і ўсе людзі гэта, вядома, бачаць і, пэўна, смяюцца... То як аднойчы я насіў у лес бацьку есці і заблудзіўся — збіўся з дарогі і, колькі ні шукаў, не мог ніяк на яе натрапіць... Адзінокага, стомленага, мяне падабралі ўвечары ў лесе пастухі і прывялі дадому... І бацька ўвесь вечар навучаў мяне, што трэба ведаць, каб не блудзіць у лесе, каб, калі ўжо здарыцца такое і я заблуджуся, лёгка мог сам знайсці дарогу і па ёй дабрацца дахаты... А цётка Лісавета — яна тады яшчэ не была замужам і жыла пры нас — усё кпіла з мяне, паказвала мне язык: «Вялікі, вялікі, а заблудзіўся ў трох хвоях...» І як пасля, пераадзеўшыся і памыўшыся, я сядзеў за сталом і ўмінаў яду — салонік за салонікам — і запіваў халоднай, толькі што з пограба, сыраквашай...

Баяўся я думаць пра адно — пра яду. Бо ледзь толькі я згадваў, да прыкладу, які смачны варыла маці булён з канапляным семем і грыбамі ці як пахлі ў нашай хаце драні̇кі і скваркі, калі я, бывала, прачынаўся малы,— у мяне адразу ж пачынала ныць, смактаць пад лыжачкай... Я ўсяляк адганяў ад сябе думкі пра яду, а яны, як на злосць, лезлі і лезлі сляпіцаю зноў і зноў у галаву. І пазбыцца іх нельга было ніяк... Звычайна, пра што б я ні ўспамінаў, пра што б ні думаў, канчалася ўсё тым, што я згадваў нейкую яду і пачынаў яе хоць у думках смакаваць...

І я ўставаў, ішоў шукаць, што б можна было паесці...

Бывалі дні, калі, апрача ягад ды сыраежак-баравак, якія ў той год чамусьці пачалі лезці з зямлі вельмі рана (хоць і сухмень была, усё лета стаяла на пагодзе) і якія можна было есці сырыя, у роце ў мяне не было ні макулінкі. Тады я, аблазіўшы яшчэ і яшчэ раз усе засаб паграбы, абышоўшы ўсе гароды і папялішчы і нічога ані там не знайшоўшы, што можна было б спажыць, праставаў да таго дуплянастага дуба, дзе я нагледзеў у першыя дні свайго бадзяння гняздо галубоў. Па кары я ўзбіраўся наверх, на дуб, умошчваўся там на сук, што быў процi дупла, і ўсаджваў у дупло па самы локаць руку. У дупле сядзеў адзін-

адзінюсенькі галубок, і ён, відаць, заўсёды думаў, што гэта лезе да яго не мая рука, а нехта з бацькоў,— хапаў дзюбкаю мяне за палец і кволенька, ціхенька папіскваў. Я браў галубка ў жменю, даставаў на святло. Доўга-доўга глядзеў на яго худзенькую ружовенькую шыйку, на тонкія, з чорнымі кіпцікамі лапкі, на крыльцы, што былі ў мяккім шызым пушку, і ўрэшце садзіў галубка назад у дупло, кожны раз знаходзячы нейкую прычыну, каб не забраць яго і не з'есці: то ў мяне не было агню, на чым бы можна было галубка спячы, то я апраўдваўся перад самім сабой, што галубок яшчэ малы, хай падрасце трохі, то мяне гняло сумленне — маўляў, вось бацькі гадуюць дзіця і не ведаюць, што нехта нагледзеў ужо яго і чакае таго дня, калі галубок падрасце і можна будзе яго зжэрці.

Я злазіў з дубка і ішоў далей, прэч...

Аднойчы, калі я так згаладаўся, што ледзьве перастаўляў ногі і ад голаду мяне вадзіла ў бакі, як п'янага, я сяк-так даваловся да дуба з адною думкай: забраць галубка і з'есці. Усё адно, думаў я, рана ці позна яго нехта з'есць. Калі не тут, у нашым лесе, дык недзе ў другім месцы, на пералётах. Падпільнуе і з'есць. Дык ці не лепей яго пазбавіць жыцця цяпер, калі ён малы і яшчэ не ведае нічога, апрача сваіх бацькоў ды цёплага, такога ўтульнага дупла.

Я ўзабраўся на дуб, усадзіў руку ў дупло. І адчуў, што ў ім няма таго звыклага цяпла, якое было заўсёды: дупло нейкае няўтульнае, сырое. Я абмацаў пальцамі дно, сценкі — дупло было пустое...

І я, хоць хвіліну назад ішоў з адною толькі думкаю забраць і з'есці галубка, быў рады, што галубок, відаць, вырас і ўцёк ад мяне. Інакай я яго з'еў бы, і ён ніколі б не пабачыў, што такое неба, лес, поле, ніколі б не спазнаў, што значыць жыць, лётаць... Я дзякаваў лёсу, што ён прывёў мяне да гэтага дуба ў такім настроі надта позна, тады, калі галубок вырас і пакінуў сваё гняздо. Цяпер яму нішто не пагражала — ён умеў лётаць, у яго былі крылы і неба!..

Пасля ягад і сыраежак назаўтра мяне так муціў голад, што я не ведаў, дзе мне падзецца. Яшчэ задоўга да світання ўсхопліваўся на ногі і бег у вёску. Зноў і зноў блукаў па людскіх гародах, зноў і зноў лазіў

па паграбах — не можа быць, не даваў я сабе веры, каб нічога нідзе не асталося, што можна было б з'есці. Нешта недзе ёсць, быць таго не можа, каб не было, толькі трэба пашукаць, добранька пашукаць...

І я шукаў...

І нідзе нічога не знаходзіў. Паграбы былі пустыя. Тое ж, што там аставалася, пацвіло, паплеснела, згоркла... У гародах таксама нічога ядомага яшчэ не вырасла, не паспела — была акурат тая пара, калі жыта і ячмень налівaліся, а бульба са́ма ўбіралася ў сілу — завязвалася. І я хадзіў ад папялішча да папялішча і збіраў сярод вуголля, там, дзе былі пад хатамі ямы і схованi, старую гарэлую бульбу. Яна была чорная, нясмачная, але я еў яе, набіваў ёю жывот...

Добра, што адразу ж, як толькі паехаў з вёскі Гуртавенка, я здагадаўся злазіць у Аўхімаў пограб і знайшоў там торбачку сала, што чамусьці не забраў, пакінуў паліцай. Мусіць, не ўбачыў. Салёнае сала я прыкусваў да бульбы, і яна не перасядала ў горле, глыталася...

Але ўберагчы гэтае сала ад сабак, катоў і лісіц было немагчыма. Яны знаходзілі яго ўсюды, дзе б я яго ні схаваў — у зямлі, на дрэвах, у паграбах... Звяры не хацелі мірыцца з тым, што я маю яду і не дзялюся з імі, тымі, хто таксама хоча есці. Яны жылі паводле сваіх спрадвечных законаў: калі хто з іх знаходзіў што есці, ён наядаўся ўволю, колькі лезла ў жывот, астатняе пакідаў другому, хто быў галодны.

Я ж быў чалавек.

Змалку мяне прывучылі ашчаджаць яду, не раскідацца ёю, а берагчы: тое, што было лішняе сёння, магло спатрэбіцца заўтра, таму яго трэба палажыць, схаваць...

Звяры ж з гэтым ніяк не мірыліся. Яны, здавалася, толькі тым і заняты былі, каб падпільнаваць, дзе я хаваю сваю торбачку з салам, і зжэрці і яго. І такі падпільнавалі: павесіўшы неяк торбачку на сук таго дуба, дзе было галубовае гняздо, я пайшоў нечага ў вёску. Калі ж я вярнуўся, то не ўбачыў больш сала. Сарокі — а можа і не яны, а так хто — раздзяўблі палатно, і сала вывалілася на траву... Акурат у той час, мусіць, поблізу прабягаў нейкі звер — і ад сала, якое я так бярог, астаўся толькі ўспамін...

Дзён колькі я хадзіў як звар'яцелы, сам не свой і ўсё ўпікаў сябе, усё злаваўся — не мог дараваць, што быў такі неасцярожны, непрадбачлівы і пакінуў торбачку з салам у лесе. А гэтага нельга было рабіць ніяк. Трэба было насіць яе ўсюды з сабою, нідзе-нідзе не пакідаць. Тады б я быў з салам... Тым болей што торбачка была невялікая, і сала ў ёй было небагата, не так цяжка было б яе і насіць... Слінкі цяклі ў мяне, і нічога не лезла ў рот, калі я ўспамінаў сала, якое гэтулькі дзён было мне і ўцехай і прыкрасай усякай ядзе і якое зжор чортведама хто...

Потым я трохі супакоіўся, усё часцей і часцей пачаў суцяшаць сябе, што, маўляў, як бы таго сала я ні ашчаджаў, як бы яго ні бярог, колькі б з сабою ні насіў — яно ўсё роўна скончылася б, на ўвесь век яго мне не хапіла б.

«Век не век, а на пакуль што было б. Добра, калі б і дзень які пажыў з салам...» — не хацела ўсё яшчэ згаджацца са мною нейкая ўпартая думка.

Тады я і ўспомніў пра той дуплянасты дуб, што прыпадаў голлем да хвойніку ў самай гушчы Гудагайскага абшару, дзе мы з Грышкам і Косцікам хавалі вінтоўку, дзве гранаты-«лімонкі» і куды нанасілі паціху, непрыкметна ад дамашніх, бульбы, хлеба, сала...

«Як гэта я забыўся на той дуб?» — зарадаваўся я і адразу ж, у той жа дзень, не адкладаючы на пасля, пакіраваўся ў Гудагай — ён быў на ўсход ад нашае вёскі і пачынаўся за палянай, на якой, калі верыць старым людзям, некалі стаяла леснічоўка, дзе і жыў ляснік Гудагай. Лесніка таго даўным-даўно не было на свеце, яго забілі мужчыны з нашае вёскі яшчэ да таго, як скінулі цара. Паехалі аднойчы яны гуртам у лес — ён тады быў панскі — па дровы, а ляснік падпільнаваў іх, выскачыў з кустоў і стрэліў у людзей... Ці параніў ён каго тым стрэлам, ці не — ніхто не помніў. Затое ўсе добра помнілі, як наляцелі адусюль на юду, як выбілі з рук у яго стрэльбу, а самога павалілі на зямлю, пачалі таптаць нагамі, валькамі, тапарышчамі мясіць... Калі злосць трохі астыла, адышла, не ятрыла больш крыві — адхлынулі, расступіліся... І тут убачылі, што позна ўжо: Гудагай не дыхаў, быў мёртвы... Трох чалавек з вёскі, якія былі, відаць, вінаваты найбольш, тады судзілі і саслалі аж у Сібір, а абшар лесу,

што вартаваў Гудагаі, так з таго часу і празвалі Гудагайскім ці проста Гудагаем.

Дуб той, дзе была наша схованы, я знайшоў вельмі скора. Дзіва што — колькі разоў мы збіраліся пад гэтым дубам утрох, колькі разоў даставалі з дупла вінтоўку, любаваліся ёю, гладзілі рукамі, бы ўсё роўна нешта жывое. Нават лажыліся ў траву і па чарзе прымерваліся, як з яе цэліцца, страляць...

Але, падышоўшы бліжэй, я ўбачыў, што ля дуба ўжо нехта пабываў да мяне. Кара з камля месцамі была абадрана, дый само дупло было шырокае, не такое вузкае, як раней. Я зазірнуў у яго, прасадзіў нават туды руку, абмацаў сценкі, дно — у дупле не было нічога: ні вінтоўкі, ні гранат, ні хлеба, ні сала, ні нават бульбы.

«Хто, хто тут быў? Хто адсюль усё пазабіраў? Няўжо нехта з хлопцаў — Грышка ці Косцік?..»

Я абышоў вакол камля. І пра ўсё здагадаўся. Ні Грышкі, ні Косціка ля дуба, вядома, не было. Вінаваты ва ўсім былі зноў ты я ж чатырохногія зладзюгманы. Гэта яны, мусіць, пачулі пах хлеба і сала і разламалі, разгрызлі дупло. Ашмалкі, аскалёпкі, гніль і труха валяліся ўсюды ля камля. Значны былі ў траве і сляды — дзіковыя і ні то воўчыя, ні то лісіныя. Хлеб, сала і бульбу зжэрлі звяры, а вінтоўку і гранаты, што, пэўна, вываліліся з дупла, калі ў яго лазілі, нехта падабраў, хто праходзіў міма...

«Трэба было нам дупло вышэй шукаць, а не так нізка, пры зямлі,— пашкадаваў я, што мы былі такія недарэкі. І не сцярпеў, злосна вылаяўся.— Мала таго, што сала маё з торбачкі адкралі, дык і з дупла яшчэ ўсё расцягалі, паскуды...»

Неяк мне пашанцавала забіць курыцу. Яна сядзела на яйках у куточку пограба. Чый гэта быў пограб, я ўжо не ведаў, так зблыталася ўсё без хат і хлявоў — усюды, куды ні зойдзеш, амаль адно і тое ж: закураная, разваленая печ, пажарышча сярод двара, абгарэлыя, пажоўклыя вішні, яблыні і пограб. Я прыпільнаваў курыцу проста на гняздзе і запусціў у яе палкаю. Курыца залапатала крыламі, заквахтала, саскочыла з гнязда і тут жа кульнулася, павалілася на пясок. Ад радасці я не ведаў, што рабіць,— схапіў яшчэ цёплую

курыцу ў рукі, прыціснуў да грудзей і з усіх ног даў лататы ў лес.

Там я аскуб курыцу, палажыў яе на пянёк. Потым нанасіў, нацягаў вялізную кучу сушняку, ламачча — надумаў адразу ж спячы сваю здабычу і з'есці. Ну і абед жа будзе!

Але радасць мая была кароткая, дачасная. Перш чым пакаштаваць мяса, мне трэба было знайсці агню, на чым можна было б спячы курыцу. А дзе яго было знайсці, таго агню?..

Я ўзяў зноў у рукі курыцу (пакідаць хоць што з яды ў лесе я зарокся, навучылі мяне, хвала богу, звяры!) і вярнуўся ў вёску.

Абышоў яшчэ раз адно за адным усе засаб папялішчы, цяпер ужо прыглядаючыся, ці няма дзе агню, ці не курае што-небудзь дзе, не гарыць. Агню нідзе не было. Папялішчы даўно ахаладалі, атухлі і галавешкі. Толькі ў адным месцы, здаецца, на Яўменавым селішчы, я ўбачыў дым — ён ледзь-ледзь цягнуўся, падымаўся тоненькім сівым струменьчыкам угору. Падышоўшы бліжэй, я ўбачыў, што гэта ўсё яшчэ курэў закапаны глыбока ў зямлю штандар. Я падабраў тут жа, на падворышчы, кавалак перапаленай бляхі, выграб на яе некалькі чырвоных вугалькоў і асцярожна, каб не зачапіцца за што і не рассыпаць, панёс іх у лес. Панёс не абы-куды, а да таго тоўстага, сухога дуба, што яшчэ перад вайною была вывернула з карэннем бура і які ляжаў, расцягнуўшыся на ўсю паляну, там, дзе некалі стаяла Гудагаева леснічоўка. Ад вугалькоў я запаліў сухую, жухлую траву, што нарваў там жа, на паляне, бяросту, ламяйко, а ўжо ад іх загарэўся і сам дуб.

Зберагаць надоўга гэтак агонь я навучыўся ў дзеда. Гэта ён, калі мы карчавалі ўсёю сям'ёю пад поле дзялянку, каб не зводзіўся агонь, падпальваў тоўсты стары пень альбо сухую доўгую калоду, і тыя гарэлі, дымілі па некалькі тыдняў. Не тушыў іх нават і дождж.

Цяпер я меў агонь. Я пёк у ім бульбу, сыраежкі, прылаўчыўся нават варыць у чыгунку, які я забраў са свайго селішча і перанёс у лес, булён. Праўда, булён быў нясмачны, бо ў мяне не было ні солі, ні мяса, ні круп. Была толькі вялая, з доўгімі белымі махрамі бульба, якую я — на шчасце — абашмарыў у нечым

пограбе цэлую кучу. Але, пасёрбаўшы хоць такога нішчымнага варыва, я адчуваў сябе куды трывалей.

На паляне, ля агню, я нічога не баяўся. Я ведаў, што звер, які б ён ні быў, да агню не пойдзе. А людзей, каго б мог да сябе прывабіць ці прыцягнуць агонь,— у гэтым я паспеў ужо добра пераканацца — нідзе паблізу не было, ніхто не ўратаваўся, ніхто не ацалеў: усіх-усіх пазабівалі, папалілі немцы...

Там жа, пры паляне, у хмызняку, я напяў з бяросты і галля нешта накшталт буданчыка. Дол заслаў травою і рызманамі, якія не пагарэлі і якіх я назбіраў на людскіх платах. Цяпер, калі мне не хацелася нікуды ісці, я ляжаў у гэтым буданчыку — адпачываў. У буданчыку я і начаваў, бо па начах у адной палатнянай сарочцы і штанах было зябка, холадна спаць на полі — кожную хвіліну я прачынаўся, і, каб сагрэцца, даводзілася скакаць, бегаць. Дый пасля таго, як я ўбачыў на Аўхімавым селішчы акрываўленыя чалавечыя косці — рэшткі таго, што асталося ад колішняга нашага суседа, старасты Аўхіма Аглабелькі,— я зразумеў: ад голаду сабакі і ваўкі пачалі есці чалавечыну. А калі гэта так, дык тое ж самае, што ад Аўхіма, магло астацца і ад мяне, калі б выпадкам я заснуў у полі і на мяне напалі ваўкі ці сабакі.

Ля агню было смялей, спакайней. І я, дзе б ні блукаў удзень, начаваць заўсёды вяртаўся на Гудагаеву палянку. Бы ўсё роўна гэта была новая мая дамоўка.

Неяк я затрымаўся ў вёсцы даўжэй, чым звычайна, і, калі падыходзіў да свайго буданчыка, пачуў сцішаную людскую гамонку. Божа мой, як закалацілася ў мяне сэрца — я ж, як-ніяк, ужо некалькі тыдняў не чуў жывога чалавечага голасу!

«Хто, хто гэта тут?.. Хіба нехта ўсё ж ацалеў з вёскі, уратаваўся?..»

Стаіўшыся ў кустах, я пачаў слухаць, пра што гаварылі людзі. І дзіўна — ані нічога не разумеў. Нават паасобных слоў...

«Што такое? Няўжо гэта ад таго, што я даўно нікога не бачыў з людзей, ні з кім не гаварыў?..»

Заплакала малое дзіця, і яго плач здаўся мне такім мілым і дарагім, што я слухаў яго, як некалі слухаў у ягадах матчыну песню.

Жыццё наадзіне прывучыла мяне да асцярожна-

сці. Асабліва тады, калі блізілася небяспека. Хоць было ўжо і цемнавата, шэрань і моракі агарталі кусты, я не пайшоў адразу да агню, адкуль чуліся людскія галасы, а пачаў паціху, зладзеявата красціся да паляны. Ад дрэва да дрэва, ад камля да камля. Чым бліжэй я падыходзіў да людзей, тым усё больш здагадваўся, чаму я не магу разабраць, пра што гавораць людзі,— яны гаварылі не па-нашаму, на нейкай чужой, незразумелай мне мове.

«Няўжо гэта немцы? Але ж яны ніколі раней не начавалі ў лесе. Ледзь толькі пачынала змяркацца — уцякалі назад, у мястэчка...»

Страх скаланаў мяне. Але я не спыніўся, не пабег хавацца глыбей у лес — цікавасць, што гэта за людзі і чаму яны апынуліся тут, на паляне, была большая за страх. І я, стаіўшы дыханне, усё краўся і краўся да агню.

Неўзабаве я ўбачыў і саміх людзей — іх было небагата: два аброслыя чорнымі бародамі мужчыны, тры жанчыны і пяцёра захутаных у лахманы дзяцей.

Дзеці пяклі ў агні бульбу — паролі, ворсалі ражончыкамі прысак, выгортвалі на траву абгарэлыя бульбіны, спахапліва мацалі іх пальцамі, разламвалі і, хукаючы, апякаючы губы, пхалі іх сабе ў рот. Мужчына, з шырокай чорнай барадой, разбіраў затвор вінтоўкі, другі памагаў яму — тыцкаў раз-пораз пальцам у жалезныя бліскучыя часткі і нешта тлумачыў. Жанчына расчэсвала грабянцом доўгія і такія ж чорныя, як і ва ўсіх, валасы; другая, седзячы побач, давала дзіцяці цыцку. Трэцяя, зусім яшчэ дзяўчо, стаяла тросі зводдалі ад усіх, склаўшы на грудзях рукі, і сумна пазірала на лес.

Цяпер мне было ясна, што за людзі перада мною на паляне,— гэта былі цыганы. Я ведаў, што за цыганамі немцы палявалі гэтак жа, як і за партызанамі, і забівалі іх адразу ж, на месцы, дзе лавілі, нават не вадзілі ў камендатуру на допыты. І дарослых, і дзяцей — усіх, усіх аднолькава. Калі я неяк спытаўся ў маці, за што немцы гэтак неўзлюбілі цыганоў, яна адказала: «А каго яны любяць, сынок...» І праўда, каго немцы любілі, каго яны не забівалі?.. Адных хіба толькі прадажнікаў... Але ва ўсіх, каго забівалі, была свая зямля, і немцы хацелі забраць яе сабе. Гэта я ведаў яшчэ са

школы. За што ж яны так без жалю знішчалі беззямельных, валацужных бясхатнікаў-цыганоў? Гэтага я ніяк не мог уцяміць...

Да агню я не пайшоў. Аднаму мне было куды зручней, лягчэй было і хавацца ад немцаў. Дый ці захацелі б цыганы чужога, невядомага ім чалавека прымаць да свайго гурту?..

Цыганы пераначавалі каля агню, а ўранні бясследна некуды зніклі...

Пасля той неспадзёўкі з цыганамі я стаў яшчэ больш асцярожны. Ідучы куды-небудзь, я чуйна ўслухоўваўся ў пошум дрэў, і ледзь толькі вуха маё лавіла які-небудзь падазроны шоргат ці трэск, я адразу ж хаваўся, прыпадаў да камля. На паляну, да агню я выходзіў толькі тады, калі ўпэўніваўся, што сапраўды поблізу нікога няма. І ўжо не начаваў болей у сваім берасцяным буданчыку, не сядзеў падоўгу ля агню. Прыбягаў, борздзенька закопваў у прысак бульбу ці пристаўляў чыгунок і ўцякаў у кусты. Там, у кустах, я і чакаў, пакуль спячэцца бульба ці зварыцца маё варыва, там і снедаў, вячэраў...

І ўсё ж, які я ні быў асцярожны, як ні пільнаваўся, на непажаданыя вочы ўсё адно трапіў.

Гэта здарылася так.

Неяк, прыйшоўшы на паляну, я не знайшоў у буданчыку бульбы, што пакідаў быў там надоечы ў куточку, пад шумавіннем. Гэта мяне і напалохала і ўстрывожыла: значыцца, пакуль я блукаў па вёсцы, нехта пабываў тут, у маім жыллі.

Я вылез з буданчыка і, азіраючыся на лес — ці не сочыць часам адтуль хто за мной? — паціху папоўз у хмызняк. Схаваўшыся ў густым зарасніку, я ўтаропіў вочы на агонь — дзе ж яшчэ, як не каля агню, мог быць той невядомы, хто пакваліўся на маю бульбу?

І праўда, я не памыліўся — ля агню я ўбачыў чалавека. Ён ляжаў на баку і пёк у прысаку бульбу. Чалавек, мусіць, быў галодны, бо раз-пораз выграбаў палкаю то адну, то другую бульбіну, ліхаманкава мацаў яе пальцамі. Калі бульбіна траплялася мяккая, печаная, рукі ў чалавека дробна трымцелі, калаціліся — ён тут жа яе разломваў і, ні аб што не абціраючы, нічым не шкрабучы, студзіў і кідаў у рот.

Чалавек быў апрануты ва ўсё вайсковае, нямецкае. І я, выпаўзшы на паляну, у траву — яна парасла на паляне высокая, густая,— зводдалі глядзеў то на яго абдрыпаны, абшалюханы, без пагонаў кіцель, то на такія ж абшалюханыя, замурзаныя штаны, то на парыжэлыя, даўно нічым не мазаныя, абшарпаныя боты, сілячыся скеміць, што за чалавек перада мною — свой ці чужы. Зброі пры чалавеку не было. І наогул нідзе нічога не было відаць. Толькі з-пад галавы вытыркаўся ранец, таксама не наскі, а нямецкі, з брызенту, абцягнуты паўзверх цялячай шкурай. Але наўрад, каб у тым ранцы была якая зброя — надта ж худы ён быў, той ранец.

«Няўжо гэта немец?..— браў мяне трывожны халадок.— Але чаму ён тады ў лесе, ды яшчэ адзін? Адбіўся хіба ад сваіх, заблудзіўся і згаладаўся так, што рад пячоніку?.. А можа гэта наш чалавек? Мала што ён у нямецкай адзежы — свая магла падрацца, і ён зняў сабе адзежу з забітага немца. Вунь і ў тых дзядзькоў, што прыходзілі да нас з лесу, калі я жыў яшчэ з маткаю ў вёсцы, таксама была ў некаторых нямецкая адзежа,— прыгадваў я.— Маці нават пыталася ў нейкага маладога хлопца, ці не брыдка такое на сабе насіць. «Брыдка не брыдка, а холадна, то нідзе не дзенешся, надзенеш, а што ж будзеш рабіць?» — адказаў быў той хлопец...»

Я не зводзіў вачэй з чалавека, аж пакуль ён не напёк і не паеў усёй бульбы. Тады чалавек адпоўзся ад агню крокаў на пяць, падклаў зноў сабе пад галаву ранец, перавярнуўся дагары і заплюшчыў вочы. Прайшло яшчэ хвілін колькі, і адтуль, дзе распасцёрся чалавек, пачулася цяжкае, перарывістае, нейкае нутраное, з прысвістам храпенне...

Назаўтра раніцою я зноў прыйшоў на паляну. І зноў убачыў чалавека — ён, гэтак жа, як і ўчора, ляжаў на баку і пёк у прысаку бульбу...

Праз дзень я быў на паляне зноў — і зноў застаў ля агню таго самага чалавека...

«А можа і праўда гэта не немец? — пачало мучыць мяне сумненне.— Бо чаму ж ён сядзіць ля агню, чаму нікуды адсюль не ідзе?.. Каб гэта быў немец, ён не сядзеў бы... Што яму тут рабіць, у чужым лесе?.. А мо

гэта партызан?.. Чакае тут каго ці, можа, захварэў, мо паранены, ісці яму цяжка?»

Праляжаўшы ў траве паўдня і так і не здагадаўшыся, што за чалавек і адкуль ён прыбіўся на паляну, наатайбаваўся тут, ля майго агню, жыць, я нарэшце набраўся смеласці — ат, што будзе, тое будзе — і выйшаў з-за дрэва.

— Гэй, хто ты?..— крыкнуў я.

І сам спалохаўся свайго голасу — такі ён быў чужы, не падобны на той голас, якім я гаварыў раней. А мо гэта мне толькі падалося, бо колькі дзён я не чуў не толькі як крычу, а нават ні з кім не размаўляў.

Чалавек усхапіўся на ногі і што ёсць сілы пыльнуў у кусты...

З гэтага моманту мы дні тры цікавалі адзін за адным, сілячыся даўмецца: ён — хто я, я — хто ён. Агонь нас яднаў, агонь нас і раз'ядноўваў. Ні я, ні чалавек не маглі жыць без агню. І гэта мы разумелі. А таму, нібы змовіўшыся, не перашкаджалі адзін аднаму. Калі чалавек хацеў есці і ішоў да агню пячы бульбу, я ўставаў і аддаляўся ў лес. Калі я хацеў есці і кіраваўся на агонь, тое ж самае рабіў чалавек. Мала таго, мы патрохі асвойталіся, паабвыкліся і ўжо не выграбалі сваіх пячонікаў, калі яны заставаліся ў прысаку, а пакідалі — ён мне, я яму. Дзівіла мяне толькі адно: чаму чалавек нічога мне не гаворыць, а ўсё маўчыць, маўчыць. Няўжо ён нямко?.. Колькі разоў я ні спрабаваў з ім загаварыць, ён не адказваў, толькі ўсміхаўся. Усміхаўся хораша, на ўвесь рот, на ўсе свае роўныя, белыя, прыгожыя зубы.

Аднойчы я зварыў чыгунок салонікаў. Усіх я, вядома, не паеў, пакінуў чалавеку. Адышоўшыся крокаў на колькі ад паляны, я затуліўся за дрэва і сачыў, што ён, гэты маўчун, будзе рабіць з маімі салонікамі: будзе іх есці ці адставіць ад сябе ўбок. Чалавек бачыў, што я за ім цікую. А таму, зазірнуўшы ў чыгунок, хораша ўсміхнуўся і, запіхваючы амаль цэлую бульбіну сабе ў рот, усклікнуў:

— Gut *,— і падняў угору вялікі палец.

Я аж закалаціўся — чалавек, выходзіць, і напраўду быў немец. Бо каб ён быў не немец, то навошта бы-

---

* Добра.

ло б яму глуміцца з мяне, залішне насцярожваць, палохаць гэтым нетутэйшым «гут»? Але чаму, чаму тады ён адзін у лесе? Што прымусіла яго хавацца, гэтак жа, як і мяне? І як гэта я жыў столькі дзён побач і не здагадаўся, што жыву з немцам, адным з тых, хто спаліў маю хату, маю маці, усю нашую вёску, усіх-усіх нашых людзей?.. Мала таго, дык я яшчэ думаў, што гэта партызан!..

У школе я вучыў нямецкую мову. Ведаў некалькі нямецкіх слоў і з тых наездаў, што рабілі ў нашую вёску немцы. І я спытаўся ў чалавека, гэты раз па-нямецку, хто ён і чаму хаваецца ў лесе.

— Ich will nicht вайна! — адказаў, старанна падбіраючы нашыя і нямецкія словы, немец.— Heil Сталін! Hitler kaputt... Verstehst du? — перапытаў ён мяне.— Ich will nicht Menschen убівайт. Ich will leben. Ich bin davongelaufen... фронт. Ich gehe nach Hause, nach Deutschland. Verstehst du? Ich отшэнь болен... Und kann nicht weitergehen... Ich отшэнь болен. Verstehst du? *

— Ja, ich verstehe,— кіўнуў я галавою.

І гэта немца падбадзёрыла. Ён усміхнуўся мне гэтак жа прыязна, як усміхаўся ўсе папярэднія дні.

— Komm her,— паклікаў ён пальцам мяне да сябе.— Ich werde nicht страляйт, keine Angst. Ich gehe nach Hause. Den Krieg habe ich satt. Hitler selbst mag kriegen. Grade er braucht Rußland, ich nicht. Ich lasse mir am Land auch in Deutschland genug. Ich will leben. Ich habe zwei Kinder... Ich will nach Hause. Verstehst du?..**

Не, я не ўсё разумеў, пра што гаварыў немец. Ды каб і разумеў, усё роўна бліжэй да яго не падышоў бы ні на крок. Не таму, вядома, што я яму не верыў, хаця, прызнаюся, у думках было і гэта, а таму, што ён быў немец. А я не забыўся, я вельмі добра памятаў, што зрабілі немцы з нашаю вёскаю, з маёю маці, з усімі нашымі людзьмі. Я яго проста ненавідзеў, як ненаві-

---

* Я не хачу вайны. Няхай жыве Сталін! Гітлеру канец... Разумееш? Я не хачу забіваць людзей. Я хачу жыць. Я ўцёк з фронту. Я іду дадому, у Германію. Разумееш? Я вельмі хворы. І не маю сіл ісці... Разумееш?

** Ідзі сюды. Я не буду страляць, не бойся. Я іду дадому. Мне абрыдла вайна. Хай ваюе Гітлер сам. Гэта яму трэба Расія, а не мне. Мне зямлі даволі і ў Германіі. Я хачу жыць. У мяне двое дзяцей... Я хачу дадому... Разумееш?

дзеў бы ўсякага немца, хто б ён ні быў. І ўжо дакараў сябе, не мог дараваць, што гэтулькі дзён быў побач з немцам, дзяліўся з ім сваёю ядою...

— Аддай, аддай мне маю картоплю,— закрычаў я раптам на немца.— Gib mir meine Kartoffel zurück, не еш яе, не бяры з чыгунка!..

Немец папярхнуўся — бульбіна выпала ў яго з рота. Ён адсунуў ад сябе чыгунок, падняўся на ногі.

— Ich weiß, daß solche wie ich, Junge, dein Dorf verbrannt haben. Ich aber nicht, ich war dabei nicht. Ich wünsche dir Gutes. Nur keine Angst vor mir. Seit dem Tage, als ich dich gesehen habe, soll ich immer wieder an dein Schicksal denken, an das Schicksal meiner Kinder... Ich weiß nicht, wie es mit ihnen geht wenn auch sie so umherschleichen sollen, so alleine, wie du, wie ich?.. Ach, du lieber Gott, was hat nur dieser Krieg angerichtet...*

— Прэч, прэч адсюль! — закрычаў я, не помнячы сябе ад гневу.— Прэч ад майго агню, прэч з лесу!.. Іначай я цябе заб'ю... Sonste schlagen ich dich tot,— паўтарыў я тое ж самае, як умеў, па-нямецку і, сціснуўшы кулакі, пайшоў на немца.

Ён, мусіць, не чакаў, што ўсё так павернецца. Неяк ураз зніякавеў, перастаў усміхацца.

— Gut, gut, Junge,— нясмела і неяк вінавата залапатаў ён.— Ich will weg. Ich will nicht, daß es dir unwohl geht. Du bist ein echter Russe. Ich verstehe dich... An deiner Stelle würde ich dasselbe tun. Du wirst leben... Rußland besiegt Deutschland. Du sollst nur wissen, daß nicht alle Deutschen so sind, wie jene, die dein Dorf verbrannt haben. Es gibtauch andere Deutschen. Diese Deutschen schämen sich. Sie fühlen sich beschämt und unwohl. Du mußt es wissen, Jung! Immer wissen!.. **

---

* Я ведаю, што такія, як я, спалілі тваю вёску, малы. Але гэта не я, не я. Я хачу табе дабра. Не бойся мяне. Усе дні, як я цябе ўбачыў, я не перастаю думаць пра твой лёс, пра лёс сваіх дзяцей... Я не ведаю, што з імі... Можа, і яны дзе гэтак жа бадзяюцца адны, як і ты, і я. Божа мой, што нарабіла вайна...

** Добра, добра, малы. Я пайду. Я не хачу, каб табе было дрэнна. Ты сапраўдны рускі. Я цябе разумею... На тваім месцы я зрабіў бы тое самае. Ты будзеш жыць... Расія пераможа Германію. Толькі ведай: не ўсе такія немцы, як тыя, што спалілі тваю вёску. Ёсць немцы і другія. Ім сорамна. Сорамна і балюча. Помні пра гэта, малы! Помні заўсёды!..

Ён падняў з зямлі свой ранец, закінуў яго на плечы.

— Auf Wiedersehen, Junge!..— памахаў ён мне рукою.— Ich отшэнь болен. Ich gehe aber weg, ich will nicht, daß es dir schlecht geht. Ich will dich nicht ärgern. Laß dich Herr Gott beschützen, leb wohl. Sei gesund und glücklich *. Шпасіба... Шпасіба für картошка...— сказаў ён па-руску і спачатку паволі-паволі, задам, потым, павярнуўшыся, хутчэй і хутчэй закрочыў некуды ў глыб лесу.

Я не чакаў, што такі здаравіла-немец так лёгка паслухаецца мяне, хлапчука, і пойдзе з паляны. І яшчэ нейкі час стаяў, не верачы таму, што бачу.

Потым апамятаўся, падбег да агню. Схапіў чыгунок. І тут жа адкінуў, шпурнуў яго ад сябе ўбок — за гэты ж чыгунок хвіліну таму назад трымаўся рукамі немец. Тымі рукамі, якімі, магчыма, паліў маю вёску, маю хату, забіваў маці, іншых людзей...

«А што, калі немец толькі адышоўся ад агню? Што, калі ён зараз зноў сюды вернецца? Ды яшчэ не адзін?..— мільганула ў мяне ў галаве.— Мала што ён гаварыў, нібыта кінуў фронт, нібыта ідзе дадому... Яму, бачыш, сорамна за тое, што нарабілі на нашай зямлі яго суайчыннікі, балюча... Але чаму ты мне гэта кажаш, а не тым сваім суайчыннікам, што горшыя за звяроў, га? — кпіў, здзекаваўся я ў душы са слоў немца.— Яшчэ хацеў, каб я падышоў да яго, паверыў яму. А вось гэтага ты не бачыў?» — скруціў я дулю і ў наступную хвіліну кінуўся як не бегма з паляны, толькі не ў той бок, куды пайшоў немец, а ў другі, супрацьлеглы...

Два дні я не хадзіў на Гудагаеву паляну. Калі ж нарэшце асмеліўся зноў наведаць берасцяны буданчык, я не паверыў вачам сваім — крокаў за дзесяць ад агню, у негустым зарасніку, папасвалася рыжая, з белымі падпалінамі на баку карова. З тонкіх, крута загнутых рагоў яе звісаў і цягнуўся па траве доўгі хвост вяроўкі. І гэта мяне насцярожыла.

---

* Да пабачэння, малы. Я вельмі хворы. Але я пайду адсюль, я не хачу, каб табе было дрэнна. Я не хачу, каб ты злаваўся. Дай бог табе здароўя. Здароўя і шчасця.

«Адкуль прыбілася сюды гэтая карова? Вырвалася з чыіх-небудзь рук? А мо ўцякла з той чарады, што гналі цераз грэблю, як палілі немцы нашую вёску?..»

Толькі прыгледзеўшыся пільней, я ўбачыў, што карова не адна на паляне, а з чалавекам — ён сядзеў зводдалі, пад раскідзістым кустом арэшніку, на пяньку, і пераабуваўся. Чалавек быў стары, з пакалмычанаю сівою барадою. За плячыма ў яго была палатняная торбачка — акурат такая, якія насілі ў нашай вёсцы пастухі, калі ганялі на ўвесь дзень на далёкія пашы худобу.

«Хто ён, гэты стары?..»

Стаіўшы дыханне, я цікаваў за чалавекам. Вось ён зняў лапаць, нешта адтуль вытрас. Раскруціў анучу, пакалупаўся між пальцаў і зноў, не спяшаючыся, узяўся абкручваць анучаю нагу. Ануча была сухая, карэлая, і чалавек нейкі час валтузіўся, пакуль усунуў нагу ў лапаць. Усунуўшы, увабраў калашыну сваіх палатняных штаноў у анучу, падціснуў забарскі і пачаў лёгка і спрытна абматваць аборамі лытку — відаць было, што абувацца ў лапці чалавеку было не пяршынка.

Пераабуўшы адну нагу, чалавек схіліўся над другою. Але ненадоўга — неўзабаве ён падняў галаву, зіркнуў на паляну. Потым, у якое імгненне, перавёў вочы на карову. Хутка-хутка завязаў аборку, падхапіўся на ногі і схаваўся за куст — няйнакш, нешта яго напалохала. А мо пачуў мае крокі?

Таіцца болей не было чаго, і я выйшаў на паляну. Счакаўшы нейкую хвіліну, з-за куста насустрач мне выйшаў і чалавек — цяпер, зблізку, я бачыў, што ён зусім стары, мо старэй нават нашага дзеда.

— Адкуль ты? — спытаўся ён сухім, глухаватым голасам.

— З Рудні. А вы?

— Я здалёку... Можа чуў Кўрава, вёска такая па той бок Віці ёсцека?

Я кіўнуў галавою.

— Дык ось, я адтулека... Ты адзін?

— Адзін...

— Як — адзін толькі і астаўся жывы з усёй вёскі?!

Я пацісну плячыма і патупіў вочы.

— Можа і яшчэ хто астаўся, ды я не ведаю... Я малако ў Замошкі цётцы насіў. А прыбег...

— А-а, разумею,— цяжка ўздыхнуў дзед.— То чаму ж гэта ты бадзяешся, да людзей не ідзеш?

Я і сам не ведаў, чаму я ўсе гэтыя дні нават не падумаў ісці шукаць людзей. Я зусім забыўся, што яшчэ дзе, акрамя нашай вёскі і Замошак, могуць быць жывыя людзі.

— А дзе яны ёсць, тыя людзі?

— І то праўда,— паківаў барадою дзед.— Дзе яны ёсцека, тыя людзі?.. У Доўгім Моху няма... У Рудні няма... У Замошках няма... У Кураве няма... У Загаллі няма...— як бы пералічыў ён па пальцах.

— Хіба немцы і Курава, Загалле спалілі?

— Ого, кеб жа толькі!.. А то ж і Жмураўку... І Халопічы... І Жабракі... І Бабровае... І Чукінаўку... Так, так, хлопча... Усе-ўсе вёскі наўкруг на некалькі дзесяткаў вёрст папалілі, гады. Мы-то раней былі ў лес паўцякалі, як пачулі, што паляць людзей... Але яны нас і ў лесе знайшлі... Высачылі...— Ён адвярнуўся і загаварыў нейкім іншым, яшчэ больш сумным голасам:— Нікога не асталося... Адзін я... Я карову быў пасвіць на балатцэ павёў... А вярнуўся — мёртвыя ўсе пластам ляжаць... І Хадора, старая мая... І Лукер'я, нявестка... І ўнучка Вольгачка... Усе-ўсе, хто хаваўся з намі...

Ён памаўчаў, праглынуў даўкі камяк, што быў засеў у горле і не даваў гаварыць.

— З таго дня ось так і хаджу... З вёскі ў вёску, ад пажарышча да пажарышча... Падаю карову, малака нап'юся — і далей іду... Але я не дарую немцам. Я адпомшчу ім. За ўсё адпомшчу...

— Што вы зробіце? Вы адзін, а іх...

— Знайду што зрабіць! Помніць будуць яны Палікара, доўга будуць помніць,— сказаў неяк няпэўна, загадкава дзед і сціснуў кулакі, аж пабялелі пушкі пальцаў.

— Каб да партызанаў дапасці як-небудзь,— сказаў я.— Тады б разам з імі...

— Да партызанаў? — Дзед уздыхнуў.— Далёка яны цяперака адсюль. Далёка... У рэйд пайшлі... О, кеб былі яны, немцы гэткае рабіць не асмеліліся б... Не, не

асмеліліся б!.. Рукі ў іх кароткія... Чакай партызанаў... А як вернуцца, да іх ідзі...

— А вы куды?

— Я пайду...

— Куды вы пойдзеце?..

Дзед нічога не адказаў, нібыта не пачуў майго пытання. Пастаяў, потым моўчкі пайшоў да каровы, узяў у рукі вяроўку.

— Бывай, хлопча,— сказаў ён мне.— Партызанаў убачыш — да камандзіра іхняга ідзі... Скажы яму: не ўбярог стары Палікар нікога... Ні маці... Ні жонкі... Ні Вольгачкі... Так і скажы: не ўбярог... Толькі хавайся, не паказвайся вельмі, калі выжыць хочаш... Партызанаў чакай... Яны павінны ўжо скора прыйсці ў нашыя лясы...

— Дзеду, га дзеду? І мяне з сабой вазьміце!

— Не, не, хлопча. Нельга табе ісці са мною. Нельга. Табе жыць трэба! Доўга-доўга жыць. Партызанаў трэба дачакацца, расказаць ім пра ўсё. Кеб не шкадавалі гадаў, кеб білі іх, літасці не мелі...

Я праводзіў дзеда аж за Шапчынскі бор. Потым вярнуўся назад, у вёску. Зайшоў на сваё селішча і доўга стаяў там, бяздумна глядзеў то на папялішча хаты, то на печ, якая ўжо зусім разбурылася, асунулася, то на абгарэлыя грушы і яблыні — з іх пачынала патроху асыпацца лісце,— і сэрца маё заныла, зашчымела і так сцялася, што, каб не ўпасці і не заліцца слязьмі, я паволі-паволі, нібыта нехаця, пасунуўся ў поле, пасунуўся туды, куды вяло мяне маё гора...

---

Прачытай і перадай таварышу!

Смерць за смерць, кроў за кроў!

Таварышы! Чырвоная Армія наступае, бязлітасна б'е фашыстаў. Хутка ўсім ім будзе капут. Чым менш астаецца гітлераўцам уладарыць на нашай непакорнай зямлі, тым больш яны звярэюць — разбураюць гарады, паляць вёскі, забіваюць нашых матак, бацькоў, сясцёр і братоў, дзяцей. Але дні расплаты блізка. Нішто не дапаможа гітлераўскім галаварэзам. Расце гнеў і абурэнне савецкіх людзей. Свяшчэнная прага помсты штодзень памнажае шэрагі народных мсціўцаў.

Некалькі дзён назад невядомы стары, якога перад гэтым бачылі на папялішчах многіх спаленых вёсак, прабраўся ў самае логава фашысцкіх людаедаў. Стары сказаў, што яму вельмі пільна трэба бачыць з вока на вока ваеннага каменданта раёна, які кіраваў усімі аперацыямі па знішчэнню нашых вёсак, каб перадаць нейкія надзвычай важныя звесткі пра месцазнаходжанне партызан. Старога завялі да каменданта. Як толькі яны асталіся ўдвух, стары выхапіў гранату і падарваў сябе, каменданта і камендатуру...

Вечная слава герою!

Трымайцеся! Вызваленне блізка!

Няхай жыве наша Чырвоная Армія і слаўныя народныя мсціўцы!

Смерць нямецкім акупантам!

---

Пасля сустрэчы з дзедам Палікарам я ўжо не абжываўся надаўга на адным месцы. І, звычайна, дзе начаваў адну ноч, там не начаваў другую. На кожную новую ноч я выбіраў сабе і новае прыстанішча. Каб не быць без агню, мець яго заўсёды, калі трэба, я запаліў яшчэ некалькі паваленых сухадрэвін і пнёў па ўсім лесе. Гэта на выпадак, калі часам хто-небудзь зноў дападзе, прыб'ецца на Гудагаеву паляну ці калі каму-небудзь прыйдзе ў галаву дурная думка патушыць мой агонь.

Але вось нечакана разнягодзілася, пайшлі дажджы, шэрасць і волкасць завалаклі далягляд, і я вельмі хутка адчуў, як нядобра, проста нельга, немагчыма жыць, не маючы над галавою ніякай страхі. Хавацца ў вёсцы ў паграбах было рызыкоўна — там мяне можна было лёгка падпільнаваць, дый у саміх паграбах было сыра, адусюль лезла плесня, паўзлі вужы, гадзюкі, слімакі, скакалі жабы-рапухі...

І я наважыўся зноў зрабіць сабе нешта накшталт буданчыка. Гэты раз ужо не каля агню, а ў густых зарасніках лазняку, непадалёку ад вёскі, у альсе, дзе з вады і куп'я падымалася невялічкая выспачка,— яе, гэтую выспачку, некалі карчаваў і засяваў мой дзед. Год колькі, пры калгасах, выспачка пуставала і зарасла зноў травою, алешнікам, бярэзнікам. Я навыразаў нажом — яго я знайшоў на нечым селішчы — лазовых

пруткоў, паўтыкаў іх у зямлю, дзе было суха, і пазгінаў дужкамі. Пруткі акрыў бяростаю, потым прыкідаў паверх травою. Навыкопваў кустоў смародзіны і ажынніку і абсадзіў імі з усіх бакоў будан. Цяпер, каб хто быў і за тры крокі ад маёй схованi, бадай, не здагадаўся б, што гэта буданчык і там нехта жыве. Хутчэй за ўсё падумаў бы, што гнілая калода ці стары сухі корч.

У новым буданчыку я зрабіў некалькі дзірак-лазаў. Калі б я пачуў падазроныя крокі ці гамонку адтуль, дзе была вёска, я папоўз бы ў лес; калі б нехта падыходзіў да мяне ад лесу, я папоўз бы ў лазняк, што каля вёскі,— балазе, там таксама была непралазь, гушчэча. Каб у буданчыку было цёпла, дзіркі нанач я затыкаў травою.

Усё было зроблена як мае быць, акрамя хіба аднаго — трэба было нешта прыдумаць, каб у буданчык не лазілі вужы і гадзюкі. Змалку мяне прывучалі маці і бацька баяцца вужоў і гадзюк і нідзе, бронь божа, не лажыцца на зямлі спаць: вуж чамусьці, як мяне страшылі, любіў залазіць чалавеку ў рот, а гадзюка магла ўкусіць. Але і ад гэтай напасці я таксама хутка знайшоў ратунак: аблажыў буданчык з усіх бакоў блёкатам — вужы і гадзюкі, я чуў ад маці, шалеюць ад блёкату і ўцякаюць як мага далей адтуль, дзе ім пахне.

Потым нешта падобнае на гняздо я намасціў і на тым галлістым дубку, што каржакавеў на полі, непадалёку ад кружка лазы, дзе я ледзь не напароўся на немцаў, калі яны палілі нашу вёску. З дубка вельмі добра аглядаліся ўсе папялішчы, і цяпер, перш чым накіравацца ў вёску, я залазіў у голле і падоўгу ўважліва аглядаў, ці няма каго поблізу нашых селішчаў, ці не валачэцца хто туды... Іншы раз, калі пякло, смаліла напоўніцу сонца і ад духаты недзе было дзецца, я не злазіў з дубка і ўвесь дзень ляжаў у навісі галля. Галлё час ад часу пагойдвалася, гушкала мяне, абдаючы халадком, а я ляжаў і не зводзіў вачэй з неба, з хмарак, што, здаралася, праплывалі над галавою. І мне было добра-добра... Я забываўся на вайну, на немцаў, на тое, што яны зрабілі з нашаю вёскаю, з маёю маці, з усімі нашымі людзьмі, забываўся на ўсё на свеце... І ўяўлялася мне тады, што гэта я ляжу не на дубе, у галлі, а на лузе, на стозе сена, які кідае мой бацька і

які вяршу я... Скончылася сена, няма чаго падаваць на стог, і бацька пайшоў, каб паднесці да адзёнка новую капу, якую награбла маці, а я тым часам лёг на сухі, шапаткі мурог, ад якога яшчэ аж струменіць духмянае цяпло, і гляджу на неба... Страх як люблю я глядзець на неба. Нічога-нічога, здаецца, так не люблю, як ляжаць і глядзець на неба... Асабліва калі па ім праплываюць белаватыя, бездажджавыя хмаркі — іх у нас завуць сухмаркамі, калі яны, бахматыя і лёгкія-лёгкія, як пярынкі, проста паветраныя, бягуць, спяшаюцца некуды, адна адну наганяючы, сыходзячыся і зноў разыходзячыся...

У тое гаротнае, валацужнае лета я палюбіў яшчэ і сядзець між камлёў карыстых беластволых бяроз, што купчасцелі ў глыбі Шапчынскага бору, і слухаць, як нетаропка і ціха булькоча, выбіваючыся з карэнняў, тоненькі вілясты жыўчык — ручаёк. Вада ў ручайку была заўсёды халодная, аж ледзяная, і такая празрыстая, светлая, крыштальна чыстая, што ў ёй відаць былі пясчынкі — хоць вазьмі ды пералічы іх — і нейкія бялюткія карэньчыкі, якія, нібы махры на ветры, увесь час пагойдваліся, бруіліся, як бы беглі разам з вадою...

Да ручайка, каб прагнаць смагу, заўсёды ў поўдзень наведвалася паджарая, з вылінялым бокам, каза. Наведвалася не адна, а з двума маленькімі рыжанькімі казляняткамі. Прыпаўшы пыскамі да ручайка, усе трое спахапліва, прагна пілі...

Услед за казою да вады нярэдка падкрадалася і куніца. Падкрадалася асцярожна і, перш чым дапасці да ручайка, падоўгу сядзела ў малінніку і вадзіла сюд-туд востранькаю пыскаю, чмыхала носам — усё прыслухоўвалася, прынюхвалася, ці няма поблізу таго, каму лепей за ўсё не трапляць на вочы. Потым выскоквала, падбягала да вады, хутка-хутка хлябтала языком і тут жа зноў хавалася...

А колькі разоў на дні прылятаcomponent сюды галубы, дразды, сойкі, падпаўзалі, шастаючы травою, чарапахі, вужы. Пчолы ж, восы дык і зусім віліся, бы каля вулля... Усім ён, шчабятун-няўтома, быў патрэбен, ніхто без яго не мог жыць... Каза, куніца і птушкі хутка так асвойталіся, прывыклі бачыць мяне пад бярозамі, што другі раз і не зважалі, што я тут сяджу, нібыта я быў такі самы, як і яны, і не мог зрабіць ім ніякай шко-

ды, ніякага кепства... А можа я страціў чалавечы пах — не дзіва ж, я столькі дзён ужо жыў адзін, не мыўся ў лазні, не мяняў адзежы...

Думнасць і спакой агарталі мяне ля ручайка. Усе буры ў душы сціхалі, як бы некуды адыходзілі, хаваліся, заміралі. Жыццё нельга спыніць, яно, як тая вада, цячэ і цячэ... Няможна яму цячы ракою — будзе цячы ручайком... Маленькім-маленькім, тоненькім, як нітка, а ўсё роўна не замоўкне, будзе цячы... Пройдзе час, скончыцца вайна. Вайна не вечная, яна скончыцца, як канчаецца ўсё на зямлі. І пераможуць не немцы, пераможам мы... Зноў вернуцца выгнаныя вайной з родных мясцін людзі, зноў будуць жыць гэтак, як і жылі... Ці гэтак?.. Хіба зноў вернецца мая маці, вернуцца тыя людзі, якіх спалілі немцы, хіба ажывуць, устануць яны з попелу і тлену, тыя, што асталіся ляжаць скрозь на папялішчах спаленых вёсак?.. Хіба я зноў буду жыць у той самай хаце, дзе жыў некалі, у маленстве,— о, як даўно-даўно гэта было!..— хіба зноў буду сядзець за тым самым сталом, за якім сядзеў па некалькі разоў штодня, і буду чакаць, калі маці нальє ў міску булёну — крупянога, заскваранага салам, ці прынясе, дастане з печы макацёр упрэлых дранікаў са смятанай?.. Усё-ўсё можа вярнуцца, толькі не гэта... Вецер развее, раскідае, разнясе па полі попел, што астаўся ад спаленых людзей. На папялішчах вырасцуць новыя хаты... Народзяцца новыя людзі, у іх будзе сваё шчасце, сваё жыццё... А ў мяне сваё... І датуль, пакуль я буду жыць, у душы ў мяне будзе сачыцца незагойная рана... Рана, якую пакінула ў маім сэрцы вайна... Я астануся адзінокі, як і цяпер. Усё жыццё маё будзе ў мінулым, ва ўспамінах... Пройдуць гады, і я не раз яшчэ прачнуся ў той хаце, у якой прачынаўся штораніцы ў дзяцінстве, і зноў, як некалі, буду шукаць вачыма той сучок у бэльцы над ложкам, які я разглядаў заўсёды пасля сну і які мне здаваўся спелым арэшкам-лузанчыкам; не раз я прайдуся яшчэ — праўда, цяпер толькі ў думках — па той вёсцы, якой няма ўжо і ніколі-ніколі не будзе; не раз прахаплюся ўначы ад немага, нечалавечага жаху, спалохаюся, як спалохаўся некалі, калі немцы спалілі нашу вёску, спалілі маці, спалілі ўсіх нашых людзей і я астаўся адзін, адзін на ўвесь вялізны і такі

непрытульны свет... І зноў, ужо ў сне, буду хадзіць па мёртвай, спаленай вёсцы, міма пажарышчаў і папялішчаў, і буду клікаць сваю маці, шукаць хоць каго жывога з нашых людзей. А хіба я такі адзін?.. Колькі людзей асіраціла вайна, колькі забрала яна ў матак дзяцей, у жонак мужыкоў, у дзяўчат — жаніхоў... Не, тое жыццё, што было, ніколі-ніколі ўжо не вернецца...

Тады, ля ручайка, я гэта толькі адчуваў, пра гэта думаў...

Цяпер, праз многа-многа год, я гэта ведаю...

І ўсё ж, калі я згадваю тыя дні, што сядзеў пад беластволымі бярозамі і слухаў ціхае, журботнае бульканне вады, я не магу, каб не ўспомніць ручайка — ён заўсёды, якія б ні былі цяжкія, чорныя мае думкі, неяк дзіўна мяне супакойваў, настройваў на добры лад — нікому-нікому не скардзіцца на свой лёс, сваю долю, а жыць і жыць... Жыць, што б ні здарылася, як бы трудна ні было... Жыць ужо хоць бы дзеля таго, каб дачакацца партызан, перамогі...

---

...Усе мы — як лісці на дрэвах... Пакуль вецер часу не адарве нас ад галінкі, праз якую мы злучаны з дрэвам, мы расцём, зелянеем. Мы жывём!.. Варта ж толькі нам адарвацца, пакінуць галінку — мы кружымся, лётаем у паветры, не ведаем, што нам рабіць, дзе падзецца. Потым, у адчаі, так і не сабраўшыся з думкамі, падаем на зямлю. І з той хвіліны перастаём быць самімі сабою, мы губляемся сярод іншых — такіх жа самых лісцяў, як і мы. І гінем...

Дрэва без лісцяў хоць і ўсыхае, але ўсё ж астаецца дрэвам. Лісці ж без дрэва — тлен, нішто...

Але мы не толькі лісці, мы яшчэ і насенне, мы можам самі стаць дрэвамі. Кім быць — лісцем ці дрэвам — гэта ўжо залежыць ад нас саміх...

---

На гародах зацвіла бульба...

Колькі, бывала, радасці прыносіў бульбяны цвет маёй маці ўсе тыя леты, як ішла вайна і мы жылі адны, без бацькі! У нас не было чаго есці, і мы чакалі, як збавення, як немаведама чаго, таго дня, калі забялеюць, зажаўцеюць кветкі на картапляніку, калі можна будзе рваць гіч і капаць з-пад каліўя маладую буль-

бу... Не, пакуль тое капаць, маці падкопвала — разграбала рукамі зямлю пад карчамі, выбірала самыя вялікія бульбіны, а астатнія, меншыя, прыгортвала зноў зямлёю, каб круглелі, раслі... Выбраныя бульбіны яна дбайна мыла ў карыце, потым шкрэбла іх нажом, выкалупвала вочкі, крышыла ў чыгунок, падсыпала туды круп і варыла вельмі рэдзенькую, але затое якую смачную крупеню!..

Я таксама навыбіраў поўную пазуху маладых бульбін і занёс у лес, да агню — намерыўся зварыць сабе крупеню. Але ў мяне не было солі, не было ні крошачкі сала, каб засквары́ць сваё варыва. Не было і круп — замест іх я ўсыпаў у чыгунок жыта, што быў знайшоў у дзежачцы ў нечым пограбе. Жыта доўга не ўправала, мне надакучыла чакаць, я не вытрываў, адсунуў ад агню чыгунок, павыцягваў вараныя, яшчэ вадзяністыя і нясмачныя, крышаны бульбы, а жыта вывернуў на зямлю. Не, нічога я не ўмею — ні рабіць, ні варыць... І ўсё, што рабіла, што варыла маці, астанецца казкаю, непаўторным шчаслівым сном!..

Налілося жыта, і я рваў яго па цэлым ахапку, з карэннямі, ішоў да агню і смажыў... Пасля, яшчэ цёплае, выбіраў па зярнятку з каласоў і жаваў — яда была трывалая і смачная, у маіх умовах — проста панская...

Потым паспелі парэчкі, вішні, маліны. У градах пачалі пракідацца, весела, крамяна зелянець гуркі. Патаўсцела морква, буракі. Дзе-нідзе зачырванеліся на ўзмежках сакаўныя памідоры...

Голад канчаўся. Яды з кожным днём усё большала і большала — выбірай, еш, што хочаш, хоць вазьмі ды распеража́ся... Праўда, яда была нішчымная, без солі, але я рад быў, што яе было дасхочу і ўсюды, куды б ні пайшоў, куды б ні памкнуўся...

За тыя дні, што жыў адзін, я так вывучыў людскія гароды, як не ведаў іх ніколі раней. Я ведаў, у якім гародзе што пасаджана, дзе і што заглушыла трава, дзе што прыхапіў агонь і яно звяла, пажоўкла і загінула, а дзе, нягледзячы ні на што, раскашавалася, расло. Звычайна я ішоў у вёску па той сцежцы, па якой хадзіў некалі ў Замошкі, з галавою патанаючы ў жыце, што цягнулася доўгім шырокім шнурам ад лесу да кружка крушынніку ў канцы нашых сотак; убягаў у

кружок, прыгінаўся і ўжо краўся да свайго селішча па картапляніку — ён парос на нашых загонах на дзіва высокі, крамяны і аж глушыў усё пад сабою — касцярушку, макрыцу, лебяду, пырнік...

Але іншы раз я мяняў сцежку, прыходзіў у вёску з другога боку — то з Гудагаю, то ад грэблі, а часам і з Шапчынскага бору: баяўся, што можа хто-небудзь падгледзець, кудою я хаджу, і забіць...

А я хацеў жыць... Навошта жыць?.. Дзеля чаго?.. Я не ведаў. Дый, прызнацца, менш за ўсё думаў пра гэта. Я проста хацеў жыць... Жыць, жыць, жыць і ніколі-ніколі не паміраць!.. Дачакацца, калі не будзе на нашай зямлі немцаў, калі скончыцца вайна, вернецца дадому бацька — ён жа, напэўна, недзе жыве, быць таго не можа, каб не жыў! — і тады мы разам з ім памяркуем, як далей нам жыць, што рабіць... О, калі, калі гэта будзе?! Калі прачнешся і не трэба будзе аглядацца на бакі, не трэба будзе хавацца, уцякаць ад людзей, а можна будзе смела хадзіць па дарогах, па вёсцы, па полі і не баяцца, што цябе нехта ўбачыць і заб'е...

«Ты павінен дачакацца канца вайны! — загадаў я сабе.— Іначай хто ты?.. Навошта было табе ўцякаць ад немцаў, як палілі яны вёску, навошта было гэтулькі дзён і ночай туляцца, галадаць, блукаць дзе папала — па лесе, па полі, па папялішчах? Не, брат, ты павінен жыць!.. Зарубі сабе на носе — жыць!.. Жыць, і конча!!!»

І дзеля таго, каб жыць, я гатовы быў адпакутаваць, сцярпець яшчэ і не тое, што адпакутаваў, сцярпеў, адпакутаваць, сцярпець усё, што ні пашле лёс...

Аднойчы, ходзячы па людскіх гародах, я натрапіў на парытыя грады.

«Няўжо і сюды ўжо дапялі дзікі?» — спалохаўся я, сам добра не цямячы чаго.

Раней дзікі перакопвалі, дратавалі пасевы толькі на прылесных, далёкіх палях. Прыходзіць жа ў вёску яны баяліся — жыў, мусіць, яшчэ даўнейшы, спрадвечны страх перад чалавекам і яго жыллём. Людзей у вёсцы не было, не было і самой вёскі, а страх жыў...

Але, прыгледзеўшыся пільней, я ўбачыў, што тут пабывала не чарада, а адна свіння. Прытым, не дзікая, а хутчэй за ўсё свойская.

«Хіба не ўсіх свінней палавілі немцы, хіба ўцякла каторая?..»

Цікавасць падганяла мяне, і я пайшоў па свіных слядах.

Сляды прывялі мяне ў двор да Аўхіма Аглабелькі, да той кучы гною, што ляжала непадалёку ад дрывотніка. Гной гэты, відаць, Аўхім выкідаў з хлява, каб высушэй было стаяць карове. За лета гной выветраў, выпетраў на сонцы і цяпер нагадваў звычайнае шумавінне.

Ледзь толькі я падышоў да кучы — адтуль, бы ўсё роўна снарад са ствала гарматы, рохнуўшы, з віскам шухнула доўгая, худая, як дошка, чорная свіння.

— Хоўра! — аж не паверыў я.

Гэтую свінню я добра ведаў. Яна сядзела ў пячонках не толькі ў мяне, а бадай што ў кожнага, хто жыў поблізу старастаўскага селішча. Здавалася, яна, гэтая свіння, якую ўсе чамусьці звалі Хоўраю (ці не таму, што свіння ў нечым была і сапраўды падобна на Хоўру — яшчэ не старую, худзюшчую жанчыну, якая, як настаў дзень, толькі тое і рабіла, што бегала па вёсцы, ад хаты да хаты, каб нешта ў некага пазычыць ці непрыкметна запхнуць сабе за пазуху), дзеля таго і нарадзілася на свет, каб чыніць людзям шкоду. Ёй была не па лычу любая трава, дзе б яна ні расла і якая б смачная яна ні была. Адзінае, што Хоўру вабіла і куды яе заўсёды цягнула,— гэта суседскія гароды. І спасу ад Хоўры не было нікому. Не памагалі і платы — ва ўсякім плоце, самым найшчыльнейшым, Хоўра знаходзіла праварыну ці дзірку, кудою пралезці. Калі дзіркі не было, Хоўра рабіла яе сама — аддзірала лычам дошку ці штыкеціну, а то і падрывалася пад плот. І ўсё роўна ўлазіла ў гарод...

У гародзе яна таксама не ела таго, што звычайна ядуць свінні. З усяго, што садзілі сабе людзі, выбірала толькі моркву і буракі. Моркву і буракі ела да карэньчыка, падчыстую, з бацвіннем. Не абмінала Хоўра і гуркоў — іх яна выбірала таксама ўсе, нават самыя маленькія і дробненькія, з якіх нават яшчэ не апаў цвет. Як залезе, бывала, у гарод і ў час не агледзіш — пераверне, перамяшае з зямлёю буракі, моркву і гуркі, так іх спалехтае, так спустошыць, што і звання не астанецца.

Гаспадыні і гаспадары, чые соткі межавалі з Аўхімавымі і чые гароды цярпелі ад Хоўры найбольш і найчасцей, бадай, яе даўно б забілі, хоць свіння была і старастава, калі б да ўсяго гэтае лапавухае стварэнне бог не надзяліў яшчэ і ледзь не чалавечай хітрасцю. А то ж нібы ведала, брыда, што яе чакае, калі хто-небудзь заспее ў гародах, і ніколі ані блізка не падпускала да сябе чалавека: як толькі чула, што клямкнулі дзверы і нехта ідзе, яна, не чакаючы, пакуль яе агледзяць і возьмуцца выганяць, уцякала сама. Прычым уцякала вопрамеццю, спрытна і скрытна. І зноў жа — на ўцёкі ёй не было нідзе ніякай перашкоды: цераз парканы і плятні, якія б высачэнныя яны ні былі, яна скакала ўсё роўна як сабака і пралазіла ў такія вузкія дзіркі, праз якія бадай што не працiснулася б і курыца.

Цяпер Хоўра раскашоўвалася ў людскіх градах, яе ніхто ніадкуль не праганяў, што яна хацела, тое і рабіла. Ходзячы кожны дзень па вёсцы, я бачыў, як планамерна і настойліва яна шалехтала гарод за гародам. Спачатку павыбірала буракі, моркву, потым, калі пачалі расці гуркі, дабралася і да іх. Уставала Хоўра і ішла на росшукі свайго любімага харчу рана, калі я яшчэ спаў альбо чакаў, калі, нарэшце, спадзе раса і можна будзе ісці, каб не надта замачыцца і абшалюхацца,— і пакуль я прыходзіў у вёску, так чыста паядала гурочкі, што, каб знайсці сабе які-небудзь замо-рак, я змушаны быў пабываць не менш як у дзесяці дварах...

Я разоў колькі спрабаваў падпільнаваць Хоўру і забіць. Не толькі праз тое, што яна ўсюды мяне апярэджвала і ела тое, што мог з'еці я сам, але яшчэ і таму, што мне дужа хацелася мяса: свінні ўсёй я, вядома, не з'еў бы, у мяне не было і солі, каб можна было пасаліць і схаваць хоць кавалачак на заўтра, ды добра было б наесціся і раз уволю. Я ведаў усе Хоўрыны сцежкі, па якіх яна снавала па людскіх гародах, браў пранік, якім бабы пралі палатно і які валяўся цяпер ля копані ў кружку ля нашых сотак, лажыўся ў разору і чакаў Хоўру. Але яна, як на тое, у той дзень абавязкова не ішла па той сцежцы, дзе ляжаў я, нібы загадзя ведала, гадаўка, што яе там чакае. Назаўтра я пераходзіў на другую сцежку, але свіння тады кіравалася па

тых сцежках, якія я пільнаваў учора. Тады я, раззлаваны, краўся да вадапою: я ведаў, што Хоўра па некалькі разоў на дзень ходзіць да копані піць ваду і купацца, і выбіраў сабе схованнь там. Пасля ж таго, як я аглушыў Хоўру пранікам, яна перастала хадзіць да копані — знайшла недзе іншае месца, дзе была вада і дзе нічога ёй не пагражала.

Спрабаваў я падпільнаваць Хоўру і ля яе лагва — яна, як я прымеціў, начавала заўсёды ў Аўхімавым двары, у шумавінні.

Ды Хоўра, раз'ятраная, так скочыла на мяне, што я з усіх ног кінуўся прэч, баючыся, што свіння дагоніць мяне і разарве...

Урэшце я пераканаўся, што пакаштаваць свежыны, як бы таго я ні хацеў, мне не ўдасца. Я толькі блукаў па гародах і кожны дзень адзначаў сабе, якую шкоду і каму ўчыніла сёння свіння. І так быў прывык да Хоўры, што калі неяк, ідучы паўз свой двор, убачыў у карталяніку абгрызеныя, зусім яшчэ свежыя свіныя косці, я не даў веры, што Хоўру злавілі і з'елі ваўкі...

Але ў наступныя дні я больш нідзе не ўбачыў свежых яе слядоў — давялося паверыць, што Хоўры няма.

Людзей Хоўра абхітраць навучылася, абхітрыць жа ваўкоў не змагла...

Мінула яшчэ некалькі дзён. Жыта ўжо амаль усюды паспела, пажаўцела, а зерне зрабілася цвёрдае і не такое смачнае, нават падпражанае на агні, як было раней. Цяпер, каб назбіраць зялёных каласкоў на снеданне і вячэру, я змушаны быў падоўгу хадзіць па ўзмежках альбо шукаць загонаў поблізу кустоў — там, як я прыкмеціў, жыта паспявала куды пазней.

Беручыся ўзмежкамі па нечых сотках да альса, дзе быў на выспачцы мой будан, я, сам таго не заўважаючы, спыніўся ля яблыні, што адзінока стаяла на гародзе далёка ад печышчаў. Яблыня была прысадзістая, рачкаватая і ўся бялела ад яблык. Яблыкі густа ляжалі і пад яблыняй, доле.

«Чаго яны аб'ехалі? Ад гарачыні? А мо паспелі?»

Я падняў з зямлі яблык, абцёр яго аб штаны і ўкусіў — яблык быў салодкі.

«Глядзі ты!..» — узрадаваўся я.

Тут жа нагнуўся, прысеў наўколенцы і назбіраў поўную пазуху жытнікаў — а гэта былі яны, маленькія, вуглаваценькія, але такія сакаўныя і смачныя — і занёс у алёс, да буданчыка, увесь час дзівячыся, чаму гэта я не ведаў пра гэтую яблыню раней.

«Гэта ж так зручна было да яе падпаўзаць,— не мог я сабе даравацъ, што даў маху.— Ні праз плот не трэба пералазіць, ні прыгінацца па падвоканні... І латашы — хоць да апошняга яблычка — ніхто не ўбачыць... А хоць і ўбачыў бы, хіба б злавіў у полі?..»

З гэтага дня я ўсё часцей і часцей заварочваў пад яблыню. Калі пазбіраў яблыкі доле, пачаў лазіць і наверх, у голле. Там, умасціўшыся зручна на сук, я аглядаўся — ці ніхто мяне не бачыць, ці няма нікога ў вёсцы — яблыня, балазе, стаяла на пагорку, і з яе добра відаць было далёка навокал.

У той дзень, забраўшыся на яблыню ў самы вяршок, я таксама па звычцы акінуў вачыма вёску. І — умлеў: па вуліцы, проста наўпроці мяне, пылілі два грузавікі, поўныя нямецкіх салдат. Я не чуў, як раўлі маторы, мусіць, толькі таму, што вецер дзьмуў не на мяне, а ад мяне, з поля.

«Вось табе і маеш...»

Я скокнуў з яблыні на зямлю. І ў той жа момант прысеў — востры боль пранізаў левую нагу.

«Няўжо немцы мяне ўбачылі, няўжо стрэліў каторы і параніў?»

Схапіўся рукою за нагу — крыві нідзе не было. Паварушыў пальцамі — балела вышэй пяты, у костачках.

«Відаць, проста падвярнуў...»

Паспрабаваў устаць. І не змог. Востры боль зноў укалоў мяне ў самае сэрца.

Ляжаць пад яблыняй было небяспечна: немцы маглі мяне бачыць, як я лез у голле. І маглі спыніцца, маглі кінуцца мяне шукаць. І гэтага я не пачуў бы, бо вецер увесь час быў ад мяне, ён адносіў, прыглушаў гукі.

Перасільваючы боль у назе, я папоўз па разоры ў жыта. Прапаўзу крокаў колькі — азірнуся: паслухаю, ці не гоніцца хто за мною, і зноў паўзу.

Не, за мною, на шчасце, ніхто не гнаўся — грузавікі з немцамі, не спыняючыся, не змяншаючы хуткасці,

праехалі, пранесліся па вёсцы і збочылі на тую дарогу, што паўз могілкі вяла ў Замошкі.

Я адпоўзся ў кружок, да сваіх сотак, і ўжо адтуль бачыў, як машыны, цягнучы за сабою доўгія хвасты пылу, які ветрам адносіла далёка на зялёныя загоны бульбы, прамчалі па полі і неўзабаве зніклі з вачэй — схаваліся ў лесе.

«Што немцам трэба ў Замошках? Чаго яны туды так спешна памчаліся?..»

Два выбухі амаль адначасова скаланулі зямлю. І абодва — у тым баку, куды паехалі грузавікі. І зноў стала ціха-ціха... Як было і перад гэтым.

Я ляжаў у кружку да самага вечара — усё чакаў, калі грузавікі з немцамі будуць вяртацца ў мястэчка. Але так і не дачакаўся...

Змерклася, а грузавікоў усё не было і не было...

«Дзе ж яны падзеліся?..Чаму не вяртаюцца?..— брала, не давала мне спакою цікаўнасць.— І што гэта за выбухі так скаланулі зямлю?.. Можа немцы што-небудзь падарвалі? Але што?.. Там жа, па дарозе, здаецца, няма ні аднаго моста... І чаму, чаму яны паехаць паехалі ў Замошкі, а назад адтуль усё не вяртаюцца і і не вяртаюцца?..»

Думкі, што сталася з грузавікамі, чаму яны паехалі ў Замошкі і адтуль не вярнуліся, не пакідалі, мучылі мяне ўсе дні, пакуль я ляжаў у кружку крушынніку, не могучы ступіць на левую нагу. Праўда, боль у назе трываў не доўга, ён хоць і марудна, не так, як таго б хацелася мне, але мінаўся, праходзіў. Я, мусіць, нават і не падвярнуў нагі, а проста няўдала скочыў і трохі расцягнуў сухажыллі.

Дзён праз тры я ўжо мог стаяць на назе, а яшчэ дні праз два і зусім хадзіў. І адразу ж, не адкладваючы гэта на пасля, памалу пакульгікаў на тую дарогу, што вяла паўз могілкі ў Замошкі і па якой некуды паехалі і не вярнуліся назад грузавікі з немцамі.

Нага ў мяне ўсё яшчэ балела. Гэта мне толькі здавалася, што яна не баліць, пакуль не хадзіў. А пайшоў — адчуў: боль не мінуўся, ён толькі стаіўся, прыціх на час. Каб надта не навярэдзіць нагі і не вярнуцца з паўдарогі, я праз кожныя дваццаць — трыццаць крокаў садзіўся на абочыну і адпачываў.

У добрага паўдня я ўсё ж дакульгікаў да той павароткі, дзе гібела, дажывала свой нядоўгі век пафарбаваная ў зялёны колер лавачка і адкуль лічылася, што да Замошак акурат столькі, колькі і да нашай Рудні. Лавачку гэтую зрабіў некалі тут, у лесе, ляснік Яўмен Тарбачэня. Ён і фарбаваў яе штогод вясною. Цяпер фарба дзе-нідзе аблупілася — не дзіва, два леты яе сушыла сонца і мылі дажджы. Западала, засыпалася лісцем і яма, што выкапаў быў пры самай дарозе ляснік — каб было куды кідаць недакуркі, калі хто часам прысядзе на лавачку і закурыць. Падгніў і паваліўся ў траву і той слуп, да якога была прыбіта цвікамі-маставікамі жоўтая бляха; гэтая бляха, і пагнутая, пакарабачаная, усё адно заклікала людзей быць заўсёды пільнымі ў лесе і не жартаваць з агнём.

Але што гэта?..

Пад старою, пашматанаю, а месцамі і абкоранаю з камля хвояй, крокаў за дзесяць ад лавачкі, ляжыць, уткнуўшыся патыліцаю ў мурашнік, даўгалыгі белабрысы немец. Мурашкі апанавалі яго твар, поўзаюць па губах, вачах, шыі... Адна рука падагнута пад бок, другою ён прыкрывае грудзі — праз растапыраныя пухлыя пальцы праступае чырвоная крывяная пляма, і там рояцца мухі... Босыя ногі пачарнелі, скура сям-там палопалася, і відно, як пад ёй варушацца, кішаць чэрві...

Я ступіў крок, другі наперад — і зноў убачыў немцаў... Цяпер ужо не аднаго, а двух — яны ляжалі амаль пораўне, тварамі ў зямлю, нібы хаваліся ад некага за тоўсты бярозавы пень. Каскі паспадалі ў іх з галоў і адкаціліся ў ягаднік — на адной з іх нешта бялела... Густое, з чырванню... Ці не мазгі?..

Крокаў за пяць ад гэтых двух ляжаў яшчэ адзін немец, таксама босы, без шапкі, з закасанымі па самы локаць рукавамі. На твары ў яго ўжо не было ні вачэй, ні носа — відаць, іх выклевалі птушкі...

Трохі паводдаль выцягнуўся на ўвесь свой немалы рост яшчэ адзін... І яшчэ... Яшчэ... Яшчэ...

Далей я не глядзеў, бо на вочы мне трапіўся абгарэлы кузаў грузавіка. Машына грувасцела бокам да мяне, і я доўга зырыўся на пастраляны, зрашочаны кулямі капот, пагнутую, пакарабачаную кабіну, у якой былі паадчыняны нахлашч дзверы і выбіта да друзачкі

шкло... За рулём, налёгшы на яго ўсім сваім грузным целам, звесіў пляшывую, пастрыжаную нагала галаву нежывы шафёр...

Другі грузавік стаяў за купкаю асінніку і выглядаў яшчэ страшней: заднія колы, пашматаныя кулямі і асколкамі, валяліся пад дрэвамі, а перад увесь быў разварочаны, парваны: грузавік, мусіць, наскочыў на міну...

Каля грузавікоў распасцёрліся і таксама пруцянелі забітыя немцы. Без ног, без рук, з вывернутымі трыбухамі — няйнакш, трупы абашмарылі ўжо ваўкі ці згаладалыя сабакі... Але зброі нідзе не было — яе, напэўна, падабралі тыя, хто напаў на немцаў...

Цяжкі саладжавы пах, пах тлену і гніення, разыходзіўся ад трупаў, заглушаў іншыя лясныя пахі...

«Вось чаму не вярнуліся грузавікі з немцамі ў мястэчка...— падумаў я.— Іх перастрэлі тут... І нікуды не пусцілі — ні наперад, ні назад...»

І разам з радасцю ў мяне расла, накіпала злосць.

«Хто, хто прасіў вас прыходзіць сюды, у наш лес, у нашую вёску? — не спускаў я вачэй з забітых немцаў.— Што, што вам трэба было тут?.. Хіба мала вам было сваёй зямлі — нашай захацелася?.. Дык ешце, ешце яе, давіцеся, душыцеся!.. Так вам і трэба, гадаўё!..»

У Замошкі я не пайшоў. Завярнуўся і пакульгікаў назад у сваю вёску...

---

Вёсачка на Палессі ўскрай бітага шляху, што пралёг на тысячы кіламетраў з поўначы на поўдзень, на Украіну. Нешырокая, уся ў лазняках, рачулка, поле, балота, лес. І курганы. Вялізныя, пакатыя, парослыя травою і мохам. Іх чатыры — татарскі, шведскі, польскі, французскі...

І пра кожны курган — свая легенда, свой сказ...

Самы стары і даўні курган — татарскі. Ён ад тых часоў, калі татары ішлі на славянскія землі, як саранча, і стрымаць іх, не пусціць проста не выстачала сіл. Татарам можна было толькі не скарыцца, помсціць спадцішка пры кожным зручным выпадку — за спаленыя і разбураныя паселішчы, за згвалтаваных нявест і забітых матак, дзяцей. І людзі гэта разумелі. Аднойчы выйшлі яны ўсёю вёскаю з сякерамі і жалезнякамі на

дарогу, дзе, як расказваюць, некалі падыходзілі блізка адно да аднаго два азярцы, і тры дні і тры ночы капалі вялізную яму. А выкапаўшы, засцялілі яе ламаччам, галлём, прыклалі дзёрнам, прысыпалі пясочкам, ды так, што і не пазнаеш, што тут не дарога, а яма. І паклікалі татарскі атрад... І калі ён, той атрад, быў непадалёку ад вёскі, напусцілі на татарскіх коней ваўкоў і і мядзведзяў, што налавілі знарок дзеля гэтага ў лесе... Коні спудзіліся, і... увесь атрад апынуўся ў яме...

Са шведамі вёска справілася яшчэ мудрэй. Тыя папрасілі, каб іх пераправілі цераз балоты на Украіну. Іх і пераправілі, толькі не на Украіну, а на выспу, з якой ніяк нельга было выбрацца, толькі хіба на плытах ці на лодках. А плыты, лодкі патапілі...

Курган палякаў набілі тады, як Палессе гуло ад паўстанцаў і сюды ад самога Хмяльніцкага прыйшоў са сваім атрадам Міхал Крычаўскі...

Французаў апрасталі даволі лёгка, калі тыя неяк узімку збіліся з дарогі і, галодныя, зняможаныя, уночы натрапілі на вёску...

Мог быць і яшчэ адзін курган, нямецкі. Ды яго чамусьці не насыпалі...

Старыя людзі шчыра вераць у курганы. Бо варта было толькі насыпаць курган на варожых касцях і забіць у яго асінавы кол, як з той краіны больш ніколі ўжо не прыходзілі на Палессе ваяваць. Старажылы маюць даволі важкі довад — яны, напрыклад, кажуць, што, каб, маўляў, не паленаваліся ды насыпалі былі ў імперыялістычную вайну нямецкі курган, то не таптали б больш немцы нашай зямлі...

Ніхто з маладых, вядома, у гэта не верыць, хаця сёй-той і шкадуе, што не насыпалі нямецкага кургана. Хай бы быў... Хай бы напамінаў нашчадкам яшчэ пра адну вайну, яшчэ пра адно вялікае змаганне за бацькаўшчыну, волю і жыццё.

Вёсачка на Палессі ўскрай бітага шляху, што пралёг на тысячы кіламетраў з поўначы на поўдзень, на Украіну. Нешырокая, уся ў лазняках рачулка, поле, балота, лес. І курганы. Вялізныя, пакатыя, парослыя травою і мохам. Іх чатыры — татарскі, шведскі, польскі, французскі...

І пра кожны курган — свая легенда, свой сказ...

---

Лета адыходзіла. І гэта адчувалася ўсюды — у лесе, у полі, на лузе...

Першы жоўты лісток адарваўся ад галінкі бярозы і квола, сумна зашапацеў у траве — «прыйшоў Пятрок, адарваў лісток...»

Пачарнела і зламалася, не вытрымаўшы цяжару, сцяблінка жыта на ўзмежку — колас уткнуўся вусамі ў зямлю, і з яго выпалі прадаўгаватыя залацістыя зярняты: жыта не хацела мірыцца з тым, што яго не было каму жаць, каму есці,— яно дбала пра сваё патомства... Малацілася дажджамі, веялася вятрамі. І сеялася... Сеялася само, зноў у тую зямлю, якая яго і спарадзіла, вырасціла, выспеліла...

На лузе не крычалі ўжо цэлымі зграямі маладыя шпачкі, і хоць нідзе не купчасцеў, не шарэў вострым верхам ні адзін стог, лета канчалася і тут: трава змізарнела раптам, нібы тая дзеўка-перастарка, што не выйшла ў пору замуж, парыжэла і дзе-нідзе забялела, заматляла тонкаю пражаю павуціння, а кусты неяк сіратліва прыгнуліся і прыціхлі — у іх больш не нылі камары, не бзыкалі мухі, авадні...

Рэдкі матылёк хутка-хутка махаў крыльцамі, нібы некуды вельмі спяшаўся, нібы ад некага ўцякаў...

Чарнакрылы бусел стаяў на адной назе і думна глядзеў некуды ўдалячынь — ці не туды-туды, куды неўзабаве пакліча яго вырай...

Ачынаўся і гойсаў, пыліў па дарогах вецер...

Раса, выпаўшы ўранні, іншы раз трымалася ўвесь дзень — холадна і неяк няветла паблісквала ў лапушыстым лісці малачаю...

Пасвілі ў лагчынах туманы сваіх белагрывых коней, курылі, курылі люлькі і дымілі, дымілі на досвітках іхнія дымныя начлежныя вогнішчы...

Рыпелі на градах тугія, галавастыя качаны, рвалі і рвалі на сабе ад цяжкай, несуцешнай задухі цесныя кашулі...

Жоўк і нікнуў долу картаплянік...

Пераспелыя яблыкі ападалі ў цішы садоў і гучна покалі ў зямлю...

Усё ніжэй і ніжэй хадзіла сонца, позна яно ўставала і, не паспеўшы падняцца, клалася спаць...

А па начах, якія раптам сталі ядраныя і светлыя, на небе высвечваліся зоры. Зор высыпала столькі, што

праз іх не відаць было самога неба. А яны ўсё высыпалі і высыпалі. Вялікія, па гусіным яечку, і зусім маленькія, дробненькія, як макавыя зярняткі, як пылінкі.

Дзвюма шырокімі каляінамі распасціраўся Млечны Шлях — дарога ў небыццё ўсіх мёртвых...

І зрываліся, падалі ў апраметную з неба зоры... Падалі густа і часта, бы ўсё роўна сыпаўся бясконцы залаты дождж...

Блізка была восень...

Два дні я блукаў па лесе, па полі, па лузе...

Два дні я глядзеў, як задыхалася і памірала лета...

Я пабываў усюды, дзе хоць калі ступала мая нага, дзе хадзілі са мною і без мяне мая маці, бацька, дзед... І ўсюды спыняўся, падоўгу стаяў. І не мог ні ад чаго адарваць вачэй, нібы ўсё гэта бачыў апошні раз. І ўсюды я ўспамінаў...

— вось там, на тым курганцы, мы кідалі з бацькам першы наш стог — бацька кідаў, а я вяршыў... І бацька навучаў мяне тады, што не трэба спяшацца, трэба акуратненька браць граблямі сабе пад ногі той пярэбірак, што падасць ён віламі, і ўжо толькі тады хадзіць па ім, таптаць... Іначай стог выйдзе крывы, і не паспееш яго завяршыць — разваліцца, абернецца...

— там, у раскідзістым кусце лазы, бацька сек апоўзіны на другі наш стог, а маці стаяла на пакошы і вязала іх, каб яны трымаліся на стозе і не падалі...

— а там, пад маладым галлістым вязам, мы абедалі... Я, бацька і маці... Скончылі кідаць стог і прыселі падсілкавацца... І елі тады мы... Чакай, што ж мы тады елі?.. Ага: крута вараныя яечкі, сала, маладыя свежыя гуркі з хлебам і запівалі ўсё гэта малаком...

— а на той вунь дуб, сухі, аблуплены і скручаны ад касавіны, што верчык, дзед, калі яшчэ быў дужэйшы і не так кашляў, цягаў калодачны вулей... У вулей той пчолы не селі, а селі шаршні... І бацька, абедаючы, душыўся смехам і расказваў мне, як дзед лазіў на дуб выганяць шаршнёў і яны яго пакусалі... Пакусалі так, што ў дзеда пазапухалі вочы, і ён ледзьве знайшоў дарогу дадому... Можа таму дзед больш ніколі і не займаўся пчалярствам...

— а вось туды, у алешнік, на старыя дзялянкі, мы

хадзілі з маці па маліны, ужо калі жылі адны, без бацькі — бацька быў на фронце... А вунь і дарога тая, пазарастаная дзе-нідзе муравою і трыпутнікам, па якой мы праводзілі на фронт бацьку... Праводзілі ўсёю сям'ёю — маці, Верка, я і нават дзед...

— а вось там, на ўзлеску, дзе імшарына, я заўсёды браў баравікі — чорнагаловыя, белыя і моцныя-моцныя, як капыты... Возьмеш яго, а ён аж рыпіць... І бацька, і маці заўсёды дзіваваліся, дзе я бяру такія хвацкія баравікі...

— а вунь туды, у той падлесак, што пад дубамі, мы з Грышкам і Косцікам бегалі па ягады, па арэхі... І ці не тую гэта грушу-дзічку, што так нізка развесіла голле, мы калацілі неяк, калі вярталіся з лесу... Мы з Косцікам залезлі ў вільчык, а Грышка хадзіў па ржышчы і шукаў гнілак... І я тады надумаўся пажартаваць — адарваў зялёную, цвёрдую грушу-здароўку і запусціў ёю Грышку ў галаву. І трэба ж — акурат пацэліў... І Грышка вельмі пакрыўдзіўся на мяне. Заплакаў і, не чакаючы, калі мы злезем з грушы, паклыпаў адзін дадому... Нават на шапку сваю з гнілкамі забыўся...

— а вунь там, ля кружка лазы, мы сеялі з маткаю проса, садзілі капусную расаду — мама садзіла, а я хадзіў услед за ёю з вядром і палівaў... І маці ўсё напамінала мне, каб не ліў я пабагату вады пад каліва, бо яно можа згнісці...

— там, у копані, я піў ваду, калі мяне мучыла смага, а вунь там, на той сцежцы ля жыта, я, калі вяртаўся з Замошак, убачыў людзей, што беглі з вёскі. Там пачуў я і стрэлы...

— а вунь адтуль, трохі спагадзя, убачыў дым — гарэла наша вёска...

...Да ранейшых, даўніх успамінаў прымешваліся новыя — тое, што я перажыў ужо адзін, без маці, без бацькі, без Веркі, без дзеда...

Прыбіўшыся апоўдні ў вёску, я зноў сядзеў на сваім селішчы на дрывотніку, на той абцюканай і ад таго шурпатай калодзе, на якой бацька, маці, а потым ужо і я секлі дровы і якая не згарэла, асталася ляжаць бадай што адна сярод нашага двара і на якой я правёў гэтулькі дзён і ночай пасля таго, як асіраціла мяне вайна, зноў глядзеў на пажарышча хаты, на закура-

ную, з праламаным чаранам і абваленым комінам печ, якая зусім абвалілася і пазацякала рудаватымі пісягамі гліны, і зноў думаў, зноў успамінаў...

— як я крыўдаваў, што бацька ходзіць штодзень на работу, і, каб ён пабыў са мною дома, аднойчы схаваў, запхнуўшы ў пячурку, яго шапку... Бацька ўвесь ранак шукаў шапку па ўсёй хаце, перапароў, перавярнуў усё дагары нагамі, а я ляжаў на печы і ціхенька хіхікаў у кулачок... І калі бацька, так і не знайшоўшы шапкі, пайшоў з голай галавой на работу, мне зрабілася шкода яго. Я выбег на вуліцу, дагнаў і падаў яму шапку... А ён, замест таго каб узяць шапку, проста сярод вуліцы зняў са сваіх штаноў дзягу і адсцябаў мяне... Адсцябаў так балюча, што я, вырваўшыся, прыбег дадому, залез на печ і амаль паўдня праплакаў...

— як дзед, калі сохлі ў нас на печы ягады і грушы, краў іх патрошку ад маці і, седзячы дзе-небудзь у куточку, скрытна жаваў бяззубым ротам, каб ніхто не бачыў... А маці думала, што бяру з печы грушы і ягады я, і ўсё гаварыла мне, каб не еў тых груш і ягад, што сохнуць, бо ад іх забаліць жывот, а еў свежыя — яны куды смачнейшыя...

— як маці нарабіла аднаго разу ўзімку поўную бойку кулагі, паставіла на печ, каб падышла, і забылася зняць... Кулага тая ўзяла дый выбегла з бойкі, абрамізіўшы ўсяго дзеда, і мы думалі, што дзед... Ды што тут таіць: думалі, што дзед аскандаліўся на старасці...

—як я, прыбіўшы да страхі хаты дошку, нацягаў, назносіў туды з усяго нашага гарода гарбузоў. А дошка тая ўначы ўзяла дый адарвалася, і гарбузы пакаціліся, пасыпаліся са страхі ў двор. Мы, прачнуўшыся, спрасонку ўявілі немаведама што... Дзед нават перахрысціўся быў — думаў, што гэта вярнуліся ў наша селішча зноў страхі...

— як цягнулася Верка, калі жывая яшчэ была, ручкамі да вяргіняў, што цвілі ў нашым гародчыку, і ўсё пыталася: «Мама, а ета п'яўда, што ета не зізя, не зізя, п'яўда?..»

— як вярнуўся я першы раз пасля пажару на сваё селішча і стаяў тут, разглядаў, што нарабіў агонь...

— як матляўся ў пятлі на грушы стараста Аўхім...

— як насіў з Аўхімавага пограба і ладаваў на воз сала Гуртавенка...

— як я падумаў быў, што маці мая не згарэла разам з усімі ў школе, бег шукаць яе ў Замошкі...

— як галадаў я ў лесе...

— як пёк у прысаку на Гудагаевай паляне некалькі дзён з немцам, таго не ведаючы сам, бульбу, што збіраў на людскіх папялішчах і ў паграбах...

Потым я хадзіў, сноўдаўся, як цень, па вёсцы міма абгарэлых, абвугленых платоў і чорных пажарышчаў, на якіх усё яшчэ зеўралі, бялелі, нібы смерці, толькі хіба што без кос, разбураныя печы...

Аслепніце вочы мае, калі вам накавана яшчэ хоць калі бачыць такое!

Паадсыхайце ногі мае, калі вам наканована яшчэ хоць калі вадзіць мяне па такіх вёсках!

Разарвіся, лопні ў грудзях маіх сэрца, калі табе наканована яшчэ хоць калі абліваццa так крывёю!

Забі пярун мяне сярод белага яснага дня, забі цяпер, вось у гэтую хвіліну, калі мне наканована яшчэ хоць калі перажыць тое, што перажыў я тады!

Прашу, малю вас, светлыя і цёмныя сілы, дабро і зло, зямля і неба, бог і чорт, прашу, малю ўсіх, хто нада мною і хто вышэй мяне — калі вы толькі такія дзе ёсць! — злітуйцеся, пашкадуйце, зрабіце тое, што я прашу!

Я не запла́чу, не вазьму сваіх слоў назад!

Ну-у!

Ніхто не слухаў мяне, ніхто не шкадаваў — і вочы мае глядзелі, і сэрца маё аблівалася крывёю, і ногі мае вялі мяне ўсё далей і далей па вёсцы...

І вось я стаю ўжо каля папялішча школы, на той клумбе, дзе некалі ўночы так жаласліва выў, скуголіў сабака і адкуль я ўпершыню ўбачыў чалавечы чэрап...

Чэрап свайго аднавяскоўца, каго я ведаў і каго ўжо не пазнаваў... Можа нават чэрап маёй роднай маці...

О, не вярніся, не паўтарыся ніколі-ніколі болей той момант! Ідзі на цёмныя лясы, на глухія балоты, на сухія лозы!

Прэч, прэч ад мяне!

Цяпер не выў ужо на клумбе сабака, і ночы не бы-

ло, і месяца, і дыму, што так звіваўся, і, нібыта сляпы, патыкаўся то ў адзін, то ў другі бок,— стаяў светлы, усё яшчэ летні па-жніВеньску цёплы дзень, свяціла сонца, і ў чыстым блакіце неба паволі-паволі плылі хмаркі — плылі і плылі некуды, як плылі яны і ўчора, і пазаўчора, як плылі, можа, і сто, і тысячу гадоў таму назад... Падзімаў ветрык, віхурыў, круціўся па папялішчы, уздымаў угору попел, што астаўся ад некалі жывых людзей, і разносіў, рассяваў яго, як руплівы сейбіт, па зямлі...

Па той зямлі, якую гэтыя людзі таптала, мясілі нагамі вясною і ўвосень, улетку і зімою, па якой хадзілі, якую ўраблялі, палівалі слязамі і потам і якую любілі больш за ўсё на свеце...

Зямля ўзгадавала гэтых людзей — яна і забірала іх зноў да сябе...

На папялішчы аставаліся ляжаць галавешкі ды белыя, абмытыя дажджамі і ўжо месцамі пачарнелыя чалавечыя чарапы... Чарапы і косці...

Чарапы і косці людзей, якіх я ведаў, з якімі жыў...

Чэрап і косці маёй роднай маці...

Ды яшчэ стыла, холадна паблісквала абапал папялішча, нібы згусткі чалавечых слёз, расплаўленае шкло...

Школа, што вучыла людзей усяму добраму, не ведала, дзе падзець свае вочы, якія бачылі гэтульнкі смярцей і нічым-нічым не маглі памагчы людзям,— яна выплакала іх ад гора...

Больш ніколі-ніколі не залівацца школе дзіцячым смехам...

Ніколі-ніколі не глядзець праз вокны дзецям на свет...

Ніколі-ніколі не радавацца на сходах бацькам за сваіх дзяцей...

Бо бацькі і дзеці згарэлі...

Іх няма! Няма іх...

— Няма-а, іх няма-а! — здавалася, шаптала ўслед за мною пераспелым коласам жыта, што падыходзіла клінам пад самае папялішча школы.

— Няма-а, іх няма-а!..

Потым, абмінаючы падупалыя, недагледжаныя людскія магілы — не было каму даглядаць іх, уся вёска

ляжала, спаленая, у школе,— міма пачарнелых дубовых крыжоў, якія то тут, то там пагнілі ўжо і ад старасці пакрывіліся, панахіляліся долу, я ішоў па могілках, ішоў да таго раскідзістага куста акацыі, дзе пахаваны былі ўсе мае родзічы, матчыны маці і бацька, дзве мае сястрычкі — Людка і Верка, дзе пахаваны былі мае прадзеды, прашчуры...

Спакой і супакаенне панавалі тут, на могілках. І было да жудасці ціха. Як усё роўна на полі. Ці ў вёсцы. Толькі зрэдку, калі на хвоі налятаў вецер, яны паволі-паволі, нібы недавольныя, што іх патрывожылі, абудзілі ад сну, пахмура, стомлена шумелі, гулі...

Прыхіліўшыся плечуком да бярозкі, пад якою мы з маці закапалі ўвосень дзеда, я доўга стаяў і глядзеў на той зарослы густою муравою пляц, што пуставаў ля магіл маіх продкаў... Ніхто не гаварыў мне, каму пакідаўся ён, гэты пляц. Не варта было — я быў не маленькі — ведаў усё сам.

«Цяпер матчына і цёткі Лісаветы месцы і на могілках будуць пуставаць... Іхнія магілы там, на папялішчах... А мая? Дзе будзе мая магіла?.. Ці выжыву я?.. Ці дачакаюся дня, калі скончыцца вайна, калі вернецца дадому бацька?.. І ці вернецца ён?.. Столькі людзей пагінула... Можа і ён дзе ўжо загінуў... І яго месца на могілках таксама будзе пуставаць?.. Як матчына... Як цётчына Лісавеціна... Як усіх-усіх людзей, каго захапілі ў вёсках немцы і спалілі...

Слёзы здавілі мне горла...

*«Хто, хто выдумаў цябе, вайна?.. І чаму ты такая крыважэрная, ненасытная?.. Мала таго, што ты разлучаеш дзяцей з бацькамі і бацькоў з дзяцьмі, жонак з мужыкамі і мужыкоў з жонкамі на гэтым свеце, дык ты яшчэ разлучаеш іх і на тым — рассейваеш, раскідаеш іхнія косці, іхнія магілы дзе папала, па ўсіх абшарах, па ўсёй Зямлі! Дык будзь жа назаўсёды праклята ты, вайна! І хай да канца дзён сваіх будзе пракляты той, хто цябе выдумаў!..*

*Вечны праклён табе, вайна!..»*

Я развітваўся з вёскаю...

Я ішоў шукаць партызан...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дадому, ў сваю родную вёску, я вярнуўся праз два гады...

Па дарогах, дзе зусім нядаўна гуляў, нішчачы ўсё жывое, дзікі шал агню і сталі, пыліла першае пасляваеннае, не зусім яшчэ мірнае лета.

Ехалі, ішлі, дабіраліся хто на чым і хто як мог — на цягніках, машынах, падводах, нагах, а сёй-той і на мыліцах — выгнаныя вайною са сваіх спрадвечных селішчаў, раскіданыя па ўсіх канцах свету людзі.

Кожны хацеў ведаць, хто астаўся ў яго жывы, хто не згубіўся ў ліхалеццe, не лёг раней часу ў магілу, каго трэба абняць, прыгарнуць да грудзей, пацалаваць, а каго толькі ўспомніць добрым, але горкім словам...

Яшчэ не былі выплаканы ўсе матчыны слёзы...

Яшчэ не было да канца спазнана дзяцінае сіроцтва...

Яшчэ не сціснула апошнім, самым жудасным болем салдацкае сэрца туга...

Яшчэ не ўдаўнілася, не прытупела дзявочае гора...

Нават у таго, каго абпаліла вечнай чорнай жалобай пахавальная, яшчэ недзе, на самым сподзе душы, тлела, варушылася трывожнае: «А можа?... А раптам?..»

Усё, усе жылі надзеяй, чаканнем...

Поле чакала аратых...

Хаты чакалі гаспадароў...

Маці чакалі сыноў...

Дзеці чакалі бацькоў...

Дзяўчаты чакалі жаніхоў...

Надзея і чаканне паклікалі і мяне на папялішча роднай дамоўкі.

---

Сын мой, дарагая, мілая радасць мая! Зноў мы з табою асталіся адны — маці наша пайшла на работу, а Тоня, гэтая верціхвостка, якой ніколі нідзе не сядзелася, пабегла ў кіно глядзець нейкую новую і, як ёй сказалі, вельмі пацешную камедыю. І мы з табою зноў толькі ўдвух дома — ляглі спаць. Падсунься ж бліжэй да мяне, сын мой, уткніся носікам у плячо маё, як гэта любіў ты рабіць, калі быў зусім-зусім маленькі... Зрабі ласку такую мне, сын мой, бо я зноў хачу, як бывала, гладзіць цябе па шаўкавістай, віхрастай галоўцы,

хачу глядзець у твае блакітныя, такія ціхія, нічым не зажураныя вочы і зноў хачу расказваць... Што?.. Ах, хіба гэта не ўсё роўна, абы толькі ты быў ля мяне, абы рука мая гладзіла паслухмяны шоўк твае галавы, а вочы мае глядзелі ў твае вочы... Хочаш, я буду ўспамінаць сваё маленства, зноў расказваць табе пра вайну, пра тое, як жыў я, калі астаўся адзін — без бацькі, без маці, наогул без нікога — адзін, як палец... Хочаш?..

Дык падсунься ж бліжэй да мяне, сын мой, і слухай, слухай мяне...

Помніш, пра гэта я неаднойчы табе ўжо гаварыў, я, так і не знайшоўшы, не сустрэўшы нікога з людзей сваёй вёскі, развітаўся з усім тым, што было яшчэ ў мяне там роднага і блізкага, і пайшоў шукаць партызан... Я такі дапаў да іх, сынок, хоць і праблукаў па незнаёмых лясных сцежках мала не поўных дванаццаць дзён і начэй... І я, сын мой, ужо не расставаўся з імі, аж пакуль у нашыя краі не прыйшло вызваленне,— лупіў на кухні бульбу ў партызанскі кацёл, бегаў з атрада ў атрад — насіў розныя сакрэтныя загады і даручэнні і нават, пераадзеўшыся ў лахманы і пачапіўшы жабрачыя торбы, хадзіў у разведку, пранікаў туды, куды ніхто з дарослых не мог пранікнуць... Я рабіў усё, што мне загадвалі, часам рабіў болей, чым гэта было тады мне па сіле, бо хацеў памагчы свайму бацьку, памагчы ўсім такім, як ён, як мага хутчэй прагнаць з нашай зямлі немцаў, каб яны не паспелі зрабіць ва ўсіх вёсках таго, што зрабілі ў Доўгім Моху, у Кураве, у Загаллі, у Жмураўцы, у Халопічах, у Жабраках, у Бабровым, у Чукінаўцы, у Замошках... У нашай Рудні... Прага помсты за маці, цётку Лісавету, Уладзіка, усіх-усіх спаленых, замардаваных, забітых перапаўняла мяне, надавала дужасці, спрыту... Я ані не думаў тады пра сябе, пра тое, што будзе са мною, калі я траплю ў рукі ворагаў. Усе мае думкі былі пра адно — як мага болей шкоды зрабіць гітлераўцам, як мага болей іх знішчыць...

На фронт мяне не ўзялі — я быў малы. Тры дні я праплакаў, праклянчыў у ваенкамаце... Потым, бачачы, што нічога з гэтага не выйдзе, падаўся ў горад і паступіў там на завод — я не мог ужо, каб не памагаць людзям, што гналі недабітую фашысцкую погань усё

далей і далей на захад. Але і ў партызанскім атрадзе, і ў горадзе, на заводзе, я быў адзінокі, і адзіноты мае я не мог нідзе і нічым заглушыць. І тады я зразумеў, што ніхто-ніхто не заменіць мне бацьку і маці, як усё роўна ніштo-нішто не заменіць чалавеку радзімы, таго куточка зямлі, дзе ён вырас, дзе спазнаў першую радасць і першае гора, дзе кожны курганок на полі, кожнае дрэва, кожная дарожка і сцежачка — не проста курганок, дрэва, дарожка, сцежачка, а яшчэ і ўспаміны... Дык вось, сын мой, як толькі аддалілася ад нас і недзе, аж у Берліне, захлынулася назусім вайна, я кінуў горад, кінуў завод і падаўся дадому, у сваю родную вёску... Што мне там трэба было?.. Чаму я так зарваўся туды?.. Ах, сын мой, сын!.. Табе ніколі не зразумець свайго бацькі, бо ты, дай божа, ніколі не перажывеш таго, што перажыў некалі я. Мяне цягнула дадому не толькі тая зямля, да якой я прырос душою і сэрцам, дзе ўсё, на што ні падзе вока, на чым яно ні спыніцца, не толькі мае ўспаміны, а ўспаміны ўсяго майго роду — бацькі, маці, дзеда... Мяне цягнула дадому яшчэ і надзея. Так, так, сын мой, яшчэ і надзея... Я спадзяваўся сустрэць дома бацьку. І не толькі бацьку, але — прызнаюся табе шчыра — і сваю маці. Ты можаш запярэчыць мне: маўляў, як жа гэта ты мог спадзявацца сустрэць дома маці, калі ведаў, што яе няма жывой, што яе спалілі разам з усімі людзьмі вёскі ў школе немцы... Ты што, хіба забыўся на гэта?..

Не, сын, я не забыўся, ні на што не забыўся. Але двух год, што жыў я без маці, як цяпер я ведаю, вельмі і вельмі мала, каб паверыць, што ты сапраўды сірата, што ў цябе няма больш маці... «Яна жыве! Яна ўцякла ад немцаў і недзе схавалася. Усе маглі загінуць, толькі не яна. Яна жыве. І не толькі жыве — яна шукае мяне...» — пачало зноў і зноў блюзніцца мне. Я ўжо не мог нават спаць па начах — як толькі зводзіў павекі, бачыў сваю маці... Хустка збілася ў яе з галавы, валасы растрапаліся, а яна, заламаўшы наперадзе рукі, ідзе босая па полі, па калючай пожні, і ўсё кліча і кліча мяне: «Ясік! Ясічак! Вярні-і-ся-я-а!..»

Ах, сын мой, сын! Каб ведаў ты, як зашчымела, як сціснулася ў мяне сэрца, калі я зноў ступіў на тую дарогу, што павяртае са шляху ў нашую вёску. Я спачатку не пазнаў нават, што гэта тая самая дарога, па якой

я праводзіў разам з маці і Веркаю на фронт бацьку, па якой, як палілі вёску, гналі немцы кароў, свінней, авечак, па якой вёз некалі на возе з Аўхімавага селішча сала і кажухі паліцай Гуртавенка... Думаў, што я памыліўся, збочыў не там, дзе трэба было збочыць. Бо і дарогі той нідзе не было знаць, было звычайнае поле, якое зарасло скрозь лапушыстым падарожнікам, рамонкам, сівым купчастым палыном... Дзе-нідзе яго, гэтае поле, парылі, пакапалі лычамі дзікія свінні... Няцяжка было здагадацца: дарога гэтая асабліва нікому і не трэба была, па ёй цяпер ніхто не ездзіў, ніхто не хадзіў... Дый чаго каму ездзіць і хадзіць на чужыя папялішчы, хіба толькі, каб паглядзець, што пакінулі на месцы вёскі немцы... Але такіх цікаўных было мала — за вайну людзі нагледзеліся на ўсякае людское гора... Сасна пры дарозе з буслянкай, а потым, крокаў за якіх трыста, і масток — той масток, што спалілі ў першыя дні акупацыі партызаны і які чарнеў цяпер абвугленымі па́лямі,— упэўнілі мяне, што іду я правільна, што дарога, на якую я збочыў са шляху, вядзе не куды-небудзь, а ў маю Рудню... Ты чуеш, чуеш мяне, сынок?.. Ах, ты ўжо заснуў, ты спіш... І добра, сынок, што заснуў, што спіш, бо пра тое, што я неўзабаве ўбачыў, не трэба, каб ты слухаў на ноч... Ледзь толькі я мінуў грэблю, якая расплылася, развалілася і таксама зарасла травою і лазой, і ўвайшоў у вёску, я ўбачыў: насустрач мне ішла высокая, худзюшчая, бы смерць, жанчына — сівыя, даўно не расчэсваныя валасы яе спадалі пасмамі на твар, вялікія валаватыя вочы глядзелі неяк нерухома, далёка-далёка перад сабою... На жанчыне была доўгая, па пяты, палатняная кашуля, рукі былі апушчаны, яны матляліся, як нежывыя... Жанчына не ішла, а цяжка, стомлена сунулася на мяне...

Калі жанчына параўнялася са мною, я пазнаў у ёй цётку Агапу, жонку Астапа Гусака, таго Астапа, што вартаваў некалі калгасныя гароды і на якога, ужо забітага, я спатыкнуўся ўночы ў картапляніку ля школы...

— Добры дзень, цётка Агапа! — сказаў я, узрадаваны, што сустрэў першага жывога чалавека з нашае вёскі.

Але цётка Агапа нічога не адказала — моўчкі прайшла міма, нібы нават і не заўважыла мяне...

І тут толькі да мяне дайшло: цётка Агапа, не такая, якой была, а нейкая дзівотная, мусіць, не ў сваім розуме. Таму і прайшла яна міма, таму і не адказала на маё прывітанне...

Ты чуеш, чуеш мяне, сынок?.. Ах, ты даўно ўжо спіш, я і забыўся... Ну, спі, спі, сынок, хай сняцца табе добрыя, салодкія сны... А я буду ляжаць ля цябе і ўспамінаць... Доўга буду яшчэ ўспамінаць, што ўбачыў я ў сваёй вёсцы, калі прыехаў туды праз два гады... Усю, усенькую ноч. Увесь век свой, аж пакуль жыць буду, пакуль не засну, не засну аднойчы вечным, непрабудным сном...

...Першае, куды я пайшоў, было, вядома, нашае, бацькава і матчына, селішча. З вуліцы, здаля, яно выглядала ўсё гэтак жа, як і тады, калі я расставаўся з ім і ішоў шукаць партызан. Здавалася, за тыя два гады, што не быў я дома, нічога тут не змянілася — гэтак жа, як і тады, буйна кучаравілася ліпа, гэтак жа хіліўся да зямлі, усё ніяк не могучы ўпасці, абгарэлы з аднаго канца пралёт плота, гэтак жа чарнелі абвугленыя сохі і шулы і гэтак жа буяла, дзічэла ўсюды зеляніна — яблыні, грушы, вішні...

Але гэта толькі здаля так, з вуліцы. Бо ледзь толькі я ўвайшоў у двор — убачыў, што зрабілі з нашым селішчам запусценне і час. Вакол таго месца, дзе некалі красавалася новай гонтавай страхою і пафарбаванымі ў блакітны колер ліштвамі хата, а потым, пасля пажару, чарнела вуголлем папялішча, парос высокі, роўны са мной, бур'ян... Бур'ян быў і на самім папялішчы — зялёны, густы, ён падыходзіў аж да печы, якая аблезла, завалілася ад дажджоў і снегу зусім — чырванела толькі дзе-нідзе з груды паленая цэгла. І на гэтай грудзе, на печышчы, таксама нешта бралася ўжо расці — ні то бур'ян, ні то палын... Палыном, бур'янам, крапівой, лопухамі, дзядамі зарос і ўвесь наш двор — сцежка, па якой мы хадзілі да калодзежа па ваду, дрывотнік, поле пад грушамі, яблынямі і вішнямі, хлевішча... Тая калода, на якой я некалі, як спапялілі немцы нашую вёску, заўсёды сядзеў, калі прыходзіў на сваё селішча, зарасла так, што і не відаць была; да яе, каб і хацеў, нельга было прадрацца.

«Значыць, маці мая не была тут...— падумаў я пра

тое, што даўно і так ведаў, але ў што ўсё яшчэ ніяк не мог паверыць.— Іначай, калі б яна была, яна б павырывала бур'ян, палын, яна нешта пасадзіла б, пасеяла... Канечне, адкуль яна магла ўзяцца?.. Яе спалілі разам з усімі немцы... І мне трэба перастаць думаць, не вярэдзіць больш сабе душу, што нехта выратаваўся... Усе-ўсе згарэлі ў школе...»

І тут раптам мае думкі нібы аб нешта спатыкнуліся, зачапіліся — я ўспомніў цётку Агапу.

«Чакай, а цётка Агапа?.. Яна ж, выходзіць, не згарэла, уратавалася... Хіба яна, як і я, не начавала тады дома?.. А можа так як-небудзь вырвалася з рук смерці?..»

Яшчэ праз якую хвіліну я, так і не агледзеўшы як след свайго селішча, не пахадзіўшы па ім, вопрамеццю кінуўся на вуліцу і пабег у той канец вёскі, куды толькі што пашыбавала цётка Агапа: я пачаў баяцца ўжо, што, калі не даганю Агапы, страчу ўсякую надзею напаткаць хоць каго жывога са свае вёскі.

«Чаму я не падумаў раней пра гэта?.. Мне трэба дагнаць цётку Агапу... Распытаць у яе, хто яшчэ з вёскі астаўся жывы, ці не ведае яна часам хоць што пра маю маці... Можа мне гэта толькі падалося, што Агапа не ў сваім розуме?..— засумняваўся я.— Можа яна нечым вельмі расстроена, устрывожана, таму і прайшла міма, не заўважыла мяне, не адказала на мой «добры дзень»?.. — спрабаваў я супакоіць, абнадзеіць сябе. І тут жа адчуваў: я свядома гавару сам сабе няпраўду.— Не, нават калі Агапа і не ў сваім розуме, мне ўсё роўна трэба яе дагнаць, трэба не спусціць са сваіх вачэй,— гаварыла, падказвала мне нейкая думка.— Агапа недзе тут жыве. І можа не адна, а з кім-небудзь яшчэ... І калі яна нічога не раскажа, то нешта раскажуць тыя, з кім яна жыве...»

Але як я ні спяшаўся, цёткі Агапы на вуліцы ўжо не заспеў.

«Яна недзе схавалася, звярнула ў нечы двор...»

Прыглядаючыся да слядоў — яны, вялікія, босыя, былі значны ў пяску даволі выразна, свежа, бо зусім нядаўна, можа нават сёння ўранні, пратупацеў, пранёсся над вёскаю дождж і прыбіў, схаваў усюды ўсе ранейшыя рэдкія людскія сляды,— я дайшоў да грэблі. Тут дарога раздвойвалася, разбягалася на дзве: ад-

на, шыршая, праставала цераз грэблю на шлях, што ішоў у мястэчка, другая паварочвала направа, убок, і вяла да калгаснага гарода, ці, як у нас казалі, да Хведаравай хаты, да хаты таго Хведара, якога забілі немцы ўзімку, калі ён вяртаўся апоўначы з уюноў. Сляды збочвалі на дарогу направа і дзвюма няроўнымі, перарывістымі палосамі віліся далей.

«Значыць, Агапа пайшла на колішні калгасны гарод... Туды, дзе лета ў лета жыў яе Астап... Але чаму?.. Што ёй там трэба?.. Няўжо яна жыве ў тым куранi, у якім хаваўся ад дажджу і холаду Астап? Але ж курэнь той, здаецца, згарэў... Астаўся толькі пограб... Цікава, ці ведае Агапа, што яе Астап забіты, што ён ляжаў ля школы... Адзін, у картапляніку... І ў сваім яна розуме пасялілася там, на гародзе, ці ўжо не ў сваім?..»

Агапіны сляды да калгаснага гарода не даходзілі — яны зварочвалі на тую сцежачку, што вяла да Хведаравага селішча. Павярнуў услед за Агапаю на сцежачку і я, дзівячыся, што ў Хведаравым двары амаль усё цэлае: і весніцы, і вароты, і платы — нішто не пагарэла, бы і не было тут зусім пажару...

«Чаму я не бачыў гэтага раней, тады, як жыў усё лета адзін у вёсцы?..»

Падышоў бліжэй да селішча і здзівіўся яшчэ болей — яно не зарасло так, як нашае, як усіх, бур'янам, палыном, лопухамі, дзядамі і рознай іншай травяной нечысцю. Наадварот, на ім, як і некалі, у ранейшыя гады, кусцілася загонамі бульба, зелянелі грады, цвіў мак, гарбузнік. Па кветках поўзалі, гулі пчолы, чмялі.

«Тут нехта жыве! — узрадаваўся я.— Няўжо гэта сама Агапа так урабіла гарод, усяго тут панасаджвала, насеяла? Але чаму тут, а не на сваім селішчы яна пачала абжывацца?..»

Я адчыніў весніцы, увайшоў у двор.

Сапраўды, на Хведаравым селішчы нехта жыў. Бульба была ўсюды акопана, грады праполаты, дагледжаны быў і сад — камялькі спаднізу падбелены, голле дзе падпёрта калкамі, а дзе і падвязана за таўсцейшае, больш трывалае.

Пасярод двара, паміж папялішчамі хаты і хлява, дзе звычайна ў нашай вёсцы кожны гаспадар капаў сабе пограб, нешта горбілася, падымалася над карта-

плянікам. Адтуль на мяне глядзелі, нібы вочы, дзве ўмазаныя глінай у зямлю шыбіны. Каб дождж не размываў гліны і шыбіны не вываліліся, над імі былі прыроблены брылёчкі з абгарэлых дошак.

«Зямлянка»,— здагадаўся я.

Трошкі далей, убаку, на сцежцы, што вяла ў гарод, курэў невялічкі агонь — на ім у падвешаным на козлах чорным, закопчаным бляшаным вядры нешта кіпела, варылася. Ля агню, усё гэтак жа ўставіўшыся вачыма некуды ўдалячынь, стаяла цётка Агапа.

Я падышоў да агню, хацеў быў паспрабаваць зноў загаварыць з Агапай, але акурат у гэты момант з зямлянкі — а гэта была-такі яна — адчыніліся дзверы — не дзверы, а звычайныя бакавыя дзверцы з кабіны грузавіка — і адтуль выйшла... Не, я спачатку не паверыў вачам сваім — жывая, здаровая цётка Паўліна, Хведарава жонка.

Абое мы, і я і яна, на хвіліну аслупянелі — стаялі адно проці аднаго і не маглі вымавіць слова.

— А божачка ж мой! — апамятаўшыся, першая ўсклікнула цётка Паўліна.— Ды, няйначай, Мар'ін хлопец?.. Адкуль ты?.. Жывы?..

І не стрымалася — у наступную хвіліну кінулася да мяне. Абхапіла за плечы, прыхінула да сябе і пачала цалаваць, нібы я быў ёй нехта вельмі блізкі, родны.

— Дзе ты быў, чаму я цябе нідзе не бачыла?..— ледзь не крычала ад радасці цётка Паўліна.— Адкуль ты, ацалеў як?..

На Паўлінін крык з зямлянкі выбег хлопчык — у палатняных, абдрыпаных, прашмуляных на каленях штоніках і такой жа палатнянай, палапленай на плячах кашульцы, босы, увесь вымурзаны ў сажу і нешта жоўтае — ні то ў яечны жаўток, ні то ў сланечнікавы ці гарбузовы пылок,— выбег і здаля ўставіўся на мяне чорнымі цікаўнымі вачаняткамі.

— Ваш? — спытаўся я ў цёткі Паўліны, як толькі яна выпусціла мяне са сваіх учэпістых абдымкаў і перастала цалаваць.

— Мой,— слаба ўсміхнулася аднымі куточкамі вуснаў цётка Паўліна і ражком фартуха, што быў падпяразаны паверх квятастай, пашытай з нямецкай плашч-палаткі спадніцы, выцерла з маршчыністых шчок слёзы.— А чый жа яшчэ, мой... Хвала богу, мы

ўсе асталіся жывы... Каця, Галя, Надзя, Мішка і вось ён, Петрык... Гэта ж я, як пачула была тады, што немцы ў вёску едуць, дык адразу і папаўзла з дзецьмі на гарод, ведаеш, дзе пограб калгасны быў... Чула сэрца маё, што нядобрае дзеяцца павінна. Паліцаі ж нешта вельмі заварушыліся былі, сяло наша пачалі спахаплíва кідаць, уцякаць у мястэчка. А гэта верная прыкмета, я пераканалася за вайну... Дык я запаўзла з дзецьмі туды, у пограб той, і праседзела тамака, пакуль гора-горачка тое не схлынула,— расказвала Паўліна.— А ты, як ты збярогся? — пыталася яна ў мяне.

— Я ў Замошкі малако цётцы Лісавеце насіў...

— Ды яны ж і Замошкі спалілі? — непаразумела вырачыла вочы Паўліна.

— Мяне ўжо там не было, як немцы туды прыехалі... Я дадому бег...

— А-а, вунека што,— здагадалася нарэшце цётка Паўліна.— Дык ты, значыцца, з Замошак выбег і ў Рудню не паспеў... То-та ж яно!.. Я думаю, адкуль ты мог узяцца... А пасля, мусіць, недзе з'ехаў адсюль, бо і адзежа ж на табе не нашая, не вясковая, а гарадская,— аглядала мяне з галавы да ног Паўліна.— Прыехаў, каб паглядзець, хто жывы астаўся,— нібы пыталася яна ў мяне і тут жа, не чакаючы, што я скажу, сама адказвала: — Нікога, сынку, не асталося... Усе тамака,— махнула яна рукою туды, дзе некалі наводшыбе, у полі, стаяла школа.— Усіх, каго захапілі дома, спалілі... Толькі вось я, ды ты, ды яна,— паказала Паўліна на Агапу, якая ўсё ў той жа пастаupе стаяла каля агню і ўсё гэтак жа некуды нерухома глядзела ўдалячынь,— асталіся... З усяе вёскі...

— А маці мая?.. Вы нічога не чулі пра маю маці? Дзе яна?..

Я не памятаю ўжо, як вымавіў гэтыя словы. Правільней, я іх не вымавіў, яны сарваліся самі ў мяне з языка. Адчуў толькі — у горле раптам зрабілася суха-суха. Ад хвалявання я аж не мог дыхаць...

— Яна тамака... Тамака, сынку...— ціха, вельмі ціха сказала цётка Паўліна і кіўнула галавою зноў у той бок, дзе была школа.— Тамака, дзе ўсе людзі нашыя... Нікому адтуль не ўдалося ўцячы... Хіба толькі вось ёй адной,— паказала яна вачыма на Агапу.— Але ты бачыш, якая яна... Раней хоць гаварыць магла... Усё, бы-

вала, расказвала, як заганялі іх, бедных, усіх у школу, быццам на сход... А потым, загнаўшы, аблілі школу газай, падпалілі і пачалі страчыць з кулямётаў у дзверы, вокны... Яе Астап, ты ж ведаеш, печы некалі ў школе паліў... Дык ён усе ўваходы і выхады знаў... Кажа, узарваў падлогу, упіхнуў яе, дзяцей сваіх і сам услед за імі папоўз... Яна ўратавалася... А дзеці, Астап...

— Астапа я ў картапляніку знайшоў, як да школы ўночы падыходзіў. Ён забіты быў,— сказаў я.

— А ўжо ж, кажаш, забіты,— паківала галавою Паўліна.— Я так і ведала... І дзяцей, мабыць, таксама немцы пастралялі...

— Дзяцей я не бачыў...

— Маглі нежывых у агонь пакідаць... А можа нават са школы не паспелі выпаўзці... А яна ўсё на папялішча тое штодзень ходзіць, думае, што Астап яе з дзецьмі пад падлогай астаўся... Вазьмуся другі раз тлумачыць ёй: маўляў, каб і асталіся яны тамака, пад падлогай, то задыхнуліся б ад дыму, памерлі б... Дык яна і слухаць мяне не хоча, у грудзі піхае...

Здагадаўшыся, відаць, што мы гаворым пра яе, Агапа насцярожылася, потым борзда-борзда падбегла да нас. Гледзячы ўсё гэтак жа некуды ўдалячынь, пакруціла адмоўна галавою.

— Гу-гу-гу,— прагугнела яна нешта сваё і паказала рукою на зямлю.

— Так-так,— згадзілася цётка Паўліна з Агапаю.— Дзеці твае з Астапам у школе, пад падлогай... Ад немцаў туды схаваліся...

— Угу-у,— прагугнела зноў Агапа і вярнулася, супакоеная, да агню.

— Заўсёды вось так,— заламала рукі Паўліна.— Як толькі з кім загаворыш пра яе дзяцей ці Астапа, прыйдзе і паказвае, што ў зямлі яны, пад падлогай... А так больш нічога не разумее, ані, як малое дзіця... Прыбегла тады, проста ўдзень, на калгасны гарод і ў пограб лезе... Мы і абамлелі — думалі, немец ці паліцай... Аж, глядзім, Агапа... А яна ціснецца ў куток, зямлю рукамі грабе, бы ўсё роўна лезці туды, хавацца хоча... І не гаворыць ні слова. Мо праз тыдзень расказала нам усё... І з таго зноў маўчыць, слова не скажа... Так і жыве з намі... Нічога не робіць — цэлы дзень стаіць вось так пры агні і ўсё нібыта нешта ўспамінае, усё

памяць сваю нібы сілуе... А ўранні, пасля ночы, заўсёды ідзе на папялішча школы... Ды што ж гэта я,— усклікнула раптам цётка.— Ты ж, мусіць, галодны, не еў яшчэ сёння... А ў мяне вакурат картопля ў вядры варыцца... Зараз вось адцаджу, ды есці будзем... Ідзі ў зямлянку, пасядзі, я хуценька, ментам...

І цётка Паўліна, схапіўшыся за фартух, пабегла да агню.

Я ж астаўся стаяць там, дзе і стаяў,— не зрушыўся нават з месца. Ногі мае нібы прыраслі да зямлі.

«Маці маёй няма... Маёй маці няма... Няма маці маёй...» — мільгала, пранасілася ў мяне ў галаве, і я адчуваў, як ледзянее, камянее ў мяне ўсё ўсярэдзіне...

---

Мама, родная, мілая мама! Вось ужо больш за дваццаць гадоў мінула, як нас разлучыла з табою вайна...

Больш за дваццаць разоў прылятаці з выраю і зноў адляталі ў вырай птушкі...

Больш за дваццаць разоў падалі і раставалі снягі...

Больш за дваццаць разоў жаўцелі і зноў зеляненлі травы...

Больш за дваццаць разоў кідалі людзі ў раллю зерне, і столькі ж разоў яно прарастала, каласілася, красавала, спела і зноў ехала на вазах у людскія свірны...

І ўсё гэта без цябе, мама!

Больш за дваццаць гадоў, мама, вочы твае не бачылі, як кіпелі ад квецені сады, як сінела ў жніўную спёку неба, як залаціліся і чырванелі на схіле лета лясы, як іскрылася і бялела ад снегу поле...

Больш за дваццаць гадоў, мама, вушы твае не чулі, як заліваліся весняй парою на досвітках салаўі, як шапталася спелым коласам у гарачыя жніўні жыта, як звінелі сухім лісцем позніх лістапады, як вылі студзеньскія завірухі і рыпелі, трашчалі лютаўскія маразы...

Больш за дваццаць гадоў, мама, рукі твае нічога нідзе не сеялі, не садзілі, нічога нідзе не жалі і не граблі, не вязалі ў полі снапоў, не бралі ў лесе баравікоў, не ткалі, не выбівалі палотнаў...

Больш за дваццаць гадоў, мама, ногі твае не мыліся буйнымі вяснянымі росамі, не пыліліся цёплымі

летнімі пяскамі, не калоліся вострымі асеннімі пожнямі, не рыпелі марознымі зімнімі снягамі...

Больш за дваццаць вёснаў, мама, расцвіталі на лугах твае краскі...

Больш за дваццаць летаў, мама, пераспявалі ў лясах твае ягады...

Больш за дваццаць восеняў асыпаліся ў арэшніку твае арэхі...

Больш за дваццаць зімаў падалі снягі, каб бяліць твае палотны...

А ты ўсё не ішла, цябе ўсё не было і не было...

А ты ж магла быць, мама! Мама, ты ж магла яшчэ жыць! Жыць, жыць, жыць!

Магла б штовесну нешта садзіць і сеяць, магла б спяваць песні, магла б гаварыць, пытацца, чаму так зажураны ў твайго сына вочы, магла б, урэшце, люляць майго сына, твайго ўнука, мама!

Магла б... Канечне, магла б... Калі б... Калі б не прыйшлі на нашу зямлю чужынцы, калі б не забралі цябе...

У поля...
У лугу...
У лесу...
У сонца...
У неба...
У ўнука...
У мяне, мама!
Ніколі-ніколі ўжо вачам тваім не глядзець на неба!
Ніколі-ніколі ўжо рукам тваім не ткаць палотнаў!
Ніколі-ніколі ўжо нагам тваім не хадзіць па полі!
Ніколі-ніколі вушам тваім не чуць унукавага смеху!
Ніколі-ніколі голасу твайму не спяваць песень!
Ніколі-ніколі губам тваім не цалаваць сына!
Ніколі!
Ніколі!
Ніколі!

Колькі чаго не паспела зрабіць ты, мама!

Колькі чаго не пабачыла, не пачула, не спазнала, не зведала!

І ўсё гэта праз вайну, мама!

Больш за дваццаць гадоў ужо, як няма цябе побач са мною. Больш за дваццаць гадоў, як разлучыла нас

вайна. Гады пасерабрылі мне скроні, і думная, клопатная сталасць лягла маршчынамі на мой лоб.

Я пражыў цябе, мама,— мне цяпер болей гадоў, чым было табе, калі мы з табою расcталіся. Помніш — ты стаяла тады ля хлява, махала мне рукою, а я ўсё азіраўся, усё глядзеў і глядзеў на цябе!

Больш за дваццаць гадоў я гэтак жа азіраюся назад — праўда, ужо ў думках — і гляджу на цябе, мама, раюся заўсёды і ва ўсім з табою і бачу, як ты махаеш рукою — ідзі, ідзі, мой сын!

І я іду.

І побач са мною ідзеш ты, мая дарагая, мілая мама! Ідзеш усюды, куды б ні ішоў я. Цяжка мне — ты памагаеш, лёгка — ты радуешся, весела — ты смяешся, горка — ты плачаш... Разам са мною, мама!

І ты не памерла для мяне. Ты жывая. Памерла ты для другіх. Тых, хто цябе не ведаў ці ведаў мала.

Для мяне ж ты жывая і будзеш жыць, пакуль буду жыць і я. Мы памром разам з табою, мама.

Разам са мною пойдзеш ты ў зямлю. Цяпер ужо навечна. Але пасля мяне астанецца жыць мой сын. А ў сыне астануся жыць і я. І, вядома, ты, мама. Бо ўсё, што пражыў я і што пражыла ты, будзе знаць мой сын. А ў майго сына будзе таксама сын, а ў таго сына — яшчэ сын... Жыццё вечнае, а значыць — вечныя і мы з табою, мама! Смерць можа забраць нашае цела, прымусіць не біцца нашыя сэрцы, але яна не мае сілы пахаваць разам з намі і нашыя думкі, нашую любоў і нянавісць. Яны — вечныя, як вечна і само жыццё.

Вечная будзе і нянавісць нашая да вайны, да тых, хто разлучае раней часу маці з дзіцем і дзіця з маткаю, жонку з мужыком і мужыка з жонкаю, каханага з каханаю і каханую з каханым... І ўсіх-усіх забітых, спаленых, замучаных

з полем...
з лугам...
з лесам...
з сонцам...
з небам...

Вечны ж праклён мой і твой, мама, вайне! Вечны праклён усіх забітых, спаленых, замучаных і жывых табе, вайна!..

---

Ужо ў зямлянцы, за сталом, што быў збіты з негабляваных дошак, так, на скорую руку, ідацць, самой Паўлінай ці яе дзецьмі, цётка Паўліна сказала мне, што я не першы вярнуўся дадому, у родную вёску, што перада мною вярнулася на сваё селішча Сахронава сям'я...

— Ты ж, мусіць, не забыўся, помніш, што Сахронаву хату раскідалі былі немцы, як грэблю правілі. І Сахроніха перайшла тады ж, увосень, жыць у Барсукі. Дзе ж было ёй, беднай, з дзецьмі дзецца? А тамака хата вакурат пуставала. Цяпер з той хаты людзі прыехалі. З бежанцаў... Сам ведаеш, каму за стол, а лішняму хоць пад стол. Вось Сахроніха і перабралася назад, на папялішча. І так, дзякуй богу, усе жывыя — і Юрка, і Змітрачок, і Томачка. Дый сама Поля не вельмі з горам зналася. Усё ж у хаце жыла. А цяпер вось яшчэ і чалавек вярнуўся...

— Дзядзька Сахрон ужо дома? — перапытаў, аж не паверыў я.

— Але ж, дома...— пацвердзіла цётка.— Ён подаўна прыехаў. Пусцілі яго. Як енваліда... Ён без абедзвюх рук. Кажа, калі паранены ляжаў, адмарозіла. Адной вышэй локця няма, а другой трошкі меней. Ні гузіка сам сабе зашпіліць не можа, ні што ў руку ўзяць... Толькі лыжку і трымае — яму, кажа, нейк косці на руцэ расшчапілі дактары, каб хоць есці можна было самому. А які ж майстра быў, якія тыя рукі залатыя былі ў яго!.. Чаго толькі не ўмеў рабіць! Печ некалі нам склаў... Ох, і печ жа была! Бярэмачак дроў укінеш — і цяплынь, хоць голы ў хаце сядзі,— узялася ўспамінаць цётка Паўліна.— Цяпер і яны ў зямлянцы жывуць. Ты хіба не бачыў, калі па вёсцы ішоў?

— Не, не бачыў,— хітнуў я галавою.

— Яно і не дзіўна, селішча ж іхняе да ладу шчэ не даведзена. Ды еш, еш ты,— згледзеўшы, што я не бяру з вялікай глінянай міскі салонікаў, ад якіх валіла валам пад нізкую, закураную столь пара, падагнала мяне цётка.— Еш, не сядзі...— І каб, мабыць, падахвоціць мяне, сама пацягнулася рукою да міскі, узяла ў чорныя, парэпаныя пальцы бульбіну, паднесла сабе да рота. Але не ўкусіла — палажыла на стол.— Во, чуць не забылася! — усклікнула раптам яна.— І шчэ ж адзін чалавек у вёску вярнуўся...

— Хто? — спытаўся я, і сэрца маё ёкнула: ці не бацька мой?

— Яўмен Тарбачэня... Ну, што леснікам быў.— Паўліна памаўчала, цяжка ўздыхнула.— Прыйсці прыйшоў, а сустракаць яго нямашака каму. Нікога не асталося з сям'і. Адзін толькі ён. І жонка, і дзеці пагарэлі... Як і матка твая...— зноў цяжка ўздыхнула цётка.— Трудна яму. Для каго вайна скончылася, а для яго, можа, толькі пачалася. Як прыйшоў, так і сядзіць дзень і ноч на папялішчы. Усё Алену сваю ўспамінае, дзетак — Наташку і Лявонку... Спрабавала я адгаварваць, каб так блізка ўсяго да сэрца не браў. Нічога не памагае. Я і так да яго падыходзіла, і гэтак — маўчыць ці адвернецца і скажа: «Не так, не так усё, Паўліна...» Я і сама знаю, што не так. Але ж што зробіш?.. Жыць жа нейк трэба. Многае робіцца ў свеце не так, як нам таго хочацца. Дык што нам, паміраць ад таго? — паглядзела мне проста ў вочы цётка. Узяла са стала бульбіну, зноў паднесла да рота і зноў, не ўкусіўшы, палажыла на краёчак стала.— І ты вось нічога не ясі, занудзіўся, бачу...— сказала яна ціха.— Праўда, і яда не бог ведае якая. Адна картопля. Сухая, у рот не лезе. Але другога нічога пакуль што нямашака. Гуркі шчэ не выраслі, і кароўка шчэ не ацялілася... Але, дзякаваць богу, усё з часам будзе. Пачакаць толькі трэба. Не зразу. Дзеці мае рабацяшчыя, памагаюць ужо. Галю з Надзяю ў нянькі аддала ў мястэчка, да настаўніц. Мішка ў Барсуках кароў пасвіць. А я з Кацяй і Петрыкам тутака вось жыву... Ох, і папамучыліся ж мы, як сяло наша спалілі і мы адны без кала ды двара асталіся! Як успомню, што пераўжылі, страшна робіцца. У пограбе тым, на калгасным гародзе, мы і пабылі ўсяго толькі, пакуль немцы з сяла не паехалі. А тады — у алёс... Выйдзем уночы, па сяле пройдзем — жудасць бярэ... Адны папялішчы, ды сабакі, каты як непрыкаяныя валачацца, не ведаюць, дзе ім дзецца. А есці няма чаго — новае не ўрадзіла, а старое згарэла. Ды што гэта я?.. Ты ж сам усё ведаеш... Згаладаліся мы, знебыліся, аслаблі, што і на нагах стаяць не маглі. Выпаўзла я з альса, у пограб нечы палезла, думала, можа, там што паесці знайду. У пограб залезці залезла, а вылезці не магу. Сіл нямашака... Так і асталася тамака ляжаць. І сама не помню, колькі пра-

ляжала. Думала, канец мне. Аж дзеці, дзякуй ім, знайшлі, у Барсукі збегалі, дзядзьку аднаго папрасілі, дык ён на падводзе прыехаў ды мяне з пограба дастаў, да сябе ў хату завёз.— На вачах у Паўліны нагарнуліся слёзы.— Два месяцы пралежала ў яго на пасцелі, нават па патрэбе не магла на двор выйсці. А ўсё ж выжыла, не памерла, бачыш. Калі сяло наша спалілі ды адна я з дзецьмі асталася, думала: «Цяперака ўжо ўсё, прапала ты, Паўліначка!» Аж не — не прапала, выжыла. І не прападу — веру, буду жыць, як бы трудна мне ні было. Чалавек жывучы, можа, як ніхто на гэтым свеце... Спачатку, калі на ногі зноў стала свае, радавалася, што хоць хадзіць магу сама, ні ў кога нічога прасіць не трэба. Апастылела была за хваробу нават сама сабе. Потым немцаў адсюль прагналі, шчэ радасці пабольшала: хоць не страляе ніхто нідзе, баяцца не трэба, што цябе ці дзіця тваё куля шалёная заб'е. У вёску сваю пераехалі, зямлянку зрабілі. Шчэ лепей жыць стала... Верыць пачала, што і хатка ў мяне будзе, і ўсё, што трэба, здабуду, агораю. У вайну, перажыўшы не такое, не памерла, дык цяперака і пагатоў не памру, век жыць буду. І даўбнёй ніхто мяне не заб'е...— Паўліна крыва ўсміхнулася, зноў памаўчала.— А там дзеці падрастуць, дык помач будзе. Будзем жыць. А што Хведара майго немцы застрэлілі, дык нічога не зробіш. Вайна... Нікога яна бокам не абышла, ва ўсіх нешта ўрвала. У таго хату, у таго дзіця, у таго чалавека, а ў таго ўсё, усіх разам... Што зробіш... Пажыла я з чалавекам трохі, вунь дзяцей аж пяцёра на гора сабе ды на пакуту нарадзіла. Другія і таго не мелі, што я... І без вайны другі раз паміраюць, а ў вайну хочаш, каб і волас з твае галавы не ўпаў. Вось так, сынку. І ты не вельмі нудзіся таксама, што матка твая згарэла. Не ў аднаго цябе. А тым часам і бацька твой мо шчэ жывы, дадому вернецца, матку новую возьме. Хаця, што гэта я абы-што чаўпу... Матка адна ў чалавека, і ніхто яе не заменіць... Дый навошта яна табе ўжо, матка тая другая, сам хутка жаніцца будзеш... Вунь вусы ўжо лезуць на верхняй губе, значыць, у сілу мужчынскую ўбіраешся. Ды не плач, не плач ты, гору свайму слязьмі не паможаш. Хай я плачу, дык я ж баба, няшчасная, гаротная... А ты?..

...Яшчэ доўга-доўга расказвала, суцяшала мяне цётка Паўліна...

Каціліся і каціліся з яе і з маіх вачэй слёзы...

Стылі і стылі на стале салонікі — да іх так ніхто з нас і не дакрануўся...

А ўвечары, на заходзе сонца, я сядзеў поплеч з Яўменам Тарбачэнем на яго зарослым, гэтак жа, як і наша, як і ўсе ў вёсцы, палыном ды бур'янам селішчы, проста на зямлі, і слухаў-слухаў, што гаварыла яшчэ адно чалавечае гора:

— Паўліна кажа мне: вазьмі сябе, Яўмен, у рукі, забудзься на тое, што было, нанова жыць пачынай. Маўляў, таго, што было, усё адно не вернеш. А як я забыцца магу на тое, калі я чатыры гады толькі ім і жыў, калі яно так і стаіць у мяне ўваччу. Вось сяджу ў сваім двары, гляджу на папялішча і бачу — завіхаецца жонка мая, Алена, ля печы. Яна, бывала, заўсёды раней за мяне з пасцелі ўставала. Пакуль я ў пасцелі ляжу, яна і карову збегае падоіць, і ў печы запаліць, і есці чаго варыць прыставіць... А то другі раз аладкі возьмецца пячы... Скаварада нагрэлася, сіпіць на ўсю хату, а яна яе подмазкай мазь, мазь... Расчырванеецца ўся, зарумяніцца. А я ляжу ў пасцелі ды толькі любуюся ёю. І паставай такой гнуткай, і рукамі, нагамі, і так. Радуюся, якую жонку сабе добрую ўзяў. Колькі разоў я ўспамінаў гэта там, на фронце! Як зацішак надарыцца, так і ўспамінаю. І думка ўвесь час была адна: вось скончыцца вайна, прыеду дадому і зноў убачу, як Алена мая аладкі пячэ. Яна заўсёды, калі радасць у хаце, аладкі пякла. Нават мукі расстараўся, у старшыны выпрасіў, у ранец палажыў. Ведаю ж, дома можа не быць. Думаю, Алена пячы аладкі будзе, а я знарок памаруджу, не ўставацьму, буду ляжаць ды на Алену сваю глядзець. А прыехаў — бачу: ніколі гэтаму ўжо не быць. Асталіся толькі ўспаміны...— Дзядзька Яўмен памаўчаў. Потым зноў загаварыў ціха і разважна, нібы сам з сабою, пра тое, што было ў яго на душы.— А дзеткі якія харошыя ды разумненькія былі ў мяне. Іду, бывала, з лесу, а насустрач сыночак мой, Лявонка, бяжыць. «Тата, дай стрэльбу пранясу». А стрэльба тая — удвая большая за яго. Вазьму Лявонку на рукі, сабе на плечы паса-

джу. А ён нагінаецца, у кішэні мае лезе, сумку, патранташ да сябе цягне, «заўцавага» хлеба шукае... Дадому прыйду — місачка ягад на стале стаіць. «Гэта я табе, татка, з лесу прынесла...» — скажа Наташка мая і глядзіць на мяне так, нібы хоча, каб я нештачка ёй добрае ды ласкавае сказаў. Сядзем за стол, Лявонка на адно калена да мяне, Наташка на другое, дый паядзім тыя ягады. А смеху, радасці, пацехі колькі!.. То Лявонка чаравікі не на тую нагу абуе, то ў крапіву залезе і абстрыкаецца ўвесь, думаючы, што гэта не крапіва, а звычайная трава. То сасніць, быццам я з лесу зайца жывога прынёс і хаваю ад яго. І ўсю раніцу плача, просіць, каб я не хаваў, а паказаў, аддаў яму. А то Наташка спытаецца раптам: «Тата, чаму ва ўсіх мужчын бароды растуць, а ў мамаў не?..» І смех... Паспрабуй адкажы... А колькі апавядалі яны мне ўсяго! Як прыйду дадому, дык і шчабечуць, нібы тыя салавейкі... І дзе яны бегалі ўдзень, і што бачылі, чулі... І пра ўсё папытаюць, усё ім цікава было. І дзе я сёння быў, і што бачыў, і калі з імі ў лес пайду пчолы падглядаць... У мяне ж вуллі ў лесе стаялі, на дубах. Мёд з вулля дастану, першыя заўсёды каштавалі яны. І калі казку пачну, бывала, расказваць, замоўкнуць, бы мышы, ні гу-гу... Ляжаць ды толькі насамі сапуць. Хіба ж я магу ўсё гэта забыць?.. Чатыры гады я жыў толькі тым: вось скончыцца вайна, прагонім немца, я вярнуся зноў дадому, да свае жонкі, дзяцей. І ўсё тое, што пабачыў, пераграў на фронце, забудзецца, адыдзе, як непатрэбны і страшны сон. Гэта давала мне сілы, і я ішоў і ішоў ад акопа да акопа, ад зямлянкі да зямлянкі... Так дайшоў я аж да Эльбы... Рака такая ў Нямеччыне ёсць, можа чуў?.. І вось вайны няма, я вярнуўся дадому. І бачу — вяртацца сюды мне не было чаго. Немцы спалілі маю хату, спалілі жонку, спалілі дзяцей. Спалілі ўсё, чым я жыў... Астаўся адзін я... У мяне ёсць сіла. Але нашто мне тая сіла, калі ў мяне няма мае Алены, калі ў мяне няма майго Лявонкі, мае Наташкі?.. Мне няма цяпер чаго рабіць на гэтым свеце, толькі хіба сядзець ды ўспамінаць, як жылося да вайны. Мне няма каму аддаць тых драбочкаў цукру, што я прынёс у сваім ранцы, няма каму заплясці ў коскі тых стужак, што навыбіраў у горадзе ў магазіне, няма каму завязаць той хусткі, што купіў я сваёй

Алене. Дзеткі мае, салавеечкі ненаглядныя, нашто я без вас? Лепей бы я не вяртаўся сюды, хай бы і мяне забіла на фронце!..

Я моўчкі, баючыся прамовіць слова, слухаў, што гаварыў-успамінаў дзядзька Яўмен, а перад вачыма ў мяне плыло, адно мянялася другім, сваё — тое, што бачыў, чым жыў, калі са мною былі маці, бацька, дзед, калі яшчэ не згарэла, стаяла цэлая наша хата...

...Маці мая таксама часта пякла аладкі. Толькі не з мукі, а з дранай бульбы. І елі мы іх са смятанай ці здорам, а ўзімку, калі ціснулі маразы, з сырым, мёрзлым, што аж ламалася, як лёд, салам... І бацька заўсёды ў той дзень, калі маці пякла аладкі, быў вельмі вясёлы, гаваркі — засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, пахаджваў сюды-туды па хаце, скрыпеў маснічынамі і ўсё расказваў, хваліўся маці, што і ў гэтым месяцы яны «перакрылі намнога план» і павінна быць надбаўка да зарплаты. І калі ён атрымае грошы, то гэты раз абавязкова купіць маці новае плацце, каб можна было ў ім не толькі выйсці ў людзі, але і паехаць на мора. Мора для бацькі было нешта ледзь не казачнае, і ўсё жыццё сваё ён марыў з'ездзіць на мора і звазіць, паказаць яго ўсім нам — маці, Верцы, мне...

— Вось як толькі разбагацеем хоць трошкі, так і паедзем...— часта казаў ён.

Але міналі год за годам, я рос, а багацце да нас так і не прыходзіла...

...І я, як быў малы, заўсёды бегаў сустракаць пад лес бацьку. Праўда, у майго бацькі ніколі не было на плячах стрэльбы. Але затое ў кішэні, у пінжаку, ляжаў складны бліішчасты метр. І бацька даставаў яго і кожны раз мераў, ці падрос я за дзень... Не было ў бацькі і патранташа — была толькі скураная сумка. У сумцы бацька насіў нейкія квітарусы і паперы і, вядома, «зайцаў» хлеб... Ну і смачны ж быў ён, той хлеб! Я з'ядаў яго ў адзін міг, які б вялікі акраец таго хлеба ні прынёс з лесу бацька. Часам нават знарок пакідаў месца ў жываце на «зайцаў» хлеб, калі абедаў...

...І я насіў свайму бацьку ягады. З усіх ягад бацька найбольш любіў суніцы. І еў не як усе — лыжкай, а рукою, жменяю.

— Так куды смачней,— жартаваў ён, калі маці падавала яму лыжку.— Нашы продкі не дурнейшыя за нас былі, а ўсё рукамі елі. Затое ж і дужыя былі!.. Ні жывот у іх ніколі не балеў, ні галава... І жылі за сто год кожны!..

...І я, мусіць, неаднойчы смяшыў сваімі роспытамі бацьку. Толькі я маленькі тады быў і нічога не запомніў... Запомнілі ўсё бацька, маці... А я толькі чуў ужо, як смяшыла ўсіх нас Верка. Падыдзе да бацькі, калі ён з работы вернецца, лапае ручкаю па кішэнях і ўсё просіць: «Веяцька касяядку фоця. Веяцька касяядку фоця!..» Смешная Верачка была, пацешная, і ўсё называла не так, як звалі ўсе, а па-свойму. Хлеб у яе быў «хебцік», хустка — «фута», яблык — «абацька»...

...І я хадзіў з бацькам у лес, толькі не падглядаць пчолы — у нас ніколі не было сваіх пчол,— а па арэхі, па грыбы... Бацька вельмі добра ведаў лес, ведаў усе ходы ў ім, ведаў, дзе што расце. І калі павядзе, бывала, па арэхі, дык заўсёды нашчыплем поўную торбу, ледзь прынясём. І ўсе арэхі спеленькія, жоўценькія, поўненькія, і нават калі пасушацца на печы, дык усё роўна зярняты на ўсю шкарлупку. Раскусіш арэх — а там такая смаката!.. Грыбы на бацькавых грыбовішчах раслі вялікія, з тоўстымі ядранымі каранямі і белыя-белыя, як сыр. Пойдзеш з бацькам — ён любіў хадзіць па грыбы раненька-раненька, чуць свет — і, пакуль сонца прыгрэе, поўны кашэль напілёкаеш. І якіх грыбоў — баравічкоў, адзін у адзін, і ўсе беленькія, каранастыя, а шапачкі зверху дык нібы хто знарок падчарніў... Хто ні сустрэне — не ўцерпіць, папытаецца, дзе бралі... А бацька ўсміхнецца — усміхаўся ён дзіўна, каб шчарбінка, што была ад выбітага ў дзяцінстве зуба, не кожнаму відна была,— і скажа:

— Тамака, дзе бралі, ужо не возьмеш...

— Чаму ж гэта? — часам пытаў цікаўны.

— Ды таму, што мы іх пабралі... Вось яны, у кашалі!..

І зарагоча, зарагоча весела, залівіста...

Я сядзеў, успамінаў бацьку, і аднекуль з сярэдзіны, спадыспаду, з самай душы, лезла, кралася думка: майму бацьку ўсё ж будзе лягчэй, чым дзядзьку Яўмену. У дзядзькі Яўмена нікога не асталося жывога.

У майго ж бацькі астаўся я... Толькі каб ён не загінуў, каб быў жывы ды вяртаўся хутчэй дадому, да мяне...

---

— Што самае плывучае?
— Вада.
— Што самае пякучае?
— Агонь.
— Што самае жывучае?
— Трава.
— Трава?!
— Так, трава. Мароз марозіць яе, сонца сушыць, агонь паліць, вада топіць, жывёла есць, звер топча, чалавек косіць, а яе не меншае, яна ўсё роўна ўсюды зелянее, расце, як зелянела, расла стагоддзі, тысячагоддзі таму назад...
— Чакай, а які ж тады чалавек?
— Чалавек самы трывушчы.

---

На змярку, калі мы з дзядзькам Яўменам наадзіралі з платоў дошак і, паслаўшы іх на зямлі, ужо збіраліся ўкладвацца спаць, у двор да нас прыйшоў Сахрон. Без шапкі, у паношаным, выцвілым салдацкім галіфэ і такой жа выцвілай, аж белай, салдацкай гімнасцёрцы ён здаўся мне надта высокім, незнаёмым.

— Што ж гэта вы, суседзі, тут бадзякуеце? — сказаў ён да нас знарок весела і ўсміхнуўся ў свае густыя, парыжэлыя ад тытунёвага дыму вусы. Хіба ж бо месца нідзе нямашака другога, што конча тутака вам начаваць трэба?.. Вуня ж зямлянка і ў мяне ёсцека, і ў Паўліны... Тым часам зямлянка, канечне, не харомы, а ўсё ж спаць можна. Лепей, чымся на дварэ. А як дождж нахопіцца, навальніца?

— Хай хоць і канец свету,— абыякава махнуў рукою Яўмен.— Мне ўсё адно... Як так жыць, дык лепей саўсім не жыць...

— А вось гэта, суседзе, дарэмна,— пакруціў галавою Сахрон.— Хай у цябе гора, у мяне, у хлопца... Але ж у некага і радасць ёсцека...

— У каго, у каго тая радасць? Дзе ты бачыў яе? — галняў на Сахрона вочы дзядзька Яўмен.— У цябе няма, у хлопца няма, у мяне няма... А думаеш, у Паўліны яна ёсць, радасць тая? У Агапы?.. Ці ў той маткі,

што дзіця з вайны не вярнулася, недзе на чужой зямельцы галаву сваю склала? Ці ў бабы той, што з дзецьмі ці без дзяцей на ўвесь век удавою асталася? — Уздыхнуў. Потым зноў загаварыў, нібы сам з сабою, ціхім, задуменным голасам: — Бачыў я ў Нямеччыне, як нёс бацька забітае дзіця сваё. У бамбёжку гэта яго, каменнямі... Як прыйшлі мы, то адкапалі з-пад дому разбуранага. Узяў ён на рукі тое дзіця і не бачыць, куды ісці. Ідзе і на дамы, на слупы натыкаецца, бы ўсё адно сляпы. Мы аж пілоткі з галоў пасцяглі. Паверыш, а я ж да гэтага думаў, што калі яны, гады, дзяцей нашых жывых у агонь кідалі, дык няма-шака ў іх шкадобы ніякай, звяры яны... А гора, яно, выходзіць, усюды гора, хто б ты ні быў. То, думаеш, немцу таму радасць?..

— Радасць не радасць, а ўсё ж спакайней цяперака. Хоць ведацьме, што нікога больш у яго не заб'е...

— Дык гэта ж калі дзеці ў яго шчэ асталіся... А як у яго гэтак жа, як і ў мяне — нікога, як бы і не жыў да гэтага трыццаць сем гадоў, як бы невядома адкуль узяўся? Ні бацькі, ні маткі, ні жонкі, ні дзяцей, ні радні... Толькі ўспаміны і асталіся... Ды папялішча вось гэтае...— махнуў галавою на бур'ян дзядзька Яўмен.

Сахрон прысеў да нас на дошкі, кульцяпкаю правай рукі — левая была ў рукаве, а рукаў падпяразаны шырокім салдацкім рамянём — адтапырыў кішэню штаноў.

— Папяросу круціць умееш? — падміргнуў ён мне па-змоўніцку адным вокам. І, не чакаючы, што я адкажу, папрасіў: — Вазьмі, браток, капшук, зляпі... Якую ўмееш, такую і зляпі... А то, ліха на яго, ніяк курыць не адвыкну. Кідаў ужо разоў колькі — і зноў пачынаю... Па начах сніцца, што курыць хачу... Цярплю, цярплю дый закуру...

Я выцягнуў з кішэні крамны, пацёрты (відаць, яшчэ франтавы) капшук, дастаў з яго кавалачак газеціны, насыпаў тытуню, скруціў папяросу. Прыкурыўшы, падаў яе дзядзьку Сахрону ў рот. Сахрон глыбока зацягнуўся дымам, потым неяк адразу выпусціў яго двума шызымі струменьчыкамі праз нос. Перакінуў папяросу языком з аднаго кутка рота ў другі, сказаў:

— Усім яно, канечне, не соладка...

— Дык што ж, усе вось так пасядзем,— пачуўся раптам над нашымі галовамі сіпаты голас цёткі Паўліны; калі яна да нас падышла, я і не заўважыў,— рукі складзём ды будзем плакаць? А шчэ мужчыны! — пажурыла, пасарамаціла яна нас.— Вучыцеся ў мяне, старое Паўліны... Поле сваё яна жалезняком ускапала? Ускапала... Зямлянку сабе зрабіла? Зрабіла... Цялушку купіла? Купіла... І хату паставіць... Вось пабачыце, паставіць... Ужо лесу з Кацяй нарыхтавалі... Хай падсохне трохі, у райвон пайду. Падводы дабівацца буду. Скажу: хочаце, каб Рудня была, каб лесам не зарастала? Дык каня дайце, хоць якую здыхляку... І веру — дадуць. Кожны бядзе нашай паспачувае, кожны яе пачуе... Не можа быць, каб не пачуў...

— У цябе другое дзела, Паўліна,— сказаў яшчэ цішэй, амаль што шэптам, дзядзька Яўмен.— У цябе дзеці жывыя... У цябе ёсць дзеля каго старацца...

— Пазайздросціў лысы пляшываму,— грубавата, з выклікам зіркнула на Яўмена цётка Паўліна.— Ды я на тваім месцы ўжо новых дзяцей мела б... Столькі ўдоў — кроў з малаком, а не бабы... Толькі скажы!.. Яны раджаць хочуць, а не ў ялаўках хадзіць... Хто па году, а хто і тыдня з чалавекам не жыў...

— Не магу я так, Паўліна...

— Не можаш так, дык рабі як можаш... Адну якую бабу сабе выберы. Не бойся, любая за цябе пойдзе... Эх, каб я маладзейшая была! — склала рукі на грудзях Паўліна.— Я паказала б табе, дзе сум і нуду дзець!.. А то як заладзіў, так і цягне адно і тое ж з дня на дзень: Алена мая — дык і такая, і гэтакая... Быццам на Алене тваёй і свет клінам сышоўся, быццам і другіх баб нідзе не было і няма... Ды я, хай уважыць мне хлопец,— павярнулася яна да мяне,— ды я, быўшы мужчынам, толькі б тое і рабіла, што па сёлах хадзіла, хай бы бабы чаравацелі, дзяцей раджалі...

— Не трэба так, Паўліна,— заступіўся за Яўмена Сахрон.— Пажартаваць кожны з нас умее... А вось каб параіць чалавеку, памагчы...

— Дык гэта я раіць вам павінна, я павінна вам памагаць? — не дала дагаварыць, перабіла Сахрона цётка Паўліна.— Я?.. А таго вы не бачыце, што без чалавека я асталася, што дзяцей сваіх па ўсім свеце пааддавала, каб з голаду не памерці, каб жыць?.. Дык вы

гэтага не бачыце, не бачыце, а бачыце толькі сваё гора?

— Зноў ты на ражон лезеш,— паўшчуваў Паўліну Сахрон.— Хто ж бо табе кажа, што гора ў цябе нямашака... У кожнага яно ёсцека, тое гора, і ў кожнага сваё...

— А ты бягом і заступацца,— зноў сварліва падкусіла Сахрона цётка Паўліна.— А можа я знарок так загруба гавару, можа, я пасварыцца з Яўменам хачу, зачапіць яго за жывое, га?.. Каб думкі яго трохі ў другі бок павярнуць, каб ён шырай на ўсё глядзеў, каб бачыў болей?.. Дык ты пра гэта не падумаў, а заступацца бежкам... Ды знаю я — цяжка яму, трудна. Таму і стараюся, каб лягчэй было... Жыць жа і без Хведара майго мне трэба. І яму без Алены і без дзетак... І хлопцу,— зноў павярнулася да мяне Паўліна,— без маткі, ды, можа, і без бацькі... І табе, Сахрон, без рук... Што ж зробіш, самі ў зямлю не палезем... Калі ўжо жывыя асталіся, то трэба жыць... І сумоце, гору не паддаваймася, а то з'ядзяць... З'ядзяць, як іржа жалеза... Што, няпраўда?

— Чаму ж няпраўда?..— Дзядзька Сахрон выплюнуў з рота папяросу, спакваля расцёр яе, умяў наском бота ў пясок.— Праўду ты кажаш... Горкую праўду... Вось так сядзіш, сядзіш, дый надумаеш другі раз — перамагчы то мы перамаглі... А далей што?..

— Як гэта што? — вырачыла на Сахрона вочы цётка Паўліна.— Жыцьмем... Хіба ж гэтага мала?.. Няхай у нас усё зглумілася, хай не вернецца тое, што было... Але ж затое пажывуць дзеці нашы... Страху, гора, бяды ведаць не будуць...

— Зноў ты за слова хапаешся, зноў на ражон лезеш,— пакрывіўся дзядзька Сахрон.— Ды хіба ж я... Я саўсім пра другое... І ў мяне нейкія свае надзеі былі, як на фронце быў... Думалася — вось мінецца гэтая навалач, дадому прыеду і сякеру ў рукі... Адраблю, думаў, за ўсе тыя гады, што сякеры ў рукі не браў... Уяўлю, бывала, як смольны сучок пахне, калі па ім рубанкам правядзеш, ці як гліна, густа замешаная, бы ўсё адно рошчына, між пальцаў плыве, калі яе на цагліну кладзеш, печ лепіш... І за адно тое, што немец адарваў мяне ад работы, гатоў быў горла яму перагрызці... А прыехаў дадому — бачыш, не работнік я

ўжо...— з сумам заключыў Сахрон.— Асталося толькі хадзіць ды глядзець, як другія робяць... І ты, Паўліна, добра кажаш: не сумаваць нам трэба, не нудзіцца... Усё ж чыста спалена, разбурана... Поле зарасло, лугі падзічэлі... Косці ўсюды чалавечыя ляжаць неабгароджаныя, зямлёй не прысыпаныя!..— Ён адвярнуўся, паглядзеў некуды ўбок, на неба, што ўсё яшчэ ружовілася, ярка барвовела над Шапчынскім борам.— Я не работнік цяперака... Але струмант сякі-такі маю... Жонка, дзякуй ёй, зберагла, думала — вярнуся, дык шукаць не трэба будзе... Узяў ды рабі... А яно, бачыш, як усё абярнулася!.. Дык я сякеру, пілу вазьму, Поля мая жалязняк возьме, і ты, Паўліна, таксама жалязняк вазьмі... І Кацядвая хай прыйдзе, і Яўмена паклічам, Яся... Збяромся заўтра ўранні ўсе, хто ёсць, да школы ды косці ўсіх нашых зямелькай прысыплем, абгародзім, хоць збольшага... Каб не ляжалі, вачэй усім жывым не калолі... Хто ж за нас гэта зробіць, як не мы...

Сахрон зноў адвярнуўся, і цяпер я ўбачыў, што з вачэй у яго выбеглі і заіскрыліся на шчоках дзве светлыя-светлыя слязінкі.

— А ўжо ж, Сахронка,— падхапіла цётка Паўліна Сахронавы словы, як толькі ён змоўк.— І я пра тое ж думала, сказаць хацела... Гэта ж праўда, мы тутака сядзім, прастарэкуем, а тамака косці, чарапы людскія ляжаць незакапаныя, непахаваныя... Я з Кацяй сваёй намерылася была гэта зрабіць... Калі нікога шчэ тутака не было... Мы адны... Жалезнякі пабралі, да школы былі падышлі... Таго ўспамянулі, другога... Ды ў слёзы... Так нічога і не зрабілі, праплакалі толькі...

— Што ж, плач не плач, а людзей ужо не вернеш...— уздыхнуў, зноў павярнуўся тварам да Паўліны дзядзька Сахрон.— Былі людзі — і няма людзей... У мяне ж бацька тамака стары згарэў... І сястра родная, Насця... І нябож Кузёмка... І цешча...

— Хіба ў аднаго ў цябе, Сахронка...— паднесла да вачэй ражок фартуха цётка Паўліна.— І ў мяне ж пагарэлі... І Ганна, сястра мая, з дзецьмі, і Хведарава радня ўся, і... Ды хіба ўсіх пералічыш, хто згарэў...— Яна ўсхліпнула.

— А калі так, дык і сядзець нам вельмі няма чаго,— сказаў Сахрон, падымаючыся з дошак.— Спаць

пойдзем... Лепей рана ўстанем...— І ўжо да Паўліны:— Ты хлопца вазьмі да сябе ў зямлянку, Яся. А я Яўмена да сябе забяру... Як-небудзь памесцімся... Не на дварэ ж ім начаваць...

— А хіба я што...— пацiснула плячыма цётка Паўлiна.— Колькі разоў казала Яўмену: не сядзі на папялішчы, у зямлянку да мяне ідзі, жыві, пакуль сваю агораеш... Дык ён бы і не чуе... Я і цяперака прыбегла — думаю, адзін не ішоў, то, можа, удвух з хлопцам пойдзе...

— Уставай, Яўмен,— паклаў кульцяпку правай рукі Яўмену на плячо Сахрон.— Пойдзем... Годзе нам перабіраць гора, у каго яно меншае, у каго большае... Ва ўсіх у нас гора... Вялікае гора!..

---

Дарагія мае! Родныя!

Усе, хто ведаў мяне і хто не ведаў!

Усе, каго ведаў і каго не ведаў я!

Мае аднавяскоўцы, вы, каго спалілі ў школе немцы!

Больш за дваццаць год ужо, як няма вас сярод нас, жывых! Больш за дваццаць разоў змяняліся зімы вёснамі, вёсны летамі, леты восенямі і восені зноў зімамі... Многа-многа разоў заходзіла і ўсходзіла сонца, змяркалася і развідняла, ахінала зямлю ноч і знікала ноч, дарогу дню давала, месца сваё яму саступала...

Праплывалі па небе хмары...

Лілі дажджы...

Грымелі грамы...

Падалі і раставалі снягі...

Высыпалі і патухалі зоры...

І ўсё гэта было многа-многа разоў...

І ўсё гэта было без вас...

Многа-многа чаго ўсюды змянілася...

Многа-многа чаго нарадзілася...

Многа-многа чаго памерла...

Многае запомнілася...

Многае і забылася...

Але ніколі-ніколі не забудзецца, не сатрэцца з памяці той дзень, калі ішлі мы хаваць, закопваць у зямлю абгарэлыя, абмытыя дажджамі, абвеяныя вятрамі вашыя костачкі... Ішлі ўсе, хто толькі не загінуў, аца-

леў і прыбіўся дадому, у сваю вёску,— дзядзька Яўмен, дзядзька Сахрон, цётка Паўліна, цётка Поля, Каця, Петрык, Юрка, Змітрок, Томачка і я... Цягнулася недзе ззаду, за намі, і Агапа — яна, убачыўшы, што мы ўсе, усёю вёскаю, некуды збіраемся ісці, паплялася таксама ўслед за намі...

Мы ўспаміналі вас, мёртвых, каго захапілі ў помны чэрвеньскі ранак дома і спалілі ў школе немцы... Спыняліся ля кожнага папялішча і ўспаміналі... Успаміналі ўсіх, хто болей ніколі ўжо не вернецца на сваё селішча, чые ногі ніколі ўжо не пройдуць па нашай вуліцы, чые рукі ніколі ўжо не ўкінуць зерня ў нашае поле, чые вочы ніколі ўжо не паглядзяць на нас, жывых...

Мы лічылі вас...

Мы хацелі ведаць, колькі людзей забрала з нашай вёскі новая вайна...

Даруйце, калі мы на каго-небудзь з вас забыліся і не памянулі добрым, ціхім словам,— памяць наша тады мутнела ад гора...

Даруйце, калі мы каго-небудзь з вас не ўбачылі, не ўявілі, якія вы былі ў жыцці,— вочы нашы тады не бачылі нічога ад слёз...

Даруйце, калі мы каго-небудзь з вас не палічылі, падумалі, што вы не былі ў той страшны ранак дома і асталіся жыць,— мы хацелі, каб вы не загінулі, каб вы ўсе былі жывыя...

Даруйце...

Даруйце...

Даруйце...

---

— Усіх успомнілі?

— Усіх!

— Ну, тады ты, Паўліна, і ты, Яўмен, і ты, Поля, і ты, Каця, і ты, Ясь, бярыце жалезнякі, ды ямку напераменку адно з адным капаць будзем,— сказаў Сахрон, калі мы падышлі і ўсёю гурмою пасталі ля папялішча школы, якое таксама зарасло бур'янам і палыном, праўда, не так густа, як тыя папялішчы, што ў вёсцы.— Вось хіба што тутака,— адмераў ён тры крокі наперад і тры ў бок ад колішняй клумбы.— Я бо так мяркую... Тутака, дзе школа, мы помнік паставім, кве-

так насадзім... Але гэта будзе пасля... Можа праз год, а можа і праз усе пяць... А цяпер трэба нам косці сабраць ды закапаць іх асобна... А само папялішча абгародзім. Каб нішто туды не хадзіла, не таптала...

Жалезнякоў было ўсяго тры. Іх узялі ў рукі старэйшыя — Яўмен, Паўліна і Поля. Патапталіся, потым неяк нясмела, нібы з асцярогаю, падышлі да таго месца, дзе паказваў Сахрон капаць ямку. Дзядзька Яўмен уваткнуў у зямлю жалязняк, націснуў на яго нагою, вывернуў першую плітку дзірвану. Нагнуўся, адкінуў яе ўбок і зноў націснуў нагою на жалязняк. І раптам не ўстояў — сеў на траву. Вочы ў яго зрабіліся чырвоныя-чырвоныя, ён часта-часта заклепаў вейкамі.

— Не магу я, Сахрон...— сказаў ён вельмі ціха.— Выбачайце мне ўсе: і ты, Паўліна, і ты, Поля, і ты, Алена мая, і вы, дзеткі... Не магу я...

Ён адвярнуўся, абхапіў твар рукамі і паваліўся ніцма ў палын...

— І я не магу, Сахронка,— завохкала, застагнала цётка Паўліна і так, нават ні разу не капануўшы, выпусціла жалязняк — ён стукнуўся лязом аб камень, што вытыркаўся тут жа, пад нагамі, з зямлі, і тонка, неяк трывожна дзынкнуў.— Не косці ж гэта закопваць будзем, а жывых людзей... Усе так і стаяць перад вачыма... Нібы толькі што я ўсіх бачыла, з усімі гаварыла... Ганначка, даражэнькая, ды за што ж яны цябе-е, за што?.. Адна і была ты ў мяне, і так рана пайшла-а... А я на цябе і не нагледзелася-а-а, з табою не нагаманілася-а-а,— загаласіла раптам Паўліна.

Сахронава жонка, Поля, маленькая, тоўсценькая («Мятровачка»), уся ў рабацінні, бы ўсё роўна ластаўчына яечка, нейкі час стаяла, абапёршыся на дзяржанок жалезняка, і не спускала вачэй са сваіх дзяцей, што таўкліся купкаю неяк асобна ад усіх. Потым упала на калені і таксама загаласіла:

— А мая ж ты мамачка-а, а мая ж ты роднен*ькая-а... А чаму ж ты са мною не паехала-а-а... А чаму ж ты тут аста-а-ася-а-а...

Дзеці, пачуўшы матчын плач, пераглянуліся між сабою, нібы папыталіся адно ў аднаго — ну, што будзем рабіць? Засаплі, зашморгалі насамі, а маленькая Томачка скрывілася і з крыкам кінулася да маці:

— Мамацька!..

Не вытрымала, прыкрыла рукамі вочы і самая старэйшая сярод нас, Каця. Захліпаў, зарумзаў Петрык...

Горкі ком падкаціў пад самае горла і мне. Каб не заплакаць, я адвярнуўся, пачаў глядзець у поле, туды, дзе за Лысай гарою, удалечы кружыў, шырока раскінуўшы крылы, коршак...

А цётка Паўліна і цётка Поля ўжо галасілі, прычыталі, ірвалі сэрца:

— А мая ж ты сястрычка-а, а мая ж ты любенька-ая-а...

— А мая ж ты мамачка-а, чаму ты мяне не паслухала-а, са мною не паехала-а-а...

— Ганначка-а!

— Мамачка-а!..

Заліліся слязьмі, заверашчалі, перакрыкваючы адно аднаго, дзеці — Томачка, Юрка, Змітрок...

— Перастаньце! — крыкнуў на ўсё сваё горла Сахрон.— Думаеце, мне лёгка, а вам усім цяжка? — Голас яго сарваўся, зрабіўся нейкі хрыпаты.— Думаеце, мне плакаць не хочацца, думаеце, у аднаго мяне сэрца каменнае?..

Ён змоўк, бо, відаць, убачыў тое, што бачыў і я,— як паволі-паволі, нібы аб нешта спатыкаючыся, ішла да жалезнякоў Агапа — усё ў той жа доўгай, па пяты, белай палатнянай кашулі, з распатланымі сівымі валасамі, што пасмамі спадалі на твар,— высокая, худая, як смерць. Вось яна дайшла да клумбы, спынілася ля таго жалезняка, які была выпусціла з рук цётка Паўліна, узялася за дзержанок. Паставіла жалязняк лязом у зямлю, націснула на яго нагою, падалася ўсім целам назад, нагнулася і вывернула цяжкі, густа пераплецены карэннямі дзірван. Адкінула яго ад сябе ўбок, зноў уваткнула ў зямлю жалязняк, зноў націснула на яго нагою, зноў прыгнулася і зноў вывернула, гэты раз большую пліту дзірвану. І зноў узялася за дзержанок жалезняка...

Дзядзька Сахрон і я не зводзілі вачэй з Агапы. Потым на нейкую долю секунды вочы нашы сустрэліся.

— Ясік, вазьмі і ты жалязняк,— сказаў Сахрон да мяне.— І ты, Каця,— пашукаўшы вачыма дзяўчыну, дадаў ён праз хвіліну. І неяк хутка, спахапліва адвярнуўся, пачаў глядзець зноў на неба, на тыя белыя,

сумёцістыя аблокі, што ўсё плылі і плылі, беглі і беглі некуды ўдалячынь, туды, дзе сінеў стромкімі, няроўнымі вяршалінамі Шапчынскі бор.

Я, а за мною, трошкі спагадзя, і Каця моўчкі падаліся да клумбы, дзе капала Агапа і дзе стаялі, уваткнутыя ў зямлю, жалезнякі...

Памалу, не падымаючы адно на аднаго вачэй, мы пачалі капаць...

---

Часамі мне здаецца, што я калісьці ўжо жыў... Не, не жыў, а жыву, жыву даўно-даўно, з таго самага дня, калі ўпершыню нарадзіўся на свет чалавек. І гэтым чалавекам быў не хто іншы, як я. Так, так, я!.. І гэта не каго-небудзь, а мяне бралі ў палон і прадавалі ў рабства; гэта не пад кім-небудзь, а пада мною распальвалі агонь інквізітары; і не каго-небудзь, а мяне прыкоўвалі пажыццёва сталёвымі ланцугамі да галер, замуроўвалі ў сцены манастыроў, вешалі, стралялі, чацвертавалі, гнаілі ў турмах розныя ўладары — цары, каралі і іхнія слугі; гэта не хто-небудзь, а я пух з голаду ў блакады і гарэў чорным дымам у печах Трасцянца і Асвенціма, сцякаў крывёю і паміраў ва ўсіх, якія толькі знала чалавецтва, войнах; гэта не хто-небудзь, а я глядзеў на свет па трыццаць і па болей гадоў з-за крат, знясільваўся і вар'яцеў на катаргах і ў каменяломнях... І гэта не ў каго іншага, а ў мяне адбіралі дзяцей і волю, паветра і хлеб; не каго-небудзь, а мяне прымушалі, не разгінаючы спіны, гарбець дзень і ноч на чужой рабоце, затыкалі рот і не давалі гаварыць, што мне рупіла і балела, закопвалі раней часу ў магілу...

І ўсё адно, хто б і што са мною ні рабіў, як бы ні здзекаваўся, як бы ні катаваў, як бы ні зводзіў мяне з зямлі, я ўхітраўся заўсёды ацалець, не памерці. Праходзіў час, і я зноў падымаўся з попелу і тлену, зноў уставаў, ачуньваў, гаіў свае раны і зноў жыў, як жыла, зелянела тая трава-мурава, што пляцецца, расце скрозь па палявых дарогах і якую спрадвеку тапталі і топчуць, гэтак жа, як і мяне, каму толькі не заманецца. І я не толькі ачуньваў, я яшчэ рос, мужнеў, множыўся, разумнеў...

Канулі ў вечнасць стагоддзі, тысячагоддзі...

Мяняліся, паміралі каралі, цары і іхнія слугі... Рабіліся пылам, зямлёю...

А я ўсё жыў і жыў...

І веру — буду жыць яшчэ доўга-доўга, буду жыць вечна, датуль, пакуль будзе гэты белы свет, пакуль будзе сама зямля...

Бо я — ЧАЛАВЕК!

---

Пасля пахавання, увечары, вярнуўшыся з папялішча школы, мы зноў сядзелі ўдвух з дзядзькам Яўменам на яго дворышчы на тых дошках, што нааддзіралі былі з платоў і на якіх збіраліся надоечы класціся спаць. Маўчалі.

Дзядзька Яўмен як утаропіўся ў свае вымурзаныя ў сівую гліну і чвір боты — вымурзаў ён іх, вядома, там, у той яме, куды мы сабралі абгарэлыя людскія чарапы і косці,— так і сядзеў, застыўшы, нават не варушыўся. Вочы ў яго былі пачырванелыя, нібы ў іх трапіла нешта пякучае і рэзала, ці як бываюць іноды ў таго, хто доўга-доўга не спаў... Твар зарос бруднаватым чорным шчаціннем; на худой, жылістай шыі яшчэ больш выпнуўся востры кадык...

Дзядзька Яўмен пра штосьці думаў...

Я не трывожыў дзядзьку. Сядзеў моўчкі поплеч і разглядаў маладыя, зялёныя, ядраныя парасткі, што цягнуліся ўгору ад кораня абгарэлай старой грушы, якая чарнела сухім голлем пры самым папялішчы... Як высока вымахалі яны, гэтыя парасткі, за два гады! Мусіць, больш як на метр!.. І бур'ян парос. Як хутка ён рассяліўся, рассеяўся па ўсім двары, па ўсёй вёсцы... І палын, лопухі, лебяда, дзяды, пырэй...

— Усё расце,— сказаў я тое, пра што думаў.

— Расце? — непаразумела падняў на мяне вочы дзядзька Яўмен.— Што расце?..

— Ды ўсё... Парасткі з кораня грушы... Бур'ян, палын, лебяда... Усё расце...

— А-а, ты вунь пра што...— нібы ачнуўся, стомлена ўздыхнуў Яўмен.— Так яно і павінна быць... Мёртваму гніць, жывому расці...

І зноў змоўк. Апусціў галаву і пачаў саскрабаць чорным пазногцем указальнага пальца сівую гліну і чвір, што папрыліпалі да вялікіх кірзавых ботаў.

— А нам?.. Што рабіць нам? — спытаўся я, каб не маўчаць, каб адарваць дзядзьку Яўмена ад думак.

— Нам?.. — не перастаючы саскрабаць пазногцем з ботаў чвір, ні то перапытаў, ні то проста сказаў дзядзька.— Нам — успамінаць... Успамінаць, як жылі мы раней, калі яшчэ вёска наша не згарэла... Хаця,— паправіўся ён праз хвіліну,— што я гавару. Ты маладзейшы, у цябе ўсё наперадзе... І радасць, і смех... Табе не тое, што мне... Я ішоў дадому, думаў, тут хата ёсцека, жонка, дзеці; адным словам, на ўсё гатовае ішоў... А прыйшоў — няма тут нічога... Адно толькі папялішча... А пачынаць усё нанова ў мае гады?.. Ці варта...

— Вы хіба толькі тут і дазналіся, што вёска наша згарэла, што нікога жывога не асталося? Пісьмаў нікому не пісалі? — спытаўся я пра тое, што мне даўно рупіла спытацца.

— Што пісьмы? — абыякава махнуў рукою дзядзька.— Пісьмо можа і згубіцца, і таго, каму паслана, не знайсці... Пошта палявая, сам знаеш... А жывы, пра жывое і думаеш...

— То, можа, і пісьмы ад бацькі майго не дайшлі да мяне, згубіліся недзе?..

— А-а? — зноў стомлена паглядзеў на мяне дзядзька Яўмен і перастаў саскрабаць з ботаў чвір.— Усё можа быць... Жывога чалавека дачакаешся, як бы доўга ні давялося чакаць...

І падняўся з дошак.

— Не сядзіцца нешта мне сёння, не гаворыцца...— сказаў ён, нібы апраўдваючыся перада мною.— Пайду, пахаджу хіба...

Завярнуўся, усунуў рукі ў кішэні штаноў і павольі паклыпаў некуды на гарод, у поле...

Я ж, пасядзеўшы яшчэ хвілін колькі на дошках на Яўменавым селішчы, пабраўся ў двор да цёткі Паўліны — страшэнная, проста нечалавечая туга і адзінота, як ніколі дасюль, гнялі, гналі мяне да людзей...

У цёткі Паўліны нікога не было дома. Стаяла толькі, непадалёку ад вогнішча, на якім варылі звычайна штодзень есці, Агапа — уставіўшыся, як і заўсёды, вачыма ўсё гэтак жа некуды ўдалячынь, яна як бы хацела на нечым, вядомым адной ёй, засяродзіцца, пра

нешта ўпарта прымушала сябе думаць, ды штосьці ёй замінала, не давала гэтага рабіць.

Я сабраўся ўжо быў выйсці з двара, наважыўся зазірнуць на Сахронава селішча, паглядзець, дзе ён і як жыве, але якраз у гэты момант з печышча, якое зарасло гэтак жа бур'янам, як і ўсе печышчы на вёсцы, выскачыў Петрык і ледзь не збіў мяне з ног.

— Немцы! — закрычаў ён перапалоханым голасам і, прыгнуўшыся, увабраўшы ў плечы галаву, памчаў па картапляніку цераз увесь двор да хлевішча, што зелянела ўсё ў лопухах у канцы двара, ля плота. Дабегшы да хлевішча, Петрык упаў і хоць бы зварухнуўся.

Я хвілін колькі непаразумела глядзеў то на вуліцу, то на Петрыка — ніяк не мог уцяміць, што здарылася, чаму так перапалохаўся хлопчык і ад каго ён гэтак спрытна хаваецца. Потым крыкнуў:

— Дзе немцы, Петрык?

— Гы-ы,— засмяяўся хлопчык, выпаўзаючы з лопухаў.— Гэта я гуляю так... Шам ж шабою... А ты што, шпужаўся, думаў — і праўда немцы?.. Гы-ы...— засмяяўся ён зноў, паказваючы шчарбаты, амаль без зубоў рот.

— А дзе ж гэта вашыя ўсе — мама, Каця? — спытаўся я ў Петрыка, калі ён перастаў смяяцца і падышоў да мяне.

— Тамака,— няпэўна махнуў ён рукою на поле.

— Дзе гэта тамака?

— Вуньдзека, дзе дарога на Баршукі...

— Робяць там што?

— Не, шварацца...

— Сварацца? Чаго ж гэта ім сварыцца? — не зразумеў я Петрыка.— Што яны не падзялілі?..

— Гы-ы,— засмяяўся зноў Петрык.— Ім нямашака чаго дзяліць...

— Дык чаго ж яны тады сварацца?

— За шалдат...

— Якіх салдат?

— Ну тых, што ў Баршуках штаяць, што леш рэжуць, поле ў шпаленых шолах шэюць...

— Чаго ж ім за салдат сварыцца?

— Ды Каця хоча хадзіць да іх, а мама не пушкае... Кажа, зачаравацееш, пуза нагуляеш... Каця не шлухае

маму, бегае ў Баршукі, дык мама і шварыцца. Цяпер зразумеў? — І Петрык паказаў мне язык.

— Зразумеў,— засмяяўся ўжо я. Ступіў крок да Петрыка, узяў яго за худзенькае, востранькае плячо, пагладзіў па галаве. І толькі цяпер убачыў, што валасы ў хлопчыка выраслі вялікія, аж не відно вушэй.

— Пастрыгчы б цябе трэба,— сказаў я.— А то гэткая капа на галаве...

— Трэба б,— згадзіўся са мною Петрык.— Ды ў наш нажніцаў нямашака,— сумна ўздыхнуў ён.— Як у Баршуках жылі, то матка ў людзей прашыла... А тутака і папрашыць нямашака ў каго...

— І гуляць табе няма з кім... Ты што, у вайну любіш гуляць?..

— Я ва ўшо люблю... І ў вайну, і ў лялькі...

— У лялькі? — здзівіўся я.— Ты ж хлопчык. А ў лялькі гуляюць дзяўчаткі...

— То да вайны так было... А цяпер ушым можна гуляць...

— Усім? — перапытаў я ў Петрыка.— Хто ж гэта так табе сказаў?

— Ушэ так кажуць. І мама, і Каця, і Галя з Надзяю, як дадому прыходзяць. Гэ-э, а ты і не жнаў...— засмяяўся зноў з мяне Петрык. І тут жа не сцярпеў — пахваліўся: — А от як Мішка наш дадому прыйдзе, дык ён пугу мне прыняшэ. От такую даўгенную,— паказаў ён рукамі.— І ляшкаць, казаў, навучыць... Як шам... Як ляшну, як ляшну — адразу ўцячэш... І шчэ Мішка казаў, што гармонік мне купіць... Такі, як немец у нашай хаце іграў, калі бацьку забілі... От такі, блішчашты, што ротам іграць трэба. Тады Каці нашай і на танцы да тых шалдатаў можна будзе не хадзіць, дома хай танцуе... Жразумеў? — зусім расхрабрыўся Петрык. А ўчора ж, як я зайшоў у зямлянку, нават не загаварыў, на печ схаваўся і зіркаў адтуль на мяне чорнымі вачаняткамі, як ваўчок.

— Добры ў цябе брат Міша,— пахваліў я Петрыку брата.— Усё табе носіць, усё купіць абяцае...

— Нічога ён і не ношыць, нічога і не купляе... Толькі кажа так,— спахмурнеў і скрывіўся раптам Петрык.— Ушо кажа, што купіла нямашака...

— Чаго, чаго?

— Купіла, ну, за што купляюць... Нам хату трэба

штавіць, дый парашатка мама хоча купіць... От таму Міша нічога і не купляе мне... А як хату паштавім, парашатка купім, адражу ж і гармонік Міша прыняшэ... Ён, кажа, напытаў ужо ў некага... Блішчашты такі, цюцелька ў цюцельку, як у немца... А шчэ мне мама штаны, кажала, новыя пашые... Мама! — закрычаў ён і кінуўся бегчы ў гарод, убачыўшы, што адтуль па разоры ідзе дадому маці.— Праўда ж ты мне штаны новыя пашыеш?

— Пашыю, пашыю,— суцешыла маці сына.— Ідзі картопляў з'еш ды спаць лажыся... Пара... І ты разам з намі хадзем, Ясь,— сказала яна да мяне.— Што ж, жыві ў нас... Як-небудзь будзем мірыцца, што ж ты зробіш... Не прападаць жа табе... Месца хопіць...

Я нічога не адказаў — паслухмяна пайшоў услед за Петрыкам і цёткай Паўлінай у зямлянку...

Усю ноч мне снілася мама. Здаецца, быццам мы з ёю ішлі па нейкай шырокай і пыльнай-пыльнай дарозе, ішлі ў страшэнную спёку і доўга-доўга, аж у мяне прытупелі, адзеравянелі ногі. І я, дапаўшы нарэшце да нейкага кружка лазы, паваліўся ў халадок, на траву і замгнуў вочы.

— Ну як, сынок? — спыталася ў мяне маці, ціха сядаючы побач.— Стаміўся?

— Не, не надта каб,— млява адказаў я і расплюшчыў вочы.

— То і добра,— падбадзёрыла мяне маці.— Бо табе ж яшчэ багата трэба ісці. Аж пакуль не ўзбярэшся на тую вунь гару,— паказала яна рукою на вялізную строму гару, што падымалася высока над лесам і над якою вісела сонца — не белае, не чырвона-агністае, а чорнае-чорнае, як ноч.

— З табою не боязна,— сказаў я.— Як-небудзь дойдзем...

— У тым і прычына ўся,— спагадліва паглядзела на мяне маці,— што далей я не пайду... Пойдзеш адзін...

— А ты куды?

— Назад пайду...

— Куды назад?

— Адкуль прыйшла...

— А чаму ты са мною ісці не хочаш?

— Я хачу,— слаба ўсміхнулася маці.— Ды, бачыш, мне няможна туды, на тую гару...

— Чаму?

— Не ведаю,— пацiснула яна плячыма.— І так добра, што хоць столькі я цябе правяла. Другія і таго не змаглі... Ідзі, не бойся... Я цябе тутака пачакаю...

— Дзе гэта тутака?

— У гэтым вось лесе,— кіўнула яна галавою на лес, што, густы, дрымучы, аж нельга ў яго было ўваткнуць пальца, падыходзіў да лазы.

Я хацеў пра нешта яшчэ папытаць у маці, але яна раптам дзе і падзелася — нібы растала, нібы праваліласся скрозь зямлю...

Я ўсхапіўся на ногі, закрычаў:

— Ма-ма! Ма-мачка-а!..

Але ніхто не адгукаўся на мой голас. І я бегаў, прадзіраўся па лазняку, па лесе і ўсё клікаў, зваў да сябе маці...

Ад гэтага крыку я, мусіць, і прачнуўся... Спахапліва расплюшчыў вочы — дзе я?..

У зямлянцы быў паўзмрок.

Нехта знадворку шкрабаў рукою за клямку дзвярэй, няйначай, хацеў іх адчыніць. Я павярнуў галаву, і ў гэты момант дзверы, нарэшце, адчыніліся. У зямлянку ўшмыгнула Каця — у чорным крамным сачыку, нейкая вельмі ж бледная, стомленая. Ціхенька зачыніла за сабою дзверы, разулася і, узяўшы ў рукі чаравікі, пакралася да свае пасцелі, што была на палку, у самым далёкім куце зямлянкі.

Але як Каця ні асцерагалася, маці ўсё роўна пачула.

— Што, нагулялася? — падкусліва, злосліва сказала яна да дачкі, калі тая распранулася і схавалася пад посцілку.

— Нагулялася...— адказала Каця і, відаць, не жадаючы з маці сварыцца, павярнулася тварам да сцяны.

Але маці была настроена інакш.

— Глядзі ж, гуляй, гуляй, ды пуза не нагуляй...— прыгразіла яна.— Усе яны добрыя... Мякка сцелюць, ды мулка спаць... Сваё возьме — ды дзёру... Знайдзі яго потым... А ты рабі што хочаш з дзіцем... Прынясі мне толькі ў прыполе!..

— Сціхні, мама,— папрасіла Каця.— Не маленькая я, ведаю, што раблю... Дай паспаць...

— Ах, ты спаць захацела! — і не думала сціхаць маці.— Чаго ж ты звечара спаць не лажылася, як я, як усе добрыя людзі... Дык яна да салдат... Ух, бессаромніца!.. Ей у галаве шчэ вунь што!.. Ды мёртвых бы пастыдалася, тых, чые косці зграбалі...

— Чаго гэта мне іх стыдацца? — сказала ціха, але без шкадавання Каця.— Ім добра, ні пра што думаць не трэба. А нам вось паспрабуй да смерці дажыві... Калі нідзе нікога, адны галавешкі, людзей нават нідзе жывых нямашака... Здзічэеш адзін тутака на папялішчах, воўкам завыеш... А ты мяне шчэ нікуды не пускаеш... Каб ля цябе сядзела... Прывязаць мяне да дамоўкі хочаш... А на тое забылася, што мне ўжо дваццаць гадоў...— Каця зашморгала носам, усхліпнула.

— Пры чым гады,— не ўнімалася маці.— Тутака не гады, а галаву трэба мець на плячах, матыліца... Можа ж не свінней ты ўчора хавала, а людзей... Суседзяў, цётку сваю, сясцёр, братоў дваюродных.... Бацьку, урэшце, успомніла б...— чуваць было, як цётка Паўліна заплакала.

— Адкуль ты знаеш, што я нікога не ўспомніла,— скрозь слёзы агрызнулася Каця.— А можа і ў мяне ў той школе згарэў хто?.. Можа таму і гуляць я ў Барсукі пайшла, каб не плакаць разам з табою вось тутака, у зямлянцы, каб на гора сваё забыцца...— Каця ўнурыла твар у падушку і зарумзала горка і крыўдліва, амаль што загаласіла...

Я, каб не чуць гэтай сваркі і плачу, ссунуўся з палка, дзе мы спалі ўдвух з Петрыкам, апрануўся і моўчкі выйшаў з зямлянкі...

На двары было ўжо зусім светла. Але сонца яшчэ не ўзышло — яно ляжала, абкрытае з усіх бакоў ружовымі воблачкамі, і, нібы тая нявеста ў сваёй пуховай пасцелі, усё кволілася, лянява пацягвалася, пазяхала, ніяк не могучы зусім прагнаць дрымоту і сон і ўстаць,— няйначкі, ведала, якая вялікая работа чакае яго і сёння ўдзень — не толькі паляжаць, але нават і прысесці не ўдасца. На абгарэлай сасе, на хлевішчы, сядзела белагрудая ластавачка і гэтак жа, як і даўней,

калі не была яшчэ спалена вёска, зайздросціла долі пастуха:

— Нікому так не добра, як нашаму пастуху-у...— шчабятала яна сваім танюткім галаском.— І дома награэцца, і ў полі набярэцца, і шчэ крычыць: «Мала-а...»

«Усе мы каму-небудзь заіздросцім,— чамусьці нагадалася мне.— Бо толькі сваё гора ведаем... А што ў другога на душы — ні ведаць, ні разумець не хочам...»

З зямлянкі з вяроўкаю ў руках выйшла цётка Паўліна. Следам за ёю выбегла Каця. Абедзве заплаканыя, яны моўчкі пакіраваліся міма мяне да хлевушка, што быў абы-як збіты са старых, месцамі абвугленых дошак на гародзе,— там, у хлевушку, начавала цялушка. Адамкнулі яго, адчынілі нахлашч дзверы, накінулі на рогі цялушцы вяроўку.

— Куды ж гэта вы паведзяце яе? — спытаўся я, калі яны прайшлі зноў гэтак жа моўчкі міма мяне, ужо не адны, а з нізкарослаю, бураю, з белаватымі лапінкамі на спіне, цялушкаю.

— Да быка ў Барсукі,— не спыняючыся, на хаду кінула мне цётка Паўліна і сцебанула цялушку дубцом па сцёгнах, бо тая схапіла ротам і вырвала з карэннем кіях, што рос пры сцежцы.— Можа, дасць бог, пабегаецца... Нешта неспакойная яна была ўчора ўвесь дзень...

Потым, спагадзя нейкі час, калі схаваліся за альсом цётка Паўліна, цялушка і Каця і з-за хмар нарэшце выблiснула па-летняму свежае, румянае сонца, па дарозе ў Барсукі міма Паўлінінага селішча прайшла і цётка Поля са сваімі хлопцамі — сама паперадзе, а хлопцы крокаў на колькі ззаду ад яе — яны ледзь паспявалі за маткаю і ўсё церлі кулакамі вочы, відаць, недавольныя, што іх так рана паднялі з пасцелі і не далі выспацца. Пацягнулася некуды ў другі канец вёскі — ці не да школы зноў? — і Агапа. І толькі мне не было куды ісці — у мяне не было ніякага клопату, я быў адзін.

Страшэнная туга зноў сціснула маё сэрца.

«Тата, дзе ты?.. Чаму не вяртаешся дадому?.. Няўжо не ведаеш, што я чакаю цябе, што я не пайду адсюль нікуды, пакуль ты не прыедзеш?.. Прыязджай, вяртайся хутчэй, тата!.. Помніш, ты абяцаў, як мы з

мамай, дзедам і Веркаю праводзілі цябе на фронт: «Слухайся маму, я прывязу табе з вайны гасцінца...» Я слухаўся, тата, маму! Нават у той вечар, калі яна выпраўляла мяне ў Замошкі несці цётцы Лісавеце малако, я паслухаў яе і пайшоў, хоць ісці нанач з дому мне ані не хацелася... Не трэба мне, тата, твайго гасцінца, нічога не трэба, вярніся толькі, прыедзь да мяне ты сам!..»

Адчуў — па шчоках у мяне пакаціліся, пабеглі гарачыя слёзы...

І зноў дзень у дзень з раніцы да позняга вечара я блукаў па лесе, па полі, па лузе...

І дзіўна — я амаль нідзе нічога не пазнаваў. Так усё зыначыў, змяніў час! На месцы таго адзёнка, які некалі масцілі мы з бацькам і на які лажылі першы свой стог, вымахаў шырачэзны куст лазы... Лаза закучаравілася і пад вязам, дзе мы абедалі і дзе бацька расказваў нам з маткаю пра дзедава няўдалае пчалярства... Чакай, а дзе ж сухі, аблуплены дуб, на які дзед цягаў вулей?.. Яго няма ўжо, не стаіць, кашчава не падымаецца над усім балотам. Мусіць, паваліўся, упаў...

Травою, драбналессем і хмызам пазарасталі і тыя грыбовішчы, дзе браў я з бацькам баравікі... А свайго буданчыка, дзе столькі начай спаў і хаваўся ад золі, дажджу і камарэчы, калі немцы спалілі нашую вёску і я астаўся адзін, я і зусім не знайшоў...

Доўга хадзіў я і па сваім селішчы. Глядзеў то на ліпу, якая яшчэ больш пабучнела і паднялася ўгору за тыя два гады, што не быў я дома, на яблыні, грушы, вішні, слівы, якія падзічэлі, паглухлі і ўжо не радзілі, на грады, на якіх раскашоўваліся і буялі лопухі і дзяды, на калодзеж, з якога мы некалі бралі і пілі ваду і які цяпер западаў трухою і амаль забурыўся...

Я ўспамінаў...

...У нашай хаце поўна людзей. Ні прайсці, ні павярнуцца, хоць і павыносілі ў сенцы скрыню, ложкі,— гудзе, грыміць Лісавеціна вяселле. За сталамі, што расстаўлены паўз сцены па ўсёй хаце, тлумна, гармідарна — людзі, расчырванелыя ад гарэлкі, наліваюць адно аднаму чаркі, чокаюцца, п'юць, гарлапаняць раз-

пораз: «Горка!» І Лісавета, сарамліва ўстаючы з лаўкі, сваімі поўнымі, сакаўнымі, як вішні, губамі ледзьледзь дакранаецца да губ Пятра Анісімавіча, які сёння нейкі асабліва святочны, урачысты і, відаць, таксама трошкі п'яны, як і ўсе. Нехта недавольны, што маладыя цалуюцца не так, як трэба, а толькі дзеля прыліку.

— Нябось, як на лавачцы ўночы, дык цалаваліся, што аж куры з перапалоху з седала падалі...— жартуе ён.

— Дык то ж на лавачцы,— смяецца Пятро Анісімавіч.— А цяпер вы ўсе на нас...

Але яму не даюць дагаварыць.

— Горка! — крычыць нехта з другога канца застолля, і Пятро Анісімавіч зноў устае, папраўляе гальштук, потым абхоплівае рукою за плечы Лісавету, прыцягвае да сябе, і зноў яны цалуюцца — гэтак жа сама, толькі дзеля прыліку...

І зноў нехта крычыць: «Горка!..»

Я не вытрымліваю нарэшце і пытаюся ў бацькі — я сяджу між ім і маткаю за сталом,— навошта так часта прымушаюць цалавацца цётку Лісавету і Пятра Анісімавіча.

— Каб гарэлка не горкая была! — паказвае шчарбінку ў роце бацька.— Пачакай, вось як цябе жаніцьмем, то шчэ часцей крычаць будзем... Каб аж губы пааблазілі, каб ведаў, што значыць жонку на сваю шыю браць...

— А я жаніцца не буду...— прызнаюся я бацьку.

— Гэта чаму ж? — пытаецца ён у мяне зусім сур'ёзна.

— А таму, што я цалавацца не люблю...

Бацька — у рогат.

— Га-га-га... Чула,— таўчэ ён рукою пад бок маці,— што сын твой кажа? Глядзі, каб халасцяком векаваць не астаўся...

І зноў — у рогат...

...Бацька злавіў у лесе вожыка і прынёс яго ў шапцы дадому. Вожык маленечкі, зусім яшчэ дзіця, ён нават не ведае, што калі да яго хто падыходзіць і бярэ ў рукі, то трэба скруціцца, схаваць сваю пыску. Выста-

віўшы ўперад лычык, ён толькі тупае сюд-туд па хаце і ўсё абнюхвае, да ўсяго прыслухаецца.

— Гэта ён, мусіць, есці хоча,— кажа маці і ідзе да паліцы, дастае сподачак, налівае ў яго малако. Потым ловіць вожыка, садзіць да сподачка, тыцкае яго мордачкаю ў малако. Вожык злосна пырхае, а пасля, мусіць, рассмакаваўшы, што гэта такое белае, у што тыцкаюць яго мордачкаю, пачынае хутка і часта, як кот, хлябтаць...

— Нашто ты такога малога прынёс? — пытаецца маці ў бацькі.

— А я толькі нанач яго ўзяў. Уранні назад занясу. Трэба ж, каб Ясік паглядзеў і на вожыка,— кажа бацька.

Я, пачуўшы, што бацька збіраецца занесці вожыка заўтра зноў у лес, хнычу:

— Не хачу, каб заўтра вожыка ў лес няслі... Хачу, каб у нас ён жыў...

— Го, так нядобра, сын...— гладзіць сваёй шурпатай даланёю мяне па галаве бацька.— Калі ты такі будзеш, я зусім нічога табе не панясу... А каб цябе хто ад мамы забраў, га? Скажам, мядзведзь?..

Я не ўяўляю, як бы жыў я адзін без мамы, ды яшчэ з мядзведзем, і перастаю плакаць... Толькі гляджу, не зводжу вачэй з вожыка, ніяк не магу паверыць, што вожык такім маленькім языччком гэтак хутка і спрытна апаражніў сподачак...

...Бацька прыйшоў аднекуль вельмі п'яны. Ледзьве пераступіў парог хаты, зачапіўся за ножку ўслона і паваліўся на падлогу.

Маці ўміг падскочыла да бацькі.

— Міхалёк, што з табою? — спалохана склала на грудзях яна рукі.

— Нічога,— смяецца бацька.— Не бачыш хіба, выпіў...

І ляжыць, нават нагою і рукою не паварушыць...

— Дык навошта ж так напівацца? — бядуе над бацькам маці.

— Трэба ж, каб і ты ведала, які твой чалавек бывае п'яны... А то скажаш мне, як адна казала: хоць бы выцяў мяне ён калі, хоць бы напіўся ці яшчэ што муж-

чынскае зрабіў... А то — баба бабай, толькі што хіба ў штанах.

— Ці не канторшчыца гэткае пра свайго чалавека табе бае, таго, з якім развялася?

— Ды кінь ты, Мар'я... Зноў канторшчыцу ўспомніла... Ды каб было ў нас што з ёю, я сам бы прызнаўся табе... Ты ж ведаеш, які я...

І садзіцца на падлогу, потым устае і лапае нас, мяне і маму, абдымае — толькі цяпер мы бачым, што бацька ані не п'яны, ён проста прытвараецца, дурэе.

— Цьфу ты,— плюе, звесіўшы з печы ногі, дзед.— І пажартаваць па-людску не ўмее. Я ўжо думаў ісці конскага калу дзе шукаць ды адпойваць...

...Я не пайшоў у школу — цалюсенькі дзень прабегаў, прагуляў на поплаве ў пікара і ў лапту. А калі сабраўся ісці дадому, убачыў бацьку — шырокім размашыстым крокам ён праставаў да мяне. Хвілін колькі я не ведаў — уцякаць мне з поплава ці пачакаць, калі бацька падыдзе бліжэй. Потым, згледзеўшы, што бацька бярэцца рукою за папругу, каб, мусіць, яе расшпіліць, пыльнуў у алёс...

І толькі ў альсе адумаўся, што зрабіў глупства. Дадому ж мне ўсё адно давядзецца ісці, а значыцца — сустрэчы з бацькам не мінуць. Навошта ж было ўцякаць тады?

Вечар я прахадзіў каля свайго двара, ніяк не адважваўся зайсці ў хату. Потым усё ж не вытрываў — узяўся за клямку, адчыніў дзверы...

І бацька, на дзіва, не расшпіліў сваю папругу, не стаў мяне біць. Толькі калі маці наліла мне есці і сеў я за стол, сказаў:

— Я вось, сын, сам імкнуўся да кніжак, вучыцца хацеў. Ды мне нельга было... А ты, бачыш, вучыцца не хочаш... То можаш і зусім не хадзіць у школу, я цябе не прымушаю...

— Я больш не буду, тата.— Я і сам не помню, як вырваліся ў мяне гэтыя словы.— Я больш ніколі не буду... Я буду вучыцца.— І чамусьці вылез з-за стала.

— Глядзі ж! Ведай, што я вельмі хачу, каб ты вучыўся. Еш,— загадаў бацька,— і больш не ўцякай... Гэта нядобра, сынок, калі дзіця ўцякае ад свайго бацькі...

...Бацька вельмі рана прыйшоў з работы. Тут пайшоў і тут жа вярнуўся. Не распранаючыся, пахіла, стомлена сеў на лаву, апусціў галаву.

— Што, можа, захварэў? — пытаецца маці, нагінаючыся, каб узяць рубанец дроў і ўкінуць яго ў печ. Яна ўсё яшчэ пораецца ля печы.

— Вайна пачалася!..

Рубанец падае ў маці з рук.

— Такі пачалася? — перапытвае яна са страхам.

— Пачалася...

І ў нашай хаце робіцца ціха-ціха, усё роўна як хто памёр. Потым раптам з вачэй у маці на шчаку выбягае адна слязінка, другая... Маці кідаецца да бацькі, галосіць:

— Міхалёк, а як жа мы жыць без цябе бу-удзем, на каго ж ты нас пакі-і-неш, а ці вернешся ты з той вайны-ы...

«Тата, тата, дзе ты? Ці жывы ты хаця? Калі жывы — вяртайся хутчэй дадому!..»

І прасіў я Ветра:

— Вецер, Вецер! Ты ўсюды бываеш, на крылах лёгкіх сваіх шар зямны аблятаеш! Скажы мне, Вецер, дзе бацька мой? Калі ўбачыш, перадай яму, што на папялішчы роднае хаты яго чакае сын. Хай не бавіцца, хутчэй вяртаецца дадому!

Маўчаў Вецер, толькі яшчэ ніжэй прыпадаў да зямлі, імчаў стрымгалоў прэч ад мяне...

І прасіў я Сонца:

— Сонца, Сонца! Ты рана ўсходзіш і позна заходзіш, цалюсенькі дзень вока свайго з зямлі не зводзіш! Скажы мне, Сонца, дзе бацька мой? Калі ўбачыш, перадай яму, што на папялішчы роднае хаты яго чакае сын. Хай не бавіцца, хутчэй вяртаецца дадому!

Маўчала Сонца, толькі барвовела, слепла раптам і бегла хавацца за лес...

І прасіў я Месяца:

— Месяц, Месяц! Нязменны начны вартавы наш! Ты не спіш і тады, калі ўсе спяць, усё зямлю нашу

пільнуеш! Скажы мне, Месяц, дзе бацька мой?.. Калі ўбачыш, перадай яму, што на папялішчы роднае хаты яго чакае сын. Хай не бавіцца, хутчэй вяртаецца дадому!

Маўчаў Месяц, толькі бялеў, палатнеў раптам і яшчэ імклівей плыў па небе...

І прасіў я Неба:
— Неба, Неба! Шырока развінулася ты над зямлёй, з усіх бакоў яе абдымаеш, усё сочыш, што ўдзень і ўночы на ёй робіцца! Скажы мне, Неба, дзе бацька мой?.. Калі ўбачыш, перадай яму, што на папялішчы роднае хаты яго чакае сын. Хай не бавіцца, хутчэй вяртаецца дадому!

Маўчала Неба, толькі сінела раптам, густым пола-гам хмар ад вачэй маіх закрывалася...

І прасіў я Хмар:
— Хмары, Хмары! Вы сюды-туды па Небе плыва́еце, па ўсім свеце блукаеце! Скажыце мне, Хмары, можа хоць вы ведаеце, дзе бацька мой? Калі ўбачыце, перадайце яму, што на папялішчы роднае хаты яго чакае сын. Хай не бавіцца, хутчэй вяртаецца дадому!

Маўчалі Хмары, толькі халоднымі, горкімі слязьмі раптам пачыналі плакаць...

Усё маўчала, нібы змовілася, усё не хацела гаварыць, дзе мой бацька...

— Пойдзем са мною,— сказаў мне дзядзька Яўмен, прыйшоўшы неяк уранні ў двор да цёткі Паўліны,— у руках у яго былі піла і сякера.— Будзем ставіць людзям хаты. Трэба ж і нам з табою жыць...
— Ідзіце,— сказаў я яму.— Я нікуды адсюль не пайду. Буду чакаць бацьку...
— Яно-то так...— ні то згадзіўся са мною, ні то не згадзіўся дзядзька.— Добра, калі ў чалавека ёсць каго чакаць...
Уздыхнуў, насунуў на самыя вочы пілотку і пайшоў з двара...

Касіла на лузе цялушцы сваёй траву цётка Паўліна — а бацькі майго ўсё не было і не было...

Жала на полі ячмень свой цётка Паўліна — а бацькі майго ўсё не было і не было...

Капала на гародзе бульбу сваю цётка Паўліна — а бацькі майго ўсё не было і не было...

Курлыкалі ў паднябессі жураўліныя кліны — а бацькі майго ўсё не было і не было...

Падала з ціхім пошумам з дрэваў жоўтае лісце — а бацькі майго ўсё не было і не было...

Сівелі па досвітках ад інею някошаныя лугі, нясеяныя, неўбіраныя палі — а бацькі майго ўсё не было і не было...

— Яго і не будзе,— сказала мне неяк цётка Паўліна страшную праўду, у якую патроху пачынаў ужо верыць і я сам...

— Не будзе! — пацвердзілі ўслед за ёю мне і Вецер, і Сонца, і Месяц, і Неба, і Хмары...
— Не будзе!
— Не будзе!
— Не будзе!..

Па першым белым снезе я паехаў з вёскі... Паехаў у горад, каб там жыць...

Свая родная вёска стала мне няміла, я не мог быць у ёй болей ні дня...

Успаміны маленства гналі мяне далей ад дзедаўскіх магіл...

---

Тата, родны мой! Вось і зноў я гавару з табою, чуеш?.. Чаму я так часта ўспамінаю цябе, чаму зноў і зноў звяртаюся як да жывога? Можа і праўда ты дзенебудзь жывеш, толькі я не ведаю, дзе ты, а ты не ведаеш, дзе жыву я... Бо ніхто не сказаў мне, ніхто не напісаў, што здарылася з табою на фронце... Забілі

цябе ў баі? Памёр ты ў шпіталі ад ран? Ці мо замучаны, спалены ў печах у нямецкім палоне?.. Ты проста пайшоў на вайну і не вярнуўся, як не вярнуліся многія-многія... Вось чаму я другі раз і думаю: ты недзе жывеш, і мы з табою яшчэ сустрэнемся, яшчэ пабачымся... Хаця... Што на гэта спадзявацца! Больш за дваццаць гадоў ужо ад таго першага мірнага мая, а цябе ўсё няма і няма. І ці прыйдзеш ты хоць калі да мяне, тата?..

А я так хачу, каб ты прыйшоў! Хоць бы на дзянёчак, хоць бы на гадзіначку, нават калі б на адну-адзінюсенькую хвіліначку. Каб толькі глянуць на цябе, каб толькі пачуць твой голас...

Помніш, тата, які быў я, як ты пакідаў вёску, як разлучыла нас вайна... Я нават не нагаварыўся з табою ўволю, бо ты амаль ніколі не стыкаўся дома — усё спяшаўся, усё хацеў зарабіць болей грошай, каб мы з мамаю лепей жылі, каб у нас было што адзець і што з'есці і каб мы маглі з'ездзіць усёю сям'ёю на мора. Помніш, тата, гэта была твая мара — паглядзець самому і паказаць нам з мамаю мора... Ці пабачыў ты яго, тое мора, хоць перад смерцю, ці так і памёр, не пабачыўшы?.. Я разумею цябе, тата, і ані ні ў чым не вінавачу — ты вырас сам без бацькі... Помніш, ты расказваў, як мучыўся, галадаў, пакуль не прыбіўся ў нашу вёску і не ажаніўся з маёй мамай... Бацьку твайго забралі на вайну, не гэтую, а тую, ранейшую, яшчэ царскую, і вы з маці паехалі ў бежанцы... Па дарозе ў вас здох конь... Маці ўладкавалася ў нейкім багатым доме за кухарку, а ты пайшоў шукаць свае долі, хлеба і работы ў горад... Пасля доўгага бадзяння цябе, нарэшце, ўзяў да сябе ў памочнікі нейкі гарбар-п'яніца... З ранку да позняга вечара ты змушаны быў скрэбці смярдзючыя шкуры, а ўвечары цярпець здзек п'яніцы гарбара, які напіваўся да белай гарачкі і лез да цябе з кулакамі біцца... Ад гарбара ўцяклі жонка, дачка, збеглі некуды два сыны... І ўсю сваю злосць ён спаганяў на табе, тата... І гэта за нейкія капейкі, за якія нельга было купіць і наесціся ўволю нават хлеба... Потым гарбар прапіўся зусім і выгнаў цябе са свае хаты. Выгнаў уночы, у глыбокую восень, перад самым зазімкам, калі на вуліцы гарбацела храпа і падаў ужо крупяністы, вельмі халодны, стылы снег... Выгнаў босага. Ён

разуў цябе, хоць ты і адбіваўся, драў пазногцямі, кусаў яму рукі. Ён паквапіўся на твае боты, якія сяк-так справіў табе некалі бацька... І ты адзін уночы, босы, па храпе, прыцярушанай першым сняжком, бег з горада ў вёску, бег туды, дзе служыла ў багатым доме за кухарку мама... Ты праклінаў свет, праклінаў вайну, якая выгнала з дому, забрала хату, бацьку... Калі ты расказваў пра тую ноч у полі, у цябе заўсёды на вачах блішчалі слёзы... Я помню гэта, тата, я бачыў іх, хоць ты і стараўся адвярнуцца, каб я нічога не бачыў...

Ты не замёрз тады, у тую халодную асеннюю ноч, тата,— ты выжыў. Выжыў і я. Не памёр у вайну, хоць перажыў такое, што не пажадаў бы перажыць самаму злоснаму свайму ворагу. Я ж, тата, астаўся і без цябе, і без мамы, і наогул без усіх нашых людзей — адзін, адзін. І я не толькі выжыў — я вырас, ажаніўся, пастарэў. Мне ўжо больш гадоў, чымся было табе, калі ты ішоў на вайну, калі ты расставаўся са мною. Па гадах я перажыў цябе, тата!

Я даўно ўжо сам бацька, маю таксама сына... І я расказваю яму, як некалі расказваў ты мне, што перажыў я, калі астаўся без бацькі... Ён, мой сын, праўда, яшчэ малы і амаль нічога не разумее. Але я веру — калі ён вырасце, ён запомніць усё, што расказваю яму я, як запомніў некалі ўсё я, што расказваў мне ты... Не разумее цяпер — зразумее пасля... Як я пасля зразумеў ва ўсім цябе, тата!

Я вельмі люблю свайго сына. Няўжо і ты так любіў мяне? Скажы мне, тата... Не скажаш. І ніхто-ніхто не скажа. Пра гэта я магу толькі здагадвацца, магу ўяўляць... Любіў ты мяне, тата, любіў гэтак жа, як люблю я свайго сына. І я веру: калі ты ляжаў у акопе недзе на чужой зямлі сярод чужых людзей, ты заўсёды ўспамінаў нас: мяне, маці і Верачку — ты ж не ведаў, што Верачка наша памерла ў першую зіму вайны, адкуль ты мог гэта ведаць, калі нас з табою разлучыў фронт... І ўсю вайну ты думаў пра ўсіх нас, як некалі думаў пра свайго бацьку, як цяпер думаю я пра цябе — як пра жывых. Так лягчэй, тата!

Не-не дый успамінаю я той дзень, калі ты пакідаў нас, ідучы на вайну. Як балюча было табе расставацца з маёю мамаю, з Верачкаю, са мною, расставацца і абяцаць нейкія гасцінцы! Хай я не зусім ведаў, што

такое вайна. А ты ж то добра ўсё ведаў — у цябе ж самога вайна забрала дамоўку і бацьку... Ты ведаў, куды ідзеш і што з табою можа быць, ты ведаў, што можаш ніколі-ніколі ўжо не ўбачыць ні мамы, ні Верачкі, ні мяне... Страшна робіцца мне, калі іноды падумаю: а раптам і мне давядзецца гэтак жа расставацца са сваёю жонкаю, дачкою, сынам, як некалі расставаўся з усімі намі ты... А гэта ж можа быць кожны дзень — вайна ж зноў вісіць над светам, і гэты раз яшчэ страшнейшая... Кожная вайна бывае страшнейшая за тую, што была. Помніш, ты гэта неаднойчы гаварыў мне, тата? Але гэтая... Гэтая... Я нават не знаходжу слоў, каб сказаць, якая будзе вайна гэтая, новая... Іх знойдзе, пэўна, той, хто яе перажыве... Калі, вядома, будзе такі... Вось якая вайна навісла над намі, тата!

Ты вырас сіратою, без бацькі...

Я вырас таксама сіратою, ужо не толькі без бацькі, але і без маці...

Скажы мне, тата, што чакае майго сына? Скажы як мужчыну мужчына, як салдату салдат, як сыну бацька. Я павінен ведаць гэта, тата! Я не магу жыць увесь век свой у невядомасці, не магу чакаць штодзень, штохвіліну, што вось-вось зноў пачнецца тое страшнае, пра што я нават баюся цяпер думаць... Скажы, скажы мне, тата, толькі праўду скажы, якая б жахлівая яна ні была!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дваццаць год я не быў дома, у сваёй роднай вёсцы... Дваццаць доўгіх мірных год, што прайшлі, праляцелі, як адзін дзень, у добрым турботлівым клопаце, у рабоце — усе мы сеялі, будавалі, вучыліся, кахалі, жаніліся, раджалі... І ўспаміналі... Успаміналі тых, каго няма з намі, каго забрала ад нас вайна...

І вось я зноў у Рудні. Іду па шырокай, абсаджанай па абодва бакі купчастымі таполямі вясковай вуліцы, міма невысокіх дашчаных плоцікаў, за якімі жаўцеюць смалістымі сценамі, свецяцца шырокімі светлымі вокнамі дамы,— і не пазнаю свае роднае вёскі. Няўжо гэта тая вёска, што была тут некалі і якую спалілі немцы? Не, вёска не тая, толькі назва тая. Вёска другая, новая, незнаёмая. І людзі, што сустракаюцца мне на вуліцы, таксама ўсе новыя, незнаёмыя...

Я спыняю белагаловую дзяўчынку, што некуды бяжыць подскакам з парожняй берасцянай кузенькай, і пытаюся, ці не ведае часам яна, дзе жыве дзядзька Яўмен.

— Дзед Яўмен? — перапытвае дзяўчынка.

— Ну але, дзед Яўмен,— папраўляюся я.

— Вуня там, у тым доме,— паказвае яна на хату, што патанае ўся ў зеляніне саду, відна толькі накрытая бляхай чырвоная страха. Я кіруюся, іду да той хаты, на якую паказала мне рукою дзяўчынка, і толькі цяпер пазнаю, што хата гэтая вельмі падобная на тую хату, што была ў дзядзькі Яўмена і да вайны,— такія ж шырокія светлыя вокны, такі ж высокі, пафарбаваны ў зялёны колер ганак, такія ж белыя, выразаныя аканіцы... І раскошныя кусты бэзу, чаромхі пад вокнамі таксама, здаецца, такія ж, як былі і некалі...

Я адчыняю весніцы, заходжу ў двор. На прызбе, абкіданы ўвесь стружкамі, сядзіць палыселы, сівы чалавек — твар яго чыста паголены, на плячах белая крамная кашуля. Чалавек стругае стаўпец — майструе граблі.

— Дзень добры, дзядзька Яўмен! — кажу я і падаю яму руку.

— Добры дзень,— устае з прызбы дзядзька Яўмен, цісне мне руку і глядзіць, глядзіць на мяне, нібы бачыць упершыню.

Ды ён, пяйнакш, не пазнае мяне!

— Ды гэта ж я, Ясь! — кажу я і смяюся.— Помніце, Міхалёў Ясь, што ацалеў некалі, не згарэў у школе...

— Божа мой! — ускліквае дзядзька.— Няўжо і праўда гэта ты? Ды ўжо ж, пэўна, што ты,— праз хвіліну дадае ён.— Цяпер толькі бачу, што на бацьку свайго, Міхаля, вельмі падобны... І крошачкі ў яго, здаецца, пабраў... Акурат ён такі быў, як мы апошні раз бачыліся... Ага, дзе ж гэта было? А-а, успомніў!.. На пераправе... У Лоеве... Нас тады вельмі бамбілі былі, многа-многа тады нашых там палегла... Ну, не вярнуўся ён? — пытае дзядзька Яўмен у мяне.

— Не, не вярнуўся...— кажу я і бачу, як сум чорным ценем кладзецца дзядзьку на твар.

— Ды ўжо ж,— праз хвіліну суровее дзядзька.— Хіба ў аднаго ў цябе не вярнуўся?.. Што зробіш, вай-

на! — Нейкі час ён маўчыць, потым раптам нібы спахапляецца: — Ды што ж гэта я... Праходзь, праходзь у хату, а то мы пасталі пасярод двара і гаворым... Праўда, я адзін дома. Жонка мая, Варка, недзе ў лес пайшла з дзецьмі, па ягады... А я сяджу вось, граблі раблю... А ты ж хаця ажаніўся, дзяцей маеш? — пытаецца дзядзька ў мяне.

— Ажаніўся,— кажу я,— і дзяцей маю. Двое — дачушку і сынка.

— Вы, гарадскія, усе вельмі ашчадныя, баіцёся многа дзяцей...— круціць галавою дзядзька.— А ў мяне чэцвера... Лідка, Мішка, Петрусёк, Хведзька... Ды што гэта я зноў? Хадзем, хадзем у хату, там і расказваць будзем пра ўсё, успамінаць...

У хаце дзядзька Яўмен збірае на стол, збірае па-мужчынску, на скорую руку — ставіць вялікую палівавую міску гуркоў, якія, відно, толькі што намоклі ў расоле, рэжа па-вясковаму тоўстымі скрылямі сала, кроіць хлеб... Потым аднекуль з сенцаў прыносіць запацелае паўлітэрка. Смяецца:

— Свая. Да гарадской ніяк прывыкнуць не можам...

— Самі гоніце? — пытаюся я.

— Як калі,— шчыра прызнаецца дзядзька.— Калі гонім, а то другі раз і купіш які паўбутэлек... Гэта свая, надоечы выгнаў... Хай у хаце будзе... Мала што можа надарыцца... І госць, і чалавек які з райвону...— налі-ваючы шклянкі, кажа дзядзька Яўмен.

— А вы што, хіба ўсё яшчэ на рабоце?

— А чаму ж не. Лесніком я. На тым самым сваім даўнім абходзе... Трэба... Дзеці ж зусім малыя...— раз-водзіць ён рукамі.— Ну, будзем, каб не па апошняй даў бог.— І дзядзька падымае шклянку.

Мы чокаемся, выпіваем як не да дна. Цяпер, пасля гарэлкі, размова ў нас ідзе куды шпарчэй, весялей.

— Дзядзька Яўмен,— пытаю я,— скажыце, адкуль столькі людзей набралася? Вёска ж зноў уся заселена... Як і была...

— Абы зямля, а людзі знойдуцца,— смяецца дзядзька.— З міру па нітцы, а беднаму сарочка... Нешта падобнае і ў нас выйшла... То з Сібіру прыехалі, ведаеш, высылка некалі была, то іх выслалі... То з дру-

гіх сёл сёй-той перабраўся... То з выгнання вярнуліся... А то Сахронавы, Паўлініны дзеці параслі, пажаніліся, прымакоў пабралі... Вось і новая вёска.

— А Сахрон, Агапа, Паўліна дзе?

— Агапа памерла... Нешта вельмі хутка пасля таго, як ты паехаў. Так і не прыйшла да свае памяці, не садпусціла яе, бедную, да апошняга дня... Памёр і Сахрон... Не мог ён без работы... Бывала, прыйду, сядзіць на падворку ды ўсё ныдзьвее і ныдзьвее: «Як так жыць, лепей саўсім не жыць...» Спачатку стараўся, хлопцам сваім паказваў, вучыў, каб умелі ўсё рабіць... А навучыў хлопцаў — і рабіць чалавеку нямашака чаго — памёр,— з сумам выдыхнуў дзядзька.— А Паўліна жыве... Жылаватая баба... Дзяцей усіх пагадавала, пажаніла, замуж пааддавала... Цяпер у горад пераехала, да сына свайго, Петрыка. Ён, кажуць, вялікім чалавекам стаў, музы́ка... У ціятры грае на нейкім струманце — ні то на піяніне, ні то на аркане...

— На аргане,— папраўляю я дзядзьку.

— Можа і на аргане, хто яго там ведае... Толькі, кажуць, вялікі ён чалавек... Я сам слухаў разоў колькі, як па радзіву музыку яго перадавалі... Умее граць, нічога не скажаш... Слёзы з вачэй так і сыплюцца, як зайграе... Ды пастой, пастой...— раптам, нібы нешта ўспомніўшы, замахаў на мяне рукамі дзядзька.— А то зноў забудуся... Я ж так і не распытаў у цябе, што ты бачыў у сяле, калі немцы яго спалілі, калі ты адзін недзе тут бадзяўся... Не да таго тады было... А ты ж, кажуць, мальне не ўсё лета жыў тут?..

Я расказваю, што бачыў, што перажыў тады, у тое лета, як спалілі немцы нашую вёску і я астаўся адзін... Не забываюся, між іншым, памянуць пра забітых немцаў, на якіх я быў напароўся ля той лавачкі, што зрабіў некалі ў лесе сам дзядзька Яўмен; успамінаю Аўхіма, яго пограб, Гуртавенку, што прыязджаў у спаленую вёску і лазіў па людскіх пагрябах — шукаў там сала і адзежы...

— Немцаў мы закапалі...— калі скончыў я гаварыць, пачаў зноў расказваць свае навіны дзядзька Яўмен.— Вядома, толькі косці іхнія... Між іншым, ты ведаеш, куды яны, аказваецца, на машынах ехалі?

— Не, не ведаю.

— Бой па той бок Віці за Замошкамі быў. Парты-

заны з рэйду вярталіся і на карнікаў наскочылі. Зноў гады, кіраваліся вёскі паліць...

— То немцы, мусіць, і спяшаліся на машынах, каб сваім памагчы...

— Во, во! Толькі позна было ўжо, ад карнікаў адны мэтлахі асталіся. Сотні тры іх там палажылі...

— Казаў мне дзед адзін, якога я тады на Гудагаевай паляне сустрэў, што не спалілі б нас немцы, каб партызаны ў рэйд далёкі не пайшлі... Быццам партызанам трэба было нейкія аб'екты ўзяць, немцаў адтуль выбіць...

— Мажа быць. Усё мажа быць...

Дзядзька Яўмен памаўчаў.

— А лавачку я новую зрабіў,— нібыта нешта вельмі важнае паведаміў ён мне раптам.— Трошкі далей ад таго месца, дзе раней была... Бліжэй да Замошак. Да слова, яны разрасліся, сталі яшчэ большыя, чымся былі... Там вялікі цяпер торфзавод, дамы цагляныя.. І кажуць,— дзядзька нахіляецца да майго вуха і ледзь не шэпча, хоць у хаце мы толькі ўдвух і ніхто, відома, нас не чуе,— там быццам нафту знайшлі... Але чаго не знаю, таго не знаю... Вышак, праўда, панаставілялі вакол вёскі багата, гэта я сам бачыў... А што нафту знайшлі, ад людзей чуў...

Дзядзька Яўмен хвіліну-другую маўчыць, потым хмурнее.

— Ты вось нібыта шкадуючы пра Аўхіма гаварыў...— павяртаецца ён тварам да мяне.— Як ён на грушы вісеў, як гніў, як яго чэрві елі... А таго не ведаеш, што гэта праз яго, гада, можна сказаць, сяло наша згарэла... Не хто іншы, а ён даносіў немцам, што сюды ноч у ноч партызаны ходзяць, што тут яны і начуюць і яду сабе бяруць. Вось немцы і спейкалі сяло... І хіба толькі наша... Аўхіма, бачыш, не ўкінулі ў агонь, пашкадавалі... А сям'ю яго — жонку і трое дзяцей — спалілі... Дазвалялі, праўда, і жонцы яго і дзецям выйсці з гурту, не ісці разам з усімі ў школу... Ды яны, кажуць, адмовіліся самі ад гэтакай ласкі — ці то яны не ведалі, што немцы рабіць з людзьмі збіраюцца, ці то не хацелі з чалавекам такім жыць, адцураліся яго... Аўхім толькі адзін і астаўся... Вось ён і шляўся, валачыўся тут... Відаць, паглядзеў, што натварылі немцы, і сумленне яго загрызла. Павесіўся... Добра, што ты

сказаў пра гэта. А я думаў, што і ён недзе па свеце туляецца, як некаторыя...

— Хто? — падняў я на дзядзьку вочы.— Можа Гуртавенка?..

— А то хто ж яшчэ... Ён,— гнеўна стукнуў кулаком па стале дзядзька.— Надоечы, кажуць, пісьмо на сельсавет прыслаў, пытае, ці жывы хто з Рудні астаўся... Аж у Канаду, гад, трапіў... А Аўхім, кажаш, павесіўся...— нібыта ўсё не даваў веры таму, што пачуў, дзядзька Яўмен.— Я і ведаў, што ён тым кончыць... Сабаку сабачая смерць... Тады здуру не прыстрэліў я яго, як ён з Лоева, з пераправы ўцякаць сабраўся... Наляцелі на нас самалёты, ведаеш сам, паніка... Ён падпоўз да мяне: «Уцякайма дадому, Яўмен, а то заб'юць!.. Якая вайна, калі ў яго,— немца, значыцца,— самалёты, танкі, аруддзі... З чым на яго пойдзеш, з голымі рукамі?..» Я, вядома, нікому пра гэта не сказаў... А пастроіліся мы пасля бамбёжкі, пачалі пераклічку рабіць — Аўхіма няма... Эх,— пашкадаваў дзядзька,— не прыстрэліў я яго тады, гада... Можа б і не здарылася таго тутака, можа б сяло, людзі цэлыя былі... Вось што значыць пашкадаваць каго не трэба!.. Кажаш, норы з хаты ў пограб папракопваў, а з пограба да калодзежа, за хлеў... Думаў, што калі ў зямлю закапаецца, дык смерць яго там не дастане... Смерці вельмі баяўся... З-за боязі, пэўне, і данёс на сяло... Як жа, маўляў, так: стараста — і не папярэдзіў!.. Ды ён і старастам стаў з-за боязі, бо адмовіцца волі не хапіла, як ставілі... Падумаў, застрэляць, калі адмовіцца... У, падлюга!.. Людзей на смерць прадаваў, а сам жыць збіраўся!..

Дзядзька Яўмен наліў зноў ледзь не па поўнай і, не чакаючы, калі я падыму шклянку, выпіў.

— Сход у нас нядаўна быў,— цягнуў ён глухім, нейкім грудным басам.— Пісьмо вялікае пісалі, каб немцаў тых судзілі, што сёлы нашыя тутака палілі. Жывуць, аказваецца, яны. І не толькі жывуць — у Нямеччыне Заходняй начальнікі яны... Тамака, на сходзе тым, і пра Аўхіма ўспаміналі, і пра Гуртавенку... Ці будзе толк які з таго пісьма, ці не, а напісалі... Хай знаюць у свеце, што за людзі ў той Нямеччыне Заходняй сабраліся...

— А вы як жывяце? — бачачы, што дзядзька

Яўмен вельмі хвалюецца і пачынае раз-пораз стукаць кулаком па стале, пераводжу я гаворку на іншае.

— Эт, сын, жыву, дзе ж я дзенуся... Жывы ў зямлю не палезеш, як казала некалі Паўліна.— Дзядзька слаба ўсміхнуўся.— Жонка, праўда, трапілася мне і цяпер добрая, рабацяшчая... З Пакрашоў. Наняла была яна мяне, каб я хату ёй зрубіў. Згарэла ў вайну яе хата... Праз чалавека — ён у партызанах быў... Ну, пакуль я хату рабіў, да маладзіцы прыгледзеўся... Чалавек яе з партызанаў так і не вярнуўся, з адным хлопчыкам малым асталася, Валодзькам... Маладзіца на вока мне ўпала, дый я ёй, скажу табе, да душы прыйшоўся... Кончыў хату, а ісці нікуды і не хочацца... «Аставайся,— кажа Варка,— у мяне, куды ты пойдзеш... І я да цябе прывыкла, і сынок мой прывык...» Я і астаўся... Потым хату перавёз тую сюды, у Рудню... Так і жывем... Валодзька вырас, у інстытуце цяпер вучыцца... У тым годзе ўжо інжынерам будзе, па машынах гэтых, што на полі робяць... Ну, а Варка мне яшчэ чэцвера дзяцей нарадзіла... Жыву, ні на што не скарджуся... Усё як бы тое, што і было ў мяне некалі і што вайна ў мяне забрала... Тое і не тое... Нічога, мусіць, не паўтараецца ў жыцці двойчы. Як дрэва, што, бывае, знячэўку зломіш... Парастак пусціць, але гэта ўжо не тое дрэва, што было. І яблык на ім ці груша вырасце — смак не той, што быў. Вось так яно, мусіць, і ў жыцці нашым... Не выходзіць, скажу я табе, з галавы ў мяне тая жытка, што да вайны была, як я з Аленай сваёй, Лявонкам, Наташкай жыў. Пасварышся другі раз — сам у сям'і жывеш, ведаеш, як гэта бывае... Выйдзеш з хаты, дзвярыма грукнеш, а думка так і ляціць — з Аленай такога б не было... Можа б яно і горшае яшчэ з Аленай было. Але гэта «можа б»... Так вось і жыву... І Варка мая, бачу, таксама пра чалавека свайго ранейшага, Кастуся, часта ўспамінае, не забываецца на яго... Толькі што не прызнаецца мне. Іду па лесе, да магілы Кастусёвай завярну. Ён у лесе, тут, непадалёку ад сяла нашага, пахаваны... Прыбрана магілка, кветачкі на ёй растуць. Ведаю, Варка гэта зрабіла... Ды я і не вінавачу яе ні ў чым, ні ў чым не папракаю. Першае каханне, першае дзіця, усё першае... І ты, нябось, таксама часта бацьку, маці сваю ўспамінаеш?..

— Часта,— прызнаюся я.

— Вось бачыш... Што ж я скажу табе, сын... Хай новыя людзі, тыя, што нарадзіліся, што вайны не бачылі, жывуць. Мы ж будзем дажываць век свой... Бо мы — з той вёскі, са старой нашай Рудні. І думкі нашыя з тымі людзьмі, што раней у Рудні жылі, што ў школе згарэлі... Іду другі раз я па вуліцы, задумаюся і не заўважу, як у свой даўні двор збочу... На маім селішчы цяпер Каця Паўлініна са сваім прымаком жыве, а я сабе хату трошкі далей ад таго селішча паставіў... Нічым і не пазнаеш цяпер, дзе тое маё старое селішча, нізвання ад яго не асталося... Толькі ногі мае і пазнаюць... Як задумаюся, так яны і збочаць з вуліцы там, дзе я заўсёды да вайны ў двор свой зварачаў. Гэта некалі Сахрон мне прызнаваўся, што ў яго часта рукі свярбяць, хочацца як бы далонь аб далонь пацерці, напляваць, каб не сохлі. А падымеш, кажа, рукі — далоняў жа нямашака... Я не верыў тады яму... А цяпер веру — праўду Сахрон казаў... Ды не сядзі ты, еш, хоць што,— зноў павярнуўся да мяне дзядзька Яўмен.— Закуска ў мяне неважнецкая, але пачакай, жонка хутка з дзецьмі з лесу прыйдзе, абед з печы падасць... Пасядзі, пагамонім... Спяшацца ж табе няма куды. На жонку маю, дзяцей паглядзіш. Толькі,— дзядзька прыцішыў голас,— ні слова ім пра тое, пра што мы з табою гаварылі... Гэта, так сказаць, няхай будзе нашая, мужчынская гаворка. Гаворка двух старых руднянцаў... Апошніх... З мужчын толькі ўдвух мы з табою, здаецца, і асталіся...

— А Гуртавенка?

— Далёка ён адсюль... Ды куды лепей было б, каб яго і зусім зямля на сабе не насіла... Поскудзь... Але, скажы ты, вайну такую прайшоў, на другі канец свету перабраўся, а цэлы, жывы, ні куля яго ніякая не зачапіла, ні бомба...

— Такіх не зачэпіць... Такія доўга жывуць...

— Твая праўда. Вайна харошых людзей забірае, поскудзь жа ўсякая выжывае... Але ад смерці нідзе не схаваешся... Ні ў зямлі, як Аўхім, ні ў Канадзе... Яна, кашчавая, як прыйдзе да чалавека, то ад яе ўжо не ўвільнеш... Дудкі! Ды смерць — гэта драбяза. Галоўнае — пражыць так, каб зла ніякага людзям не нарабіць... А Гуртавенка аб сабе чорную памяць пакінуў,

нядобрую памяць... Нас з табою на свеце не будзе, а памяць гэтая будзе жыць... Не забудзецца! Ніколі не забудзецца!..

Пасля абеду, пабачыўшы Яўменаву жонку і дзяцей, пагаманіўшы з імі аб сім-тым, я пайшоў зноў блукаць па вясковай вуліцы — мне карцела адшукаць даўняе нашае селішча, зайсці ў двор, як заходзіў я неадночы, бывала, сесці дзе-небудзь пад ліпаю ці яблыняю, сцішыцца і пад аднастайны, манатонны пошум лісця яшчэ раз успомніць усю нашую сям'ю — маму, бацьку, Верку, Людку, дзеда, цётку Лісавету, прыгадаць, як жылі мы тут, на гэтым селішчы, некалі ўсе разам, як снедалі, абедалі, вячэралі, як смяяліся, сварыліся, пра што гаварылі... Мне хацелася хоць на хвілінку апынуцца сярод усяго таго, дзе прайшло маё маленства, пабыць сам-насам з усімі нашымі, хоць у думках, пачуць іх галасы, убачыць іхнія твары, вочы — у мяне ж нават картачкі нікога са сваіх не асталося, усё з'еў, праглынуў ненажэра-агонь...

Я прайшоў па вёсцы і раз, і другі, але селішча свайго так і не пазнаў, не знайшоў. Не было нідзе тых дзвюх старых разложыстых яблынь, што вытыркаліся голлем аж на вуліцу, за плот, не відаць было нідзе і ліпы, па якой я заўсёды пазнаваў калісь, як бы далёка ні адышоўся ад дому, дзе стаіць наша хата...

«Дзе падзелася ліпа? Спіліў яе хто ці, можа, павάліла, зламала бура?..»

Толькі за трэцім разам я спыніўся наўпроці таго месца, дзе, як мне падалося, павінна было быць нашае селішча, і нейкі час стаяў, глядзеў на вельмі зграбны, ашаляваны з усіх бакоў дошкамі, пафарбаваны ў жоўта-смалісты колер дамок, што хаваўся ў зеляніне саду трохі наводдаль ад вуліцы, за невысокім, густым штыкетнікам,— там нехта жыў, там нараджалася другая казка нечага шчаслівага маленства...

Хвіліну-другую я вагаўся — заходзіць мне ў гэты новы, шчыльна абгароджаны штыкетнікам двор, спытацца, ці не тут гэта, на гэтым вось месцы, некалі было селішча Міхаля Панявежы, ці не тут гэта стаяла яго хата,— потым раптам рашуча павярнуўся і пайшоў прэч, далей ад гэтага чужога мне двара. Навошта турбаваць людзей, навошта, каб яны ведалі, што тут не-

калі жыла другая сям'я, што ад усяе тае сям'і астаўся адзін толькі я... Навошта засмучаць іх зноў згадкаю пра вайну?.. Хай жывуць сабе, як і жылі, хай нішто ім ніколі не напамінае пра тых, чыё жыццё і лёс скалечыла, зглуміла вайна... Можа гэтай новай сям'і пашанцуе трохі болей, чымся шанцавала майму бацьку, маці, мне, усёй нашай сям'і... Можа іхняя жыццёвая зорка будзе шчаслівейшая за нашую... Хай жывуць сабе людзі!..

Потым я блукаў па полі, па лузе, па лесе... І зноў нідзе нічога не пазнаваў. Не было ўжо таго ўзлеску, дзе я, выбегшы на поле, пачуў стрэлы і адкуль, трохі спагадзя, убачыў, як дыміла, гарэла падпаленая немцамі нашая вёска,— там, дзе быў узлесак, цяпер было поле: на ім буяў каласісты вусаты ячмень. Поле было і на былой Гудагаевай паляне, дзе я, калі астаўся адзін і нейк ухітрыўся забіць курыцу, падпаліў сухі дуб, каб не зводзіўся доўга агонь, і дзе я аднойчы напаткаў цыганоў і дзівака-немца, што кінуў фронт і браўся дадому, аж у Нямеччыну... Роўнае, чыстае поле было і на лузе, дзе мы кідалі з бацькам стагі, на тых балотах, куды хадзілі з маткаю па журавіны, буякі... Усё было асушана, расцярэблена, раскарчавана, пабіта на роўныя загоны... І на іх, гэтых загонах, зелянелі, раслі, аж ірвалі зямлю, проса, бульба, лён, каноплі, буракі...

Не было і таго дубка, дзе я ледзь не напароўся на двух немцаў і на якім я так часта гушкаўся пасля ў галлі, не было і лазы, крушынніку, што гусцелі ў канцы нашых сотак. Высах і ручаёк у Шапчынскім бары, ля якога я так любіў сядзець, калі мне было невыносна сумна... Не было і самога старога, пракаветнага Шапчынскага бору, толькі хіба адна назва ад яго і асталася. Там, дзе быў ён,— дзялянка на дзялянцы, пні... Ды яшчэ маладняк, што ўсюды лезе, цягнецца ўгору...

Не дзіва — мінула дваццаць год. Дваццаць доўгіх мірных клопатных год, што прайшлі, праляцелі, як адзін дзень.

Новыя гаспадары зямлі наводзілі на ёй і новыя, свае парадкі...

---

А я ўсё думаю і думаю: «Што было б, калі б не прыйшлі на нашую зямлю немцы, калі б яны не спапялілі нашае вёскі, не спалілі маёй мамы, не забілі на фронце бацькі, не палілі, не забівалі ўсіх тых людзей, каго я ведаў і каго не ведаў?.. Як бы тады склаўся мой лёс, лёс усіх дзяцей, што асталіся, як я, сіротамі, лёс усіх людзей, што звяла, палажыла раней часу ў магілы вайна? Як бы выглядала цяпер нашая вёска, як бы выглядала ўся нашая зямля?.. Што б наогул было, калі б не было вайны?.. Не толькі гэтай, а ўсіх-усіх войнаў, што бачыў ужо і яшчэ пабачыць свет?..»

Вядома, усяго гэтага нават уявіць нельга... Але чаму б другі раз і не падумаць пра такое, тым болей што ўсё, што робіцца паміж дзяржавамі, урадамі, людзьмі, залежыць не ад каго-небудзь, а ад людзей... Нават тыя ж самыя войны...

---

Увечары я ляжаў на капніку сена ў Яўменавым двары і глядзеў на неба — яно было такое ж цёмна-сіняе, высокае і такое ж недасяжнае, як і некалі, даўным-даўно, калі быў я малы, жыў вось тут, у вёсцы, у сям'і, з маткаю, бацькам, Веркаю, дзедам, цёткай Лісаветаю; яно было такое ж самае, як і ў тыя ночы, калі немцы спалілі нашую вёску і я, астаўшыся адзін, блукаў па папялішчах, нідзе не знаходзячы сабе прытулку; яно было, магчыма, нават такое ж самае, як і ў тыя ночы, калі наогул мяне не было на свеце... Такія ж самыя былі і зоры — буйныя, міргатлівыя, як слёзы, і маленькія, дробненькія, як макавыя зярняткі, як пылінкі!.. Свяціце ж, міргайце, зоры, новай Рудні, новым лугам, палям, лясам, новым хатам і новым людзям, што тут пасяліліся і жывуць! Будзь жа і ты, неба, заўсёды такое высокае і чыстае, як сёння! Хай ніколі-ніколі больш не ўздымецца да цябе слуп агню і дыму — страшны слуп пажару, разбурэння і людскога гора, хай ніколі-ніколі не хмарыць цябе зноў вайна!..

З хаты выйшаў дзядзька Яўмен. Ціха, амаль нячутна стаў ля капніка.

— Можа б спаць ішоў,— сказаў ён да мяне.— Там жонка паслала ўжо...

— Ат, дзядзька, не крыўдуйце, але не пайду я ў хату... Лепей тут пераначую, на сене...— папрасіўся

я.— Падумаць хочацца, успомніць... Я ж не ляжаў вось так, пад гэтым небам, дваццаць год!..

Дзядзька доўга нічога не адказваў. Потым сказаў, нібы ўздыхнуў:

— Глядзі сам... Толькі ў хаце яно, можа б, спрытней было... Хаця...— Ён памаўчаў.— Я таксама, відаць, сёння не засну... Такое са мною часта бывае... Лягу, вочы калком стануць, успамінаць пачну даўняе, як жылося тады... Так ноч і праляціць...

Памаўчаў, зноў пра нешта падумаў.

— Ну, як табе поле, лес, луг... Спадабаліся?

— Гэта не наша ўсё. Не маё,— удакладніў я.— Я не пазнаваў нідзе нічога... Я прывык да таго, што было...

— І я таксама...— задуменна паківаў галавою дзядзька.— Гэтае ж, што ёсць,— гэта тых людзей, што нарадзіліся тут нядаўна, што прыехалі сюды жыць... Усё-ўсё тутака іхняе... Нашае ж згарэла, адышло з вайною... І мы — людзі той, старой Рудні... І ўсё нашае там, у той вёсцы, з тымі людзьмі... Так вось яно, так... І нішто-нішто не можа заглушыць нашага суму, нашага болю па тым, што было і што адабрала ў нас вайна... Ні час, ні новыя людзі, якія б добрыя яны ні былі...— Дзядзька Яўмен цяжка-цяжка засоп, паглядзеў на неба...— Ну, ды ладна, не буду табе надакучаць, пайду і я ў пасцель...

Ён ступіў крок, яшчэ крок да хаты, потым раптам зноў павярнуўся да мяне.

— Можа б і праўда ты са мною ў хату пайшоў, га? — сказаў ён неяк глуха.— Нешта парыць, хаця б дажджу не нацягнула...

— Не, дажджу не нацягне,— супакоіў я дзядзьку.— А хоць і нацягне — не цукар, не растану...

— Ну, то дабранач табе!

— Дабранач!..

Я чуў, як паволі аддаляюцца і заціхаюць дзядзькавы крокі. Вось нямоцна, суха грукнулі сенечныя дзверы, скрыпнула масніцына, скрыгітнуў язычок клямкі, і ўсё змоўкла — стала ціха-ціха, так ціха, як гэта бывае толькі ў ліпені, у цёплыя, трошкі нават парныя ночы. Нідзе ніякага шолаху, нідзе ні гуку. Усё спіць. Толькі аднекуль, з другога канца вёскі, адтуль, дзе калгасны клуб, усё яшчэ чуюцца скрухлівыя ўздыхі

гармоніка і льецца, струменіць лёгкі, як дзявочы сум, голас:

Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак...

І я, лежачы на капніку духмянага, шапаткога мурагу, раптам так жыва ўявіў тую, далёкую, такую ж вось ціхую, парную ноч канца ліпеня, калі мы з бацькам і маці ехалі на возе на луг па сена... Над намі тады было такое ж высокае зорнае неба, і з вёскі, недзе з таго, другога канца, таксама чуліся такія ж скрухлівыя ўздыхі гармоніка, і нечы сумны дзявочы голас выводзіў словы-чары той самай песні:

Сягоння субота,
А заўтра нядзеля.
— Чаму ў цябе, хлопча,
Кашуля не бела?..

Я ляжаў тады, помню, на каленях у маці, глядзеў на неба, чуў, як гучна гупае капытамі па торнай палявой дарозе, цвёрдай, як ток, конь, слухаў, лавіў кожны ўздых гармоніка і той далёкі, вельмі зваблівы голас, які ўсё аддаляўся і аддаляўся, пакуль і зусім не заціх,— я заснуў...

Нешта падобнае паўтаралася са мною і сёння — я слухаў гэтую, такую мілую, знаёмую з дзяцінства песню, і голас яе ўсё аддаляўся, нібыта я плыў, нібыта я некуды зноў ехаў на той самай падводзе, з бацькам і маткаю... Помню, яшчэ я падумаў, што, можа, і цяпер вось, у гэтую ноч, едзе нехта са сваім бацькам і маці на возе на луг па сена, як некалі ехаў я, ляжыць у маці на каленях, глядзіць на неба, чуе, як гупае па торнай палявой дарозе капытамі конь, і слухае тую ж самую, што і я, песню... І таксама засынае...

Гэтая думка была апошняя ў маёй галаве ў той дзень. Я заснуў. Заснуў моцным, спакойным сном, заснуў так, як не засынаў ужо больш за дваццаць год, як засынаў толькі некалі, даўным-даўно, у далёкім-далёкім, як казка, маленстве...

Назаўтра, ураниі, я паехаў з вёскі, паехаў назад, у горад...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тыдняў колькі таму назад я наведаўся зноў у Рудню. Там, на месцы колішняй нашай школы, у якой я вучыўся і дзе немцы спалілі ў вайну маю маці, усіх-усіх нашых людзей, каго толькі захапілі ў той страшны чэрвеньскі ранак дома, і дзе мы — дзядзька Яўмен, дзядзька Сахрон, цётка Паўліна, цётка Поля, цётка Агапа, Каця, Петрык, Юрка, Змітрок, Томачка і я — пасля вызвалення збіралі абгарэлыя людскія косці і чарапы і закопвалі іх у зямлю,— цяпер адкрывалі помнік, помнік ахвярам вайны, што загінулі ў нямецка-фашысцкую акупацыю ў нашай вёсцы...

Ля школы — суцэльнага роўнага загону кветак, абгароджанага і абсаджанага паабапал кустамі акацыі і маладымі купчастымі ліпкамі,— сабраліся ўсе людзі не толькі з нашай новай Рудні, але папрыходзілі і з Замошак, з Курава, з Загалля, з Доўгага Моху, з Жмураўкі, з Бабровага, з Халопічаў, з Барсукоў, з іншых бліжэйшых ад нашага сяла вёсак. Прыехала і начальства з раёна — Пятро Анісімавіч, муж цёткі Лісаветы, цяпер сакратар райкома, іншыя кіраўнікі — былыя партызанскія камандзіры, партызаны, салдаты... Былі на адкрыцці помніка, вядома, і мы — апошнія жыхары старой і першыя жыхары новай Рудні — дзядзька Яўмен, цётка Паўліна, цётка Поля, Каця, Петрык, Міша, Галя, Надзя, Змітрок, Юрка, Томачка, я... Не было толькі дваіх — цёткі Агапы і дзядзькі Сахрона. Але яны былі таксама з намі — іх пахавалі, як і прасіў Сахрон, тут жа, ля школы...

Многія выступалі, гаварылі вельмі добрыя, прачулыя словы, расказвалі пра тыя поспехі, якіх дасягнулі руднянцы і ўвогуле ўвесь раён за апошнія гады мірнай, стваральнай працы, успаміналі вайну... Выступаў на тым мітынгу і я...

Мне, як і ўсім, хто выступаў перада мною і пасля мяне, доўга, гучна пляскалі ў далоні. А я, прызнаюся, стаяў і думаў: хай ніколі-ніколі нікому з вас, хто так гучна пляскае ў далоні, не давядзецца перажыць таго, што перажыў я, што перажыла ўся наша вёска, што перажыў кожны, каму выпала доля нарадзіцца трыццаць — сорак год таму назад... Хай ніколі-ніколі ніхто з вас не ведае, што такое вайна...

О, згінь, прападзі і ніколі-ніколі не прыходзь ты, страшылішча, на нашую зямлю!

Не сіраці больш дзяцей, не палі вёсак, не забівай людзей!

Багна, праглыні таго, хто будзе зноў кіравацца сюды ваявацы!

Сонца, асляпі яго на пачатку дарогі, зрабі так, каб ён не знайшоў не толькі як дапасці да нас, але не змог і вярнуцца дадому!

Пярун, спапялі яго, не дай разгуляцца, раз'ятрыцца ягонаму гневу!

Вецер, развей, разнясі па ўсім белым свеце яго атрутны попел, закапай, засып пяском яго косці!

Вада, перамый усё ўслед за ветрам, каб нідзе не асталося ад паганца таго ні пылінкі, ні парушынкі!..

Слёзы здавілі мне горла — у людзях, што стаялі тварамі да помніка, я раптам пазнаў сваю маці, бацьку, дзеда, Верку, цётку Лісавету, цётку Агапу, дзядзьку Сахрона, Астапа Гусака... Пазнаў усіх-усіх, каго я ведаў і каго не ведаў і каго спалілі, закатавалі, забілі ў вайну немцы...

Але я стрымаўся, не заплакаў. Баяўся, што калі заплачу — разам са мною могуць заплакаць і ўсе. Так, як тады, калі мы збіралі абгарэлыя людскія чарапы і косці, услед за дзядзькам Яўменам заплакалі цётка Паўліна, цётка Поля, Петрык, Каця, Томачка, Змітрок, Юрка...

Слязьмі гору не паможаш. З вайною трэба змагацца, пакуль яна не пачалася. Бо калі пачнецца, змагацца з ёю будзе па часе. Змаганне тады так ці інакш прывядзе да такіх ахвяр, на магіле якіх мы цяпер вось адкрываем помнік...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я хацеў бы, каб гэта быў сон. Але гэта не сон. Не, не сон. Гэта — праўда.

*1966 г.*

## АКСАНА

З гадамі мяне ўсё часцей і часцей адольваюць успаміны. Іду, бывае, па лесе, гляджу на векавыя, камлістыя — у некалькі абхватаў — дубы ці на зусім маладзенькі, вясёленькі бярэзнічак, што, здаецца, проста на вачах расце, імкнецца ўгору, у неба, туды, дзе болей святла, волі і сонца,— і раптам нібыта ні з таго ні з сяго згаданая адна якая-небудзь нязначная драбяза чапляецца за другую, другая цягне за сабою трэцюю,— і вось ужо аднекуль, з глыбіні, з самага дна памяці паплыло, паплыло мінулае, перажытае. Прысяду на пянёк ці на валяшчую сухадрэвіну, стрэльбу з плячэй здыму, між каленяў ложай на зямлю яе пастаўлю,— і зноў тое ж самае. Асабліва дакучаюць, навальваюцца цяжкай нястрымнай хваляй успаміны ўвечары, калі, абхадзіўшы, абтупаўшы ледзь не кожны лапік абходу, я, стомлены і галодны, як воўк, вяртаюся дадому, у сваю леснічоўку. Іншы раз так наваляцца, так апануюць: доўгая асенняя ноч праляціць — не заўважыш... Што гэта — блізкая і такая недарэчная старасць, ці жыццё маё і праўда, нарэшце, выраўнялася, увайшло ў звычайную, будзённую каляіну, калі быццам і хвалявацца болей няма чаго, няма пра што клапаціцца, а толькі астаецца думаць, перабіраць тое, што некалі было, што ўжо даўным-даўно мінулася, але што ўсё яшчэ ніяк, ніяк не забываецца. А можа віной таму і не блізкая старасць, а гэты цягучы, адвечны, як і само жыццё, шум лесу, шум, што ніколі-ніколі не сціхае, стаіць і стаіць у вушах — ці не ён, гэты шум, і будзіць, трывожыць, калыша і калыша маю памяць, прымушае згадваць новае і новае з таго, што некалі

здаралася са мною, было... То бачу сябе маленькім, басаногім хлапчанём — ганю ўпершыню ў сваім жыцці ў лес, пад дубы, ці як у нас кажуць, «на жолуд», кароў — за плячыма ў мяне палатняная торбачка, у якой ляжыць заткнутая папяровым коркам бутэлька малака і загорнуты ў рушнічок акраец пахкага жытняга хлеба, а ў руках — доўгая-доўгая, засмоленая на канцы, вераўчатая пуга; узмахнеш ёю — ляскае, бы пярун. То іду я па вясковай вуліцы ў школу — іду паволі, паважна, як сталы вучань-старшакласнік — на нагах у мяне новенькія, яшчэ ні разу нават не мазаныя дзёгцем, чаравікі, якія аж парыпваюць, калі ступаеш на што-небудзь цвёрдае, а на плячах — чорненькі, куплены ў краме, пінжачок, які вельмі ж прыемна аблягае спіну і робіць мяне яшчэ больш дарослым, плячыстым... То бягу я, хаваючыся па захлёўю, на чарговае падпольнае заданне — мне трэба зусім непрыкметна зайсці на змярканні да свае былое школьнае настаўніцы Марыі Змітраўны, узяць у яе перапісаныя ад рукі друкарскімі літарамі зводкі Саўінфармбюро, занесці іх за пазухай у суседнюю вёску і расклеіць на сценах хат ці на дашчаных платах... То зноў і зноў сяджу я ў цёмным, забітым наглуха таварным вагоне, які — ча-чах, ча-чах, ча-чах! — вязе мяне... куды — я і сам добра не ведаю, хаця такія ж, як і я, вясковыя хлопцы, мае равеснікі, каго ўзялі ўночы разам са мною проста з пасцелі паліцаі і немцы і загналі ў вагоны, шэпчуць, пераказваюць з вуха на вуха, быццам вязуць нас не куды-небудзь, а ў Нямеччыну, каб мы там працавалі... То я, ужо ў Нямеччыне, служу на ферме ў пана: штодзень па тры разы — уранні, у абед і ўвечары — езджу ў невялічкі саксонскі гарадок Маслэбень, важу ў белых алюмініевых бітонах у магазін малако, і рыхтуюся да ўцёкаў дадому, на радзіму: не ем, а сушу кожную лусту хлеба, што даюць мне ў панскай сталоўцы, хаваю ў сцірце гарахоўніку пару новых дзеравяшак; мала таго — я ўжо выменяў на вараную бульбу і маргарын у палонных французаў, што гібелі ў лагеры, за калючым дротам, компас, ножык-складанчык і нават кавалак школьнай карты, на якім можна прачытаць назвы рэк, праз якія трэба неяк перабавіцца, перш чым я дападу да нашых беларускіх лясоў, назвы гарадоў, якія трэба абысці кружнымі дарогамі, абмі-

нуць, каб не трапіць у рукі да фашыстаў; з недакуркаў, што валяліся ўзбоч шашы, я навылушчваў добрых дзве жмені тытуню — гэта на выпадак, калі за мною ўляжа пагоня, дык прысыпаць, прыцерушыць за сабою сляды, збіць у сабак нюх... А то — і гэта ў апошні час чамусьці найбольш, найчасцей — успамінаецца яна, Аксана...

...Тады, у тую раніцу, я вяртаўся з Маслэбеня пазней як звычайна. На тое была прычына — майстар-наглядчык Ота Штрайк, які жыў у Маслэбені і які чуць свет прыязджаў на веласіпедзе на панскую ферму і не так па абавязку службы, як па сваёй чыста нямецкай акуратнасці будзіў, успорваў нас, такіх жа, як і я, прывезеных з усіх краін Еўропы, нявольнікаў-парабкаў, з нараў, на якіх мы спалі ў сырой цаглянай прыбудоўцы, і загадваў, куды каму сёння ісці і дзе што рабіць, забыўся захапіць плашч-дажджавік, які ён прывозіў заўсёды з сабою на багажніку. Штрайк і сказаў мне, каб я, як толькі здам у магазін малако і пагружу на фурманку зноў бітоны, ужо не поўныя, а парожнія, завярнуў на хвіліну да яго дадому і ўзяў плашч. Пакуль я знайшоў у амаль незнаёмым чужым горадзе Штрайкаў дом, пакуль растлумачыў тоўстай, нібы бочка, жонцы, фрау Гундэль, хто я і што мне трэба, прайшло нямала часу. Ды я, калі гаварыць шчыра, не надта і рваўся хутчэй трапіць на ферму. Куды спяшацца?! Панскай работы — у гэтым я паспеў ужо добра пераканацца,— як ні старайся, як ні шчыруй, усё адно не пераробіш. Дый у маім становішчы галоўнае не працаваць, а рабіць выгляд, што працуеш. Зноў жа: пазней прыедзеш з Маслэбеня — менш часу астанецца да абеду, а значыць — Штрайк нікуды далёка ў поле мяне не пашле, прыдумае нейкую работу дома, на ферме. Намыеш кашоў колькі цукровых буракоў каровам, напампуеш у карыты вады, гной выкідаеш са стойлаў — глядзіш і на кухню пара ісці абедаць. А там, пасля абеду,— зноў трэба бітоны з малаком на воз стаўляць, зноў каня ўпрагаць у аглоблі, зноў ехаць у Маслэбень.

Конь — бяльматы на левае вока Карл — цюпаў памалу, ледзьве перастаўляў свае старыя, касцістыя ногі. Я не падганяў яго. Наадварот, стрымліваў, калі

ён раптам, паддаўшыся нейкаму аднаму яму вядомаму настрою, прыспешваў хаду.

— Лянк-сам, імэр лянк-сам! [1] — паўтараў я раз-пораз і яшчэ больш паслабляў лейцы.

Выехаўшы з горада, я выкіраваў Карла на ўзбочыну шашы, бліжэй да прысадзістых яблынек, якімі па абодва бакі была абсаджана дарога, і даў яму поўную волю — як хочаш, так і ідзі. Сам жа паслаў на мулкія дошкі мех — яго я накідваў сабе на галаву, калі пырскаў, імжыў дождж (а сёння, хвала богу, дажджу яшчэ не было),— лёг і ўставіўся вачыма ў неба. Гэтая звычка ляжаць і глядзець на неба ў мяне, мабыць, з маленства, з тых дзён, калі я ганяў пасвіць каровы і, бывала, гадзінамі бавіў час дзе-небудзь на капе саломы ці на стозе сена. Скубуць, хламаюць каровы траву, а ты ляжыш і глядзіш на неба, на тыя хмурыначкі-хмаркі, што час ад часу бягуць, плывуць і плывуць некуды над табою. І думаеш, думаеш, думаеш пра ўсё, што прыходзіць у галаву: пра маці, якая вельмі ж не хацела сёння ўранні будзіць, каб гнаў на пашу каровы — «ды што зробіш, трэба ж»; пра бацьку, які дзень у дзень, як толькі развідняе, спяшаецца ў лес, на дзялянку, каб, як ён кажа, «даць план і палучыць прагрэсіўку»; пра Аленку і Толіка,— ці не знойдуць, не адшукаюць яны тых груш-здаровак, што накалаціў я надоечы ля Сямёнавага стойла і якія схаваў у хляве ў сене, каб гнілі... Цяпер таксама па небе — ужо не нашым, палескім, а чужым, нямецкім,— беглі, плылі хмурыначкі-хмаркі,— плылі зусім гэтак жа, як і там, у нас дома,— паволі-паволі, адна адну даганяючы, злучаючыся і зноў разлучаючыся. Я зайздросціў хмарам. Над імі ніхто не мае ўлады, яны вольныя, куды хочуць, туды і плывуць. І ніхто іх не спыніць, ніхто не скажа — вам нельга туды, бо будзе «пуф-пуф», расстрэл, значыцца. І гэта таму, што яны — не людзі, а ўсяго толькі хмары. А я... Я — чалавек. І калі я хачу жыць, хачу, каб мяне не забілі, я павінен быць далёка ад дому, сям'і, павінен ад цямна да цямна рабіць ненавісную панскую работу, рабіць усё, што ні загадаюць. І маўчаць, нікому не скардзіцца на сваю долю, не чакаць, не думаць нават, што хоць калі нешта зме-

---

[1] Памалу, вельмі памалу!

ніцца, будзе не так, як ёсць. Ты — «паршывая славянская свіння», раб, і табе самім лёсам накавана гарбець, пакутаваць у няволі ўвесь век свой, пакуль жыць будзеш, пакуль будзеш дыхаць... «Не, дудкі! Дудкі! — не хацела згаджацца, крычала, пратэставала ўсё ва мне.— А гэтага вы не хочаце? — і я скруціў дулю.— Хай вось толькі вясна прыйдзе, пацяплее, на пагодзе стане ды зазелянее ўсё навокал. Хваробу я буду гнуць на вас спіну, выхвараеце ды вычарнееце вы ад майго хлеба. Я буду дома, на радзіме, буду там, дзе мая мама, дзе мае меншыя — Аленка і Толік... Як яны там, ці жывыя? Погалас жа ідзе — зусім азвярэлі гітлераўцы, ні вёсак, ні хат, ні людзей не пакідаюць на той зямлі, адкуль іх гоняць, адкуль яны адступаюць. Пра гэта пішуць з трывогаю — цо то бэндзе? — з дому палякам, пра гэта пытаюцца з той жа трывогаю — ой, цо то бу-дэ? —з дому ў чэхаў, славакаў. Пра гэта не-не дый напамінае ўсім нам, панскім парабкам, Ота Штрайк. «Не спадзявайцеся, што вы астанецеся жыць, вернецеся дадому,— крычыць, гарлапаніць ён, аж скача з рота пена, калі хтосьці з нас адмаўляецца што-небудзь рабіць.— Ёсць загад фюрэра — ні адна паршывая славянская свіння не павінна выжыць, дачакацца канца вайны! Усім вам рана ці позна будзе капут!»

«Пляваць мне на вашага вар'ята фюрэра і на яго загады. Я буду жыць. І жыць не дзе-небудзь, а дома, на радзіме... Вось толькі вясна хай прыйдзе!» — думаў, спрачаўся я з Ота Штрайкам, лежачы на возе і гледзячы на неба, на хмурыначкі-хмаркі, што ўсё гэтак жа, не спяшаючыся, паволі плылі і плылі некуды ўдалячынь.

Не заўважыў, як мінуў, пакінуў за сабою ззаду сады, гародзікі, што, абнесеныя густою ржаваю сеткай, цягнуліся злева паўз шашу,— сюды ў нядзельныя, вольныя дні хто на чым — на веласіпедах, матацыклах, а хто і пешкі — кіраваліся, цягнуліся папрацаваць, пакапацца ў зямлі мітуслівыя гараджане,— і выехаў у чыстае поле. У полі заўсёды дзьмула ветрам, але сёння ён быў не халодны, пранізлівы, а цёплы, ласкавы — зусім-зусім вясновы. І неяк адмыслова, таксама па-вясноваму пахла зямля. Пахла перагноем, прэллю і яшчэ нечым такім знаёмым, блізкім, мілым, што хацелася спыніцца, нікуды далей не ехаць, а стаяць вось тут і

ўдыхаць на поўныя грудзі гэты пах... Я і даў быў волю пачуццям, спыніўся, але ж трэба — акурат у гэты самы момант па шашы прамчала крытая, абцягнутая брызентам машына. Шафёр немаведама чаму даў сігнал, ды такі рэзкі, што Карл, спалохаўшыся, ад нечаканасці шарахнуўся ўбок, у раўчук. Я ледзь паспеў ухапіцца за лейцы, сяк-так вывернуў каня зноў на дарогу. І калі колы мякка, амаль нячутна зашархацелі, зноў пакаціліся па пяску і я супакоіўся, лёг, уставіўшыся вачыма ў неба, я раптам улавіў дзявочы голас, які... Не, не спяваў, а, здаецца, плакаў, галасіў на ўвесь свет:

Нащо мені чорні брови,
Нащо карі очі,
Нащо літа молодії,
Веселі, дівочі?..

Нейкі час я ляжаў, не верачы таму, што чую — няўжо гэта праўда, я не адзін тут, у Маслэбені, з нашых, савецкіх, а ёсць і яшчэ хтосьці, дзяўчына, што так хораша спявае. Я баяўся паварушыцца, нібыта ад аднаго майго неасцярожнага руху песня магла абарвацца, прапасці, знікнуць, і слухаў, слухаў, як усё гэтак жа сумна, журботна пераліваўся, звінеў, галасіў і плакаў чысты, як сляза, голас:

Літа мої молодії
Марно пропадають,
Очі плачуть, чорні брови
Од вітру линяють...

Потым я падхапіўся, выпрастаў спіну, сеў. І тады ж убачыў самую спявачку — у завязаным учубкі белым касніку, яна хадзіла з канём па полі — зграбала грабалкай у кучы збуцвелы леташні картаплянік. І спявала, вылівала і вылівала тое гора, што было ў яе на душы:

Тяжко мені сиротою,
На сім світі жити:
Свої люди — як чужії,
Ні з ким говорити...

Калі я параўняўся з дзяўчынаю, яна на хвіліну змоўкла. Стомленым, змардаваным паглядам чорных, зажураных вачэй акінула мяне і маю калымагу і, му-

сіць, нічога ні ва мне, ні ў маёй калымазе не згледзеўшы цікавага, вартага ўвагі, яшчэ ніжэй апусціла галаву, і зноў зацягнула тым жа чыстым, як сляза, голасам, які то ўзвышаўся, ляцеў вольна і лёгка, як на крылах, то раптам чамусьці ападаў, нібыта яму нечага не ставала, і песня, ад гэтага яшчэ больш тужлівая, журботная, зноў заструменілася, паплыла над полем:

Нема кому розпитати,
Чого плачуть очі;
Нема кому розказати,
Чого серце хоче...

Шчымлівы, адвечны, як адчай, сум сціснуў мне сэрца, здавіў горла. Я не вытрымаў — стаў на ўвесь рост на возе і з усёй, што толькі была ў маіх руках, сілы хвастануў Карла пугаю па крыжы.

— Но, каб ты выдах! Каб цябе, даў бог, ваўкі разарвалі! Но! — крыкнуў я па-свойму, па-беларуску.

І Карл, заўсёды лянівы, абыякавы да майго крыку, раптам напружыўся і рвануў у галоп. Выскачыў на шашу,— і панёс, панёс мяне і маю калымагу па няроўнаму, траскаму бруку: бітоны пападалі, паабарачаліся, зазвінелі, калымага закалацілася, затарабаніла. Я пашкадаваў ужо, што так не па-людску абышоўся з Карлам — яшчэ, чаго добрага, растрасе калымагу,— не абярэшся тады бяды...

Ні ў абед, ні ўвечары я не ўбачыў больш на полі дзяўчыны. Але гэта мяне ні насцярожыла, ні засмуціла. Ужо тое, што дзяўчына жыла недзе тут, у Маслэбені, зусім побач са мною, што была яна, мяркуючы па песні, якую спявала, украінка, надавала мне і маім думкам радасць, надзею. «Значыцца, я не адзін тут з нашых, савецкіх. Ёсцека і акрамя мяне яшчэ нашы людзі. І мне, можа быць, не варта спяшацца з уцёкамі, а трэба пачакаць, падшукаць сабе напарніка. Удваіх уцякаць зручней. Дый так... Калі выпадкам зловяць ці заб'юць аднаго — можа другі ацалее, дадому дойдзе... Перадасць, што і як было».

Ноч тую я амаль не спаў. Ляжаў, уставіўшыся вачыма ў столь, на сваіх шырокіх і мулкіх нарах, чуў, як пасапваюць насамі, храпуць, бы і заўсёды, ната-

міўшыся за дзень, мае напарнікі па няволі — чэхі, палякі, славакі,— а ў вушах гучала песня:

Літа мої молодії
Марно пропадають,
Очі плачуть, чорні брови
Од вітру линяють...

І на душы ў мяне было трывожна-трывожна. І думна-думна...

Мінула некалькі дзён, і я ўжо ведаў, што дзяўчыну, якая так сумавала надоечы ў полі, спявала песню, завуць Аксана, што яна сапраўды нашая, савецкая, родам, як я і меркаваў, з Украіны, «з-під самэнького Кыіва». Сюды, у Нямеччыну, яе прывезлі два гады таму назад. З таго часу яна і жыве тут, у Маслэбені, працуе на ферме фраў Эльзы. Да мінулай вясны на ферме працаваў яшчэ і палонны француз Мішэль. Але фраў Эльза яго неўзлюбіла і дамаглася, каб яго пасадзілі зноў за калючы дрот, у лагер. Хутка год, як дзяўчына мучыцца на ферме адна, робіць і жаночую і мужчынскую работу — доіць і даглядае кароў, корміць свінней, гусей, курэй, трусоў, выкідае з хлявоў гной, цягае з цэментовых ям лазовымі кашамі сілас. Акрамя таго — прыбірае, мые ў пакоях фраў Эльзы, а калі прыходзіць вясна, цяпло, то яшчэ і арэ, сее, баранує, а пасля і жне, збірае ўраджай на тым полі, што належыць сям'і арыйкі. Зрэдку, праўда, калі вялікая няўпраўка, фраў Эльза прыводзіць на сваю ферму з лагера палонных французаў, каб тыя дапамаглі Аксане. Але гэта толькі зрэдку, бо за палонных трэба плаціць маркі, а Эльза — скупеча, якіх свет не бачыў. Лепш хай на полі нешта няўбранае прападзе, чым яна будзе некаму за штосьці плаціць.

Ферма фраў Эльзы была пры самым уездзе ў Маслэбень, непадалёку ад шашы. Праязджаючы міма, іншы раз я знарок зварочваў са звыклай дарогі, і, калі дзяўчына была дома, на падворку, спыняў свайго Карла, гаварыў з Аксанаю.

— Ну, што ў цябе новага? — звычайна пачынаў я.— Як гаспадыня сёння? Добрая?

— Така добра, шчо в ложці води втопыла б!

Фрау Эльза, высокая, худая, ужо не ў маладым веку белабрысая арыйка, пачуўшы ля фермы чужы голас, выходзіла на ганак свайго асабнячка, што быў тут жа, пры ферме, па другі бок вуліцы, у глыбіні саду. І тады я папярэджваў Аксану:

— Цішэй! Ужо вунь стаіць, слухае, пра што мы з табою гаворым.

— Та вона ж нічогусэнькі не розуміе,— смяялася Аксана.— Два гады я тут — і хоць бы слова адно навучылася разбіраць па-нашаму. Хіба ж украінская ці руская мовы для яе — мовы? Гэта ж непатрэбшчына, гэта тое, чаго неўзабаве наогул не будзе. І народаў такіх не будзе. Будзе толькі нямецкі народ, толькі адна нямецкая мова. Гэта яна добра засвоіла! І што бог наканаваў немцам быць вечна панамі, а нам — рабамі, гэта таксама яна добра засвоіла. Але нічога — і на нашай вуліцы будзе свята...

— Ты можа ведаеш што, можа ліст з дому атрымала? — гарачыўся, пытаўся я.— Дзе нашы? Наступаюць?

— Не, нічога я не ведаю. І лістоў з дому з самай восені мне няма. Але сэрцам чую — наступаюць, б'юць гадаў. За слёзы нашы, за пакуты. Бачыш, якая стаіць,— асцярожным кіўком галавы паказвала Аксана на сваю гаспадыню — тая ўсё гэтак жа стаяла на ганку асабняка і няпэўна, задуменна глядзела некуды ўдалячынь, у поле.— Хмара-хмараю. І на мяне не крычыць, што з табою размаўляю. Ого, змянілася і яна, не такая, як была. Два гады таму назад толькі і ведала, што казаць: «Хутка Маскве капут!» Цяпер пра Маскву не ўспамінае. І хіба дазволіла б мне вось так без дай прычыны стаяць, гаварыць з незнаёмым чалавекам?.. Ды яна шлунне мне перагрызла б, глотку ад крыку парвала б...

— А што здарылася, чаму яна не такая, як была?

— Вось я і сама пра тое ж думаю. Мусіць, зноў нашы недзе фронт прарвалі, зноў наступаюць. Душу, няйнакш, скрабе — старалася, усё жыццё дабро збірала, а каму яно, яе дабро, дастанецца? Можа тым, што недзе наступаюць, сюды ідуць. «Паршывым славянскім свінням»,— як яна кажа. Дый ліст ад Гансіка свайго атрымала. Тыдзень на вуліцу не выходзіла, з пасцелі не ўставала, усё раўла. Я думала ўжо,

можа даў бог ад Гансіка яе адно імя асталося. Аж не, толькі параніла...

— А хто ён, той Гансік, ёй?

— Сын. Афіцэр. Галаварэз. Каб ты бачыў, колькі крыжоў паначапляна на ім. Відаць, добрая птушка, напапіў людской крыві. Крыжоў так, ні за што ні пра што, не даюць. Гэта ўсе ведаюць. Прыбіраю я ў іхніх пакоях, падыду іншы раз да партрэта, што на сцяне вісіць, ды плюну ў паганьскую морду — на душы адразу ж і палягчэе. Неяк падлавіла мяне на гэтым «сава» — я немачку сваю «савою» пра сябе заву. «О, майн гот, майн гот!» А тады як закрычыць, як затупае нагамі: «На калені! На калені, паршывая свіння! Маліся перад ім, як перад богам! Вы ўсе, цэлыя мільёны вас, аднаго пазногця яго не варты!..»

— І ты?

— Што ж зробіш, упала я на калені, маліцца пачала, хоць зроду на каленях ніколі не стаяла, ні перад кім не малілася. З тыдзень унімку не было, жыць не давала, поедам мяне ела. Не ведаю, як бы ўсё і скончылася, каб я на хітрасць не пайшла, не сказала: маўляў, я не плявала на партрэт, мухі шкло запаскудзілі, дык я выцірала. «На тое вада ёсць!» — аж віскнула «сава», але бачу — палагоднела, памякчэла...

— Цярпела такія здзекі? — круціў я галавою, журыў Аксану.

— А што ж рабіць будзеш?

— Трэба было ўцякаць.

— Куды ўцякаць? Тут жа, куды ні ўцячы,— усюды немцы.

— Дык дадому, на радзіму трэба было брацца!

— Гэта вельмі далёка,— са скрухай уздыхнула Аксана.— Ды яны і там, дома, немцы.— Памаўчала, падумала.— Ад іх, як ад нечысці той, не ўцячэш. Нават калі і дадому дабярэшся, у што я не веру, бо гэта ж трэба Нямеччыну, Польшчу ўсю перайсці. А ўсюды ж камендатуры, усюды ж яны, галаварэзы. У кожным горадзе, у кожнай вёсцы. І есці нешта ж трэба, і недзе ж начаваць, і неяк праз рэчкі перабаўляцца, а я плаваць ані не ўмею... Дый калі дадому дабярэшся,— як там жыць? Усе ж ведаюць — у Нямеччыне я павінна быць. Папярэджвалі нас, як забіралі: «Калі хто ўцячэ — і самога яго і радню ўсю — «шысэн». Я ж

і позву загадзя атрымала, магла ў другое сяло збегчы, да цёткі. Доўга раіліся мы, што рабіць. Шкода ўсім мяне было, і мне таксама шкода ўсіх было. Ноч цалюсеньку не спалі. Маці і сёстры — іх у мяне аж шэсць, я старэйшая,— так разважылі: «Паміраць, дык усім разам, усёй сям'ёй». «Не едзь нікуды з хаты, Аксана. Што будзе, тое будзе». А я па-другому падумала: «Як усім паміраць, дык лепш адной мне памерці. А сёстры і маці няхай жывуць. Ды мажа і не памру, як-небудзь выжыву...» І паехала. Папаплакала, праўда, як развіталіся, на душы адчуванне такое было — нікога са сваіх ужо ніколі не пабачу. Ні маці, ні сясцёр, ні суседзяў. Нікога, нікога, нават сяла свайго... І павырыш — два гады мінула, а адчуванне тое так і не прайшло. Раней думала, немцы навечна край наш запаланілі, дык і на душы ў мяне такое. А цяпер немцы адступаюць, нашы сюды ідуць, а адчуванне тое ўсё адно не знікае... А ў цябе, у цябе няма на душы такога? — раптам спыталася ў мяне Аксана.

— Не, няма. Я цвёрда веру — буду дома.

— Вось бачыш!

І Аксана апусціла долу вочы.

— Цябе як з дому забіралі? Таксама па позве?

— Не, мяне ўночы проста з пасцелі ўзялі. Каб далі позву, каб толькі я ведаў, што мяне возьмуць, так бы я ім і даўся — я і гадзіны, і хвіліны нават дома не затрымаўся б...

— А дзе ж бы ты дзеўся?

— Як гэта дзе? У лес бы цягу даў.

— І маці сваёй, радні не пашкадаваў бы? Іх жа пастраляць маглі...

— А я і іх з сабою ў лес бы забраў.

— То добра, што ў вас, у Беларусі, лясы ёсць,— уздыхнула зноў Аксана.— А ў нас, на Украіне, лясоў мала. Схавацца ад немцаў няма дзе...

— Ды каб трохі пазней,— не мог ужо я супакоіцца, не расказаць пра сябе Аксане,— дулю б яны мяне ўзялі, я ў партызанах быў бы. Дамоўленасць у мяне з самім камандзірам была — пачакаць, пакуль чалавека на маё месца ў вёсцы падшукаюць, вясны пачакаць... А там — у лес... Ды я і тут доўга не збіраюся быць. Хай толькі пацяплее, зазелянее — тады мяне кожны кусцік пераначаваць пусціць.

— Няўжо ўцякаць адсюль дадому, на радзіму збіраешся?

— А як жа! Я ніколі нікога яшчэ не падманваў. Дамовіліся з камандзірам — буду вясною ў партызанах, у атрадзе, — і буду... Вось пабачыш — буду! — весела падміргнуў я Аксане і, ускочыўшы на воз, тузануў за лейчыну Карла, крыкнуў:

— Но!

Гэта праўда, я не маніў Аксане, што ў мяне была дамоўленасць з камандзірам атрада, каб вясною, як толькі растане снег, падавацца з вёскі ў лес, у партызаны. Мяне былі паклікалі ў валасць і папярэдзілі: «До байбусаваць! Афармляйся ў паліцыю ці ўладкоўвайся куды-небудзь на працу. Інакш у Нямеччыну як міленькага адправім... Тут па табе работы нямашака, то там знойдзецца...» І я спалохаўся. Параіўшыся з Марыяй Змітраўнай, я пайшоў у лес, да камандзіра партызанскага атрада. Расказаў яму, пра што гаварылі са мной у валасці, потым раптам — сам добра не ведаю чаму — пачаў скардзіцца, як надакучыла, абрыдла насіць з вёскі ў вёску перапісаныя ад рукі зводкі Саўінфармбюро, маўляў, я здольны і на большае, а тое, што раблю, можа з поспехам рабіць і хто-небудзь іншы, меншы, маладзейшы па гадах. Камандзір слухаў мяне вельмі ўважліва, не перапыняў. А калі я скончыў гаварыць, прывёўшы, як тады здавалася, усе свае довады, каб мне ні дня больш не аставацца ў вёсцы, а перайсці неадкладна, сёння ж, у лес, у дзейныя, збройныя сілы, камандзір спытаўся:

— Усё? Больш нічога не маеш сказаць?

— Не, не маю.

— Тады выслухай уважліва і ты мяне.

І пачаў гаварыць. Гаварыў ён ціха, не спяшаючыся, як бы ўзважваючы кожнае слова, наколькі яно правільна выбрана і ці пераканаўча гучыць.

— Вось што, хлопча. Я цябе разумею. Надакучыла табе ў матчынай хаце сядзець, паперкі ад рукі перапісаныя да сцен і платоў клеіць. Ваяваць захацелася, з кулямёта страляць, цягнікі падрываць... Але зразумей — лістоўкі з вёскі ў вёску насіць — гэта таксама работа. Вялікая, вельмі важная работа! Каб ведалі людзі: немцы брэшуць. Што ні слова — то хлусня. Чыр-

воная Армія наступае, б'е фашыстаў. Ужо вызвалены Кіеў, Гомель, Смаленск... Пра гэта павінны ведаць у кожнай вёсцы, у кожнай хаце. І лістоўкі — гэта не проста перапісаныя ад рукі паперкі, гэта праўда, жывая, наша савецкая праўда. Гэта — раз! — і камандзір загнуў на руцэ адзін палец.— Тое, што цябе паклікалі ў воласць — таксама не бяда. Не панікуй. Можна будзе яшчэ трохі павалыніць, потым, калі вельмі прыстануць, запішыся на станцыю вагоны грузіць. Акурат там, я чуў, трэба рабочыя, то і ты трохі разам з іншымі бярвенні пакачай. Паглядзі, што там за людзі, хто да каго хінецца. Нам гэта важна, вельмі важна! Гэта — два! — і камандзір загнуў на руцэ другі палец.— А трэцяе... Мы не можам пакуль што цябе ў атрад узяць. Ты трэба там, у вёсцы... Разумееш? Дый зіма цяпер. А нам... І карміцца і ваяваць. Куды ні пойдзеш — астаюцца сляды. Па слядах нас вельмі лёгка шукаць. Фронт блізка, немцы кожны дзень могуць кінуць на нас і танкі, і самалёты, і мінамёты. Вытрымаць бой з вялікай групай немцаў мы не зможам. Дый задача ў нас іншая... Разумееш?

І камандзір паглядзеў мне ў вочы.

Я кіўнуў галавою.

— І каб пра цябе аднаго гаворка ішла,— падумаўшы трохі, гаварыў далей камандзір.— А то ж ты не адзін, у цябе і маці, і сястра, брат ёсць. Іх жа не пакінеш дома, у вёсцы. Сам ведаеш, што немцы з імі зробяць. А ўзяць іх — зноў дзе падзець, чым карміць, што наогул рабіць на выпадак блакады? Таму мы не толькі табе, але і другім такім, як ты, хто ў атрад, у лес просіцца, кажам — пакуль не можам узяць, пачакайце... Пачакайце, пакуль снег растане, пакуль зазелянее ўсё навокал. А тады, калі ласка, хоць цэлымі вёскамі да нас у лес ідзіце, усіх прымем. Тады мы разгорнемся, такое тут зробім! — камандзір сціснуў кулак, патрос ім у паветры.— А самае галоўнае — на тваё месца чалавека падшукаць трэба. Зразумей — агітацыі сярод насельніцтва мы заўсёды аддавалі многа ўвагі. А цяпер, перад вызваленнем,— асабліва... Каб ні адзін савецкі чалавек не верыў хлуслівай фашысцкай прапагандзе, памагаў, чым толькі можна, нам, партызанам, нашай арміі... І так — да вясны! Згода?

І камандзір працягнуў мне шорсткую вялікую, як лапата, руку.

— Значыцца, дамовіліся?

— Дамовіліся,— ледзь чутна прашаптаў я, паціскаючы камандзіраву руку.

Выгляд у мяне, мусіць, быў не такі, пра які звычайна кажуць — «давольны», бо, зірнуўшы мне ў твар, камандзір зноў раптам пачаў мяне суцяшаць, супакойваць, абнадзейваць.

— Не крыўдуй, зразумей — у вёсцы таксама нам патрэбны добрыя вочы, вушы. Убачыць, пачуць, своечасова перадаць... Гэта вельмі і вельмі важна! Дзякуючы такім, як ты, мы і няўлоўныя. Мы ўсюды — і разам з тым нідзе... А вясна прыйдзе — лічы, ты ў атрадзе, у нас...

На тым мы і рассталіся з камандзірам...

А праз два дні ўночы мяне паднялі з пасцелі, загадалі збірацца. Маці загаласіла, запрычытала. Заплакалі і Аленка, Толік. Усе, нават я, падумалі — мяне арыштоўваюць за сувязь з партызанамі, нехта мяне, мусіць, выдаў...

— Эй вы там,— прыкрыкнуў на нас нечы незнаёмы голас,— цішэй! Не аднаго яго бяруць, а ўсіх, каго ў воласць выклікалі, хто ў паліцыю не захацеў афармляцца...

Я ўздыхнуў — ну тады хвала богу. Значыцца, арышт мой з нечым іншым звязаны, не з партызанамі. Перастала галасіць, бы па нябожчыку, і маці...

«...Вось табе і не панікуй, вясны пачакай,— сумна паківаў я галавою, седзячы на возе з парожнімі бітонамі і едучы на чужую мне, панскую ферму.— Ты, камандзір, быў хітры, разумны, але і немцы ў шапку не спалі — таксама пра нешта думалі... Ды ладна, не пра тое цяпер клопат... Як вось адсюль, з гэтай чортавай Нямеччыны, уцячы, на Палессе сваё дабрацца?.. Эх!» — І я хвастануў зноў з усёй сілы пугаю па крыжы Карла...

Вясна між тым не марудзіла — ішла, набліжалася з кожным новым днём. І гэта адчувалася нават тут, на чужыне, адчувалася па ўсім: па небе, якое раптам неўпрыкмет пасвятлела, ачысцілася, агалілася ад гурбаў, сумётаў хмар; па сонцы, якое пачало рана

ўзыходзіць і свяціць, прыгравацъ, здаецца, зусім па-летняму, па-нашаму, па-палеску; па пупышках на дрэвах, якія разбухлі, набрынялі сокамі і гаркава запахлі першым зялёным лісцем. Туман, смуга, што закрывалі ўсю зіму далеч, расплыліся, рассеяліся, і стала далёка відаць навокал — парослыя, нібы прыпушаныя, маладым ляском, асмужаныя сінечай, горы, на вяршынях якіх яшчэ іскрыўся дзе-нідзе снег, гарады, што чорна дымілі высознымі трубамі, бялелі светлымі камяніцамі, чырванелі вострымі, крытымі чарапіцай кірхамі. Прыляцелі жаўранкі, і поле адразу ж ажыло, напоўнілася вясёлымі, радаснымі зыкамі. Вясна адчувалася і па той рабоце, якую загадваў рабіць Штрайк. Ён усё часцей забіраў парабкаў з фермы і пасылаў іх у склады, што стаялі ўсю зіму на замках,— у складах трэба было парадкаваць, ледзь не па каліву перабіраць насенне, каб на поле, баронь божа, не трапіла выпадковае, каб кожнае зярнятка ўзышло, дало плён.

Дні прыкметна пабольшалі, і, акрамя таго, што вазіць у Маслэбень малако, Штрайк загадваў мне рабіць процьму ўсякай іншай работы, нават, калі выпадала вольная хвіліна, пасылаў вазіць на поле гной. Я не аднекваўся, не спрачаўся, цярпліва рабіў усё, што мне загадвалі, думаючы часам: усё адно, пане Штрайк, не доўга табе асталося патакаць мною, цягнуць з мяне жылы,— хутка, ой як хутка і след мой тут прастыне...

Да ўцёкаў дадому, на радзіму ў мяне ўсё было падрыхтавана. Не было толькі напарніка. Але, урэшце, і без яго я мог абысціся — рушыць у дарогу адзін. На ўсякі выпадак загаварыў пра ўцёкі з Аксанай, калі зноў неяк убачыў яе. Расказаў пра сухары, новыя дзеравяшкі, пра ножык-складанчык, компас і карту, якія ўдалося мне выменяць у палонных французаў.

— Пара, пара дадому, на радзіму,— закончыў я свой расказ пра тое, як я падрыхтаваўся да ўцёкаў.— I так набыўся тут больш, чым трэба, дасхочу. Там, дома, мяне чакаюць. Чакае маці, партызаны...

— Ты што, і праўда надумаў уцякаць? — не паверыла мне, а таму, можа, і перапытала Аксана.

— А колькі ж быць тут можна? Колькі ж можна

цярпець, чакаць немаведама чаго? О не, гэта не па мне. Паспрабую сам сябе вызваліць...

— Каб жа і праўда ўдалося вызваліцца! — неяк летуценна сказала Аксана.— А як зловяць? Расстрэл ці канцлагер. Што лепш — я нават не ведаю...

— Чаму ты адразу так — як зловяць? А як не зловяць? Дадому, на радзіму, удасца дабрацца, га? І такое ж можа быць.

— Вядома, можа. Толькі...— Аксана памаўчала.— Многія, мусіць, адсюль уцякалі. А дадому хто дабраўся — не чуваць... Ні разу пра гэта мне з вёскі не пісалі.

— Не заўсёды тыя, што адсюль уцякаюць, дадому ідуць. Што ім рабіць там, дома?..

— А дзе ж яны дзяваюцца?..

— У лесе, у партызанскіх атрадах астаюцца... Немцаў б'юць, ваююць!

— То добра вам, мужчынам. А дзяўчатам, жанчынам што рабіць?

— Таксама можна ў лес, да партызан ісці. У тым атрадзе, дзе я з камандзірам у зямлянцы гаварыў, ёсць і жанчыны, дзяўчаты. І ваююць яны, казаў камандзір, не горш ад мужчын. Так што калі жаданне ў цябе ёсць,— ускінуў я вочы на Аксану,— то хадзем разам са мною...

— Ой, што ты? — дрогка сцеханулася, спалохалася Аксана.— Баюся я...

— Рызыка — не лепшае, ды без яе таксама нельга. Ат, як кажуць, было не было...

— І ўсё ж... Уцёкі могуць скончыцца канцлагерам... І нават смерцю. Уяўляеш — вайны не будзе, усе з Нямеччыны жывыя, здаровыя вяртаюцца, а нас з табою няма... Колькі слёз маці нашы па нас выплачуць. Дый...— Аксана зноў памаўчала.— Дый нават калі я дадому дабяруся, я ўжо казала табе пра гэта, немцы маці, сясцёр маіх расстраляюць... Як жыць без іх мне тады?..

— А ты не ідзі дадому, ты ў нас, у Беларусі, аставайся. Я завяду цябе ў партызаны, у атрад. Скончыцца вайна — тады і дадому, у сваю вёску, вернешся...

— Добра, каб усё так, як ты кажаш, было. А калі мая гаспадыня, «сава», адсюль у сяло напіша, што я збегла? Усё адно ж маці, сясцёр маіх немцы расстра-

ляюць. Будзь пэвен, не пашкадуюць — расстраляюць. Мне ж тады таксама не жыццё. Жыць і ўвесь век свой думаць — гэта ж праз мяне іх расстралялі, гэта ж праз мяне яны не жывуць...

— Калі, калі...— Я пачынаў ужо злавацца.— А калі там, у тваёй вёсцы, і немцаў тых даўно няма, калі вёска вызвалена, наша Чырвоная Армія туды прыйшла, га? Ты ж сама кажаш — наступаюць нашы, б'юць гадаў...

Гаварыў я, мабыць, горача, упэўнена, і мае довады дайшлі да Аксаны. Бо калі я развітваўся, зноў садзіўся на воз, каб ехаць, яна сказала:

— Не ідзі, Панасю, дадому, на радзіму, адзін... Не ідзі... Пачакай. Я падумаю. Можа і я з табою пайду. Дый... Нельга на такое лёгка так рашацца. Тут трэба ўсё ўзважыць. Наведайся да мяне ў нядзелю, мы пра ўсё пагаворым, абмяркуем... Як ты — можаш у нядзелю да мяне прыйсці?

— Ну, калі трэба,— паціснуў я плячыма,— то прыйду.

— Вось і добра,— узрадавалася Аксана.— Я таксама ферму на гадзіну-другую пакіну. Па горадзе паходзім, я табе сёе-тое пакажу, раскажу. А тым часам і пра ўцёкі дамовімся...

У нядзелю ўсім панскім парабкам належала мець выходны дзень. За гэты дзень парабкі павінны былі схадзіць у лазню, прыбраць у бараку, памяняць бялізну, навесці парадак у сваім адзенні: што трэба — памыць, залатаць; прышыць гузікі, падрамантаваць абутак. Калі аставаўся вольны час — можна было з'ездзіць у горад і за маркі, якія акуратна выплачвалі нам у сініх канверціках кожную суботу, сёе-тое прыдбаць. Праўда, у Нямеччыне даўно ўжо ўсё прадавалася толькі па картачках, і без іх за грошы нічога нельга было купіць, апрача хіба піва, марожанага ды крывяной каўбасы. Таму парабкі часцей за ўсё нікуды з панскага двара не адлучаліся, не ездзілі — сядзелі ў нядзельныя дні ў бараку — расказвалі анекдоты, розныя цікавыя здарэнні ці гулялі ў карты. Гэта, калі гаварыць пра тых парабкаў, што працавалі не на штатных работах, а заўсёды ўранні чакалі, як яны самі гаварылі, «што загадаюць, куды пашлюць».

Цяжэй было тым, хто быў прымацаваны да кухні ці да фермы. Гэтыя парабкі ніякага выходнага дня не мелі. Праўда, калі некаму некуды трэба было пільна сходзіць ці з'ездзіць, звычайна гаварылі пра гэта Штрайку, і той падбіраў замену з тых парабкаў, што былі вольныя ў нядзелю. Парабкі ішлі на замену неахвотна, часта сварыліся. Таму выходных «штатнікі», як нас называлі, амаль не бралі, цягнулі лямку няволі і ў буднія, і ў нядзельныя дні. Я дык не вельмі і шкадаваў, што не маю выходных дзён. Усё адно не было чаго рабіць. Прышыць гузік ці што-небудзь залатаць у адзежы я паспяваў за дарогу, калі ехаў з фермы ў Маслэбень ці з Маслэбеня на ферму — балазе, было амаль тры кіламетры і можна было хоць чорту рогі скруціць за той час, за які я праязджаў гэтыя тры кіламетры. У лазню я хадзіў позна ўвечары, пасля работы, а прыбіраць у бараку разам з усімі мне не выпадала, абыходзіліся неяк без мяне. Ісці ж шляцца, валэндацца па вуліцах чужога горада мяне не цягнула: было мутарна, прыкра бачыць сытых, самазадаволеных арыек і арыйцаў, якія глядзелі на нас, нявольнікаў, як на быдла, і ўсюды стараліся, нібыта баяліся набрацца ад нас якой пошасці. Не хацелася і сустракаць задзірыстых хлапчукоў з «гітлерюгенда», якія ў нядзельныя дні заўсёды збіраліся, апранутыя ў навюткія уніформы — кароткія з аксаміту штонікі і карычневыя рубашкі, з фінкамі пры боку,— на плошчы і маршыравалі пад перастук барабанаў са сцягамі па вуліцах горада. Сядзець жа ў бараку, слухаць, што расказвалі такія ж гарапашнікі, як і я сам, ці гуляць у карты — мяне таксама ніколі не вабіла. І я з радасцю ў нядзельныя дні пакідаў барак, запрагаў у аглоблі Карла, вёз малако ў Маслэбень.

Быў і яшчэ адзін чалавек, які ў нядзельныя дні не сядзеў у бараку, а ўсё хадзіў, туляўся па ферме. Гэта — паляк Казік. Да вайны ён скончыў ветэрынарную акадэмію і нават тут, у Нямеччыне, праводзіў нейкія свае доследы. А можа яго доследы былі шырмай, за якую ён хаваўся, каб быць бліжэй да кармакухні — там, на кармакухні, працавала вельмі прывабная чэшка Мілана, і Казік, па ўсім адчувалася, у яе закахаўся. Як бы там ні было, а яго, Казіка, я і на-

думаў папрасіць, каб ён падмяніў мяне ў нядзелю, звазіў хоць ураніі малако ў Маслэбень.

— Добжэ,— згадзіўся без усялякіх угавораў Казік.— Нех пан бэндзе спакойны, я ўсё зраблю, цо тшэба. Мы — славяне, і мусім адзін аднаго разумець, выручаць... Без гэтага нам не выжыць, нас задушаць швабы...

— Вялікае дзякуй, Казік,— не мог, каб не падзякаваць я.

— Цо ж, я ўсё адно вольны. А калі пану тшэба — то тшэба...

Што і казаць, умеў Казік падвесці пад усякую дробязь «вялікую палітыку». Але калі ўжо згаджаўся ён што-небудзь памагаць, то памагаў, рабіў гэта — тут трэба аддаць яму належнае,— шчыра, ад душы.

У нядзелю я ўстаў рана, як і заўсёды, і, пакуль мае напарнікі-гарапашнікі яшчэ пацягваліся, соладка спалі, радыя, што іх сёння не будзе ніхто будзіць, схадзіў на кухню, з'еў сваю намазаную маргарынам скібку хлеба з чаем і рушыў на дарогу ў Маслэбень.

Раніца выдалася ціхая, цёплая. У паветры амаль не адчувалася ні сырасці, ні золі. Не вісеў, не клубіўся нідзе, нават у лагчынах, туман. Зямля дыхала вясною. І ўсюды ўжо звінелі, звінелі нябачныя ў блакіце неба маленькія, шустрыя няўтомы-жаўранкі. З-за гор паволі, як бы чагосьці баялася, асцерагалася, выкотвалася круглае, румянае сонца, і ў яго залацістых, зыркіх промнях на ўзбочыне паўз дарогу серабрыліся першыя голкі травы, што ўжо дзе-нідзе прарэзаліся, прабіліся праз густую коўдру леташняга лісця. Падзімаў ветрык — лёгкі, ласкавы; ён нёс аднекуль з гор пах смалы-жывіцы, пах лесу і хвоі. І сэрца ў мяне забілася, няйнакш, яно таксама пачула блізкую, жаданую волю...

«Вясна! Вось, нарэшце, яна, вясна! Тая пара, якой я так доўга, так нецярпліва чакаў!»

Уявіў: міне ўсяго некалькі дзён і я буду вольны, буду ісці па гарах, па лесе, па полі, ісці не куды-небудзь, а дадому, на радзіму... Дадому, на радзіму!.. У сваю вёску, да сваіх людзей!.. Да ўсяго свайго — неба, птушак, траў. І буду ісці не адзін... Поплеч са мною будзе ісці гэтая гаманлівая, вясёлая дзяўчына-ўкраінка — Аксана...

Не, я не думаў, што спадабаюся Аксане, што між намі будзе ў дарозе нешта інтымнае, тое, што звычайна завуць каханнем. Не, зусім не. Наадварот, я лічыў, што цяпер не час займацца каханнем. Ідзе вайна, вялікая, жудасная вайна. Вайна з фашызмам. Вайна не на жыццё, а на смерць. І каб нам перамагчы, выстаяць — трэба ўсе свае сілы аддаць барацьбе. Менавіта пра гэта я і сказаў аднойчы, калі прыйшлі ў нашу вёску немцы, той дзяўчыне, Ніне, якую я праводзіў дадому з пагулянак. «Забудзь пра ўсё. Цяпер не час на розныя пацалунчыкі і таму падобнае. Вось прагонім фашыстаў, зямлю нашу ад ворагаў ачысцім — тады — калі ласка, можам зноў сустракацца. А цяпер — бывай». І больш пасля таго вечара я ні разу нават не падышоў да Нінінай хаты. Праўда, неўзабаве Ніна сама перастрэла мяне на вуліцы і пахвалілася: «А я за Цілівончыкавага Мішку замуж выходжу!» — «Гэта як жа?» — вельмі здзівіўся я. «А так. Калі мы пажэнімся, то нас у Нямеччыну не забяруць»,— гулліва, нават радасна адказала Ніна. «То вам жа яшчэ і па васемнаццаці няма, хто ж вас запіша?» — «А мы ў царкву пойдзем, поп вянчае, не пытаючы, колькі каму год».— «Цьфу, дурніца»,— толькі і сказаў я і пайшоў сваёй дарогай, даючы тым самым зразумець Ніне, што размова ў мяне з ёю скончана. І цяпер, да Аксаны, я кіраваўся толькі з адным — угаварыць яе, каб яна не аставалася тут, у Нямеччыне, а ішла, уцякала разам са мною адсюль дадому, на радзіму. Што будзе, тое будзе, абы не пакутаваць тут, на чужыне, абы не памагаць Гітлеру, фашыстам, не чакаць, што нехта прыйдзе і нас вызваліць...

Аксану я спаткаў на шашы — яна паволі, быццам не мела чаго рабіць, ішла насустрач мне, да панскага двара. І гэта мяне насцярожыла: «Чаму яна не чакае мяне там, дзе мы дамаўляліся сустрэцца, ля фермы фрау Эльзы, а ідзе сюды, да панскага двара? І так рана?..» Была Аксана не такая, як тыя разы, а нейкая спалоханая, стомленая — пад вачыма ў яе сінелі нават кругі. Не цяжка было здагадацца: у Аксаны нешта здарылася. Убачыўшы мяне, яна квола, вінавата ўсміхнулася, загаварыла амаль шэптам:

— Панасю, я не магу сёння нікуды пайсці з табою.
— Чаму? Што здарылася?
— Прыехаў Гансік.
— Ну дык і што? — нічога яшчэ не разумеў я.
— А тое, што я нават не начавала дома, на ферме. Учора, калі я прыйшла ў пакоі слаць пасцелі, ён, гэты галаварэз, падкраўся ззаду і паваліў мяне на ложак. Я выкруцілася з-пад яго, пляснула па мордзе і выскачыла ў акно. Добра, што яно было акурат адчынена... Ноч па полі прахадзіла, цяпер толькі вось на ферму надумала вяртацца... Не знаю, што мне будзе...

Я ведаў, як абыходзяцца немцы з дзяўчатамі. Пра гэта я шмат чуў тут, у Нямеччыне. Пра гэта неаднойчы расказвалі і ў нас дома, у вёсцы. Некаторыя дзяўчаты, баючыся, каб з іх не насмяяліся, каб іх не згвалцілі, падушкі да жыватоў падвязвалі, рабілі выгляд, што яны цяжарныя. А то яшчэ, калі немцы прыязджалі ў вёску, дзяўчаты клаліся ў пасцель, а маткі папярэджвалі ўсіх, хто ў хату ішоў: «У дачкі — пранцы. Заразілі, каб на вас немач!» І гэта памагала, дзейнічала... А тут... Як быць, што рабіць тут?.. Я разумеў Аксану.

І, вядома, спачуваў ёй...

— Ну вось, а ты яшчэ ўцякаць адсюль дадому, на радзіму не хочаш,— толькі і сказаў я.

Апошнія мае словы прагучалі як папрок. Аксана ўстрапянулася ўся, загаварыла горача, вельмі хвалюючыся:

— Хто, хто не хоча? Ды каб я магла, я птушкай бы паляцела, ні дня, ні хвілінкі не была б тут. Я за маці, сясцёр сваіх трывожуся, хачу, каб яны жылі. Толькі гэта мяне тут і трымае, уцякаць адсюль нікуды не пускае. Але можа і праўда ўжо нечага за іх баяцца, можа ў іх там і немцаў досі няма, а нашы даўно прыйшлі, савецкія. Таму і прашу — не ідзі, не ідзі, Панасю, без мяне. Пачакай, разам пойдзем...

— Ну вось, гэта зусім іншае,— павесялеў, пажвавеў я.— Добра, так і дамовімся — адзін я не пайду, буду чакаць цябе. Толькі...— Я трохі памяўся.— Як жа ты жыць цяпер будзеш там, на ферме? Ён жа, гэты галаварэз, збыту табе не дасць, пакуль свайго не даб'ецца... Калі ўжо задумаў...

— Можа ён доўга не будзе. Можа паедзе...

— А калі не паедзе? Што тады рабіць?

— Не ведаю.

Аксана паціснула плячыма, яшчэ ніжэй апусціла галаву. Зрабілася маленькая, бездапаможная. І сумная-сумная.

Мяне аж кальнула ў сэрца.

— Фашысту не вер, пакуль ён не мёртвы. Не ўдасца тое, што задумаў, то за калючы дрот запраторыць. Што, хіба яму шкода?

— Не, за дрот ён мяне садзіць не будзе,— пахітала галавою Аксана.— Хутчэй прыстрэліць...

— Ну вось, бачыш...

— Будзем на лепшае спадзявацца,— паспрабавала ўсміхнуцца Аксана.— Можа неяк і абыдзецца.

— Можа — надвое варожа. А калі не абыдзецца?.. Падумай, а то давай не будзем чакаць, а сёння ж, уночы, і махнём у дарогу?

— Ой, што ты,— яшчэ больш спалохалася Аксана.— Гэта ж не на пагулянку — узяў ды пайшоў. Тут да драбнічкі ўсё трэба прадумаць, узважыць. Сабрацца, захапіць сёе-тое ў дарогу. Дый ночы яшчэ халаднаватыя, зеляніны няма, схавацца, на выпадак чаго, не будзе дзе...

Аксана гаварыла праўду. Я не мог не згадзіцца з ёй. Таму і сказаў:

— Глядзі, я хачу, каб табе лепш было. А яму,— паказаў я галавою ў той бок, дзе была ферма фрау Эльзы,— калі палезе зноў, кулаком пад самую нюхаўку бі, каб аж юшка пацякла, каб навек запомніў...

— Я ведаю,— няёмка сцеханулася, пацепнула плячыма, нібыта было ёй холадна, Аксана.— Калі прыставаць зноў будзе — крычацьму. Ён баіцца крыку. Баіцца, каб у горадзе не пачулі, што ён да нейкай парабчанкі, неарыйкі заляцаецца. Дый рукі, ногі, зубы, урэшце, у мяне ёсць... Не, я не дамся яму. Лепей смерць...

— А можа зусім не паказвайся гэтыя дні на ферму?

— Што ты! Усё ж не кормленае, не поенае... Дый паліцыю на ногі паставяць, падумаюць, што я збегла, уцякла... Не, нельга мне не паказвацца на ферму. І так «сава» можа там ужо вэрхал падняла... Магла паду-

маць, што я збегла, уцякла з фермы... А яна ж за мяне грошы заплаціла...

— Ну, то трымайся! — І я моцна-моцна паціснуў Аксане руку.

З тыдзень я не бачыў Аксаны, хоць і зварачаў да фермы фраў Эльзы заўсёды, калі б ні прыязджаў у горад. І ў думкі міжволі пачало закрадвацца хваляванне — што, што здарылася з Аксанаю, дзе яна, чаму яе ўсё няма і няма? Няўжо той галаварэз і праўда яе застрэліў? А мо... Мо ён зрабіў, што яму трэба было, і Аксане проста няёмка, сорамна пасля такога паказвацца мне на вочы. Я ўжо амаль паверыў, што гэтая гісторыя з Гансам не скончылася дабром, не скончылася так, як таго хацелася і мне і Аксане,— аж неяк, калі я вяртаўся з Маслэбеня і ўжо не думаў нават спаткаць Аксану, убачыў, як з фермы насустрач мне бегла... Не, не, я не памыліўся — сапраўды насустрач мне бегла яна, Аксана. На ёй было лёгкае вішнёвае, па ўсім відаць, яшчэ сваё, прывезенае з радзімы, плацце. Яно надта ж шчыгульна аблягала яе цела, падкрэсліваючы і без таго тонкую, зваблівую фігуру, высокія, пышныя грудзі. На галаве ў Аксаны быў завязаны ўчубкі белы каснічок, вочы яе гарэлі, і сама яна аж ззяла ўся, свяцілася ад нейкай нястрымнай радасці, якую нельга было ніяк схаваць.

— Ну, што, што ў цябе? — замест прывітання пачаў я распытваць Аксану.

— Ты пра што? Ах, пра Гансіка! — І ў наступную хвіліну яна залілася звонкім, задзёрыстым смехам.— Паехаў, паехаў ён. У тую ж самую ноч паехаў, калі дома я не начавала. Прыйшла ўранні пакоі прыбіраць, бачу, сядзіць мая «совачка», як груган, у слязах. «Што ў вас здарылася, фраў Эльза, чаму вы плачаце?» — пытаю, а сэрца маё, адчуваю, у пяткі пайшло. Аказваецца, позву Гансіку прынеслі, каб на вайсковы пункт з'явіўся. Пайшоў ён туды, а яго — цап-царап і забралі, зноў на фронт паслалі. Нават дадому, з маці развітацца не пусцілі... Ну тут, вядома, не да таго было, каб разбірацца, дзе я была, чаму дома не начавала... А сёння вось яшчэ «весялейшую» вестачку «совачцы» прынеслі,— расказвала, сакатала без перадыху Аксана.—

Разумееш, няма, няма больш на свеце яе сыночка, любенькага Гансіка...

— Як гэта — ня-ма?

— А так... Забілі яго. Разумееш — на вайне забі-лі,— як не па складах вымавіла Аксана і зноў залілася вясёлым, гарэзлівым смехам.— Ляжыць «савачка» ў пасцелі, і не ведаю, калі ўстане на ногі. Насіў воўк, панеслі і воўка... А што на ферме я ўсе гэтыя дні не была, то гаспадынька мая поле спяшалася як мага хутчэй засеяць. Нібы прадчувала, што неўзабаве здарыцца мае. Нават трох французаў з лагера брала. То і мне дасталося. Ні дня ні ночы не бачыла.— І Аксана зноў засмяялася.

— Ну і вясёлая ж ты... Першы раз цябе такую бачу...— не стрымаўся, пакруціў я галавою.

— А што? Калі ж нам і павесяліцца, як не тады, калі ворагі нашы плачуць.

— Баюся, каб яны не прымусілі і нас разам з імі плакаць.

— Не да таго ідзе. Французы тыя, палонныя, казалі, быццам Чырвоная Армія зноў фронт прарвала, наступае, вызваляе Украіну, Беларусь...

— Ды ну? — не паверыў я таму, што казала Аксана.

— Я сама спярша не верыла... Але гэта праўда. Радасная праўда.

— А яшчэ што яны казалі?..

— Яшчэ яны казалі, што ў хуткім часе ў Еўропе ў вайну з немцамі ўступяць саюзнікі — амерыканцы, англічане...

— Няўжо?

— Угу. У іх там, у французаў, у лагеры, прыёмнік ёсць. Самі змайстравалі. То чулі, як перадавалі.

— Фронт прарвалі! Украіну, Беларусь вызваляюць! — не мог ніяк я апамятацца.— А дзе, дзе фронт прарвалі? Якія гарады ўжо вызвалілі — не казалі?

— Не, не казалі.

— Усё адно радасна! Значыцца, сюды ідуць, б'юць фашыстаў!.. Больш мяне нішто тут ні на дзень не затрымае. Заўтра ж, заўтра рушаю на ўсход, насустрач сваім...

— А я... Мы ж дамаўляліся,— спалохана паглядзела на мяне Аксана.

— То і ты хадзем.
— Пайду. Але не, ні сёння, ні заўтра...
— А калі ж?
— Калі... Калі,— не рашалася сказаць, кусала губы Аксана.— Перш чым рушыць у дарогу, я хацела б табе сёе-тое яшчэ сказаць...
— То кажы, чаго ж ты маўчыш...
— Не цяпер. То другая, зусім другая гаворка павінна быць.
— Можа навіны якія з дому? То не бойся, гавары, нас тут ніхто не чуе...
— Не, я пра сябе табе хачу расказаць. Пра сябе і яшчэ аднаго чалавека.— І Аксана спахмурнела, вінавата патупіла ў зямлю вочы — весялосць, гарэзлівасць знікла, дзе і падзелася.
— Хто ён, той чалавек? Я ведаю яго?
— Мішэль. Француз Мішэль,— ціха, амаль шэптам сказала Аксана.— Ён працаваў тут, на ферме фрау Эльзы. Помніш, я аднойчы гаварыла табе пра яго.— Аксана памаўчала, падумала.— А лепш за ўсё ведаеш што,— сказала яна праз хвіліну,— прыходзь да мяне ў бліжэйшую нядзелю. «Совачка» злегла цяпер надоўга, гэты раз я змагу вырвацца з фермы. Пойдзем куды-небудзь... Я раскажу табе ўсё пра сябе. А заадно і дамовімся — калі, у які дзень рушым мы на ўсход, да сваіх...
Мне нічога не аставалася, як згадзіцца, сказаць:
— Добра.

Некалькі дзён я жыў чаканнем нядзелі, сустрэчы з Аксанай. Не, не таму, што спадзяваўся нешта незвычайнае даведацца, пачуць. Мяне хвалявала іншае: гэты раз мы, нарэшце, канчаткова дамовімся, калі рушыць у дарогу. Бо марудзіць, затрымлівацца тут, у Нямеччыне, далей было нельга. Чырвоная Армія наступае, б'е фашыстаў. Вызваляе Беларусь, Украіну. Так і не заўважыш, як нашы сюды прыйдуць. А што я ім скажу? Дзе быў я, што зрабіў дзеля фронту, дзеля нашай перамогі над ворагам? Мала таго што не памагаў сваім, дык яшчэ і тыл нямецкі мацаваў, працаваў на фашыстаў. Не, трэба не адкладваць, а рушыць, рушыць як мага хутчэй на ўсход. Балазе, і пацяплела ўжо, дрэвы лісцем укрываюцца, зазелянелі ўсходамі

палі. І ночы не такія ядраныя, халодныя. Прыйшла, прыйшла пара, якой я чакаў, чакаў з самага таго дня, калі мяне прывезлі сюды ў забітым дошкамі вагоне, пара, да якой я так рупліва, старанна рыхтаваўся...

У нядзелю я зноў папрасіў паляка Казіка, каб ён з'ездзіў за мяне ў Маслэбень, завёз у магазін малако, а сам, як толькі паснедаў, пакіраваўся да фермы фрау Эльзы.

Аксана чакала мяне за гарадскімі гародамі. На ёй было тое ж лёгкае, вішнёвае плацце, што і напярэдадні, тады, калі яна расказала мне навіны з фронту і канчаткова згадзілася ўцякаць разам са мною дадому, на радзіму; на нагах у яе, гэтак жа, як і ў мяне, былі дзеравяшкі. Але сама Аксана была ўжо не тая — вясёлая, гуллівая, а задумлівая, засяроджаная. І як бы нечым занепакоеная.

— Ну куды мы пойдзем? — усміхнулася нібыта міма свае волі яна.— Можа ў горад? Я паказала б табе звярынец. Там і сланы, і бегемоты, і нават жырафа ёсць. Праўда, як пабачыла я людзей за калючым дротам, усякая ахвота і на тых звяроў глядзець, што ў клетках сядзяць, у мяне прапала. Хаця калісьці любіла, у Кіеў ездзіла часта... Ну але калі ты хочаш?..

Аксана паглядзела на мяне, пачакала, што я скажу.

— Не,— адмоўна хітнуў я галавою.— Каб кудынебудзь у другое месца, не ў горад. І так я па ім штодзень езджу. Абрыдзеў ён мне,— шчыра прызнаўся я.

— Тады давай да возера пойдзем.

— А дзе яно?

— Ды тут, блізенька. Вось там,— паказала Аксана рукою некуды ў поле.— У лагчыне. Таму з шашы і не відаць. А такое гарнае азярцо. Лаза, чарот... А пасярэдзіне — вада...

— То хадзем да возера.

— Хадзем.

І Аксана загрукала дзеравяшкамі па бруку. Я павалюхаўся, пацягнуўся ўслед за ёю.

Возера, да якога прывяла мяне неўзабаве Аксана, было сапраўды прыгожае. Акружанае з усіх бакоў вербалозам, яно ляжала ў лагчыне, нібыта люстэрка ў аправе, круглае, светлае. Лаза ўжо распупышыла

свае калматыя коцікі, зазелянела першым, яшчэ не густым, кволым лісцем, і здаля, з берага, удавала не зялёнаю, а празрыста-жоўтаю. Па азёрнай роўнядзі плавалі качкі — паволі, грацыёзна, бы ўсё роўна на карціне,— адна паперадзе, другая трошкі збоку, ззаду.

— Няўжо дзікія? — прашаптаў я, бачачы, што і Аксана не зводзіць з качак вачэй.

— Ага, дзікія,— прашаптала гэтак жа ціха, як і я, Аксана.— Іх толькі пара. І што цікава — вясною прылятаюць сюды. Ды хадзем, хадзем, тут адна мясцінка вельмі прывабная ёсць, я пакажу яе табе...

І, узяўшы за руку, Аксана пацягнула мяне некуды ўніз, у лазняк. Лазняк быў высокі, густы. Праз яго прадзіралася вузенькая, ледзь прыметная сцежачка, якая зелянела ўжо, зарастала свежай, сакаўной травою. Спачатку па ёй, гэтай сцежачцы, потым па дошках-кладках, што ляжалі на круглых чурбачках у сухім леташнім чароце, Аксана правяла мяне да невялікай альтанкі,— збітая з дошак, яна падымалася на драўляных слупках над самым возерам. Проста дзіўна было, чаму я не бачыў яе, гэтай альтанкі, з берага. Альтанка была старая, даўно не фарбаваная, скасабочаная; адзін вугал яе залівала вада.

— Гэта мой знаёмы панок некалі любіў тут сядзець,— сказала ціха Аксана, нібы баялася сваім голасам патрывожыць спакой возера.— Памёр небарака. А сынам не да возера — ваююць... Гэта ён, той панок, і паказаў мне гэтае азярцо. Праўда, прыгожае?

— Умгы,— гмыкнуў я, зачараваны цудам, якое так нечакана адкрылася тут, на чужыне, маім вачам.

— Я заўсёды сюды прыходжу. І калі радасна на душы, і калі вельмі сумна.— Аксана зноў узяла мяне за руку, падвяла да лавачкі, што была ўкопана перад альтанкай, села сама і пасадзіла поплеч мяне.— А цяпер... Цяпер забудзься, дзе ты, паслухай, што буду я гаварыць. Толькі, калі ласка, ні пра што не пытай у мяне, не перапыняй. Я доўга вагалася, так і гэтак думала, расказваць табе пра ўсё ці не, трэба ці не трэба, каб ты пра ўсё ведаў. Цяпер бачу — т р э б а! Калі я не раскажу табе ўсяго, ты можаш мяне не зразумець. А мне трэба, каб ты мяне зразумеў. Гэта важна, вельмі важна. Дык слухай, слухай...

Я ўжо казала табе, чаму змушана была паехаць, правільней, чаму не магла не паехаць у Нямеччыну. Але сказала не ўсё — прычына была куды большая, хаця пра яе я нікому, нават маці сваёй не гаварыла. А справа была вось у чым. Жыў у нашай вёсцы чалавек па прозвішчу Піп. Чалавек як чалавек. У калгасе працаваў, жонку сваю, хоць яна і хваравітая вельмі была, глядзеў. І ўсе любілі яго. Любілі, прынамсі, да той пары, пакуль не падрос у яго сынок. А тады — адвярнулася ўсё сяло ад Піпа, пракляло разам з сынам і яго самога, і хворую жонку яго. Што то за вырадак такі нарадзіўся, у каго ён удаўся — і сказаць ніхто не мог. Ні росту бог яму не даў, ні прыгажосці, ні розуму. Ногі кароткія, крывыя, сам маленькі, жывот, што начоўкі, а нос... Ні ў кога такога вялікага, мясістага носа ў жыцці яшчэ я не бачыла. Вуха адно тоўстае, чырвонае, а другое кволенькае, маленькае, усё адно як у дзіцяці. Вочы навыкаце, па яблыку, зубы рэдкія, гнілыя. Адным словам, вырадак, дый годзе. Звычайна, у сёлах такім людзям спачуваюць, стараюцца іх акружыць нейкім клопатам, павагай, каб яны не адчувалі надта свайго калецтва. Пэпіка ж, як неўзабаве празвалі гэтага вырадка за вочы, узненавідзелі. І ўзненавідзелі вось за што. Дзе б Пэпік ні ішоў, што б ці каго б ні ўбачыў — абавязкова зачэпіць, пакрыўдзіць ці паламае. Лавачку новую гаспадар ля свайго двара змайструе — назаўтра вывернутая ў раўчаку ляжаць яна будзе. Згледзіць Пэпік ката ці сабаку на вуліцы — абавязкова камень ці палку ў яго запусціць, шпурне. Дзіця малое сустрэне — і таго не праміне: наском бота агрэе ці вуха надзярэ. А то яшчэ быў панадзіўся ў гароды людскія, сады лазіць. Ні морквы, ні маку, ні памідора, ні яблыка, ні грушы, слівы, вішні ніхто не каштаваў. Гароднiну павыдзірае з град, калі яна толькі з зямлі вылезе, зазелянее, садавіну пазрывае з дрэваў, калі тая яшчэ не нальецца. І каб жа еў! А то ж дзеля толькі аднаго — каб кепства, зло чалавеку зрабіць. Ну і самому ж Пэпіку таксама нямала пападала. Лавілі яго ў гародах ці ў садах — то ўжо не шкадавалі, білі колькі сілы было, пакуль злосць не адхлынала. Пэпік дні дватры пасля такога пачастунку не паказваўся на людзі, адпачываў, гаіў раны, потым аб'яўляўся зноў, зноў рабіў тое ж, што і дагэтуль, як бы яго ніхто і не лавіў

у сваім гародзе, не біў. У школу, вядома, ён не хадзіў, нідзе не вучыўся, нідзе не працаваў. Быў, як я і казала ўжо, адзіны ў татачкі і мамачкі сынок...

Пачалася гэтая самая вайна, немцы ў нашую вёску прыйшлі, паліцыю сталі арганізоўваць. І што ты думаеш — Пэпік першы на службу да чужынцаў падаўся. Немцам патрэбны былі галаварэзы, і яны Пэпіка з радасцю ўзялі, з радасцю далі яму ў рукі вінтоўку. Праз які тыдзень у вёсцы не мяўкаў ні адзін кот, не гаўкаў ні адзін сабака — усіх іх пастраляў Пэпік. Калі хто спрабаваў сарамаціць, ушчуваць вырадка — біць яго цяпер, вядома, баяліся,— Пэпік апраўдваўся: «У Гітлера загад такі ёсць — дармаедаў усіх трэба ўкакошыць». І ўсё. Што хочаш, тое і кажы.

Услед за катамі, сабакамі, прылаўчыўся Пэпік і людзей забіваць. Успомніць, як яго нехта ў садзе сваім ці ў гародзе некалі злавіў і біў, ідзе да таго чалавека ў хату і кажа: «Збірайся, дзядзька, са мной пойдзеш. У воласць цябе загадана даставіць». Дзядзька, вядома, кажух на плечы, валёнкі на ногі, торбу за плечы — і пайшоў. А Пэпік выведзе яго ў поле і застрэліць. «За спробу з-пад варты ўцячы». Так ён пяць мужчын у вёсцы застрэліў. І бацьку майго сярод іх...

Але і гэта яшчэ не ўсё. Задумаў Пэпік жаніцца. І за нявесту сабе выбраў знаеш каго? Мяне. Сказаў ён мне пра гэта — месца сабе не ведала дзе знайсці. А ён, як толькі выйду на вуліцу, і целяпаецца ўслед за мною, як хвост. І ўсё чэпіцца, страшыць, пагражае. «Калі,— кажа,— не выйдзеш за мяне замуж, усю сям'ю тваю ў расход пушчу». І пусціць, я гэта ведаю. Ого, такі пашкадуе! Але ж я, я то не магла за такога вырадка, забойцу майго бацькі, гніду, пачвару гэтую замуж выходзіць. Не спала я начамі, рабіць не ведала што, у чужыя вёскі на тыдзень, на два з дому ўцякала...

Падазраю я, што і позву ехаць у Нямеччыну пастараўся, каб выпісалі мне, не хто іншы, як ён, Пэпік. Думаў, няйнакш,— збаіцца, не захоча ехаць на чужыну і замуж за яго як міленькая пойдзе. Толькі я хутчэй на той бы свет пайшла, чым замуж за забойцу майго бацькі. І позва тая для мяне была як збавенне, ратунак. Дый думка ў мяне такая ў галаве вілася — знікну з вачэй вырадка, то можа забудзе ён на мяне,

другая дзяўчына якая на вочы яму трапіць, і ад сям'і нашае адступіцца, выратую, значыцца, я яе.

Як садзілася ў вагон у Нямеччыну гэтую самую ехаць, падкрывуліў Пэпік да мяне. «Дурніца, куды ты едзеш. Выйшла б замуж за мяне — гора б не знала». Нічога не адказала я яму, хуценька за спіны тakіх жа гаротніц-дзяўчат, як і сама, схавалася. Упала на торбу, што маці і сёстры ў дарогу мне сабралі, і заплакала я, залілася горкімі слязьмі. Добра разумела я ўжо тады, што еду ў чужы, невядомы мне свет і што, пакуль у вёсцы немцы, пакуль валочыцца там па вуліцы з вінтоўкаю Пэпік,— назад, дадому, дарогі мне няма...

Ведала гэта, помніла, ні на хвіліну не забывала, але калі дзяўчаты на трэція ці на чацвёртыя суткі неяк ухітрыліся падлогу ў вагоне ўзарваць і пачалі на хаду поезда адна за адной між колаў на шпалы падаць, падышла і я да той дзіркі. Нагнулася, паглядзела ў чорную, як сажа, цемру — падлогу дзяўчаты ўзарвалі ноччу,— і захаладала ў мяне ўсё ўсярэдзіне. А тут яшчэ вецер у дзірку дзьме, аж з ног збівае. І не скочыла я ў цемру. Збаялася... А можа і не збаялася,— успомніла: усё адно дарогі дадому няма, нельга ў вёску мне вяртацца, пакуль там немцы, Пэпік... Адышла я ад дзіркі той, зноў на торбу сваю ўпала і зноў заплакала...

У Нямеччыну прывезлі нас напрадвесні. А можа то яшчэ і зіма была — тут не разбярэш: шэрае, мутнае неба, туман і дождж не дождж, а так, нейкая морась усё сеецца і сеецца, усё падае і падае... І так усю восень, зіму і амаль усё прадвесне. З вагонаў мы павылазілі, у лазню ўсіх нас павялі. Загадалі раздзецца нагала, адзежу ў дэзінфекцыю здаць. Памыліся мы пад душам, і пачалі нас ганяць голых з аднаго кабінета ў другі, мацаць, слухаць, правяраць, дзе ўсё і як яно ў нас ёсць, запісваць, хто мы і адкуль. А ў кожным кабінеце — немцы, мужчыны стаяць, а мы — голыя, як маці нарадзіла. Калаціліся ад няёмкасці і страху, аж каленкі трымцелі, месцы сарамлівыя рукамі прыкрывалі. А немцам галоўнае — абы парадак быў. Падганяюць яны нас — «Шнэль, шнэль!» Зазяваешся, не ў тыя дзверы тыцнешся — гумовым шлангам перацяг-

не. І не глядзіць, гад, па чым б'е. Па нагах — дык па нагах, па грудзях — дык па грудзях. І б'е не проста так, а з усяе сілы, каб помніла. Так што, калі мы прайшлі ўсе кабінеты, бы зебры паласатыя сталі — у сіняках ды падцёках цела было.

Адзежу нам нашу аддалі, яшчэ цёпленькую, толькі што з камеры. Апрануліся мы ва ўсё мятае, жаленае, пастроілі нас у дзве шарэнгі, як салдат, і зноў павялі.

Ідзём мы па горадзе, а немцы і немачкі, што па тратуарчыках па абодва бакі вуліцы некуды бягуць, спяшаюцца, не глядзяць на нас, а толькі спадылба вачыма бліскаюць, нібыта мы злачынцы якія, нібыта мы ў нечым перад імі вінаватыя. «Швайнэ-райнэ»,— скажа каторы і адварочваецца, як ад заразных.

Прывялі нас ні то ў нейкі клуб, ні то ў пачакальню вакзала. Словам, у вялікую залу. Зноў сказалі разабрацца ў дзве шарэнгі, да сцяны стаць. Глядзім мы, а перад намі — стол чорным абрусам засланы, на ім — графінчык з вадою. Па баках жа стала таго — немцы, немачкі на крэслах сядзяць, усе прычасаныя, прыпудраныя, па-святочнаму прыбраныя. Адзін толькі ў вайсковай форме, худы, доўгі, бы гліст. І ён не сядзіць, як усе, а стаіць. Пачакаў, калі мы па парах разбярэмся, і пачаў ён, гэты немец, па адной нас да стала выклікаць, на такі невысокі памосцік, што быў там. Выклічуць дзяўчыну, тая на памосцік стане, а немцы ды немачкі праз акуляры, манклі розныя яе разглядаюць, прыкідваюць, чаго яна вартая. А той, што ў форме вайсковай, доўгі, бы гліст, алоўкам стукае па графінчыку і лічыць: «Айн, цвай, драй...» Скажа нешта, і зноў — «айн, цвай, драй...» Здагадалася я — гэта ж нас з аукцыёна прадаюць. Як прадавалі некалі жывёлу, рэчы розныя, рабоў — пра тое я некалі, яшчэ ў школе, у кніжках чытала...

І страшна мне, шкода самой сябе зрабілася. Падумала я — куды ты трапіла, Аксаначка...

Не помню, калі назвалі маё прозвішча, як я выйшла на той памост, што быў каля засланага чорным абрусам стала, што хто пра мяне гаварыў...

Ачулася я ўжо на двары. І ўбачыла — вядзе мяне некуды худая, ужо ў гадах, рослая немка. Здагадваешся,— гэта была мая цяперашняя гаспадыня, фрау

Эльза. Аддала за мяне яна тады, як цяпер я разумею, мусіць, не вельмі дарага, бо была давольная, вясёлая. Нават песню нейкую спрабавала сабе пад нос мармытаць. Пасадзіла яна мяне ў свой экіпаж — фаэтончык такі чорненькі, ён і цяпер пад паветкай у яе стаіць, я табе пакажу яго калі-небудзь,— на рысорах, колы гумовыя,— і пакаціла, павезла. Павезла ў невядомасць, у свет...

У Маслэбень мы прыехалі ўвечары, ужо на цямочку. Зноў жа — гэта цяпер я ведаю, што ў Маслэбень, а тады — проста ў нейкі не надта вялікі горад. Выпрагла пані сама з фаэтончыка каня, у стайню яго завяла. Тады толькі паказала мне баковачку, у якой я павінна была жыць. Яна, гэтая баковачка, пры самай стайні. Адчыніла я дзверы, зайшла разам з фрау Эльзай туды — а там ні крэсла, ні стала. Толькі засланы нейкай шэранькай старою дзяружкай ложак ды маленькая чыгунная грубка ў куточку. І высока, як дастаць рукою, акно з іржавымі кратамі, бы ўсё адно ў турме. І больш нічога. Цёмна, сыра, няўтульна.

— Ты тут будзеш жыць,— сказала мне фрау Эльза па-нямецку.— Сёння можаш адпачываць, а заўтра — арбайтэн...

Гэта цяпер я так зразумела б тое, што яна мне сказала. А тады-то я і зразумела толькі адно, апошняе слова: «арбайтэн».

— Я, я,— адказваю.— Я буду арбайтэн, скажыце толькі што...

— Ды не сёння ты будзеш арбайтэн. Сёння ты будзеш бай-бай.— І немка падлажыла пад шчаку рукі, галаву сваю набок нахіліла, паказала, значыцца, што я магу спаць.

Толькі тады дайшло да мяне, што сёння я вольная, што магу класціся на гэты вось ложак і спаць...

Выйшла немка з мае баковачкі, упала я на той, засланы шэранькай старою дзяружкай, ложак, што прыпіраўся бокам да самай сцяны, і зараўла горкімі слязьмі. Успомніла я дзірку тую ў вагоне, што дзяўчаты прадралі ўночы ў падлозе... «І чаму я не скочыла ў яе, дурніца... Што было б, тое было б... А ганьбы, сораму не знала б...» (Пасля я неаднойчы ўспаміналa тую дзірку ў падлозе і той вецер, што біў з яе мяне па на-

гах, вецер волі, і кожны раз шкадавала, праклінала сябе, што збаялася, не скочыла разам з іншымі ў цемру...)

Так пачалося маё новае жыццё, жыццё на чужыне...

Ферма фрау Эльзы не такая і малая. Шэсць кароў, пара коней, семнаццаць свіней, пяцьдзесят гусей, столькі ж курэй ды каля сотні трусоў. Усё гэта трэба накарміць, напаіць, усё гэта трэба дагледзець. Дый у асабняку прыбраць, памыць бялізну, высушыць яе, папрасаваць. І зрабіць усё гэта трэба чысценька, добранька, акуратненька, так, каб гаспадыньцы тваёй спадабалася. Не спадабаецца — перарабляць будзеш. А гаспадынька такая, што не ўсміхнецца ніколі, слова людскага не скажа. «Гут» ці «найн» — вось і ўсе яе словы.

Ёсць у фрау Эльзы і ладны клін поля. Але тады ў мяне не было да яго, таго поля, клопату — ураблялі яго, аралі, засявалі і ўбіралі ўраджай палонныя французы, якіх гаспадыня брала з лагера, што тут жа, у Маслэбені. Мой клопат быў ферма і асабняк.

Тыдзень я кручуся, як вавёрка ў коле, месяц кручуся, свету божага ад работы не бачу. Тое накармлю, тое напаю, тое памыю, тое прыбяру, тое прасушу, тое папрасую. Бежкам бегаю, каб усюды паспець, каб работы не зробленай назаўтра не пакінуць. Усё хачу слова ад гаспадыні ласкавае пачуць. Дудкі! Так і не дачакалася я таго слова... Неяк вырвалася я з фермы, у горад пайшла. І яшчэ больш непрытульна, дзіка мне зрабілася. Куды на што не пагляджу — усюды ўсё не такое, як у нас, чужое. Чужыя дамы, чужыя вуліцы, чужыя людзі. І нават неба, і тое, здаецца, не такое, як у нас, а чужое. Ані пагаварыць з кім, ані расказаць, што на душы ў цябе. І ўзяла мяне такая нуда,— вытрываць не магу. Выйшла я ў поле, упала на ўзмежак, тварам у зямлю, і зноў зараўла, заплакала горкімі, горнымі слязьмі...

Доўга я ці мала так плакала, толькі падымаю гэта я ад зямлі галаву, аж бачу: панок нейкі незнаёмы, абапёршыся на кульбачку, ля мяне стаіць. На ім — чорненькі пінжачок, чорненькая камізэлька, чорнень-

кія штаны, чорненькія чаравікі і капялюшык на галаве таксама чорненькі. Толькі грудзінка ды каўнерык кашулі беленькія. Ну не пан, а жучок.

Спалохалася я, на ногі ўсхапілася — ці не прывід які гэта?

А панок на мяне гэтак добранька, хітранька глядзіць, усміхаецца.

— Руская? — пытаецца.

— Не, кажу, украінка.

А сама вочы выціраю, каб не відаць было, што плакала. І адчуваю — калатуха мяне такая схапіла, зуб на зуб не пападае.

— Украінка — гэта амаль тое самае, што і руская. Усё адно — Савецкі Саюз...

Гаворыць гэта панок, і мне толькі цяпер у галаву цюкнула — ды ён жа не па-нямецку, а па-руску гаворыць, хоць і пазнаць можна — не рускі ён. Пасмялела я, пытаюся асцярожненька, ціхенька:

— А скуль, калі не сакрэт, пан мову рускую так добра ведае?

Усміхаецца панок.

— Я, кажа, у палоне ў Расіі некалі аж чатыры гады быў. У Сібіры... Потым рускую мову па кніжках вучыў. Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў... Ах, караша Расія, ах, караша!..

І ўзяў гэтак лёгенька мяне пад руку і павёў, павёў па полі. І прывёў ён мяне сюды вось, да возера, у альтанку.

— За гэтае возера я заплаціў тысячы марак. І гэта пакуль што адзіная мая ўцеха ў старасці... Так, так, адзіная...

І ўсё круціць галавою, усё ўсклікае і ўсклікае:

— Ах, караша Расія, ах, караша!

І пачаў ён, той панок, дзіўныя рэчы мне гаварыці. Страшны, кажа ён, не той палон, у які цябе заключае нехта, а страшны той палон, у які заганяе сам сябе чалавек. Можна быць нявольнікам і на волі, і можна быць вольным у няволі. Усё залежыць ад цябе самога, ад душы тваё — можа ці не можа адмовіцца яна ад тых умоўнасцей, што ствараюць вакол цябе твае ворагі. Лёс — бязлітасны, але і яго можна падмануць, ашукаць, калі ты палюбіш тое, што табе даў бог, на што асудзілі цябе, хочучы пакараць твае ворагі...

— Вось і мяне ўсе лічаць, што я «думкопф», ненармальны, значыцца, дурны. З мяне смяюцца, што я не веру ў марную задуму Гітлера заваяваць Расію. Хто з нас большы «думкопф» — я ці тыя, хто з мяне смяецца, пабачым. Гітлер не ведае, што такое Расія, ён ніколі не быў там... А я быў, я там жыў... Ах, караша Расія, ах, караша! Расію трэба не нянавісцю заваёўваць. Не, не нянавісцю, а любоўю... Любоўю!

І зноў звяртаецца да мяне.

— І табе, дзяўчынка, трэба палюбіць тое, чым цябе пакаралі. Як і я палюбіў тое, чым пакаралі мяне. І сёння я — самы шчаслівы ва ўсёй Нямеччыне чалавек! Шчаслівы я быў некалі і ў Расіі... Я пакахаў там рускую дзяўчыну, Надзю... І жыў з ёю амаль чатыры гады... Пасля тут, дома, я жаніўся два разы, выгадаваў трох сыноў, а не быў такі шчаслівы, як тады, там, у палоне... Ах, караша Расія, ах, караша... І ты, дзяўчынка,— зноў звяртаецца да мяне панок,— абглядзься навокал сябе і палюбі... Заўсёды можна знайсці чалавеку, што палюбіць. Толькі ў любові, у каханні — шчасце чалавека, толькі любячы, кахаючы, ён забывае на сваё гора... А Гітлер — проста злосны дурань, шаленец. Ён ускаламуціў увесь свет, ён забраў у мяне трох сыноў, а мяне абвяіў «думкопф»... А я не дурны — дурныя тыя, хто верыць яму, верыць, што Нямеччына можа хоць калі заваяваць Расію... Ніколі не ўяўляў нават, што ў Нямеччыне, такой краіне, столькі дурняў...

Пацешны такі, добры быў панок. Я яго потым многа разоў слухала тут, ля возера, і забывала, што я не дома, а ў Нямеччыне, на чужыне... Калі даведалася аднойчы, што ён памёр, я аж паплакала...

І вось пасля сустрэчы з тым панком сталася так, я і сама добра не ведаю чаму, што я па-новаму на няволю, долю сваю пачала глядзець. Гэта яшчэ не самае страшнае, што я ў палоне, што я ад работы свету божага не бачу. А ўсё адно я дужая, маладая. І сілу маю, і галаву на плячах, і ногі, рукі. Што ж яшчэ трэба? Тая, што цягне з мяне жылы, можа б і рада была, каб я плакала, па дамоўцы сваёй, маме, сёстрах нудзілася, сумавала. А я на злосць ёй, сухарлявай, смяяцца буду, буду песні спяваць. І не толькі на ферме, у баковачцы

сваёй, а ўсюды, дзе б ні была, што б ні рабіла. І заўважыла я — работа ў мяне куды весялей, спарней пайшла. А тут яшчэ з дому, з вёскі пісьмо мне прыслалі. І паведамляюць у тым пісьме, што Пэпік не доўга і пацешыўся сваёю вінтоўкаю — хтосьці невядомы ўночы яго ў бацькавай хаце забіў. У акно, калі Пэпік, вярнуўшыся з разбою, за стол вячэраць сеў... І гэтая навіна ўсцешыла мяне, настрой падняла. Акрыяла я, павесялела...

Акурат тады жніво тут, у Нямеччыне, у нас ішло. Няўпраўка была, і фрау Эльза дамовілася з начальнікам лагера браць да сябе на работу французаў. Спачатку па два-тры брала, а потым і назусім аднаго на ферме сваёй пакінула. Француза таго звалі Мішэль. Быў ён музы́ка, да вайны іграў на скрыпцы ў адным з тэатраў Парыжа. У Парыжы жыла і яго маці. Пасля я даведалася, што была ў Мішэля і нявеста. Але яе згвалцілі ў акупацыю немцы, і яна не перанесла сораму — засілілася. Паўтараю — пра ўсё гэта я даведалася пасля, тады ж я толькі ведала, што француза завуць Мішэль і што ён скрыпач.

Пасяліла фрау Эльза Мішэля таксама ў бакоўцы, толькі не каля стайні, а каля кароўніка. Пачалі мы сустракацца з ім на падворку па некалькі разоў на дні. Мішэль не вельмі высокага росту, але дужы, плячысты. З твару таксама не кідкі, у такога не адразу закахаешся. Але душа, якая ў яго душа! І добрасць якая, спагадлівасць! Ён і сіласу каровам за мяне наносіць, і свінням вёдры з ядою пацягае, у кармушкі павылівае, і вады напампуе, і нават, убачыўшы, што я бялізну развешваю сушыць, прыйдзе паможа мне. І ўсё ўсміхаецца так, нібыта ў нечым перапрасіць мяне хоча. Скажа другі раз:

— Расія! О! — і пакажа вялікі палец.

Ён не ведаў ні маёй, ні рускае мовы. Я не ведала яго мовы. Зусім дрэнна ён і я гаварылі па-нямецку. Але хутка так налаўчыліся адно аднаго разумець, што нам і словы не патрэбны былі ніякія. Разумелі адно аднаго па вачах, па губах, па ўсмешцы на твары...

Неяк увечары Мішэль зайшоў да мяне ў баковачку нібыта папрасіць голкі і ніткі. Я падала яму тое, што прасіў, але ён не спяшаўся выходзіць — усё стаяў і

стаяў. Потым сказаў, старанна падбіраючы нямецкія словы:

— Аксана, вы не бачылі, які сёння незвычайна прыгожы вечар! І неба якое, колькі на ім зорак.

Я выйшла разам з Мішэлем на падворак, паглядзела на вечар, на неба, на зоркі. І вечар, і неба, і зоркі былі звычайныя, вельмі нават звычайныя, такія, як і заўсёды ў жніўную пару. Я сказала пра гэта Мішэлю.

— О! — усклікнуў ён.— Каб убачыць нешта незвычайнае ў звычайным, трэба мець незвычайны настрой.

— А вы яго, мусіць, сёння акурат маеце,— сказала я.

— Вядома, маю.

— А прычына якая вашага настрою, калі не сакрэт?

— Не, сакрэту няма. У мяне дзень нараджэння. Сёння мне — дваццаць пяць год.

— Тады я віншую вас,— сказала я і падала яму сваю руку.

Ён узяў яе асцярожна-асцярожна, нібыта баяўся яе раздушыць, і доўга-доўга трымаў у сваёй руцэ, не зводзіў з яе вачэй. Потым нагнуўся, пацалаваў.

— Я не трымаў у сваіх руках два гады жаночай рукі. Падумаць толькі — два гады! — летуценна сказаў ён.

— Вы ўжо два гады ў лагерах?!

— О, так. А да гэтага быў фронт, быў шпіталь, было падполле...

І неяк так сталася, што я і не заўважыла, як ён узяў мяне пад руку і мы пайшлі з фермы, пайшлі ў поле. Ён расказваў, смешна крыўляючы нямецкія словы на свой, французскі лад, пра сябе, пра тое, як ён іграў на скрыпцы ў тэатры, як усе спецыялісты прарочылі яму вялікую будучыню, славу, але пачалася вайна і ён не мог, проста не меў права не пайсці на фронт, не мог не змагацца з ненавісным яму ворагам — фашызмам.

— Бо фашызм — гэта смерць, смерць усяму жывому,— гаварыў Мішэль.— Людзям, народам, мастацтву, музыцы, каханню. Вы мяне разумееце?

— Так, я вас вельмі добра разумею...

Мы ішлі па полі, і толькі цяпер я ўбачыла, што і

сапраўды сёння незвычайны вечар — ціхі, цёплы і цёмны-цёмны, зусім-зусім такі, як у нас, дома, на Украіне. Незвычайнае было і неба — высокае, чорнасіняе, нейкае як бы атласнае, і незвычайна многа было на ім зорак. І ўсе такія яркія, міргатлівыя, іскрыстыя.

— Хочаце, я вам цуд адзін пакажу,— сказала я раптам Мішэлю.

— Вядома, хачу, у мяне ж сёння дзень нараджэння!

Ён абняў мяне за плечы, і я павяла яго ў цемру, павяла вось сюды, да возера...

Возера Мішэля вельмі ўзрушыла, расчуліла. Асабліва перавернутае ў азёрнай роўнядзі зорнае неба, манатоннае, цягучае кумканне жаб і ўсплёск рыбы — рыба, як я заўважыла, заўсёды пялёхкае, гуляе ўвечары ў чаратовых завадзях, аж, бывае, выскоквае з вады.

— Дзіўна, але гэтае возера вельмі падобна на тое, каля якога я вырас, у якім так часта некалі любіў плаваць,— сказаў Мішэль.

— А мне яно заўсёды напамінае маю вёску. Там таксама было вось такое ж возера. З вербалозам, чаротам... І жабамі...

Я сказала гэта і адчула, што трачу прытомнасць. «Чаму? З чаго?!» — падумала я і, каб не ўпасці, прыхінулася бліжэй да Мішэля. Ён абняў, абхапіў мяне рукамі, прыгарнуў да сябе. Пацалаваў...

І здарылася неверагоднае — я перастала разумець тое, што ён гаварыў. Стаяла, бы не свая, і слухала, слухала ласкавы, мілы, такі знаёмы голас, адчувала ўсім сваім целам гарачае, палкае дыханне, чула, як звабліва, хмельна пахнуць яго губы, як яны прагна хочуць, шукаюць маіх губ...

Неба над маёй галавой пахіснулася. Сціхлі, прымоўклі жабы. Перастала біць хвастамі па вадзе рыба...

Усё астатняе было бяздонне, цёмны, вельмі салодкі туман...

Дзён колькі я мучылася, перажывала тое, што здарылася. Не магла сустракацца з Мішэлем. Калі бачыла яго — уцякала, хавала свае вочы. Мне было крыўдна, сорамна за сябе, аж балюча, што я была такая давер-

лівая, неасцярожная, наіўная — гэта ж трэба, павяла ўночы сама Мішэля да возера. (Чаму мне прыйшла ў галаву ў той вечар думка павесці Мішэля да возера — і цяпер сама ніяк не магу даўмецца, не магу ўцяміць?..) Але потым я зразумела — здарылася не гора, а шчасце. І ад радасці я заплакала...

Цяпер мы часцей пачалі сустракацца з Мішэлем, амаль штовечар бываць ля возера. Як толькі згледзім, што фрау Эльза пайшла ў свой асабняк, легла спаць, так і ўцякаем з фермы, крадземся, бяжым, узяўшыся за рукі, бы ўсё адно дзеці, да возера...

І заўсёды, калі б мы сюды не прыйшлі, у мяне над галавою гэтак жа, як і ў першы вечар, хісталася неба, всціхалі, змаўкалі жабы, пераставала біць па вадзе хвастамі рыба... І плыў, плыў цёмны, салодкі туман...

Калі стала холадна бываць на возеры, бо наступіла восень, зіма, Мішэль пачаў прыходзіць штовечар да мяне ў баковачку і заставаўся там начаваць. Іншы раз я прыходзіла да яго ў баковачку і таксама заставалася там начаваць...

---

Аксана падсунулася бліжэй да мяне, памаўчала. Потым загаварыла зноў — адрывіста, нервова:

— Гаспадыня пра нешта здагадалася, пачала нас з Мішэлем у нечым падазраваць. Нават пачала за намі сачыць, віжаваць...

Мы перасталі сустракацца па начах...

Але мы прывыклі ўжо адно да аднаго і не маглі, проста не ўяўлялі, як гэта можна жыць і не быць нам разам...

І мы зноў пачалі сустракацца па начах, ужо адкрыта, не хаваючыся, не баючыся гаспадыні. Нават як бы на злосць ёй, сухарлявай, на злосць усім тым, хто адарваў нас ад роднае зямлі, ад усяго роднага, блізкага, нашага, свайго, без чаго мы не маглі жыць, без чаго і мы не былі мы і жыццё наша было не жыццё. А чаго ж нам баяцца, чаго ж нам хавацца —

мы кахаем адно аднаго і хочам, увесь час хочам быць разам...

Гаспадыня паклікала Мішэля на размову. Папярэдзіла, каб болей не бачыла яго ў маёй бакоўцы.

— Чаму? — задаў Мішэль фрау Эльзе вельмі наіўнае пытанне.

— Таму што я ўзяла вас на ферму працаваць, а не дзеля таго, каб вы ўладкоўвалі па свайму разуменню сваё жыццё.

— Але ж, наколькі я ведаю, нам не забараняецца жаніцца, мець сям'ю. А мы якраз хочам з Аксанаю жаніцца...

— Пра тое, што вам можна і чаго няможна, фюрэр скажа ў канцы вайны. Калі мы заваюем Расію. Цяпер жа вы палонныя, вас прывезлі сюды працаваць, працаваць... Зразумела?

Потым на такую ж самую размову фрау Эльза паклікала і мяне.

— Я не хачу, каб на маёй ферме рабілася чортведама што,— заявіла яна.

— На вашай ферме нічога асаблівага не робіцца,— адказала я.— Тут жыве двое маладых людзей, і між імі ёсць каханне...

— Пляваць мне на ваша каханне. Мішэль аддае ўсе сілы табе, і ўдзень ён не работнік на ферме. А ён працаваць, працаваць павінен, я штотыдзень плачу лагеру маркі за тое, што ён жыве тут, на маёй ферме. Папярэджваю: каб болей я не бачыла ў цябе Мішэля. І яшчэ адно. Нагуляеш жывот — і нагі твае тут не будзе... Я купляла цябе як работніцу, а не як...

Яна сказала брыдкае, вельмі гадкае слова, і я, ляснуўшы дзвярыма, пайшла ад яе...

Спазнаўшы вялікае, ці маглі мы задаволіцца малым?

Гаспадыня зноў паклікала да сябе на размову Мішэля, зноў яго папярэдзіла. Сказала, што ён забыўся, хто ён, і што калі і надалей ён будзе паводзіць сябе так, як паводзіць цяпер, дык яна будзе змушана накіраваць яго назад у лагер, за калючы дрот...

Гэтая пагроза нас трохі ацверазіла. Але не надоўга — хутка мы зноў махнулі рукой на ўсякія пагрозы і папярэджанні фраў Эльзы, зноў пачалі сустракацца па начах. Мы нібыта смяяліся са сваёй гаспадыні, кпілі з яе нямогласці, старасці, вышэйшасці...

І тады яна, бачачы, што ні яе папярэджанні, ні пагрозы на нас ані не дзейнічаюць, не даюць жаданых вынікаў, прывяла аднойчы ўдзень на ферму ахоўніка з лагера, і той забраў Мішэля, павёў яго зноў за калючы дрот...

Год, амаль цэлы год я жыла на ферме адна...

І вось неяк, тыдні два таму назад, уночы, калі я ўжо заснула, мяне будзіць раптам асцярожны, нясмелы стук у дзверы... Я ўстаю з пасцелі, адцягваю засоў... І божа мой! Перада мною стаіць Мішэль. У старым шэрым сваім шынялі, у берэце, худы, што смерць — толькі скура ды косці.

— Як — гэта ты? Уцёк? Назусім? — ледзьве перавяла я ад радасці дыханне.

— Не, не назусім. Толькі на ноч. Каб на цябе паглядзець. Перад світаннем я вярнуся назад у лагер...

І расказвае мне, што там, у лагеры, яны капалі нейкі катлаван і наткнуліся на тоўстую бетонную трубу. Ламамі прабілі яе, праверылі, куды яна выходзіць. Аказалася — за калючы дрот, у горад...

На ёй, той трубе, Мішэль і вылез з лагера, прыйшоў да мяне.

Я сабрала яму ўзяць паесці — яму і сябрам,— і мы пайшлі з ім, пакраліся да возера, далей ад гаспадыніных вачэй...

Два дні, два дні мінула, і Мішэль зноў прыйшоў, зноў пастукаўся да мяне ў каморку. Потым, потым ён прыйшоў зноў... І зноў, сабраўшы ўзяць паесці яму і яго сябрам, я ўцякаю разам з ім далей ад гаспадыніных вачэй, уцякаю да возера...

І зноў гэтак жа, як і тады, у першы раз, хістаецца над маёю галавою неба, зноў сціхаюць, змаўкаюць жабы, перастае біць хвастамі па вадзе рыба... І плыве, плыве цёмны, салодкі туман...

Аксана скончыла. Грудзі яе то падымаліся, то апускаліся. Яна цяжка дыхала і глядзела некуды далёка-далёка, за возера.

— Цяпер ты ўсё, усё ведаеш. Учора Мішэль якраз быў зноў у мяне. Я расказала яму, што збіраюся ўцякаць дадому, на радзіму. Ён ухваляе. Ён згодзен таксама ісці са мною. Ісці да нас, у Савецкі Саюз... Мы дамовіліся так: праз тыдзень, у суботу, як толькі сцямнее, збіраемся тут, ля возера. Я пашукаю ў што яму пераапрануцца, набяру дзён на колькі яды. І ў дарогу... Ты не супраць таго, каб ён ішоў?

— Не, чаго ж, хай ідзе,— збіты зусім з панталыку тым, што пачуў ад Аксаны, прашаптаў я.

— Вось і добра. Я так і ведала — ты зразумееш мяне, не асудзіш... А цяпер...— яна злёгку адштурхнула мяне ад сябе.— А цяпер ідзі, ідзі адсюль... Дай мне пабыць тут адной...

І яна зняможана адкінулася спіною да сцяны альтанкі...

Тыдзень я быў проста сам не свой. Тое, што Аксана асмелілася, згадзілася разам са мною ўцякаць, нават прызначыла, выбрала дзень калі — у суботу! — радавала. Нарэшце такі! Але ж... Але ж мы з Аксанаю будзем не ўдваіх. З намі будзе яшчэ адзін чалавек, чужы, незнаёмы мне М і ш э л ь. Хто ён?.. Што ён не вораг — гэта ясна. Інакш ён ніколі не згадзіўся б уцякаць з палону з намі, не згадзіўся б ён, француз, ісці да нас, у Савецкі Саюз. Але ж у такой справе, як уцёкі, мала ведаць, што той, хто ідзе з табою поплеч,— не вораг. Трэба і яшчэ сёе-тое ведаць пра чалавека. І чым больш — тым лепш... У дарозе могуць быць самыя непрадбачныя акалічнасці, нечаканасці, можа здарыцца такое, што давядзецца рызыкаваць сваёй воляй і нават жыццём дзеля волі, жыцця некага другога. Як будзе паводзіць сябе ў такія моманты Мішэль? На што ён здатны?..

Злавала, трывожыла, прымушала думаць, хвалявацца і яшчэ адно: Аксана таксама была не такой, якой я ўяўляў яе сабе. Аказваецца, тут, у Нямеччыне, яна не толькі гнула спіну, ірвала на чужой рабоце жылле, цярпела прымус і здзек, але і кахала... Кахала

не каго-небудзь нашага — украінца, рускага ці беларуса,— а француза. Чалавека па ўсім чужога нам — па мове, выхаванню, поглядах... І не толькі кахала, але, як прызнавалася сама, зведала тут, на чужыне, у няволі, шчасце. Яна не хавала гэтага, не шкадавала, а радавалася, што лёс быў літасцівы да яе, наканаваў ёй тут, на ферме фраў Эльзы, спаткаць Мішэля, жыць з ім нейкі час як з самым родным, блізкім чалавекам. Яна нават ганарылася гэтым!.. А я, я сядзеў поплеч з ёю і лічыў тое, што яна называла шчасцем, ніякім не шчасцем, а здрадай. Здрадай радзіме, бацькам, здрадай наогул усяму нашаму лепшаму, савецкаму, нават, калі на тое пайшло, здрадай тым пакутам, што выпала перажыць на чужыне і ёй, і мне, і сотням, тысячам такіх, як мы, нявольнікаў. Лічыў так і маўчаў, не сказаў пра гэта Аксане ні слова... І яны, гэтыя людзі, будуць ісці разам са мною, будуць і ў дарозе мець тое, што яны называюць шчасцем... Усё гэта не магло, ніяк не хацела ўкладвацца ў маёй галаве... А потым... Потым праз Мішэля немцы могуць вельмі лёгка злавіць і нас з Аксанаю, бо варта толькі Мішэлю ўцячы, пакінуць лагер, як яго адразу ж хопяцца і пачнуць шукаць. Самае большае — праз ноч, пасля першай жа ранішняй паверкі. І могуць напасці на наш след... Паспрабуй тады ўцячы... І вінаваты ва ўсім будзе, вядома, ён, Мішэль... Мішэль! Зноў Мішэль. Як усё добра складвалася, меркавалася — і вось на́ табе, з'явіўся нейкі палонны француз, нейкі Мішэль, і ўсё пераблыталася, ускладнілася...

Быў і яшчэ адзін выхад са становішча, які я прыкінуў так, на ўсякі выпадак, сабе наўме. Гэта — не чакаць суботы, не чакаць, калі Аксана і Мішэль прыйдуць да возера, а ціхенька, нікому ні пра што не сказаўшы, махануць дадому, на радзіму аднаму... Але ж... Але ж гэта таксама будзе здрада. Здрада сяброўству, здрада свайму слову. Дамаўляўся, угаворваў, а калі дайшло да справы, узяў ды ціхенька, нікому нічога не сказаўшы, нікога ні аб чым не папярэдзіўшы, знік. Знік, дый усё... Не, на такое я не мог пайсці, не мог. Ды калі б я такое зрабіў, я зненавідзеў бы, перастаў бы паважаць самога сябе... «Што будзе, тое будзе, а ўцякацьмем разам, так, як і дамаўляліся. Утраіх,— сказаў, загадаў я сабе.— І на ўсе астатнія думкі забудзься, вы-

кінь іх, хлопча, з галавы. Іх проста ў цябе не было, яны нават не нараджаліся, не ўзнікалі. Клапаціся лепш пра тое, як усё ж уцячы адсюль, як пазбегнуць пагоні, калі яна раптам уляжа, як дайсці, дабрацца да сваіх... Урэшце, калі на тое пайшло, правер, ці ўсё, што трэба, захапіў з сабою, палажыў у мяшок, ці не выявіцца на першым жа прывале, што самага неабходнага, патрэбнага акурат то ты і не ўзяў. І замест таго каб уцякаць, ісці далей, давядзецца вяртацца назад, на панскую ферму, альбо красціся ў нейкую невядомую вёску, выдаваць раней часу сябе, пакідаць за сабою сляды. Рызыкаваць жыццём і воляй...»

Я яшчэ і яшчэ раз прыкідваў у думках, правяраў, што я палажыў на дарогу ў мяшок. І як ні прыдзіраўся да сябе і да таго, што было сабрана, спакавана ў мяшку, выяўлялася — здаецца, не, нічога важнага не забыў. У мяшку было ўсё, што трэба: хлеб, соль. Ляжалі там, загорнутыя ў непрамакальную паперу, і компас, карта, некалькі карабкоў запалак... Быў і нож-складанчык, была і пара новых дзеравяшак...

Не было толькі суботы, таго вечара, калі можна, нарэшце, ісці, рушыць на ўсход...

Іх, той суботы, таго вечара, я і чакаў нецярпліва ўсе астатнія дні.

Едучы неяк у Маслэбень, я ўбачыў на ферме фрау Эльзы Аксану. І не мог, каб не спытацца:

— Дык, значыцца, у суботу, ля возера?

— Ага, у суботу, ля возера,— па-змоўніцку ціха адказала Аксана.

Вось і яна, тая субота. Удзень я, як ні ў чым не бывала, з'ездзіў, як ездзіў і заўсёды, тры разы ў Маслэбень, завёз у белых алюмініевых бітонах з панскай фермы ў магазін малако. Намыў каровам буракоў, напампаваў вады. Прыцягнуў з цэментовых ям чатыры вазы смярдзючага, ужо амаль гнілога сіласу і раскідаў яго ў кармушкі. Ота Штрайк, які прывык, што я выконваю ўсе яго загады без лішніх слоў, ніколі ні ў чым яму не пярэчу, нават пахваліў мяне:

— Гут, гут, рус Іван!..

За ўсю зіму, прадвесне ён так і не навучыўся, не запомніў, як мяне зваць, а называў, як усіх рускіх,— «рус Іван».

Ніколі, здавалася, нічога не рабіў я так хутка і з такой ахвотай, як рабіў у той дзень усё, што ні загадваў Ота Штрайк. Рабіў, а мне хацелася яшчэ і яшчэ рабіць. Як-ніяк, я ж быў на панскай, ненавіснай рабоце апошні, апошні дзень...

А дзень, як на тое, цягнуўся, доўжыўся. Здавалася, яму ніколі не будзе канца.

Вось і сонца ўжо схавалася, села за горы. Змрок А дзень усё не канчаўся. Па панскім двары бегалі, міпаволі пачаў завалакваць далягляд, звужаць яго. тусіліся даяркі; нібы нешта прадчуваючы, затрымлівайся, не ехаў дадому ў Маслэбень Ота Штрайк. Я выпраг з калёс Карла, завёў яго ў стайню. Падсыпаў яму пад пысу аўса.

— Ну, бывай,— палэпаў я Карла даланёю па цёплай, потнай шыі.— Не крыўдуй на мяне, што я не заўсёды быў з табою добры. Я не хацеў быць нядобрым, проста атрымлівалася іншы раз так, што быў я нядобры... Міма мае волі...

Зайшоў у барак, паглядзеў, ці нічога майго важнага, патрэбнага ў дарозе там не асталося. Не, быццам усё чысценька забраў, нічога не пакінуў. Памалу, нага за нагу, паклыпаў у поле.

Тым часам ужо добра такі ацямнела, змерклася. Вярнуўся да сіласных ям, узяў мяшок, які хаваў у сцірце гарахоўніку. Азірнуўся — ці ніхто за мною не ідзе, не сочыць? — закінуў мяшок за плечы. Узбрыў зноў на абочыну шашы і пайшоў, пайшоў да возера. Аж не верылася, што іду я па гэтай чужой, нядоднай мне зямлі апошні раз, іду, каб кіравацца дадому, на радзіму. «Скончылася мая прынука, мая праца на ворагаў. Я зноў вольны». «Вольны, вольны»,— здаецца, тукала, паўтарала маё сэрца.

Ні Аксаны, ні Мішэля ля возера не было. Я прыйшоў першы. Пастаяў на полі, агледзеўся: нідзе нікога, бы вымерла ўсё навокал. Нават не ішлі, не гурчалі па шашы машыны. Цішыня. Толькі манатонна, безупынна, нібыта рабілі нейкую цяжкую, абрыдлівую, надакучлівую работу, квакалі зусім па-нашаму, па-палеску, жабы, гуляла, плёскала ў вадзе рыба. Ды яшчэ час ад часу, калі павявала з поля ветрам, суха шастаў, шумеў леташні чарот. Праразаліся, запальваліся то тут, то

там у небе зоры. І было цёмна-цёмна, хоць выкалі вока...

Раптам адтуль, дзе была дарога, пачуліся крокі. Частыя, глухія. Няйнакш, нехта спяшаўся, ішоў. Ішоў да возера. Я захінуўся за куст, насцярожыўся — у цемры расла, набліжалася да лазняку чыясьці постаць. Вось яна дайшла да возера, спынілася, пачала абглядацца, прыслухоўвацца.

— Гэта ты, Аксана? — гукнуў я.

— Я,— шэптам адказала постаць.— А Мішэля яшчэ няма?

— Не, няма.

— Нічога, пачакаем. Ён павінен таксама хутка быць...

І Аксана, падышоўшы бліжэй, чмякнула вобземлю два даволі ладныя клункі.

— Што гэта ў цябе?

— Ат,— абыякава паціснула плячыма Аксана.— Нічога, здаецца, такога і не брала. А тое палажыла, гэтае — вось і сабралася. Занясем як-небудзь. Я ж не адна...

— Яно-то так. Але ж чым менш цяжару на плячах, тым ямчэй ісці.

— Ды яно і не цяжка ў мяне. Тут, у адным клунку,— пачала расказваць Аксана,— адзежа, каб было ў што пераапрануцца Мішэлю. І яда. А ў другім... У другі я гасцінцаў трохі сёстрам, маці палажыла. Два ж гады не бачыліся! І нічога не прынесці...

— Ого, ты яшчэ і пра гасцінцы падумала. А ў мяне клопат адзін — вырвацца б адсюль, дадому б дайсці...

— І ў мяне той жа клопат. А гасцінцы ў клунак палажыла так, на ўсякі выпадак. Калі што — і кінуць можна. Ці на хлеб абмяняць.

— Што там у цябе?

— Дробязі розныя. Лялька, маністы, некалькі пар панчох, хустачкі, два плацці. А то пару дзеравяшак укінула — добра маці будзе ў гнаі корпацца, карову даіць...

— Дома, канешне, усё згодзіцца, не зашкодзіць. Але ж дарога якая!.. Дайсці б!

— Як-небудзь дойдзем. Толькі б у рукі паліцыі не трапіць, за калючым дротам не апынуцца б!

— Ты праўду кажаш, гэта самае важнае...

Памаўчалі.

— Ціхата якая навокал,— акінуўшы вачыма неба, летуценна сказала Аксана.— Здаецца, і вайны нідзе ніякай няма...

— Ага. Але пачакай — будзе і тут грукат. Калі толькі праўда, што нашы фронт прарвалі, зноў наступаюць, Беларусь, Украіну вызваляюць, то і не агледзяцца гады, як Чырвоная Армія будзе тут...

— Каб жа даў бог! Хай бы і яны, фашысты, спазналі, што такое вайна, разбурэнні, смерць блізкіх і бяздомніцтва...

— Спазнаюць. Сама ты неяк казала — кроў людская не вадзіца. І слёзы людскія — не раса. Давядзецца рана ці позна за ўсё расплачвацца. Заварылі кашу, то хай і расхлёбваюць...

— Ды яно-то так! Толькі хутчэй, хутчэй бы гэта!

— Каб было хутчэй — і нам не трэба сядзець склаўшы рукі, не ворагам трэба памагаць, а нашай арміі, партызанам...

— Вырвацца б адсюль, да сваіх бы дабрацца... Памагалі б. Чым бы маглі, тым бы і памагалі.

Зноў памаўчалі.

— Але ж нешта позніцца твой Мішэль. Не ідзе.

— Ага. Ды калі ён сказаў, што прыйдзе — то прыйдзе. Ён такі... Слова на вецер не кідае.

— Каб толькі не позна было — нам жа трэба кіламетраў хоць бы дваццаць адсюль за ноч адмахаць. Тады нас цяжэй шукаць, лавіць будзе.

— Я гэта ведаю. Чакай, чакай...

І Аксана насцярожылася ўся, уставілася ў цемру, прыслухалася.

— Не, здалося,— сказала яна праз хвіліну.

— А звычайна калі ён прыходзіў? — счакаўшы яшчэ трохі, спытаўся я.

— Як вячэрняя паверка канчаецца. Каб паспець і ў мяне пабыць і яшчэ цёмначы назад, у лагер, вярнуцца...

— Рызыкоўны ён чалавек. На спатканні з-за калючага дроту ходзіць. Яго ж могуць застрэліць вартавыя...

— Я казала яму пра гэта. Не слухае. «Дзеля такой,

як ты, кажа, і жыццём рызыкаваць можна». Дый яда, хлеб ім трэба. Яны ж галадаюць там...

Зноў памаўчалі.

— Трэба вам усё гэта было. Не маглі канца вайны пачакаць. Ды яшчэ тут, у Нямеччыне,— не мог я, каб не сказаць таго, што мяне мучыла.

— Дык жыццё ж ідзе. А што, калі вайна на многія гады зацягнецца? Дый калі каханне, узаемнасць ёсць — што яшчэ трэба, чаго ж чакаць?

Спрачацца з Аксанаю, даказваць ёй нешта адваротнае таму, што яна гаварыла, мне не хацелася. Асабліва сёння, у такі вечар. І я змоўк, зноў прыслухаўся да цішыні ночы.

Змоўкла і Аксана. Стаілася, напружылася, ператварылася ўся ў слых — яна, па ўсім відаць было, хацела першая пачуць Мішэлеву хаду, крокі, радасна абвясціць, што ён ідзе, набліжаецца да возера.

Але як ні прыслухоўваліся і я, і Аксана — ні крокаў, ні хады не пачулі. Была ўсё тая ж мёртвая ноч, цішыня.

Па шашы праехала, прагурчала нечым цяжка гружаная машына. І гэта вярнула мяне да ранейшых згадак, думак.

— Але ж ён, гэты твой француз, нешта не надта спяшаецца,— сказаў я.— Хіба не пара?

— Пара. Бывалі ночы, калі ён і раней прыходзіў. Як толькі змяркалася,— адказала з трывогаю ў голасе Аксана.

— Баюся, каб хаця не сарваў ён нам уцёкаў... Чакацьмем, чакацьмем, а ён і не прыйдзе...

— Я сама пачынаю ўжо хвалявацца...

Толькі цяпер я заўважыў — Аксана сапраўды хвалявалася. Аж калацілася, дрыжала ўся.

Я зняў свой пінжак, падаў Аксане, сказаў:

— Табе, мабыць, холадна. На, накінь на плечы...

— Не, мне не холадна...

Але ад пінжака не адмовілася. Нават не накінула, а надзела яго на сябе.

— Што, калі Мішэль зусім не прыйдзе? — брала, не давала спакою мне трывога.

— Усё можа быць. Ён не так, як мы, амаль вольныя. Ён пад вартай, за калючым дротам...

— Што ж мы рабіць тады будзем?

— Я чакаць буду. Не пайду адна, без яго,— паведаміла Аксана як пра нешта вядомае, даўно вырашанае.

— А можа ўсё ж пойдзем? Сабраліся і — вяртацца. Гэта дрэнная прыкмета.

— Не, без яго я не пайду. Раптам здарылася з ім што?

— Усё адно ні ты, ні я, як бы мы таго ні хацелі, яму не паможам...

— Яно-то так... І ўсё ж... Дамаўляліся ісці разам — і не пачакаць?..

Зноў памаўчалі, зноў паслухалі цішыню ночы. І зноў ні я, ні Аксана не ўлавілі нідзе ніякога гуку, які б супакойваў, усяляў надзею, што Мішэль вырваўся з-пад варты, з-за калючага дроту, і ідзе, спяшаецца сюды, да нас, да возера.

— А былі вечары, калі ён абяцаў, што прыйдзе — і не прыходзіў? — спытаўся я, каб не маўчаць.

— Не было такіх вечароў.

І ў голасе Аксаны пачуліся слёзы.

— Што ж з ім магло здарыцца? Чаму ён не ідзе? — нерваваўся я.

— Не ведаю...

— Пачакаем яшчэ трохі. Але калі яго не будзе...— траціў я ўсякую надзею,— то...

— Усё адно я не пайду без яго. Буду чакаць.

Аксана памаўчала, паглядзела на мяне.

— А ты... Ты...— і яна раптам пажвавела, заварушылася.— Ты ідзі... Я не хачу цябе затрымліваць. Не маю права. Ідзі. Ідзі адзін,— праз хвіліну дадала яна.— І прабач, прабач, што так усё здарылася. Я не хацела, каб праз мяне, праз Мішэля, ты не ішоў, не ўцякаў дадому, на радзіму...

— Але ж...

Я і сам не ведаў, што мне рабіць.

— А ты? Ты астанешся, будзеш чакаць яго?.. А раптам ён і зусім не прыйдзе? Што, што тады ты будзеш рабіць?

— Назад, назад на ферму фраў Эльзы вярнуся. Буду працаваць, як і працавала. І чакаць, чакаць, калі Мішэль зноў да мяне наведаецца.

— А калі ён ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень, ні праз месяц не наведаецца?

— Сама да лагера пайду. Распытаю, што з ім... А ты... Ты, Панасю, ідзі, ідзі, не трaць дарэмна часу. Кожная хвіліна дарагая. Вунь бачыш, неба на ўсходзе бялее ўжо...

Я глянуў туды, куды паказала вачыма Аксана. І зжахнуўся — неба на ўсходзе сапраўды бялела, святлела. Мяркуючы па барвах, з усходу ішло, набліжалася ўжо світанне. У размове, у чаканні Мішэля мы і не заўважылі, як прамільгнула, праляцела не такая ўжо і кароткая маёвая ноч.

Я пастаяў яшчэ трохі, потым узяў, схапіў пінжак, які здзела са сваіх плячэй Аксана і падавала мне, у адчаі махнуў рукою і, нічога не сказаўшы, нават не развітаўшыся з Аксанай, паволі, потым усё хутчэй і хутчэй паклыпаў, пайшоў па полі. Пайшоў туды, у той бок, дзе ўдалечы святлела, блакітнела неба. Пайшоў адзін...

Колькі я так ішоў? Можа гадзіну, можа дзве. Без думак, без усякай пэўнасці, яснасці ў галаве. Потым раптам успомніў, згадаў усё тое, што расказала пра сябе і Мішэля Аксана, тыя словы, што вырваліся ў яе ў апраўданне таго, чаму яна не можа адна, без Мішэля, ісці, уцякаць дадому, на радзіму. «Дамаўляліся ісці разам — і не пачакаць?..»

І я крута павярнуў, пайшоў назад да возера...

Ужо развіднела, было зусім светла, калі я зноў убачыў Аксану. Яна стаяла ўсё там жа, ля кустоў вербалозу, на тым самым месцы, дзе я і пакінуў яе. І ўпарта, усё яшчэ з надзеяй глядзела некуды ўдалячынь — туды, у той бок, дзе на ўскраіне Маслэбеня быў лагер. Лагер, за калючым дротам якога сядзеў Мішэль. Яе Мішэль. Ля ног у Аксаны сіратліва туліліся, ляжалі, нібы не яе, а чужыя, два даволі ладныя клункі. Я ведаў — у адным з іх была адзежа для Мішэля, сабраная ў дарогу яда; у другім — гасцінцы сёстрам, маці...

Аксана не здзівілася, пачуўшы, а потым і ўбачыўшы мяне зноў ля возера. Толькі глуха-глуха, быццам з таго свету, спыталася:

— Што рабіць ты цяпер будзеш?

— Не ведаю...

Аксана заламала на грудзях рукі, прыкрыла твар і заплакала, зарыдала... Зарыдала горка, крыўдліва...

Я моўчкі, зноў не кажучы ні слова, пайшоў, папраставаў па пульхным, мокрым ад шчодрай, багатай ранішняй расы полі... Пайшоў далей ад возера, куды глядзяць вочы, абы не стаяць на месцы, не чуць, не бачыць, як плача, кусае ад гора і крыўды губы Аксана...

У поўдзень я прыдыбаў, вярнуўся на панскую ферму. Там ужо быў паліцэйскі. Ён вельмі спрытна абхапіў мяне ззаду за плечы, паваліў на зямлю, закруціў за спіну рукі і, перш чым я паспеў апамятацца, надзеў наручнікі. Ота Штрайк, які за ўсім гэтым назіраў збоку, толькі пакруціў галавою:

— Ай, рус Іван!

Я так і не зразумеў, шкадаваў ён мяне ці радаваўся, што так лёгка ўдалося злавіць.

Увечары таго ж самага дня я быў ужо ў турме. Мяне доўга білі, дапытваліся, хто я і адкуль, потым, счакаўшы трохі, накіравалі ў лагер, за калючы дрот. Усё далейшае было як сон, неверагодны, жудасны сон. Уранні — конаўка горкай жалудовай кавы і лустачка аўсянага, з асцюкамі, хлеба; у абед — чарпачок рэдкай — адна вада — баланды і зноў такая ж танюсенькая, аж свіціцца, лустачка хлеба; увечары — пусты, несалодкі чай. І з васьмі гадзін раніцы да васьмі гадзін вечара — цяжкая, катаржная праца ля печы на сталеліцейным заводзе. Пра ўцёкі дадому, на радзіму нечага было нават думаць. Лагер быў абнесены, абматаны ў некалькі радоў калючым дротам, і ўсюды, здавалася, на кожным кроку, стаялі мардастыя, з аўтаматамі і аўчаркамі, вартавыя,— яны стралялі без папярэджання і без промаху...

У пачатку красавіка сорак пятага года — гэта пасля ўжо я даведаўся, што ў пачатку красавіка, бо дні ў лагеры чаргаваліся ночамі і ночы днямі і я быў проста не ў змозе сачыць, заўважаць, як ідзе час,— наш завод, а заадно і лагер вельмі бамбілі. Самалёты з белымі пяцікутнымі зоркамі на крылах прыляталі па

некалькі разоў на дзень, не давалі спакою і ўночы. Тоны, тысячы тон смертаноснай сталі ўзарвалася на маіх вачах. Ад усяго вялізнага завода і яшчэ большага лагера асталіся груды цэглы ды пакарабачанае, пагнутае жалязячча. Толькі некалькі чалавек ацалела палонных.

У час адной з чарговых начных бамбёжак я, не зважаючы на нажы пражэктараў, якія паласавалі, кроілі штохвіліну цемру, не зважаючы на бомбы, што рваліся навокал тут і там, на крыкі і стрэлы вартавых, прабраўся праз пасечаны, парваны асколкамі калючы дрот і збег з лагера — гэтага жудаснага жывога пекла...

Дзесяць дзён я блукаў, баючыся паказацца каму б то ні было на вочы, ад сцірты да сцірты, ад аднаго пералеска да другога. Еў, што трапляла: леташнюю бульбу, буракі, гарох, некалькі зярнят якога ўдавалася іншы раз знайсці, выграбці з-пад сцірты...

Вайна канчалася. І гэта відаць было ўсюды і па ўсім. Удзень нізка над полем ляталі самалёты з тымі ж белымі пяцікутнымі зоркамі на крылах і з кулямётаў расстрэльвалі нямецкіх салдат, што па адным і групамі адступалі, уцякалі са зброяй і без зброі з фронту. Страляніна, выбухі не сціхалі навокал ні на хвіліну, нават уночы...

Іншы раз, праўда, калі надараліся туманныя, пахмурыя дні, страляніна, выбухі на нейкі час сціхалі, не паяўляліся і самалёты над полем. І тады па дарогах гітлераўскія паслугачы спешна гналі калоны даведзеных да адчаю, змучаных, змардаваных, адзетых ва ўсё паласатае, канцлагернікаў. Адводзілі ўбок, у якую-небудзь лагчынку, устанаўлівалі кулямёты — і касілі, касілі іх тысячамі, як касой... Тады то я і ўспомніў пра той загад фюрэра, пра які так часта некалі напамінаў нам, панскім парабкам, Ота Штрайк: «Ні адна паршывая славянская свіння не павінна выжыць, дачакацца канца вайны! Усім вам рана ці позна будзе капут!»

Але дні карычневай фашысцкай чумы былі на зыходзе... Пыхлівы, крывавы прускі арол, смяртэльна паранены, канаў...

Неяк надвячоркам я ўбачыў на шашы танкі. Танкі

з тымі ж белымі пяцікутнымі зоркамі на вежах... То былі танкі саюзнікаў, амерыканскія танкі...

Дні праз два я, дзе пешкі, а дзе і на спадарожнай машыне, сяк-так дабраўся да Маслэбеня. Горад быў увесь у руінах, яго проста нельга было пазнаць. Усюды, куды ні пайдзі,— цэгла, арматура, разбураныя, разварочаныя снарадамі і бомбамі каробкі дамоў, што глядзяць на свет пустымі, выбітымі вокнамі, як няборжчыкі. Але я без асаблівай цяжкасці адшукаў на ўскраіне горада, пры самай шашы, ферму фрау Эльзы. Ферма была амаль некранутая — той жа беленькі, пад чырвоным чарапічным дахам асабнячок у садзе, тыя ж шэрыя, сырыя хлявы па другі бок вуліцы. Толькі ржавая сетка-агароджа ў адным месцы была парвана — на яе, па ўсім відаць, уз'ехаў танк.

Убачыўшы на падворку фермы Аксану — яна несла некуды ў хлявы вядро вады,— я радасна крыкнуў:

— З перамогай, Аксана! З нашай перамогай!

Аксана павярнула на мой голас галаву, глянула на мяне.

— Ты, Панасю! — здзіўлена ўсклікнула яна.— А я думала, ты ўцёк тады дадому, на радзіму адзін падаўся...

І на вачах у яе заблішчэлі слёзы...

Аксана павяла мяне ў асабняк, у светлы і чысты пакойчык з акном у сад, і мы доўга сядзелі там, расказвалі, успаміналі, што каму давялося перажыць за той час, што не бачыліся. Тут я і даведаўся, што Аксана, вярнуўшыся з возера на ферму фрау Эльзы, не дачакалася Мішэля ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень. І тады яна сама пайшла да калючага дроту лагера. Там яна пачула, што Мішэля ў тую самую ноч, калі мы чакалі яго ля возера, каб уцякаць разам дадому, у Савецкі Саюз, злавілі ў трубе і расстралялі...

— Папаплакала я, ды што зробіш, назад, на ферму фрау Эльзы вярнулася... Зноў працавала тут, як вол, ні дня ні ночы не бачыла. Цяпер ужо не толькі ад работы, але і ад слёз...

— Чакай, а дзе ж гэта сама фрау Эльза? Нешта не відаць яе?

— Ой, я і забылася табе сказаць. Як пачалі былі Маслэбень бамбіць, дык пагалоску нехта пусціў, што горад рускія зоймуць. То немцы ўсе ўцякалі, бы мышы, хто куды. Хто да англічан, хто да амерыканцаў. То і фрау Эльза чамаданчыкі свае спакавала ды дзесьці далей на захад пабегла... А я пажыла трохі ў баковаччы, ды дай, думаю, у асабняк перабяруся, усё адно ж ён пустуе...

У суседнім пакоі заплакала дзіця. І Аксана неяк няёмка, але радасна ўсміхнулася.

— Гэта мой Мішэлік прачнуўся,— не сказала, а аб'явіла яна.— Хадзем пакажу яго табе. Ты ж і не ведаеш, пэўна, што тады, як мы ля возера з табою сталі, я ўжо цяжарная была. Тры месяцы хутка сынку майму. Ужо смяецца...

Потым мы зноў сядзелі ў тым самым пакоі з акном у сад. Аксана карміла малога, апавядала навіны, і мы меркавалі, гаварылі, як быць нам далей, куды падавацца, што наогул рабіць.

— Я пра сябе падумала ўжо, усё ўзважыла... Даўно падумала, як цяжарная яшчэ хадзіла, калі даведалася, што Мішэля жывога няма... Я нікуды пакуль што адсюль не паеду...

— Як гэта?!

— Вось так... Уяві сабе — прыеду я з Нямеччыны дадому з дзіцем на руках... Ад каго яно, тое дзіця? Вядома ад каго — ад немца... Што каму да таго, што ў мяне было каханне, што ў мяне быў каханы — палонны француз Мішэль,— я прывезла немчыка, байстручка... А ў маці мае — шасцёра дачок... Дый яму, сыночку майму, жыць будзе там, у вёсцы, як?.. З яго ж смяяцца будуць, дражніць...

Аксана праглынула даўкі камяк, што не даваў ёй гаварыць, і прадаўжала ўжо не тым, а нейкім глухім, крыўдлівым голасам:

— Так мяне забралі ў Нямеччыну, і я адтуль не вярнулася. Была і няма. На тое вайна. Паплачуць і забудуць. Я буду жыць, і яны будуць жыць. Гора адно аднаму не будзем прыносіць...

І тут раптам у мяне варухнулася нешта ўсярэдзіне, і я ледзь не закрычаў:

— Навошта табе раней часу самую сябе хаваць?..

Ды калі на тое... Ды калі так...— У мяне перасохла ў горле, я аж не мог гаварыць.— Давай я... я буду за бацьку твайму дзіцяці... І ніхто ніколі ні пра што знаць не будзе, ніколі ніхто ні ў чым ні яго, ні цябе не папракне...

Аксана ўважліва паглядзела на мяне.

— Навошта гэта, Панасю? — сумна ўсміхнулася яна.— Ты паедзеш дадому, знойдзеш сабе дзяўчыну. Маладую, чыстую, якая яшчэ нікога не кахала, ні ад каго не нараджала дзіцяці. І вы будзеце жыць, будзеце шчаслівыя. У вас будзе радасць. Навошта ж, навошта ж я табе?..

— Ды калі ты жыць не захочаш са мною — зробім так, быццам мы не сышліся характарам, і развядземся. Але ў твайго дзіцяці будзе бацька. Разумееш, будзе бацька! Яно не будзе тым, чаго ты так баішся — немчыкам, байстручком...

— Не, не, Панасю,— рашуча закруціла галавою Аксана.— Ты малады, я не хачу завязваць табе вочы, не хачу быць на тваёй дарозе. Хопіць і таго, што я аднойчы ўжо табе зрабіла. Я і так буду ўсё жыццё локці сабе кусаць — гэта ж праз мяне ты амаль цэлы год у канцлагеры адмучыўся, ледзь жывы астаўся...

— Ды не праз цябе. Так ужо тады склалася...

— Не, не, не трэба, я сама ўсё знаю... І, калі ласка, не ўпрошвай, я ніколі не зраблю таго, пра што ты гаворыш. Зразумей: дома мне цяпер жыць будзе не лепш.

— Але ж і не горш.

— Можа і не горш, але і не лепш. Каб быў Мішэль...

— Яго, ты сама кажаш, няма. Дый без Мішэля ты жыла некалі дома і была шчаслівая?

— То было даўно. Да таго, як я сустрэла, пакахала Мішэля. Цяпер між тым, што было, і тым, што ёсць, стаіць вайна. І ён, Мішэль...

Зноў Мішэль! Зноў той самы Мішэль!

— Ты пашкадуеш... Падумай — ад чаго адмаўляешся?.. Ад дамоўкі, радзімы...

— Не ўгаворвай мяне, Панасю. Я табе праўду сказала, як самаму блізкаму, дарагому мне чалавеку. І прашу цябе, не марудзь, не чакай, каб дадому разам са мною ехаць. Афармляй дакументы і едзь. Едзь...

У цябе няма ніякіх прычын, каб не ехаць, не вяртацца дадому, на радзіму...

Некалькі дзён я абіваў парогі новых, ужо амерыканскіх, камендатур, дамагаўся, каб мне выдалі пропуск, накіравалі хутчэй на радзіму да сваіх, савецкіх.

— Навошта спяшацца? — супакойваў мяне, гаварыў на чыстай рускай мове чалавек у форме афіцэра саюзных войск.— Вы хіба не ведаеце, што вас чакае там, на радзіме?

— Што мяне ні чакае, я хачу быць дома, хачу быць там, дзе я нарадзіўся, вырас. Нават, калі сядзець у турме, на што вы намякаеце,— то не дзе-небудзь, а дома, на сваёй зямлі. Разумееце?

— Ваша, вядома, справа, мы вас не затрымліваем. Калі ласка, едзьце хоць сёння. Але калі вам будзе цяжка, помніце — у вас ёсць у Амерыцы сябры. У любы час мы не адмовімся ад вас... Забяспечым працай, кватэрай...

— Нішто ваша мне не трэба. Дайце толькі тое, што я прашу — накіраванне, пропуск...

— Добра!

І афіцэр, хоць і неахвотна, але выпісаў мне пропуск на другі бераг Эльбы — на наш, савецкі бераг...

Перад адыходам да сваіх я не мог, каб зноў не завітаць да Аксаны.

— Можа перадумала, можа ўсё ж паедзеш са мною на радзіму? Разумееш — на радзіму, дадому!

— Не, Панасю, не. Едзь ты ўжо адзін. Я не паеду.

— Пашкадуеш некалі ты...

— Можа і пашкадую...

— Цябе ўсё тое самае мучыць, дзіця дадому ехаць не пускае?..

— Не толькі яно... Але і... сам падумай — раптам Мішэля не забілі, раптам жывы ён? Дзе ён шукаць мяне будзе, калі я адсюль паеду, з месца гэтага зрушуся?

— А калі Мішэль так і не вернецца, калі і праўда яго ў тую ноч забілі? Што ты тады рабіць будзеш?..

— Тады... Тады пабачу... Падумаю... Сына падгадую, можа ў Францыю, на Мішэлеву радзіму, падамся... Яго маці ў Парыжы знайду, раскажу ўсё, што знаю, пра яе сына... А можа...— яна нешта не дага-

ворвала.— Адным словам, буду бачыць, што рабіць. Дасць бог дзень, дасць і хлеб... А пакуль — пачакаю, пажыву тут. Можа яшчэ і жывы, вернецца Мішэль...

— Табе ж сказалі, што яго расстралялі...

— Мала што сказалі... А можа і не расстралялі. Можа ў лагер другі перавялі. Магло ж, магло быць такое?

І Аксана ўставілася на мяне вачыма.

Я разгубіўся.

— Вядома, магло. Але ж... Зноў ты будзеш спіну гнуць, жылле на фраў Эльзу рваць?

— Пакуль яе тут няма... А прыедзе — знайду работу... Абы шыя была, ярмо заўсёды знойдзецца...

Яна памаўчала.

— Дома будзеш, зямлі нашай пакланіся. Маці, сёстрам маім прывітанне ад мяне перадай...

— То ты хоць бы адрас свой мне дала, дзе, у якой вёсцы радню тваю шукаць?

— Адрас?

Аксана зноў памаўчала, падумала. Потым сказала:

— Не, не трэба адраса. Ты паедзеш, пачнеш пра ўсё апавядаць, яны будуць хвалявацца, шукаць мяне... Не, не трэба. Была я — і няма. Калі я сабою выратавала іх, выратавала маці, сясцёр, я і на чужыне жывучы буду радая, буду шчаслівая...

Назаўтра я быў ужо ў Магдэбургу — пераходзіў Эльбу. А яшчэ тыдні праз чатыры я крочыў па вуліцы сваіх родных, мілых сэрцу Бывалек...

Нядаўна адзін мой сябра, таксама ляснік, ездзіў па турысцкай пуцёўцы за мяжу. Шмат чаго пашчасціла яму там убачыць, пачуць. Але калі ён расказвае пра сваю паездку ў далёкія краіны, то не-не дый згадае немаладую, ужо ў гадах, жанчыну, якую давялося напаткаць там, на чужыне.

— Яна, гэтая жанчына,— апавядае сябра,— стаяла на пероне вакзала ў Парыжы і ўважліва, вельмі нават уважліва аглядала кожнага з нас, калі мы выходзілі з вагона цягніка. І ў вачах у яе быў сум. Страшны, нечалавечы сум. Я, даведаўшыся, што жанчына родам з Украіны, што яна жыла ў нашых краях да

вайны, спытаўся, чаму яна тут, на чужыне, чаму не вяртаецца дадому, на радзіму. І ведаеш, што яна адказала?.. «Так ужо жыццё маё склалася, што не магу я ехаць на радзіму. Хачу і не магу...» І я думаю, думаю над яе словамі. І вось што табе скажу: не можа, не можа нічога такога быць, каб нельга было не ехаць на радзіму. Радзіма ў чалавека, як маці,— адна. Яна, калі ты правінаваціўся, і пакарае цябе, яна і пашкадуе, даруе. Што б ні здарылася, што б ні было — ты дома, пад сваім небам, на сваёй зямельцы, сярод людзей сваіх. Правільна я думаю?

— Ды ўжо ж, калі ты так думаеш, то, мусібыць, правільна думаеш...

Можа ўспамін сябра-лесніка і нагадаў мне Аксану. А можа яна нагадалася і сама, як нагадваецца часта многае з перажытага, нагадваецца ў сувязі і без усякай сувязі з падзеямі сённяшняга дня, проста так, міма нашае волі...

*1968 г.*

# КАМЕНТАРЫІ

У першы том выбраных твораў Б. Сачанкі ўключаны апавяданні і аповесці, напісаныя аўтарам на працягу 1958—1975 гг.

## АПАВЯДАННІ

### З КНІГІ «ДАРОГА ІШЛА ПРАЗ ЛЕС»

Кніга «Дарога ішла праз лес» выйшла ў 1960 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. У яе ўключана 26 апавяданняў.

С Л Я Д Ы. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1958 г.). Перакладзена на рускую мову.

П Р А З  В О С Е М  Г О Д. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

С Л Е П Е Т. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес».

С Т А Ж О К  С Е Н А. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1959 г.). Перакладзена на рускую мову.

Ц Ы Г А Н Ч У К. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

Т Р Э Б А  Ж Ы Ц Ь. Упершыню пад назвай «Нам трэба жыць» надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 6, 1958 г.). Перакладзена на рускую мову.

П А Д О Б Н Ы  Г О Л А С. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

С О Н Ц А. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 3, 1959 г.). Перакладзена на рускую мову.

М О Й  Л Е С. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

Н А  С В А Ё Й  М А Г І Л Е. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

Д А Р О Г А  П Р А З  Л Е С. Упершыню пад назвай «Лясная дарога» надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 1, 1959 г.). Перакладзена на рускую і ўкраінскую мовы.

А Г Н І  В Я С Н О В А Г А  Н А Д В Я Ч О Р К А. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую і польскую мовы.

Я Б Л Ы К. Упершыню надрукавана ў кнізе «Дарога ішла праз лес». Перакладзена на рускую мову.

С У С Т Р Э Ч А  З  Ч А Л А В Е К А М. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 7, 1959 г.). Перакладзена на славацкую мову.

З КНІГІ «БАРВЫ РАННЯЙ ВОСЕНІ»

Кніга «Барвы ранняй восені» выйшла ў 1962 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Мальвіна» і «Палон».

КОШЫК МАЛІН. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 8, 1960 г.).

БАРВЫ РАННЯЙ ВОСЕНІ. Упершыню пад назвай «Пахі ранняй восені» надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 2, 1961 г.). Перакладзена на рускую і англійскую мовы.

НОЧ НА БАЛОЦЕ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 2, 1960 г.). Перакладзена на рускую і паўднёваасецінскую мовы.

КАНАПЛЯНЫ ЧАД. Упершыню надрукавана ў кнізе «Барвы ранняй восені».

АДЗІН ДЗЕНЬ. Упершыню надрукавана ў кнізе «Барвы ранняй восені».

НОВАЯ ХАТА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 4, 1961 г.). Перакладзена на рускую мову.

НІХТО НЕ ВЕДАЕ. Упершыню надрукавана ў кнізе «Барвы ранняй восені». Перакладзена на рускую мову.

АНТОСЬ МІХЛІК. Упершыню надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 2, 1961 г.). Перакладзена на рускую мову.

АПАВЯДАННІ ЖЫВОЕ ПРЫРОДЫ. ГАЛІНКА. МУХА. ДУБ. Упершыню надрукаваны ў кнізе «Барвы ранняй восені».

З КНІГІ «ЗЯМЛЯ МАІХ ПРОДКАЎ»

Кніга «Зямля маіх продкаў» выйшла ў 1964 годзе ў выдавецтве «Беларусь». Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Дзік-бадзяга», «Варэйка золата» і нарыс «Зямля маіх продкаў» (Старонкі з дарожнага дзённіка).

СОН. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую і ўкраінскую мовы.

БУКЕТ БЭЗУ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую і ўкраінскую мовы.

ЧАРАВІКІ-ТУФЕЛЬКІ. Упершыню надрукавана ў кнізе «Зямля маіх продкаў».

АДВЕДКІ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ПЕРШЫ КРОК. Упершыню пад назвай «Адзін крок» надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 12, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

У ХАЦЕ ТРОЕ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ПРЫКРАСЦЬ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ДУНЬКА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

КАЧАЛКА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

НЕ, НЕ ЎСЁ РОЎНА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1964 г.). Перакладзена на рускую мову.

## З КНІГІ «ПАКУЛЬ НЕ РАЗВІДНЕЛА»

Кніга «Пакуль не развіднела» выйшла ў 1966 годзе ў выдавецтве «Беларусь». Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Баравое рэха», «Пакуль не развіднела» і «Англіцкая» сталь».

МАМА! Упершыню надрукавана ў часопісе «Работніца і сялянка» (№ 4, 1966 г.). Перакладзена на рускую мову.

БАЛОТА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 4, 1965 г.). Перакладзена на рускую мову.

КРЫК. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ДАРОГІ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 4, 1965 г.). Перакладзена на рускую, польскую і балгарскую мовы.

АПОШНІ РАЗ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 12, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ФАШЫСТ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Работніца і сялянка» (№ 4, 1966 г.). Перакладзена на рускую мову.

ТОЛЬКІ ГЭТА І АСТАЛОСЯ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 5, 1962 г.). Перакладзена на рускую мову.

ГОЛАС. Упершыню надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 4, 1965 г.). Перакладзена на рускую і балгарскую мовы.

## З КНІГІ «ВОЛ-ФІГУРЫСТ»

Кніга апавяданняў і гумарэсак «Вол-фігурыст» выйшла ў выдавецтве «Звязда» ў 1966 годзе ў серыі «Бібліятэка «Вожыка».

НУ І ЛЮДЗІ! Упершыню надрукавана ў часопісе «Вожык» (№ 11, 1960 г.). Перакладзена на рускую і польскую мовы.

АДНЫМ СЛОВАМ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Вожык» (№ 14, 1965 г.). Перакладзена на рускую і балгарскую мовы.

## З КНІГІ «ХАЛАСЦЯК»

Кніга «Халасцяк» выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1969 годзе. У яе ўключаны сатыра і гумар Б. Сачанкі.

АПАВЯДАННІ ЖЫВОЕ ПРЫРОДЫ. АЛЕШЫНКА І ХМЕЛЬ. ДВА АРЭШКІ. ЖЫВЫ КОРАНЬ. Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык» (№ 22, 1965 г.). Перакладзены на рускую мову.

## З КНІГІ «ДАРОГІ»

Кніга «Дарогі» выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1970 годзе ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы». Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Дзік-бадзяга», «Англіцкая» сталь», «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя».

НЯЎЖО? Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1970 г.). Перакладзена на рускую і польскую мовы.

## З КНІГІ «АКСАНА»

Кніга «Аксана» выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1971 годзе. Акрамя апавяданняў у яе ўключана аповесць «Аксана».

ПРАКЛЯТАЯ ВАЙНА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Работніца і сялянка» (№ 4, 1966 г.). Перакладзена на рускую мову.

ХЛЕБ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1970 г.). Перакладзена на рускую, армянскую, польскую і чувашскую мовы.

ЛЯ ДАЎНЯГА СЕЛІШЧА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1970 г.). Перакладзена на рускую мову.

НАРЦЫСЫ. Упершыню надрукавана ў кнізе «Аксана». Перакладзена на рускую мову.

КОНІКІ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 7, 1970 г.). Перакладзена на рускую і польскую мовы.

## З КНІГІ «ПАМЯЦЬ»

Кніга «Памяць» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1973 годзе. Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Загадка аднаго падполля» і «Чужое неба» (з жыцця сям'і Івана Гарапашкі).

МАРА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 10, 1971 г.). Перакладзена на рускую і французскую мовы.

ЛІСТ ДА МАЦІ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 10, 1971 г.). Перакладзена на рускую мову.

АКОПЫ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 12, 1972 г.). Перакладзена на рускую і армянскую мовы.

СОЛЬ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 1, 1971 г.). Перакладзена на рускую і балгарскую мовы.

## З КНІГІ «ВАЎЧЫЦА З ЧОРТАВАЙ ЯМЫ»

Кніга «Ваўчыца з Чортавай Ямы» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1978 годзе. Акрамя апавяданняў у яе ўключаны аповесці «Ваўчыца з Чортавай Ямы» і «Запіскі Занядбайлы».

У ВЁСКУ, ДА МАЦІ. Упершыню пад назвай «У дарозе» надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 9, 1974 г.). Перакладзена на рускую мову.

НАВАЛЬНІЦА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Беларусь» (№ 1, 1976 г.). Перакладзена на рускую, польскую і балгарскую мовы.

СМАЛАКУРНЯ. Цыкл апавяданняў упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» (№ 1, 1977 г.). Усе апавяданні цыкла — «Лясун. Цётка Гэля. Арцёмчык-Чапялушка» — перакладзены на рускую мову.

ВЯСКОВЫЯ ЗГАДКІ. Цыкл апавяданняў пад такой назвай упершыню надрукаваны ў кнізе «Ваўчыца з Чортавай Ямы». Асобна апавяданні друкаваліся ў часопісах «Беларусь» (№ 7, 1973 г.; №4, 1974 г.), «Родная прырода» (№ 1, 1974 г.). Усе апавяданні перакладзены на рускую мову.

З КАЗКІ МАЛЕНСТВА. Цыкл апавяданняў пад такой назвай упершыню надрукаваны ў часопісе «Полымя» (№ 7, 1975 г.). Усе тры апавяданні — «Коршак. Кавуны. Незвычайны дзень» — перакладзены на рускую мову.

ПРА АДНАГО ПАЭТА. Упершыню надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 16 жніўня 1974 г. Перакладзена на рускую мову.

ДАВОЛІ ЦІКАВАЯ КАБЕТА. Упершыню надрукавана ў кнізе «Ваўчыца з Чортавай Ямы». Перакладзена на рускую мову.

ЗЯЛЁНАЕ ДРЭВА. Цыкл абразкоў пад такой назвай упершыню надрукаваны ў кнізе «Ваўчыца з Чортавай Ямы». Асобна абразкі друкаваліся ў часопісах «Полымя» (№ 10, 1971 г.), «Маладосць» (№ 7, 1970 г.; № 12, 1972 г.), «Родная прырода» (№ 1, 1974 г.); газеце «Літаратура і мастацтва» ад 16 жніўня 1974 г. Перакладзены на рускую мову.

## АПОВЕСЦІ

ПАКУЛЬ НЕ РАЗВІДНЕЛА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№ 8, 1965 г.). Перакладзена на рускую мову.

АПОШНІЯ І ПЕРШЫЯ. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (№№ 11—12, 1966 г.). Разам з аповесцю «Ноч няволі» склала кнігу «Апошнія і першыя» (Мінск, выдавецтва «Беларусь», 1968 г.). Перакладзена на рускую мову.

АКСАНА. Упершыню надрукавана ў часопісе «Маладосць» (№ 5, 1969 г.). Перакладзена на рускую і балгарскую мовы.

# ЗМЕСТ

**Сачанка Б.**

С22 Выбраныя творы: У 2-х т. Т. I. Апавяданні; Аповесці./[Аўт. прадм. С. Андраюк].— Мн.: Маст. літ., 1981.— 638 с., 1 л. партр.

У пер.: 2 р. 50 к.

Першы том складаюць апавяданні з кніг: «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў», «Пакуль не развіднела», «Памяць» і інш. і аповесці «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя», «Аксана».

С $\frac{70303-140}{М 302(05)-81}$ 110—81

ББК 84 Бел

Бел 2

*Борис Иванович Саченко*

ИЗБРАННЫЕ ПРОИЗВЕДЕНИЯ В ДВУХ ТОМАХ

ТОМ 1

*Рассказы и повести*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. Д. Куліш. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. В. Барадзіна. Карэктары А. А. Вачанкова, Л. Т. Калюжная.

ІБ № 949

Здадзена ў набор 13.11.80. Падп. да друку 26.08.81. АТ 05976. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 33,60. Ум. фарб.-адб. 33,71. Ул.-выд. арк. 33,94. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1138. Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.